


ISSN 2219-9675

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

матэрыялы і даследаванні

Выпуск 4

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# *БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ*

*матэрыялы і даследаванні*

**Зборнік навуковых артыкулаў**

Заснаваны ў 2010 годзе

*Выпуск 4*

Мінск
«Беларуская навука»
2016

УДК 811.166.3’28(082)

Чарговы выпуск выдання «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні» з’яўляецца адрасным, ён прысвечаны 80-гадому юбілею вядомага беларускага дыялектолага Ф. Д. Клімчука. Значная частка прац у зборніку – гэта архіўныя лексічныя матэрыялы са спадчыны беларускіх народных гаворак пачатку 20-х гадоў XX ст. Істотнае месца ў выданні займае падборка слоў па дыялектнай парэміялогіі. У кнізе таксама асвятляюцца некаторыя тэарэтычныя праблемы нацыянальнай дыялекталогіі. Тэксты сучаснага вясковага маўлення рэпрэзентуюць беларускую гаворку не толькі з розных рэгіёнаў Беларусі, але і з Віленшчыны. Інфармацыйна-даведачны блок матэрыялаў уключае паказальнік слоў, прынятыя для выдання скарачэнні і іншыя звесткі.

Зборнік робіць важны ўклад у рэалізацыю фундаментальнага даследавання «Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак» і з’яўляецца цікавым для шырокага кола лінгвістаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто займаецца родным словам.



Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук В. Д. Старычонак,
кандыдат філалагічных навук І. Л. Капылоў

*Да 80-годдзя з дня нараджэння*
*Фёдара Данілавіча Клімчука*

# ПРАДМОВА

Зборнік «Беларуская дыялекталогія. Вып. 4», як і папярэднія публікацыі ў галіне дыялекталагічных даследаванняў, падрыхтаваны да друку супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. Гэта выданне прысвячаецца Ф. Д. Клімчуку, слыннаму беларускаму дыялектолагу, руплівату збіральніку і даследчыку нацыянальных моўных скарбаў. У дадзеным выпуску публікуюцца не толькі матэрыялы пра 80-гадовага юбіляра, спіс аўтарскіх публікацый, але і яго асабістыя працы.

Структура гэтага зборніка нічым не адрозніваецца ад папярэдніх кніг. Аднак аб'ём матэрыялаў, якія змяшчаюцца ў яго раздзелах, размеркаваны неаднастайна. У сувязі з працай над фундаментальным даследаваннем «Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак» у дадзенае выданне ўключаны багатыя архіўныя матэрыялы. Перш за ўсё гэта працяг публікацыі матэрыялаў са словазбораў Я. Драздовіча. Для чацвёртага выпуску былі апрацаваны абазначальныя сродкі, якімі карысталіся ў маўленні на пачатку ХХ ст. насельнікі Піншчыны. Гэта не толькі лексічная падборка, афармленая як слоўнічак, але і невялікія па аб'ёме лексіка-тэматычныя падборкі. Вялікую цікавасць выклікае і слоўнік з гаворак Слонімшчыны, выбарачныя матэрыялы для якога ў свой час былі апрацаваны І. К. Бялькевічам. Адметную частку рубрыкі «З архіўнай моўнай спадчыны» складае даробак С. Некрашэвіча. Гэта ягоны слоўнік, які ў якасці дадатку змяшчаўся ў комплексным лінгвістычным даследаванні «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс)»[1]. Але ў дыялекталагічным зборніку публікуюцца і апрацаваныя на аснове граматычнай часткі нарыса лексічныя матэрыялы. Падобная праца праведзена з улікам важнасці лексікаграфічных матэрыялаў С. Некрашэвіча як узор практычнага ўвасаблення распрацаваных акадэмікам тэарэтыка-метадалагічных асноў па ўкладанні слоўніка «Жывой беларускай мовы». Адначасова надрукаваныя матэрыялы выступаюць каштоўнай крыніцай інфармацыі пра стан і дынаміку развіцця беларускай усходнепалескай гаворкі на пачатку ХХ ст., якія якраз і адлюстраваны ў згаданым даследаванні акадэміка С. Некрашэвіча. Выбраныя абазначальныя сродкі ўяўляюць сабой рэпрэзентацыю лексічнай сістэмы, яны не маюць па зразумелых прычынах форму слоўніка, таму ў зборніку маюць назву «Лексічныя матэрыялы Парыччыны». Фанетычныя асаблівасці гаворак у выглядзе, зафіксаваным даследчыкам, цалкам захаваны. Скарыстаныя С. Некрашэвічам спецыяльныя сімвалы, якімі перадаюцца некаторыя адметнасці гукавога ладу мясцовага маўлення, не мяняліся, за выключэннем перадачы асобных з іх сучаснымі графічнымі сродкамі. Думаецца, што ўзнаўленне лексічнай часткі дыялекталагічнай спадчыны акадэміка Некрашэвіча, з якой мала знаёмая генерацыя сучасных беларускіх даследчыкаў, з'явіцца выдатнай магчымасцю ацаніць зробленае навукоўцам у галіне нацыянальнай дыялекталогіі. Асаблівае месца ў гэтым раздзеле займае і падборка «Тлумачальны слоўнік дыялектнай лексікі», бо ў яе ўключаны спецыяльна выбраныя намінацыйныя адзінкі з «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона»[2]. Названая хрэстаматыя – гэта фундаментальнае навуковае даследаванне, у якім у форме рознатэматычных тэкстаў адлюстраваны асаблівасці

[1] Некрашэвіч С. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс) // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук (Працы клясы філялёгіі). Менск, 1929. Кн. 9, т. 2. С. 159–244.

[2] Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; уклад. В. Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. Мінск: Беларуская навука, 2009. 529 с.

сучаснага маўлення прадстаўнікоў гаворак цэнтральнай зоны. Дадзеныя гаворкі склалі падмурак нарматыўнага фанетыка-марфалагічнага аблічча беларускай літаратурнай мовы. Рэпрэзентацыя дыялектных матэрыялаў з гаворак, якія дэманструюць, наколькі яна сапраўды беларуская ва ўмовах камунікатыўнага асяроддзя з нізкім маўленчым статусам нацыянальнай мовы, з'яўляюцца жывой ілюстрацыяй як іх рэальнага стану, так і тых працэсаў, што адбываюцца ў структуры дыялектаў.

Усе словазборы ў аўтарскіх артыкулах маюць алфавітны парадак, за выключэннем дзеяслоўнай падборкі М. В. Абабуркі, у якую аб'яднаны абазначальныя сродкі, згрупаваныя па прынцыпе сінанімічных радоў. З мэтай аблягчэння пошуку ўключаных у выданне слоў дадаецца лексічны паказальнік. Пры кожным слове ў ім адзначана старонка (старонкі), дзе яно разглядаецца. Сістэма граматычных паказчыкаў, а таксама іншыя характарыстыкі, якія выкарыстоўваюцца пры пабудове слоўнікавых артыкулаў, з'яўляюцца традыцыйнымі, уніфікаванымі і агульнапрынятымі для выдання. Агульнапрынятымі ў зборніку з'яўляюцца і іншыя скарачэнні. Як дадатковы даведачны пакет звестак яны змяшчаюцца ў канцы кнігі.

Адметная па месцы ў лексічнай сістэме мовы група слоў, якія абазначаюць родавыя прозвішчы людзей, іх мянушкі, прэзентуецца матэрыяламі з Гродзеншчыны і Любаншчыны.

У раздзеле «Анамастыка» працягваецца друкаванне тапанімічнай падборкі з архіваў Вільнюса, сабранай В. Тумашам у паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі. Іншая частка матэрыялаў – ландшафтныя назвы Гродзеншчыны.

Раздзел «Навуковыя даследаванні» сціслы. Але яго адметнасць складае спецыяльна падрыхтаваны да асабістага юбілею артыкул Ф. Д. Клімчука пра лінгвагеаграфічную дыферэнцыяцыю і групоўку заходнепалескіх гаворак, удакладненую і абноўленую на аснове новых навуковадаследчых матэрыялаў.

Ужо традыцыйны для зборніка раздзел «Фразеалогія. Парэміялогія» складаецца з дзвюх частак. Акрамя новай падборкі сінтаксічна звязаных адзінак з дамінантным кампанентам *Бог* змяшчаецца слоўнік камунікатыўна ўзнаўляльных адзінак – прыказак, прымавак, падслуханых у гаворках Клеччыны.

Раздзел «Тэксты з беларускіх гаворак» рэпрэзентуецца дыялектнымі матэрыяламі з усіх абласцей Беларусі, але падаюцца запісы пераважна з асобных раёнаў. Асаблівасцю гэтага выпуску з'яўляюцца тэксты, запісаныя з тэрыторыі гістарычнай Віленшчыны, той часткі этнагенетычнай прасторы распаўсюджання гаворак беларускай мовы, якая сёння ўваходзіць у склад іншых дзяржаў. Гэтыя матэрыялы ўнікальныя па сваёй каштоўнасці і навуковай запатрабаванасці як крыніца багатых звестак для лінгвістычнага аналізу па вывучэнні дынамікі развіцця беларускіх гаворак ва ўмовах іншамоўнага атачэння. Усе запісы зроблены супрацоўнікамі Цэнтра ці даследчыкамі вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Наяўныя тэксты – гэта не толькі грунтоўная база для вывучэння гаворак як цэласнай сістэмы забяспечвальных сродкаў маўлення, так і яе асобных з'яў, гэта таксама багатая крыніца этнакультурнай і іншай інфармацыі, якая сёння мае вялікі попыт сярод творчай эліты і аматараў роднага слова. З улікам вялікай запатрабаванасці матэрыялаў такога жанру ў запісах адлюстроўваюцца акцэнталагічныя асаблівасці гаворак. Усе ўключаныя ў зборнік тэксты захоўваюць аўтарскае гукавое ўспрыняцце гаворкі і яе індывідуальную апрацоўку. Тэксты вызначаюцца тэматычнай разнастайнасцю, але асноўны іх змест складаюць запісы пра побыт, сямейнае жыццё, мясцовыя традыцыі, звычаі, навакольны свет і месца ў ім тутэйшых жыхароў.

Новы выпуск дыялекталагічнага зборніка з'яўляецца найперш багатай базай навуковай інфармацыі, запатрабаванай як пры правядзенні разнастайных аналітычных лінгвістычных даследаванняў, так і пры выкананні міждысцыплінарных і іншых даследчых праектаў. Думаецца, што ён таксама знойдзе сваё прымяненне і ў іншых сацыяльна-культурных сферах нашага жыцця.

*В. М. Курцова*

*В. М. Курцова*

# ФЁДАР ДАНІЛАВІЧ КЛІМЧУК: СЛЫННЫ ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

## (да 80-годдзя з дня нараджэння)[1]



27 лютага 2015 г. споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўцы-дыялектолага, кандыдата філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Фёдара Данілавіча Клімчука. Будучы навуковец нарадзіўся ў в. Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці.

Ф. Д. Клімчук належыць да тых людзей, выбар прафесійных заняткаў якога быў асэнсаваны. Пасля заканчэння Драгічынскай сярэдняй школы № 2 юнак у 1952 г. паступіў у Пінскі настаўніцкі інстытут на гістарычны факультэт. Тагачасны настаўніцкі інстытут даваў права працаваць толькі з дзецьмі сярэдніх класаў школы, таму малады педагог, каб мець магчымасць выкладаць гісторыю ў старэйшай школе, спалучаў працу з вучобай. У 1967 г. ён завочна скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Адметна, што аддаўшы шмат гадоў настаўніцтву – з 1955 па 1968 г. ён выкладаў гісторыю ў розных школах Драгічынскага раёна, – Ф. Д. Клімчук тым не менш абраў мовазнаўства як асноўны кірунак сваёй працоўнай дзейнасці. У аспірантуру Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР будучы даследчык мовы паступіў у 1968 г., ужо маючы за плячыма не малы працоўны стаж. Наколькі ж вабіла настаўніка гісторыі навука пра мову, што ён не пабаяўся паўторна пайсці вучыцца, каб атрымаць дыплом аб філалагічнай адукацыі! Невыпадкова гавораць: цяжкасці могуць адолець толькі мэтанакіраваныя і цікаўныя, захопленыя нейкім заняткам асобы. Цікавіцца роднай яму драгічынскай гаворкай Ф. Д. Клімчук пачаў яшчэ працуючы настаўнікам у школе. Прага паглыбіць веды пра мясцовую гаворку прымусіла яго звярнуцца з лістом у Інстытут мовазнаўства АН БССР з просьбай даслаць неабходную навуковую інфармацыю пра рэгіянальны моўны ландшафт. Адметны зварот вясковага настаўніка вельмі зацікавіў супрацоўнікаў сектара дыялекталогіі і тагачаснага яго кіраўніка Юзэфу Фларыянаўну Мацкевіч. Да просьбы Ф. Д. Клімчука навукоўцы паставіліся рацыянальна: замест гатовых звестак педагога папрасілі адказаць на пытанні «Праграмы па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», якая была спецыяльна падрыхтавана для фундаментальнага лінгвагеаграфічнага вывучэння гаворак беларускай мовы і складання на аснове сабраных і апрацаваных матэрыялаў дыялекталагічнага атласа. Калі настаўнік Фёдар Клімчук даслаў свой ліст-просьбу, франтальнае абследаванне вызначаных па сетцы Атласа населеных пунктаў было пераважна завершана, сістэматызаваныя звесткі аб гаворках беларускай мовы ў яе дзяржаўна вызначаных прасторавых межах ужо наносіліся на карты дыялекталагічнага атласа, але нацыянальнае мовазнаўства не мела манаграфічнага, найперш у форме дысертацыйных даследаванняў, апісання кожнага кутка Беларусі, хоць падобная задума існавала, і яна не адзін раз агучвалася. Назапашваць дыялектныя матэрыялы было неабходна, каб мець у перспектыве своеасаблівы банк лінгвістычных звестак па кожным моўным рэгіёне нашай краіны. Таму на запыт Ф. Д. Клімчука і адказалі практычнай

[1] Асноўныя ідэі гэтага артыкула адлюстраваны ў публікацыі: Фёдар Данілавіч Клімчук (да 80-годдзя з дня нараджэння) // Беларуская лінгвістыка. 2015. Вып. 74. С. 128–132.

прапановай: зрабіць самастойнае праграмнае апісанне мясцовых гаворак. Гэтым самым аматар роднай мовы мог атрымаць неабходныя яму лінгвістычныя матэрыялы, а інстытут на аснове выкананага задання мог бы ацаніць, наколькі ён здатны да навуковых дыялекталагічных заняткаў.

Іспыт на здольнасць да даследчай працы пачатковец у дыялекталогіі вытрымаў годна. Адказы на пытанні праграмы, якія ён даў, станоўча ацанілі супрацоўнікі сектара дыялекталогіі. Прызнаннем моўнай кампетэнтнасці настаўніка гісторыі стала запрашэнне акадэмічнымі вучонымі даследчыка-пачаткоўца паўдзельнічаць у сумеснай дыялекталагічнай экспедыцыі. У 1958 г. адбыўся першы палявы выезд Фёдара Данілавіча Клімчука ў складзе дыялекталагічнага атрада на Гомельшчыну. Гэты год, відаць, і можна прыняць за адлік яго навуковага шляху ў лінгвістыку, у нацыянальную дыялекталогію.

Яшчэ адным адметным жыццёвым фактам у лёсе Ф. Д. Клімчука, які, мабыць, стымуляваў і падтрымаў ягоны інтарэс да навуковага вывучэння родных гаворак, была сустрэча з вядомым расійскім даследчыкам акадэмікам М. І. Талстым. На пачатку 1960-х гадоў у прэсе з'явілася абвестка, што Інстытутам славістыкі АН СССР на чале з М. І. Талстым ладзяцца экспедыцыі па комплексным вывучэнні духоўнай культуры Палесся. Палескія лінгвістычныя экспедыцыі, праведзеныя ў 1962–1965 гг., разглядаліся іх кіраўніком як разведвальныя, як папярэдні этап больш сур'ёзнага даследавання лексічнага складу мясцовых гаворак[1]. У тых экспедыцыях браў удзел і Ф. Д. Клімчук. Трапіў ён туды дзякуючы асабістай ініцыятыве і напорыстасці. Навуковым вынікам удзелу ў дыялекталагічных экспедыцыях М. І. Талстога з'яўляецца словазбор «Специфическая лексика Дрогичинского Полесья», змешчаны ў выданні «Лексика Полесья: материалы для полесского диалектного словаря» (М., 1968). Аднак матэрыял для надрукаванага ў адзначаным выданні слоўніка ў сапраўднасці збіраўся аўтарам «на працягу многіх гадоў»[2], ён не быў выключна вынікам экспедыцыйнай працы. Гэтай публікацыяй, а таксама першай, якой з'яўляліся запісы дыялектных тэкстаў з вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці (Мінск, 1962), былі канчаткова вызначаны навуковыя прыярытэты даследчыка Фёдара Данілавіча Клімчука. Усё творчае жыццё вучонага ён прысвяціў нацыянальнай дыялекталогіі, хоць надзвычай важнае месца ў сферы навуковых інтарэсаў моваведа займае і духоўная культура Палесся.

Да праблем вывучэння этнакультурнай духоўнай спадчыны мясцовага насельніцтва навуковец звяртаўся неаднаразова. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх публікацыях: «"Дунай" в традиционном фольклоре двух деревень Надъясельдья» (Мінск, 1973) «Песенная традиция западнополесского села Симоновичи» (М., 1978), «Традиционная свадьба полесского села Симоновичи. Канун свадьбы. Венки» (М., 1983), «Духовная культура полесского села Симоновичи» (М., 1995) і інш. Абагульняючай працай па адной з галін духоўнай культуры жыхароў в. Сіманавічы Драгічынскага раёна з'яўляецца спецыяльнае выданне «Традыцыйнае вяселле вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці» (Мінск, 2011).

Разуменнем каштоўнасці рэгіянальных духоўных, гістарычных набыткаў для нашчадкаў можна вытлумачыць без перабольшвання тытанічную працу Ф. Д. Клімчука, укладзеную ім у напісанне хроніка-дакументальных кніг гарадоў і раёнаў Беларусі пад назвай «Памяць». Ён разам з паплечнікамі браў удзел у стварэнні не адной такой своеасаблівай раённай энцыклапедыі, у першую чаргу заходнепалескага рэгіёна. Гэта: «Памяць. Драгічынскі раён» (Мінск, 1997), «Памяць. Кобрынскі раён» (Мінск, 2002), «Памяць. Столінскі раён» (Мінск, 2003), «Памяць. Маларыцкі раён» (Мінск, 1998). І калі ў кнігах-хроніках пра Кобрынскі, Столінскі раёны даследчык пісаў пераважна іх моўную частку, то выданні, прысвечаныя Драгічынскаму і Маларыцкаму раёнам, у значнай ступені зроблены непасрэдна Ф. Д. Клімчуком. Над імі аўтар працаваў і як мовазнаўца, і як гісторык, дзе засведчыў свае глыбокія веды, кампетэнтнасць і эрудыцыю. Створаныя ім кнігі «Памяць» з'яўляюцца адначасова і помнікам аднаму з іх выканаўцаў – патрыёту сваёй Бацькаўшчыны Ф. Д. Клімчуку.

[1] Пра гэта больш падрабязна: Н. И. Толстой. Об изучении полесской лексики [Предисловие редактора] // Лексика Полесья. М.: Наука, 1968. С. 8.

[2] Там жа. С. 10.

Гледзячы на колькасна вялікі спіс публікацый Ф. Д. Клімчука, адзначаеш, што ў бібліяграфічным каталогу цяжка адрозніць этнакультурны кампанент апісваемага ад моўнага, настолькі шчыльна знітаваны ў адно дадзеныя кірункі яго навуковых даследаванняў. Вылучальнае вызначэнне праблемы этнагенезу і глотагенезу Палесся з'яўляецца досыць умоўным, хоць, бясспрэчна, гэтыя пытанні актуалізуюцца ў многіх публікацыях аўтара: «Балтийско-полесская и средне-европейско-полесская этнокультурные области» (Вільнюс, 1993), «Праблемы этнагенезу ўсходнеславянскіх народаў» (Кіеў, 1995), «Да глотагенезу беларусаў» (Мінск, 1997), «Полесье и этногенез восточнославянских народов» (Кіеў, 1997), «Да вытокаў фарміравання ўсходнеславянскіх народаў» (1998), «Некаторыя аспекты этнагенезу (адносна артыкула А. Ільіна "Звідки пішов народ білоруський")» (Бяроза, 2002), «Адлюстраванне мінулага ў народных гаворках Берасцейшчыны» (Мінск, 2000), «Гаворкі Берасцейска-Пінскага Палесся і Падляшша як вынік гістарычнага развіцця» (Люблін, 2003), «Некоторые дискуссионные вопросы средневековой истории Надъясельдья и Погорынья» (Кембрыдж, 2004) і іншыя публікацыі.

Нягледзячы на шырыню этналінгвістычных інтарэсаў Ф. Д. Клімчука, галоўным клопатам таленавітага даследчыка застаецца, аднак, дыялекталогія і лінгвагеаграфія. Статус прафесійна падрыхтаванага, кампетэнтнага дыялектолага ён спраўдзіў, абараніўшы ў 1973 г. дысертацыйнае даследаванне «Да лінгвагеаграфіі Заходняга Палесся» на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Асноўныя вынікі кандыдацкай дысертацыі даследчык апублікаваў у манаграфіі «Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс» (1983). Фанетычны аспект вывучэння дыялектнай мовы, пераважна заходнепалескіх гаворак, адлюстраваны ў манаграфічнай працы навукоўца, і ў далейшым станавіўся аб'ектам яго даследаванняў. Але ў многіх аўтарскіх публікацыях выразна вылучаецца памкненне, вывучаючы сінхранічны зрэз мовы, імкнуцца ў дыяхранію, у гісторыю развіцця моўнай сістэмы, каб даць тлумачэнне яе сённяшняму стану, і наадварот. Інакш кажучы, размежаваць сінхранічны і дыяхранічныя бакі ў фанетычных вопытах навукоўца дастаткова складана. Аб гэтым сведчаць шматлікія працы: «Рэфлексы **d*, **t* перад этымалагічнымі **e*, **i* ў славянскіх гаворках» (Віцебск, 1993), «Славянскія і індаеўрапейскія сувязі тараканскіх гаворак (рэфлекс **e*, **ь* > [*a*])» (Брэст, 2006), «Гаворкі Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці» (Беласток, 2006), «Славянскія і індаеўрапейскія сувязі тараканскіх гаворак (рэфлекс **E*, **Ь* > [*A*])» (Марыбор, 2006), «Адпаведнікі рэлевантных асаблівасцей загародскіх гаворак у дыялектных кантынуумах Украіны і Расіі» (Жытомір, 2007) і інш.

Творчы навуковы дыяпазон Ф. Д. Клімчука як дыялектолага багаты і разнастайны. Адной з дыялекталагічных галін, дзе грунтоўна даследаваўся лексічны ярус мовы, з'яўляецца лексікаграфія і лексікалогія.

Вялікі поспех і славу прынесла супрацоўнікам аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі лексікаграфічнае выданне «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т.» (Мінск, 1979–1986), у ліку ўкладальнікаў якога быў і мовавед Ф. Д. Клімчук. Можна без перабольшвання сцвярджаць, што створаная калектывам даследчыкаў праца з'яўляецца адным з самых запатрабаваных у навуковых і аматарскіх колах выданнем, у ім, кажучы словамі карыстальнікаў, можна знайсці адказ на любое ўзніклае пытанне. Гэта высокая ацэнка і прызнанне вялікай практычнай карыснасці словазбора.

Даследчык прымаў актыўны ўдзел у працы па стварэнні серыі лексіка-тэматычных слоўнікаў: «Жывёльны свет: тэматычны слоўнік» (Мінск, 1999), «Раслінны свет: тэматычны слоўнік» (Мінск, 2001), «Чалавек: тэматычны слоўнік» (Мінск, 2006). Ад наяўных лексікаграфічных выданняў як спецыяльных праграмна і метадычна падрыхтаваных, так і разнастайных лексічных аматарскіх падборак, лексіка-тэматычныя, ідэаграфічныя па характары прэзентацыі матэрыялаў, слоўнікі адрознівае не толькі тэматычны анамасіялагічны характар зместу, але – што бадай самае галоўнае – і інфармацыя аб месцы лакалізацыі. Інакш кажучы, гэта ў пэўнай ступені лінгвагеаграфічныя даведнікі. Карыснасць такіх выданняў з боку комплекснасці іх пазнаваўча-даведачнай інфармацыі бясспрэчная. Да іх ліку належыць і створаны ў суаўтарстве слоўнік «Лексіка апрацоўкі льну: тэматычны слоўнік, лексічны атлас» з адметным навуковым дадаткам –

невялікім лексічным атласам, а таксама значнае навуковае даследаванне «Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік» (Мінск, 2008), адным з выканаўцаў якога быў і Ф. Д. Клімчук.

Адметным лексікалагічным асэнсаваннем анамасіялагічных багаццяў беларускай мовы з'яўляецца навуковае даследаванне «Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет» (Мінск, 1995). У выданні зроблена спроба вывучэння і асэнсавання лінгвістычных карт першага тома «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак», аналізуюцца наступныя групы лексіка-тэматычных найменняў, адзначаных на тэрыторыі Беларусі: «Свойскія і дзікія жывёлы», «Назвы птушак», «Народныя назвы відаў рыбы», «Назвы паўзуноў і земнаводных», «Пчалярства», «Назвы насякомых». На падставе прааналізаваных матэрыялаў Ф. Д Клімчуком складзены абагульняльныя карты ізаклекс паўднёва-заходняй лакалізацыі, устаноўлены арэалы бытавання разнастайных груп найменняў жывой прыроды.

Неацэнны ўклад Ф. Д. Клімчука і ў нацыянальную лінгвагеаграфічную спадчыну. Ён актыўна працаваў над стварэннем пяцітомнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (Мінск, 1993–1998). Гэты шматтомны даведнік па дыялектнай лексіцы, тэрытарыяльнае распаўсюджанне якой фіксуецца ў адпаведнасці са спецыяльна змадэляванай праекцыяй яе адлюстравання, унікальнае па ўсіх характарыстыках выданне. Атлас складаецца з 1792 дыялектных карт без уліку 19 дадатковых інфармацыйных карт, Ф. Д. Клімчук распрацаваў 237 (з іх 15 у суаўтарстве). Гэта вельмі значны аб'ём выкананай працы! ЛАБНГ – гэта не проста каласальная крыніца звестак аб лексічным складзе гаворак беларускай нацыянальнай мовы сярэдзіны XX ст., ЛАБНГ – гэта найперш унікальны скарб з пакуль яшчэ не расшыфраванай, закадзіраванай інфармацыяй аб спецыфіцы нацыянальнай моватворчасці беларусаў на працягу некалькіх папярэдніх стагоддзяў, аб складванні нацыянальнай лінгвасферы і кірунках яе развіцця. Акрамя таго, ЛАБНГ – гэта тое неацэннае багацце, той найкаштоўнейшы векапомным набытак, асобныя лексічныя падсістэмы якога ці іх сукупнасць наогул не падлягаюць па прычыне несупыннасці дынамікі моўнага развіцця ўзнаўленню.

Разумеючы найвышэйшую каштоўнасць створанай фундаментальнай працы, дзяржава ўганаравала шэсць чалавек з вялікага аўтарскага калектыву стваральнікаў атласа Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (2000). Сярод іх быў і Фёдар Данілавіч Клімчук.

Акрамя таго, у складзе беларускай групы АЛА Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі Ф. Д. Клімчук на працягу 1994–1999 гг. удзельнічаў у падрыхтоўцы да выдання трэцяга выпуску лінгвістычных карт пад назвай «Раслінны свет» серыі лексікі і словаўтварэння Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, які ўбачыў свет у 2000 г. Карты гэтага выпуску раскрываюць у гаворках славянскіх моў структурныя і тэрытарыяльныя адносіны па лексічных і словаўтваральных (ці, дакладней, па анамасіялагічных) асаблівасцях паміж назвамі пэўных раслін (дрэў, кустоў і траў), іх пладоў, частак і органаў, згрупаванняў раслін, працэсаў іх жыццядзейнасці і інш. Вынікі працы над картамі АЛА даследчык атрымлівае і сёння, бо, як раней, так і цяпер, у розных выпусках лексіка-словаўтваральнай серыі з'яўляюцца карты, падрыхтаваныя ім асабіста і ў суаўтарстве: «Общеславянский лингвистический атлас. Вып. 1. Животный мир» (М., 1988), «Общеславянский лингвистический атлас. Вып. 2. Животноводство» (Варшава, 2000), «Общеславянский лингвистический атлас. Вып. 4. Сельское хозяйство» (Браціслава, 2012) і інш.

Шмат высілкаў было ўкладзена Ф. Д. Клімчуком і ў стварэнне працы «Гавораць чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі)» (Мінск, 1994), дзе змешчаны матэрыялы, сабраныя ў выніку экспедыцый (1991–1993 гг.), праведзеных аддзелам дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі па даследаванні і фіксацыі асаблівасцей мовы і духоўнай культуры насельніцтва рэгіёнаў, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Ф. Д. Клімчук вызначаецца адметнай рысай навукоўца. Як кожны зацікаўлены даследчык, ён марыў мець сваіх паслядоўнікаў – аспірантаў – і здолеў выхаваць некалькіх вучняў: Н. Я. Мініну, Л. В. Леванцэвіч, Т. М. Трухан, А. А. Босак, Я. Р. Самойліка. Іх навуковыя даследаванні, за выключэннем прац Н. Я. Мінінай і Т. М. Трухан, прысвечаны лінгвагеаграфічнаму вывучэнню гаворак

Брэстчыны. Выхаванне вучняў-даследчыкаў вымагае ад кіраўніка цярпення, дабрыні, шчодрасці, прынцыповасці і патрабавальнасці. Пералічаныя рысы характэрны Ф. Д. Клімчуку, бо дзякуючы руплівасці кіраўніка праца аспірантаў Л. В. Леванцэвіч, А. А. Босак, Я. Р. Самойліка ўвасобілася ў стварэнні мікраатласаў, якія былі надрукаваны і сталі даступнымі для ўсіх цікаўных.

Як вядучы лінгвіст, высокакваліфікаваны спецыяліст, Ф. Д. Клімчук шмат часу аддаваў і аддае падрыхтоўцы навуковых прац да друку, займаючыся рэдагаваннем тэкстаў. Дзякуючы яго асабістаму клопату і зацікаўленасці былі апублікаваны даследаванні Л. В. Леванцэвіч, А. А. Босак, Я. Р. Самойліка, выданні «Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік», «Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет», зборнікі матэрыялаў навуковых канферэнцый «Загароддзе» ў трох выпусках, рукапіс «В. Л. Вярэніч. Палескі архіў. Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы». Ф. Д. Клімчук быў адным з ініцыятараў і складальнікаў кнігі «Пераклады з твораў Л. М. Талстога на гаворкі Палесся», падрыхтаваў шмат рэцэнзій на артыкулы і зборнікі навуковых прац, манаграфіі, дапаможнікі, напісаў не адно экспертнае заключэнне і не адзін водгук на дысертацыйныя даследаванні.

Фёдар Данілавіч – удумлівы вучоны, карпатлівы збіральнік роднага слова, лексічных скарбаў гаворак, ва ўлонні якіх ён вырас і спецыфіку якіх ведае дасканальна, таму можа ахарактарызаваць ледзьве не кожную з іх, што ўваходзіць у склад гаворак заходнепалескага моўнага кантынуума. Яскравым практычным увасабленнем гэтых ведаў з'яўляюцца яго міні-слоўнічкі, тэксты, надрукаваныя ў многіх дыялекталагічных зборніках, пераклады літаратурных тэкстаў на мясцовую драгічынскую гаворку. Гэта: «Пераклады на заходнепалескую гаворку (вёска Сіманавічы Драгічынскага раёна Берасцейскай вобласці) (Мінск, 2012), перастварэнне кананічнага тэксту «Новый Завет Господа нашего Иисуса Христа (Еванг. От Матфея, от Марка, от Луки, от Иоанна; Деян. св. Апостолов; 1-е Посл. Св. Ап. Павла к Коринфянам). Перевод на западнополесский говор» (Мінск, 2010) і інш.

Дапытлівасць, цікаўнасць прывяла Фёдара Данілавіча Клімчука ў нацыянальную лінгвістыку, падахвоціла да заняткаў дыялекталогіяй. Навукова-даследчай працы ён аддаў не адзін дзясятак свайго творчага жыцця. І сёння, калі ўрачыста быў адзначаны яго 80-гадовы юбілей, заняткі мовазнаўствам працягваюцца, а значыць, будуць новыя цікавыя публікацыі, адрасаваныя дапытлівым чытачам, навукоўцам. Таму плёну і моцнага здароўя Вам, шаноўны даследчык, зберагальнік скарбаў роднай мовы.

## ПАКАЗАЛЬНІК ПРАЦ Ф. Д. КЛІМЧУКА

Падрыхтавала *В. М. Курцова*

МАНАГРАФІІ. СЛОЎНІКІ. АТЛАСЫ. АРТЫКУЛЫ. ТЭЗІСЫ


**1962**

1. [Дыялектныя тэксты з вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл.] // Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. – С. 321–323.

**1968**

2. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья // Лексика Полесья: материалы для полесского диалектного словаря. – М.: Наука, 1968. – С. 20–78.

**1969**

3. Групування говірок Берестейщини // XIII Республіканська діалектологічна нарада: тези допов. – Київ: Наук. думка, 1969. – С. 110–112.

## 1970

4. З лексікі гаворак Драгічынскага раёна: тэз. дакл. маладых вучоных на лінгв. канф., 13–14 крас. 1970 г. – Мінск, 1970. – С. 42–44.

5. До класифікації говірок Берестейщини // Праці XIII Респ. діалектол. наради. – Київ: Наук. думка, 1970. – С. 178–183.

## 1971

6. Об одном из диалектных типов в южной Брестщине // Ареальные исследования в языкознании и этнографии: тез. докл. и сообщ., Ленинград, 9–12 февр. 1971 г. – Л.: Наука, 1971. – С. 94–95.

7. Наяўнасць цвёрдых зычных перад [і] у брэсцкіх гаворках і звязаныя з гэтай з'явай памылкі вучняў // Беларуская мова і літаратура ў ВНУ: тэз. Рэсп. навук.-метад. канф. – Брэст, 1971. – С. 158–161.

8. О твердости-мягкости согласных перед гласными переднего ряда в говорах Брестско-Пинского Полесья // Совещ. по общеслав. лингв. атласу: тез. докл., Черновцы, 24–30 июня 1971 г. – М., 1971. – С. 43–47.

9. [Адказы на пытанні «Анкеты»] // Беларуска-ўкраінскія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання. – Мінск, 1971. – С. 33–36.

## 1972

10. О разновидностях билингвизма и полилингвизма: на материале южных районов Брестской области // Проблемы двуязычия и многоязычия. – М.: Наука, 1972. – С. 268–274.

11. О полесском варианте одной полесско-карпатской изопрагмы (полесские трубы – карпатские трембиты) // Культура та побут населення українських Карпат (Матеріали Респ. наук. конф., присвяч. 50-річчю утворення СРСР: тези допов. та повідомл. – Ужгород, 1972. – С. 78–79.

## 1973

12. О полесско-карпатском типе рефлексации *е, ь > а* // Симпозиум по проблемам Карпатского языкознания: тез. докл. и сообщ., 24–26 апр. 1973 г. – М.: Наука, 1973. – С. 27–28.

13. Некаторыя палеска-паўднёваславянскія паралелі // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур: тэз. дакл. і паведамл. II Рэсп. канф., Мінск, 17–18 мая 1973 г. – Мінск, 1973. – С. 129–130.

14. Проблема членения согласных по характеру твердости-мягкости // Artura Ozola diena. Aktuali dialektologijas jautajumi. Zinatniskas konferences materiali [День Артура Озола. Актуальные вопросы диалектологии: материалы науч. конф.]. – Riga, 1973. – С. 38–40.

15. [Адказы на 1 і 9 пытанні «Анкеты»] // Беларуска-рускія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання. – Мінск, 1973. – С. 51–54.

16. Некоторые особенности верхнеясельдских и малечских говоров и проблема их образования // Совещ. по общеславянскому лингв. атласу: тез. докл., Ужгород, 25–28 сент. 1973 г. – М., 1973. – С. 59–62.

17. К лингвогеографии Западного Полесья (фонетика четырех полесских говоров): автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01 / Акад. наук БССР, Ин-т языкознания. – Минск, 1973. – 23 с.

18. Некоторые данные диалектологии в отношении к проблеме этногенеза белорусов // Этногенез белорусов: тез. докл. на конф. по проблеме «Этногенез белорусов», Минск, 3–6 дек. 1973 г. – Минск, 1973. – С. 153–157.

19. К вопросу об исторической интерпретации диалектных границ Брестско-Пинского Полесья // Этногенез белорусов: тез. докл. на конф. по проблеме «Этногенез белорусов», Минск, 3–6 дек. 1973 г. – Минск, 1973. – С. 168–171.

20. «Дунай» в традиционном фольклоре двух деревень Надъясельдья // Этногенез белорусов: тез. докл. на конф. по проблеме «Этногенез белорусов», Минск, 3–6 дек. 1973 г. – Минск, 1973. – С. 211–214 (в соавторстве).

21. До питання про зони рефлексації *е, ь, ъ > а* після твердих приголосних в слов'янських діалектах // Культура і побут населення українських Карпат: материалы респ. наук. конф. – Ужгород, 1973. – С. 276–281 + 2 карти.

## 1974

22. К соотношению диалектных, этнографических и археологических ареалов Брестско-Пинского Полесья // Проблемы картографирования в языкознании и этнографии. – Л.: Наука, 1974. – С. 160–166.

23. Мікратапанімія Беларусі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с. (у суаўтарстве).

## 1975

24. З лексікі цэнтральнага Загароддзя // З народнага слоўніка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 135–153.

25. О двух типах пучков изоглосс и изопрагм в Брестско-Пинском Полесье // Ареальные исследования в языкознании и этнографии: тез. – Л.: Наука, 1975. – С. 80–81.

26. [Адказы на 1, 3, 10 пытанні «Анкеты»] // Беларуска-польскія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання. – Мінск, 1975. – С. 57–64.

27. К вопросу о некоторых источниках влияния старобелорусского и староукраинского языков на полесские диалекты // Актуальные проблемы исторической лексикологии восточнославянских языков: тез. докл. и сообщ. Всесоюз. науч. конф. – Днепропетровск, 1975. – С. 111–112.

28. О лексическом членении одной семантической микроструктуры и ее типах в диалектах славянских языков // Совещ. по общеславянскому лингв. атласу: тез. докл., Гомель, 9–12 сент. 1975 г. – М., 1975. – С. 264–265 (в соавторстве).

29. Глаголы, обозначающие в диалектах славянских языков перемещение ползком, и их семантическая классификация // Совещ. по общеславянскому лингв. атласу: тез. докл., Гомель, 9–12 сент. 1975 г. – М., 1975. – С. 267–269 (в соавторстве).

## 1976

30. О полесском варианте одной карпато-полесской изопрагмы (карпатская трембита – полесская труба) // Карпатский сборник. – М.: Наука, 1976. – С. 135–139.

31. З лексікі Выганаўскага Палесся (вёска Горталь Івацэвіцкага раёна) // Народнае слова: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 76–82 (у суаўтарстве).

## 1977

32. Про місце парсько-ладорозького говору в системі брестсько-пінських говірок // XIV Респ. діалектол. нарада: тези допов. – Київ: Наук. думка, 1977. – С. 22–23.

33. З лексікі гаворкі вёскі Відзібар Столінскага раёна // Народная лексіка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – С. 120–129.

34. Аб арэальным аспекце тыпалагічна блізкіх моўных асаблівасцей (цэнтральнаславянскі арэал) // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур. – Мінск, 1977. – С. 172–173.

## 1978

35. З народных назваў грыбоў // Жывое слова: дыялектал. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – С. 184–196.

36. *Пінск, Піна* // Беларуская лінгвістыка. – Вып. 13. – С. 66–67.

37. Да генезісу назваў бясхвостых земнаводных у дыялектах усходніх славян // Проблеми дослідження діалектної лексики і фразеології української мови: тези допов. – Ужгород, 1978. – С. 33–34 (у суаўтарстве).

38. Некоторые вопросы этно-языковых процессов на балто-восточнославянском пограничье // Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. – М.: Наука, 1978. – С. 10–35 (в соавторстве).

39. Белорусские говоры в Литовской ССР // Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. – М.: Наука, 1978. – С. 73–75 (в соавторстве).

40. К вопросу о средневосточнославянском пучке изоглосс // Ареальные исследования в языкознании и этнографии. Краткие сообщ. – Л.: Наука, 1978. – С. 49–50.

41. Песенная традиция западнополесского села Симоновичи // Славянский и балканский фольклор. Генезис. Архаика. Традиции. – М.: Наука, 1978. – С. 190–218.

## 1979

42. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – Т. 1: А–Г. – 512 с. (у суаўтарстве).

## 1980

43. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – Т. 2: Д–Л. – 728 с. (у суаўтарстве).

## 1981

44. Fiodoras Klimčiukas, Aloyzas Vidugiris. Is etnolingvistiniu ir religiniu santykiu istorijos baltu ir rytu slavu paribio zonoje // Is lietuviu etnogenezes. – Vilnius: Mokslas, 1981. – S. 93–99 (в соавторстве).

45. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исслед. – М.: Наука, 1981. – С. 214–221.

46. К особенностям гидронимического ландшафта одной славянской микрозоны // Ученые записки Тартуского государственного университета. Труды по русской и славянской филологии. Вопросы становления и развития языковой системы. – Тарту: Изд-во Тартус. ун-та, 1981. – Вып. 579. – С. 52–59.

## 1982

47. Обозначение перемещения ползком в славянских диалектах (по материалам ОЛА) // Общеславянский лингвистический атлас: материалы и исслед. 1980. – М.: Наука, 1982. – С. 23–35 (в соавторстве).

48. Некоторые аспекты распространения языков в иноэтнической среде // Ученые записки Тартуского государственного университета. Актуальные проблемы современной интерлингвистики. Interlinguistica. Tartuensis. 1. – Тарту, 1982. – С. 94–107.

## 1983

49. Древнее племенное деление восточных славян в свете современного диалектного ландшафта // Структура і розвиток українських говорів на сучасному етапі: XV Респ. діалектол. нарада: тези допов. і повідомл. – Житомир, 1983. – С. 8–10.

50. Следы исторических границ в современном диалектном ландшафте Полесья // Полесье и этногенез славян: предварительные материалы и тез. конф. – М.: Наука, 1983. – С. 31–32.

51. Этногеографические представления полешуков (Западное Полесье до 1939 г.) // Полесье и этногенез славян. Предварительные материалы и тез. конф. – М.: Наука, 1983. – С. 39–41.

52. Традиционная свадьба полесского села Симоновичи. Канун свадьбы. Венки // Полесский этнолингвистический сборник: материалы и исслед. – М.: Наука, 1983. – С. 262–279.

53. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.

54. К вопросу об утверждении славянского лингвистического элемента на территории нынешней Белоруссии // Балто-славянские этноязыковые отношения в историческом и ареальном плане: тез. докл. второй балто-славянской конф. – М.: Наука, 1983. – С. 25–26.

## 1984

55. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – Т. 4: П–С. – 616 с. (у суаўтарстве).

56. Песни из юго-восточного Загородья // Славянский и балканский фольклор. Этногенетическая общность и типологические параллели. – М.: Наука, 1984. – С. 217–233.

## 1985

57. Погребальная лексика в белорусских говорах // Конференция «Балто-славянские этнокультурные и археологические древности. Погребальный обряд»: тез. докл. – М.: Наука, 1985. – С. 50–51.

58. Географическая проекция внутренней формы названия «Полесье» // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения: тез. докл. и сообщ. III Респ. конф. – Гомель, 1985. – Ч. 1. – С. 93–96.

59. О проблеме балтизмов в говорах Брестско-Пинского Полесья // Проблемы этнической истории балтов. – Рига: Зинатие, 1985. – С. 178–179.

60. Восточнославянский этноним «литвины» // Международная конференция балтистов: тез. докл., Вильнюс, 9–12 окт. 1985 г. – Вильнюс, 1985. – С. 168–169.

61. З мікратапаніміі Брэстчыны // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – С. 120–132.

62. Еканне // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелСЭ, 1985. – Т. 2: Габой–Карціна. – С. 414–415.

63. Заходнепалескія гаворкі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1985. – Т. 2: Габой–Карціна. – С. 504–505.

**1986**

64. Гідронімы Выганаўскага Палесся (моўна-этнічная інтэрпрэтацыя) // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. II Респ. конф., Гродно, 25–26 сент. 1986 г. – Гродно, 1986. – Ч. 2. – С. 64–67 (у суаўтарстве).

65. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – Т. 5: С–Я. – 563 с. (у суаўтарстве).

66. [Выступленні на IX з'ездзе славістаў] // IX Междунар. съезд славистов: материалы дискуссии. Языкознание, Киев, сентябрь 1983 г. – Киев: Наук. думка, 1986. – С. 21, 83, 97.

**1988**

67. Западнополесские «руськие» молитвы // Этнолингвистика текста. Семиотика малых форм фольклора: тез. и предварительные материалы к симп. – М., 1988. – Ч. 1. – С. 185–187.

68. Неривяне–вервиане // Славяне и их соседи. Место взаимных влияний в процессе общественного и культурного развития. Эпоха феодализма: сб. тез. – М., 1988. – С. 41–42.

69. Дуліби та волиняни // Минуле і сучасне Волині: тези допов. та повідомл. II Волинської іст.-краєзнавч. конф., Луцьк, 26–28 травня 1988 р. – Луцьк, 1988. – Ч. 1. – С. 114–116.

70. Общеславянский лингвистический атлас. Сер. лексико-словообразовательная. – Вып. 1: Животный мир. – М.: Наука, 1988. – Карты № 31, 32, 34, 35, материалы и коммент. к ним (в соавторстве).

71. Полесские говоры в составе белорусского и украинского языков // Полесье. Материальная культура. – Киев: Наук. думка, 1988. – С. 56–64, 420–422 (в соавторстве).

**1989**

72. Двухмоўе // Этнаграфія Беларусі: энцыкл. / рэдкал: І. П. Шамякін (гал. рэд). – Мінск: БелСЭ, 1989. – С. 168–169.

**1990**

73. Некаторыя моўныя праблемы Палесся // Jітвјежа (Поліська) штудіjно-прахтыцька конфырэнция: тэзы проказэj, Мынськ, 13–14 апр. 1990 р. – Пынськ, 1990. – С. 6–10.

74. Культурна-моўныя зоны і этнагенез славян // Славяне: адзінства і мнагастайнасць: Міжнар. канф.: тэз. дакл. і паведамл. – 2 секцыя: Этнагенез славян, Мінск, 24–27 мая 1990 г. – Мінск, 1990. – С. 33–35.

75. К генезису брестско-пинских говоров // Проблеми української діалектології на сучасному етапі: тези допов. і повідомл. – Житомир, 1990. – С. 49–50.

76. Этнос и перепись: парадоксы статистики // Ожог родного очага. – М.: Прогресс, 1990. – С. 92–106.

**1991**

77. Этническая структура населения Брестской области (к вопросу о «скрытых» этносах) // Международный симпозиум «Право и этнос»: материалы для обсуждения, Голицино (Моск. обл.), 1–5 окт. 1991 г. – М., 1991. – С. 150–160.

78. Назвы хвоі ў гаворках Беларусі // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. Рэсп. навук.-практ. канф., Мінск, 10–11 снеж. 1991 г. – Мінск, 1991. – С. 61–63.

**1992**

79. З лексікі вёскі Камянюкі Камянецкага раёна // Жывое народнае слова: дыялектал. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. П. А. Міхайлаў, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 36–55.

80. Гомельшчына – прарадзіма этнічных беларусаў (да пастаноўкі пытання) // Гомельшчына: народная духоўная культура. Дыялекты. Тапанімія: матэрыялы рэгіянальнай навук. канф., прысвеч. 850-годдзю летапіснага ўпамінання Гомеля. – Гомель, 1992. – С. 21–23.

81. З мікратапаніміі вёсак Белая Дуброва і Махнавічы // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 149–151.

82. Карта-схема пашырэння гаворак беларускай мовы ў пачатку XIX ст. па З. Я. Даленгу-Хадакоўскаму // Роднае слова. – 1992. – № 5. – С. 3 (вокладкі часопіса); *Тое ж* // Полымя. – № 5. – С. 81 (перадрук; у суаўтарстве).

83. Герадот пра Палессе // Праблемы народнай адукацыі, навукі, культуры беларускага Палесся: тэз. дакл., паведамл. – Мазыр, 1992. – Ч. 2. – С. 79–81.

## 1993

84. Рэфлексы **d*, **t* перад этымалагічнымі **e*, **i* ў славянскіх гаворках // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства: матэрыялы Другой міжнар. навук. канф., Віцебск, 5–6 лют. 1993 г.; пад рэд. Г. М. Мезэнка. – Віцебск, 1993. – С. 81–83.

85. Да пытання аб палеска-арыйскіх (інда-іранскіх) сувязях // Арэалогія. Праблемы і дасягненні: тэз. дакл. Міжнар. навук. канф., Мінск, 25–27 траўня 1993 г. – Мінск, 1993. – С. 34–35.

86. Прадмова // Леванцэвіч Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобл. Фанетыка: вучэб. дапам.: у 2 ч. – Брэст: Брэст. дзярж. пед. ін-т, 1993. – Ч. 1. – С. 4–14.

87. К проблеме этногенеза славян // Philologia slavica: к 70-летию академика Н. И. Толстого. – М.: Наука, 1993. – С. 71–77.

88. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 1: раслінны і жывёльны свет / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. М. В. Бірылы, Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. Ф. Д. Клімчук, Я. М. Рамановіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993. – 160 с.; XIX + 368 карт (у суаўтарстве).

89. К вопросу о древних греко-восточнославянских связях // Греко-славянское духовное единство. – Донецк, 1993. – С. 17–34.

90. Балтийско-полесская и среднеевропейско-полесская этнокультурные области // Lietuviu kalbotyros klausimai, XXX (1993). Periferines lietuviu kalbos tarmes. – Vilnius: Academia, 1993. – S. 47–53.

91. Гаворкі Круглянскага раёна // Праблемы краязнаўства Круглянскага раёна: матэрыялы раённай навук.-практ. канф., Круглае [Магілёўская вобл.], 10 лют. 1993 г. – Круглае [Магілёўская вобл.], 1993. – С. 67–71.

92. Этнас, нацыя, самасвядомасць // Беларусістыка: матэрыялы навук. сесіі Аддзялення гуманітарных навук «Беларусь: шляхі аднаўлення і развіцця», Мінск, 3–4 лістап. 1993 г. – Мінск, 1993. – С. 260–262.

## 1994

93. Палякі Беларусі, Украіны, Летувы, Латвіі ў XIX–XX стст. // Хрысціянская думка. – 1994. – № 1 (215). – С. 128–148.

94. Гавораць чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі) / склад. і навук. рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск: ЦНБ АН РБ, 1994. – С. 8–33 (у суаўтарстве), с. 24–33, с. 37–88 (у суаўтарстве), с. 158–163.

95. Старажытныя ляхі // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства: матэрыялы Трэцяй міжнар. навук. канф., Віцебск, 5–7 снеж. 1994 г. – Віцебск, 1994. – Ч. 1. – С. 119–121.

96. Гістарычная дыялекталогія // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А. Я. Міхневіча.; рэдкал. Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 132–134.

97. Заходнепалескія гаворкі // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал. Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 57 (карта), с. 218–219.

98. Пашырэнне гаворак беларускай мовы ў пачатку XIX ст. (паводле З. Я. Даленгі-Хадакоўскага) [Карта] // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А. Я. Міхневіча.; рэдкал. Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 57 (у суаўтарстве).

99. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 2: сельская гаспадарка / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. А. І. Чабярук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1994. – 145 с.; 354 карты (у суаўтарстве).

## 1995

100. Паўднёва-заходнія ізаглосы // Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – С. 180–196, карты с. 14–42.

*дóжджик* Чэрнін, *жúта* Чыркавічы, *лежúць* Чыркавічы, *жиý* Якімаўская Слабодка, *награшúла* Васілёўка, *жúта* Васілёўка, *чаўнóчик* Краснаўка, *шнурóчик* Краснаўка, у адрозненне ад сімвала *i* (поруч з *е, ё, я, ю, ь*), які абазначае ў пазіцыі пасля зацвярдзелых іх мяккае вымаўленне: *не пріéхалі, крівáя, сварíцца, старíнная кáзка, бері, курíць* Дуброва, *кýріца, старíе, у вóзері* Васілёўка [1, с. 188, 189].

Сімвалы *ѣ* і *8*, якія сустракаюцца ў запісаных С. Некрашэвічам лексемах, былі заменены на адпаведныя дыфтонгі. Гэта зроблена з улікам заўвагі аўтара: «*ѣ* абазначае дыфтонг *i͡э*, *8* – *y͡o*» [1, 238].

У сістэме кансанатызму знакам ***w*** перадаецца «або білябіяльнае *в*, або гук, падобны на нескладовае *у*, які, аднак, з ім не супадае; білябіяльнае *в* (*w*) найбольш выразна чуецца пасьля зычных: *сарwí* Чэрнін, *хwáціць* Чэрнін, *сwáтка* Бяліца, *на дwарэ́* Слабодка, *хwóры* Данілоўка, *ўwéсь* Данілоўка» [1, с. 184]. Сімвал ***j*** абазначае «прыстаўное *j*», якое «маем у такіх словах, як *јанá, јон, јім, јíмі* Парыччына»; акрамя таго, «у песеннай мове можна пачуць прыстаўное *j* і перад іншымі галоснымі: *у далíні јарэшóк* Чэрнін, Дуброва» [1, с. 185].

Удакладненні ў тлумачальнай частцы, прыведзеныя С. Некрашэвічам, а таксама паметы жанравай маркіраванасці афармляюцца ў *круглых дужках.* Пазнакі, неабходныя для разумення дэфініцыі, пэўнай формы ў ілюстрацыйнай частцы, намі прыводзяцца ў *квадратных дужках.* Асобныя ўрыўкі з этнаграфічнай часткі артыкула С. Некрашэвіча, якія неабходны для разумення або рэестравых лексем, або ілюстрацый, прыводзяцца ў *касых дужках.*

## *«Слоўнік Парыччыны»*

Ва ўсіх рэестравых лексемах у словазборы «Слоўнік Парыччыны» С. Некрашэвіча прастаўлены *націск*. Аднак у некаторых лексемах націск у дэфініцыях, надрукаваны, верагодна, памылкова, быў зняты пры афармленні матэрыялу: *картыжнік 'картаграч', разжыцца 'разбагацець, абзавесьціся'* і інш. У прыкладах толькі некалькі лексем суправаджаюцца паказаннем націску. Гэта словы, якія значна адрозніваюцца сваёй формай ад літаратурнай мовы, таму ў такіх выпадках націск захоўваўся ў поўным аб'ёме: *курá, палікé, пасьпеé, посьлé, цыган.* Пасля лексікаграфічнай апрацоўкі ўвесь ілюстрацыйны матэрыял быў пакінуты без націскаў – у адпаведнасці з задумай С. Некрашэвіча.

*Арфаграфічнае афармленне* рэестравых слоў, тлумачальнай часткі і прыкладаў захоўвалася, па сутнасці, без змен, каб паказаць, з аднаго боку, адметнасць правапісу 20-х гг. (зона дэфініцыі) і, з другога боку, фанетычны спосаб падачы ілюстрацыйнага матэрыялу. Аднак, згодна з сучаснымі правіламі арфаграфіі, падаецца правапіс часціц 'б' і 'бы' (*'душачка б брала, да кішачка мала', 'ты б, каплун, усе пажраў'*), 'ж' і 'жа' (*'чаму ж ты збаяўся бораццa са мною?', 'пачакай жа, я ж табе дам!'*), 'не' (*'не шманáць', 'нелюбая дружынaчка'*), прыставак і прыназоўнікаў (*'ззамаладу', 'пасярэдзіне шнурка'*), прэфіксоіда *паў-* (*'паўнадзела'*) і інш. *Пунктуацыйнае афармленне* як у тлумачальнай, так і ў ілюстрацыйнай частцы пасля апрацоўкі матэрыялу было прыведзена ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі.

*Рэестравае слова.* Фанетычныя варыянты (*адзёнак* і *адóнак*) С. Некрашэвіч падаў асобнымі слоўнікавымі артыкуламі, а акцэнталагічныя варыянты (*кýра* і *курá*) і структурна адрозныя па мадыфікацыйных словаўтваральных кампанентах лексемы (*стаць* і *ставáць*; *хвóя* і *хвóйнік*) – змясціў у адзін. Пасля апрацоўкі матэрыялу фанетычныя і акцэнталагічныя варыянты аформлены адным слоўнікавым артыкулам, усе іншыя – асобнымі:

**АДЗЁНАК, АДÓНАК** *м.* Насьціл для стога, каб сена не зацягвалася зьнізу вадою і не загнівала. Слабодка.
**СТАВÁЦЬ** *незак.* Хапаць. Данілоўка.
**СТАЦЬ** *незак.* Хапаць. *Як у яго сілы стае несьці такі вялікі мяшок.* Данілоўка.

Дзеясловы, прыведзеныя ў форме 3 ас. адз. л. цяперашняга ці будучага часу (*давóдзіцца, рэ́кне*) або ў форме адз. л. н. р. мінулага часу (*раздажджылася*), заменены на адпаведныя інфінітывы, напрыклад:

**ДАВАДЗÍЦЦА** *незак.* Прыходзіцца. *Хведар даводзіцца мне стрэчным братам.* Данілоўка.
**РАЗДАЖДЖЫ́ЦЦА** *зак.* Задажджыць. *Нешта раздажджылася неба.* Данілоўка.

Рэестравы склад слоўніка быў пашыраны на невялікую колькасць лексем, улічваючы асаблівасці тлумачэння і ілюстравання загаловачных слоў, а менавіта:

калі пры вытворных аднакарэнных словах ужываецца адсылка *'ад + лексема'*, якая С. Некрашэвічам не тлумачыцца, то фіксаваліся і тлумачыліся абедзве лексемы (*камарэ́ча* і *кама́р*, *каба́ська* і *каба́н*, *кішачка* і *кішка*):

**КАМАРЭ́ЧА** *зб.* ад **КАМА́Р**. *Ўлетку конєй камарэча заєдае.* Дан.

**КАБА́СЬКА** *м.* Ласк. ад **КАБА́Н**. Дан.

**КАМА́Р** *м.* Камар. Парыччына.

**КАМАРЭ́ЧА** *ж. зб.* Камары. *Ўлетку конєй камарэча заєдае.* Данілоўка.

**КАБА́Н** *м.* Кабан. Парыччына.

**КАБА́СЬКА** *м. ласк.* Кабан. Данілоўка.

калі ў тлумачальнай частцы ўтрымліваецца параўнанне з больш ці менш ужывальнай лексемай на тэрыторыі Парыцкага раёна, і пры гэтым другая лексема ў словазборы не вытлумачваецца, то ўсе згаданыя С. Некрашэвічам словы падаваліся з адпаведнай дэфініцыяй (*дзярэ́ўня* і *сяло́*, *рэ́чка* і *рака́*, *бу́льба* і *карто́пля*, *кардо́плі*):

**БУ́ЛЬБА** *ж.* «Бульба» ўжываецца ў левабережнай часьці раёну. У праваберажнай гавораць «картопля» (шляхта) і «кардоплі» (сяляне); слова «бульба» тут хоць і вядома, аднак ня ўжываецца, за выключэньнем в. Чыркавіч.

**БУ́ЛЬБА** *ж.* Бульба. Чыркавічы, Парыччына.

**КАРТО́ПЛЯ** *ж.*, **КАРДО́ПЛІ** *мн.* Бульба. Парыччына.

калі ў дэфініцыі або ў ілюстрацыйнай частцы С. Некрашэвіч разгорнута вытлумачвае іншыя, не прыведзеныя ў словазборы лексемы, то яны таксама ўключаліся ў рэестр (*дзётка* і *дзё*, *лагізо́н* і *лагіза*, *вы́хвараць* і *пабі́ць*, *лучні́к* і *жале́зка*, *ляйца́ць* і *ле́йцы*, *псе́йка* і *псе-псе*, *шу́тка*, *шу-шу*, *ро́ўка* і *заклада́ць*):

**ЛАГІЗО́Н** *м.* Легіянер. Нар. этымолёгія. Гэтак сяляне называлі ў 1918 г. польскіх легіянераў корпусу Даўбор-Мусьніцкага, збліжаючы «*легіянер*» са словам «*лагіза*», што значыць гультай, абібок, прайдзісьвет. Пар.

**ЛАГІ́ЗА** *агульн.* Гультай, абібок, прайдзісьвет. Парычы.

**ВЫ́ХВАРАЦЬ** *зак.* Многа пахварэць. *Каб табе вухварэць да вустагнаць, як ты мой аўёс пабіў* (выпасьвіў коньмі). Слаб.

**ПАБІ́ЦЬ** *зак.* Выпасьвіць коньмі. *Каб табе вухварэць да вустагнаць, як ты мой аўёс пабіў.* Слабодка.

Такія ўдакладненні ў дэфініцыі і прыкладах пры ўпарадкаванні матэрыялу былі зняты:

**ЛАГІЗО́Н** *м.* Легіянер; гэтак сяляне называлі ў 1918 г. польскіх легіянераў корпусу Даўбор-Мусьніцкага, збліжаючы «легіянер» са словам «лагіза». Парычы.

калі рэестравы інфінітыў суправаджаецца прыкладам у іншым трыванні або аднакарэнным назоўнікам (ці наадварот), то другая трывальная форма (ці назоўнік) рэканструецца з прыкладу, і прыводзяцца два слоўнікавыя артыкулы (*апрану́ць* і *падапрану́ць*, *дапада́ць* і *дапа́сьці*, *дзяржа́ць* і *падзяржа́ць*, *запіва́ць* і *запі́ць*, *зьляга́цца* і *зьлягчы́ся*, *ігра́ць* і *пайгра́ць*, *каўта́ць* і *пракаўтну́ць*, *ку́рчыць* і *патку́рчыць*, *нагружа́ць* і *нагрузі́ць*, *рык* і *ры́каць*, *сунiма́цца* і *суня́цца*, *тапта́ць* і *патапта́ць*, *твары́ць* і *патвары́ць*, *уцьвялі́ць* і *цьвялі́ць*, *чу́каць* і *пачу́каць*, *шлаката́ць* і *зашлаката́ць*, *шло́кат*):

**ШЛАКАТА́ЦЬ** *д.* Казлытаць, ласкатаць. *Чалавека можна зашлакатаць. Дзіця баіцьця шлокату.* Майс.

**ШЛАКАТА́ЦЬ** *незак.* Казлытаць, ласкатаць. Майсееўка.

**ЗАШЛАКАТА́ЦЬ** *незак.* Заказлытаць, заласкатаць. *Чалавека можна зашлакатаць.* Майсееўка.

**ШЛО́КАТ** *м.* Казлытанне, ласкатанне. *Дзіця баіцьця шлокату.* Майсееўка.

**КУ́РЧЫЦЬ** *д.* Згінаць пад сябе ногі. *Сядзіць, паткурчыўшы ногі.* Дабр.

**КУ́РЧЫЦЬ** *незак.* Згінаць пад сябе ногі. Дабравольшчына.

**ПАТКУ́РЧЫЦЬ** *зак.* Сагнуць пад сябе ногі. *Сядзіць, паткурчыўшы ногі.* Дабравольшчына.

Фразеалагічныя адзінкі (*блізкі сьвет*, *ве́трам падшы́ты*, *лі́са злаві́ць*, *лы́нды бі́ць*, *загавары́ць не́мым го́ласам*, *паня́ць мо́ду*, *птушы́ная даро́га*, *саба́кам се́на касі́ць*, *узя́цца ў клубы́*, *уна́начкі хадзі́ць*, *у сьвіны́я галасы́*) і словазлучэнні тэрміналагічнага характару (*баява́я гавара́*, *пачко́вая*

*табáка, сабáчы вýзел*), згодна з тагачаснай традыцыяй, прыведзены С. Некрашэвічам самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі. Пры апрацоўцы матэрыялу ў гэтых спалучэннях было вылучана апорнае слова, якое станавілася рэестравым. У межах слоўнікавага артыкула на такое загаловачнае слова падаваўся пад прынятым для словазбору сімвалам ◊ фразеалагізм:

**ЛІС** *м.* ◊ ЛІСА ЗЛАВІЦЬ. Падсмаліць сьвітку ці іншую суконную адзежыну, пасьля чаго яна набывае жоўты, як у ліса, колер. Данілоўка.

**ТАБÁКА** *ж.* ○ ПАЧКÓВАЯ ТАБÁКА. Табака лепшага сорту. *Настаўнік курыць пачковую табаку.* Данілоўка.

Адно словазлучэнне тэрміналагічнага характару і адна фразема былі вылучаны з тлумачэння (*вýзел зáшмаргам; на валóў рык*) і яшчэ некалькі фразем – з ілюстрацыі рэестравай лексемы (*адны́м дýхам, задрáць кýрду, парахня́ пасы́плецца*).

<u>*Граматычныя паметы*</u>. У слоўніку кожная рэестравая лексема суправаджаецца адпаведнай граматычнай паметай. Згодна з сучаснымі патрабаваннямі, памета '*д.*' пры дзеясловах была заменена на ўказанне адпаведнага трывання ('*зак.*' і '*незак.*'). Граматычныя паметы назоўніка тыпу '*ж. мн.*' або '*м. мн.*' захоўваліся: яны сведчаць пра тое, што лексема ўжываецца як у адзіночным, так і ў множным ліку: ***амéці*** *ж. мн.*, ***апóўзіны*** *ж. мн.*, ***аціры*** *ж. мн.*, ***вілы*** *ж. мн.*, ***гіры*** *ж. мн.*, ***дуды́*** *ж. мн.*, ***капцы́*** *м. мн.*, ***клубы́*** *м. мн.*, ***клю́чні*** *ж. мн.*, ***лéскі*** *ж. мн.*, ***налíсьнікі*** *м. мн.*, ***нары́тнікі*** *м. мн.*, ***пáтлы*** *ж. мн.*, ***пéрсьці*** *ж. мн.*, ***пярэ́звы*** *ж. мн.*, ***пярэ́сьцігі*** *м. мн.*, ***рэ́дзгіны*** *ж. мн.*, ***смаркачы́*** *м. мн.*, ***сталю́гі*** *ж. мн.*, ***трапкачы́*** *м. мн.*, ***упíткі*** *м. мн.*, ***шóлудзі*** *ж. мн.* і інш. Адзначым, што множналікавыя назоўнікі ўжываюцца з паметай '*мн. л.*': *біткі, жы́ры, кáры, лы́нды, я́глы* і інш.

Некаторыя граматычныя пазнакі, у адпаведнасці з формай слова, карэкціраваліся, напрыклад:

1) часцінамоўнае вызначэнне: ***кірмашóвае*** *'гасьцінец з кірмашу'* *н.* (замест *прым.*), ***абéручкі*** *прысл.* (замест *прым.*), ***бок*** *'моў' часц.* (замест *прысл.*), ***маўля́ў*** *'моў' часц.* (замест *прысл.*), ***ну*** *'так, але' выкл.* (замест *прысл.*) і інш.;

2) родавая прыналежнасць у назоўніка: ***лáпікла*** *'дзірка на адзежы' н.* (замест *ж.*), ***няўмéка*** і ***няўмéчка*** *'няўмелы, які ня ўмее нічога рабіць' агульн.* (замест *ж.*) і інш.;

3) дададзены паметы: '*н.*' да назоўніка ***плáцьце***, '*выкл.*' – да лексемы ***дзётка*** *'прызыўны воклік на сьвіней'*, '*м.*' – да лексемы ***сёстрык*** *'гейка, прыяцелька'* і інш.

<u>*Ацэначныя паметы*</u>. Часта дэфініцыі ў словазборы С. Некрашэвіча акрамя непасрэднага тлумачэння ўтрымліваюць разнастайныя ўдакладненні, якія датычацца адметнасцей ужывання рэестравай лексемы, яе канатацыйных ацэнак, напрыклад:

1) лаянкавае: ***вярэ́паўка*** *'тоўстая, непаваротная і неахайная жанчына (лаянка)'*, ***вы́лупак*** *'наагул лаянка хлопца'*, ***каўтýн*** *м. '1. хвароба; 2. лаянка'*;

2) зневажальнае: ***галáйстра*** *'голы, бедны; ужываецца ў зьняважлівым сэнсе'*, ***дóхліца*** *'сьмерць* (зьняв.)', ***дуды́*** *'ногі (гаворыцца ў зьняважлівым сэнсе)'*, ***здыр́дзіцца*** *зак. 'памерці (ужываецца ў зьняважлівым сэнсе)'*, ***кóдла*** *'род (зьняв.)'*, ***крýпнік*** *'зьняважлівая назва інтэлігента'*, ***сабáкам сéна касíць*** *'гультаіць, латраваць (зьняв.)'*, ***хрáпа*** *2) 'пераносіца ў каня або зьняважліва ў чалавека'*;

3) ласкальнае: ***дзётка*** *'сьвінка (ласк.)'*, ***кабáська*** *'ласк. ад кабáн'*, ***псéйка*** *'кароўка (ласк.)'*, ***'шутка*** *– аўца (ласк.)'*;

4) памяншальнае: ***кíшачка*** *'памянш. ад Кішка'*.

У такім выпадку, па аналогіі з паметамі С. Некрашэвіча, а таксама з мэтай аднастайнасці афармлення матэрыялу, да лексем дадавалася адпаведная памета – '*лаянк.*', '*зьняв.*', '*ласк.*'. Памета '*памянш.*' заменена на '*ласк.*' у адпаведнасці з лексічным значэннем: **КÍШАЧКА** *ж. ласк.* Кішка. □ *Душачка б брала, да кішачка мала.* Данілоўка. Таксама памета '*ласк.*' дададзена да лексем *палажóк, трацячóк*.

<u>*Дэфініцыя*</u>. Тлумачальная частка ў большасці выпадкаў захоўвалася без змен, аднак у некаторых выпадках пры апрацоўцы дэфініцыі рабіліся нязначныя праўкі:

калі ў словазборы не былі размежаваны мнагазначныя і аманімічныя лексемы, то значэнні аднаго слова і розныя лексемы афармляліся адрозна (напрыклад, *галýза, крýпнік, лажбéнь, лёстачка, налíсьнікі, нявéрнік, падрэ́з, пýшка, скáлка, таптáць, тýхнуць, узьбíцца, храпа* і інш.):

**ЛЁСТАЧКА** *ж.* 1. Палачка ў драбінах (калёсах), што прымацоўваецца да біла. 2. Лісьлівасьць. *Лёстачкамі душу выймае.* Дан.

**ЛЁСТАЧКА** *ж.* Палачка ў драбінах (калёсах), што прымацоўваецца да біла. Данілоўка.

**ЛЁСТАЧКА** *ж.* Лісьлівасьць. *Лёстачкамі душу выймае.* Данілоўка.

калі да загаловачнага слова прыводзілася шырокае і рознааспектнае тлумачэнне (або даваліся дадатковыя тлумачэнні ў ілюстрацыі), то вылучаліся і іншыя значэнні рэстравай лексемы (напрыклад, *вы́лупак*, *друга́к*, *курта́ты*, *хра́па* і інш.):

**ВЫ́ЛУПАК** *м.* Хлопчык з вылупленымі вачыма, наагул лаянка хлопца. *Што-ж ты, вулупак, нарабіў?* Слаб.

**КУРТА́ТЫ** *прм.* Куцы, кароткі, бясхвосты. *Куртатая сьвітка. Куртаты сабака.* Дан.

**ВЕРАБЕ́ЙКА** *н.* Назва ўсякай дробнай птушкі. *Хлопцы ў лесі пабралі верабейкі* (птушаняты). Слаб.

**ВЫ́ЛУПАК** *м.* 1. Хлопчык з вылупленымі вачыма. Слабодка. 2. *лаянк.* Хлопец. *Што ж ты, вулупак, нарабіў?* Слабодка.

**КУРТА́ТЫ** *прым.* 1. Куцы, кароткі. *Куртатая сьвітка.* Данілоўка. 2. Бясхвосты. *Куртаты сабака.* Данілоўка.

**ВЕРАБЕ́ЙКА** *н.* 1. Назва ўсякай дробнай птушкі. Слабодка. 2. Птушаня. *Хлопцы ў лесі пабралі верабейкі.* Слабодка.

І наадварот, калі вылучаныя аўтарам два значэнні былі вельмі цесна звязаны, то яны аб'ядноўваліся ў адно, напрыклад:

**ГАЛУ́ЗА** *ж.* ... 2. Абгарэлая паляняка, галавешка. *Патсунь галузу ўв агонь.* 3. Чорны. *Чорны, як галуза.* Дан.

**ГАЛУ́ЗА** *ж.* Абгарэлая паляняка, галавешка. *Патсунь галузу ўв агонь. Чорны, як галуза.* Данілоўка.

звесткі этымалагічнага характару (***гілэ́хтар*** *'бяда, непрыемнасьць (узята з яўрэйскага, ням. gelächter – сьмех)'*), а таксама лацінамоўныя адпаведнікі (назвы раслін: ***дзераза́*** *'паўзучая расьліна ў хваёвым лесе (Licopodium L.)'*, ***ці́пец*** *'сівец, каманішнік (Succisa praemorsa Aschers)'*), што былі змешчаны ў дэфініцыі, пры афармленні матэрыялу апускаліся з прычыны іх несістэматычнасці;

заўвага «*народная этымолёгія*» таксама цалкам выключалася са складу дэфініцыі (напрыклад, у тлумачэнні лексем *ваўкатру́б*, *сяргіту́т* і інш.):

**СЯРГІТУ́Т** *м.* Сэрвітут. Народная этымолёгія. Слаб.

**СЯРГІТУ́Т** *м.* Сэрвітут. Слабодка.

рускія адпаведнікі, прыведзеныя ў якасці тлумачэння да некалькіх лексем, або замяняліся на беларускія, або пакідаліся з расшыфроўкай:

**СЬВІЗІ́НА** *ж.* Рас. «Курослеп-дерево». Дан.

**ВАЎКАТРУ́Б** *м.* Рас. «волкомтруд». Народная этымолёгія. Пар.

**СЬВІЗІ́НА** *ж.* Кураслеп. Данілоўка.

**ВАЎКАТРУ́Б** *м.* Народнае пераасэнсаванне рускага слова «волкомтруд» [волостной комитет труда]. Парычы.

адсылачная памета '*гл.*', што прыводзіцца замест тлумачэння, была знята, замест яе прыводзіцца адпаведная дэфініцыя або памета '*тое ж*', калі лексемы размешчаны адна за другой па алфавіце. Адзначым, што адсылка ў словазборы прыводзіцца на сінанімічныя лексемы (*гізава́ць* і *зыкава́ць*, *карты́жнік* і *картагра́ч*, *клыпа́ты* і *клышу́н*, *напрасьцікі́* і *нацянькі́*, *ста́йла* і *по́дкур*, *пасялу́ха* і *пахату́ха*), на фанетычныя і словаўтваральныя варыянты (*адо́нак* і *адзёнак*, *не́гадзь* і *нягóда*, *ла́пікла* і *ла́піна*), а таксама на аднакарэнныя да сінанімічных словы (*сі́веркі*, *сі́верны* і *сі́вер*).

Невялікая колькасць дэфініцый С. Некрашэвіча пры падрыхтоўцы матэрыялу да друку была адрэдагавана. Змены былі зроблены ў наступных выпадках:

збыткоўная інфармацыя пры ўпарадканні лексічнага матэрыялу была апушчана, напрыклад: а) ***галу́за*** *'у аг. зн. свавольнік'*, ***забіра́ць*** *'апрача вядомага знач. прыходзіць у афэкт і наагул у ненармальны псыхічны стан'*, ***перасыпа́ць*** *'апрача агульн. знач. перабудаваць, перастанавіць будыніну'*, ***таптáць*** *'апрача агульна-вядомага значэньня 1) складаць на стагу сена, прытоптваючы яго'*, б) ***зыкава́ць*** *'бегчы, задраўшы хвост, уцякаючы ад зыкоў (гаворыцца аб быдле і конях)'*, ***ігра́ць*** *'спарвацца, гаворыцца аб птушках'*, ***палява́ць*** *'спарвацца, гаворыцца пераважна аб каровах'*, ***склёшчыцца*** *'2) спарыцца, гаворыцца аб сабаках'*, ***такава́ць*** *'1) іграць на «таку»; гаворыцца аб цецярукох, бакасох'*, ***шалпата́ць*** *'шамаць, шастаць, шумець (гаворыцца аб уюнох, чэрвях)'*,

в) ***валоў рык*** *'ужываецца для паказаньня адлегласьці, як можна пачуць рыканьне вала'*, ***кідýн*** *'падучка, ужываецца ў лаянцы'*, ***парахня́*** *'3) ужываецца ў сэнсе 'сьцерці на парашок'*, ***хрось*** *'Матка здрава, хрось сьветы, на гары цэркаўка (ужываецца, як бажэньне)'*, г) ***рэ́чка*** *'звычайна, аднак, гавораць рака'*, ***тýхнуць*** *'1) гаснуць (апошняга слова ў раёне я ня чуў)'*, ***хвóя, хвóйнік*** *'«сасна» ў раёне не гавораць'*;

лексемы, што ўтрымліваюць экспрэсіўную ацэнку, былі аформлены аднастайна:

**КАЎТÝН** *м.* 1. Хвароба – каўтун. 2. Лаянка. *Гад ты, каўтун!* 3. Патлы, гіры. *Рашчашы ты свае каўтуны.* Дан.

**КАЎТÝН** *м.* 1. Хвароба. Данілоўка. 2. *лаянк.* Пра чалавека. *Гад ты, каўтун!* Данілоўка. 3. *мн.* Патлы, гіры. *Рашчашы ты свае каўтуны.* Данілоўка.

часцінамоўная прыналежнасць рэестравай лексемы стала вытрыманай ва ўсім слоўніку:

**АБРЫЗКЛЫ́** *прм.* Напаўзакіслае малако. *Абрызклоє малако.* Дан.

**СЬНЯЖЫ́ЦЬ** *д.* Падае сьнег. *Цэлы дзень сьняжыць.* Дан.

**АБРЫЗКЛЫ́** *прым.* Напаўзакіслы (пра малако). *Абрызклоє малако.* Данілоўка.

**СЬНЯЖЫ́ЦЬ** *незак.* Падаць (пра сьнег). *Цэлы дзень сьняжыць.* Данілоўка.

змянялася трыванне дзеяслова ў тлумачальнай частцы для захавання суадноснасці з дзеясловам у рэестравай частцы: ***вы́зьверыцца*** – *'налаяцца'* замест *'лаяцца'*, ***упя́каць*** – *'нерэнтабельна ўкласьці маёмасьць'* замест *'нерэнтабельна ўлажыць маёмасьць'* і інш.;

змяняўся парадак слоў для лепшага разумення дэфініцыі: ***запрада́ць*** *'атрымаць задатак за прызначаную для продажу рэч'* замест *'атрымаць за прызначаную для продажу рэч задатак'*; ***пýшка*** *'скура на верхнім згіне пальца'* замест *'верхні згін пальца (скуры)'*.

*Ілюстрацыйны матэрыял*. Вершаваныя песенныя радкі, што прыводзяцца як прыклад на рэестравую лексему, афармляюцца праз нахільную з паметай *'з песьні'* або *'з прыпеўкі'*:

**ЗАБАРЫ́ЦЦА** *зак.* Замарудзіцца, спазьніцца. *Я маладая забарылася, / За гускамі, за птушкамі загледзелася* (з песьні). Краснаўка.

**БУЯ́К** *м.* Дурніца, галубіца (ягада). *Пашла я ў буякі – / Абуячылася. / Прышла я дадому – / Раскірачылася* (з прыпеўкі). Данілоўка.

Удакладненні ў рэестравай частцы або ў прыкладзе, што сведчаць пра жанравую абмежаванасць ужывання лексемы (лаянка, бажэнне), захаваны ў поўным аб'ёме: 1) ***запаве́трыцца*** *'Штоб ты запаветрыўся! (лаянка)'*, ***захлупíцца*** *'Каб ты задушыўся ды захлупіўся (лаянка)'*, ***кідýн*** *'падучка (ужываецца ў лаянцы)'*, ***мýльле*** *'Скульля табе, мульля (лаянка)'*, 2) ***хрось*** *'Матка здрава, хрось сьветы, на гары цэркаўка (ужываецца, як бажэньне)'*. Пры гэтым памета *'лаянка'* заменена на памету *'праклён'* і змяшчаецца пасля прыкладу на адпаведную лексему:

**ЗАПАВЕ́ТРЫЦЦА** *зак.* Прапасьці. *Штоб ты запаветрыўся!* (праклён). Данілоўка.

**ХРОСЬ** *м.* Крыж. *Матка здрава, хрось сьветы, на гары цэркаўка* (бажэньне). Чэрнін.

Таксама такая памета дададзена па аналогіі да прыкладаў на лексемы *'перавóдзіцца'* і *'кадýк'*:

**КАДÝК** *м.* Чорт. *Каб цябе кадукі забралі!* (праклён). Данілоўка.

**ПЕРАВÓДЗІЦЦА** *зак.* Зьнішчацца. *Штоб твой род пераўёўсє!* (праклён). Раманішчы.

На многія лексемы ў якасці прыкладаў прыведзены прыказкі і прымаўкі: *Здаўся на прыказкі, як чорт на прывєзкі*; *Ўсе кагалам – і бацька з жыгалам*; *Душачка б брала, да кішачка мала*; *Хто працуе, той і мацуе*; *Што сялцэ, то нараўцэ*; *Неспадзеўкі – дзіця ў дзеўкі*; *Ў ніўмекі рукі калекі*; *Ў ніўмечкі ні баляць ні ручкі, ні плечкі*; *На чужы раток ні накінєш платок*; *Ніхай той серадзіць, хто дома сядзіць*; *Ні ў тым сіла, што кабыла сіва, а ў тым, што воза ні вязе*; *Брат сястры далёкі сусед*; *Хто робіць укупє, таму ні баліць у пупє*; *Была б галава, а шолудзі будуць*; *Сытай бабі юр на ўме*; *Хто зєвае, той юшку хлєбае*. У адпаведнасці з патрабаваннямі сучаснай лексікаграфіі такія ўстойлівыя адзінкі афармляюцца пры дапамозе сімвала □:

**СЕРАДЗÍЦЬ** *незак.* Пасьціць па серадах. □ *Ніхай той серадзіць, хто дома сядзіць.* Краснаўка.

*Лінгвістычны пашпарт*. Кожная ілюстрацыя ў С. Некрашэвіча суправаджаецца запісам скарочанай назвы вёскі. У апрацаваным тэксце падаецца поўная назва населенага пункта: *Бяліца, Васілёўка, Дабравольшчына, Данілоўка, Дуброва, Заазер'е, Істопкі, Казлоўка, Кнышэвічы, Коўцічы, Краснаўка, Майсееўка, Медзьведаў, Пакалічы, Палянкі, Панкратавічы, Парычы, Пратасы, Раманішчы, Слабодка, Чыркавічы, Чэрнін, Шацілкі, Язьвінцы, Якімаўская Слабада* і інш.

Нязначная частка рэестравых адзінак мае геаграфічную адсылку *'Парыччына'*, якая ўказвае на ўжыванне лексемы ў межах Парыцкага раёна. Гэта наступныя групы лексем:

прыведзеныя С. Некрашэвічам без лінгвістычнага пашпарту: *асмо́лак, ко́дла, ма́кавішча, малата́рка, маха́нік, няве́рнік, няўме́чка, псе́йка, псе-псе, уцягну́цца, учамяры́цца, хво́я, хво́йнік, чапляя́*;

указаныя ў адсылцы і не патлумачаныя ў рэестры: *каба́н, кама́р, кішка, рака́, шу́тка, шу-шу́*;

ужывальныя ў пэўнай частцы – правабярэжнай або левабярэжнай – раёна (*бу́льба* і *карто́пля, кардо́плі*; *дзярэ́ўня* і *сяло́*), пра што ёсць заўвага С. Некрашэвіча, напрыклад:

**ДЗЯРЭ́ЎНЯ** *ж.* Вёска. Слова *«дзярэўня»* ўжываецца ў левабережнай часьці раёну; у правабережнай часьці ў большасьці гавораць *«сяло»*;

ужывальныя пэўнай часткай насельніцтва – шляхтай або сялянамі, на што ўказвае паясненне С. Некрашэвіча або паметы «*сял.*» ці «*шлях.*»: *«картопля» (шляхта) і «кардоплі» (сяляне)* і інш.;

змешчаныя з паметай '*ус.*' (усюды): *ляжа́к '3) дымаходная труба (ўс.)'*.

Карта, змешчаная ў нарысе С. Некрашэвіча




## Літаратура

1. Некрашэвіч, С. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс) / С. Некрашэвіч // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук (Працы клясы філялёгіі). – Менск, 1929. – Кн. 9. – Т. 2. – С. 159–244.

*Сцяпан Некрашэвіч*

# СЛОЎНІК ПАРЫЧЧЫНЫ[1]

*Падрыхтавала І. У. Галуза*

**АБАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Зьняць роя з дрэва ці з іншага месца, дзе ён саўецца. *Раман сягодня добрага роя ababраў.* Данілоўка. 2. Аграбіць. *Непадалек ад гораду разбойнікі мяне дазваньня абабралі.* Данілоўка. 3. Зьняць лушпайку з яйца, бульбы. *Абяры картоплю.* Данілоўка.

**АБЕ́РУЧКІ** *прысл.* Абедзьвюмі рукамі. *Аберучкі ўзяўся за біла.* Данілоўка.

**АБІБО́К** *м.* Гультай, лежань. *Дакуль ты, абібок, йшчэ будзеш спаць?* Данілоўка.

**АБПО́ЛВАЦЬ** *незак.* Прачышчаць збожжа на ветры. Данілоўка.

**АБРЫЗКЛЫ́** *прым.* Напаўзакіслы (пра малако). *Абрызклоє малако.* Данілоўка.

**АБСЕ́ЯЦЦА** *зак.* Засеяць. *Мы ўжэ трохі абсеєліся.* Данілоўка.

**АБУЯ́ЧЫЦЦА** *зак.* Ап'янець, бяручы буякі, ад багуну, што расьце разам з буячнікам. *Ў буякох я сусім абуячылася.* Коўцічы.

**АБЯЧЭ́ЙКА** *н.* Вобад у рэшаце ці ў сіце. Данілоўка.

**АГІНА́ЦЦА** *незак.* Гультаяваць, туляцца, хадзіць без работы. *Агінаєцца цэлы дзень, як сабака.* Данілоўка.

**АГНЁВЫ** *прым.* Пільны, старэнны. *Ён агнёвы чалавек на работу.* Данілоўка.

**АГНІ́СТЫ** *прым.* Тэмпэрамэнтны. *Агністая ў дзеўкі натура.* Медзьведаў.

**АГО́ЎТАЦЦА** *зак.* Заспакоіцца, апрытомніцца. *Посьлє чупрыньніка тры дні ні мог агоўтацца.* Казлоўка.

**АДГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Адра́дзіць. *Сідара адгаварылі жаніцца з Грыпінаю.* Майсееўка.

**АДЗЁНАК, АДО́НАК** *м.* Насьціл для стога, каб сена не зацягвалася зьнізу вадою і не загнівала. Слабодка.

**АДКІ́НУЦЦА** *зак.* Адмовіцца. *Цімох аткінуўся ад Ганны.* Данілоўка.

**АДНАЯ́Й** *м.* З адным яйцом. Данілоўка.

**АДЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Адкрыць, раскрыць. *Атчыні вароты. Атчыні рот.* Данілоўка.

**АКАЛО́Т** *м.* Трохі абабітыя (цэпам ці пранікам) на насеньне снапы жыта. *Трэба перамалаціць акалот.* Данілоўка.

**АКРА́ВАК** *м.* Абрэзак ад луцьця, сукна ці якой іншай матэрыі. Коўцічы.

**АМЕ́ЦІ** *ж. мн.* Задні апад пры веяньні, мякіна. *Запар карові амецєй.* Данілоўка.

**АНІГА́ДКІ** *прысл.* Добра, без клапот. *Далі Міхалку паўнадзела зямлі, а цяперака ён жыве сабе аніraткі.* Данілоўка.

**АПО́ЎЗІНЫ** *ж. мн.* Перакладзіны з апушчанымі канцамі для ўмацаваньня страхі ці верха стога. *Стог зьвяршылі й палажылі апоўзіны.* Данілоўка.

**АПРАНУ́ЦЬ** *зак.* Надзець верхнюю адзежу. *Апрані сьвітку.* Данілоўка.

**АРХІ́БА** *ж.* Архіў. *Вынєў ета я дакуманты з архібы.* Істопкі.

**АСКІРЗА́ЦЦА** *незак.* Агрызацца, пярэчыць. *Калі вінаваты – лепш маўчы й ні аскірзайся.* Данілоўка.

**АСМО́ЛАК** *м.* Смольнае палена, карчук. *Палажы асмолак на камінак.* Парыччына.

**АСЬЦЮ́К** *м.* Вус у ячменя ці іншага збожжа. *Ячмень з асьцюкамі.* Данілоўка.

**АЎЧА́РНІК** *м.* Авечы хлеў. *Воўк паткапаўся к Мірону ў аўчарнік і выцєг п'яць авец.* Данілоўка.

**АЦІ́РЫ** *ж. мн.* Абабітае пры малацьбе калосьсе. *Аціры запарваюць кіпятком, абмешваюць мукою й даюць коням.* Данілоўка.

**АЧАМЯРЭ́ЦЬ** *зак.* Абрыднуць, апрыкрыць. *Ачамярэлі мне етыє дзеці: сьвету за jімі ні бачу.* Данілоўка.

**АШЛА́ПІЦЬ** *зак.* Асядлаць, абняць нагамі. Данілоўка.

**БАБЁЛА** *н.* Пуп, часьць жывата ў абсягу пупа. *Бярыцє венікі, пам'ёла, біцє яго па баб'ёла.* Коўцічы.

**БАГА́ТА** *прысл.* Многа, шмат. *За нач багата сьнегу нападала.* Данілоўка.

**БАНСЮ́К** *м.* Байструк, бэнцаль. *Дзеўка прывєла баньсюка.* Данілоўка.

**БАЎТУ́ХА** *ж.* Таптуха; канусаватая, сплеценая з дубцоў рыбалоўная снасьць. *Баўтухай ловєць рыбу ў малой вадзе.* Данілоўка.

**БЕЛЬ** *ж.* Нізкарослы бярэзьнік на балоце. *Загнаў тавар у самую бель.* Слабодка.

**БІ́ЛА** 1. *мн.* Поручы. *Каб ні зваліцца з мосту ў воду, робєць білы.* Данілоўка. 2. *мн.* Верхняя перакладзіна ў калёсах. *Дзяржыся за білы, а то выскачыш з калёсаў.* Данілоўка. 3. *н.* Рэйка. *Стараверы звоняць ў біла.* Данілоўка.

**БІ́ТКІ** *мн.* Гульня на Вялікадне ў яйцы; хто разаб'е партнёра яйцо, той і атрымлівае яго (яйцы, вядома, варацца крута). *Давай пагуляєм у біткі.* Данілоўка.

**БО́ЖКАЦЬ** *незак.* Часта ўздыхаць і казаць «божа». *Божкай ні божкай, а бяды ні паправіш.* Данілоўка.

**БОК** *часц.* Моў. *Што, бок, ляжыш целає раньнє?* Данілоўка.

**БО́НДА** *ж.* Кусок выразанага ў сьвіньні каля задняга прахода мяса з салам. *Бондаю мажуць калёсы.* Данілоўка.

**БРА́МКА** *ж.* Штыфтык у стрэльбе, на які надзяецца пістон. *Корак б'е па брамцы.* Майсееўка.

[1] У прадметным паказальніку словы з сімвалам *j* перадаюцца літарай *й*.

**БРЫДА́** *ж.* Погань. *Атчапіся, брыда! Чаго прыстаў!* Данілоўка.

**БУ́ЛЬБА** *ж.* Бульба. Чыркавічы, Парыччына.

**БУРАЧКО́ВЫ** *прым.* Фіолетавы, фіялкавы. *Бурачковы колєр.* Данілоўка.

**БУ́РБАЛКА** *ж.* Баўдыр. *На вялікі дож на вадзе ўсхватваюцца бурбалкі.* Данілоўка.

**БУ́РКА** *ж.* Дзіцячая гульня: кароценькую костачку прывязваюць пасярэдзіне шнурка і накручваюць. Калі цягаць за канцы шнурка, то костачка, раскручваючыся і зноў накручваючыся, бурчыць. Данілоўка.

**БУРКЛІ́ВЫ** *прым.* Які заўсёды бурчыць. *Кіла ты бурклівая!* Майсееўка.

**БУЯ́К** *м.* Дурніца, галубіца (ягада). *Пашла я ў буякі – / Абуячылася. / Прышла я дадому – / Раскірачылася* (з прыпеўкі). Данілоўка.

**ВАЛАПА́С** *м.* Валовы пастух. *Хто ў вас сягодня за валапаса?* Данілоўка.

**ВАЛАСЬНЯ́** *ж.* Леса. *Прычапі на валасьню кручок.* Казлоўка.

**ВАЛЯВА́ХА** *ж.* Бугай, бухала (птушка). *Сь пелі вылецєла валєваха.* Данілоўка.

**ВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Моцна грэць (аб сонцы). *Сягодня варыць, як у гаршку.* Данілоўка.

**ВАСКАВІ́ЦА** *ж.* Ароматная вадкасьць, якою спырскваюць пры тварэньні вульлі. Майсееўка.

**ВАЎКАТРУ́Б** *м.* Народнае пераасэнсаванне рускага слова «волкомтруд» [волостной комитет труда]. Парычы.

**ВЕ́ДАЦЬ** *незак.* Ведаць што-небудзь у абстрактным значэньні. *Я ведаю, калі ета было.* Данілоўка.

**ВЕ́ЛКА** *ж.* Прыбраная на вясельлі ў каляровую паперу і стужкі дуга. Чэрнін.

**ВЕРАБЕ́ЙКА** *н.* 1. Назва ўсякай дробнай птушкі. Слабодка. 2. Птушаня. *Хлопцы ў лесі пабралі верабейкі.* Слабодка.

**ВЕРХАВО́Д** *м.* Правадыр, пачынальнік. *Міхалка на ўсе сяло верхавод.* Данілоўка.

**ВЕСЯЛУ́ХА** *ж.* Вясёлка. *Весялуха воду на неба цєгає.* Данілоўка.

**ВЕ́ЦЕР** *м.* ◊ ВЕ́ТРАМ ПАДШЫ́ТЫ. Легкамысны. *Еты хлопєц ветрам патшыты.* Данілоўка.

**ВЕ́ЧКА** *н.* Крышка. *Накрый дзешку вечкам.* Данілоўка.

**ВІДУ́К** *м.* Мак з раскрытымі пры пасьпяваньні галоўкамі. *Відук, калі пасьпеє, дак і высыплєцьця.* Майсееўка.

**ВІ́ЛЫ** *ж. мн.* Вілы ног, пояс. *Сымон загруз па самыє вілы.* Данілоўка.

**ВІ́ЛЬЧЫК** *м.* Верх будыніны. *Алёкса ўзьлез пат самы вільчык* (хаты). Данілоўка.

**ВІША́** *ж.* Скошаная па лёдзе сухая трава, пераважна асака. *Мы з бацькам накасілі п'яць коп вішы.* Данілоўка.

**ВО́ЛАК** *м.* Верхні брус у будынку, на які накладаюцца кроквы. *Калі волак згніе, дак уся страха абурыцца.* Данілоўка.

**ВО́ЛЬНАСЬЦЬ** *ж.* Слабасьць жывата. *Хвершал даў нейкага зельля на волнась.* Слабодка.

**ВУ́ЗЕЛ** *м.* ○ САБА́ЧЫ ВУ́ЗЕЛ. Вузел, які цяжка разьвязаць. ○ ВУ́ЗЕЛ ЗА́ШМАРГАМ. Вузел, які лёгка разьвязаць. Данілоўка.

**ВЫ́ЖАР** *м.* Запоўненая вадою яміна на балоце, дзе выгараў торф. *Як скочыў у выжар, дак ледзьвє ні схаваўся.* Майсееўка.

**ВЫ́ЗЬВЕРЫЦЦА** *зак.* Прыняць зьверскі выгляд, налаяцца. *Чаго ты на яе вызьвєрыўся?* Данілоўка.

**ВЫ́ЛЕГЧЫ** *зак.* Палегчы. *Ячмень посьлє дажджу ўвесь вулег.* Раманішчы.

**ВЫ́ЛУПАК** *м.* 1. Хлопчык з вылупленымі вачыма. Слабодка. 2. *лаянк.* Хлопец. *Што ж ты, вулупак, нарабіў?* Слабодка.

**ВЫ́МЯТКА** *ж.* Даведка, выпіска, спраўка. *Ўзєла я ў натаруса вуметку.* Слабодка.

**ВЫ́ПАС** *м.* Папас. *Сёлета я аддаў швагру жарабка на выпас.* Данілоўка.

**ВЫ́СКІЦЬ** *ж.* Выварат; прыпаднятае паваленым ад буры дзеравам карэньне з зямлёй. *Ваўчыха пад вускіцьцю вувела ваўчанят.* Слабодка.

**ВЫСЛАЎЛЯ́ЦЦА** *незак.* Выражацца. *Як табе ні брыдка так выслаўляцца.* Данілоўка.

**ВЫ́СТАРАЦЦА** *зак.* Дастаць, выклапатаць. *Цімох вустараўся сыну їльготу.* Слабодка.

**ВЫ́ТНУЦЬ** *зак.* Ударыць, стукнуць. *Вытні сабаку палкаю. Цалюсенькі дзень палєц аб палєц ні вытнє.* Данілоўка.

**ВЫ́ХВАРАЦЬ** *зак.* Многа пахварэць. *Каб табе вухварэць да вустагнаць, як ты мой аўёс пабіў* (выпасьвіў коньмі). Слабодка.

**ВЫХО́ДНЫ** *прым.* Спорны, прыбытны. *Выходнає сёлєта жыта – с капы 7 пудоў намалацілі.* Данілоўка.

**ВЫЧВАРА́ЦЬ** *незак.* Вытвараць, вырабляць усякія штукі. *Чаго наш пан толькі ні вычвараў.* Васілёўка.

**ВЫ́ЯСЬНІЦЦА** *зак.* Праясьніцца, разьясьніцца. *Неба выєсьнілася.* Данілоўка.

**ВЯ́ЗКА** *ж.* *Вязка. Нёс дзед сена ўязку, / Абнёс кругом калёс / Да й шусь пад нос* (з песьні). Данілоўка.

**ВЯРША́ЛІНА** *ж.* Верхняя частка дрэва з суччам. *Вєршаліны пасеклі на дровы.* Казлоўка.

**ВЯРША́ЛЬНІК** *м.* Верхаўё лесу. *Насек вєршальніку на дровы.* Данілоўка.

**ВЯРЭ́НЬКА** *ж.* Торбачка на хлеб, сплеценая з бяросты. *У вєрэньцы хлеб ні сохне.* Раманішчы.

**ВЯРЭ́ПАЎКА** *ж.* 1. Земляная жаба, рапуха. *На што ты етую брыдкую вярэпаўку чапаеш?* Данілоўка. 2. *лаянк.* Тоўстая, непаваротная і неахайная жанчына. *Чаго ты стаіш, вярэпаўка?* Данілоўка.

**ГАВАРА́** *ж.* 1. Гаворка, гаварэньне. *Ў яго ні наша гавара. Благая твая гавара.* Данілоўка. 2. Чутка. *Ходзіць па селе гавара, што хутка будзє вайна.* Медзьведаў. ○ БАЯВА́Я ГАВАРА́. Вострая, дасьціпная гавара. Чэрнін.

**ГАВАРО́К** *м.* Гаварун. Данілоўка.

**ГАДЗІЦЬ** *незак.* 1. Дагаджаць. *Гадзі яму, як ліхой скуле.* Данілоўка. 2. Шанцаваць. *Яму ва ўсім годзіць.* Данілоўка.

**ГАЛАЙСТРА** *агульн. зьняв.* Голы, бедны. *Той галайстра нічога ні мае.* Майсееўка.

**ГАЛАМОЎЗА**[1] *агульн.* Хлапчук з коратка астрыжанымі валасамі. Данілоўка.

**ГАЛАПУПЕЦ** *м.* Галапупак; птушаня, якое яшчэ не абрасло пер'ем. Дабравольшчына.

**ГАЛАШЧОК** *м.* Галалёд. *Галашчокам паехалі па сена.* Слабодка.

**ГАЛІНА** *агульн.* Вісус, шыбенік. *Юзік – ета такі галіна, што й блізка такога німа.* Данілоўка.

**ГАЛУЗА** *ж.* Абгарэлая паляняка, галавешка. *Патсунь галузу ўв агонь.* Данілоўка. *Чорны, як галуза.* Данілоўка.

**ГАЛУЗА** *агульн.* Свавольнік. Данілоўка.

**ГАМАРНЯ** *ж.* Надзвычайны крык у хаце. *Што ў вас тутатка за гамарня?* Данілоўка.

**ГАМЗЕЛЬ** *м.* Гугнівы, гомза, гамзаты. *Таго гамзеля ні разьбярэш, што ён кажа.* Данілоўка.

**ГАНТАЛЬ** *м.* Гвозд, якім прыбіваюць ганціну. Данілоўка.

**ГАНЬНЯ** *ж.* Стада сабак, ваўкоў у час паляваньня (цечкі). *Па вуліцы бегла ганьня.* Данілоўка.

**ГАРАВАЦЬ** *незак.* Працаваць. *Гаруеш, як той чорны вол. Гаруеш і смаку ні чуеш.* Майсееўка.

**ГАРДАВАЦЬ** *незак.* Пагарджаць, грэбаваць. *Багаты гардуе бедным.* Слабодка.

**ГАРЭНІЦЬ** *незак.* Аддаваць елкасьцю. *Масла гарэніць.* Данілоўка.

**ГЕЙКА** *ж.* Прыяцелька, імостачка. *Хадзі, гейка, к нам гуляць.* Раманішчы.

**ГЕСТКА** *ж.* Від шва, кокетка. *Дрэнную ты мне, маці, пашыла ґестку ў кашулі.* Данілоўка.

**ГІБЕЛЬ**[2] *ж.* Многа. *Немцы ў Бабрусек гібель войска нагналі.* Слабодка.

**ГІЗАВАЦЬ** *незак.* Бегчы, задраўшы хвост, уцякаючы ад зыкоў (аб быдле і конях). Данілоўка.

**ГІЛЭХТАР** *м.* Бяда, непрыемнасьць. *Каму сьмех, а каму ґілэхтар.* Данілоўка.

**ГІРЫ** *ж. мн.* Кудлы, патлы. *Учапіўся яму аберучкі ў гіры.* Данілоўка.

**ГЛУШЫЦЬ** *незак.* Біць рыбу абухам, калі яна стаіць пад лёдам. Майсееўка.

**ГНІЛЕЦ** *м.* Заразьлівая хвароба на пчолы. *Калі ў вульлі заўёўся гнілец, то ета ўжэ прапашчые пчолы.* Майсееўка.

**ГНІЛЫ** *прым.* Мокры. *Ў гнілые дні ні можна сеець картоплі, а то пагніе.* Данілоўка.

**ГНІЛЯК** *м.* 1. Гнілая, звычайна макраватая, дзеравяка. *Ні кладзі ты етага гнілека ўв агонь: усе роўна гарэць ні будзе.* Слабодка. 2. Стары, слабасільны і хваравіты чалавек. *Некалі буў чалавек, а цепер што ён? Гніляк!* Слабодка.

**ГНЮС** *м.* 1. Абпэцканы калам. *А, гнюс! Ты ніколі ні папросісься да ветру.* Данілоўка. 2. Блазьнюк. *І ты, гнюс, хочаш йці ўв арэхі?* Данілоўка. 3. Партач, псавач. *Гнюс ты, а ні майстар.* Данілоўка.

**ГНЮСІЦЬ** *незак.* 1. Выпаражняцца. *Дзіця гнюсіць.* Данілоўка. 2. Псаваць, партачыць. *Пакінь! Ты ні робіш, а толькі гнюсіш.* Данілоўка.

**ГОЛАС** *м.* ◊ загаварыць НЕМЫМ ГОЛАСАМ. Страшным, ненатуральным голасам, падобным на голас нямога чалавека. *Цімох перавярнуў дагары кажух да як загаворыць немым голасам, дак мы ўсе й папужаліся.* Данілоўка. ◊ У СЬВІНЫЯ ГАЛАСЫ. Позьні час, калі ўжо сьвіньні просяць есьці. *Ўстала ў сьвіные галасы.* Данілоўка.

**ГОНКІ** *прым.* Высокі, стройны, падгалісты. *На бару расьце гонкі лес.* Данілоўка.

**ГРАЗКІ** *прым.* Які мае многа гразі. *Гразкая дарога.* Данілоўка.

**ГРАНКА** *ж.* Кісьць, гранка. *Ў гранцы было чатыры арэхі.* Данілоўка.

**ГРАЧАНІШЧА** *н.* Поле з-пад скошанай грэчкі. Данілоўка.

**ГРАЧАНКА** *ж.* Грэцкая салома. *Тавар любіць грачанку.* Данілоўка.

**ГРЫМНУЦЦА** *зак.* Бразнуцца, упасьці са стукам. *Раман як пасьлізьнецца да як грымнецца аб лёд!* Данілоўка.

**ГУЗАТЫ** *прым.* Які мае гуз, шышку. *Гузаты хлопец.* Данілоўка.

**ГУРА** *ж.* Гурба, сумёт. *На дварэ панадувала гуры роўна с хатаю.* Данілоўка.

**ГУСТЫ** *прым.* Насычаны вільгацьцю. *Падуў густы вецер – будзе дож.* Медзьведаў.

**ГУШКАНКА** *ж.* Арэлі. *Дзеўкі гушкаліся на гушканцы.* Данілоўка.

**ГЫРКАЦЦА** *незак.* Лаяцца, спрачацца. *Маці з дачкою цэлу раніцу гыркаліся.* Данілоўка.

**ДАБРАНАЧ** *выкл.* Дабранач. *Да ўжэ еты дабранач ні на нач.* Чыркавічы.

**ДАБРО** *н.* Маёмасьць. *Багата маў ён ўсякага дабра.* Данілоўка.

**ДАВАДЗІЦЦА** *незак.* Прыходзіцца. *Хведар даводзіцца мне стрэчным братам.* Данілоўка.

**ДАПАДАЦЬ** *незак.* Пасьпяваць. Істопкі.

**ДАПАСЬЦІ** *зак.* Пасьпець. *Сымон ўсюды дападзе.* Істопкі.

**ДАРОГА** *ж.* ◊ ПТУШЫНАЯ ДАРОГА. Млечны шлях. *Птушкі лецяць у вырай Птушынай дарогай.* Данілоўка.

**ДАТНУЦЦА** *зак.* Даткнуцца. *Пчала зьвініць, здэца, поўзае па вульлі, а да яго ні датнецца.* Майсееўка.

---

[1] Паказчык *агульн.* (агульны род), выкарыстаны С. Некрашэвічам, з'яўляецца фармальным. Згодна са значэннем назоўнік выступае ў форме мужчынскага роду.

[2] Граматычная характарыстыка слова захоўвае памету, з якой яно падаецца С. Некрашэвічам. Функцыянальныя асаблівасці ўжывання такіх слоў у сказе не адлюстроўваюцца.

**ДАЦЬ** *зак.* Задаць; набіць, адлупцаваць [?]. *Пачакай жа, я ж табе дам!* Данілоўка.

**ДЖУ́ПЛА** *н.* Цыганскі гарапнік, бізун. *Ні плач, а то як прыдзє цыган, дак вось задась джупла.* Данілоўка.

**ДЗЕРАЗА́** *ж.* 1. Паўзучая расьліна ў хваёвым лесе. *Дзеразою прыбіраюць хату.* Казлоўка. 2. *агульн.* Калатлівы, зьвяглівы чалавек. *Дераза етая да ўсякага прычэпіцца.* Казлоўка.

**ДЗЁ** *выкл.* Прызыўны воклік на сьвіней. *Дзётка! Дзётка! Дзё, дзё, дзё!* Данілоўка.

**ДЗЁТКА** 1. *ж. ласк.* Сьвінка. Данілоўка. 2. *выкл.* Прызыўны воклік на сьвіней. *Дзётка! дзётка! дзё, дзё, дзё!* Данілоўка.

**ДЗО́ГАЦЬ** *незак.* Хістаць, калыхаць. *Ні дзогайся на дошцы.* Данілоўка.

**ДЗЯЛЯ́НКА** *ж.* Выдзеленая для продажу частка лесу. *Ў казьне лес прадаюць дзєлянкамі.* Коўцічы.

**ДЗЯРЖА́ЦЬ** *незак.* 1. Трымаць. Майсееўка. 2. Мець у часовым уладаньні землю, арандаваць. *Бацька Загорскага дзєржаў двор.* Майсееўка.

**ДЗЯРЭ́ЎНЯ** *ж.* Вёска. Парыччына.

**ДО́НЯ** *ж.* Дачка. *Спарадзіла маці доню, / Дай ні дала долі* (з песьні). Пакалічы.

**ДОР** *м.* Дранкі. *Хата накрыта дорам.* Слабодка.

**ДО́ХЛІЦА** *ж. зьняв.* Сьмерць. *На яго ніякай дохліцы німа.* Чэрнін.

**ДРАНКУ́ЛЬКА** *ж.* Адсечаная частка ад кулі. *На воўка набіваюць стрэльбу дранкулькамі.* Данілоўка.

**ДРАПА́К** *м.* Трапак. *Паскачам драпака.* Данілоўка.

**ДРАПАЦІ́НЬНЕ** *н.* Узор з дробных клетачак на матэрыі. *Годзі табе рабіць етає драпаціньнє.* Майсееўка.

**ДРУГА́К** *м.* 1. Другі па ліку. *Пчолы пад яблынкай пусьцілі другака.* Данілоўка. 2. Другога адбору што-небудзь. *Самагонка-другак.* Данілоўка.

**ДРУЖЫ́НАЧКА** *ж.* Жоначка. *Нєлюбая дружыначка мне белы сьвет завєзала.* Пакалічы.

**ДУДЫ́** *ж. мн. зьняв.* Ногі. *Прымі свае дуды.* Данілоўка. *Ні туды ні сюды мае мілыє дуды́.* Данілоўка.

**ДУ́ХАМ** *прысл.* ◊ АДНЫ́М ДУ́ХАМ. У адзін момант. *Адным духам зьлєтаю.* Данілоўка.

**ДЫ́БАРАМ** *прысл.* Дыба. *Валасы ат страху дыбарам пасталі.* Данілоўка.

**ДЫ́СКА** *ж.* Дзесятка ў картах. Данілоўка.

**ДЫХАВЫ́** *прым.* Дыхальны. *Дыхавое горла.* Данілоўка.

**ЁМАЧНІК** *м.* Дзяржальна ёмкі. Данілоўка.

**ЁМКА** *ж.* Чапляя. *Ёмкаю дастаюць сь печы скавароды.* Данілоўка.

**ЖАЛЕ́ЗКА** *ж.* Жароўня ў лучніку. Данілоўка.

**ЖБУРНУ́ЦЬ** *зак.* Кінуць. *Як жбурне камєнем у сабаку, дак той толькі яўкнуў.* Данілоўка.

**ЖЫВАСІ́ЛАМ** *прысл.* Сілком. *Жывасілам атабралі каня.* Данілоўка.

**ЖЫ́ЖКА** *ж.* Сорт пякучай крапівы з дробнымі лісьцікамі. *Жыжкаю рукі пап'ёк.* Данілоўка.

**ЖЫ́ЖКІ** *прым.* Пякучы. *Жыжкая крапіва.* Данілоўка.

**ЖЫР** *м.* Корм, кармленьне. *Вуткі паляцелі на жыр.* Слабодка.

**ЖЫРАВА́ЦЬ** *незак.* Карміцца (аб птушках). *Качкі жыруюць у пельцы.* Данілоўка.

**ЖЫ́РЫ** *мн.* Крэсты, хрысты (картачная масьць). Данілоўка.

**ЖЫТЛО́** *н.* Жыцьцё. *Якое там нашэ було жытло.* Чэрнін.

**ЗАБАРЫ́ЦЦА** *зак.* Замарудзіцца, спазьніцца. *Я маладая забарылася, / За гускамі, за птушкамі загледзелася* (з песьні). Краснаўка.

**ЗАБІРА́ЦЬ** *незак.* Прыходзіць у афэкт і наагул у ненармальны псыхічны стан. *Яго ад злосьці ўжэ пачало забіраць. Куліну нейкая трасца забірає.* Майсееўка.

**ЗАВА́ДКА** *ж.* Загана. *Конь ніякай завадкі не мае.* Васілёўка.

**ЗА́ВАРАТ** *м.* Узьлесьсе, край лесу. *Кала заварату пасуцца цєляты.* Данілоўка.

**ЗА́ВАРАЦЕНЬ** *м.* Калач, якім прымацоўваецца аглобля да саней. *Перарваўся заварацень.* Данілоўка.

**ЗАВЕ́Я** *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Выєхалі ў такую завею, што й сьвету божага ні відаць.* Майсееўка.

**ЗАВІХА́ЦЦА** *незак.* Старацца шчырэй працаваць. *Завіхайцеся, хлопцы, грэбці: бачыцє, хмара натходзіць.* Данілоўка.

**ЗАГАРАВА́ЦЬ** *зак.* Запрацаваць. *Загараваў сабе кусок хлеба.* Майсееўка.

**ЗАГНЕ́Т** *м.* Жар у чалесьніку, калі пякуць хлеб. Дуброва.

**ЗА́ГРУДКІ** *прысл.* За грудзі. *Ўзяліся загрудкі – і пачаў адзін аднаго тузаць.* Данілоўка.

**ЗАГУ́ДАЧКА** *ж.* Заганка, вада. *Ўсяе мае загудачкі, / Што доля нішчасна* (з песьні). Пакалічы.

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м.* Хлеб, што сьсядаецца зьнізу ад скарынкі. *На хлебє закалєц на палєц.* Данілоўка.

**ЗАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Азярэдзіць. *Паміж ровак закладаюць снапы.* Данілоўка.

**ЗАКЛІНАВА́ЦЬ** *зак.* Заклініць, увагнаць клін. *Заклінуй сакеру.* Данілоўка.

**ЗАЛЯГА́ЦЬ** *незак.* Заходзіць, абходзіць. *Залєгай ат лесу, каб воўка сюды павярнуць.* Данілоўка.

**ЗАМІНА́ЦЬ** *незак.* Мяшаць, перашкаджаць. *Атлезь, ні замінай прасьці!* Данілоўка.

**ЗАНЯГО́ДЗІЦЬ** *зак.* Раздажджыцца. *Другі тыдзєнь, як занягодзіла.* Данілоўка.

**ЗАПАВЕ́ТРЫЦЦА** *зак.* Прапасьці. *Штоб ты запаветрыўся!* (праклён). Данілоўка.

**ЗА́ПАР** *прысл.* Разам, адзін за адным. *Запар тры разы езьдзіў у мястэчка.* Данілоўка.

**ЗАПАРВА́ЦЬ** *зак.* Незаконна што-небудзь набыць. *Што запарваў, то й твае.* Майсееўка.

**ЗАПАРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Засурыць. *Запарушыў вока.* Данілоўка.

**ЗАПЕ́Р** *м.* Перагародка ў сярэдзіне гумна, за якою складаюць збожжа. Данілоўка.

**ЗАПІВА́ЦЬ** *незак.* Заручаць. Коўцічы.

**ЗАПІ́ЦЬ** *зак.* Заручыць. *Агапу ўжэ запілі.* Коўцічы.

**ЗАПРАДА́ЦЬ** *зак.* Атрымаць задатак за прызначаную для продажу рэч. *Варывон едзе ў Сібір; ўжэ запродаў і хату.* Данілоўка.

**ЗАРНІ́ЦА** *ж.* Далекая маланка. Данілоўка.

**ЗАРО́ДАК** *м.* Разьвіты плод, зародак. *У яйцах ужэ зародкі.* Данілоўка.

**ЗАСІ́ВЕРАЦЬ** *зак.* Абветрыцца, ад ветру патрэскацца. *Рукі засівєралі.* Данілоўка.

**ЗАСЛО́Н** *м.* Зэдаль. *Сядзь на заслоні.* Данілоўка.

**ЗАТАКАВА́ЦЦА** *зак.* Загаварыцца, падобна цецяруку на таку. Данілоўка.

**ЗА́ТКАЛА** *н.* 1. Затычка ад лучніка. *Заткні заткала, каб холад у хату ні йшоў.* Данілоўка. 2. *агульн.* Папіхач. *Заткала ты! Нічога сам ні ўмееш ні сказаць ні зрабіць.* Данілоўка.

**ЗАХАЛАДА́ЦЬ** *зак.* Пахаладзець. *Сягодня нешта захаладала.* Данілоўка.

**ЗАХІХЛА́ЦЬ** *зак.* Заплесьці маладой касу ільном і надзець чапец. Казлоўка.

**ЗАХЛУПІ́ЦЦА** *зак.* Захапіць дыханьне, задушыцца. *Каб ты задушыўся да захлупіўся!* (праклён). Данілоўка.

**ЗАХО́ДЗІЦЦА** *незак.* Займаць дух. *Дзіця крычыць аж заходзіцца.* Данілоўка.

**ЗАЦЯРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Засыпаць, запарышыць. *Сьнегам дарогу зацєрушыла.* Данілоўка.

**ЗАШЛАКАТА́ЦЬ** *незак.* Заказлытаць, заласкатаць. *Чалавека можна зашлакатаць.* Майсееўка.

**ЗБАЁДАВАЦЬ** *зак.* Страціць, згубіць. *Збаёдуваў мой ножык.* Данілоўка.

**ЗБАЯ́ЦЦА** *зак.* Пабаяцца. *Чаму ж ты збаяўся бораца са мною?* Данілоўка.

**ЗДАРАВІНЯ́** *агульн.* Здаровы, здаравец. *Здаравіня быў Рыгор, настаяшчы дуб, а нейкая трасца як укасалася, дак і каюкнуў.* Данілоўка.

**ЗДА́ЦЦА** *зак.* Прыдацца. □ *Здаўся на прыказкі, як чорт на прывєзкі.* Данілоўка.

**ЗДЫ́РДЗІЦЦА** *зак. зьняв.* Памерці. Данілоўка.

**ЗІ́МНІК** *м.* Зімняя дарога. *Зімнікам бліжэй ехаць.* Данілоўка.

**ЗЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Згубіць. *Зладзіў ты мне ножык.* Данілоўка.

**ЗНАЦЬ** *незак.* Знаць каго-небудзь або штонебудзь па знадворнаму выгляду. *Я знаў нібожчыка Паўла.* Коўцічы.

**ЗРАДЖА́Й** *м.* Ураджай. *Ў леташнем гаду быў добры зраджай.* Дуброва.

**ЗУ́БЕЛЬ** *м.* Запаленае з аднаго канца тонкае паленца. *Зублєм паткурваюць пчолы, калі іх падглєдаюць.* Данілоўка.

**ЗУ́БЛЕНКА** *ж.* Факел, зубель, запаленае з аднаго канца палена. *Пасьвяці зубленкай ў калодзєжы: я спусьціла вядро.* Данілоўка.

**ЗЫКАВА́ЦЬ** *незак.* Бегчы, задраўшы хвост, уцякаючы ад зыкоў (аб быдле і конях). Данілоўка.

**ЗЫ́РКІ** *прым.* Пламенны, яркі. *Зыркіє дровы. Зыркі агонь.* Данілоўка.

**ЗЬВЕ́РГНУЦЬ** *зак.* Скінуць плод. *Кабула зьвергла жарабя.* Слабодка.

**ЗЬЛЯГА́ЦЦА** *незак.* Моцна здружвацца. Данілоўка.

**ЗЬЛЯГЧЫ́СЯ** *зак.* Моцна здружыцца. *Зьлёгся ты з етаю шкураю – ні будзє дабра.* Данілоўка.

**ЗЬНЯЦЬ** *зак.* Запісаць. *Ніхай єны зьнімуць голас* (з песьні). Чыркавічы.

**ЗЯ́ПА** *ж.* Пашча, ляпа. *Воўк рашчыніў зяпу.* Данілоўка.

**ІГРА́ЦЬ** *незак.* Спарвацца (аб птушках). Данілоўка.

**ІМО́СТАЧКА** *ж.* Галубка, сястрыца. *Хадзі, імостачка, пагамонім.* Пратасы.

**КАБА́Н** *м.* Кабан. Парыччына.

**КАБА́СЬКА** *м. ласк.* Кабан. Данілоўка.

**КАБЫ́ЛКА** *ж.* Подстаўка ў скрыпцы для струн. Майсееўка.

**КАВЯНЯ́** *ж.* Качарэжка. *Прышоў старац с кавянёю.* Данілоўка.

**КАГА́ЛАМ** *прысл.* Гуртам. □ *Ўсе кагалам – і бацька з жыгалам.* Данілоўка.

**КАДУ́К** *м.* Чорт. *Каб цябе кадукі забралі!* (праклён). Данілоўка.

**КАЗІ́НЕЦ** *м.* Дрыжаньне ног (хвароба). *На мяне нейкі казінєц напаў.* Данілоўка.

**КА́ЙСТРА** *ж.* Торба. *Сєляне кажуць кайстра, а шляхты – торба.* Слабодка.

**КАЛАТУ́ША** *ж.* Месіва, жыжа. *Што ты з етай калатушы будзєш рабіць, саладуху, ці што?* Данілоўка.

**КАЛЯСЬНІ́К** *м.* 1. Майстар, які робіць калёсы. Данілоўка. 2. Воз сена, збожжа, накладзенага на калёсы. *Раніцаю мы прывезьлі два калесьнікі мурагу.* Данілоўка.

**КАМА́Р** *м.* Камар. Парыччына.

**КАМАРЭ́ЧА** *ж. зб.* Камары. *Ўлетку конєй камарэча заєдае.* Данілоўка.

**КАМЕ́ЧЫЦЬ** *незак.* Мяць, комкаць. *Што ты камечыш хлеб?* Данілоўка.

**КАМІНА́Р** *м.* 1. Чысьцільнік комінаў. *Чорны, як камінар.* Данілоўка. 2. Хлопец, які, седзячы на печы, заўсёды ўпэцкаецца ў сажу. *Даволі табе, камінар, на печы сєдзець.* Данілоўка.

**КАПАНІ́ЧЫЦЬ** *незак.* Абгортваць бульбу капаніцаю. Майсееўка.

**КА́ПАСНЫ** *прым.* Злосны, упарты, шкадлівы. *Капасны хлопєц.* Данілоўка.

**КА́ПАСЬЦЬ** *ж.* Злосьць. *Ена ўсе на капась робіць.* Данілоўка.

**КАПЁ́Ж** *м.* Вадасьцёк. *Пастаў цэбар пад капеж, ніхай вада нацячэ.* Данілоўка.

**КАПЛУ́Н** *м.* Пражорлівы. *Ты б, каплун, усе пажраў.* Данілоўка.

**КАПЦЫ́** *м. мн.* Канец, сьмерць. *Тут яму й капцы.* Данілоўка.

**КАПЫ́Л** *м.* 1. Калодка для шыцьця ботаў. *На тваю ногу німа капылоў.* Коўцічы. 2. Паўкруглае долата з дзяржаньнем, як у сакеры, для дзяўбаньня ночваў, карыта.

Данілоўка. 3. Устаўка ў полаз, да якой прымацоўваецца вяз. Данілоўка.

**КАРАНТЫ́Ш** *м.* Малы, курдупель. Майсееўка.

**КА́РЛА** *м.* Карлік. *Ў горадзі паказвалі карлу.* Майсееўка.

**КАРТАГРА́Ч** *м.* Картыжнік. *Ета ж такі картаграч, што, здэцьця, ні піў бы, ні еў, да толькі ў карты гуляў.* Медзьведаў.

**КАРТО́ПЛЯ** *ж.*, **КАРДО́ПЛІ** *мн.* Бульба. Парыччына.

**КАРТЫ́ЖНІК** *м.* Картаграч. Данілоўка.

**КАРЧО́М** *прысл.* Моцна, нязрушна. *Карчом сядзіць нат кнігаю.* Данілоўка.

**КА́РЫ** *мн.* 1. Вялікія калёсы ў маёнтках для важэньня снапоў. Данілоўка. 2. Маленькія санкі, на якія ўскладаецца другі канец калоды. Данілоўка.

**КАСІ́ЦЬ** *м.* ◊ САБА́КАМ СЕ́НА КАСІ́ЦЬ *зьняв.* Гультаіць, латраваць. – *Што ён у горадзе робіць?* – *Сабакам сена косіць.* Данілоўка.

**КАЎТА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. Майсееўка.

**КАЎТУ́Н** *м.* 1. Хвароба. Данілоўка. 2. *лаянк.* Пра чалавека. *Гад ты, каўтун!* Данілоўка. 3. *мн.* Патлы, гіры. *Рашчашы ты свае каўтуны.* Данілоўка.

**КАЮ́КНУЦЬ** *зак.* Раптоўна памерці, здырдзіцца. *Жыў, жыў чалавек да й каюкнуў.* Майсееўка.

**КІДУ́Н** *м.* Падучка. *Каб цєбе кідун кідаў!* (праклён). Слабодка.

**КІЛАВА́Т** *прым.* Кілаваты, грыжаваты. *Хто ж вінават, што мой бацька кілават: так яму бог даў.* Данілоўка.

**КІ́ПЕНЬ** *м.* Вар, кіпяток. Майсееўка.

**КІ́ПЕЦЬ** *м.* Пазногаць. *Пазразай кіпці.* Майсееўка.

**КІРМАШО́ВАЕ** *н.* Гасьцінец з кірмашу. *Тата прыехаў і кірмашовага прыўёз.* Данілоўка.

**КІ́ШАЧКА** *ж. ласк.* Кішка. □ *Душачка б брала, да кішачка мала.* Данілоўка.

**КІ́ШКА** *ж.* Кішка. Парыччына.

**КЛІНО́К** *м.* Канусаваты мяшочак на сыр. *Ўлі малако ў клінок, да, калі сьцячэ, налажы камєнем.* Данілоўка.

**КЛУБЫ́** *м. мн.* Тазавая часьць цела. *Ў худой каровы адны клубы тырчаць.* Данілоўка. ◊ УЗЯ́ЦЦА Ў КЛУБЫ́. Палажыць рукі на тазавыя часьці цела. *Стаіць, узяўшыся ў клубы.* Данілоўка.

**КЛЫПА́ТЫ** *прым.* Чалавек з крывымі нагамі. Данілоўка.

**КЛЫШУ́Н** *м.* Тое ж. *Ў клышуна ногі адна туды, а другая сюды.* Данілоўка.

**КЛЮ́ЧНІ** *ж. мн.* 1. Збітыя дзьве жэрдкі для ўмацаваньня верха страхі. *Палажы ключні на страху.* Данілоўка. 2. Ногі ў рака. Данілоўка.

**КО́ДЛА** *н. зьняв.* Род. *Там жыве іх усе кодла.* Парыччына.

**КО́ЎЗАНКА** *ж.* Лёд, на якім коўзаюцца. *Хлопцы на коўзанцы коўзаюцца.* Данілоўка.

**КРАСА́ЛА** *н.* Крэсіва. *Красалам красаюць агонь.* Слабодка.

**КРУ́ПНІК** *м.* Суп. *Сягодня мы елі крупнік.* Данілоўка.

**КРУ́ПНІК** *м. зьняв.* Інтэлігент. *Панаєжджада з гораду на аблаву ўсякіх крупнікаў.* Данілоўка.

**КРУЦЁЛКА** *ж.* Гіганскія шагі. *Хлопцы ў вучылішчы круцєцца на круцёлцы.* Чэрнін.

**КРУШЫ́ЦЬ** *незак.* Ламаць. *Ён сваю харошую сушыць і крушыць.* Чыркавічы.

**КРЫСА́** *ж.* Пала. *Захіні крысу.* Данілоўка.

**КРЫ́ТНІК** *м.* Той, хто крые страху. *Крытнікі крыюць гумно.* Данілоўка.

**КРЭ́ПКА** *прысл.* Моцна. *Жана мужа крэпка любіла.* Чыркавічы. *Крэпка завяжы вузєл.* Данілоўка.

**КУБЛО́** *н.* Гняздо. *Хлопцы спаролі ластаўчына кубло.* Данілоўка.

**КУЛДЫЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* Нявыразна, незразумела гаварыць (гукапераймальнае ад крыку жураўлёў: кулды! кулды!). *Ні кулдыяч, а добра гавары.* Майсееўка.

**КУЛЁМ** *прысл.* Раптоўна, стрымгалоў. *Кулём кінуўся бегчы.* Краснаўка.

**КУЛІ́ДКА** *ж.* Баханка (хлеба). *Бацька ат цэлай кулідкі аткроіў акраец.* Данілоўка.

**КУЛЬБА́КА** *ж.* Частка ярма, якая, падобна да хамута, надзяецца на шыю вала. *Кульбака засоўваецца занозаю.* Коўцічы.

**КУЛЬБА́ЧЫЦЬ** *незак.* Сядлаць, камечыць. *Бачыў, як кульбачыў* (воўк парася), *а ні ведаю, куды панёс.* Данілоўка.

**КУ́РА**, **КУРА́** *ж.* Курыца. *Палажы поклад, кура́ несьціся хоча.* Дуброва.

**КУ́РДА** *ж.* Прыгінаньне ног к галаве. ◊ ЗАДРА́ЦЬ КУ́РДУ. Прыгнуць ногі к галаве. *Хлопцы Ясю задралі курду.* Данілоўка.

**КУРДУ́ПЕЛЬ** *м.* Малы хлопец. *Куды ты, курдупель, пойдзеш?* Данілоўка.

**КУРТА́ТЫ** *прым.* 1. Куцы, кароткі. *Куртатая сьвітка.* Данілоўка. 2. Бясхвосты. *Куртаты сабака.* Данілоўка.

**КУ́РЧЫЦЬ** *незак.* Згінаць пад сябе ногі. Дабравольшчына.

**КУ́РЫЦА** *ж.* Родавыя жаночыя часьці. *Сарамніца, седзіць – і курыцу вуставіла.* Чэрнін.

**КУ́ХТАЛЬ** *м.* Удар кулаком пад бок. *Ну й надаваў я яму кухталёў.* Парычы.

**ЛАГІ́ЗА** *агульн.* Гультай, абібок, прайдзісьвет. Парычы.

**ЛАГІЗО́Н** *м.* Легіянер; гэтак сяляне называлі ў 1918 г. польскіх легіянераў корпусу Даўбор-Мусьніцкага, зблізкаючы «легіянер» са словам «лагіза». Парычы.

**ЛАЖБЕ́НЬ** *м.* Посуд на мёд. *Поўны лажбень м'ёду нарэзалі.* Данілоўка. *Ах ты, сваце, дамувуй, / Да несі лазьбень медавуй. / Му твайго лазьбеня ні зьедзім, / Толькі ў его мы паглездзім* (з прыпеўкі). Чэрнін.

**ЛАЖБЕ́НЬ** *м.* Свавольны, упарты хлопец. *А ты, лажбень, нікога ні слухаеш!* Данілоўка.

**ЛА́НЯ** *ж.* Лань. *Вывєрнулася, як тая ланя, годзі табе спаць!* Данілоўка.

**ЛА́ПІКЛА** *н.* 1. Залапленае на адзежы месца. Данілоўка. 2. Дзірка на адзежы. *Якое лапікла прапаліў.* Данілоўка. 3. Праталіна. Данілоўка.

**ЛА́ПІНА** *ж.* Праталіна. *Сьнег лапінамі параставаў.* Данілоўка.

**ЛЕ́ЙЦЫ** *мн.* Вожкі. Данілоўка.

**ЛЕ́МЕНТ** *м.* Праразьлівы крык, галашэньне. *Падняла дачка лемент па мацєры.* Данілоўка.

**ЛЕМЕНТАВА́ЦЬ** *незак.* Праразьліва крычаць, галасіць. *Лементує маці па дзецєх.* Данілоўка.

**ЛЕ́СКІ** *ж. мн.* Лесьвіца, пераважна з шырокімі ступенькамі. Данілоўка.

**ЛЕ́ТАШНІ** *прым.* Прашлагодні, прошлага лета. *Баюсє я цябе, як леташнєго снегу.* Істопкі.

**ЛЁЛЯ** *ж.* Сарочка, пераважна дзіцячая. *Во пашыла лёлю – па самыє п'яты.* Данілоўка.

**ЛЁСТАЧКА** *ж.* Палачка ў драбінах (калёсах), што прымацоўваецца да біла. Данілоўка.

**ЛЁСТАЧКА** *ж.* Лісьлівасьць. *Лёстачкамі душу выймає.* Данілоўка.

**ЛІС** *м.* ◊ ЛІ́СА ЗЛАВІ́ЦЬ. Падсмаліць сьвітку ці іншую суконную адзежыну, пасьля чаго яна набывае жоўты, як у ліса, колер. Данілоўка.

**ЛІСІ́ЦА** *ж.* Ціскаўка, напаўрашчэпленая дзеравяка. *Кошцы ў хвост управілі лісіцу.* Данілоўка.

**ЛО́ТАК** *м.* Жалабок для сьцёку вады. Коўцічы.

**ЛОЎЖ** *м.* Куча складзенага гальля. *Злажы гальлё ў лаўжы, каб ні замінала араць.* Данілоўка.

**ЛУЧНІ́К** *м.* Прылада для асьвятленьня хаты; робіцца так: пляцецца адкрыты конус і абмазваецца з абодвух бакоў глінай, вострым канцом конус прымацоўваецца да столі, а к тупому канцу прывешваецца жалезка, на якую кладзецца лучына. *Лучнік дае ні толькі сьвятло, а й цяпло.* Данілоўка.

**ЛУШПА́ЙКА** *ж.* Шкарупа, шалуха, шалупайка. *Абяры с картоплі лушпайку.* Данілоўка.

**ЛЫ́НДЫ** *мн.* ◊ ЛЫ́НДЫ БІЦЬ. Гультаяваць, бібікі біць. *Даволі табе лынды біць, ідзі на полє.* Данілоўка.

**ЛЮБІ́СЬНІК** *м.* Любчык; корань расьліны з магічнай уласьцівасьцю прыцягваць каханьне. *Дай дзеўцы любісьніку, дак пакахає.* Данілоўка.

**ЛЯЖА́К** *м.* 1. Напаўляжачы вулей з пчоламі. *Рой вушаў з лежака.* Слабодка. 2. Ляжачая бочка з невялікай дзіркай зьверху. *Насып жыта ў лєжак.* Данілоўка. 3. Дымаходная труба. Парычччына.

**ЛЯЙЦА́ЦЬ** *незак.* Завязваць каню лейцы. *Лєйцай каня й паедам.* Данілоўка.

**ЛЯЙЧЫ́НА** *ж.* Вожка. *Завяжы ляйчыну.* Данілоўка.

**МА́КАВІШЧА** *н.* Поле, дзе рос мак. Парычччына.

**МАЛАТА́РКА** *ж.* Малатарня. Парычччына.

**МАРА́** *ж.* Страшыдла, здань. *Аткасьніся ты, мара!* Данілоўка.

**МАРКА́ЛЬ** *м.* Баран-самец, расплоднік. *Ў маркаля вялікіє рогі.* Данілоўка.

**МАРМЫ́ЛЬ** *м.* Бурклівы чалавек. *Еты мармыль ўсе сабе нешта буркає.* Данілоўка.

**МАРЦАВА́ЦЬ** *незак.* Спарвацца, паляваць (пераважна аб катах). *Вясною каты марцуюць.* Данілоўка.

**МАСЁНЖНІК** *м.* Меднік. *Трэба масёнжніку занесьці ложкі, ніхай пабеліць.* Данілоўка.

**МА́ТАЧНІК** *м.* Прылада для ізоляцыі пчалінай маткі ў вульлі. Данілоўка.

**МАЎЛЯ́Ў** *часц.* Моў. *Такі, маўляў, як і ты.* Слабодка.

**МА́ХА** *ж.* Крыло ветрака. *Трэба на маху нацягнуць парус.* Данілоўка.

**МАХА́НІК** *м.* Мэханік. Парычччына.

**МАЦАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Пробаваць моц яйца аб зубы. Раманішчы. 2. Спажываць. □ *Хто працуе, той і мацуе.* Дуброва.

**МЕ́СТА** *н.* Горад. *Ці ж ты мяне, мамка, на месьці купіла?* Пакалічы.

**МО́ДА** *ж.* ◊ ПАНЯ́ЦЬ МО́ДУ. Прывыкнуць да чаго-небудзь. *Ах ты, соня! Панєла моду да паўдня спаць.* Данілоўка.

**МУ́ЛЬЛЕ** *н. зб.* Мазольле. *Скульля табе, мульля!* (праклён). Коўцічы.

**МЫ́ЦЕЛЬНІК** *м.* Куток у хаце, дзе стаяць вёдры, цэбар, міскі. Данілоўка.

**МЯЖЫ́ПЕРНІЦА** *ж.* Хвароба паміж пальцаў, міжперсьніца. *Межыперніцу трудна лечыць.* Пратасы.

**МЯНТА́ШКА** *ж.* Намазаная глінай ці пяском дзеравяная лапатка, якою вострацьь косы. Майсееўка.

**МЯНТА́ШЫЦЬ** *незак.* Вастрыць касу мянташкай. Майсееўка.

**НАБРА́ЦЦА** *зак.* Добра пад'есьці. *Набраўся, як чоп.* Данілоўка.

**НА́ВАРАТАМ** *прысл.* У першы, другі, трэйці прыём. *Другім навbooратам, трэйцім наваратам.* Данілоўка.

**НАВО́Й** *м.* Цыліндрычны вал, на які накручваецца аснова ў кроснах. *Крывы навой.* Данілоўка.

**НАГРУЖА́ЦЬ** *незак.* Напакоўваць. Пакалічы.

**НАГРУЗІ́ЦЬ** *зак.* Напакаваць. *Купец нагрузіў караб.* Пакалічы.

**НАДАЛЫ́ЗНУЦЬ** *зак.* Абрыднуць, апрыкрыць. *Як табе ні надалызнє зь ім гыркацца?* Пакалічы.

**НАЗЬБІРА́ЦЦА** *зак.* Пад'есьці. *Таго, сяго назьбіраўся – і сыты.* Данілоўка.

**НАКЛЮ́НУЦЦА** *зак.* Гаворыцца аб птушанятах, калі яны сядзяць у наклюнутых яйцах. *Куранятаы ўжэ наклюнуліся.* Данілоўка.

**НАЛІ́СЬНІКІ** *м. мн.* Тонкія, з пшанічнай мукі, блінцы. *Ў нядзелю маці напєкла налісьнікаў.* Данілоўка.

**НАЛІ́СЬНІКІ** *м. мн.* Ліштва. *На вокны папрыбівалі налісьнікі.* Данілоўка.

**НАПЕ́ТАВАЦЬ** *зак.* Накласьці, наладаваць. *Во напетуваў воз – і каню ні павезьці.* Данілоўка.

**НАПРАЛО́М** *прысл.* Сілком. *Напралом лезуць хлопцы ў хату.* Майсееўка.

**НАПРАСЬЦІКІ́** *прысл.* Проста, бліжэйшай дарогай. Данілоўка.

**НАРАЎЦО́** *н.* Звычай. □ *Што сялцэ, то нараўцэ.* Дуброва.

**НАРО́ДАК** *м.* Наседжанае яйцо. *Рыгор набраў вуціных народкаў.* Коўцічы.

**НАРЫ́ТНІКІ** *м. мн.* Набэдрыкі. *Справіў на каня добрыя нарытнікі.* Данілоўка.

**НАРЫ́ЦА** *ж.* Норка. *Злавіў нарыцу.* Данілоўка.

**НАСТАЯ́ШЧЫ** *прым.* Праўдзівы, рачавісты. *Сягодня настаяшчая пагода. Куліна ўжэ настаяшчая дзеўка.* Данілоўка.

**НАСУ́НУЦЬ** *зак.* Нахмарыць. *На небі насунула, як у мяшку.* Данілоўка.

**НАТРУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Зрабіць верад. *Натрудзіў руку, ногу.* Майсееўка.

**НАТУ́РА** *ж.* Характар. *Натуры ні перанставіш.* Майсееўка.

**НА́ЎЗА** *ж.* Прылада, да якой прымацоўваецца воск у вульлі. Данілоўка.

**НАХМУ́РЫЦЬ** *зак.* Насупіць. *Нахмурыў бровы.* Майсееўка.

**НАЦЯНЬКІ́** *прысл.* Проста, напрасьцікі, бліжэйшай дарогай. *Пашоў праз балота нацянькі.* Данілоўка.

**НАШВЕ́РКАЦЬ** *зак.* Шапяляючы, нагаварыць. *Во я вам і нашверкала песьню.* Дуброва.

**НЕ́ГАДЗЬ** *ж.* Нягода, непагода. Данілоўка.

**НЕГАДЗІ́ВЫ** *прым.* Нягодны. *Негадзівы чалавек.* Слабодка.

**НЕ́ЖАНЬ** *м.* Нежанаты, марцовы кавалер. *Нежань еты, дажыў да сівых валасоў, да йшчэ ні 'жаніўся'.* Медзьведаў.

**НЕ́МАРАСЬЦЬ** *ж.* Прыгнечаны стан духа. *На яго нейкая немарасьць напала.* Данілоўка.

**НЕСПАДЗЕ́ЎКІ**[1] *ж. мн.* Нечакана. □ *Неспадзеўкі – дзіця ў дзеўкі.* Данілоўка.

**НЕ́ШТАЧКА** *н.* Штосьці. *Хадзі, я нештачка табе пакажу.* Данілоўка.

**НІБЫНА́МКІ** *прысл.* Няважна, пляваць. *Сена сухоє ляжыць, а ён сабе нібынамкі, газэту чытає.* Данілоўка.

**НІМАЛА́ДУ** *прысл.* Бяз прычыны, няведама за што. *Німаладу за што ён на мяне ўсердзіўся.* Майсееўка.

**НІЎПА́МКІ** *прысл.* Ня ў памяць. *Алена прасіла прыці, а мне за работаю й ніўпамкі.* Данілоўка.

**НІШЧЫ́МНЫ** *прым.* Посны. *Наварыла нішчымнай капусты.* Данілоўка.

**НО́ГЦАМ** *прысл.* Нагой, высьпяткам. *Як даў сабаку ногцам, дак ён і зьвіўся.* Данілоўка.

**НО́ШКА** *ж.* Ноша. *Ношка цяжкая – ледзь падняць.* Данілоўка.

**НУ** *выкл.* Так, але. – *Паедзеш, дзьядзька, ў Парычы? – Ну.* Пратасы.

**НУ́ЖА** *ж.* Шасьціножкі (камары, мошкі, сьляпні, авады, зыкі, мухі). *Ўлетку нужа тавар заєдає.* Данілоўка.

**НЮХЦЕ́ЦЬ** *незак.* Нюхаючы, вышукоўваць штонебудзь. *Сабака нюхціць, мусіць, зайца чує.* Данілоўка.

**НЯБО́ЖЧЫЦА** *ж.* Пакойніца. *Матка мая, нібожчыца, ні процi ночы душачку яе пабуджаючы, вельмі мяне любіла.* Данілоўка.

**НЯВЕ́РНІК** *м.* Недаверлівы. *Еты нівернік нікому ні верыць.* Парыччына.

**НЯВЕ́РНІК** *м.* Від гульні ў карты. *Хлопцы гуляюць у нівернікa.* Парыччына.

**НЯГО́ДА** *ж.* Негадзь, непагода. *Другі тыдзєнь, як ідзе дож. Такая нягода!* Данілоўка.

**НЯЎМЕ́КА** *агульн.* Няўмелы, які ня ўмее нічога рабіць. □ *Ў ніўмекі рукі калекі.* Данілоўка.

**НЯЎМЕ́ЧКА** *агульн.* Няўмека. □ *Ў ніўмечкі ні баляць ні ручкі, ні плечкі.* Парыччына.

**ПАБІ́ЦЬ** *зак.* Выпасьвіць коньмі. *Каб табе вухварэць да вустагнаць, як ты мой аўёс пабіў.* Слабодка.

**ПАВІТА́ЦЦА** *зак.* Прывітацца. *Сваты ... с аўцой павіталіся.* Пакалічы.

**ПАГАВО́Р** *м.* Абмова, плёткі. *Я атцоўская дачка: / Пагавору баюся* (з песьні). Чэрнін.

**ПАГО́Н** *м.* Месца, у большасьці ўзгоркаватае, па якому звычайна ганяюць тавар. *Тавар ішоў пагонам.* Данілоўка.

**ПАДАПРАНУ́ЦЬ** *зак.* Надзець верхнюю адзежу. *Падапрані кажух.* Данілоўка.

**ПАДА́ЦЦА** *зак.* Накіравацца. *Тодар падаўся вучыцца на дохтара.* Данілоўка.

**ПАДГА́ЛІСТЫ** *прым.* Гонкі, высокі, з суччам на версе. *Падгалісты лес. Падгалістая хвоя.* Данілоўка.

**ПАДГЛЯДА́ЦЬ** *незак.* Выбіраць мёд з вульля. *Пчолы падглєдаюць у восєнь.* Данілоўка.

**ПАДЖА́РЫ** *прым.* Рыжаваты зьнізу. *Паджарая сьвіня.* Данілоўка.

**ПАДЗЯРЖА́ЦЬ** *зак.* Патрымаць. *Падзяржы каня.* Майсееўка.

**ПАДЛА́СЫ** *прым.* Бела-рыжай масьці. *Падласая карова.* Данілоўка.

**ПАДМАЛАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Праясьніцца к пагодзе. *Неба падмаладзілася.* Данілоўка.

**ПАДМА́НШЧЫК** *м.* Ашуканец, манюка. *Ні слухай ты етага падманшчыка: брэша!* Данілоўка.

**ПАДМЕ́ЦЦА** *зак.* Паабяцацца. *Калі падмеўся даць, дак давай.* Данілоўка.

**ПАДНО́САК** *м.* Падошва, што падбіваецца пад боты. *Пад боты прыбілі новыє падноскі.* Данілоўка.

**ПАДНЯБЕ́НЬНЕ** *н.* 1. Неба ў роце. *Нешта паднябеньне ў дзіцяці абсыпала.* Данілоўка. 2. Скляпеньне ў печы. *Ў печы мулєр выводзіць ужэ паднябеньне.* Данілоўка.

---

[1] С. Некрашэвіч пры граматычнай характарыстыцы слова выкарыстаў памету *мн.*, якая ўказвае на прыналежнасць слова да назоўніка, аднак лексема можа мець і памету *прысл.* (прыслоўе).

**ПАДО́САК** *м.* Жалезная штаба, якая падбіваецца зьнізу дзеравянай восі. Данілоўка.

**ПАДРЭ́З** *м.* Жалезная палоса зьнізу полаза. *Сані с падрэзамі.* Данілоўка.

**ПАДРЭ́З** *м.* Вылегчаны на адно яйцо конь; нутрэц. Данілоўка.

**ПАДСЫ́ЛАЦЬ** *незак.* Прысылаць для разьведваньня чаго-небудзь. *Есіп к Матруні ўжэ сватоў патсылає.* Данілоўка.

**ПАДСЯБРЫ́ЦЦА** *зак.* Падлезьці, падсесьці, каб на правох сябра прыняць удзел у карыстаньні чым-небудзь. *Ты, я бачу, хочаш к нам патсябрыцца палуднуваць?* Данілоўка.

**ПАДЦІКО́ЎВАЦЬ** *незак.* Падглядаць, выглядаць. *Кіт патцікоўвае мушы.* Чыркавічы.

**ПАЗАЛЕ́ТАШНІ** *прым.* Пазапрашлагодні. *Пазалеташні год буў багаты на грыбу.* Чэрнін.

**ПАЗАСЫНА́ЦЬ** *зак.* Пазасыпаць. *Пазасыналі ўсе – лежаць, як снапы.* Майсееўка.

**ПАЙГРА́ЦЬ** *незак.* Спарыцца (аб птушках). *Гусі ўжэ пайгралі.* Данілоўка.

**ПА́ЙКА** *ж.* Доля, частка. *А дзе ж мая пайка ат хаджайства?* Слабодка.

**ПАЛАВІ́ЧНЫ** *прым.* Палавінны, які складае палавіну чаго-небудзь. *Палавічная зямля.* Майсееўка.

**ПАЛІ́К** *м.* Наплечнік. *На сароццы палікé.* Казлоўка.

**ПАЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Спарвацца (пераважна аб каровах). *Красуля палює, трэба прыгнаць бугая.* Данілоўка.

**ПАМАЦАВА́ЦЬ** *зак.* 1. Даведацца аб моцнасьці чаго-небудзь. *Памацуй, ці крэпка прыўязана вяроўка.* Данілоўка. 2. Даведацца аб моцнасьці яйца, стукаючы яго аб зубы. *Дай мне памацаваць твае яйцо.* Данілоўка. *Дай мне памацаваць твае яйцэ.* Раманішчы.

**ПА́НФІЛЬ** *м.* Дамка ў картах. Данілоўка.

**ПАПЕРАПАДА́ЦЦА** *зак.* Пападцягваць ад голаду жываты. *Бачыш, валы паперападаліся: адны клубы тырчаць.* Данілоўка.

**ПА́ПЛІСКА** *ж. зб.* Палкі, якімі ўвязваюць дровы на вазу. *Двоє біліся, а трэйці выхапіў з возу паплíску да як трахнє аднаму па галаве, дак той, як сноп, і паваліўся.* Парычы.

**ПАРАБКАВА́ЦЬ** *незак.* Быць за парабка. *Есіп так усю сваю жытку й парабкаваў.* Казлоўка.

**ПАРАБЧА́НКА** *ж.* Служанка, работніца. *Сымонавы заўсёды дзержаць парабчанку.* Майсееўка.

**ПАРАВА́Н** *м.* Шырма з матэрыі. *Параван вешаюць у хаці, калі німа бакоўкі.* Данілоўка.

**ПАРАХНЯ́** *ж.* 1. Гніль, збуцьвелае, падобнае на парашок, дзерава. *Ат палена асталася толькі адна парахня.* Данілоўка. 2. Стары слабасільны чалавек. *Ета ні чалавек, а 'дна парахня.* Данілоўка. ◊ ПАРАХНЯ́ ПАСЫ́ПЛЕЦЦА. Сьцерці на парашок. *Як дам, дак і парахня сь цябе пасыплєцца.* Данілоўка.

**ПАСА́Д** *м.* Пакладзеныя на таку ў рад, адзін пры адным, снапы пры малацьбе цэпам. *Покуль рызьвіднєла, мы п'яць пасадаў змалацілі.* Данілоўка.

**ПА́СЕКА** *ж.* Месца, дзе нядаўна высечаны лес. *Ў казьне пасекі паўзорвалі й пазасєвалі лесам.* Коўцічы.

**ПАСЯЛУ́ХА** *ж.* Пахатуха, пляткарка. *Ні кажы етай пасєлусі, а то па ўсєму сєлу разьнесе.* Раманішчы.

**ПАТАПТА́ЦЬ** *зак.* Папаскладваць на стагу сена, прытоптваючы яго. *Колькі я за сваю жытку стагоў патаптаў.* Майсееўка.

**ПАТВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Спырснуць вулей васкавіцай, наставіць у ім воск і ўкласьці зялёны ліст для прываблíваньня пчол; увесь сакрэт акту «тварэньня» ў васкавіцы. *Добра патворыш вулєй, дак і пчолы сядуць.* Данілоўка.

**ПАТКУ́РЧЫЦЬ** *зак.* Сагнуць пад сябе ногі. *Сядзіць, паткурчыўшы ногі.* Дабравольшчына.

**ПА́ТЛЫ** *ж. мн.* Кудлы, гіры. *Прычашы свае патлы.* Майсееўка.

**ПАТРА́ЎКА** *ж.* Верашчака. Медзьведаў.

**ПАТРЫМА́ЦЬ** *зак.* Падзяржаць. *Патрымай рэшата.* Чэрнін.

**ПАТУЖЭ́ЦЬ** *зак.* Пацьвярдзець. *Скула патужэла.* Данілоўка.

**ПАХА́ТУХА** *ж.* Пляткарка. Раманішчы.

**ПАЦЫКА́ЦЦА** *незак.* Дражніцца. *Што ты с сабакам пацыкаєсься? Уцьвеліш – дак укусіць.* Данілоўка.

**ПАЦЯРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Прысыпаць. *Дарогу трохі пацєрушыла сьнегам.* Данілоўка.

**ПАЧУ́КАЦЬ** *зак.* Пападкідваць на руках дзіця. *Пачукай дзіця, каб ні плакала.* Чыркавічы.

**ПЕ́ЛЯ** *ж.* Балотца паміж поля з стаячай вадой. *Ў пелі жыруюць дзікіє качкі.* Данілоўка.

**ПЕРАВО́ДЗІЦЦА** *зак.* Зьнішчацца. *Штоб твой род пераўёўсє!* (праклён). Раманішчы.

**ПЕРАСЫПА́ЦЬ** *незак.* Перабудоўваць, перастаўляць будыніну. *Сяголєта Гармон перасыпає хату.* Коўцічы.

**ПЕРАСЯДА́ЦЬ** *незак.* Застраваць. *Яблыка перасєдає ў році.* Данілоўка.

**ПЕРАХО́Д** *м.* Параход. *Пераход пашоў на Бабрусяк.* Краснаўка.

**ПЕРАШУШЭ́ЛІЦЬ** *зак.* Ператачыць. *Му самі перашушэлім етае жыта.* Раманішчы.

**ПЕ́РСЬЦІ** *ж. мн.* Грудзі ў каня. *Здаровыя персьці ў кабылы.* Данілоўка.

**ПЕ́РЫЦЬ** *незак.* 1. Моцна біць дубцом, палкай. *Годзі табе перыць каня.* Майсееўка. 2. Біць, пляскаць бялізну пранікам. *Матруна на копанцы перыць плацьцє.* Майсееўка.

**ПЕЦЬ** *незак.* Сьпяваць. *Як я буду пець колєду, калі цяпер жніво.* Дабравольшчына.

**ПЛАТО́К** *м.* Хустачка. □ *На чужы раток ні накінєш платок.* Данілоўка.

**ПЛА́ЦЬЦЕ** *н. зб.* Бялізна. *Мама пашлі на копанку мыць плацьцє.* Майсееўка.

**ПЛА́ШКА** *ж.* Расколатае надвое доўгае і тоўстае палена дроў. *Прыўёз воз плашак.* Данілоўка.

**ПЛЮ́СНУЦЬ** *зак.* Пацалаваць. *Плюсьні дзядзьку ў руку.* Данілоўка.

**ПО́ДКУР** *м.* Палаці на дзераве, на якія ставяць вульлі для пчол. *На поткур усьцягнулі чатыры вульлі.* Майсееўка.

**ПО́ДЛЕТАК** *м.* 1. Маладая птушка, якая яшчэ не навучылася лятаць. *Лявон злавіў п'яць драздоў-подлєткаў.* Данілоўка. 2. Блазен, недарослы. *Я йшчэ тады быў подлєткам.* Данілоўка.

**ПО́ДМАЗКА** *ж.* Кавалачак сала для падмазваньня скаварады. *Падмаж подмазкаю скавараду, штоб ні прыставаў блінец.* Данілоўка.

**ПО́ДПЛЕТКА** *ж.* Калок, швайка, якой робяць у лапці пры пляценьні дзірачку. *Потплетка трэба, штоб патплесьці лапєць.* Данілоўка.

**ПО́ДСЬВІНАК** *м.* Сьвіньня, якая яшчэ не дарасла да нормальнай велічыні. *Рыгор мае сьвіню, кабана й двоє потсьвінкаў.* Данілоўка.

**ПО́ЖНЯ** *ж.* Поле ад зжатага збожжа наагул. *Выжань цєлятак на пожню.* Майсееўка.

**ПО́КАТАМ** *прысл.* Адзін пры адным. *Покатам на падлозі спаць паляглі.* Краснаўка.

**ПОЛ** *м.* Палаці, на якіх звычайна сьпіць уся сялянская сям'я. Коўцічы.

**ПО́ЛАГ** *м.* Балдахін з палатна з апушчанымі берагамі да ложку; звычайна вешаецца на лета, каб схавацца ад камароў. *Дзеўкі ў сенцах сьпяць у полагу.* Данілоўка. ПАЛАЖО́К *ласк. Пушчу каня на лужок, / Сам ік дзеўцы ў палажок* (з прыпеўкі). Пакалічы.

**ПО́ЛКА** *ж.* Пялёнка, пялюшка. *Ў полкі спавіваюць дзіця.* Майсееўка.

**ПО́ПЛАЎ** *м.* Сенакос пры полі, пераважна заліўны, з якога зьбіраюць мурожнае сена. Казлоўка.

**ПО́РСТКІ** *прым.* Жвавы, палахлівы. *Порсткі конь.* Данілоўка.

**ПО́ЎДЗЕНЬ** *н.* Полудзень. *Ўжэ было пат паўдня. Слонца рушыла с поўдня.* Данілоўка.

**ПО́ЎПРЫК** *м.* Надуты і ўпарты хлапец. *Ну, ты, поўпрык, хадзі вячэраць.* Данілоўка.

**ПО́ЦЕРАБ** *м.* Расьцярэбленае, нядаўна расчышчанае ад лесу поле ці сенакос. *На поцєрабі добра родзіць усякая збажына.* Данілоўка.

**ПО́ЧАПКА** *ж.* Перавязь у вядра. *Вазьмі вядро за почапку.* Данілоўка.

**ПРАВЕ́ШАЦЦА** *зак.* Прагуляць. *Правешаўся цалюсенькі дзень, палєц аб палєц ні вытнуў.* Данілоўка.

**ПРА́ВІЦЬ** *незак.* Спаганяць. *Грошай я не правіла.* Слабодка.

**ПРАЗРЫ́СТЫ** *прым.* Праніклівы. *Ў Рыгора празрыстыє вочы.* Данілоўка.

**ПРАКАВЕ́ТНЫ** *прым.* Вельмі стары, пракавечны. *Пракаветная песня.* Чыркавічы.

**ПРАКАЎТНУ́ЦЬ** *зак.* Праглынуць. *Узяў у рот, а пракаўтнуць ні магу: назад вернє.* Майсееўка.

**ПРАКАЧА́ЦЦА** *зак.* Перахварэць. *Апанас пракачаўся на запаленьне цэлых п'яць тыднєў.* Данілоўка.

**ПРАНО́ЗАВАТЫ** *прым.* Пранырлівы. *Пранозаваты хлопец.* Данілоўка.

**ПРАСЬЦЕ́ЦКІ** *прым.* Просты. *Прасьцецкіє мае песьні.* Дуброва.

**ПРАЦЬ** *незак.* Мыць, біць пранікам бялізну. *Годзі табе праць плацьцє, йдзі абедаць.* Данілоўка.

**ПРО́ПАДАМ** *прысл.* Цалком, дазваньня. *Ніхай яно пропадам прападзе.* Данілоўка.

**ПРУГМЕ́НЬ** *м.* Адгароджаны каля гумна ўчастак зямлі. *На пругмені ставєць азяроды, садзєць грушы й яблыны.* Данілоўка.

**ПРУ́ДКІ** *прым.* Сільны, лоўкі, пружыністы. *Сяргута прудкі хлопец – яго ні збораєш.* Данілоўка.

**ПРЫАСЁТАК** *м.* Прыбудоўка пры восеці (ёўні). *Ў прыасётку зляжылі пшаніцу.* Казлоўка.

**ПРЫДБА́ЦЬ** *зак.* Нажыць, набыць, прыжыць. *Прыдбаў за жонкаю хату. Прыдбаў з ею троє дзетак.* Данілоўка.

**ПРЫЗЬМО́** *н.* Лазовы калач, якім прывязваюць ярмо да рагача. *Валы сарваліся с прызьма.* Коўцічы.

**ПРЫМЕ́ЦЬ** *зак.* Атрымаць магчымасьць. *Каб прымеў, дак ён бы яго зьеў.* Данілоўка.

**ПРЫНАКУ́ЧЫЦЬ** *зак.* Абрыднуць. *Яму было прынакучыла, кудзеркі завіваючы.* Бяліца.

**ПРЫПІНА́ЦЬ** *незак.* Прывязваць. *Жана мужа шанавала – / На папары прыпінала* (з прыпеўкі). Дабраволышчына.

**ПРЫСТА́НІШЧА** *н.* Пристаньне, прытулак. *Блытаєцца на сьвеці, нідзе яму пристанішча німа.* Данілоўка.

**ПРЫЯ́Т** *м.* Прыёмнасьць. *Жыве без прыяту.* Слабодка.

**ПСЕ́ЙКА** *ж. ласк.* Кароўка. Парыччына.

**ПСЕ-ПСЕ** *выкл.* Прызыўны воклік каровы. Парыччына.

**ПСТРЫКА́ТЫ** *прым.* Стрыкаты, пярэсты. *Пстрыкаты конь.* Данілоўка.

**ПСТРЫ́ЧКА** *ж.* Шчаўчок. *Даў яму ў лоб п'яць пстрычак.* Данілоўка.

**ПУ́СТА** *прысл.* Бяз сэнсу. *Пуста ты гаворыш.* Дуброва.

**ПУСЬЦІ́ЦЬ** *зак.* Выдзеліць (аб пчолах). *Мае пчолы пат хатай пусьцілі ўжэ другога роя.* Данілоўка.

**ПУХА́** *ж.* Шырокі канец яйца. *Я твае яйцэ пухою паб'ю.* Раманішчы.

**ПУ́ШКА** *ж.* Бляшаначка на табаку або наагул на дробныя рэчы. *Махорку ўсыпаюць у пушку.* Данілоўка.

**ПУ́ШКА** *ж.* Скура на верхнім згіне пальца. *На пальцах пушкі пазьбіваў.* Данілоўка.

**ПУ́ШЫЦЬ, ПУШЫ́ЦЬ** *незак.* Надуваць. *Наеўся сьвежага хлеба, а цяпер жывот пўшыць.* Данілоўка.

**ПЫЛА́ЦЬ** *незак.* Палаць. *Дровы пылаюць у печы.* Данілоўка.

**ПЫ́СА** *ж.* Морда ў зьвяроў. *Ў ліса вострая пыса.* Данілоўка.

**ПЯРСЬЦІ́СТЫ** *прым.* З шырокай грудзінай. *Пярсьцісты конь.* Данілоўка.

**ПЯРША́К** *м.* Першага адбору зерне, вадкасьць, першы наагул. *Самагонка пєршак.* Данілоўка.

**ПЯРЭ́БІРКА** *ж.* Перабранае граблямі сена для больш зручнага складаньня яго ў капу. *Ні ўмеє пя-*

*рэбіркі перабраць. Набраў пярэбірку як падняць. Чатыры пярэбіркі – во табе й капа.* Данілоўка.

**ПЯРЭ́ЗВЫ** *ж. мн.* Перазываньне гасьцей для пачастунку. *Радня гасьцей зь вясельля запрасіла на пярэзвы.* Данілоўка.

**ПЯРЭ́ЗІМКА** *ж.* Цялушка-аднагодка. Данілоўка.

**ПЯРЭ́ЛЕТКА** *ж.* Леташняга году цяля. *Пєрэлєтка цялушка.* Медзьведаў.

**ПЯРЭ́СЬЦІГІ** *м. мн.* Выперадкі. *Пабяжым на пярэсьцігі, хто каго выпєрадзіць.* Майсееўка.

**ПЯРЭ́СЬЦІЦЬ** *незак.* Біць дубцом, палкай, рабіць пісюгі. *Як пачаў яго пугаю пярэсьціць, дак усяго сьпісаў.* Данілоўка.

**РАЗВА́ЖЫЦЬ** *зак.* Разагнаць, расьсеяць. *Ніхто ні развažыць маей горкай долі.* Чыркавічы.

**РАЗГА́ТЫ** *прым.* Вілаваты. *Разгаты дуб.* Данілоўка.

**РАЗДАБРЭ́ЦЬ** *зак.* Пагладчэць. *Раздабрэў на гуляшчым хлебі.* Данілоўка.

**РАЗДАЖДЖЫ́ЦЦА** *зак.* Задажджыць. *Нешта раздажджылася неба.* Данілоўка.

**РАЗЖЫ́ЦЦА** *зак.* Разбагацець, абзавесьціся. *Разжыліся трохі, як нам прырэзалі зямлі. Разжыліся на табаку.* Данілоўка.

**РАЗЬВІВА́ЦЦА** *незак.* Распускаць лісьце, распуквацца. *Дуб позна разьвіваецца.* Слабодка.

**РАЗЬЛЯГА́ЦЦА** *незак.* Раздавацца, разносіцца. *Ўвечары добра па лесі голас разьлєгаєцца.* Данілоўка.

**РАЗЬМІНУ́ЦЦА** *зак.* Разыйціся, разьехацца. *Мы зь Яўхімам разьмінуліся каля Чарнецкай лужы.* Майсееўка.

**РАЗЬНЯГО́ДЗІЦЦА** *зак.* Раздажджыцца; разуменьне, праціленжнае «распагодзіцца». *Нешта ж разьнягодзілася ўжэ другі тыдзєнь.* Данілоўка.

**РАКА́** *ж.* Рака. Парыччына.

**РА́КАМ** *прысл.* Сагнуўшыся. *Жанкі жнуць жыта, стоєчы ракам.* Данілоўка.

**РАСКО́Л** *м.* Разбой, разбойнік. *Еты раскол нікога ні баіцца.* Данілоўка.

**РАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Таяць. *Увесну сьнег растае.* Данілоўка.

**РАСХІХЛА́ЦЬ** *зак.* Зьняць з маладой захіхланьне і надзець жаночы чапец, пасля чаго маладая пераходзіць з дзявочага стану ў жаночы. Слабодка.

**РАСХЛІСТА́ЦЦА** *зак.* Расхрыстацца, мець адкрытую грудзіну. *Ці табе горача, што ты расхліставўся?* Данілоўка.

**РАСЬЦЯРО́Б** *м.* Расчыстка лесу пад поле. *Лес аддалі на расьцяроб.* Данілоўка.

**РАЧКАВА́ЦЬ** *незак.* Працаваць, стоячы ракам. *А тут рачкуй, жыта жні.* Васілёўка.

**РЗАЦЬ** *незак.* Ржаць. Коўцічы.

**РО́ЎКА** *ж.* Доўгае тонкае бервяно, абодва канцы якога ўкладваюцца ў рашэціну. *Паміж ровак закладаюць снапы.* Данілоўка.

**РУБЕ́Ц** *м.* Рубец. *Прамок да апошнєга рубца.* Данілоўка.

**РУКА́ТЫ** *прым.* Зладзейкаваты. *За jім трэба сачыць: чалавек ён рукаты.* Данілоўка.

**РУ́ЧЫЦЬ** *незак.* Шанцаваць, таланіць. *Ему ва ўсім ручыць.* Істопкі.

**РУ́ШЫЦЬ** *зак.* 1. Падняць, узьняць зьвера. *Сабакі рушылі зайца.* Данілоўка. 2. Зрушыцца, узьняцца з месца. *Мы рушылі з двара.* Данілоўка.

**РЫЗЫКА́НТ** *м.* Адважны. *Во рызыкант нашоўся.* Данілоўка.

**РЫК** *м.* Рыканьне. ◊ НА ВАЛО́Ў РЫК. Пра адлегласьць, як можна пачуць рыканьне вала. – *Ці далека да сєла? – пытаецца адзін. – Не, на валоў рык, – адказвае другі.* Данілоўка.

**РЫ́КАЦЬ** *незак.* Рыкаць. *Каровы рыкаюць, мусіць, піць хочуць.* Данілоўка.

**РЫ́ХЦІК** *прысл.* Якраз, акурат. *Рыхцік у бацьку ўдаўся.* Майсееўка.

**РЭ́ДЗГІНЫ** *ж. мн.* Прымацованая да дзеравяных дужак пляцёнка, у якую накладаюць сена. *Наклаў сена поўны рэдзгіны.* Данілоўка.

**РЭ́КНУЦЬ** *зак.* Прамовіць. *Маўчыць і слова ні рэкнє.* Данілоўка.

**РЭ́ЧКА** *ж.* Рака. *Пушчуся я на Дунай-рэчку* (з песьні). Краснаўка.

**САГРАЗІ́ЦЬ** *зак.* Прыстрашыць, учыніць штонебудзь у помсту. *Чым ты мне сагрозіш?* Данілоўка.

**САД** *м.* Верхні і ніжні млынарскія каменьні. *Ў мліне малолі на два сады.* Данілоўка.

**САПСЕ́ЦЬ** *зак.* Састарэць падобна сабаку, згрыбець. *Сапсеў чалавек.* Данілоўка.

**САПСТРЫ́КАЦЦА** *зак.* Падупасьці, змарнець. *Быў гаспадар, а цяпер сапстрыкаўся.* Данілоўка.

**САРАНЧУ́К** *м.* Жоўтая махрастая з моцным араматам кветка. *Ў гародчыку цьвітуць саранчукі.* Данілоўка.

**САЎСІ́М** *прысл.* Зусім. Данілоўка.

**САХА́** *ж.* Вілаватая падпора, на якую пры будоўлі кладзецца волак. *Саху трэба выбіраць дубовую, штоб доўга стаяла.* Данілоўка.

**САШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Сьціснуць. *Сашчапіў кулакі.* Данілоўка.

**СЕРАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Пасьціць па серадах. □ *Ніхай той серадзіць, хто дома сядзіць.* Краснаўка.

**СЁСТРЫК** *м.* Гейка, прыяцелька. *Хадзем, сёстрык, на йгрышча.* Раманішчы.

**СІБІ́РНЫ** *прым.* Сярдзіты, злосны, капасны. *Сібірны вецєр. Сібірны чалавек.* Данілоўка.

**СІ́ВЕР** *м.* 1. Поўнач. *Вецєр падуў сь сіверу.* Данілоўка. 2. Рэзкі паўночны вецер. *Сівєр і праз кажух праймає.* Данілоўка.

**СІ́ВЕРКІ** *прым.* Сіверны. Данілоўка.

**СІ́ВЕРНЫ** *прым.* Сіверны. Данілоўка.

**СІ́ЛА** *ж.* Справа, рэч. □ *Ні ў тым сіла, што кабыла сіва, а ў тым, што воза ні вязе.* Данілоўка.

**СІНЮ́ХА** *ж.* Лучына з абалоны хвоі. *Ўстаў сінюху ў дзядок, а то зараз патухнє.* Данілоўка.

**СКА́ЛІЦЬ** *незак.* Разьведваць. *Пчолы скаляць, мусіць, хутка сядзє рой. Што ты скаліш? Ці ні ўкрасьці што хочаш?* Данілоўка.

**СКА́ЛКА** *ж.* Асколак крэменя. *Аб скалку вусекаюць агонь.* Слабодка.

**СКА́ЛКА** *ж.* Каплі тлустасьці ў страве ці на вадзе. *Ў крупніку плаваюць скалкі.* Данілоўка.

**СКІ́ДАЦЬ** *зак.* Скласьці сена ў стог. *Скідалі стог сена.* Данілоўка.

**СКЛЕ́ШЧЫЦЦА** *зак.* 1. Злучыцца, зьвязацца. Данілоўка. 2. Спарыцца (аб сабаках). Данілоўка.

**СКРЫ́НЯ** *ж.* Дадатковы зруб на дне калодзежа. *Вада ў калодзежы асталася толькі ў скрыні.* Данілоўка.

**СКРЫП** *м.* Скрыпеньне. *Хадзем усе с хаты за 'дным скрыпам.* Данілоўка.

**СКРЫ́ПЕЛЬ** *м.* Сухая губка з дрэва, якою падкурваюць пчолы. Данілоўка.

**СЛА́БКІ** *прым.* Слабы. *Слабкі вузел завезаў.* Данілоўка.

**СЛА́ВА** *ж.* Пагавор, няслава. *Яна мене не набіла, / Толькі славы нарабіла* (з прыпеўкі). Слабодка. *Калі ходзіш – дак хадзі, / Людзям славу ні рабі* (з прыпеўкі). Чэрнін.

**СЛУКА́** *ж.* Слонка, сланец. *Слука ляціць і крычыць: / «Бур-лыс! Бур-лыс!»* (з песьні). Данілоўка.

**СЛУ́ПА** *прысл.* Падобна слупу (стаяць). *Чаго ты стала слупа, як пень?* Данілоўка.

**СМАРКАЧЫ́** *м. мн.* Саплякі. *Утры перш смаркачы, а тады гавары.* Данілоўка.

**СО́ПКІ** *прым.* Рассыпчаты, крохкі. *Сопкая картопля. Сопкае яблыка.* Данілоўка.

**СПЛЫ́ЦІЦЦА** *зак.* Шчапіцца. *Во хлопцы сплыціліся біцца!* Казлоўка.

**СПЛЯ́ЖЫЦЬ** *зак.* Сьсекці дазваньня. *Быў лес, да спляжылі.* Данілоўка.

**СПО́РНЫ** *прым.* 1. Спрэчны. *Спорнае сена.* Данілоўка. 2. Пасьпяховы. *Спорная работа.* Данілоўка. 3. Густы, часты. *Спорны дож ідзе.* Данілоўка. 4. Выгодны, які доўга цягнецца. *Спорны хлеб.* Данілоўка.

**СПРА́ВІЦЬ** *зак.* 1. Наладзіць. *Справіў пляменіцы вясельле.* Данілоўка. 2. Абзавесьціся. *Справіў новые боты.* Данілоўка.

**СТАВА́ЦЬ** *незак.* Хапаць. Данілоўка.

**СТА́ЙЛА** *н.* Палаці на дзераве, на якія ставяць вульлі для пчол. Майсееўка.

**СТАЛЮ́ГІ** *ж. мн.* Прылада, на якую пільшчыкі кладуць калоду. Данілоўка.

**СТАН** *м.* Месца, дзе ў поўдзень аддыхае тавар. *Тавар стаяў на стану.* Данілоўка.

**СТАНАВІ́ЦЬ** *незак.* Будаваць. *Рыгор становіць хату.* Слабодка.

**СТАРЫ́**[1] *прым.* Апошняя (чацьвёртая) квадра месяца. *На старым добра класьці капусту.* Данілоўка.

**СТАРЫ́ЗНЫ** *прым.* Вельмі стары, пракаветны. *Старызные песьні Агата знае.* Чэрнін.

**СТАЦЬ** *незак.* Хапаць. *Як у яго сілы стае несьці такі вялікі мяшок.* Данілоўка.

**СТО́ЙКА** *ж.* Прылада, у якую ставяць дзіця, каб прывучыць яго стаяць. *Дзіця стаіць у стойцы.* Данілоўка.

**СТРАДА́ЦЬ** *незак.* Мучыцца, пакутаваць. *Страдае да канца веку.* Дабравольшчына.

**СТРАЛА́** *ж.* Журавель; доўгае бервяно ў калодзежы, пасярэдзіне ўмацаванае на сасе, да прыпаднятага канца прывязваецца вочап. Данілоўка.

**СТРЭ́МКА** *ж.* Заноза. *Загнаў стрэмку пат кіпець.* Данілоўка.

**СТУПА́** *ж.* Конская хада шагам. *Конь ішоў ступою.* Данілоўка.

**СУ́МНА** *прысл.* Страшна. *Ў лесі нешта трэснула, і мне зрабілася сумна, сумна.* Данілоўка.

**СУНІМА́ЦЦА** *незак.* Спыняцца. Чэрнін.

**СУНЯ́ЦЦА** *незак.* Спыніцца. *Дож ужэ суняўся.* Чэрнін.

**СУСЕ́Д** *м.* Сусед. □ *Брат сястры далёкі сусед.* Палянкі.

**СУ́ТАРГА** *ж.* Сударга. *Сутарга руку ломіць.* Данілоўка.

**СУХІ́** *прым.* Сухі. *Сухі вецер.* Данілоўка.

**СЫ́КАЦЬ** *незак.* 1. Сіпець. *Гадзюка сыкае.* Данілоўка. 2. Выражаць у грубых формах незадавальненьне. *Чаго ты на мяне сыкаеш?* Данілоўка.

**СЫНАЖА́ЦЬ** *ж.* Сенакосны вучастак, пераважна адасоблены (ў лесе). Коўцічы.

**СЫРАМАЛО́Т** *м.* Малачэньне збожжа без папярэдняга яго прасушваньня ў ёўні. *Ў ёўні печка раскідалася – дак мы ўсе свае жыта сырамалотам і памалацілі.* Данілоўка.

**СЬВЕСЬ** *ж.* Швагерка, сястра жонкі. Сапейкі.

**СЬВЕТ** *м.* ◊ БЛІ́ЗКІ СЬВЕТ. Далека. *Блізкі сьвет ехаць у Цябусы! Ета ж будзе пат Слуцак.* Майсееўка.

**СЬВІДНЁВЫ** *прым.* Сьвізінавы. *Атсяку сьвіднёвае вяселечка.* Краснаўка.

**СЬВІЗІ́НА** *ж.* Кураслеп. Данілоўка.

**СЬВІНЬНЯ́** *ж.* Від гульні з кіямі. Данілоўка.

**СЬЛЕ́ПАТ** *м.* Дзікія пчолы, што жывуць у лесе па дуплях. *Гармон нашоў у Казаковым Лесі сьлепата.* Данілоўка.

**СЬЛЯПІ́ЦАЮ** *прысл.* Неадчэпна, нахабна. *Сьляпіцаю лезе ў вочы.* Данілоўка.

**СЬНЯЖЫ́ЦЬ** *незак.* Падаць (пра сьнег). *Цэлы дзень сьняжыць.* Данілоўка.

**СЬПЕ́КА** *ж.* Сонцапёк. *Пасееў грэчку на самай сьпецы.* Данілоўка.

**СЬПЯВА́ЦЬ** *незак.* Сьпяваць царкоўныя песьні. *Ў цэркві сьпеваюць, а песьні пяюць.* Дабравольшчына.

**СЬЦЕЖА́Р** *м.* Жэрдка, якая забіваецца ў адонак для ўмацаваньня стогу. *Калі сьцежар крывы, то цяжка стаптаць роўны стог.* Данілоўка.

**СЬЦЯЛЬНІ́К** *м.* Соты. *Тры сьцельнікі м'ёду вуразаў з вулля.* Слабодка.

**СЯЛО́** *н.* Вёска. Парыччына.

**СЯРГІТУ́Т** *м.* Сэрвітут. Слабодка.

**ТАБА́КА** *ж.* ○ ПАЧКО́ВАЯ ТАБА́КА. Табака лепшага сорту. *Настаўнік курыць пачковую табаку.* Данілоўка.

[1] Памета адпавядае запісу С. Некрашэвіча. Асаблівасці ўжывання слова ў сказе не адлюстроўваюцца.

**ТАВА́РАЧЫ** *прым.* Быдлячы. *Таварачы пастух. Таварачы хлеў.* Майсееўка.

**ТАКАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Іграць на таку (аб цецярукох, бакасох). *Ў марцы такуюць цецерукі.* Данілоўка. 2. Сьпяваць на таку. *Калі цецярук такуе, дак к яму лёгка падкрасьціся.* Данілоўка.

**ТА́НЕЦ** *м.* Скокі. *Ашуканцы пашлі ў танцы, / Абібокі пашлі ў скокі* (з песьні). Данілоўка.

**ТАПТА́ЦЬ** *незак.* Складаць на стагу сена, прытоптваючы яго. Майсееўка.

**ТАПТА́ЦЬ** *незак.* Спарвацца. *Певень топча курыцу.* Майсееўка.

**ТВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Спырскваць вулей васкавіцай, настаўляць у ім воск і ўкладаць зялёны ліст для прываблівання пчол; увесь сакрэт акту «тварэньня» ў васкавіцы. Данілоўка.

**ТОК** *м.* Месца, дзе такуюць цецерукі, глушцы, бакасы. *На таку добра лавіць бакасоў.* Данілоўка.

**ТО́ПКІ** *прым.* Цьвёрды. *Ў рацэ топкае дно.* Данілоўка.

**ТО́ЧКА** *ж.* Колік, які служыць межавым знакам. *Пратапчы на поплаві мяжу на точкі.* Данілоўка.

**ТРАПКАЧЫ́** *м. мн.* Сорт ручніка, які мае доўгія незатканыя канцы. *Ў трапкачы заўязваць гаршкі й гладышы, калі йдуць на полє.* Данілоўка.

**ТРАЦІ́НА** *ж.* Трэйцяя частка. *Івану дасталося зямлі толькі траціна надзелу.* Казлоўка.

**ТРАЦЯ́К** *м.* 1. Трэйцяга адбору, трэйці па ліку. *Пчолы пусьцілі трацяка.* Данілоўка. 2. Трох гадоў. Данілоўка. ТРАЦЯЧО́К *ласк. Бычок-трацячок.* Данілоўка.

**ТРУБАКУ́Р** *м.* Заўзяты курэц. *Еты трубакур усе пакурыць.* Данілоўка.

**ТРУ́ШАНКА** *ж.* Ператрэсенае сена з саломаю. *Ўзімку ў нас тавару даюць трушанку, а конєм – сена.* Данілоўка.

**ТУГІ́** *прым.* 1. Напнуты, моцна нацягнуты. *Тугая струна.* Данілоўка. 2. Цьвёрды. *Тугая скула. – Ў цябе скула тугая? – Тугая. – Дак ніхай сядзє другая.* Данілоўка.

**ТУ́ХНУЦЬ** *незак.* Гаснуць. Данілоўка.

**ТУ́ХНУЦЬ** *незак.* Спаць бяспроспы. *Годзі табе, ланя, тухнуць!* Данілоўка.

**УВА́ЖЫЦЬ** *зак.* Уступіць, аказаць павагу, пашану. *Уваж старому.* Данілоўка.

**УВАРО́ТКІ** *прым.* Вёрткі. *Як ўюн, увароткі хлопец.* Казлоўка.

**УВЕРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Надарвацца, моцна стаміцца. *Ўверадзіўся, працуючы.* Данілоўка.

**УДАВА́ЦЦА** *незак.* Быць падобным на каго-небудзь. *Сын увесь у бацьку ўдаўся. Мой бацька такі маўся, і я ў яго ўдаўся.* Данілоўка.

**УДА́ЧА**[1] *ж.* Няўдалы, нbuilding здатны. *Ну й удача сь цябе, нічога зрабіць ні ўмеє.* Данілоўка.

**УЗА́ПАР** *прысл.* Адзін за адным, адначасна. *Ўзапар усе прышлі.* Данілоўка.

**УЗЬБІ́ЦЦА** *зак.* Абзавесьціся чым-небудзь. *Ўзьбіўся на худобу, на хаджайства.* Данілоўка.

**УЗЬБІ́ЦЦА** *зак.* Напароцца на што-небудзь. *Ўзьбіўся на нейкі ражон.* Данілоўка.

**УКАСІ́ЦЬ** *зак.* Трохі накасіць. *Ўкасі конєм сена на нач.* Данілоўка.

**УКІПЕ́ЦЬ** *зак.* Зварыцца, згатавацца. *Вада ўжэ ўкіпела.* Данілоўка.

**УКЛА́СЬЦІСЯ** *зак.* Памерці. *Ігнат уклаўся, цяпер ужэ яму нічога ні трэба.* Данілоўка.

**УКУ́ПЕ** *прысл.* Разам, супольна. □ *Хто робіць укупє, таму ні баліць у пупє.* Данілоўка.

**УЛЕ́ГЦЫ** *прысл.* У парожніх калёсах. *Зь мястэчка я выехаў ўлегцы.* Майсееўка.

**УЛЯЛЮ́ШЧЫЦЬ** *зак.* Упячы. *Ўлялюшчыў грошы, як пат хвост сабаку сунуў.* Данілоўка.

**УНА́НАЧКІ** *прысл.* ◊ УНА́НАЧКІ ХАДЗІ́ЦЬ[2]. Хадзіць да дзяўчат уночы спаць. *Ззамаладу я часта хадзіў к дзєўчатам унаначкі.* Данілоўка.

**УПАЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Забіць, застрэліць зьвярыну. *Добрага зайца ўпалєваў.* Данілоўка.

**УПЕ́РАК** *прысл.* Упоперак. *Ён лажыцца спаці / Ўперак караваці* (з песьні). Чыркавічы.

**УПІ́ТКІ** *м. мн.* Піцьцё. *Прышлі на паньськіє ўпіткі, на паньськіє ўедкі.* Васілёўка.

**УПЯ́КАЦЬ** *зак.* Нерэнтабельна ўкласьці маёмасьць у прадпрыемства, улялюшыць. *Ўпякаў грошы, а цяпер ні вырвєш.* Данілоўка.

**УРО́ДЛІВЫ** *прым.* Ураджайны. *Ўродлівы год на ягады.* Майсееўка.

**УРУ́ЧЫ** *прым.* Здольны, здатны. *Сын невехну везе ўручую і рабочую.* Чэрнін.

**УТАПІ́ЦЬ** *зак.* Усадзіць. *Ўтапіў нож у грудзях.* Майсееўка.

**УЦЬВЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Раззлаваць, раздражніць. *Ўцьвяліў хлапца, а цяпер ён плача.* Данілоўка.

**УЦЯГНУ́ЦЦА** *зак.* Набыць прывычку да чаго-небудзь. *Ўцягнуўся ў гарэлку.* Парыччына.

**УЧАМЯРЫ́ЦЦА** *зак.* Укараніцца, прыкінуцца. *Нейкая трасца ўчамєрылася.* Парыччына.

**УШКУ́ЛІЦЬ** *зак.* Нанесьці боль, задзець за жывое. *Ты ўжэ ўшкуліў дзіця, што яно плача.* Данілоўка.

**УШУ́ЛА** *н.* 1. Слуп з пазамі ў будове, у які ўкладаюцца канцы бярвеньня. Данілоўка. 2. Тоўстая, нярухавая жанчына. *З етым ушулам ні наскача'сься.* Данілоўка.

**УШЧАПЕ́РЫЦЦА** *зак.* 1. Учапіцца. *Ўшчаперыўся за гіры.* Данілоўка. 2. Узьлезьці. *Ўшчаперыўся на самы шчыт хвоі.* Данілоўка.

**УШЧУВА́ЦЬ** *незак.* Караць; выхоўваць, караючы. *Калі ні ўшчуваць дзіцяці, то дабра ні будзє.* Данілоўка.

**ФЭСТ** *м.* Залажэньне, прыстольнае каталіцкае сьвята, на якое зьяжджаецца шляхта з усёй акругі. *Палюцкаваліся дзеўкі на фэсьці.* Майсееўка.

---

[1] Дадзены назоўнік, як сведчыць прыклад, ужываецца ў ролі агульнага, аднак фармальная памета *ж.*, пастаўленая С. Некрашэвічам, захоўваецца.

[2] Адзначанае словазлучэнне С. Некрашэвіч адносіць да фразем. На наш погляд, згодна з тым, што *унаначкі* мае значэнне '*на начлег*', яго можна лічыць свабодным.

**ХАЙЛУ́К** *м.* Гняздо белкі. *Куніца спаймалала белку ў хайлуку.* Данілоўка.

**ХА́ЛЕПА** *ж.* Негадзь, слота. Ну *й халєпа сягодня на дварэ: дож, вєцєр, холад!* Данілоўка.

**ХАРА́КТАР** *м.* Почырк. *Есіп, што піша, можна рашчытаць: ў яго добры характар.* Майсееўка.

**ХАХЛА́Ч** м. Калач (?). *Ні плач – / Купім хахлач. / М'ёдам памажам, / Нікому ні пакажам* (з прыпеўкі). Данілоўка.

**ХАХО́Л** *м.* Канец меха. *Вазьмі мех за хахол.* Данілоўка.

**ХВАШЧА́НКА** *ж.* Пучок хвашчу, якім шаруюць посуд. *Хвашчанкай добра шараваць дзераўяныє міскі.* Данілоўка.

**ХВІ́ЛЯ** *ж.* Бура. *Усхадзілася хвіля-бура.* Краснаўка.

**ХВО́ЙНІК** *ж.* Хвойнік. Парыччына.

**ХВО́Я** *ж.* Хвоя. Парыччына.

**ХІБЕ́ТНІК** *м.* Здольны, здатны. *Воцета чалавек хібетнік: ўсе ўмее рабіць.* Раманішчы.

**ХІБЕ́ТНЫ** *прым.* Здольны, здатны. *Ён хібецен.* Раманішчы.

**ХМУ́РНЫ** *прым.* 1. Хмарны, пахмурны. *Хмурны дзень.* Майсееўка. 2. Нудны, смутны. *Хмурны чалавек.* Майсееўка.

**ХРА́ПА** *ж.* Ножка або качарэжка капусты. *Капусту пазразалі й пусьцілі коней на храпу.* Майсееўка.

**ХРА́ПА** *ж.* 1. Пераносіца ў каня. *Вазьмі каня за храпу.* Майсееўка. 2. *зьняв.* Пераносіца ў чалавека. *Маўчы, а то як дам у храпу, дак і кроўю ўмыєсься.* Майсееўка.

**ХРОСЬ** *м.* Крыж. *Матка здрава, хрось сьветы, на гары цэркаўка* (бажэньне). Чэрнін.

**ХТО́ЦКІ** *займ.* Хто гаворыць «хто?». *– Хто ета паеў сала, – пытае Есім у Кузьмы. – Хто, можа, хтоцкі!* (значыць, Есіп) *– адказвае Кузьма.* Данілоўка.

**ХУДО́БА** *ж.* Быдла, тавар, статак. *Ражжыліся на худобу: малі два валэ й дзьве карове.* Слабодка.

**ЦАХЛІ́ЦЬ** *незак.* Аднастайна брахаць па сьледу зьвера. *Сабакі цэхляць, мусіць, знашлі зайца.* Майсееўка.

**ЦЕЛЯПЕ́НЬ** *м.* Целяпайла. *Сьвєты целєпень* (кажа баба, гледзячы на каталіцкі звон), *ні ўбі мєне цєпер; жыла – ні была й умру – ні пайду.* Істопкі.

**ЦІ́ПЕЦ** *м.* Сівец, каманішнік. *Ціпец і добрая каса ні бярэ.* Коўцічы.

**ЦІ́ЎКАЦЬ** *незак.* [Падаваць гукі ціў-ціў] (аб гуках птушанят). *Верабейкі ціўкаюць у гнязьдзе.* Данілоўка.

**ЦУ́БКІ** *прым.* Цьвёрды, шчытны, дзябёлы. *Цубкає сукно. Цубкі ў руках хлопец.* Данілоўка.

**ЦЫБУ́К** *м.* 1. Папяросьнік. *Зрабіў цыбук на папяросы.* Данілоўка. 2. Мундштук. *Калі вужацы даць соку з цыбуку ад люлькі, дак атруціцца.* Данілоўка.

**ЦЫБУ́ЛЬНІК** *м.* Цыбульнае націньне. *На градах ужэ пасох цыбульнік.* Майсееўка.

**ЦЫ́НГЕЛЬ** *м.* Кручок для спуску корка ў стрэльбе. *Калі пацягнеш цынгєль, дак корак па брамцы й стукнє.* Данілоўка.

**ЦЬВЯЛІ́ЦЬ** *незак.* Злаваць, раздражняць. *Што ты цьвеліш сабаку?* Данілоўка.

**ЦЭ́ЛКА** *ж.* Дзірчастая палачка, на якую на сукале насукваюць для чаўнака ніткі. *Насукаў п'яць цэлак.* Данілоўка.

**ЦЯПЛО́** *н.* Агонь. *Пастухі на палянцы разлажылі цяпло.* Данілоўка.

**ЧАКУ́ХА** *ж.* Від доўбні з устаўной ручкай для дзяржаньня. Майсееўка.

**ЧАЛЕ́СЬНІК** *м.* Вусьце печы. *Гаршкі сушацца ў чалесьніку.* Данілоўка.

**ЧАПЛЯЯ́** *ж.* Чапяла, ёмка. *Чапляёй дастаюць сь печы скавароды.* Парыччына.

**ЧАРЭ́Н** *м.* 1. Ніжняя паверхня ў печы. *На хлеб трэба гарачы чарэн.* Данілоўка. 2. Верхняя паверхня печы. *Пастаў п'яты на чарэн, мо кашаль пройдзе.* Данілоўка.

**ЧАЦЬВЯРЦІ́НА** *ж.* Чацьвёртая частка чаго-небудзь. Казлоўка.

**ЧУ́КАЦЬ** *незак.* Падкідваць на руках дзіця. Чыркавічы.

**ЧЭ́ПІК** *м.* Птушка з пароды бакасоў. Данілоўка.

**ШАЛПАТА́ЦЬ** *незак.* Шамаць, шастаць, шумець (аб уюнох, чэрвях). *Ўюны шалпочуць у рэшаці.* Данілоўка.

**ШАЛЬМЕ́Ц** *м.* Машэнік. *Што ж ты, шальмец, нарабіў?* Данілоўка.

**ШАНАВА́ЦЦА** *незак.* Берагчыся, добра трымацца. *Шануйся сам, хлопча, то й людзі шанаваць будуць.* Майсееўка.

**ШАРО́Н** *м.* Сьнежная скарынка, сярон. *Па шарону добра езьдзіць на лыжах.* Данілоўка.

**ШВЭ́НДАЦЬ** *незак.* Хадзіць бяз пэўнай мэты. *Ў нас усякі народ швэндає.* Майсееўка.

**ШЛАКАТА́ЦЬ** *незак.* Казлытаць, ласкатаць. Майсееўка.

**ШЛЁ́ГАЦЬ** *незак.* Сьцёбаць. Майсееўка.

**ШЛО́КАТ** *м.* Казлытанне, ласкатанне. *Дзіця баіцьця шлокату.* Майсееўка.

**ШМАНА́ЦЬ** *незак.* Зварачаць увагу, слухацца. *Ты яму хоць кол на галаве чашы, а ён нічога ні шманає.* Данілоўка.

**ШМАТ** *прысл.* Многа. *Шмат я гады на сьвеці пражыла.* Дуброва.

**ШО́ЛУДЗІ** *ж. мн.* Струпы на галаве, пархі. □ *Была б галава, а шолудзі будуць.* Данілоўка.

**ШУСТ** *м.* Ашуканец, падманшчык. *Шуст ты прараскі!* Істопкі.

**ШУ́ТКА** *ж. ласк.* Аўца. Парыччына.

**ШУ-ШУ** *выкл.* Прызыўны воклік аўцы. Парыччына.

**ШУ́ЯДЗЬ** *ж.* Малеча, блазнота. *Шуєдзі етай назьбіралася, дак аж хату разносєць.* Данілоўка.

**ШЧАНЬ** *ж.* Дзяжа. *Цэлую шчань капусты нашаткавала.* Слабодка.

**ШЧО́ГЛА** *ж.* Мачта. *На шчоглу сьсеклі самую высокую елку.* Данілоўка.

**ШЧО́ЎКНУЦЬ** *зак.* Высьлізнуцца з гукам. *Арэх шчоўкнуў і выскачыў з гранкі.* Данілоўка.

**ШЧЫТ** *м.* Верх, вільчык. *Ўзьлез на самы шчыт елкі.* Данілоўка.

**ЮР** *м.* Вясёласьць, якая гранічыць з пахатлівасьцю. □ *Сытай бабі юр на ўме.* Майсееўка.

**Ю́ШКА** *ж.* Поліўка. □ *Хто зевае, той юшку хлебае.* Данілоўка.

**ЯГЛЫ́** *мн.* (?) [Пра адсутнасьць ежы]. – *Еў ты яглы? – Якія яглы? / – Тыя, што спаць палеглі* (з прыпеўкі). Данілоўка.

**Я́ЛАВІНА** *ж.* Аблога, гуляшчае поле. *Пасей жыта на ялавіні.* Данілоўка.

**ЯРЧУ́К** *м.* Злы, сярдзіты сабака. *Ет[ы] ярчык усіх сабак перакусае.* Данілоўка.

**ЯРЧЭ́ЙШЫ** *прым.* Больш сярдзіты, зьлейшы. *Наша сабака ярчэйшы за вашага.* Данілоўка.

**ЯСЬНЕ́ЦКІ** *прысл.* Ясны. *Забалела цела ясьнецкае бела.* Чэрнін.

*І. У. Галуза*

## ЛЕКСІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПАРЫЧЧЫНЫ: АСАБЛІВАСЦІ ЎПАРАДКАВАННЯ

Словазбор «Лексічныя матэрыялы Парыччыны» складзены на аснове тэксту артыкула С. Некрашэвіча «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс)»[1]. Пры апрацоўцы матэрыялаў артыкула было вырашана захаваць фанетычны спосаб падачы загаловачных слоў і ілюстрацыйнага матэрыялу, пры гэтым тлумачальную частку (пры яе наяўнасці) падаць, як і ў «Слоўніку Парыччыны», з захаваннем асаблівасцей арфаграфіі 20-х гг. XX ст. Адной з асаблівасцей словазбора з'яўляецца тое, што яго рэестр сфарміраваны на аснове лексем, прыведзеных для ілюстрацыі пэўнай моўнай з'явы ці асаблівасці. Натуральна, што значная частка абазначальных сродкаў падавалася С. Некрашэвічам не ў пачатковай форме, а як форма ў сістэме змяняльнай парадыгмы. Зараз, пры падрыхтоўцы матэрыялаў да друку, няма магчымасці праверыць правільнасць перадачы некаторых фанетычных рыс, характэрных для гаворак Парыччыны і адлюстраваных у асобных словах ці іх формах, таму рэканструяваныя намі пачатковыя формы ў адрозненне ад лексічных адзінак, указаных складальнікам, падаюцца малымі літарамі тлустым шрыфтам. Рэестравыя словы, выкарыстаныя С. Некрашэвічам, прыводзяцца адпаведна вялікімі літарамі тлустым шрыфтам, напрыклад:

**вярста́**, **ўярста́**, **верста́** *ж. Вярстоў* [Р. мн.]. Палянкі. *Сто ўёрст.* Данілоўка. *П'яць ўёрст.* Данілоўка. *Дзесець версьце́.* Раманішчы.

**ВЫСО́КІ**, **ВІСО́КІ**, **ВУСО́КІ** *прым. Высо́кі на рост.* Парычы. *З высо́кага га́ю.* Парыччына. *Ко́сьцік высо́кага ро́сту.* Парычы. *Вісо́кі.* Данілоўка, Пакалічы, Парыччына. *З вісо́кага га́ю.* Чыркавічы. *Вусо́кі.* Чэрнін. *По вусо́кам.* Чыркавічы. *По вусо́кам бе́разі.* Чыркавічы.

**нага́**, **НЫГА́** *ж. Нагі́.* Парыччына. *Но́гу.* Заазер'е. *Вол занепа́ў на но́гі.* Данілоўка. *Нага́мы.* Васілёўка. *Ныга́.* Ліпнікі. НО́ЖКА *ласк. На но́зцы.* Чэрнін. *На но́сцы.* Чэрнін. *Но́жыкі* (з песьні). Чыркавічы.

Пры наяўнасці некалькіх фанетычных, акцэнталагічных, марфалагічных варыянтаў на першае месца пасля апрацоўкі ставіцца найбольш набліжаная да літаратурнай мовы адзінка:

**бува́ць**, **буўа́ць**, **буа́ць** *незак.* [Бываць]. *Бува́ла.* Васілёўка. *Буўа́юць.* Чыркавічы. *Буўа́ла.* Васілёўка, Парыччына. *Буа́ла.* Дуброва, Слабодка.

**КУ́РА**, **КУРА́** *ж. Ку́ра.* Парыччына. *Кура́.* Чэрнін. *Ку́ры седзя́ць на се́далі.* Парыччына. *Курэ́й.* Парыччына. *З курмі́.* Пратасы.

**ЛІ́ТАР** *м.*, **ЛІ́ТРА** *ж. Лі́тар.* Чэрнін. *Лі́тра.* Парыччына. *Каб лі́тру ву́піла, то мо б і сьпе́ла.* Чыркавічы.

**БРА́ТКА**, **БРА** *м. Грабі́ся, бра́тка, на берэжо́чик.* Краснаўка. *Бра.* Парыччына. *Во́страя ў цебе́, бра, каса́.* Чэрнін. *Я таэ́, бра, ску* [Я табе, братка, скажу]. Слабодка.

Трансфармаваныя формы некаторых назоўнікаў, займеннікаў і іншых часцін мовы выносяцца ў рэестравую частку. Іх змяшчэнне ў рад рэестравых адзінак робіцца дзеля таго, каб акцэнтаваць увагу даследчыкаў на тых працэсах, што мелі месца ў тагачасным маўленні, напрыклад: *бра́тка, бра*; *бог, бўог, бох, ба, бо*; *мо́жа, мо* і пад.

[1] Некрашэвіч С. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс) // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук (Працы клясы філялёгіі). Менск, 1929. Кн. 9. Т. 2. С. 159–244.

пры апрацоўцы адлюстраваны як аманімічныя, і пяць амонімаў (*касьцёр*, *кла́дка*, *мя́ліца*, *ую́н*, *спусьцíць*), вылучаных І. Бялькевічам, пададзены як шматзначныя:

**ШУМ** *м.* Шум; глухі гук. *Шум па лі͡эсі пашоў.* Варонічы.

**ШУМ** *м.* Пена; пеністы налёт на паверхні супу і пад. *Зьнімі з гаршка шум.* Варонічы.

**УЮ́Н** *м.* 1. Уюн (рыба). *Налавіў поўны кошык уюноў у рэццы.* Шулякі. 2. Вяртлявы хлопец. *От ужэ уюн некі: ні пасядзіць на месьці, круціцца, бегае.* Шулякі.

З наяўных ілюстрацый у чатырох выпадках (*ацóўкнуць*, *бацьвінё*$^{я}$, *бу͡ок*, *шыша́к*) адназначныя лексемы былі аформлены як шматзначныя (дададзена другое значэнне):

**ШЫША́К** *м.* 1. Гронка. *Урадлівая каліна – шышака каля хунта.* Шулякі. 2. Шышак; вялікая колькасць насякомых, якія сабраліся ў адзін ком. *Мамка, мама, на вішні шышак пчолаў вісіць!* Шулякі.

4. Пры запісе слонімскага лексічнага матэрыялу Іван Бялькевіч ужыў шмат разнастайных сімвалаў для адлюстравання спецыфічных фанетычных рыс гаворкі з галіны вакалізму: *ô*, *ê*, *ê̂*, *э̂*, *â*, *є* і інш.

Як вядома, для гаворак Слонімшчыны, што ўваходзяць у гродзенска-баранавіцкі структурны тып паўднёва-заходняга дыялекту, характэрны «закрытыя» галосныя сярэдне-верхняга пад'ёму [ô] і [ê], якія раэлізуюцца ў закрытых складах пад націскам і «маюць досыць шырокі дыяпазон якаснай своеасаблівасці» [2, с. 165]. Пры аналізе слонімскага матэрыялу было заўважана, што сімвал *ô* І. Бялькевічам ужываецца ў 79 выпадках, прычым у 50 – для азначэння пэўнага гука пад націскам (як у адкрытых, так і ў закрытых складах) і ў 29 – у становішчы не пад націскам у канцавым адкрытым складзе, напрыклад: *ôн*, *а тô*, *бô*, *бôйка*, *бôт*, *бôтка*, *бôк*, *бôльш*, *бражджôтка*, *бярôска*, *вôл*, *вôсь*, *вазôў*, *валачôбнікі*, *жôнку*, *кôнь*, *лôжак*, *мôжно*, *мôй*, *мôцны*, *Міхалôўскі*, *мнôго*, *нôч*, *на гôрцы*, *пôзно*, *памôрак*, *парôс*, *свôй*, *у снапôх*, *спôрны*, *спôзьнісься*, *тôлькі*, *твôй*, *халôднае* і інш.; *барэлкô*, *бацькô*, *бялюткô*, *Вадохрышчô*, *валачôбнô*, *валачôбнагô*, *вышлô*, *гэтô*, *жытô*, *ліхô*, *мнôгô*, *нêштô*, *пабêглô*, *сêнô*, *сэрцô*, *таткô*, *татулькô*, *труднô* і інш.

Таксама адзін раз у пазіцыі пад націскам сустракаецца дыфтонг *у͡о* (*куо~*сё*) і ў той жа лексеме ў прыкладзе – *о з прыгукам у* (*к*$^{у}$*осё*), а ў іншай лексеме ў падобнай пазіцыі – *у з прыгукам о* (*разу*$^{о}$*мная*). Такі запіс фанемы [о] можа мець месца, бо «фіксуюцца ... у адзначаных умовах і становішчы не манафтангічныя (аднастайнагучныя) галосныя [ê] і [ô], а дыфтонгі (двухгукі) [і͡е (ы͡е)] і [у͡о] і інш.» [2, с. 165], але «за падобнымі запісамі ... трэба бачыць, напэўна, не канстатацыю дыфтонгавасці гэтых галосных, а тое, што яны з'яўляюцца «прамежкавымі» адпаведна паміж [е] і [і (ы)] і [о], [у] і валодаюць якасцямі двух гукаў, а не паслядоўным спалучэннем іх у адно цэлае» [2, с. 165].

Да таго, у запісах І. Бялькевіча прысутнічаюць наступныя тыпы закрэсленняў, што, відавочна, перадаюць ваганні складальніка словазбору адносна перадачы гука няпэўнай якасці ў канцавым адкрытым складзе: 1) сімвал *а* закрэслены і выпраўлены на *ô* (4 выпадкі): *Вадохрышчô~~а~~*, *кепск~~а~~ô*, *мал~~а~~ô*, *хутк~~а~~ô*; 2) сімвал *а* закрэслены і выпраўлены на *о* (6 выпадкаў): *за гэт~~а~~о*, *нов~~а~~ое*, *ня скісл~~а~~о*, *нêшт~~а~~о*, *сцоўкл~~а~~о*, *Янк~~а~~о*. Разнастайнае афармленне закрытага гука [*ô*] І. Бялькевічам пацвярджае назіранне А. Крывіцкага пра тое, што «закрытыя [ê] і [ô] – гэта гукі, якія займаюць месца адпаведна паміж галоснымі [е], [і (ы)] і [о], [у] з рознай ступенню блізкасці да таго ці іншага з адпаведнай пары» [2, с. 163–164] і што ў гродзенска-баранавіцкіх гаворках названыя гукі «зусім невыразныя і непаслядоўныя па ўжыванню» [2, с. 176].

Сімвал *ê* І. Бялькевіч ужыў 26 раз для перадачы фанемы [е] у націскным становішчы часцей за ўсё ў адкрытых складах: *бêль*, *вясêлê̂*, *каля лêсу*, *лêвы*, *лêс*, *нêкалі*, *нêку блєшанку*, *нêхта*, *нêшт~~а~~о*, *нêштô*, *на гумнê*, *на кêрмаш*, *на лêвым воку*, *ні ўмêю*, *ня вêдаеш*, *па лêсі*, *па сêнô*, *паêхаў*, *пабêглô*, *пацукê*, *пераêхаць*, *пры мнê*, *табê*, *у гумнê*, *у маêй*, *хлêба*.

Пры падрыхтоўцы матэрыялу да друку яго трэба было ўніфікаваць і прывесці ў сістэму, у сувязі з чым: 1) сімвал *ô* ў націскным становішчы быў аформлены як дыфтонг *у͡о*: *ву͡ол*, *жу͡онку*, *ку͡онь*, *ку͡осё*, *разу͡омная*, а ў ненаціскным становішчы ў канцы слова – як гук *о* з прыгукам *а*: *бары͡элко*$^{а}$, *валачу͡обнаго*$^{а}$, *вышло*$^{а}$, *гэто*$^{а}$, *жыто*$^{а}$, *ліхо*$^{а}$, *пабі͡эгло*$^{а}$, *сэрцо*$^{а}$, *татко*$^{а}$, *трудно*$^{а}$; 2) сімвал *ê* перададзены як дыфтонг *і͡е*: *кі͡эрмаш*, *на лі͡эвым*, *паі͡эхаў* і інш.

Закрыты гук [о] у становішчы пасля мяккага зычныга, які на пісьме І. Бялькевічам перадаецца як *ё* «з шапачкай», у 16 выпадках сустракаецца ў пазіцыі пад націскам у закрытым складзе, адзін раз – пад націскам у адкрытым складзе (*ё̂н, не давё̂ў, пасьвісьцё̂л, пацё̂с*; *пасьвісьцё̂лы* і інш.) і яшчэ 9 разоў – у ненаціскным становішчы ў адкрытым канцавым складзе (*бацьвінё̂, во́лё̂, дабраё̂, за вясё̂лё̂, засталосё̂, зламаўсё̂, на полё̂, назьбіраласё̂* і інш.). Адзінкава ў рукапісе ў складальніка сустракаецца закрэсленае выпраўленне: *заблудзіўс~~я~~ё.* Па аналогіі з афармленнем гука, абазначанага сімвалам *ô*, і маючы на ўвазе хістанні складальніка, у націскным становішчы «закрыты» *ё* быў аформлены як дыфтонг *ю͡о*, а ў ненаціскным становішчы ў канцы слова – як *ё з прыгукам я*: *пасьвісьцю͡ол, пацю͡ос, ю͡он*; *дабраё$^{я}$*, *заблудзіўсё$^{я}$*, *на полё$^{я}$* і інш.

Закрыты гук э (перадаецца І. Бялькевічам як э «з шапачкай») сустракаецца 3 разы ў пазіцыі пад націскам у закрытым складзе (*барджэ̂й, барэ̂лкô*) і 4 разы – пад націскам у адкрытым канцавым складзе (*валэ̂, каравэ̂, ратэ̂, шчурэ̂*). Па аналогіі з афармленнем гука *ê* закрыты э быў аформлены як дыфтонг *ы͡э*: *бары͡элко$^{а}$*, *каравы͡э*, *шчуры͡э* і інш.

Адзінкава ў запісах І. Бялькевіча сустракаецца закрыты гук *а*: *ў імбрычâк*. Маючы на ўвазе запіс «*да$^{ы}$ белі няма*» ў арыгінале рукапісу і тое, што закрытага *а* не існуе ў беларускіх гаворках, такое напісанне было заменена на *а$^{ы}$* (*а з прыгукам ы*): *ў імбрыча$^{ы}$к.*

Для паўднёва-заходніх гаворак характэрна дысімілятыўнае яканне, прычым «галосны можа быць і выразным гукам [а], але можа таксама нагадваць у той ці іншай ступені гук [е], ...займаць становішча недзе паміж [а] і [е] па сваёй якасці; ...у транскрыпцыі яго перадаюць як е$^{а}$ або, наадварот, а$^{е}$» [2, с. 162]; такі гук «назіраецца і ў складах пасля націску» [2, с. 162]. Матэрыял, зафіксаваны І. Бялькевічам, ілюструе, што ў ненаціскных складах пасля мяккіх зычных могуць рэалізоўвацца наступныя галосныя гукі: 1) [а]: *ня вельмі, ня йдзе, няма, ўмярла, ня крыўдуйся, ня ўжывецца, ня прыехаў, ледзьвя*; 2) [э]: *дзеўчынка, палегчае, не насіла, зеленкаваты, выбеліць, каменем, вывесіць*; 3) [і]: *ні вадзіць, німа, ні прайці, ні бачылі, ні лезь, ні зрабілі.*

Для перадачы няпэўнага гука [а$^{е}$], які рэалізуецца ў адпаведнасці з націскнымі галоснымі [о] і [э] у ненаціскным становішчы пасля мяккіх зычных у пераднаціскных і паслянаціскных складах, магчыма, І. Бялькевічам быў уведзены сімвал *є* (сустракаецца ў 17 адзінках): *бєдаваць, блєша́нка, блєшанку, будзє, валєваты, гнєды, дужалісє, єна, звалілісє, зелєнкаваты, знойдзє, нє бацько, нєхай, навєт, по́сьлєй, поєзд, прынєсу.* Пры апрацоўцы матэрылу гэты сімвал захаваны без змен.

У рукапісных запісах многія лексемы захавалі, безумоўна, пошук складальнікам такога абазначэння, якое б максімальна дакладна абазначыла гук [а$^{е}$], а менавіта: 1) у 4 лексемах літара *я* закрэслена і выпраўлена на *є*: *м~~я~~єне, н~~я~~є бачылі, с~~я~~єло, як б~~я~~єз рук*, а ў 2 выпадках – на *е*: *вы~~я~~е, пашы~~я~~е*; 2) у 2 словах літара *я* пададзена з прыгукам *є*: *валя$^{є}$ва́ты, ня$^{є}$ма*, а ў 3 – з прыгукам *е*: *вя$^{е}$рша́к, дзя$^{е}$цукі, забя$^{е}$ліць*; 3) адзінкава побач з літарай *е* ў дужках пішацца літара *я*: *лае(я).* Ва ўсіх адзначаных выпадках такі галосны няпэўнай якасці афармляецца як *е$^{я}$*: *ме$^{я}$не, не$^{я}$ бачылі, се$^{я}$ло, як бе$^{я}$з рук, вые$^{я}$, пашые$^{я}$, вале$^{я}$ва́ты, не$^{я}$ма, ве$^{я}$рша́к, дзе$^{я}$цукі, забе$^{я}$ліць, лае$^{я}$.*

Зазначана ў рукапісе і 8 выпадкаў, дзе Іван Бялькевіч хістаўся пры вызначэнні гука ў ненаціскным становішчы, які па якасці знаходзіцца паміж [е] і [і], прычым не зразумела, што першасна было закрэслена – е ці і: *вянк~~е~~і, на луз~~і~~е, н~~е~~і запаліце, н~~е~~і знойдзє, н~~е~~і памагае, н~~і~~е рашпілю, ўгледз~~і~~еў, у хац~~і~~е.* У такіх выпадках такі гук афармляўся як *і з прыгукам е*: *вянкі$^{е}$, на лузі$^{е}$, ні$^{е}$ запаліце, ні$^{е}$ знойдзє, ні$^{е}$ памагае, ні$^{е}$ рашпілю, ўгледзі$^{е}$ў, у хаці$^{е}$.* У двух выпадках, дзе ў першым пераднаціскным складзе я выпраўлена на і (*н~~я~~і дасьць нікому прайці, памыць н~~я~~іма калі*), лексемы падаюцца з гукам *і$^{я}$*: *ні$^{я}$ дасьць нікому прайці, памыць ні$^{я}$ма калі.*

І. Бялькевіч у сваім словазборы адзначыў і такую асаблівасць паўднёва-заходніх гаворак, як няпоўнае аканне і яканне. Так, у адкрытых канцавых складах можа, як і пад націскам, рэалізоўвацца гук *о*, напрыклад: *бало́то, быдло, крэ́сіво, лето, мятлі́шчо, волё, цапільнё, добраго, падласаго, добро, много, нехто, нічого, бало, буяло, падзеласё, задажджы́ласё* і інш.

Незразумелае абазначэнне гука сімвалам *ё* з дзвюма кропачкамі над ім (*пла́цё*), хутчэй за ўсё, абазначае гук э *з прыгукам о*, таму на пісьме было перададзена як *е$^{ё}$*: *пла́це$^{ё}$.* Гук *ї*, які, відаць,

абазначае нешта сярэдняе паміж [і] і [й], захаваны цалкам, напрыклад: *їмглістыя*. Адзначым, што *і* ў пазіцыі пасля зычнага досыць паслядоўна перадаецца як *й*: *з бандаркі й жыве*, *калі й вытне*, *ну й браціха*.

Закрэсленні або хістанні ў І. Бялькевіча тыпу *у знаёмыум лесі*, *у гэту(ы)м годзі*, *блінцыэ* захоўваліся і афармляліся як «пэўны гук з прыгукам», бо сведчаць пра няпэўную якасць гука *у*: *у знаёму$^{ы}$м лесі*, *у гэту$^{ы}$м годзі*, *блінцэ$^{ы}$*.

Адлюстравана таксама І. Бялькевічам і замена нелабіялізаваных галосных на лабіялізаваныя ў пазіцыі перад наступным губным зычным: *бурдóвы*, *на нашум* і інш.

З галіны кансанатызму ўкладальнік слонімскага словазбору адлюстраваў наступныя рысы: 1) асіміляцыйную мяккасць: *назьбіралася*, *сёньня*, *сьнег*, *сьпірáцца*, *расьце*; 2) адсутнасць фанетычнага падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы: *да галья*, *зелье*, *касьё*, *зáвязю*, *каменё*, *сёні*, *увачу*; 3) прыпадабненне шыпячых да свісцячых і наадварот: *сьпіраесься*, *у рэччцы*, *бражджôткаю*, *шчарсьцьвее*, *рашпілю*; 4) асіміляцыю па глухасці: *апселі*, *бярô*ска*, *дошч*, *з нох*, *натта*, *па-люцку*, *потстаўкі*, *цяшкая*, *з гаршка*; 5) замену гука *ф* на *п*, *т*: *у Анопрая*, *кампóра*, *картоплю*, *Тодар*; 6) наяўнасць і адсутнасць (або розная якасць) прыстаўных у аднолькавай пазіцыі: *ганýчнік* і *анýчнік*, *анучы* і *ганýча*, *гарабіна* і *верабіна*, *павостраны*; 7) распадабненне зычных, іх перастаноўку: *андáць*, *брýшка* (бручка), *сьлюз*, *блішнявы*, *паляруш*; 8) перад галосным [а] мае месца мяккі губны з выразным [й]: *пьяць* і многае іншае.

Заўважым, што зычныя з прыгукам, які падаваўся складальнікам у дужках (*каб(п) на вас трапянё напало*, *каб(п) на цябе*, *парг(д)ан*, *нашто ж вы хлеб(п) раскідаеце*), аформлены адпаведным чынам: *каб$^{п}$ на вас*, *каб$^{п}$ на цябе*, *парг$^{д}$ан*, *хлеб$^{п}$ раскідаеце*. Такім жа чынам аформлены і зычныя, якія не зусім ясныя ў маўленчай плыні: напрыклад, замест *сва(й)го балота* – *сва$^{й}$го балота*.

5. З боку граматычнага ладу І. Бялькевіч выразна адлюстраваў наступныя асаблівасці: а) канчатак -э ў назоўным склоне ў назоўніках жаночага і мужчынскага роду: *баўтунэ*, *бугае*, *дактарэ*, *каравê*; б) канчатак *-і* ў месным склоне адзіночным ліку, які маюць назоўнікі любога роду з розным характарам зычнага ў аснове: *па лêсі*, *на пералазі*, *ў дарозі*, *у хаці*, *на купіні*, *у жыці*, *па целі*, *у сукайлі*, і канчатак *-ох* у множным ліку: *ў бунтох*, *у снапôх*; канчатак *-ом* у давальным склоне множным ліку: *парасятом*; в) характэрны прыметнікі ніякага роду з канчаткам *-аё* ў назоўным склоне: *гарчэйшаё*, *гладкаё*, *сьмешнаё*, *цэлаё*, прыметнікі жаночага роду з канчаткам *-ае* ў родным склоне: *да халôднае вады*, *з аднае верабіны*; г) формы былога парнага ліку: *двое коні*, *дзьве баразьне* і інш.

Значная большасць рэестравых лексем суправаджаецца граматычнымі паметамі: *ж. р.*, *м. р.*, *н. р.*, *мн. л.*, *зб.*, *прм.*, *дзс.*, *злуч.*, *выкл.* Прычым пры назоўніках любога роду (і ў множналікавых таксама) падаецца канчатак роднага склону адзіночнага ліку (або частка асновы): ***Вáда**, ы, ж. р.*, ***Шум**, у м. р.*, ***Бýсел**, сла, м. р.*, ***Лунó**, а. н. р.*, ***Атóчыны**, чын, мн. л.* Пры прыметніках могуць быць пададзены канчаткі ва ўсіх трох радах: ***Спôрны**, ая, аё, прм.* Пры апрацоўцы матэрыялу да ўсіх лексем ўказаны граматычныя паметы, прынятыя ў сучаснай лексікаграфіі; канчаткі назоўнікаў у Р. скл. адз. л. зняты з прычыны іх несістэматычнага адлюстравання.

6. У адпаведнасці з лексічным значэннем і пазнакамі аўтара да некаторых лексем былі дададзены наступныя канататыўныя паметы: 1) *лаянк.* (*гýнсват*, *пamóрак*), 2) *памянш.-ласк.* (*бахóнчык*, *жмéнька*, *ражэ́нчык*), 3) *ласк.* (*байстручóк*, *бачóк*).

7. Пераважная большасць рэестравых лексем была патлумачана І. Бялькевічам праз сінонім (83 лексемы), прычым у 23 выпадках – праз два сінонімы і яшчэ ў двух выпадках – праз тры, напрыклад: ***Бадыль**, я. м. р. Калючка*; ***Заве́дзгаць**, дзс. Забрудзіць, запэцкаць.*

Апісальна было вытлумачана 135 лексем, прычым большая частка – праз словазлучэнне (71 адзінка), а меншая – праз сказ (67 адзінак): ***Тапарышчо**, а. н. р. Ручка да сякеры*; ***Мянтýшка**, і. ж. р. Дзеравяная лапатка з дзірачкамі, або равочкамі, з абодвых бакоў, якая абмазваецца жарствою, служыць да вастрэння касы.* Адзначым, што апісальнае тлумачэнне разам з сінонімам суправаджае яшчэ 17 лексем: ***Цыравáць**. Штопаць, зашываць без латкі.*

Да 27 фанетычных дыялектызмаў аўтарам быў пададзены ў якасці тлумачэння іх літаратурны адпаведнік: ***Сакéра**, ы. ж. р. Сякера.* У 30 выпадках, па сутнасці, зафіксаваны агульнаўжывальныя беларускія лексемы, пра што сведчыць тлумачэнне, якое паўтарае рэестравае слова: *баркýн, барсýк, бýсел, брáга, бôт, блыхá, бля́ха, вáпна* і інш. Заўважым, што ў 7 выпадках значэнне лексемы ўдакладняецца праз сінонім, а ў трох – праз апісальнае словазлучэнне: ***Блінéц**, нца, м. Блінец, аладка*; ***Брóвар**, а. м. р. Бровар, вінакурны завод.*

Дзве лексемы, што з'яўляюцца памяншальна-ласкальным формамі ад адпаведных назоўнікаў, былі вытлумачаны адсылкай «*пам. ад*»: ***Байстручóк**, чка. м. р. Пам. ад байструк*; ***Бахóнчык**, а. м. Пам. ад бохан, булка хлеба.* Яшчэ дзве лексемы (*брацíха, ганýчнік*) суправаджаюцца адсылкай на раней вытлумачаную лексему: ***Брацíха**, і. ж. р. Братавая, гл.*

Назвы раслін (13 адзінак) вытлумачваюцца разнастайнымі сродкамі (праз літаратурны адпаведнік, сінонім, апісальнае словазлучэнне і інш.), але абавязкова з указаннем іх лацінамоўнай назвы: ***Булíнá**, ы. ж. р. Быльнік (Artemisio vulgaris* L.*)*. У двух агульных назоўніках (*цýнтар, імбры́чак*) І. Бялькевіч, відавочна, хацеў паказаць этымалогію і шляхі з'яўлення слова ў беларускай мове, таму змясціў побач з апісальным тлумачэннем вытворнае нямецкае ці турэцкае слова: «*спаленая анучка, ужываецца для крэсіва агню, an zünden*» і «*пасудзіна, у якой завараюць чай, ibryk*». У двух выпадках (*блёкат, спôрны*) загалоўнае слова дадаткова тлумачыцца праз рускі адпаведнік: «*бот. Hyoscyatus niger* L. – *белена*» і «*той, што спорыцца, у вялікай колькасьці (обильный)*».

Пры падрыхтоўцы матэрыялу да друку ў дэфініцыі, прапанаваныя І. Бялькевічам, уносіліся нязначныя змены. Па-першае, больш чым у 65 лексемах праз коску з кропкай пасля літаратурнага адпаведніка дублiруюецца іх значэнне, гэта тычыцца: 1) паняццяў, якія могуць быць незразумелыя сучаснаму чытачу (назвы розных сельскагаспадарчых прыстасаванняў, тэрмінаў з будаўнічай тэрміналогіі і інш.), 2) назваў раслін, 3) аманімічных і шматзначных слоў. Напрыклад:

**НАРÓГ** *м.* Лямеш, нарог; частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу. *Аручы на захвоішчы, нарог зламаў: заўтра да каваля трэба ехаць.* Варонічы.

**БАРКÝН** *м.* Баркун; меданосная араматычная расліна сямейства бабовых з белымі і жоўтымі кветкамі. *На гу͡орцы аўсу сусім німа, адзін баркун пару͡ос.* Варонічы.

**БРАЖДЖУ͡ОТКА** *ж.* Трашчотка; прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараюць трэск, шум, стук, лёскат. *Голаў адурыць ю͡он сваею бражджу͡откаю за цэлы дзень. Пакінь, бо паламлю і ў печ укіну!* Варонічы.

Адзначым, што тлумачэнні, якія ўтрымліваюць багата этнаграфічных звестак, захоўваліся практычна цалкам:

**КÓЛО** *н.* Прылада катацца на санях; да ўбітага ў лёд кала прымацоўваецца жэрдка, да канца якой прывязваюцца сані; піхаючы ўперад жэрдку каля кала, развіваюць вялікую хуткасьць бегу санак па крузе, што апісвае процілеглы калу канец жэрдкі. *Хлопцы на лузі*[е] *коло зрабілі.* Варонічы.

Па-другое, усе іншамоўныя адпаведнікі апускаліся, як і адсылачныя пазнакі.

Па-трэцяе, 9 лексем, зафіксаваных Іванам Бялькевічам, не суправаджаюцца ні тлумачальнай часткай, ні ілюстрацыяй: *іскáць, клóчо, павéсмо, пáчасы, стаўпéц, трапýшка, трацячóк, цéрніца, швóран.* Яшчэ 17 лексем (*бо, вы́скаліць, задажджы́цца, уíон, цёплы* і інш.) суправаджаюцца ілюстрацыяй, але без указання значэння. Пры апрацоўцы матэрыялу да такіх адзінак дадавалася азначэнне, згодна з тлумачэннем падобных адзінак у іншых дыялектных слоўніках, дзе зафіксаваны лексічныя набыткі дадзенага рэгіёна:

**КАСЬЦЁР** *м.* Касцёр, вогнішча. *Як павалілі касьцёр дроў, так полам'ё аж да галья дастае.* Варонічы.

Заўважым, што ўдакладненні і паясненні ў тлумачальнай частцы і ў прыкладах афармляюцца ў круглых дужках; гэта тычыцца і памет жанравай маркіраванасці. У выпадку, калі дэфініцыя не была пададзена складальнікам і лексема не можа быць патлумачана, замест дэфініцыі змяшчаецца пытальнік у квадратных дужках:

**КЛÓЧО** *н.* [?]. Варонічы.

Калі ж лексема можа быць патлумачана з улікам аналізу існуючых дыялектных словазбораў, але аўтарам пры гэтым патлумачана не была, пытальнік змяшчаецца ў канцы слоўнікавага артыкула:

**СТАЎПЕ́Ц** *м.* Стаўпец; драўляны брусок у граблях, у які заганяецца зуб'е [?]. Варонічы.

Пытальнік ставіцца і ў прыкладах замест тых слоў, якія расчытаць не ўдалося, а таксама пры няпэўнасці націску ў загаловачным слове:

**ТРАПУ́ШКА** *ж.* Драўляная лапатка, пры дапамозе якой трэплюць лён. *Трапушка цяшкая, рука забаліць [?] трэплючы.* Шулякі.

**ЎРУКАПАШ** [націск ?] *прысл.* Уручную. *Наша арха сапсавалася і няма чым архаваць, прыдзецца веяць ўрукапаш.* Какошчыцы.

8. Звычайна кожная рэестравая лексема (або яе значэнне) суправаджаецца адным прыкладам, пры гэтым больш чым у 30 выпадках І. Бялькевіч прыводзіць па 2 прыклады на загалоўнае слова:

**АТО́ЧЫНЫ** *мн.* Тлушч і сала з кішак. *Ня кідай аточын у лой, бо будзе кішкамі тхнуць.* Варонічы. *Аточыны асобна трэ' наратапіць.* Варонічы.

Два разы складальнік у якасці ілюстрацыі прыводзіць прымаўкі: *Важаны гарох хутко[а] есца*; *Прышоў багач – кідай рагач, а бяры борану*, і адзінкава – радкі песні:

**ПАЛЫ́Н** *м.* Палын. *Палын – трава горка, горка, / Жыцё маё гарчэйшаё* (з народнай песні). Варонічы.

На аснове матэрыялаў словазбору з прыкладаў былі вылучаны (і афармлены адпаведным чынам) наступныя ўстойлівыя адзінкі: тры фраземы (*каду́к яго́ ве́дае*, *ле́жма ляжа́ць*, *спусьці́ць ску́ру*), адно тэрміналагічнае спалучэнне (*спусьці́ць пасьвісьцё́л*), адна прымаўка (*Бало, буяло, а цяпер і рыкаць ня хоча*).

Толькі 9 лексем (*персьць*, *пярэ́зімак*, *пярэ́летка* і інш.) у словазборы не забяспечаны ілюстрацыяй.

9. Кожны прыклад у слонімскім словазборы ўтрымлівае лінгвістычны пашпарт, што складаецца з поўнай назвы вёскі, скарочанай назвы павета і губерні (напрыклад, *Слонім. п. Горадз. г.*). Пераважная большасць лексем зафіксавана ў вёсцы Варонічы (83,7%), зусім нязначная – у вёсках Шулякі (14,4 %), Какошчыцы (1,43%), Добры Бор (0,47%). Пасля апрацоўкі кожны прыклад суправаджае запіс поўнай назвы вёскі. Да тых лексем, што былі змешчаны складальнікам без прыкладу і, адпаведна, без указання месца фіксацыі, была ўказана вёска Варонічы.

Такім чынам, слонімскі словазбор І. Бялькевіча ўяўляе сабой угрунтаваны па фанетычным прынцыпе дыферэнцыйны даведнік, агульная колькасць слоўнікавых артыкулаў у якім пасля апрацоўкі (аб'яднання фанетычных варыянтаў, размежавання мнагазначных слоў і амонімаў, афармлення адпаведным чынам устойлівых адзінак і пад.) склала ***339***. Практычна ўсе лексемы суправаджаюцца адным ці двума прыкладамі і дакладным лінгвістычным пашпартам. «Словы Слонімскага павета» – гэта важкі і грунтоўны ўнёсак у даследаванне гродзенска-баранавіцкіх гаворак.

**Літаратура**

1. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Ф. № 38: Бялькевіч Іван Кандрацьевіч. – Воп. 1. – Адз. зах. 31: Картатэка слоў Слонімскага павета, абраная І. К. Бялькевічам.

2. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы / А. А. Крывіцкі. – Мінск, 2003. – 294 с.

*І. Бялькевіч*

## СЛОЎНІК СЛОНІМСКАГА ПАВЕТА

Падрыхтавала *І. У. Галуза*

**АБА́ПАЛ** *прыназ.* З абодвух бакоў. *Абапал дарогі гарох пасеяў – хто будзе йці, той сарве.* Варонічы.

**АБАРА́НАК** *м.* Абаранак. *Татко$^{а}$ паі͡эхаў на кіэ͡рмаш купіць мне абаранка.* Варонічы.

**АБЕ́РУЧ** *прысл.* Абедзьвюма рукамі. *Аберуч учапіўся за грыву ды крычыць.* Варонічы.

**АЙЧЫ́М** *м.* Айчым; муж мацеры ў адносінах да яе дзяцей ад першага мужа. *Айчым у мяне добры – як бы й родны бацько.* Варонічы.

**АКО́ПАК** *м.* Слупок у паркане. *Акопкі падгнілі – і паркан паваліўся.* Варонічы.

**АКЫ́Ч** *выкл.* Акыш; выгук, якім падзываюць ці адганяюць авец. *Акыч, куды пашлі, акыч у хлеў!* Варонічы.

**АКЯНІ́ЦА** *ж.* Аканіцы; дашчаныя або жалезныя створкі, якімі закрываюцца вокны знадворку. *Ідзеце туды далей, там будзе хата з зялёнымі акяніцамі, а каля гэтае хаты, с таго боку, і будзе Рыгорава хата.* Варонічы.

**АНДА́ЦЬ** *зак.* Аддаць. *Дзяцукі, андайце гуску, я больш ня буду пускаць на сунажаць.* Добры Бор.

**АНУ́ЧНІК, ГАНУ́ЧНІК** *м.* Анучнік; той, хто збірае анучы або скуплівае іх у абмен на якія-небудзь тавары. *Зьбірай, Волька, анучы: анучнік едзе. Купі мыла і гузікаў!* Варонічы. *Ганучнік крычыць – бяжы запалкаў вазьмі!* Шулякі.

**АПАЛА́ЦЬ** *незак.* Апалваць; правейваць, ачышчаць ад мякіны крупы, збажыну пры дапамозе апалушак. *– Дзе твая маці? – У гумні͡э лён апалае.* Варонічы.

**АПАЛО́НІК** *м.* Апалонік; вялікая лыжка, якой разліваюць страву. *Зрабі ты, дзеду, апалонік, а то гэты ўжэ пакалоўся і нечым варыва ў міску ўліць.* Варонічы.

**АПУ́КА** *ж.* Скатаная з поўсці галка. *Карова лiняе – паскубі шэрсьці ды скачай апуку, гуляць будзем.* Варонічы.

**А́РХА** *ж.* Арфа; сельскагаспадарчая машына для ачысткі зерня пасля малацьбы ад мякіны і смецця. *Наша арха сапсавалася і няма чым архаваць – прыдзецца веяць ўрукапаш.* Какошчыцы.

**АРХАВА́ЦЬ** *незак.* Арфаваць; ачышчаць арфай зерне ад мякіны і смецця. *Сёньня архаваць будзем, каб ток апаражніць, а то вялікая горба жыта назьбіралася, трэба спратаць.* Какошчыцы.

**АСЫПА́ЦЬ** *незак.* Матычыць; апрацоўваць, рыхліць матыкай. *Пара ўжэ картоплі асыпаць, а то перарастуць.* Варонічы.

**АСЫПА́ЧКА** *ж.* Матыка для асыпкі бульбы. *Асыпаць картоплі пара ўжо, ды асыпачкі не па$^{в}$остраны.* Варонічы.

**АСЬЦЁН (ас$^{ьц}$ён)** *м.* Пуга на доўгім пужальне, што ўжываецца для падгону валоў падчас арання. *Забыўся ўзяць асна, ды цяпер як бе$^{я}$з рук: ня слухаюць валы͡э, дый годзі.* Варонічы.

**АТО́ЧЫНЫ** *мн.* Тлушч і сала з кішак. *Ня кідай аточын у лой, бо будзе кішкамі тхнуць.* Варонічы. *Аточыны асобна трэ' пeратапіць.* Варонічы.

**АЎСЮ́К** *м.* Аўсюк; пустазелле, падобнае на авёс. *У ваўсе завялося шмат аўсюгу.* Варонічы.

**АЎСЯ́НКА** *ж.* Аўсяная салома. *– Зелєнкаваты авёс жняце, хай бы трохі пачакалі. – Нєхай сабе, смашнейшая аўсянка будзе.* Варонічы. *Ржаное саломы карова ня есьць, а аўсянка ўжэ ўся.* Варонічы.

**АЦО́ЎКЛЫ** *дзеепрым.* Малако, якое толькі пачало кіснуць. *Ацоўклым малаком забеліў.* Варонічы.

**АЦО́ЎКНУЦЬ** *зак.* 1. Скіснуць (пра малако). *Зьядайце ўчарашняе малако, бо ацоўкне.* Варонічы. 2. Падкіснуць (пра малако). *Малако яшчэ ня скісло$^{а}$, але ўжэ ацоўкло.* Варонічы.

**БАБО́К** *м.* Бабок трохлісты; балотная травяністая расліна сямейства бабковых з сакаўным трайчастым лісцем. *Нешта грудзі баляць. Напар, т'ко, бабо, бабку, вып'ю, мо палегчае.* Варонічы. *Хворы ўсё. І бабок піў, і мяту, і ўсякаё зелье – нічога ні$^{е}$ памагае.* Варонічы.

**БАБЫЛЁЎ** *прым.* Які належыць бабылю. *На канцы вескі стаіць бабылёва хата.* Варонічы.

**БАБЫ́ЛЬ** *м.* Адзінокі, бессямейны чалавек. *Сымон нешта ня жэніцца, мусіць, увесь век зжыве бабылем.* Варонічы.

**БАГАТЫ́Р** *м.* Багач, кулак. *Ого, Андрэй! Ён жа ў нас багатыр на ўсё се$^{а}$ло.* Варонічы.

**БАГА́Ч** *м.* Багач; свята ўвосень, 8 верасня паводле старога стылю. *На пакровы кермаш у Жыровi, а перад пакровамі, на багача, – у Зэльві.* Варонічы. □ *Прышоў багач – кідай рагач, а бяры борану.* Варонічы.

**БА́ГНА** *ж.* Багна, дрыгва. *Куды ты ўвагнаў быдло, гада ты печаная, та ж яно паграньне ў гэтай багне.* Варонічы.

**БАГУ́Н** *м.* Багун; балотная вечназялёная расліна сямейства верасовых з рэзкім адурманьваючым пахам. *Касіў каля лі͡эсу, а там багун, аж галава разбалелася ад яго паху, а няхай яго паляруш, няхай яго.* Какошчыцы.

**БАДЫ́ЛЬ** *м.* Калючка. *Жнучы, бадылёў у рукі пазаганяў.* Варонічы.

**БАЖБА́** *ж.* Бажба; клятва імем бога. *Ні патрэбна мне твая бажба, ці ж то нельга без яе абыйціся?* Варонічы.

**БАЖЫ́ЦЦА** *незак.* Бажыцца; падмацоўваць свае словы бажбою. *Нашто бажыцца, і так паверым, калі будзеш праўду казаць.* Варонічы. *Ні бажыся дарма, бо бох грудзі паб'е.* Варонічы.

**БАЙСТРУ́К** *м.* Байструк; дзіця ад нявенчаных бацькоў. *Ці чулі? Алена Базылёвых байструка прывяла –*

*на радзіны зьбірайцеся.* Варонічы. БАЙСТРУЧО́К *ласк. Байстручок жа як расьце? Ого, яшчэ як! Хлопец, як сук, здаровы.* Варонічы.

**БАЛАБО́Н** *м.* Балбатун, пустаслоў. *Хто гэто табе казаў? Гэты балабон Міхась? Вер ты яму: ён жа балабоніць, што сьліна к губе прынясе.* Варонічы.

**БАЛАБО́НІЦЬ** *незак.* Балбатаць, малоць лухту. *От, балабоніць німаведама што, а тыя слухаюць, раты͡э паразьзяўляўшы.* Варонічы.

**БА́ЛАВАЦЦА** *незак.* Забаўляцца. *Але ж і балаўнік ваш Пятрусь! Яму ўсе б балавацца, прывучалі б.* Варонічы.

**БАЛАЗЕ́Й** *злучн.* Балазе; тым больш што, добра што, добра, што хоць. *А што я буду рабіць, балазей ме[я]не ні чапаюць.* Варонічы.

**БАЛАЎНІ́К** *м.* Дураслівец, свавольнік. *Перастань балавацца, балаўнік ты гэдакі.* Варонічы.

**БАЛЕ́Я** *ж.* Балея; нізкая, шырокая пасудзіна для мыцця бялізны. *Балея рассохлася, і плаця не[а]ма ў чым памыць, цячэ.* Варонічы.

**БА́ЛО** *часц.* Бывала, раней. *Эй, які тут лі͡эс быў: бало, як глянеш, так шапка звальваецца, такі высокі, а густы ды стромкі.* Варонічы.

**БАЛО́ТО** *н.* Луг, сенакос. *Кандрат, кляпі косу, заўтра пайдзем у балота касіць.* Варонічы. *У нас жа сва[й]го балота німа, дык канюшыну сеем, а сена купляем.* Шулякі.

**БАЛЯ́ЧКА** *ж.* Болька; гнойная або запалёная ранка. *Дайце якое хусьцінкі балячку завязаць на назе: прабіў на нешта.* Варонічы. *Нешта ў дзіцяці балячкі пашлі па целі, каб ня воспа хоць.* Варонічы.

**БА́НДА** *ж.* Банда, гурт хлопцаў-разбойнікаў. *Каб іх паму͡орак пабраў, гэтых хлопцаў, каб іх пабраў! От, як ту͡олькі ноч, так бандаю й ходзяць, зводзяць сабак.* Варонічы.

**БАНДАРАВА́ЦЬ** *незак.* Бандарыць; займацца бандарствам. Варонічы.

**БАНДА́РКА** *ж.* Бондарства; бандарнае рамяство. *Аляксей з бандаркі й жыве: ю͡он добры бондар, очо.* Варонічы.

**БАНДА́РЫЦЬ** *незак.* Бандарыць; займацца бандарствам. *Ю͡он майстар для сябе: трохі сталярыць, трохі бандарыць, навет боты сабе зробіць, але людзям ня хоча, кажа: ня майстар.* Варонічы.

**БАРАЗНА́** *ж.* Баразна. *Дзьве баразьне асталося даараць, і плуг зламаўсё[я], а бавай цябе агонь!* Варонічы.

**БАРАНАВА́ЦЬ** *незак.* Баранаваць. *Трохі адараўся, цяпер баранаваць трэ' ўзяцца.* Варонічы.

**БАРАНІ́ЦЦА** *незак.* Абараняцца. *Як мага бараніся, бо ю͡он цябе сь сьвету зьвядзе.* Варонічы.

**БАРАНІ́ЦЬ** *незак.* Абараняць. *Хлопцы, віхноўцы Якіма б'юць – бяжэм бараніць!* Варонічы.

**БАРВЕ́НАК** *м.* Барвенак; шматгадовая вечназялёная травяністая расліна сямейства кутравых. *Глядзі, які барвенак пару͡ос! Давай саўем вянок.* Варонічы.

**БАРДЖЭ́Й (барджы͡эй)** *прысл.* Хутчэй. *Барджэй, сынку, бяжы, бу͡о спу͡озьнісься.* Варонічы.

**БАРКУ́Н** *м.* Баркун; меданосная араматычная расліна сямейства бабовых з белымі і жоўтымі кветкамі. *На гу͡орцы аўсу сусім німа, адзін баркун пару͡ос.* Варонічы.

**БАРО́ДАЎКА** *ж.* Бародаўка. *От недзе барадавак набралася – усю руку апселі.* Варонічы.

**БАРО́ЦЦА** *незак.* Бадацца. *Ня лезь пад карову, бо ўбора: яна бораца.* Варонічы.

**БАРСУ́К** *м.* Барсук. *Тодар барсука забіў у жыці каля хвоек.* Варонічы.

**БАРЫ́ЛКО (бары͡элко[а])** *н.* Драўляная пасудзіна з двума днамі для вады. *Вазьмі ты, дзеткі, бары͡элко[а], ды зьбегай пад калодзесь, налі вады: зарас на полё[я] пайдзем.* Варонічы.

**БАСАЛЫ́ГА** *ж.* Басалыга, прайдзісвет; пранырлівы, лоўкі, хітры чалавек. *Ты думаеш, зь яго што добраё[я] будзе? Басалыга будзе. Ю͡он і цяпер ні[я] дасьць нікому прайці.* Варонічы.

**БАСАНО́Ж** *прысл.* Босымі нагамі. *Уступіся ў боты хоць басанож ды зьбегай вады прынясі.* Варонічы.

**БАСО́ТА** *ж.* Басата; галадранцы, басякі. *Насабіраецца гэтае басоты і дураць голаў цэлы дзень.* Варонічы.

**БАСЭ́ТЛЯ** *ж.* Басэтля, кантрабас. *На басэтлі йграе.* Варонічы. *У Рыгоравага Міхася есьць і скрыпка, і басэтля.* Варонічы.

**БАЎТУ́Н** *м.* Баўтун; наседжанае без зародка яйцо. *Падлажыла пад курыцу дваццаць яец, та ту͡олькі дванаццацёра куранятак вышло[а], а восім – баўтунэ.* Варонічы.

**БАЦЬВІ́НЁ (бацьві́нё[я])** *н. зб.* 1. Бурачнае лісце і маладыя буракі з лістом. *Пабяжы хуценька ў агарод ды нарві бацьвіня парасятом.* Варонічы. 2. Страва, звараная з бурачнага лісця і маладых буракоў з лістом. *Мы сёня бацьвіня наварылі, садзіся, пакаштуй.* Варонічы.

**БА́ЦЬКАЎ** *прым.* Бацькаў; які належыць бацьку. *Надзень хоць бацькаў кажух ды бяжы барджэй.* Варонічы.

**БА́ЦЬКАЎСКІ** *прым.* Бацькаўскі; які належыць бацьку. *Бацькаўскі хлеб ем, ты мяне ня корміш, браце.* Варонічы.

**БА́ЦЮХНА, БА́ЦЮХНЫ** *выкл.* Выражае здзіўленне, спалох. *А бацюхны ж мае, а што ж гэто[а] робіцца тут!* Варонічы.

**БА́ЧЫЦЦА** *незак.* Сустрэцца. *Ты ня ві͡эдаеш часам, ці дома Сымон: мне зь ім трэба бачыцца.* Варонічы.

**БА́ЧЫЦЬ** *незак.* Бачыць. *Ці ні бачылі вы, дзяцюкі, маго Сымона?* Варонічы.

**БЕ́ГМА** *прысл.* Бягом. *Бегма бяжыць і ніяк ні дагоніць.* Варонічы.

**БЕДАВА́ЦЬ (бєдава́ць)** *незак.* Бедаваць, гараваць. *Німа чаго бедаваць, калі хлеб есьць.* Варонічы.

**БЕЛЬ** *ж.* Белыя ніткі. *Хацела выткаць паясок у крыжыкі, да[ы] белі няма. Ці не асталося ў цябе з маток які?* Варонічы.

**БЕ́РАГ** *м.* 1. Край, паласа зямлі каля вадаёма. *Бераг рака падмыла – абваліцца.* Варонічы. 2. Край тканіны або вырабаў з яе. *Чаму ты не зарубіш берагоў*

*у хустцы – расьцепкаюцца.* Варонічы. 3. Аблямоўка. *Купі гэтую хустку, у ёй натта берагі харошыя.* Варонічы.

**БІ́БУЛ** *м.* Кардон. *Выдраў с шапкі бібул, і куды яна цяпер варта?* Варонічы. *У каго ў шапцы е бібул – давайце, бо мокрыя дрова, трудно[а] запаліць.* Варонічы.

**БІ́РКА** *ж.* Бірка, знак, метка; палачка, на якой нарэзамі вёўся ўлік чаго-небудзь. *Гэта бірка ні ад маіх аўчын: я здау пяць, а тут ту͡олькі чатэры азначана.* Варонічы.

**БІ́ТКА** *ж.* Пабітае яйка. *За гэто[а] яйцо я табе чатэры біткі дам, хочаш?* Варонічы.

**БІЧАЎНІ́К** *м.* Дамба. *Ідзі бічаўнікам, бо балотам ні пройдзеш: сьлюз заперты, вады много.* Варонічы.

**БЕЛЬ (бі͡эль)** *ж.* Адбеленыя ніткі. *Пазыч ты, Мар'яна, мне белі маток: нечым красён даткаць.* Варонічы.

**БО́ЙКА (бу͡ойка)** *ж.* Бойка; прылада для збівання масла. *Пазычце мне свае бу͡ойкі, трэ' масло зьбіць.* Варонічы.

**БОК (бу͡ок)** *м.* 1. Бок; правая ці левая частка тулава ад пляча да таза. *Ні͡эшто[а] мне бу͡ок баліць.* Варонічы. БАЧО́К *ласк. Ляж, дзеткі, на бачок – табе лягчэй будзе.* Варонічы. 2. Бок; напрамак на мясцовасці. – *Ці ня бачылі тут маго парасяці? – Бачылі: яно ў той бу͡ок пабі͡эгло[а].* Варонічы.

**БОТ (бу͡от)** *м.* Бот. *Лі͡эвы бу͡от трохі цісьне.* Варонічы.

**БО́ТКА (бу͡отка)** *ж.* Палка з увагнаным у канец вострым цьвіком, якая ўжывалася, каб паганяць валоў. *Мой Малей такі вялы, што бяз бу͡откі і араць ня йдзі.* Варонічы.

**БЛАШЧЫ́ЦА** *ж.* Клоп. *Блашчыцы цэлую ну͡оч спаць не далі: усяго скусалі.* Варонічы.

**БЛЕША́НКА (блєша́нка)** *ж.* Бляшанка; бляшаная банка. *Знашоў ні͡эку блєшанку старую і забаўляецца сабе.* Варонічы.

**БЛЁКАТ** *м.* Блёкат; ядавітая расліна сямейства паслёнавых з шырокімі лістамі і жоўтымі кветкамі. *Думай ты з гэтымі дзецьмі: блёкату нарвалі ды ядуць. Патруціцеся, гадаўё!* Варонічы.

**БЛІЗНА́** *ж.* Няправільна ўведзеная нітка асновы ў ніты, з прычыны чаго застаецца след на палатне. *Кідаючы ў нічальніцы, блізну зрабіла і не заўважыла: два локці палатна сапсавала.* Варонічы.

**БЛІЗЬНЮ́К** *м.* Блізнё. *Міхась Янкаў – блізьнюк. Яны ж двое радзіліся: хлопчык і дзеўчынка. Дзеўчынка ўмярла, а ю͡он выгадаваўся.* Варонічы.

**БЛІНЕ́Ц** *м.* Блінец, аладка. *Я ўжэ пасьнедаў: маці блінца сьпякла, так я зьеў, памазаўшы.* Варонічы.

**БЛІ́СКАЎКА** *ж.* Маланка без грому. *Нешто бліскаўка ўвесь вечар бліскае, на сушу, мусіць.* Варонічы.

**БЛІШНЯ́ВЫ** *прым.* Пабляклы, злінялы. *Ці даўно я купіла хустку, а глядзі, якая яна блішнявая стала.* Варонічы.

**БЛУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Блудзіць; збіцца з дарогі. *От скажы ты, у знаёму[ы]м лесі заблудзіўсё[а] і цэлы дзень блудзіў, покі вышаў на дарогу.* Варонічы.

**БЛЫХА́** *ж.* Блыха. *Блыха за бок кусае, а ня словіш, каб на яе ліхо[а].* Варонічы.

**БЛЯ́ХА** *ж.* Бляха; тонкае ліставое жалеза. *Прайдзеш на канец сяла, там хата бляхаю пакрыта – гэто[а] й будзе школа.* Варонічы.

**БО** *злуч.* Бо; таму што. *Ідзі ты, дзеткі, да хаты, бо пу͡озно ўжэ: пакуль зайдзеш, та сьцямнее.* Варонічы.

**БО́ЛБАТКА** *ж.* Бурбалка. *Нешто болбаткі пашлі па вадзе. Мусіць, дождж зацягнецца.* Варонічы.

**БО́НДАР** *м.* Бондар; майстар па вырабе драўлянай пасуды (бочак, дзежак, цаброў і пад.). *Занясьці бондару дубу на клепкі ці ён с свайго зробіць – ня ведаю, як выгадней.* Варонічы.

**БОР** *м.* Сасновы лес. *Бура ў бары шкоды нарабіла: шмат дзерава паваліла.* Варонічы.

**БО́ЎДЗІЛО** *н.* Боўдзіла, недарэка; пра чалавека разумова адсталага. *Боўдзіло гэто, хіба ён зробіць што па-люцку?* Варонічы.

**БО́ХАН** *м.* Булка хлеба. *Якая ў нас сям'я? Як сьпяку хлеба тры боханы, так на два тыдні хопіць, аш шчарсьцьвее.* Варонічы. БАХО́НЧЫК *памянш.-ласк. Мукі мало[а]: два невялікіх бахончыкі будзе.* Варонічы.

**БРА́ГА** *ж.* Брага; рошчына з соладу, мукі і бульбы, з якой гоняць спірт. *Паедзем да Хмяльніцы па брагу, натта добро каравы͡э ядуць.* Варонічы.

**БРАЖДЖО́ТКА (браждждж у͡отка)** *ж.* Трашчотка; прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараюць трэск, шум, стук, лёскат. *Голаў адурыць ю͡он сваею браждджу͡откаю за цэлы дзень. Пакінь, бо паламлю і ў печ укіну!* Варонічы.

**БРА́ЗНУЦЬ** *зак.* Стукнуць. *Бразнуў дзьвярыма, аж сьцены задрыжалі.* Варонічы.

**БРА́МКА** *ж.* Прылада да стрэльбы, на якую насаджваюць пістон перад страляннем. *Брамка зьбілася, і стрэльба пачала асякаць.* Варонічы.

**БРАТАВА́Я** *ж.* Жонка брата. *Брат мой умёр, засталася братавая с хлопчыкам; пры мні͡э жывуць.* Варонічы.

**БРАТА́НІЧ** *м.* Сын брата, пляменнік. *Гэто тву͡ой братаніч ужэ такі велькі? Ого, та ты ўжэ дзядзько як мае быць.* Варонічы.

**БРАТА́ЦЦА** *незак.* Уступаць у вельмі простыя, сяброўскія адносіны. Варонічы.

**БРАЦІ́ХА** *ж.* Жонка брата. *Ну й брацíха ў цябе, Васько, каб яе зямля не насіла, ні с кім ня ўжывецца, усіх абрэша.* Варонічы.

**БРО́ВАР** *м.* Бровар; вінакурны завод. *Міхалу͡оўскі цяпер босы ходзіць, а ні͡экалі ю͡он сву͡ой бровар меў.* Варонічы.

**БРОД** *м.* Брод; плыткае месца ў рэчцы. Варонічы.

**БРУ́ШКА** *ж.* Бручка. *Каб яму зубы вырвало, як ю͡он паўразоры брушкі выр̆ваў.* Варонічы.

**БРЫ́КА** *ж.* Воз для сена і снапоў. *Ці твая брыка дома? Дай мне зьвязьдзіць па сі͡эно[а], у маі͡эй ву͡ось зламалася.* Варонічы.

**БРЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Разбухаць. *Дождж і дождж бесперастанку – жыто[а] пачало брыняць у снапу͡ох.* Варонічы.

**БУ́БЕН** *м.* Бубен. *Што гэта за вясі͡элё^я^ бяз бубна? Трэба скрыпку і бубен мець.* Варонічы.

**БУГА́Й** *м.* Бык. *Карова бегае, трэ' да бугая звадзіць.* Варонічы.

**БУДЫ́НАК** *м.* Гаспадарчае збудаванне (хата, гумно і пад). *Му͡оцны гаспадар: будынкі добрыя, двое коні, тры каровы – усе ў парадку.* Варонічы.

**БУ́КСА** *ж.* Жалезная ўтулка ў калясе. *У маіх калёсах буксы пазьвежджваліся, трэба новыя ўстаўляць.* Варонічы.

**БУЛІНА́** *ж.* Быльнік, чарнобыль; адзін з відаў палыну. *Буліна на мяжы парасла, што ні прайці.* Варонічы.

**БУНТ** *м.* Звязак, нізка. *Цэлы бунт абаранкаў купіў.* Варонічы. *Ліст, дажджом зьбіраны, пагніе ў бунтох – трэба вывесіць пад капеж.* Варонічы.

**БУРДО́ВЫ** *прым.* Цёмна-чырвоны. *Бурдовага мультану на спадніцу набрала.* Варонічы.

**БУРЖДЭ́НК** *выкл.* Бразь, хлоп, бух. *Сядзеў на пералазі, а потым – буржд͡энк! – і паляцеў нада сябе.* Варонічы.

**БУРЖДЭ́НКНУЦЬ** *зак.* Кінуць, бразнуць вобземлю. *Яны дужаліс͡е, дак Міхась як буржд͡энкнуў Цімаха, то той ледзьве ўстаў.* Варонічы.

**БУ́РНУЦЬ** *зак.* Шпурнуць. *Бурнуў каменем, да ў акно.* Варонічы.

**БУ́СЕЛ** *м.* Бусел. *У нас на гумні͡э бусел гняздо зробіў.* Варонічы.

**БУЯ́ЦЬ** *незак.* Буяць; бурна расці, пышна красаваць. *Эх, жыто^а^, жыто^а^ расьце! Увачу буяе.* Варонічы.

**БУЯ́ЦЬ** *незак.* Гучна рыкаць (пра вала). *Чый гэто вол буіць?* Варонічы. □ *Бало, буяло, а цяпер і рыкаць ня хоча.* Варонічы.

**БЭ́ЛЬКА** *ж.* Бэлька; брус, які ўмацаваны канцамі ў дзве процілеглыя сцяны і служыць падтрымкай насцілу столі і інш. *От, у хаці бэлька надламалася, трэба падперці як-небудзь, кап да вясны дастаяла, а там трэ' будзе новую зацягваць.* Варонічы.

**БЯЛЮ́ТКІ** *прым.* Зусім белы. *Трэба ж гэто^а^ так выбеліць палатно – аж бялютко^а^, як сьнег.* Варонічы.

**БЯРО́СКА, БЯРУ͡ОСКА** *ж.* Бярозка; травяністая расліна сямейства бярозкавых з белымі ці ружовымі кветкамі і павойным сцяблом. *Бяроска спляла ўсё жыто^а^.* Варонічы. *Бяроска ўсё жыто спляла.* Варонічы.

**БЯРЭ́ЗІНА** *ж.* Бяроза; драўніна гэтага дрэва. *Купіў бярэзіну, вазу͡оў зо тры дроў будзе.* Варонічы.

**ВА́БА** *ж.* Прыманка. *Што гэта за ваба такая, Зося Паўлюкова, што хлопцы да яе, як мухі да мёду, ліпнуць?* Варонічы.

**ВА́БІЦЬ** *незак.* Прыманьваць, прыцягваць. *От, ні͡эшто^а^ ж яго там вабіць: абы ўстаў, так ужэ ў Міхася! Чаму ён да цябе ня йдзе?* Варонічы. *Мікіта вые^а^: ваўкоў вабіць.* Варонічы.

**ВАГА́** *ж.* Вага, маса. *Ці правільна ж твая вага? Нешто єна мну͡ого^а^ паказвае.* Варонічы.

**ВА́ДА** *ж.* Недахоп, загана. *Яна дзеўка добрая: і работніца, і характар спакойны мае, адна ў яе толькі вада – с твару ня вельмі харошая.* Варонічы.

**ВА́ДЗІЦЬ** *незак.* Шкодзіць. *Нічога ні вадзіць, калі й вытне калі, ня крыўдуйся, дзеткі, на яго: ён бацько^а^.* Варонічы.

**ВАДО́ХРЫШЧО (Вадо́хрышчо^а^)** *н.* Вадохрышча; царкоўнае зімовае свята, што адзначаецца паводле старога стылю 6 студзеня. *На вадохрышчо^а^ пойдзем да Азярніцы.* Варонічы.

**ВА́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Узважаны. □ *Важаны гарох хутко^а^ есца.* Купленага не так многа, як свайго. Варонічы.

**ВА́ЖКІ** *прым.* Цяжкі. *Накапала кошык глею, думала, прынясу адна, аж ю͡он такі важкі, што ледзьве ўдзьвёх прыняслі.* Варонічы.

**ВА́ЛАК** *м.* Валік ці круглая палачка, на якую насаджаны дзеравянны круг (махавік) у прыладзе сукаць цэўкі – намотваць пражу на спецыяльнае прыстасаванне ў выглядзе трубкі, на якое навіваюцца ніткі і якое ўстаўляецца ў чаўнок пры тканні. *У сукайлі валак няроўны, кепско^а^ сукаць цэўкі.* Варонічы.

**ВАЛАСЬНЯ́** *ж.* Валасня; лёска, звітая з валасін конскага хваста. *Валасьня на смыку абарвалася, і йграць нечым – трэба папрасіць Сымона, кап у свае кабылы с хваста нарваў.* Варонічы.

**ВАЛАЧО́БНІКІ (валачу͡обнікі)** *мн.* Валачобнікі; песеннікі, якія ходзяць у велікодныя дні па дварах з віншавальнымі песнямі. *Валачобнікі ў канцы сьпяваюць, зарас да нас прыдуць.* Варонічы.

**ВАЛАЧО́БНО (валачу͡обно^а^)** *н.* Велікоднае яйка, што даецца сваякамі ў падарунак дзецям. *Міхась, пайдзем да дзяцька па валачу͡обно^а^.* Варонічы. *Му͡ой татулько^а^ дае заўсюды дзьве пары валачу͡обнаго^а^.* Варонічы.

**ВАЛЕВА́ТЫ (вале^я^ва́ты)** *прым.* Валлекаваты; з вялікім валляком. *Сымон Валєваты пашоў, мусі, нічого й дактарэ ні зрабілі: як было волё пад барадою, так ї засталосё^я^.* Варонічы.

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Валіць (сукно); качаючы, размінаючы, рабіць шэрсць, сукно больш шчыльным, цвёрдым. *Татко^а^ паехаў да валюша: сукно валіць.* Варонічы.

**ВАЛО́ДАЦЬ** *незак.* Валодаць; шавяліць часткамі свайго цела. *Яго паралюш разьбіў: ні валодае ні рукою, ні нагою.* Варонічы.

**ВАЛО́КА** *ж.* Абора; вераўчаны або раменны шнур пры лапцях для прывязвання іх да нагі. *Павіў бы ты валокі, а ту͡о лапці спадаюць з нох, забарсаць нечым.* Варонічы.

**ВАЛО́КА** *ж.* Валока; мера зямлі (каля 20 дзесяцін ці 21 гектара). *Багатыр на ўсё сяло: у яго ж дзьве валокі зямлі.* Варонічы.

**ВАЛО́ШКА** *ж.* Васілёк. *Рвучы валошку, дзеці ўсё жыто^а^ пагерсалі.* Варонічы. *Дай будзем вянкі^е^ віць з валошкі.* Варонічы.

**ВАЛО́ШКАВЫ** *прым.* Светла-сіні, васільковы. *У Яна валошкава сарочка, а ў Міхася – чырвона.* Варонічы.

**ВАЛЫ́НДАЦЦА** *незак.* Швэндацца; хадзіць без справы, без занятку. *Каб ю͡он што-нібудзь рабіў,*

*ня так бы ад'ядаў сэрцо$^{а}$, а то валындаецца цэлы дзень і месца сабе ні$^{е}$ знойдзє.* Варонічы.

**ВАЛЮ́Ш** *м.* Валюшня; майстэрня, у якой валяць сукно, шэрсць. *Ня плач, сынку, татко$^{а}$ паехаў да валюша, зваліць сукно, а кравец табі͡э каптаніка пашые$^{я}$.* Варонічы.

**ВА́ПНА** *ж.* Вапна. *Шчыкатураная вапнаю хата добра, гладка, але чадна: няхай лепш глінай ашчыкатурым.* Варонічы.

**ВЕРАБІ́НА, ГАРАБІ́НА** *ж.* Рабіна. *Верабіна зацьвіла.* Варонічы. *На нашум полі, на мяжы, расьце гарабіна.* Шулякі. *Гарабіна смашна, як прамерзьне.* Шулякі. *Які ў яго там сад: дзьве сьлівы, тры вішні да верабінаў с пяць.* Варонічы.

**ВЕРАБІ́ННЕ** *н. зб.* Ягады рабіны. *Замаразкі пачаліся – трэба верабінне абіраць.* Варонічы.

**ВЕРАБІ́НЫ, ГАРАБІ́НЫ** *мн.* Ягады рабіны. *З аднае верабіны пьяць кошыкаў верабінаў наабіралі.* Варонічы. *Дайце мне верабінаў залажыць у вушы па ягадцы: учадзела саўсім.* Варонічы. *Пазакладай верабіны ў вушы – галава ня будзе балець.* Варонічы. *Абірайце вы свае гарабіны, а то вароны аклююць.* Шулякі.

**ВЕРО́Я** *ж.* Шула, на якім вісяць дзьверы. *Падгніла вероя – і дзьверы пахіліліся, не зачыняюцца.* Варонічы.

**ВЕ́ШНІЦЫ, ВЕ́СЬНІЦЫ** *мн.* Весніцы; вароты ў двор. *Ку͡онь цераз вешніцы пераскочыў ды й ногу зламаў.* Варонічы. *Аччыні весьніцы: воўца йдуць.* Варонічы. *Пабяжы, дзеткі, адчыні весьніцы: воўца йдуць.* Варонічы. *Парася ў весьніцах засела і вішчыць.* Варонічы.

**ВЕРША́К (ве$^{я}$рша́к)** *м.* Пільшчык, што стаіць наверсе, на ствале дрэва, якое пілуюць. *Як добры вяршак, тагды й гамарніку ляпей, бо ён пілу папраўляе па шнуру, а той толькі цягае.* Варонічы.

**ВІ́ЛЬЧЫК** *м.* Верхні стык страхі ўнутры будынка, дзе сыходзяцца ключы і кладка. *Наклаў жыта пад самы вільчык.* Шулякі.

**ВІШЧА́ЦЬ** *незак.* Віскліва крычаць. *Вішчыць, як парася ў плоці.* Варонічы.

**ВО́КНІЦЬ** *незак.* Устаўляць у хатні зруб вокны. *Скора майстры Янаву хату будуюць: ужэ накрылі і ўжэ вокняць.* Варонічы.

**ВО́ЛЁ (во́лё$^{я}$)** *н.* Валляк; пашырэнне шчытападобнай залозы пры базедавай хваробе. *У Рыгора Зайцаваго волё$^{я}$, так ю͡он і ўлетку шалік носіць, кап ня відаць было.* Варонічы.

**ВО́ПАДЗЬ, ВО́ПАЦЬ** *ж.* Эпілепсія. *Каб$^{п}$ на цябе вопаць напала, як ты на мяне нападаеш дарэмна, бяз дай рады.* Шулякі.

**ВЫ́СКАЛІЦЬ** *зак.* Выскаліць; прыадкрыўшы рот, вышчарыць зубы. *Сабака выскаліў зубы, ды да мяне.* Варонічы. *Чаго ты зубы выскаляеш, што ты тут сьмешнаё ўгледзі$^{е}$ў?* Варонічы.

**ВЯЗ** *м.* Вяз (дрэва). *Тут расьце граб і вяз, пападаецца і бераст.* Шулякі.

**ВЯЗ** *м.* Зробленая з вязу драўляная перакладзіна ў санях, што надзяваецца на капылы, абгінаючы іх канцамі. *Парваўся ў мяне вяз, німаведама, ці давязу: капыл выварочваецца.* Варонічы.

**ВЯ́ЛЫ** *прым.* 1. Звялы; які страціў свежасць (пра расліны). *Кінь ты гэтыя кваткі, яны ўжэ вялыя.* Варонічы. 2. Лянівы, непаваротлівы, млявы; пазбаўлены энергіі, бадзёрасці, жвавасці. *Наш ву͡ол такі вялы, што ніяк ты яго ні паджанеш: ці ты бі яго, ці што – усё роўна не падбяжыць.* Варонічы.

**ГАВЭ́НДА** *ж.* Доўгая гутарка. *Разьвёў гавэнды да вечара – пайдзем лепш дахаты.* Варонічы.

**ГАВЭ́НДЗІЦЬ** *незак.* Гаварыць. *Кінь ты гавэндзіць, бо слухаць ні хочацца.* Варонічы.

**ГА́КАЎКА** *ж.* Матыка для асыпкі бульбы. *Пазычце свае гакаўкі картоплі асыпаць.* Шулякі.

**ГАМА́РНІК** *м.* Пільшчык, што стаіць на нізе дрэва, якое пілуюць. *Гамарніку цяжэй, як вершаку: ён і цягне пілу ўніз, і падае яе ўгору.* Варонічы.

**ГАМА́РНЯ** *ж.* Драўляная ручка ў падоўжнай піле, што насаджваецца на ніжні канец яе. *Зьнімі гамарню: трэба пілу пераводзіць на другую дарогу (рэз).* Варонічы.

**ГАНУ́ЧА** *ж.* Ануча; кавалак тканіны, якой абмотваюць ногі, перш чым абуцца. *Раззуйся ды пасушы анучы пры агні.* Шулякі.

**ГАРАБ'Е́** *н. зб.* Вераб'і. *Гараб'е каноплі паклявалі.* Шулякі.

**ГАРАБЕ́Й** *м.* Верабей. Шулякі.

**ГАРЭ́Х** *м.* Арэх. *Дзяўчата пашлі ў гарэхі.* Шулякі. *Дай мне гарэхаў жменьку.* Шулякі.

**ГАРЭ́ШЫНА** *ж.* Арэшына. *Выразаў гарэшыну на абручэ.* Шулякі.

**ГІРСА́** *ж.* Гірса; пустазелле сямейства злакавых. *Гірса пшаніцу заглушыла – палоць трэба.* Варонічы.

**ГЛІ́НІШЧА** *н.* Глінішча; месца, дзе капаюць гліну. *Запражы каня ды паедзь у глінішча, возік гліны прывязі на зіму.* Варонічы.

**ГРЫ́КА** *ж.* Грэчка. *У гэту$^{ы}$м годзі грыкі ні будзя: дошч прыбіў.* Шулякі.

**ГУ́НСВАТ** *м. лаянк.* Паскуда. *Гунсват ты, што ты робіш?* Варонічы. *Пачакай, гунсват, я табе дам.* Варонічы.

**ДАЖДЖЛІ́ВЫ** *прым.* Дажджлівы; з частымі дажджамі. *Дажджлівая пагода настала.* Варонічы.

**ДА́РМА** *прысл.* Дарма; марна. *Дарма я ў цябе прашу – усё роўна ні дасі.* Варонічы.

**ДАРМА́** *злучн.* Нягледзячы на тое, што. *Дарма што ён кажа, а ты яго ня слухай!* Варонічы.

**ДАРО́ГА** *ж.* Рэз; месца разрэзу дрэва. *Зьнімі гамарню: трэба пілу пераводзіць на другую дарогу.* Варонічы.

**ДАЦЬ** *зак.* ◊ БЕЗ ДАЙ РА́ДЫ. Беспадстаўна. *Без дай рады напаў на чалавека і лае$^{я}$.* Варонічы.

**ДЗЯЦУ́К** *м.* Хлопец. *Дзе$^{я}$цукі! Ці не$^{я}$ бачылі тут мае кабылы ходзячы?* Добры Бор.

**ДОШЧ** *м.* Дождж. *Дошч ідзе – грыбэ будуць.* Варонічы.

**ДУ́ЖЫ** *прым.* Моцны. *Ен хлопец дужы: пяць пудоў пад паху возьме – і пашоў.* Варонічы.

**ЖВІР** *м.* Буйназярністы пясок. *Глыбока арэ, аж жвіру дастаў.* Шулякі.

**ЖМЕ́НЯ** *ж.* Жменя; колькасць чаго-небудзь, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі. *Набраў жменю гароху.* Шулякі. ЖМЕ́НЬКА *памянш.-ласк. Вазьмі, дзеткі, жменьку гарэхаў.* Шулякі.

**ЖЫ́ЧКА** *ж.* Шарсьцяная істужка ярка-чырвонага колеру. *Прыбраўся, як на сьвята: белая сарочка, і жычкаю засьцягнута.* Варонічы.

**ЖЫ́ЧКА-КРАПІВА́** *ж.* Крапіва. *Памятай, шэльма, як злаўлю ў сваём саду, то жычкаю-крапівою ўсю задніцу сьпяку – тры дні ня сядзеш.* Варонічы.

**ЗАБЕЛІ́ЦЬ (забе^я^ліць)** *зак.* Забяліць; заправіць страву малаком. *Крупнік малаком забялі.* Варонічы.

**ЗАВЭ́ДЗГАЦЬ** *зак.* Забрудзіць, запэцкаць. *Завэдзгае заўсюды рука́ва, нос выціраючы.* Варонічы.

**ЗА́ВЯЗЬ** *ж.* Завязь; маленькія недаспелыя плады. *Жэўжыкі гэтыя ці ж дадуць дасьпець яблыкам: яшчэ завязю паабрываюць.* Варонічы.

**ЗА́ГВАЗДКА** *ж.* Спецыяльны шпень, які ўстаўляецца ў дзірку калёснай восі, каб не спадалі колы. *Зрабі загваздку новую, а то калясо спадзе ў дарозі.* Варонічы.

**ЗАДАЖДЖЫ́ЦЦА** *зак.* Задажджыцца; пра зацяжныя дажджы, дажджлівае надвор'е. *Задаждэжылася неяк, пагоды цэлы тыдзень няма: ўсё дождж і дождж.* Варонічы.

**ЗАЗУ́ЛЯ** *ж.* Зязюля. *Зазуля куе ў лесі.* Варонічы.

**ЗАПУСКІ́** *мн.* Загавіны; апошні дзень перад постам, калі веруючым дазваляецца есці скаромнае. *На запускі парася забілі.* Варонічы.

**ЗА́ТАЎКА** *ж.* Затаўка; кавалак сала, што кідаецца ў гаршчок для закрасы стравы. *Сёні ж пост, а ў вас капуста з затаўкаю.* Варонічы.

**ЗБАРО́ЦЬ** *зак.* Баднуць. *Му͡ой гнєды збора тваго падласаго: учора два разы збароў.* Варонічы.

**ІМБРЫ́ЧАК** *м.* Імбрычак; чайнік для заваркі чаю. *Палажы ў імбрыча^ы^к мяты або рамонкі ды завары.* Варонічы.

**ІСКА́ЦЬ** *незак.* Шукаць [?]. Варонічы.

**Ї́МГЛІСТЫ** *прым.* Імглісты, змрочны, пануры. *Днямі зімовымі, цёмна-їмглістыя будуць чарнець навакол, паўзгор, хвоі.* Варонічы.

**КА́ВАЛ** *м.* Кавал; вялікі кавалак чаго-небудзь. *Кавал хлеба ўзяў, аж рука гнецца.* Варонічы.

**КАДУ́К** *м.* Злы дух, чорт. ◊ КАДУ́К ЯГО́ ВЕ́ДАЕ. Нічога невядома (пра каго-небудзь, што-небудзь). *Кадук яго ведае, дзе яно падзеласё, я яго ня бачыў.* Варонічы.

**КА́ЎКА, КА́ЛКА** *ж.* Галка, варона. *Каўкі крычаць – холад будзе.* Варонічы. *Холад, пэўна, будзе: калкі закрычалі.* Шулякі.

**КАЛЕ́ЙКА** *ж.* Чарга. *Твая калейка на варту йці.* Варонічы. *Падыходзь па калейцы.* Варонічы.

**КАМПО́РА** *ж.* Камфара. *Прапаў, як кампора: тут быў, тут – німа.* Варонічы.

**КАПШУ́К** *м.* Капшук, кісет; мяшочак для тытуню, махоркі, які сцягваецца шнурком. *Згубіў сваю табачніцу, і капшука німа, так я ў кішэнь табаку насыпаў.* Варонічы.

**КАРША́К** *м.* Каршун. *Акыш, каршак вас падзяры, увесь агарод садралі.* Шулякі.

**КАСЬЁ, КО́СЁ (ку͡осё)** *н.* Кассё, касільна; ручка ў касе. *Касьё зламаў – і касіць нечым.* Варонічы. *Ново^а^е ку͡осё ў руку муляе.* Варонічы.

**КАСЬНІ́К** *м.* 1. Каснік; плецены шнурок для аздобы адзення. *Касьнік купіла да спадніцы-выбіванкі.* Варонічы. 2. Насалетраваны шнурок, што выкарыстоўваецца з крэсівам. Варонічы.

**КАСЬЦЁР** *м.* 1. Касцёр, вогнішча. *Як павалілі касьцёр дроў, так полам'ё аж да галья дастае.* Варонічы. 2. Складзеныя ў рад дровы. *Нарубаў трохі дроў, цяпер трэба ў касьцёр пакласьці (паскладаць).* Варонічы.

**КАЧАРЖЫ́ШЧО** *н.* Палка, на якую насаджваецца качарга. *Набі качаргу на качаржышчо.* Варонічы.

**КІ́ТКА** *ж.* Вязанка, вязка; звязак аднародных прадметаў, звязаны аха́пак чаго-небудзь. *Кітка лубіну упала з возу.* Варонічы. *Зьвяжа салому ў кіткі.* Варонічы.

**КЛА́ДЗЬ** *ж.* Абчасанае бервяно, што кладзецца на сохі (слупы з развілкай на канцы, якія ўжываюцца пры будаўніцтве чаго-небудзь як апора); на яго кладуцца жэрдкі, ніжнія канцы якіх абапіраюцца на сцены і ўтвараюць аснову страхі. *Сёньня хлеба будзе досыць: жыта пад самую кладзь наклалі.* Варонічы.

**КЛА́ДКА** *ж.* 1. Абчасанае бервяно, што кладзецца на сохі (слупы з развілкай на канцы, якія ўжываюцца пры будаўніцтве як апора чаго-небудзь); на яго кладуцца жэрдкі (ключы), ніжнія канцы якіх абапіраюцца на сцены і ўтвараюць аснову страхі. *Пад кладкаю ластаўка зьвіла гняздо.* Шулякі. 2. Кладка; дошка або жэрдкі, пакладзеныя для пераходу цераз раку. *Ні лезь у рэчку, там ляжыць кладка – пярэйдзеш.* Шулякі.

**КЛО́ЧО** *н.* [?]. Варонічы.

**КЛЮЧ** *м.* 1. Ключ (для замыкання і адмыкання замка). 2. Жэрдка, якая ўмацоўваецца на кладку (ці кладзь) і сцяну для стварэння асновы страхі, а таксама і паверх страхі – на плеш (рэбры страхі ці яе верх). *Зруб скончылі і кладзь зацягнулі, засталося ключэ панізаць ды за стрэхі брацца.* Шулякі.

**КНІ́ГА** *ж.* Кнігаўка, каня, канюх; птушка сямейства сяўцоў, якая жыве на балотах, сырых лугах. *Кніга робіць гняздо на купіні.* Шулякі.

**КНІ́ГАЎКА** *ж.* Тое ж. *Кнігаўка надта крычыць – гняздо нейдзе блізка.* Шулякі.

**КО́ЛО** *н.* Прылада катацца на санях; да ўбітага ў лёд кала прымацоўваецца жэрдка, да канца якой прывязваюцца сані; піхаючы ўперад жэрдку каля кала, развіваюць вялікую хуткасьць бегу санак па крузе, што апісвае процілеглы калу канец жэрдкі. *Хлопцы на лузі^е^ коло зрабілі.* Варонічы.

**КРАМУ́ШКА** *ж.* Крэмень; вельмі цвёрды мінерал, разнавіднасць крэменязёму, які выкарыстоўваецца для высякання агню. *Крэсіва добраё, але крамушка уся абабітая – іскраў ні дае.* Варонічы.

**КРУК** *м.* Крук; род вялікага цвіка, драўлянага ці металічнага, з загнутым тупым канцом. *Забі ў сьцену крук, а то цэпа недзе павесіць.* Шулякі.

**КРУК** *м.* Крумкач, груган. *Крук – разу͡омная птушка, ня то што варона.* Варонічы.

**КРЫ́ЎДА** *ж.* Крыўда. *Вялікую крыўду я маю на цябе, што ня прыехаў.* Варонічы.

**КРЭ́СІВО** *н.* Крэсіва; кавалак сталі (зроблены так, каб было зручна трымаць у руцэ) для высякання агню з крэменю. *Купіў сабе крэсіво й люльку.* Варонічы.

**КУ́БЕЛ** *м.* Кубел; дзежка для захоўвання адзення. *Ого, багатую жу͡онку ўзяў: адзін кубел повен палатна, а другі – адзежы.* Варонічы.

**КУБЕ́ЛЕЦ** *м.* Кубел; дзежка для захоўвання сала. *Добраго паршука закалолі: поўны кубелец аднаго сала наклалі.* Варонічы.

**КУ́ЛЬКА** *ж.* Ручка ў кассі. *Паднімі кульку ўгору, бо яна заніска ля цябе і косіш сагнуўшыся.* Варонічы.

**КУ́ЧКА** *ж.* Сноп лёну, грэчкі ці лубіну. *Дваццаць кучак льну нарвала ды пакінула: зялёны яшчэ, хай пастаіць.* Варонічы.

**ЛЕ́ЖМА** *прысл.* ◊ ЛЕ́ЖМА ЛЯЖА́ЦЬ. Доўга ляжаць. *Лежма ляжыць гультай гэты, хоць бы дроў нарубаць пашоў.* Варонічы.

**ЛУНО́** *н.* Бяльмо; белаватая непразрыстая пляма на рагавой абалонцы вока, якая аслабляе зрок або прыводзіць да поўнай слепаты. *Ад воспы ў яго луно на лі͡эвым воку, ён на яго ня бачыць.* Варонічы.

**ЛО́ЖАК (лу͡ожак)** *м.* Ложак. *Што вы робіце, ата ж вы лу͡ожак паломіце: зваліліся ўчатырох, як бугае.* Варонічы.

**ЛЯ́ХА** *ж.* Рэха. *Як гукнуў, так аж ляха па лесі пашла.* Варонічы.

**ЛЯШЧЫ́НА** *ж.* Арэшына. *Пайдзі, сынку, выраж доўгую роўную ляшчыну на цапільнё.* Шулякі.

**МАЛАТА́РНЯ** *ж.* Малатарня; машына для абмалоту сельскагаспадарчых культур. *Мацыновіч купіў новую малатарню; добра малоціць, чыста.* Варонічы.

**МЛІН** *м.* Млын. *Бацько да мліна паехаў, павез сьвіное малоць.* Варонічы.

**МЯ́ЛІЦА** *ж.* 1. Макацёрка, макотра; глыбокая, гліняная, непаліваная, са жвірам усярэдзіне міса, у якой звычайна труць мак. *Вазьмі мяліцу, дачушка, ды хуценька сатры крыху маку.* Шулякі. 2. Рот. *Зачыні сваю мяліцу, чаго разьзявіў.* Шулякі. *Напхаў поўну мяліцу – языка не паверне.* Шулякі.

**МЯНТУ́ШКА** *ж.* Мянташка; драўляная лапатка з дзірачкамі або равочкамі з абодвух бакоў, якая абмазваецца жарствою і служыць да вастрэння касы. *Мянтушка зламалася, і касу павастрыць нечым.* Варонічы.

**МЯТЛІ́ШЧО** *н.* Мятлішча; палка, на якую насаджваецца мяцёлка, дзяржанне мятлы. *Мятлішчо ня гладкаё – будзе ў руку муляць.* Варонічы.

**НАБІ́ЛЬНІЦЫ** *мн.* Набіліцы; у кроснах драўляныя планкі, у якія ўстаўляецца бёрда. *Сымон робіць добрыя набільніцы, папрасі – і табе зробіць.* Шулякі.

**НАРО́Г** *м.* Лямеш, нарог; частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу. *Аручы на захвоішчы, нарог зламаў: заўтра да каваля трэба ехаць.* Варонічы.

**НАЦУРБО́ЛІЦЬ** *зак.* Наліць шмат урыны. *За ноч паўцэбра нацурболілі, а няхай вас.* Шулякі.

**НІ́ЧАЛЬНІЦЫ** *мн.* Ніты; злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы. – *Што твая маці робіць? – Кросны ў нічальніцы ўкідае.* Варонічы.

**НЯГО́ДА** *ж.* Дрэннае надвор'е, непагода. *Надаела гэтая нягода, каб хоць дзянёк, здэцца, без дажджу.* Варонічы.

**ПАБРАТА́ЦЦА** *зак.* Уступіць у сяброўскія адносіны. *Нешто ты зь ім пабратаўся, глядзі каб ю͡он цябе да халу͡однае вады не давю͡оў.* Варонічы.

**ПАВЕ́СМО** *н.* [?]. Варонічы.

**ПАЗЬЕ́ЖДЖВАЦЦА** *зак.* З'ездзіцца; прыйсці ў непрыгоднасць ад доўгай язды. *У маіх калёсах буксы пазьежджваліся, трэба новыя ўстаўляць.* Варонічы.

**ПАКЛА́СЬЦІ** *зак.* Паскладаць. *Нарубаў трохі дроў, цяпер трэба ў касьцёр пакласьці.* Варонічы.

**ПАКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Здранцвець, знямець ад холаду. *Рукі пакрэплі, што ні[е] рашпілю гузікаў: рашпілі, будзь ласкаў!* Варонічы.

**ПАКУ́ЛЬ** *злучн.* Пакуль. *Пакуль ты прышоў, я два пакосы прайшоў.* Варонічы.

**ПАЛЫ́Н** *м.* Палын. *Палын – трава горка, горка, / Жыцё маё гарчэйшаё* (з народнай песні). Варонічы.

**ПАМО́РАК** *м. лаянк.* Бяда, няшчасце. *Каб на вас паморак пайшоў, каб на вас: увесь горох расьцягалі.* Варонічы.

**ПАМО́РКІ** *мн.* Мор. *Паморкі на вас, гэтых дзяцей: зялепухі наеліся – і з жыватамі качаюцца.* Шулякі. *А паморкаў на вас німа!* Шулякі.

**ПАМЯЛІ́ШЧО** *н.* Палка, на якую насаджваецца памяло. *Насадзі памяло на памялішчо.* Шулякі.

**ПАРАДЗІ́ХА** *ж.* Парадзіха; жанчына, якая толькі што нарадзіла дзіця. *Мая да парадзіхі пашла ў адведкі.* Варонічы.

**ПАРГА́Н** *м.* Паркан; агароджа з яловых галін, якія ставяцца, пераплятаючы тры жэрдкі. *Му͡ой парг[э]ан паваліўся: жэрдкі пагнілі – трэ' новыя даваць.* Варонічы.

**ПАРШУ́К** *м.* Кормны кабан, парсюк. *Замяшай ды занясі паршуку есьці. Есьці дай паршуку.* Варонічы.

**ПАСАЖЫ́РНЫ** *прым.* Пасажырскі. *Пасажырны поезд толькі што пашоў.* Какошчыцы.

**ПАСЬВІСЬЦЁЛ (пасьвісьцю͡ол)** *м.* Дудка, жалейка. *Янко[а] купіў сабе новы пасьвісьцю͡ол: ну, брат, і іграе добро.* Варонічы. *Яўхім робіць добрыя пасьвісьцю͡олы: добро іграюць.* Варонічы.

**ПАТПО́ЛАМКА** *ж.* Хуткаспечаная булка ці праснак (тоўсты блін з прэснага цеста). *Покуль хлеб сьпячэцца яшчэ, а есьці няма чаго – вазьмі да сьпячы хучэй патполамку.* Варонічы.

**ПАЦУ́К** *м.* Пацук. *Пацукі͡э завяліся – усю картоплю паядуць.* Шулякі.

**ПАЦЁС, ПАЦЮ͡ОС** *м.* Столь. *Бэлькі палажылі, можна й пацёс насьцілаць.* Варонічы. *У Анопрая ў хаці пацёс нізкі – можна рукою дастаць.* Шулякі.

**ПА́ЧАСЫ** *мн.* Пачаскі, пачассе; рэштки, адходы пры часанні лёну, канапель і пад. Варонічы.

**ПАШЫ́ЦЬ** *зак.* Залатаць. *Шытных нітак няма – нечым сарочкі пашыць.* Варонічы.

**ПЕРСЬЦЬ** *ж.* Грудзі (у каня). Варонічы.

**ПІЛАЎНІ́К** *м.* Пільшчык; рабочы, што пілуе дошкі. *Прышлі пілаўнікі да Самуся, і нам трэба папрасіць, каб папілавалі калоду на паўтарачкі.* Варонічы.

**ПЛА́ЦЁ (пла́це[е])** *н. зб.* Бялізна. *Назьбіраласё[а] плаця за цэлы месяц, і памыць ні[е]ма калі, хоць ты што хочаш.* Варонічы.

**ПЛЕШ** *м.* Рабро страхі, верх. *Вецер на гумне плеш садраў.* Варонічы.

**ПО́КРУЦЕНЬ** *м.* Вяртлявы хлопец. *Покруцень гэты ні пасядзіць на месцы ні часінкі: ўсё круціцца, ўсё верціцца.* Варонічы.

**ПО́НАЧЫ** *прысл.* Упоцемку. *Чаму вы лямпы ні[е] запаліце ды сядзіце́ поначы.* Варонічы. *Поначы ні знайдзе́ш – запалі агонь.* Варонічы.

**ПО́РСТКІ** *прым.* Хуткі, жвавы, быстры. *Добры конь, дужы, адна толькі загана – порсткі.* Варонічы.

**ПО́РУЧ** *прысл.* Побач, поплеч. *Мой хлопец цэлаё лето поруч са мною жне дзень у дзень.* Варонічы.

**ПО́СЬЛЕЙ (по́сьлєй)** *прысл.* Пасля. *Спачатку зрабі адно, а посьлей – другое.* Варонічы.

**ПО́ТТАЧКА** *ж.* Падол жаночай сарочкі, які робіцца з больш грубага, чым верхняя частка (чэхлік), палатна. *Чэхлік пашыла, цяпер потачку прышыць – і сарочка гатова.* Варонічы.

**ПРО́СТЫ** *прым.* Не спутаны (пра каня). *Ня пускай ты простага каня, бо ня ўпыніш, спутай яго.* Варонічы.

**ПРО́ТАР** *м.* Іголка са зламаным вушкам. *Сабаку ні͡эхта даў хлі͡эба с протарам – здох.* Варонічы. *Выкінь ты гэты протар у каменё, а то, крэй божа, пападзе ў ногу – акалечыць!* Варонічы.

**ПРЫ́СТАРАНАК** *м.* Драўляная загарадка, што аддзяляе бок гумна, дзе кладзецца збожжа, ад тока. *Малоцячы жыта, пабіў цэп аб прыстаранак.* Шулякі. *Авёс чуць не дамалацілі: засталося ўровень з прыстаранкам.* Шулякі.

**ПРЫЧО́ЛАК** *м.* Прычолак; пярэдняя частка гумна ці страхі. *Прычолак сенам заклалі, а за сеном – жыта і авёс.* Варонічы. *Бакі гумна пакрыты, а на прычолак не хапіла саломы.* Варонічы.

**ПЯРЭ́ЗІМАК** *м.* Бычок, цялушка ці жарабя, што нарадзілася ўвосень і перажыло зіму. Варонічы.

**ПЯРЭ́ЛЕТКА** *ж.* Цялушка, што нарадзілася позна ўвесну і перажыла лета. Варонічы.

**РАГІ́** *мн.* Сляды поту на брудным ад пылу твары. *Пры малатарні пылу, што чалавека ня відаць, а спацееш – дак рагі пазасыхаюць, ледзьвя адмыешся.* Шулякі.

**РАЖО́Н** *м.* Палка. *Вазьмі ражон ды пагані гэтага сабаку.* Шулякі. РАЖЭ́НЧЫК *памянш.-ласк. Вазьмі ражэнчык ды павесь каўбасы пад дух.* Варонічы.

**РЖЫ́ШЧО** *н.* Іржышча; астаткі сцёблаў ад зжатага збожжа на полі. *Гануля добра жне, але ржышчо пакідае высокаё.* Варонічы.

**РУЧА́ЙКА** *ж.* Ручайка; верацяно з наматанай на яго пражай. *За вечар напрала тры ручайкі.* Варонічы. *Пераві гэту ручайку на другое верацяно.* Варонічы.

**САКЕ́РА** *ж.* Сякера. *Сьцяў дубка, а лясьнік найшоў ды сакеру забраў.* Варонічы. *Папаў на сук і сакеру вышчарбіў.* Варонічы.

**СВАТЭ́** *мн.* Сваты. *Да Агаты Наумавых сватэ прыехалі.* Варонічы.

**СКУС** *м.* Смак. *Скусу ты ні разумееш, гэто ж так смашно, што язык можно праглынуць.* Варонічы.

**СМАК** *м.* Смак. *Даў парушыну таго мёду, што й смаку ні пачуеш. Ты бу͡ольш прынясі.* Варонічы.

**СПО́РНЫ (спу͡орны)** *прым.* Спорны, часты (пра дождж). *Уночы прайшоў добры дошч, ціхі да спорны такі, усю зямлю прамачыў.* Варонічы.

**СПУСКА́ЦЦА** *незак.* Сыходзіць ці злазіць згары. *У͡он там нехто з гары спускаецца, ці нє бацько гэто часамі?* Варонічы. *Бярыся за вяроўку ды спускайся паціху ўніз.* Варонічы.

**СПУСКА́ЦЬ** *незак.* Апускаць; перамяшчаць зверху ўніз. *Прывяжы кошык да вяроўкі ды спускай памалу, а я тут прыму.* Варонічы. ○ СПУСКА́ЦЬ ПАСЬВІСЬЦЁЛ. Рабіць дудку з вярбовай кары, зняўшы яе з галінак вясной. *Ад вярбы ўжэ скура астстала – можна пасьвісьцёлы спускаць.* Варонічы.

**СПУСТ** *м.* Гэбель з доўгім дрэўкам. *Пазычце нам свайго спуста: татко дзьверы робіць, да нечым спусьціць пад клей.* Варонічы.

**СПУСЬЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Зрубіўшы, паваліць дзерава. *Што ты думаеш, за дзень ледзьве тры хвойкі спусьціў і гальё абцяў, а рэзаць ужэ заўтра будзем: такі малы дзень.* Шулякі. 2. Роўна згабляваць край дошкі і падрыхтаваць да склейвання. *Завары клей, дошкі ўжэ спусьціў – можна клеяць.* Варонічы. ○ СПУСЬЦІ́ЦЬ ПАСЬВІСЬЦЁЛ. Зрабіць дудку з вярбовай кары, зняўшы яе з галінак вясной. *Спусьці, братко, мне пасьвісьцёл: я ні ўмі͡эю.* Варонічы. ◊ СПУСЬЦІ́ЦЬ СКУ́РУ. Адлупцаваць. *Скуру спушчу, гіцло ты, калі злаўлю другі раз, памятай!* Варонічы.

**СТАЎПЕ́Ц** *м.* Стаўпец; драўляны брусок у граблях, у які заганяецца зуб'е [?]. Варонічы.

**СТОЛЬ** *ж.* Столь ці насціл з жэрдак або з аполкаў у яме і паграбе. *У ямі столь згніла, трэба новую насьцілаць, а то картопель нельга сыпаць: можа абваліцца.* Варонічы.

**СЦО́ЎКНУЦЬ** *зак.* Скіснуць (пра малако). *Малако сцоўкло[а], і забяліць нечым.* Варонічы.

**СЫ́ПКА** *ж.* Сып. *Глядзі, ў дзіцяці некая сыпка пашла па целе! Кап не адзёр часам?* Варонічы.

**СЬМЯЦЮ́Х** *м.* Верабей. *Сьмяцюхі прыляцелі да будынкаў – зіма будзе.* Варонічы.

**СЬПІРА́ЦЦА** *незак.* Спрачацца. *Чаго ты сьпіраесься, адразу ж відно, што яго праўда.* Варонічы.

**ТАПАРЫ́ШЧО** *н.* Ручка сякеры. *Вырубаць ляшчыну на тапарышчо.* Шулякі. *Асадзіў сакеру на новаё тапарышчо.* Шулякі.

**ТОК** *м.* Ток; гладкая, роўная гліняная падлога для малацьбы збожжа ў гумне. *У нас ток вялікі: укладаецца паўкапы снапоў жыта.* Варонічы.

**ТРАПЕ́НЁ** *н.* Ліха, хвароба. *Кабⁿ на вас трапянё напало, дзеткі вы мае, нашто ж вы хлебⁿ раскідаеце.* Шулякі.

**ТРАПУ́ШКА** *ж.* Драўляная лапатка, пры дапамозе якой трэплюць лён. *Трапушка цяшкая, рука забаліць [?] трэплючы.* Шулякі.

**ТРА́СЦА** *ж.* Ліхаманка, малярыя [?]. *Яго трасца трасе.* Шулякі.

**ТРАЦЯЧО́К** *м.* Цяля, жарабя ва ўзросце трох год. Варонічы.

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *Тутака, здаецца, палажыў голку, а яе німа.* Варонічы.

**УБАРО́ЦЬ** *зак.* Баднуць. *Ня лезь пад карову, бо ўбора: яна борацца.* Варонічы.

**УБРО́Д** *прысл. Вады ня натта мну͡ого – му͡ожно ўброд пераі͡эхаць.* Варонічы.

**УКІДА́ЦЬ** *незак.* Укідваць; зацягваць нітку асновы ў ніты. *– Што твая маці робіць? – Кросны ў нічальніцы ўкідае.* Варонічы.

**УПУ́СТАПАШ** *прысл.* Пустапасам; без пастуха, без нагляду. *Пусьцілі быдло й коні упустапаш, ні глядзяць шкоды аніяк.* Варонічы.

**УЮ́Н** *м.* 1. Уюн (рыба). *Налавіў поўны кошык уюноў у рэццы.* Шулякі. 2. Вяртлявы хлопец. *От ужэ уюн некі: ні пасядзіць на месьці, круціцца, бегае.* Шулякі.

**ЎРУКАПАШ** [націск ?] *прысл.* Уручную. *Наша арха сапсавалася і няма чым архаваць, прыдзецца веяць ўрукапаш.* Какошчыцы.

**ФЛЯ́НСЫ** *мн.* Флянсы; маладыя парасткі пераважна бульбы. Варонічы.

**ХАЛАДНО́** *прысл.* Холадна, сцюдзёна. *На дварэ халадно – зьмерз саўсім.* Варонічы. *Ой, як халадно ў вас у хаці!* Варонічы.

**ХО́ХЛЯ** *ж.* Ліхаманка, малярыя [?]. *Увязалася да яго хохля, дак саўсім затрасла: на шчэпку высах.* Варонічы.

**ЦАПІ́ЛЬНЁ** *н.* Цапільна; дзяржанне цэпа ў выглядзе доўгай палкі, да верхняга канца якой прымацоўваецца біч. *Біч есьць, цапільнё зраблю – і цэп гатовы.* Шулякі.

**ЦЕ́РНІЦА** *ж.* Церніца; прылада церці лён. *От узяліся за лён, ажна церніцы ляскаюць.* Шулякі.

**ЦЕ́РЦІ** *незак.* Драць; раздрабняць, церці на тарцы. *Картоплі трэба церці: заўтра блінцэʸ будзем пякчы.* Варонічы.

**ЦЁПЛЫ** *прым.* Цёплы, гарачы. *Я надта люблю цёплы хлеб.* Варонічы. *Думай ты гэто, учора тапілі, а печ яшчэ цёпла.* Варонічы.

**ЦУ́НТАР** *м.* Анучка, якая выкарыстоўваецца для распальвання агню. Варонічы.

**ЦУРКО́М** *прысл.* Струменем, бесперапынна (адносіцца толькі да поту, крыві і вады). *Працуе, аж пот цурком цячэ.* Шулякі. *Цурком з носа кроў пацякла.* Шулякі.

**ЦУРО́К** *м.* Струмень, ручаёк (адносіцца толькі да поту, крыві і вады). Шулякі.

**ЦЫРАВА́ЦЬ** *незак.* Зашываць, не робячы латку. *Панчохі цыраваць трэба: пяткі пратапталіся.* Варонічы.

**ЦЫ́ЦКА** *ж.* Грудзі жанчыны. *Дзіця плача – цыцкі хоча.* Варонічы. *Дай дзіцяці цыцкі, яно есьці хоча.* Варонічы.

**ЦЯПЕ́РАКА** *прысл.* Цяпер. *Што ты цяперака будзеш рабіць?* Варонічы.

**ЦЯПЛО́** *прысл.* Цёпла. *На дварэ сёні саўсім цяпло.* Варонічы. *Цяпло ў вас у хаціᵉ, мусіць, тапілі.* Варонічы.

**ЦЯРЭ́ШНІ** *мн.* Ягады чарэшні. *Дай цярэшань, тады я табе яграсту дам.* Варонічы.

**ЦЯРЭ́ШНЯ** *ж.* Чарэшня (дрэва). *Цярэшні ужэ пасьпелі, скора і вішні будуць.* Варонічы.

**ЧАРНІ́ЦА** *ж.* Чарніцы. *Чарніца сёлета зрадзіла – хоць ты касу падкладай.* Варонічы.

**ЧАЎНЫ́К** *м.* Човен. *Грушавы чаўнык добра бегае – гладкі.* Шулякі.

**ЧО́РНЫ** *прым.* 1. Чорны; самы цёмны з усіх колераў. *Чорны вол збароў гнядого.* Варонічы. 2. Чорны; брудны, запэцканы, зашмальцаваны. *Ці даўно ты злажыў сарочку, а ўжэ чорная.* Варонічы. *Твае ж рукі чорныя, чаму ты іх не памыеш? Але ж і ногі чорныя, бяжы памый у лужы.* Варонічы.

**ЧЭ́МЕР** *м.* Чэмер, чамярыца: травяністая ядавітая лугавая расліна сямейства лілейных, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне. Варонічы.

**ЧЭ́ХЛІК** *м.* Верхняя частка кашулі да пояса. *Тут хопіць палатна на дзьве сарочкі, а ты лепей пашый чатэры чэхлікі, а потстаўкі зрабі зрэбныя, то будзе у цябе чатэры сарочкі кужэльных.* Варонічы.

**ШВО́РАН** *м.* Шворан; жалезны стрыжань, які з'яўляецца вертыкальнай воссю передка, што забяспечвае паварот на ходу [?]. Варонічы.

**ШУЛЯ́К** *м.* Каршун. *Шуляк нашу курыцу задраў.* Варонічы.

**ШУМ** *м.* Шум; глухі гук. *Шум па лі͡эсі пашоў.* Варонічы.

**ШУМ** *м.* Пена; пеністы налёт на паверхні супу і пад. *Зьнімі з гаршка шум.* Варонічы.

**ШЧУР** *м.* Пацук. *Шчуры͡э кумпяка ўсяго зьелі, каб на іх паморак. І як яны дасталі, здэцца ж, і вісіць высока.* Варонічы.

**ШЫ́ТНЫ** *прым.* Шыўны; які служыць для сшывання, змацавання чаго-небудзь. *Шытных нітак няма – нечым сарочкі пашыць (палапіць).* Варонічы.

**ШЫША́К** *м.* 1. Гронка. *Урадлівая каліна – шышака каля хунта.* Шулякі. 2. Шышак; вялікая колькасць насякомых, якія сабраліся ў адзін ком. *Мамка, мама, на вішні шышак пчолаў вісіць!* Шулякі.

**Я́ГРАСТ** *м.* Агрэст. *Дай цярэшань, тады я табе яграсту дам.* Варонічы.

**ЯЛІ́НА** *ж.* Елка. *Бура вывернула яліну.* Шулякі.

**ЯЛІНА́** *ж. зб.* Ельнік; яловы лес. *Спачатку былі хвойкі, а потым пашла адна яліна.* Шулякі.

*І. У. Галуза*

# «КРАЁВЫ СЛОЎНІК ПІНШЧЫНЫ» ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА: АДМЕТНАСЦІ ПАБУДОВЫ І АСАБЛІВАСЦІ СІСТЭМАТЫЗАЦЫІ МАТЭРЫЯЛУ

На пачатку XX ст. у Беларусі пачалася праца па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы. З мэтай збору і апрацоўкі беларускага лексічнага матэрыялу былі створаны Слоўнікавая, Правапісна-Тэрміналагічная і Дыялекталагічная камісіі Інбелкульта. У 1925 г. пачала сваю дзейнасць Камісія па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы, якая ў верасні таго ж года выдала «Інструкцыю да збірання народнага слоўнікава-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове» [7] і ў 1928 г. – праграму «Як сабраць і ўкласці слоўнік мовы свайго раёна» [12].

Было распачата ўкладанне краёвых слоўнікаў як непасрэдных складнікаў слоўніка жывой беларускай мовы: іх павінна было быць 16, і аб'ём кожнага не павінен быў перавышаць 10 тыс. лексем. З серыі задуманых краёвых слоўнікаў былі надрукаваны толькі два – «*Віцебскі краёвы слоўнік*» М. Каспяровіча (1927), «*Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны*» М. Шатэрніка (1929); слоўнік Мазыршчыны ў лістападзе 1928 г. паступіў для рэдагавання ў Слоўнікавую Камісію, а слоўнік Калініншчыны толькі часткова быў падрыхтаваны на канец 1928 г.

Важна адзначыць, што дзейнасць Камісій абапіралася пераважна на калектыўную краязнаўчую працу, г. зн. складанне слоўніка жывой беларускай мовы было справай абсалютна ўсіх дасведчаных і зацікаўленых людзей рэспублікі на чале з Камісіямі, у склад якіх уваходзілі ўсе выбітныя мовазнаўцы свайго часу (С. Некрашэвіч, М. Байкоў і інш.).

У складанні слоўніка жывой беларускай мовы актыўны ўдзел прымаў і ***Язэп Драздовіч***. Безумоўна, ён не знаходзіўся ў віры навукова-мовазнаўчага жыцця, але ведаў пра задачы і патрэбы тагачаснай лексікаграфіі. Зімой 1920 г. Язэп Нарцызавіч праслухаў у Мінску курс беларускай мовы, літаратуры і гісторыі, што праводзіўся Мінскім педагагічным інстытутам; у 1921–1923 гг. працаваў у рэдакцыі некаторых беларускіх газет у Вільні; падчас вандровак па Дзісеншчыне супрацоўнічаў са многімі перыядычнымі выданнямі (напрыклад, з газетай «Наш сцяг», часопісамі «Маланка», «Саха» і інш.); праз гімназістаў, вучняў, настаўнікаў атрымліваў свежыя нумары часопісаў «Полымя рэвалюцыі», «Маладняк», «Узвышша», «Наш край» [8, с. 157]; вёў перапіску са многімі віленскімі і мінскімі выдавецтвамі; з 1926 г. наладзіў трывалую сувязь з Інстытутам беларускай культуры, а ў наступным – Беларускай акадэміяй навук. Да таго ж член Слоўнікавай камісіі ў 1920-я гг. Б. Эпімах-Шыпіла, з якім Язэп Драздовіч з 1916 г. падтрымліваў сяброўскія стасункі, пастаянна дасылаў яму «тамы навуковых прац, выдадзеныя Інбелкультам па гісторыі, па мове і літаратуры, па этнаграфіі і мастацтву» [8, с. 156], у тым ліку перадаў і «Інструкцыю» 1925 г. па збіранні слоўнікавага матэрыялу.

Пачатак збірання і назапашвання дыялектных лексічных матэрыялаў з Дзісеншчыны Я. Драздовічам прыпадае на 1912 г. На працягу 1920–1923 гг. Язэп Нарцызавіч падрыхтаваў 7 тэрміналагічных даведнікаў: па анатоміі, геаграфіі і геалогіі, батаніцы і аграноміі, заалогіі, сельскай гаспадарцы, псіхалогіі; самастойна пачаў складаць слоўнік жывой беларускай мовы. Афармленыя на асобных картках і апрацаваныя дзісенскія лексікаграфічныя адзінкі (колькасцю каля тысячы) ён накіраваў у 1926–1930 гг. у Інстытут беларускай культуры і ў Беларускую акадэмію навук [4].

Такім чынам, маючы на ўвазе дасведчанасць Я. Драздовіча ў тагачасных патрэбах лексікаграфіі, яго практычны вопыт у складанні слоўніка свайго рэгіёна (Дзісеншчыны), а таксама самаадданасць працы творцы на карысць нацыянальнага адраджэння, у 1926 г. Беларускае навуковае таварыства ў Вільні накіравала Язэпа Нарцызавіча ў Палессе «для збору этнаграфічнага і лінгвістычнага матэрыялу сярод палешукоў» [10, с. 79]. У палескіх вёсках Я. Драздовіч рабіў «замалёўкі вясковых цэркваў, званіц, капліц» [8, с. 121], а таксама «гаспадарчых прылад, вазоў, санак, сох, рознай формы вулляў, хатняга начыння, вупражы» [8, с. 122]. А. Ліс таксама зазначае, што «не абышоў увагай мастак і народнай гаворкі»: «асобныя словы цікавілі Драздовіча як назвы

тых або іншых прадметаў, рэчаў, паняццяў, а таксама як дыялектныя адхіленні ад агульнабеларускіх норм», «з песень найболей трапілася мастаку вясельных» [8, с. 121].

Экспедыцыю на Палессе Я. Драздовічу не пашанцавала завяршыць: «паліцыя западозрыла ў шпіянажы, і, каб пазбегнуць арышту, давялося ўцякаць у Вільню» [8, с. 159]. Вынікам вандроўкі па шматлікіх палескіх вёсках сталі наступныя матэрыялы: «*калекцыя, каля двухсот дробных рыс. графікай, этнаграфічна-лінгвістычнага значэньня, як ільюстрацыі слоўнікавых выданьняў (Галубіччына)*»[1], «*калекцыя, каля сотні сярэдняга фармату рысункаў графікай, этнаграфічна-краязнаўчага значэньня (Пінскае Палесьсе)*», «*сшыт картак слоўнікавага матэр'ялу палешуцка-пінчуцкай вымовы (Піншчына)*» (дасланы ў Інстытут беларускай культуры ў 1926 г.), «*альбом дзераўлянага (дрэўнянага) будаўніцтва, гумны (Наваградчына і Піншчына)*», «*альбом харомнага дзераўлянага будаўніцтва на Палесьсі (Піншчына)*», «*альбом Палесскіх народных вопратак (Піншчына)*», «*капа (60) народных вясельных песень Палесься, з перакладам з мясцовай вымовы на беларускую агульную вымову (Піншчына)*» (дасланы ў Акадэмію навук вясной 1929 г.) [4, л. 4].

Адзначым, што слоўнікавыя матэрыялы, сабраныя на Палессі Я. Драздовічам, дагэтуль не былі прадметам спецыяльнага лінгвістычнага даследавання, пра іх сустракаюцца толькі агульныя заўвагі ва У. Содаля [11], Ю. Малаша [9] і А. Ліса [8].

Слоўнік Піншчыны, падобна да слоўніка Дзісеншчыны, Язэп Драздовіч задумваў як поўны слоўнік пінскага рэгіёна. Пра гэта сведчыць сшытак «*Падрыхтовачнага матэрыялу*» [1], у якім больш за 1500 лексем размеркавана па тэматычным прынцыпе ў табліцах для праверкі наяўнасці лексічнай адзінкі і ўстанаўлення асаблівасцей вымаўлення ў розных палескіх вёсках. Афармленыя на асобных картках і падрыхтаваныя да друку пінскія лексікаграфічныя рукапісныя матэрыялы знаходзяцца ў Архіве рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх [5], а таксама часткова ў Архіве аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі на мікрафільмах [2, 3].

У рукапісе слоўнік не мае спецыяльнай назвы – Я. Драздовіч называе падрыхтаваныя матэрыялы «*сшытам картак слоўнікавага матэр'ялу палешуцка-пінчуцкай вымовы (Піншчына)*» [4]. Назва кожнага асобнага тэрміналагічнага даведніка або слоўніка абавязкова ўтрымлівае назву рэгіёна даследавання: 1) «*Лінгвістычны матэр'ял для Беларускага Этнографічнага Слоўніка (Піншчына)*» (*390 штук картак, Піншчына, 29/X-26*), 2) «*220 картак Слоўнікавага матэр'ялу для Беларускай Этнографічнай Энцыклапэдыі. Піншчына. Жывёлы Піншчыны. Сабраў і апрацаваў Язэп Драздовіч*», 3) «*80 карт. слоўнікавага матэр'ялу. Піншчына. Анатомія. 80 назоў. Піншчына. Сабраў і апрацаваў Язэп Драздовіч*», 4) «*22 картачкі Бел. Слоўнікавага матэр'ялу. Піншчына. Жывёлы. (Анатомія...). Назовы выгляду. Піншчына. Запісанае Язэпам Драздовічам*», 5) «*20 картак Бел. слоўнікавага матэр'ялу. Піншчына. Жывёлы. Пагроза і прываблiваньне. Сабраў і запісаў Язэп Драздовіч. Піншчына*», 6) «*75 картак слоўнікавага матэр'ялу. Піншчына. Назовы хатня-гаспадарчых рэчаў Піншчыны. Сабраў і апрацаваў Язэп Драздовіч*» [5].

Для выдання «*Лінгвістычнага матэр'ялу*» была абрана назва «***Краёвы слоўнік Піншчыны***» (аналагічна з падрыхтаваным і выдадзеным «*Краёвым слоўнікам Дзісеншчыны*» [6]), што адпавядае складу і характару ахопленага матэрыялу, а таксама падкрэслівае шчыльную сувязь слоўніка Я. Драздовіча з краёвымі слоўнікамі 1920-х гг. М. Шатэрніка, І. Бялькевіча, М. Каспяровіча.

**Лексічны склад пінскіх словазбораў.** «*Лінгвістычны матэр'ял для Беларускага Этнографічнага Слоўніка*» падае разнастайныя тэматычныя пласты лексікі. Найбольш прадстаўлены найменні, што абазначаюць стравы: *багу́к, ботвы́ньне, грыча́ныкі, за́тырка, кру́пнык, крышаны́, сковору́дньік, слы́жка*; адзенне і абутак: *домотка́н, душогры́йка, кітлі́ца, кучма́, кра́йка, на́мітка, пасту́л, ху́стка, хыхло́, шнуро́ўка, шу́ба*; віды тканіны: *галганёт, обды́рка, па́чэсэ, пэ́ркаль, сухозло́тыца*; прадметы хатняга побыту: *кочáнка, однопо́лка, ослі́н, сі́лнык*; гаспадарчыя пабудовы: *вары́ўня, свынэ́ныц, сторона́, стэ́пка, тык, шо́па* і іх часткі: *вокно́, воко́нныца, га́нок, за́шчыпка, комі́рка, сі́ны, ста́нція, шпар*; адметныя паняцці з будаўнічай тэрміналогіі: *замо́к, клє́мэр, латы́на, мурла́та, пацыя́т, пры́ймына, прычу́лак, стоўп, шпу́га, шчэ́па*.

[1] Арфаграфія Я. Драздовіча.

Шырока пададзена лексіка, што называе з'явы прыроды: *во́дзяно, голошчы́т, зашэрэшэўшы сьніг, зы́мка, ку́даса, мокроле́то, мокрота́, плю́ха, тума́нь, э́ный*; водныя аб'екты і іх часткі: *во́зэро, выр, вы́ток, запо́р, зато́к, заці́н, ка́нька, кума́, кручо́к, нано́с, просьць, са́жолка, цы́піль*; асаблівасці паверхні зямлі: *гі́рка, долы́на, згі́рок, курга́н, ложчы́на, скат, склон, скопэ́ц*; мясцовыя карысныя выкапні: *ва́пна, глы́на, жовэ́нык, олыво́, пысчуга́, пысо́к, сыву́ха, торп*; перашкоды на сухапутных дарогах: *вы́бай, калю́га, проры́ў, ры́ў*; тыпы забалочанай мясцовасці: *багно́, бізо́нніца, буза́, драгва́*; характэрныя балотныя расліны: *лакно́, мамо́л, раго́жа.*

У меншай ступені прадстаўлена лексіка, што называе людзей па сваяцтве: *дзі́вір, дзід, зовы́ца, па́нчырыца, шва́гер, ятро́ўка* і па прафесіі ці рамястве: *бляха́р, горшэ́чнік, дровору́б, дротнык, коса́р, плотнык, пы́льчык, ры́мар, сле́сар, швэй, шкляр, штэ́льмах.*

Невялікая колькасць лексем з'яўляецца назвамі свят: *Вэлыкдэнь, Вэлы́кі поуст, Дэды́, За́пускі, Коля́ды, Купа́льны Йван, Пэтро́ўка, Пылы́паўка, Спа́саўка, Троу́йца*; танцаў: *за́яц, лявo ́ныха, паду́шэчка*; важных этапаў сельскагаспадарчай працы: *дажы́нкі, досі́ўкі, жныво́, зажы́нкі, засі́ўкі, косовы́ца*; пор года: *зы́ма, прыдвісэ́ньне, роска́ль*; астранамічных аб'ектаў: *зора́, зі́рка, Косары́, Ку́пка, Мі́сяц* і інш.

**Будова слоўнікавага артыкула.** «Лінгвістычны матэр'ял» змяшчае 390 картак і падае лексемы з літары *А* па літару *Я*. Пасля апрацоўкі матэрыялаў агульная колькасць лексем склала 392 адзінкі.

Па афармленні слоўнікавых артыкулаў Я. Драздовічам «Лінгвістычны матэр'ял», як і даведнік «Жывёлы Піншчыны», адрозніваецца ад іншых чатырох пінскіх словазбораў: да загаловачнай лексемы, якая захоўвае ўсе фанетычныя асаблівасці мясцовай гаворкі, падаецца не тлумачэнне па-беларуску, а *пераклад на рускую мову* і *дзісенскі адпаведнік.* Кожная рэестравая лексема абавязкова суправаджаецца поўным *лінгвістычным пашпартам.* Да таго ж да рэестравай лексемы зрэдку могуць прыводзіцца фанетычныя варыянты, сінонімы, польскія адпаведнікі, прыклады. Хутчэй за ўсё, такая падача слоўнікавага матэрыялу тлумачыцца тагачаснымі патрэбамі мовазнаўства: стварыць тлумачальны слоўнічак Палесся, зафіксаваўшы адметныя рысы гаворкі і прывёўшы нарматыўныя (з пункту погляду Я. Драздовіча – дзісенскія) адпаведнікі пінскім лексемам.

Пры ўпарадкаванні матэрыялаў з мэтай захавання адметнасцей фіксацыі слоў Я. Драздовічам была прынята наступная будова слоўнікавага артыкула: 1) загалоўнае пінскае слова, яго граматычныя і стылістычныя ці эмацыйна-ацэначныя паметы; тлумачэнне значэння; прыклад, фразеалагічнае словазлучэнне або састаўны тэрмін (пры іх наяўнасці); лінгвістычны пашпарт; 2) дзісенскі адпаведнік, яго граматычныя паметы; тлумачэнне значэння (пры неабходнасці); прыклад, фразеалагічнае словазлучэнне або састаўны тэрмін (пры іх наяўнасці); лінгвістычны пашпарт.

Язэп Драздовіч абраў алфавітны парадак размяшчэння рэестравых слоў, якога даволі строга прытрымліваўся. Разам з тым сустракаюцца адхіленні ў падачы асобных лексем, напр.: *кучма́, кравэ́ц; прысьць, пры́ймына; сто́ўпчык, сторона́* і інш.

Загаловачнае слова лексікограф меркаваў падаваць у фанетычным выглядзе, таму пры апрацоўцы рэестравае слова захоўвае ўсе асаблівасці мясцовай гаворкі: оканне (*глоды́ш, гусыня́тко, копы́т, толокно́, хоромы́на, чэровы́кі*), ікавізм (*лі́жка, стіл, хвіст, хліў*), дыфтонгі (*віул, поудпоуд, поужэ́р, соук, Троу́йца*), наяўнасць цвёрдых зычных перад галоснымі сярэдняга і верхняга пад'ёму (*помырыцца, пэ́рэспа, свынэ́ныц, сэло́*), частковая адсутнасць дзекання і цекання (*сухозло́тыца* і *сухазло́ціца, віце́р, стэ́жка, хате́нка, хрысты́ны*), наяўнасць зацвярдзелага *ц* і яго мяккага варыянта (*пацыят* і *паціят, ста́нція, цы́піль*), асімілятыўную мяккасць зычных (*наводне́ньне, прысьць, сьле́коць, сьніг*) і яе адсутнасць (*масля́нка, сле́сар*) і інш.

Звычайна над усімі неаднаскладовымі рэестравымі словамі (а таксама над дзісенскімі адпаведнікамі) Я. Драздовіч указваў націск. Калі націск адсутнічаў над пінскім загаловачным словам (21 выпадак), пры выданні ў некаторых лексемах ён быў пастаўлены: *гану́шнік, лі́тнік* і інш., пры гэтым частка рэестравых лексем была пакінута без націску: *бондар, вітчына, дротнык, зашэрэшэўшы, зора, обрыў, плотнык, погодыцца, помырыцца, улыца, эный* і інш. Многія дзісенскія адпаведнікі (94) таксама не маюць націску, але, улічваючы матэрыялы «Краёвага слоўніка Дзісеншчыны»,

пашыранасць прыведзеных лексем на тэрыторыі Беларусі, у большасці з іх было магчыма вызначыць націск: *безрукаўка, ватоўка, душагрэйка.*

У некаторых словах сустракаецца літара «j», а менавіта: у загаловачных словах (*Купáльны Јвáн*), у тлумачальнай частцы (*'самая верхняе ~~бярно~~ у јзрубе сьцен бярно, на каторым умацоўваюцца кроквы страхі', 'сушчэпы јзрубнага бярвеньня швэлямі'*), у дзісенскіх адпаведніках (*јгліца, јзрэ́б'е, јзрэ́бнае, јзрэ́бніца, јльлянýха, јмглá, јнія, јспóдняя нáўлечка, јстóпка, запóјны*). Пасля рэдакцыйнага ўпарадкавання літара «j» у рэестравых словах і дзісенскіх лексемах заменена на «й».

Фанетычныя варыянты рэестравай лексемы (17), зафіксаваныя ў адной вёсцы, падаюцца Я. Драздовічам адным слоўнікавым артыкулам: у дужках пасля загаловачнай лексемы (*двоур (двур)*), праз коску (*завулок, загулок; колэўрат, калоўрад*) або ў дужках і праз коску (*боуб, (буб); соук (сук), сок*). Таксама можа фіксавацца праз злучок толькі фіналь, якая адлюстроўвае пэўную фанетычную асаблівасць (*горшэ́чнік -нык*). Пры падрыхтоўцы да выдання ўсе фанетычныя варыянты захоўваюцца і падаюцца праз коску:

**КОЛЭ́ЎРАТ, КАЛÓЎРАД** *м.* Журавель калодзежа. Марочна.

Фанетычныя (31) і граматычныя (5) варыянты, якія Я. Драздовіч прывёў для дзісенскіх адпаведнікаў, указваюцца ў адпаведнай частцы слоўнікавага артыкула (пасля рэестравага слова і праз коску па алфавіце з граматычнымі паметамі адпаведна):

**БОТВЫ́НЬНЕ** *н.* Боршч з крышанага лісця і сцёблаў буракоў. Семяховічы.

*Бацьвіна, батвіна ж.; бацьвіньне н.* (Дзісеншч.).

**ЦЫ́ПІЛЬ** *м.* Паўвостраў, створаны звілістай ракой. Марочна.

*Атóк м., атóка ж.* (Дзісеншч.).

Фанетычныя варыянты загаловачнага слова, якія былі зарэгістраваны ў розных вёсках, Я. Драздовіч афармляў асобнымі слоўнікавымі артыкуламі. Пры падрыхтоўцы слоўніка да выдання неабходна было аб'яднаць усе варыянты, але пры гэтым захаваць суаднесенасць пэўнага варыянта з месцам яго фіксацыі. Таму пры размяшчэнні ў слоўнікавым артыкуле на першае месца ставіцца найбольш распаўсюджаны па фанетычных асаблівасцях варыянт, а таксама яго граматычныя і стылістычныя паметы, тлумачэнне, пашпарт, далей прыводзіцца наступны варыянт з граматычнымі і стылістычнымі паметамі, са сваім пашпартам, але без тлумачальнай часткі. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| **Кітліца** або **кетліца**<br>Старасьвецкая абычаёвая дзявочая шнуроўка са Слуцкай парчавой (сухазлотнай) тканіны.<br>Піншчына, в. М. Марочна<br>Запіс. Я.Драздовіч[1]<br>**Кэтлы́ца**<br>(гл. сл. **Кітліца**)<br>Піншчына, в. Семяховічы<br>Запіс. Я. Драздовіч | **КІТЛІ́ЦА, КЕТЛІ́ЦА** *ж. уст.* Традыцыйная дзявочая шнуроўка са слуцкай парчовай тканіны. Марочна. **КЭТЛЫ́ЦА** *ж. уст.* Семяховічы. |

Зрэдку Я. Драздовіч праз коску пасля рэестравага слова змяшчае да яго сінонім, напрыклад: *ганушнік, галганёт; громáда, кýча; літнік, домоткáн; погодылыса, помырылыса* і інш. Сінонімы, прыведзеным аўтарам, афармляюцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі.

Стылістычнай паметай у Я. Драздовіча ў «Лінгвістычных матэр'ялах» суправаджаецца адно слова, прычым указанне на ранейшае ўжыванне слова з'яўляецца часткай азначэння рэестравай лексемы: *Кітліца або кетліца. Старасьвецкая абычаёвая дзявочая шнуроўка са Слуцкай парчавой (сухазлотнай) тканіны. Піншчына, в. М. Марочна. Запіс. Я. Драздовіч.*

Пры падрыхтоўцы слоўнікавых матэрыялаў (пінскіх і дзісенскіх) было вырашана дадаць да некаторых рэестравых слоў наступныя паметы: 1) *ласк.*: пры ўліку семантыкі і наяўнасці словаўтваральных марфем (*бабýля, буграчóк, зірка, курганóк, прабóйчык, стэ́жочка, сьцéжачка, варавéнька, хусцінка*), 2) *уст.*: дададзены да слоў, якія суправаджаюцца адпаведнай паметай Я. Драздовіча (*кітліца*).

---

[1] Арфаграфічнае і сінтаксічнае афармленне слоўнікавага артыкула Я. Драздовічам у прыведзеных архіўных матэрыялах захоўваецца цалкам.

Адзначым, што вытворныя ад загалоўнага слова, якія маюць памяншальную або памяншальна-ласкальную форму, змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле пасля асноўнага значэння:

**ЗОРА́** *ж.* Зорка. ЗІ́РКА *ласк.* Марочна.

*Зо́рка ж., зо́ры мн.; гвя́зда ж., гвёзды мн., гвёздачка ласк.* (Дзісеншч.).

Рэестравыя словы граматычных памет не маюць. У назоўніках, якія маюць форму адзіночнага і множнага ліку, указваюцца адпаведныя канчаткі і націск (пры яго змене).

Па часцінамоўнай прыналежнасці найбольшая колькасць рэестравых слоў – назоўнікі (385 адзінак). Таксама зарэгістраваны тры дзеясловы (*бльі́скае, погодылыса* і *помырылыса*), адно прыслоўе (*хму́рно*) і адзін прыметнік (*стро́мко 'стро́мкая стрьі́ха'*). Большасць назоўнікаў зафіксавана Я. Драздовічам у пачатковай форме; пры ўпарадкаванні матэрыялаў неадпаведныя формы назоўнікаў, названых дзеясловаў і прыметніка заменены на пачатковыя формы (напрыклад, *поуд горо́ю* на *гора́*).

У чатырох выпадках лексікограф указаў па алфавіце замест рэестравага слова тэрміналагічнае спалучэнне (*Вэлыкі поуст, кі́слое молоко́, Купа́льны Йван, лэньі́вая капу́ста*), адзінкава – фразеалагічнае спалучэнне (*у по́логу*). Апорнае слова такіх адзінак было аформлена ў сваёй пачатковай форме як загалоўнае, а сінтаксічна звязаная канструкцыя была пададзена пасля спецыяльнага знака (○ ці ◊). Ва ўсіх устойлівых выразах прыводзіцца значэнне, указанае складальнікам. У трох выпадках вынесеныя складальнікам словазлучэнні былі разгледжаны як свабодныя (*зашэрэшэўшы сьніг, опыло́ўка дрэва, пульць сала, сьцяг водьі́*), таму апорны кампанент быў вынесены як загалоўны, а словазлучэнне было перанесена ў прыклад. Апорныя словы ўключаны ў вышэйпрыведзены часцінамоўны пералік.

Пры падрыхтоўцы матэрыялаў да загаловачных лексем былі дададзены агульнапрынятыя ў нацыянальнай лексікаграфіі паметы: *м., ж., н., агульн.; прым., прысл.; зак.* або *незак.*

Я. Драздовіч акрамя формы адзіночнага ліку падае форму множнага ліку ў 25 выпадках да пінскіх назоўнікаў і ў 28 выпадках – да дзісенскіх. Такія формы прыводзяцца скарочана праз злучок або праз коску і злучок у выглядзе часткі асновы з абавязковым пазначэннем націску, калі ён змяняецца: *блынэ́ц, -ньцьі́, будьі́нок -нкі, ка́мінь -ні́, клéмэр -рьі́, курга́н -ньі́, кро́ква -вы, ла́та -ты, мурла́та, -ты, панчо́ха -хы, пра́дак -дкі, прьі́ймына -ны, рымёна, -ны, сковору́дных -кі, сто́ўпчык, -кі, хода́к -кі, чо́бот -ты, чэровьі́к -кі, шкарпэ́тка -кі, шпар -рьі́, шчэ́па -пы*; і *акно́, вакно́, во́кны; ала́дак, ала́дкі; барышьі́, барьі́ш; ба́цька, бацькі́; вьі́так, вьі́такі; акяні́ца -цы, вакяні́ца -цы; барлёч -чы; бот -ты; вайла́к -кі́; кля́мар -ры; мурла́та -ты; панчо́ха -хі; прьі́маразак -зкі; рамёна -ны; стол -льі́; чараві́к -кі; шкарпэ́тка -кі; шпар -рьі́*. Некаторыя формы множнага ліку ўказваюцца ў поўным выглядзе (у некаторых выпадках з-за змены націску і фанетычнай будовы асновы): *стіл, стольі́; замо́к, замкі́; на́мітка, -наміткі́; па́лец, па́льцы; насту́л, пастольі́*; і *гвя́зда, гвёзды; куст, кустьі́; кумпя́к, кумпі́, купмякі́; кро́ква, кро́квы; кула́к, кулакі́; ла́паць, ла́пці; па́стал, па́сталы; прэ́дак, прэ́дкі; стаўпéц, стаўпцьі́*. Па родавай прыналежнасці гэтыя субстантывы размяркоўваюцца наступным чынам: мужчынскі род – 35 адзінак, жаночы род – 15, ніякі – 2.

Астатнія назоўнікі падаюцца ў форме адзіночнага ліку, за выключэннем множналікавых або парных, напрыклад: *валёнкі, ву́сы, грыча́ныкі, дажьі́нкі, двэ́ры, досі́ўкі, дэдьі́, заві́сы, зажьі́нкі, за́пускі, зару́чыны, за́сіўкі, клёцкі, коля́ды, косарьі́, крышаньі́, ноговьі́цы, пальча́ткі, пацёркі́, подэ́нкі, по́хороны, рукаві́чкі, сі́ны, спадьі́, хрыстьі́ны* і інш. Згаданыя 53 назоўнікі, для якіх указана і адзіночналікавая, і множналікавая формы, пры падрыхтоўцы слоўніка пададзены як назоўнікі, што маюць форму адзіночнага і множнага ліку, напрыклад:

**ПАСТУ́Л** *м.*, **ПАСТОЛЬІ́** *мн.* Пасталы; мяккі сялянскі абутак з цэлага кавалка скуры, які носіцца з анучамі і прывязваецца да ног аборамі. Семяховічы. **ПОСТОУЛ**, **ПОСТУ́Л** *м.*, **ПОСТОЛЬІ́** *мн.* Піншчына.

*Па́стал м., па́сталы мн.; ла́паць м., ла́пці мн.* (Дзісеншч.).

Памета '*зб.*' была далучана да некаторых дзісенскіх адпаведнікаў з улікам іх семантыкі: *бугóр'е, калу́жжа, камéньне, курга́ньне, кусто́ўе* і інш.

Я. Драздовічам фіксуецца чатыры мнагазначныя словы (*ба́ба, грым, замо́к*); прычым у адным выпадку розныя значэнні апісаны, але не абазначаны лічбамі (*гру́да*).

Пры апрацоўцы слоўнікавага матэрыялу было выдзелена яшчэ 13 мнагазначных слоў: *барыш, бузá, вышыня́, дзід, домоткáн, дэ́до, замóк, крáйка, однопóлка, сочывы́ца, стоўп, стрýга, сэлó, хатёнка.* Пра шматзначнасць указаных слоў сведчылі:

– рускія адпаведнікі (або тлумачэнні), якія выражаюць розныя значэнні:

**Сочывы́ца**
Чечевица, чечевичная похлебка (сачы́ўка)
Піншчына, в. Семяховічы
Запіс. Я. Драздовіч

**СОЧЫВЫ́ЦА** *ж.* 1. Сачавіца. 2. Поліўка з сачавіцы. Семяховічы.
*Сачы́ўка ж.* (Дзісеншч.).

– рускія і дзісенскія адпаведнікі з адрознымі значэннямі:

**Бузá**
Разжиженое болото, топкое дно реки или озера (бузá, бузянае дно)
Пінсчына, в. М. Марочна
Запіс. Я. Драздовіч

**БУЗÁ** *ж.* 1. Гразкае, ілістае балота. 2. Гразкае, ілістае дно ракі ці возера. Марочна.
*Бузá ж.* (Дзісеншч.).
*Бузяны прым. Гразкі, ілісты (пра дно ракі, возера)* (Дзісеншч.).

– дадатковыя аўтарскія паясненні:

**Стоўп**
Столб (стоўп)
У некаторых вёсках на Пінскіх балотах стаўпамі называюць сьценныя шулы.
В. Лозічы, Марочна
Запіс. Я. Драздовіч

**СТОЎП** *м.* 1. Слуп. 2. Шула. Лозічы, Марочна.
*Слуп м. Слуп* (Дзісеншч.).

**Стрýга**
Рукав болотной реки (раччáль, раччáліна)
У лясіста-балоцістых прасторах паўночнай Барысаўшчыны, на вытаках ракі Бярэзіны, стругамі называюцца балотныя астравы, напрыклад: Ністанаўская струга, Астапаўская струга і г. д.
Пінсчына, в. М. Марочна
Запіс. Я. Драздовіч

**СТРЎГА** *ж.* 1. Рукаў балотнай ракі. 2. Балотныя астравы (у лясіста-балоцістай мясцовасці Паўночнай Барысаўшчыны *Ністáнаўская стрýга, Астапаўская стрýга.* (Дзісеншч.).
*Раччáліна ж.; раччáль м.* (Дзісеншч.).

Тры пары слоў Я. Драздовіч разгледзеў як амонімы (*домоткáн, крáйка, однопóлка*); пры апрацоўцы матэрыялаў гэтыя лексемы змешчаны як мнагазначныя:

**Домоткáн**
Саматканная (доматканная) жаночая адзежа, вопратка.
Піншчына, в. Семяховічы
Запіс. Я. Драздовіч
**Літнік, домоткáн**
Доматканная самадзелкавая жаночая летняя вопратка, (андарак, сукенка)
Піншчына, в. Семяховічы
Запіс. Я. Драздовіч

**ДОМОТКÁН** *м.* 1. Саматканая жаночая вопратка. 2. Даматканая самаробная летняя жаночая вопратка (напр., андарак, сукенка). Семяховічы.

Мнагазначныя словы афармляюцца, як і адназначныя. Значэнні іх характарызуюцца асобна адно ўслед за другім і нумаруюцца арабскай лічбай з кропкай.

Іншамоўныя (польскія) адпаведнікі ўказаны Я. Драздовічам да 8 лексем. Звычайна яны прыводзяцца праз коску пасля рускага перакладу (*бляхáр 'жестяник, blacharz', Вэлыкдэнь 'Пасха, Wielkanoc', зарýчыны 'помолвка, zaręczyny', клёцкі 'галушкі, klushki', надвоўрок (надвýрок) 'двор, dzedziniec'*); могуць прыводзіцца ў дужках пасля рускага перакладу (*грым 'гром (Hrom), звуки грома'*) або ў дужках пасля рэестравай лексемы (*гумнó (humno)*); адзінкава польскі эквівалент прыводзіцца з новага радка (*сáжолка 'копаный пруд (сáжалка)' sadzawka*). Іншамоўныя адпаведнікі пры падрыхтоўцы слоўніка апушчаны, бо яны выкарыстоўваюцца і афармляюцца непаслядоўна і асноўная іх роля – праясніць значэнне рэестравых слоў.

Значэнне слоў у 9 выпадках у «Лінгвістычных матэр'ялах» ілюструецца і пры гэтым канкрэтызуецца або ўдакладняецца прыкладамі ў выглядзе сказаў або словазлучэнняў (на лексемы *гýнька, кýдаса, мурлáта, пацыят, пóлог, прычýлак, стрóмкі, стрýга, суходóл*). Прыклады належаць

да аўтарскіх уласных запісаў. Ілюстрацыі падаюцца ўкладальнікам у арфаграфічным напісанні, набліжаным да мясцовага гучання. Важна, што ў большасці выпадкаў (у шасці) фраза «*палешуцка-пінчуцкай вымовы*» дубліруецца такой жа фразай «дзісенскай вымовы» з захаваннем усіх фанетычных асаблівасцей абедзвюх гаворак: *У Сэмэ́на родьі́ны: Сэмэ́ныха у по́логу лэжьі́ць. – У Сымо́на радзі́ны: Сымо́ніха у по́лагу ляжьі́ць; Стры́ха із прычу́лком. – Стры́ха із прычу́лкам* і г. д. Адзінкава сустракаецца прыклад не на рэестравую лексему, а на вытворнае ад дзісенскага адпаведніка (‘*тарпі́стае бало́та*’ на лексему ‘*торп*’).

Пасля апрацоўкі матэрыялаў словападзел і пунктуацыя ў прыкладах прыведзены ў адпаведнасці з правіламі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а асіміляцыйная мяккасць, правапіс звонкіх і глухіх, *у* і *ў*, галосных захаваны без змен.

У большасці выпадкаў над усімі неаднаскладовымі словамі ў прыкладзе Я. Драздовіч указваў націск, што намі захавана поўнасцю. Пасля рэдакцыі ва ўсіх словах у прыкладах быў прастаўлены націск.

Колькасць прыведзеных складальнікам прыкладаў захоўваецца поўнасцю. Пры дубліраванні прыкладу для дзісенскай лексемы такая ілюстрацыя знаходзіць месца пасля граматычных памет адпаведнага слова.

Адзначым, што колькасць прыкладаў была павялічана на 11 адзінак за кошт увядзення ў зону ілюстрацый зафіксаваных не ў пачатковай форме лексем (7) і ўказаных свабодных словазлучэнняў замест рэестравай лексемы (4), напрыклад:

**Зачума́жыло**
Стало пасмурно (пахмарнела, захмарылася, завалакло неба хмарамі)
В. Лозічы Пінск. пав.
Запіс. Я. Драздовіч

**ЗАЧУМА́ЖЫЦЬ** *зак.* Спахмурнець, пакрыцца хмарамі (пра неба). *Зачума́жыло.* Лозічы.
*Пахмарне́ць зак.; захма́рыцца зак.* (Дзісеншч.).

**Зашэрэшэўшы сьніг**
Полуоледеневшая поверхность снега (шэ́раш)
Пінсчына, в. М. Марочна (зап. ад П. Саўчука)
Запіс. Я. Драздовіч

**ЗАШЭРЭШЭЎШЫ** *дзеепрым.* Напаўабледзянелы (пра снег). *Зашэрэшэ́ўшы сьніг.* Марочна.
*Шэ́раш м.* (Дзісеншч.).

Састаўныя тэрміны, што характэрны для пінскіх гаворак (іх пяць: *Вэлы́кі поуст, двэ́ры на шпу́гах, кі́слое молоко́, Купа́льны Йван, лэны́вая капу́ста),* падаюцца адпаведна ў межах слоўнікавага артыкула тых рэестравых слоў, да якіх матывацыйна адносяцца. Калі значэнне намінатыўных адзінак раскрываецца Я. Драздовічам, то састаўныя тэрміны змяшчаюцца пасля яго праз спецыяльны сімвал ○; калі значэнне загаловачных слоў не раскрываецца, то састаўныя найменні змяшчаюцца і тлумачацца адразу пасля ўказанага знака, напрыклад:

**ШПУ́ГА** *ж.* Ігліца, якой абшываюцца драўляныя дзверы для ўтрымання цяпла. ○ ДВЭ́РЫ НА ШПУ́ГАХ. Абшытыя ігліцай драўляныя дзверы для ўцяплення. Лозічы. *Йглі́ца ж.* ○ *Дзьве́ры на йглі́цах* (Дзісеншч.).

**КАПУ́СТА** *ж.* ○ ЛЭНЫ́ВАЯ КАПУ́СТА. Капуста; вараная страва з крышанага качана капусты. Семяховічы.

Састаўныя тэрміны, што ўказваюцца ў якасці дзісенскіх адпаведнікаў (іх 22): *Баярскі Коўш, багністае балота, бе́лы цьвет, бульбіна́я ка́ша, Вялікі пост, Вяліко́дны пост, гасьці́нны пако́й, грача́ныя ала́дкі, грача́ныя бліны́, дзьве́ры на йглі́цах, драгбістае бало́та, дрыгві́стае бало́та, згон зімы́, Зялёныя Сьвяткі, кало́дзезьны асьве́р, кірмашо́вы блін, Наву́маў Воз, пасьце́льная наме́тка, саламя́ная пасьце́ль, сьне́жнае лі́ха, узя́ць сьцяну́ у клякма́ры, чы́сты кане́ц*), змяшчаюцца пасля граматычных памет адпаведнага матывацыйнага слова праз указаны сімвал, напрыклад:

**БА́БКА** *ж.* Пірог (?). Семяховічы.

*Блін м.* ○ *Кірмашо́вы блін; грыбо́к м.* (Дзісеншч.).

Я. Драздовічам прыводзіцца адна фразеалагічная адзінка: ‘*лежа́ць у пологу́*’ і яе дзісенскі варыянт ‘*ляжа́ць у по́лагу*’. Фразеалагізм суправаджаецца тлумачэннем, афармляецца ў межах рэестравага слова і змяшчаецца пасля ўказання ўласна лексічнага значэння абазначальнага сродку. Для падкрэслівання яго асаблівага намінатыўнага статусу выкарыстоўваецца спецыяльны сімвал ◊:

**ПО́ЛОГ** *м.* Роды. ◊ ЛЕЖАЦЬ У ПОЛОГУ́. Раджаць. *У Сэмэ́на родыны: Сэмэ́ныха у по́логу лэжыць.* Семяховічы.

*По́лаг м. ◊ Ляжа́ць у по́лагу. Раджаць. У Сымо́на радзіны: Сымо́ніха у по́лагу ляжыць; рады́ мн.* (Дзісеншч.).

Як вядома, Я. Драздовіч, занатоўваючы слова, якое абазначала прадмет, рэч хатняга, гаспадарчага ўжытку, паралельна рабіў яе замалёўку тушшу. Шмат калекцый дробных малюнкаў-ілюстрацый да слоўнікавых матэрыялаў ён адаслаў у Мінск у 1926 г. Зараз некаторыя з іх (не больш за дзясятак) знаходзяцца ў Нацыянальным музеі Рэспублікі Беларусь, лёс астатніх невядомы.

Так, лексема *'чэ́пец'* у «Лінгвістычных матэрялах» мае памету «*гл. рыс*». На жаль, малюнак не знойдзены; памета пры падрыхтоўцы матэрыялаў апушчана.

**Сэнсавая характарыстыка. 1.** Пераважная большасць загалоўных слоў (207 з 390) у якасці *тлумачэння* мае аднаслоўны рускі адпаведнік: *во́дзяно 'наводнение', вушэ́к 'косяк', косовыца 'косьба', кру́ча 'вьюга', шнуро́ўка 'корсет'.* Значная частка лексем (92) мае апісальнае тлумачэнне па-руску (праз словазлучэнне ці сказ). Гэта тычыцца ў першую чаргу безэквівалентнай лексікі (37 выпадкаў): *ботвы́ньне 'суп былвев свеклы', голошчы́т 'обледенение снега, дорог, деревьев, крыш и т.д. с причины зимняго дождя', грыча́нықі 'гречневые блины', мокро-лето 'мокрое, дождливое лето', прыдвісэ́ньне 'начало весны', роска́ль 'начало весны, таяние снега'* і інш. Пры шматзначнасці або аманіміі рэестравых слоў апісальнае тлумачэнне канкрэтызуе іх значэнне (27 выпадкаў): *атла́с 'атласная ткань', буза́ 'разжиженое болото, топкое дно реки или озера', хода́к 'кож[а]ные лапти', нэго́да 'дурная погода, стужа'* і інш. Разам з тым у некаторых выпадках выкарыстанне рускага словазлучэння-перакладу не мае лагічнага абгрунтавання і парушае структуру задуманага слоўніка, бо ўтрымлівае збыткоўныя лексічныя канкрэтызатары (6 выпадкаў): *бохонэ́ц 'коровай хлеба', варыу́ня 'кухонная изба', грым 'звуки грома'*, або для беларускага слова існуе аднаслоўны рускі адпаведнік (22 выпадкі): *дзі́вір 'брат мужа'* (деверь), *мгла 'туманно-мелкій дождь'* (изморось, мгла), *са́жолка 'копаный пруд'* (пруд, ставок) і інш.

Нязначная колькасць лексем тлумачыцца толькі праз рускі аднаслоўны адпаведнік (6): *заві́сы 'завесы', косны́к 'лента, ленточка' і інш.*, што можна патлумачыць недаглядам складальніка.

32 лексемы суправаджаюцца тлумачэннем па-беларуску і дзісенскім адпаведнікам. У большасці выпадкаў (18) гэта безэквівалентная лексіка: *зато́ўка 'зборнае нутраное сьвіное сала', пры́ймына 'луты для прымацоўкі для лат, лазовымі віткамі, саламянай пасьцелі у часе крыцьця страхі саломай'* і інш. Некаторыя загаловачныя лексемы (10) называюць адметныя беларускія рэаліі, таму, магчыма, рускі адпаведнік замяняецца на беларускамоўнае тлумачэнне: *па́чэсэ 'кудзеля з паўторна (пасьля јзрэб'я) абчэсанага driучокай лёну', однопо́лка 'суцэльная нязшытая, з аднаго палотнішча пасьцілка'* і інш. Да асобных лексем (4), магчыма, памылкова дадзена тлумачэнне па-беларуску, бо яны маюць рукамоўны адпаведнік і не патрабуюць лексічнай канкрэтызацыі: *пальча́ткі 'рукавічкі з пальцамі, пальчаткі', раго́жа 'высокарослая балотная сіта'* і інш.

25 лексем называюць адметныя рэаліі Палесся, таму яны суправаджаюцца выключна тлумачэннем па-беларуску, без дзісенскага адпаведніка: *ву́сы 'бакавыя адтутурыныя, дзеля лёгкасьці хады ног, запасы пол даўгой сьвіткі або доўгаполага спашытага да стану кажуха', дротнык 'чалавек, каторы занімаецца аплетаньнем гаршчкоў дротам'* і інш. Некаторыя лексемы ў азначэнні маюць указанне на мясцовае паходжанне называемай рэаліі: *за́яц 'мяйсцовы народны танец', кітлі́ца 'старасьвецкая абычаёвая дзявочая шнуроўка са слуцкай парчавой (сухазлотнай) тканіны', кра́йка 'жаночы тканы пояс мяйсцовага вырабу'.*

Тры лексемы, што таксама належаць да безэквівалентнай лексікі, тлумачацца апісальна па-руску: *гру́да 'замерзшая в безснежную зіму почва; замерзшая, не углажаная колесами грязь на дорогах', ку́даса 'снег с ветром'* і інш. Цікава адзначыць, што лексема *'просьць'* мае адначасова тлумачэнне па-руску і па-беларуску: *'болотный путь для проезда лодками на прямик (балотна-лодачны шлях на цяньکі)'*. Тры лексемы, маючы рускі адпаведнік (або словазлучэнне) і дзісенскі эквівалент для вытлумачэння свайго значэння, суправаджаюцца дадаткова разгорнутым тлумачэннем па-беларуску: *стоўп 'столб (стоўп); у некаторых вёсках на Пінскіх балотах стаўпамі*

*называюць сьценныя шулы', шпу́га 'прошивка (јгліца); дво́ры на шпугах – дзьверы на јгліцах, г. зн. дошкі дзьвярэй з'іглічыны, прашыты планкаю јгліцы – шпугай'.*

Невялікая колькасць лексем (23) мае ў якасці тлумачэння толькі дзісенскі адпаведнік. Гэта пераважна агульнапашыраная лексіка: *ма́ляр 'маля́р', ноговы́цы 'штаны́, нагаві́цы', тума́нь 'туман'* і інш.

Адзінкава рэестравае слова мае адсылку *гл. сл.* на ўжо вытлумачаную адзінку замест азначэння: *кэтлы́ца '(гл. сл. кітліца)'*. У асобных выпадках адсылка *гл. сл.* канкрэтызуе значэнне лексемы, выражанае дзісенскім ці рускім адпаведнікам або тлумачэннем па-беларуску: *латы́на 'ла́ціна '(гл. сл. лата, -ты)', по́яс 'паяс, мужчынская падпіразка (гл. сл. крайка)', прысьць 'ответвление реки, рукав (гл. сл. «просьць»)'.*

**2.** Заўважым, што для невялікай колькасці рэестравых слоў Я. Драздовічам выкарыстоўваецца разгорнутае азначэнне энцыклапедычнага тыпу. З мэтай захавання адметнасці слоўніка такія азначэнні пакідаліся ў нязначна перапрацаваным выглядзе:

**Ла́та -ты**

Л. – гэта даўгое плоска абчосанае жэрдзьдзе, папрыбіванае гваздамі да крокваў страхі і ствараючае сабою галоўную аснову (дра́бу) яе.

Да Л. прымацоўваюць паплётам «пасьцель» саламянай страхі, прывязаваюць дротам кафлю і прыбіваць цьвекамі гонт, шчапу́ і бляху у часе крыцьця.

Л-ты бываюць апрыч чосаных і пілаваныя з баляк (бярвеньня).

Піншчына, край Зарэчча

Запіс. Я. Драздовіч

**ЛА́ТА** *ж.*, **ЛА́ТЫ** *мн.* Доўгія, плоска абчасаныя жэрдкі, якія кладуцца ўпоперак крокваў, прыбіваюцца цвікамі і ўтвараюць такім чынам галоўную аснову страхі. Зарэчча.

**3.** Да большай часткі лексем пінскіх гаворак (да 223 адзінак) падаецца адзін дзісенскі адпаведнік. У 89 выпадках адна пінская лексема суправаджаецца двума дзісенскімі сінонімамі, у 40 – трыма, у 7 – чатырма. Адзінкава на адну лексему падаецца 5 і 7 дзісенскіх эквівалентаў:

**Кру́ча**

Вьюга (*ве́я, за́вій, мяце́ліца, завіру́ха і наагул сьнежнае ліха*).

Пінсчына, в. М. Марочна (зап. ад П. Саўчука)

Запіс. ~~сабір~~. Я. Драздовіч

**Курга́н -ны́**

Лугавая кочка, (*курга́н, курганóк, курга́ньне, бугóр, бугра́к, буграчóк, бугор'е*)

Пінсчына, в. М. Марочна

Запіс. Я. Драздовіч

У пяці выпадках акрамя сінонімаў да пінскіх лексем указваюцца і вытворныя ад дзісенскіх эквівалентаў:

**Цынк**

Цинк, (цын, цыноўнае)

Піншчына, в. М. Марочна.

Запіс. Я. Драздовіч.

**Погодылыса, помырылыса**

Помирились (пагадзіліся, згóда, пагóдзіны)

Піншчына, в. Семяховічы

Запіс. Я. Драздовіч

**4.** Варта адзначыць, што ў рускамоўных эквівалентах сустракаюцца памылкі, якія можна патлумачыць інтэрферэнцыяй (адлюстраванне фанетычных і марфалагічных рыс беларускай мовы пры напісанні слоў па-руску): *хут**а**р, п**а**душечный мешок, Масляница, пр**ы**знак, тр**а**сина, слеса**р**, неугла**ж**аная, падаю**чый**, Большая Медь**в**едица, ово**щ**чей, пиль**щ**ик, саль**ц**есон, с навес**ам**, лени**вы**я щи, мужн**яго*** і інш. Сустракаюцца таксама арфаграфічныя (*завал**е**нка, ин**ий**, **вв**иде крупы, лошад**инн**ое покрывало, **без**снежную*), словаўтваральныя (*жестян**ик**, полуостров у **извили** реки, **тельная** рубашка*) і граматычныя (*уга**рь** ж. р., поджога ж. р.*) памылкі, а таксама памылкі ў дзеяслоўным кіраванні (*суп быльев свеклы*), нехарактэрныя для рускай мовы ўтварэнні (***затопленность** прибрежных низких местностей водою; **мурник**, каменщик; разрешеніе от бремени* замест *'роды'*; ***утеральник*** замест *'полотенце'*; ***начинание** посева;* ***закончение** жатвы;* ***жница*** замест *'жнейка'*), адрукоўкі (*ко**жн**ые лапти, наво**дь**нение*), напісанне беларускага 'і' замест рускага 'и' (*маленькій хлев, молнія, столбік, холмік*) і інш.

**5.** Улічваючы неаднастайнасць афармлення тлумачальнай часткі «Лінгвістычных матэр'ялаў», пры падрыхтоўцы слоўніка азначэнні Я. Драздовіча былі перапрацаваны. Рускамоўныя адпавед-

нікі і тлумачэнні былі заменены на беларускія. Адсылка *гл. сл.* была апушчана. Асноўнымі спосабамі сэнсавай характарыстыкі рэестравых слоў сталі:

1. Літаратурны адпаведнік; падаецца у тых выпадках, калі загалоўнае слова з'яўляецца 1) мнагазначным, але канкрэтнае значэнне Я. Драздовічам не ўказваецца, і 2) пашыраным і агульнавядомым, і таксама не тлумачыцца складальнікам. Напрыклад:

**ГА́РЛЯ** *ж.* Гар. Марочна.

*Га́ра ж.* (Дзісеншч.).

**ВО́ДЗЯНО** *н.* Паводка. Марочна.

*Наваднéньне н.; паво́дка н.; разво́дзьдзе н.* (Дзісеншч.).

2. Літаратурны адпаведнік і паўторнае раскрыццё семантыкі (праз коску з кропкай); такі спосаб раскрыцця значэння выкарыстоўваецца, калі Я. Драздовіч канкрэтызаваў значэнне мнагазначнага слова або калі лексема можа быць незразумелая для сучаснага чытача. Напрыклад:

**ОДКО́С** *м.* Адхон; нахільная паверхня гары. Марочна.

*Адко́с м.; схон м.; схонава́тасьць ж.* (Дзісеншч.).

**МАНІ́Ж** *м.* Манеж; памяшканне або месца для машыннага коннага прывода малатарні. Лозічы.

*Манéж м.* (Дзісеншч.).

3. Азначэнне, распрацаванае на аснове тлумачэння, прапанаванага аўтарам; звычайна гэта тычыцца безэквівалентнай лексікі або слоў, што абазначаюць мясцовыя рэаліі. Напрыклад:

**ВІ́ТКА** *ж.* Стужка (звычайна з лазы), якой прымацоўваюцца жэрдкі да лат падчас пакрыцця страхі саломай. Марочна.

**РЫМЁНА**, **РЫМЁНЫ** *мн.* Парныя, перакрыжаныя, асаджаныя на вал рамы ў кулачным коле драўлянага прывада малатарні. Лозічы.

*Рамёна, рамёны мн.* (Дзісеншч.).

У выпадку, калі прапанаванае азначэнне з'яўляецца не зусім дакладным з-за недастатковай інфармацыйнасці матэрыялу на картцы, то пасля яго ў круглых дужках ставіцца пытальнік. Напрыклад:

**ЗАМО́К** *м.*, **ЗАМКІ́** *мн.* 1. Спосаб злучэння сцен або бярвён у сценах драўлянага збудавання (?). 2. Спосаб злучэння сценак драўлянай скрыні (?). Семяховічы.

Калі адно са значэнняў рэестравай лексемы мае абмежаваную семантыку, то такое ўдакладненне бярэцца ў круглыя дужкі, напрыклад:

**ГРОМА́ДА** *ж.* Гурба (снегу). Марочна.

*Гурба́ ж.* (Дзісеншч.).

**Лінгвістычны пашпарт.** Большая частка лексем суправаджаецца лінгвістычным пашпартам, які складаецца з дзвюх частак: 1) назва краю (*Піншчына*) і вёскі, 2) прозвішча збіральніка (*Запіс. Я. Драздовіч*). Дзве лексемы, хутчэй за ўсё па недаглядзе, змешчаны без указання прозвішча збіральніка. Зрэдку можа ўказвацца імя і прозвішча інфарманта: *Пётра К. Саўчук* з в. Марочна (37 выпадкаў), *гр. Васілеўскі* са Случчыны (1), *Калаур* з в. Лозічы (1).

Пераважная колькасць лексем зафіксавана ў вёсках Марочна (186) і Семяховічы (164 адзінкі). 19 слоў зарэгістравана ў вёсцы Лозічы Пінскага павета, тры – у вёсцы Парэчча і па адным слове – з вёсак Лашы (Гарадзеншчына) і Зарэчча (Піншчына).

Я. Драздовіч зрэдку занатоўваў аднолькавыя словы з тоесным значэннем у розных вёсках. Адпаведна, у лінгвістычным пашпарце пералічваюцца ўсе вёскі: Марочна, Семяховічы (2 выпадкі), Сернікі, Семяховічы (1), Марочна, Сернікі (1), Лозічы, Марочна (1), Плешчыцы, Марочна, Сернікі (1), Лозічы, Качановічы, Марочна (1), Плешчыцы, Кнубава і Лашы (1).

У трох выпадках не ўказваецца вёска, а толькі край (*Піншчына; Случчына*); яшчэ ў трох выпадках Я. Драздовіч сведчыць пра ўжывальнасць лексем на ўсёй тэрыторыі Піншчыны (*'па ўсей Піншчыне'*). Нетыповым з'яўляецца пашпарт для лексем *'пацыя́т'* і *'прычу́лок'*: *'Піншчына, вёскі астравоў Пінскіх балот'*.

Пры апрацоўцы матэрыялаў у выпадках, калі ўказана назва вёскі (ці вёсак), назва краю апускаецца; калі назва вёскі Я. Драздовічам не ўказана, то ў пашпарце змяшчаецца назва краю.

Інфармацыя пра збіральніка і інфармантаў апушчана. Назва вёскі (або краю) ўказваецца цалкам у канцы слоўнікавага артыкула кожнай лексемы з пінскіх гаворак.

**Асаблівасці афармлення дзісенскіх адпаведнікаў.** У падрыхтаваным слоўніку Піншчыны дзісенскія эквіваленты падаюцца з новага радка курсівам. Калі іх некалькі, то яны пералічваюцца па алфавіце праз коску з кропкай. Кожны з такіх эквівалентаў суправаджаецца адпаведнай граматычнай паметай.

**ВЫ́БАЙ** *м.* Калдобіна. Марочна.

*Ры́тва ж.* (Дзісеншч.).

**ГОЛОШЧЫ́Т** *м.* Ледзяная корка на дарогах, дрэвах, стрэхах. Марочна.

*Абледзяне́ласьць ж.; аблівéнь м.; галалёдзіца ж.; галалёдзьдзе н.* (Дзісеншч.).

У выпадку, калі складальнікам дзісенскі эквівалент не быў указаны, то пінская лексема падаецца самастойна:

**ГАЛГАНЁТ** *м.* Тканіна з рыззя, падранага на вузенькія стужкі. Семяховічы.

Фанетычныя і граматычныя варыянты дзісенскіх лексем, а таксама формы адзіночнага і множнага ліку назоўнікаў, указаныя Я. Драздовічам, захоўваюцца ў поўным аб'ёме і падаюцца праз коску:

**БА́ЛЬКА** *ж.* Бервяно. Марочна.

*Ба́лька, бэ́лька ж.; бярнó н.* (Дзісеншч.).

**ЗАТÓК** *м.* Затока. Марочна.

*Затóк м., затóка ж.* (Дзісеншч.).

**ВОКÓННЫЦА, ОКОННЫ́ЦА** *ж.* Аканіца; створкі, якімі закрываюцца знадворку вокны. Марочна.

*Акяніца, вакяніца ж., аканіцы, вакяніцы мн.* (Дзісеншч.).

Тлумачальная частка ў дадзеным блоку слоўнікавага артыкула адсутнічае з прычыны таго, што значэнне дзісенскіх лексем поўнасцю супадае са значэннем пінскіх лексем, а дубліраванне значэння або паметы «Тое ж» значна і нематывавана павялічыла б аб'ём слоўніка і абцяжарыла карыстанне ім. У выпадку, калі загаловачнае слова мнагазначнае і Я. Драздовіч на кожнае яго значэнне прыводзіць адрозныя дзісенскія адпаведнікі, то яны падаюцца з новага радка з абавязковым дубліраваннем таго значэння, якому адпавядаюць. Калі ж мнагазначнаму пінскаму слову поўнасцю адпавядае адна дзісенская лексема, то значэнне, безумоўна, не паўтараецца:

**БАРЫ́Ш** *м.* 1. Выпіўка пасля ўдалай пакупкі або ўдалага абмену. 2. Грашовы прыбытак ад удала перапрададзенага тавару. Семяховічы.

*Бары́ш м., барышы́ мн.* (Дзісеншч.).

**ГРЫМ** *м.* 1. Гром. 2. Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы. Марочна.

*Гром м. Гром* (Дзісеншч.).

*Пяру́н м. Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы* (Дзісеншч.).

У выпадку, калі Я. Драздовіч у радзе дзісенскіх эквівалентаў прывёў да некаторых з іх вытворныя або калі рэестравае слова тлумачыцца дзісенскім эквівалентам іншай часцінамоўнай прыналежнасці, то такія адпаведнікі ўказваюцца з новага радка з абавязковай тлумачальнай часткай:

**БЛЫ́СКАЦЬ** *незак.* Бліскаць; пра святло ад маланкі. *Блы́скае.* Марочна.

*Мала́нка ж.; маланьня́ ж.; я́саўка ж. Маланка* (Дзісеншч.).

**ЗАЧУМА́ЗЫЦЦА** *зак.* Пакрыцца хмарамі (пра неба). *Зачума́зылоса.* Лозічы.

*Нахма́рыцца зак.* (Дзісеншч.).

*Па́марака ж. Хмары, якія зацягваюць неба* (Дзісеншч.).

**РЫ́МАР** *м.* Рымар. Семяховічы.

*Ры́мар, рыма́р м.* (Дзісеншч.).

*Рыма́рка м. Рымарскія вырабы (?)* (Дзісеншч.).

*Рыма́рства н. Рымарства* (Дзісеншч.).

Калі адно са значэнняў дзісенскай лексемы мае абмежаваную семантыку, то такое ўдакладненне бярэцца ў круглыя дужкі. Напрыклад:

**БУЗА́** *ж.* 1. Гразкае, ілістае балота. 2. Гразкае, ілістае дно ракі ці возера. Марочна. *Бузá ж.* (Дзісеншч.).

*Бузяны прым. Гразкі, ілісты (пра дно ракі, возера)* (Дзісеншч.).

У выпадку, калі пінскай лексеме адпавядае словазлучэнне тэрміналагічнага характару, то яно падаецца з вялікай літары праз спецыяльны сімвал пасля апорнага слова (прычым апорнае слова размяшчаецца па алфавіце ў радзе сінонімаў):

**БАГНО́** *н.* Вязкі топкі грунт. Марочна.

*Бáгна ж.; багністасьць ж.; багнíшча ж.; балóта н. ○ Багністае балóта* (Дзісеншч.).

**ГРЫЧА́НЫКІ** *мн.* Грачанікі; бліны з грэцкай мукі. Семяховічы.

*Алáдкі мн. ○ Грачáныя алáдкі; бліны́ мн. ○ Грачáныя бліны; грачáнікі мн.* (Дзісеншч.).

Ацэначаныя формы (з паметай *ласк.*) падаюцца пасля граматычных памет таго слова, да якога адносяцца, або пасля тлумачальнай часткі, пры яе наяўнасці:

**БА́БА** *ж.* 1. Жонка. 2. Бабуля; матчына або бацькава маці. Семяховічы.

*Бáба ж.; жóнка ж. Жонка.* (Дзісеншч.).

*Бáба ж. Бабуля; матчына або бацькава маці. Бáбка, бабу́ля ласк.* (Дзісеншч.).

**ПРЫБІ́Й** *м.* Прабой. Марочна.

*Прабóй м., прабаёк м. ласк., прабóйчык м. ласк.* (Дзісеншч.).

Пры наяўнасці прыкладу на дзісенскую лексему або фраземы з апорным кампанентам – рээстравай лексемай, яны змяшчаюцца пасля граматычных памет адпаведнай загаловачнай лексемы:

**ГУ́НЬКА** *ж.* Пакрывала для каня. *Покры́ў конá гу́нькой, коб нэ змэрз.* Семяховічы.

*Гу́нька ж. Пакры́ў каня гу́нькай, каб ня змерз* (Дзісеншч.).

Кожную дзісенскую лексему або сінанімічны рад суправаджае лінгвістычны пашпарт (*Дзісеншч.*), што ўказвае на ўжыванне гэтых лексем у дзісенскім рэгіёне.

«Краёвы слоўнік Піншчыны» ўяўляе сабой двухдыялектны дыферэнцыйны тлумачальна-перакладны філалагічны слоўнік-даведнік, які ўтрымлівае асобныя элементы энцыклапедычнага даведніка.

Слоўнік матэрыялаў, сабраных Я. Драздовічам, ахапіў дастаткова вялікі рэгіён Палесся, ліквідаваўшы, такім чынам, хоць і часткова, лакуну ў апісанні пінскага краю. Язэп Нарцызавіч зарэгістраваў словы ў межах этнаграфічнай карты Я. Карскага з розных абласцей чалавечай дзейнасці і падаў шмат не зафіксаваных раней лексем, такім чынам спрыяючы рэалізацыі задумы С. Некрашэвіча і Слоўнікавай Камісіі і ўзбагачаючы скарбонку нацыянальнай мовы.

З лінгвістычнага боку «Краёвы слоўнік Піншчыны» адпавядаў традыцыям лексікаграфічнай практыкі, ён вытрыманы вельмі строга і паслядоўна: амаль усе рээстравыя (пінскія і дзісенскія) словы суправаджаюцца націскам, тлумачэннем і падрабязным лінгвістычным пашпартам. Разам з тым Я. Драздовіч выявіў сябе як наватар у лексікаграфічнай практыцы па многіх крытэрыях:

1) да яго ўзору двухдыялектнага слоўніка не было;

2) Я. Драздовіч аб'яднаў два розныя падыходы Слоўнікавай Камісіі адносна тлумачэння рээстравай лексемы (спачатку прапаноўвалася кожнае слова суправаджаць рускім перакладам, а потым – тлумачэннем па-беларуску), стварыўшы тлумачальна-перакладны дыялектны слоўнік;

3) як узор нормы беларускай мовы Я. Драздовіч абраў добра знаёмую яму дзісенскую гутарку, вырашаючы такім чынам пытанне кадыфікацыі беларускай мовы;

4) даў узор сціслага слоўніка, пабудаванага па дыферэнцыйным прынцыпе, выключыўшы агульнаўжывальную лексіку (яна прадстаўлена ў «Падрыхтовачных матэрыялах») і словы, якія адрозніваюцца ад агульнабеларускіх толькі спецыфічнымі фанетычнымі рысамі;

5) фактычна на практыцы праілюстраваў паняцце безэквівалентнай лексікі: словы, што абазначаюць адметныя мясцовыя рэаліі, не могуць быць ні перакладзены на іншую мову, ні тлумачыцца аднаслоўным сінонімам на роднай мове.

На жаль, матэрыялы Я. Драздовіча не былі надрукаваны і выкарыстаны своечасова.

## Літаратура

1. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Ф. № 2: «Язэп Драздовіч». – Воп. 1. – Адз. зах. 31: «Падрыхтовачны матэр'ял для беларускага слоўніка».

2. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – М/ф 186: Рукапісы этнаграфічных матэрыялаў Дзісеншчыны. Піншчына. – 510 кадр.

3. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – М/ф 188: Лінгвістычныя матэрыялы да беларускага этнаграфічнага слоўніка. Піншчына. – 1926. – 597 кадр.

4. Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. – Ф. № 21. – Адз. зах. 95: Я. Драздовіч. Дакументы.

5. Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. – Ф. № 21. – Адз. зах. 126: Я. Драздовіч. Карткі з беларускімі словамі, сабранымі на Дзісеншчыне і Піншчыне.

6. Драздовіч, Я. Краёвы слоўнік Дзісеншчыны (падрыхтавала І. У. Галуза) / Я. Драздовіч // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр дослед. беларус. культуры, мовы і літ., Філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы»; рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Беларуская навука. – 2014. – Вып. 3. – С. 53–80.

7. Інструкцыя для зьбіраньня народнага слоўнікава-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове // Наш край. – 1925. – № 1. – С. 49–53.

8. Ліс, А. Вечны вандроўнік: нарыс пра маст. Язэпа Драздовіча / А. Ліс. – Мінск: Юнацтва. – 1984. – 253 с., 9 л. іл.

9. Малаш, Ю. Мастацка-этнаграфічная, лінгвістычная калекцыя Язэпа Драздовіча з Піншчыны, 1926 год / Ю. Малаш // Народнае дойлідства Беларусі. Праблемы захавання, выкарыстання і інтэрпрэтацыі: матэрыялы навук.-практ. канф., Мінск 27–28 верас. 2006 г. / уклад. В. Міронччык. – Мінск: А. М. Вараксін, 2007. – С. 154–159.

10. Раманюк, М. Этнаграфічныя малюнкі Язэпа Драздовіча / М. Раманюк // Спадчына. – 1994. – № 3. – С. 78–83.

11. Содаль, У. Маляваў і роднае слова шанаваў / У. Содаль // Роднае слова. – 2008. – № 10. – С. 102–104.

12. Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну // Наш край. – 1928. – № 1. – С. 32–46.

*Я. Драздовіч*

## КРАЁВЫ СЛОЎНІК ПІНШЧЫНЫ

Падрыхтавала *І. У. Галуза*

**АКСАМІ́Т** *м.* Аксаміт. Семяховічы.

*Аксаміт м.* (Дзісеншч.).

**АТЛА́С** *м.* Атлас; тканіна. Семяховічы.

*Атла́с м.* (Дзісеншч.).

**БА́БА** *ж.* 1. Жонка. 2. Бабуля; матчына або бацькава маці. Семяховічы.

*Ба́ба ж.; жо́нка ж. Жонка.* (Дзісеншч.).

*Ба́ба ж. Бабуля; матчына або бацькава маці. Ба́бка, бабу́ля ласк.* (Дзісеншч.).

**БА́БКА** *ж.* Пірог (?). Семяховічы.

*Блін м. ○ Кірмашо́вы блін; грыбо́к м.* (Дзісеншч.).

**БАГНО́** *н.* Вязкі топкі грунт. Марочна.

*Ба́гна ж.; багні́стасьць ж.; багні́шча ж.; бало́та н. ○ Багні́стае бало́та* (Дзісеншч.).

**БАГУ́К** *м.* Ежа, прыгатаваная з мяса. Семяховічы.

*Секáнка м.* (Дзісеншч.).

**БА́ЛЬКА** *ж.* Бервяно. Марочна

*Ба́лька, бэ́лька ж.; бярно́ н.* (Дзісеншч.).

**БАРЫ́Ш** *м.* 1. Выпіўка пасля ўдалай пакупкі або ўдалага абмену. 2. Грашовы прыбытак ад удала перапрададзенага тавару. Семяховічы.

*Бары́ш м., барышы́ мн.* (Дзісеншч.).

**БА́ЦЬКА** *м.* Бацька. Семяховічы.

*Ба́цька м., бацькі́ мн.* (Дзісеншч.).

**БІЗДО́ННІЦА** *ж.* Бяздонная багна. Марочна.

*Бяздо́ньне н.; бяздо́ньніца ж.* (Дзісеншч.).

**БЛЫНЭ́Ц** *м.*, **БЛЫНЦЫ́** *мн.* Невялікі блінок. (Дзісеншч.).

*Ала́дак м., ала́дкі мн.* (Дзісеншч.).

**БЛЫ́СКАЦЬ** *незак.* Бліскаць; пра святло ад маланкі. *Блы́скае.* Марочна.

*Мала́нка ж.; маланьня́ ж.; я́саўка ж. Маланка* (Дзісеншч.).

**БЛЯХА́Р** *м.* Бляхар. Семяховічы.

*Бляха́р, бліха́р м.* (Дзісеншч.).

**БО́НДАР** *м.* Бондар. Семяховічы.

*Бо́ндар, банда́р м.* (Дзісеншч.).

**БОТВЫ́НЬНЕ** *н.* Боршч з крышанага лісця і сцёблаў буракоў. Семяховічы.

*Бацьві́на, батві́на ж.; бацьві́ньне н.* (Дзісеншч.).

**БОУБ, БУБ** *м.* Боб. Семяховічы.

*Боб м.* (Дзісеншч.).

**БОХОНЭ́Ц** *м.* Булка, бохан хлеба. Семяховічы.

*Кулі́н м.; бо́хан м.; бу́лка ж.* (Дзісеншч.).

**БУДЫ́НОК** *м.*, **БУДЫ́НКІ** *мн.* Вялікая колькасць будынкаў. Марочна.

*Буды́нкі мн.* (Дзісеншч.).

**БУДЫ́ЎЛЯ** *ж.* Будынкі. Марочна.

*Будо́ўля ж.* (Дзісеншч.).

**БУЗА́** *ж.* 1. Гразкае, ілістае балота. 2. Гразкае, ілістае дно ракі ці возера. Марочна.

*Буза́ ж.* (Дзісеншч.).

*Бузяны прым. Гразкі, ілісты (пра дно ракі, возера)* (Дзісеншч.).

**ВАЛЁНКІ** *мн.* Валёнкі. Семяховічы.

*Вайла́к м., вайлакі мн.* (Дзісеншч.).

**ВА́ПНА** *ж.* Вапна. Марочна.

*Ва́пна ж.* (Дзісеншч.).

**ВАРЫ́ЎНЯ** *ж.* Кухоннае памяшканне. Марочна.

*Ва́рыўня ж.* (Дзісеншч.).

**ВІ́ТКА** *ж.* Стужка (звычайна з лазы), якой прымацоўваюцца жэрдкі да лат пры пакрыцці страхі саломай. Марочна.

**ВІТЧЫНА** *ж.* Вяндліна. Семяховічы.

*Вяндліна ж.; капчо́нка ж.* (Дзісеншч.).

**ВІЦЁР** *м.* Вецер. Марочна.

*Ве́цер м.* (Дзісеншч.).

**ВО́ДЗЯНО** *н.* Паводка. Марочна.

*Наваднé́ньне н.; паво́дка н.; разво́дзьдзе н.* (Дзісеншч.).

**ВО́ЗЭРО** *н.* Возера. Марочна.

*Во́зера, азяро́ н.* (Дзісеншч.).

**ВОКНО́** *н.* Акно. Марочна.

*Акно́, вакно́ н., во́кны мн.* (Дзісеншч.).

**ВОКО́ННЫЦА, ОКОННЫ́ЦА** *ж.* Аканіца; створкі, якімі закрываюцца знадворку вокны. Марочна.

*Акяніца, вакяніца ж., аканіцы, вакяніцы мн.* (Дзісеншч.).

**ВУ́СЫ** *мн.* Свабодна пашытыя крысы́ ў дліннай свіце або кажуху. Марочна.

**ВУШЭ́К** *м.* Вушак; бакавы брус у дзвярной асадзе. Марочна.

*Уша́к, ву́шак м.* (Дзісеншч.).

**ВЫБАЙ** *м.* Калдобіна. Марочна.

*Ры́тва ж.* (Дзісеншч.).

**ВЫР** *м.* Вір, водаварот. Марочна.

*Вір м.; выбо́іна ж.; вы́рва ж.* (Дзісеншч.).

**ВЫ́ТОК** *м.* Вусце ракі. Марочна.

*Вы́так м., вы́такі мн.* (Дзісеншч.).

**ВЫ́ХАР** *м.* Віхор. Лозічы.

*Віхо́р м.* (Дзісеншч.).

**ВЫШЫНЯ́** *ж.* 1. Вышыня. 2. Узвышэнне. Марочна.

*Вышыня́ ж. Вышыня* (Дзісеншч.).

*Ўзвыш ж. Узвышэнне* (Дзісеншч.).

**ВЭЛЫКДЭНЬ** *м.* Вялікдзень. Семяховічы.

*Вялі́кдзень м., Вялі́кадне н.* (Дзісеншч.).

**ВЭРХ** *м.* Верхняя частка чаго-н.; вяршына, верхавіна. Марочна.

*Верх м.; верша́ліна ж.; верша́ль м.* (Дзісеншч.).

**ВЭСІ́ЛЬЛЕ** *н.* Вяселле, шлюб. Семяховічы.

*Вясе́льле н.* (Дзісеншч.).

**ГА́ЗА** *ж.* Газа; гаручая вадкасць. Марочна.

*Га́за ж; карасіна ж.* (Дзісеншч.).

**ГАЙ** *м.* Невялікі лес (?). Піншчына.

**ГАЛГАНЁТ** *м.* Тканнё з рыззя, падранага на вузенькія стужкі. Семяховічы.

**ГА́НОК** *м.* Ганак. Марочна.

*Га́нак м.* (Дзісеншч.).

**ГАНУ́ШНІК** *м.* Тканнё з рыззя, падранага на вузенькія стужкі. Семяховічы.

**ГА́РАЧ** *ж.* Летняя спякота. Марочна.

*Пяко́та ж.* (Дзісеншч.).

**ГА́РБАР** *м.* Гарбар. Семяховічы.

*Гарба́р м.* (Дзісеншч.).

**ГАРБУ́З** *м.* Гарбуз. Семяховічы.

*Гарбу́з м.* (Дзісеншч.).

**ГА́РЛЯ** *ж.* Гар. Марочна.

*Га́ра ж.* (Дзісеншч.).

**ГІ́РКА** *ж.* Горка. Марочна.

*Гару́шка ж.* (Дзісеншч.).

**ГЛЫ́НА** *ж.* Гліна. Марочна.

*Глей м.; глíна ж.* (Дзісеншч.).

**ГОЛОЛЁДІЦА** *ж.* Галалёдзіца. Марочна.

*Галалёдзіца ж.* (Дзісеншч.).

**ГОЛОШЧЫ́Т** *м.* Ледзяная корка на дарогах, дрэвах, стрэхах. Марочна.

*Абледзяне́ласьць ж.; аблівé́нь м.; галалёдзіца ж.; галалёдзьдзе н.* (Дзісеншч.).

**ГОРА́** *ж.* Узвышша, гара (?). *Поуд горо́ю.* Марочна.

*Падгóр'е н. Падножжа гары* (Дзісеншч.).

**ГОРШЭ́ЧНІК, ГОРШЭ́ЧНЫК** *м.* Ганчар. Семяховічы.

*Гаршка́ль м.; паліўнік м.* (Дзісеншч.).

**ГРОМА́ДА** *ж.* Гурба (снегу). Марочна.

*Гу́рба ж.* (Дзісеншч.).

**ГРУ́ДА** *ж.* 1. Замёрзлая глеба ў бясснежную зіму. 2. Замёрзлая гразь на дарогах, раз'езджаных калёсамі. Марочна.

**ГРЫМ** *м.* 1. Гром. 2. Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы. Марочна.

*Гром м. Гром* (Дзісеншч.).

*Пяру́н м. Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы* (Дзісеншч.).

**ГРЫЧА́НЫКІ** *мн.* Грачанікі; бліны з грэцкай мукі. Семяховічы.

*Ала́дкі мн. ○ Грача́ныя ала́дкі; бліны́ мн. ○ Грача́ныя бліны; грача́нікі мн.* (Дзісеншч.).

**ГРЭ́БЛЯ** *ж.* Грэбля. Марочна.

*Гаць ж.; грабло́ н.; грэ́бла, грэ́бля ж.* (Дзісеншч.).

**ГУ́ЛЫЦА** *ж.* Вуліца. Семяховічы.

*Ву́ліца ж.* (Дзісеншч.).

**ГУМНО́** *н.* Гумно; будыніна для абмалоту збожжа. Піншчына.

*Гумні́шча н.; гумно́ н.* (Дзісеншч.).

**ГУ́НЬКА** *ж.* Пакрывала для каня. *Покры́ў коня́ гу́нькой, коб нэ змэрз.* Семяховічы.

*Гу́нька ж. Пакры́ў каня гу́нькай, каб ня змерз* (Дзісеншч.).

**ДАЖЫ́НКІ** *мн.* Дажынкі; абрадавае свята ў дзень заканчэння жніва. Семяховічы.

*Дажы́нкі мн.; раёк м.; раёўка ж.* (Дзісеншч.).

**ДВОУР**, **ДВУР** *м.* Маёнтак, памесце. Семяховічы. **ДВЫР** *м.* Парэчча.

*Двор м.; маёнтак м.* (Дзісеншч.).

**ДВЭ́РЫ** *мн.* Дзверы. Марочна.

*Дзьве́ры мн.* (Дзісеншч.).

**ДЗІ́ВІР** *м.* Дзевер; мужаў брат. Семяховічы.

*Дзе́вір, дзе́вер м.* (Дзісеншч.).

**ДЗІД** *м.* 1. Бацькаў або матчын бацька. 2. Стары чалавек. Семяховічы.

*Дзед м.* (Дзісеншч.).

**ДОЛЫ́НА** *ж.* Даліна. Марочна.

*Даліна ж.* (Дзісеншч.).

**ДОМОТКА́Н** *м.* 1. Саматканая жаночая вопратка. 2. Даматканая самаробная летняя жаночая вопратка (напр., андарак, сукенка). Семяховічы.

**ДОСІЎКІ** *мн.* Заканчэнне пасяўных работ. Семяховічы.

*Абсе́ўкі мн.; дасе́ўкі мн.* (Дзісеншч.).

**ДРА́БА** *ж.* Аснова страхі (жэрдкі, прыбітыя цвікамі да крокваў), на якую прывязваюць дротам кафлю, прыбіваюць цвікамі гонт, шчапу і бляху. Зарэчча.

**ДРАГВА́** *ж.* Дрыгва. Марочна. **ДРЫГВА́** *ж.* Лозічы.

*Драгба́ ж.; дрыгва́ ж.; бало́та н.* ○ *Дрыгвістае бало́та.* ○ *Драгбістае бало́та* (Дзісеншч.).

**ДРОВОРУ́Б** *м.* Дрывасек. Семяховічы.

*Драваpу́б м.; дравасе́к м.* (Дзісеншч.).

**ДРОТНЫК**, **ДРОТНІК** *м.* Майстар, які аплятае гаршчкі дротам. Сернікі, Семяховічы.

**ДУШОГРЫ́ЙКА** *ж.* Душагрэйка; цёплая (на ваце ці на футры) кароткая жакетка без рукавоў. Семяховічы.

*Безрука́ўка ж.; вато́ўка ж.; душагрэ́йка ж.* (Дзісеншч.).

**ДЭ́ДО** *м.* 1. Бацькаў або матчын бацька. 2. Стары чалавек. Лозічы.

*Дзед м. Бацькаў або матчын бацька* (Дзісеншч.).

*Дзед м. Стары чалавек* (Дзісеншч.).

**ДЭ́ДЫ** *мн.* Дзяды; дзень, калі выконваецца абрад памінання нябожчыкаў. Семяховічы.

*Дзяды́ мн.; памі́нкі мн.* (Дзісеншч.).

**ЖАКЕ́Т** *м.* Жакетка. Семяховічы.

*Жаке́тка ж.* (Дзісеншч.).

**ЖНЫ́ВО** *н.* Жніво. Семяховічы.

*Жні́ва, жніво́ н.* (Дзісеншч.).

**ЖНЭЦ** *м.* Жнец, жняя. Семяховічы.

*Жні́я ж.; жне́йка ж. Жняярка* (Дзісеншч.).

**ЖО́ВЭНЫК** *м.* Жоўты пясок. Марочна.

*Жаўця́к м.* (Дзісеншч.).

**ЖЭР** *м.* Жар; гарачае вуголле. Марочна.

*Жар м.* (Дзісеншч.).

**ЗАВІ́СЫ** *мн.* Заслоны; тое, што пакрывае, засланяе сабой. Марочна.

*Заве́сы ж.* (Дзісеншч.).

**ЗАВУ́ЛОК**, **ЗАГУ́ЛОК** *м.* Завулак. Семяховічы.

*Заву́лак м.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ГРЭВО** *н.* Загарванне. Марочна.

*Зага́р н.* (Дзісеншч.).

**ЗАЖЫ́НКІ** *мн.* Пачатак жніва. Семяховічы.

*Зажы́нкі мн.* (Дзісеншч.).

**ЗАКЕРВА́Ш** *м.* Манжэта. Марочна.

*Закерва́ш м.; закерва́шына ж.; манке́т м.; нарука́ўнік м.* (Дзісеншч.).

**ЗАЛІ́ЗА** *н.* Жалеза. Марочна.

*Зяле́за н.* (Дзісеншч.).

**ЗАМО́К** *м.*, **ЗАМКІ́** *мн.* 1. Спосаб злучэння сцен або бярвён у сценах драўлянага збудавання (?). 2. Спосаб злучэння сценак драўлянай скрыні (?). Семяховічы.

**ЗАНО́С** *м.* Месца, занесенае пяском. Марочна.

*Зано́с м.; нано́с м.* (Дзісеншч.).

**ЗАПО́Р** *м.* Запор, затор. Марочна.

*За́гарада ж.; запо́р м.; за́стаў м.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ПУСКІ** *мн.* Масленіца. Семяховічы.

*За́пусты мн.* (Дзісеншч.).

**ЗАРУ́ЧЫНЫ** *мн.* Заручыны. Семяховічы.

*Запо́іны мн.; зару́чыны мн.* (Дзісеншч.).

**ЗА́СІЎКІ** *мн.* Пачатак пасяўных работ. Семяховічы.

*Засе́віны мн.; за́сеўкі мн.* (Дзісеншч.).

**ЗА́СОЛКА** *ж.* Засаўка. Марочна.

*За́саўка ж.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ТАЎКА** *ж.* Здор; нутраное свіное сала. Случчына. **ЗАТО́ЎКА** *ж.* Семяховічы.

*Здор ж.* (Дзісеншч.).

**ЗАТО́К** *м.* Затока. Марочна.

*Зато́к м., зато́ка ж.* (Дзісеншч.).

**ЗАТО́П** *м.* Разліў ракі, пры якім затапліваюцца прыбярэжныя нізкія мясціны. Марочна.

*Зале́ў м.; зато́п м.; разво́дзьдзе н.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ТЫРКА** *ж.* Зацірка; рэдкая страва з дробных мучных камячкоў, згатаваных на вадзе або малацэ. Семяховічы.

*Зацірка ж.; калату́ха ж.; калату́шка ж.* (Дзісеншч.).

**ЗАЦІ́Н** *м.* Лука; дугападобны паварот ракі, а таксама мыс, які абгінаецца ракой. Марочна.

*Лука́ м.* (Дзісеншч.).

**ЗАЧУМА́ЖЫЦЬ** *зак.* Спахмурнець, пакрыцца хмарамі (пра неба). *Зачума́жыло.* Лозічы.

*Пахмарне́ць зак.; захма́рыцца зак.* (Дзісеншч.).

**ЗАЧУМА́ЗЫЦЦА** *зак.* Пакрыцца хмарамі (пра неба). *Зачума́зылоса.* Лозічы.

*Нахма́рыцца зак.* (Дзісеншч.).

*Па́марака ж. Хмары, якія зацягваюць неба* (Дзісеншч.).

**ЗА́ШЧЫПКА** *ж.* Зашчапка; прыстасаванне для запірання дзвярэй у выглядзе кручка або пласцінкі з прораззю, якое накладваецца на прабой. Марочна.

*За́шчэпка ж.; кручо́к м.* (Дзісеншч.).

**ЗАШЭРЭШЭЎШЫ** *дзеепрым.* Напаўабледзянелы (пра снег). *Зашэрэшэўшы сьніг.* Марочна.

*Шэ́раш м.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ЯЦ** *м.* Беларускі народны танец. Семяховічы.

**ЗВІД** *м.* Асверны крук для зачэрпвання вады вядром са студні. Марочна.

**ЗГІ́РОК** *м.* Узгорак. Марочна.

*Узго́рак м.* (Дзісеншч.).

**ЗОВЫ́ЦА** *ж.* Залоўка; мужава сястра. Семяховічы.

*Зало́ўка ж.* (Дзісеншч.).

**ЗОРА** *ж.* Зорка. ЗІРКА *ласк.* Марочна.

*Зо́рка ж., зо́ры мн.; гвя́зда ж., гве́зды мн., гве́здачка ласк.* (Дзісеншч.).

**ЗЫ́МА** *ж.* Зіма. Марочна.

**ЗЫ́МКА** *ж.* Першае ці апошняе выпадзенне снегу. Марочна.

*За́зімак м. Першае выпадзенне снегу.* (Дзісеншч.).

*Пры́зімак м. Апошняе выпадзенне снегу.* (Дзісеншч.).

**КАЖУ́Х** *м.* Кажух. Семяховічы.

*Кажу́х м.* (Дзісеншч.).

**КАЛА́Ч** *м.* Абаранак. Семяховічы.

*Абара́нак, бара́нак м.* (Дзісеншч.).

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужа. Марочна.

*Калу́га ж.; калу́жа ж.; калу́жына ж.* (Дзісеншч.).

*Калу́жжа н. зб. Вялікая колькасць лужын* (Дзісеншч.).

**КАЛЯСО́** *н.* Кола. Лозічы.

*Ко́ла н.* Кола. (Дзісеншч.).

**КАМІЗЭ́ЛЬКА** *ж.* Камізэлька. Семяховічы.

*Камізэ́лька ж.* (Дзісеншч.).

**КА́МІНЬ** *м.*, **КАМІНІ́** *мн.* Камень. Марочна.

*Камень м. Камень* (Дзісеншч.).

*Каме́ньне н. зб. Каменне* (Дзісеншч.).

**КА́НЬКА** *ж.* Балотнае акно; невялікае азярцо на дрыгвістым балоце. Лозічы.

**КАПУ́СТА** *ж.* ○ ЛЭНЫ́ВАЯ КАПУ́СТА. Капуста; вараная страва з крышанага качана капусты. Семяховічы.

*Йльляну́ха, лячу́ха ж.* (Дзісеншч.).

**КАПЭЛЮ́Ш** *м.* Капялюш. Пінշчына.

*Капалю́ш, капялю́ш м.* (Дзісеншч.).

**КІ́ПОЦЬ** *ж.* Сажа. Марочна.

*Ко́паць ж.* (Дзісеншч.).

**КІТЛІ́ЦА, КЕТЛІ́ЦА** *ж. уст.* Традыцыйная дзявочая шнуроўка са слуцкай парчовай тканіны. Марочна. **КЭТЛЫ́ЦА** *ж. уст.* Семяховічы.

**КЛЕ́МКА** *ж.* Клямка. Марочна.

*Кля́мка ж.* (Дзісеншч.).

**КЛЕ́МЭР** *м.*, **КЛЕМЭРЫ́** *мн.* Прылада для ўмацавання і выраўноўвання пакрыўленых сцен у драўляных пабудовах; складаецца з двух плоскіх брусоў і шрубаў або са шворнаў з закліноўкай. Марочна.

*Кля́мар м., кля́мары мн.* ○ *Узя́ць сьцяну́ у кля́мары. Сціснуць сцяну з двух бакоў у плоскія брускі* (Дзісеншч.).

**КЛЁЦКІ** *мн.* Галушкі. Семяховічы.

*Галу́шкі мн.; камы́ мн.; клёцкі мн.; сьлі́жы мн.* (Дзісеншч.).

**КЛІЦЬ** *ж.* Клець, свіран. Марочна.

*Клець ж.; сьві́ран м.* (Дзісеншч.).

**КЛУ́НЯ** *ж.* Клуня, пуня. Пінշчына.

*Пу́ня ж.* (Дзісеншч.).

**КОВА́ЛЬ** *м.* Каваль. Семяховічы.

*Кава́ль м.* (Дзісеншч.).

**КОЛО́ДЗЯЗ** *м.* Студня, калодзеж. Марочна.

*Каló́дзезь м.; сту́дня ж.* (Дзісеншч.).

**КОЛЭ́ЎРАТ, КАЛО́ЎРАД** *м.* Журавель калодзежа. Марочна.

*Асьве́р м.* ○ *Кало́дзезьны асьве́р; вадачарпа́льня ж.; калаўро́т м.* (Дзісеншч.).

**КОЛЯ́ДЫ** *мн.* Каляды. Семяховічы.

*Каля́ды мн.* (Дзісеншч.).

**КОМІ́РКА** *ж.* Невялікая камора. Марочна.

*Камо́ра ж.; камо́рка ж.* (Дзісеншч.).

**КОНЮ́ШНЯ** *ж.* Канюшня. Марочна.

*Каню́шнік м.* (Дзісеншч.).

**КОРОВА́Й** *м.* Каравай. Семяховічы.

*Карава́й м.* (Дзісеншч.).

**КОРЧ** *м.*, **КОРЧЫ́** *мн.* Пень з каранямі ад ссечаных дрэў (у цэнтральнай і паўночнай Беларусі). Лозічы.

*Куст м., кусты́ мн.; кусто́ўе н. зб.* (Дзісеншч.).

**КОСА́Р** *м.* Касец. Семяховічы.

*Касе́ц м.; касьбі́т м.* (Дзісеншч.).

**КОСАРЫ́** *мн.* Сузор'е Вялікая Мядзведзіца. Марочна.

*Воз м.* ○ *Наву́маў Воз; коўш м.* ○ *Бая́рскі Коўш* (Дзісеншч.).

**КОСНЫ́К** *м.* Стужка, стужачка. Марочна.

**КОСОВЫ́ЦА** *ж.* Касьба. Семяховічы.

*Касьба́ ж.* (Дзісеншч.).

**КОЎБАСА́** *ж.* Каўбаса. Семяховічы.

*Кілбаса́ ж.* (Дзісеншч.).

**КО́ЎДРА** *ж.* Коўдра. Марочна.

*Ко́ўдра ж.* (Дзісеншч.).

**КОЧА́НКА** *ж.* Суконная або лямцавая коўдра. Семяховічы.

**КРАВЭ́Ц** *м.* Кравец. Семяховічы.

*Краве́ц м.* (Дзісеншч.).

**КРА́ЙКА** *ж.* 1. Жаночы даматканы пояс. Марочна. 2. Даматканы лубяны жаночы пояс з узорамі. Семяховічы.

**КРА́МЕНЬ** *м.* Крэмень. Марочна.

*Ска́лка ж.* (Дзісеншч.).

**КРАСА́** *ж.* Цвіценне злакавых раслін. Лозічы.

*Краса́ ж.; красава́ньне н.* (Дзісеншч.).

**КРО́КВА** *ж.*, **КРО́КВЫ** *мн.* Кроква. Марочна.

*Кро́ква ж., кро́квы мн.; краквіна́ ж.* (Дзісеншч.).

**КРУПА́** *ж.* Снег у форме невялікіх шарападобных зярнят. Марочна.

*Кру́пы мн.* (Дзісеншч.).

**КРУ́ПНЫК** *м.* Крупяны суп; крупеня. Семяховічы.

*Крупні́к м.; крупе́ні мн.* (Дзісеншч.).

**КРУ́ЧА** *ж.* Мяцеліца. Марочна.

*Ве́я ж.; за́вій м.; завіру́ха ж.; лі́ха н.* ○ *Сьне́жнае лі́ха; мяце́ліца ж.* (Дзісеншч.).

**КРУЧО́К** *м.* Калена ракі. Марочна.

*За́віх м.; за́кля ж.; за́клявіна ж.; за́крут м.* (Дзісеншч.).

**КРЫ́СЛО** *н.* Крэсла. Марочна.

*Крэ́сла н.* (Дзісеншч.).

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Суп з крышанай бульбы. Семяховічы.

*Булён м.* (Дзісеншч.).

**КРЭ́ЙДА** *ж.* Крэйда. Марочна.

*Крэ́йда ж.* (Дзісеншч.).

**КУ́ДАСА** *ж.* Снег з ветрам. *Пачала́ся ку́даса.* Лашы.

**КУ́ЖЭЛЬ** *м.* Самая добрая для прадзіва кудзеля з тройчы ачэсанага дручкай і шчоткай лёну. Піншчына.

*Ку́жаль м.* (Дзісеншч.).

*Ку́жальны прым. Пашыты з кужалю* (Дзісеншч.).

**КУМА́** *ж.* Вір. Марочна.

*Аму́т м.; вы́рва ж.* (Дзісеншч.).

**КУМПЯ́К** *м.* Кумпяк. Семяховічы.

*Кумпя́к, кумпі́к м., кумпякі́ мн.* (Дзісеншч.).

**КУ́ПА** *ж.* Перагной. Марочна.

*Купа́ ж.* (Дзісеншч.).

**КУПА́ЛЬНЫ** *прым.* ○ КУПА́ЛЬНЫ ЙВАН. Купалле. Семяховічы.

*Купа́льле н.* (Дзісеншч.).

**КУ́ПКА** *ж.* Сузор'е Пляяды. Марочна.

*Сітца ж.* (Дзісеншч.).

**КУРГА́Н** *м.*, **КУРГАНЫ́** *мн.* Купіна на лугах. Марочна.

*Бугóр м.; бугра́к м., буграчóк ласк.; курга́н м., курганóк ласк.* (Дзісеншч.).

*Бугóр'е н. зб. Купіны на лугах* (Дзісеншч.).

*Курга́ньне н. зб. Тое ж* (Дзісеншч.).

**КУ́РТКА** *ж.* Кароткая світа. Піншчына.

*Курта́ты прым. Кароткі* (Дзісеншч.).

**КУРЭ́ТНЫК** *м.* Куратнік. Марочна.

*Кура́тнік м.* (Дзісеншч.).

**КУТЬТЯ́** *ж.* Куцця. Семяховічы.

*Куцьця́ ж.* (Дзісеншч.).

**КУ́ЧА** *ж.* Гурба (снегу). Марочна.

*Гу́рба ж.* (Дзісеншч.).

**КУЧМА́** *ж.* Зімовая шапка. Марочна, Сернікі.

**ЛАКНО́** *н.* Вадзяная лілія. Лозічы.

*Жоўтацьве́т м.; плаво́чнік; цьвет ○ Бе́лы цьвет* (Дзісеншч.).

**ЛА́ТА** *ж.*, **ЛА́ТЫ** *мн.* Доўгая, плоска абчасаная жэрдка, што кладзецца ўпоперак кроквах, прыбіваецца цвікамі; такім чынам ўтвараецца аснова страхі. Зарэчча.

**ЛАТЫ́НА** *ж.* Доўгая, плоска абчасаная жэрдка, што кладзецца ўпоперак кроквах і прыбіваецца цвікамі. (Дзісеншч.).

*Ла́ціна ж.* (Дзісеншч.).

**ЛОЖЧЫ́НА** *ж.* Лагчына. Марочна.

*Лагчы́на ж.* (Дзісеншч.).

**ЛО́КШЫНА** *ж.* Макароны. Семяховічы.

*Макарóн м.* (Дзісеншч.).

**ЛІ́ЖКА** *ж.* Ложак. Марочна.

*Лóжак м., лóжка ж.* (Дзісеншч.).

**ЛІ́ТНІК** *м.* Даматканая самаробная летняя жаночая вопратка (напр., андарак, сукенка). Семяховічы.

**ЛУ́ЖА** *ж.* Лужа. Марочна.

*Лу́жа ж.; лу́жына ж.* (Дзісеншч.).

**ЛУ́ТЫ** *мн.* Жэрдкі, якія прымацоўваюцца да лат пры дапамозе лазовых вітак пры пакрыцці страхі саломай. Марочна.

**ЛЯВО́НЫХА** *ж.* Беларускі народны танец. Семяховічы.

*Лявóніха ж.* (Дзісеншч.).

**МА́ЛЯР** *м.* Маляр. Семяховічы.

*Маля́р м.* (Дзісеншч.).

**МАМО́Л** *м.* Вадзяная лілія. Лозічы.

*Жоўтацьве́т м.; плаво́чнік; цьвет ○ Бе́лы цьвет* (Дзісеншч.).

**МАНІ́Ж** *м.* Манеж; памяшканне або месца для машыннага коннага прывода малатарні. Лозічы.

*Мане́ж м.* (Дзісеншч.).

**МАСЛЯ́НКА** *ж.* Маслёнка; вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла са смятаны. Семяховічы.

*Масьля́нка ж.* (Дзісеншч.).

**МА́ТЫ** *ж.* Маці. Семяховічы.

*Ма́тка ж.; ма́ці ж.; ма́ціра ж.* (Дзісеншч.).

**МГЛА** *ж.* Імгла;ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці і туману. Марочна.

*Ймгла ж.* (Дзісеншч.).

**МІДЬ** *ж.* Медзь. Марочна.

*Медзь ж.* (Дзісеншч.).

**МІ́СТО** *н.* Горад. Семяховічы.

*Ме́ста н.* (Дзісеншч.).

**МІСТЭ́ЧКО** *н.* Мястэчка. Семяховічы.

*Мястэ́чка н.* (Дзісеншч.).

**МІ́СЯЦ** *м.* Месяц. Семяховічы.

*Ме́сяц, ме́сіц м.* (Дзісеншч.).

**МОКРОЛЕ́ТО** *н.* Дажджлівае лета. Марочна.

*Моч ж.* (Дзісеншч.).

**МОКРОТА́** *ж.* Мокрае, дажджлівае надвор'е. Марочна.

*Макрая́дзь ж.* (Дзісеншч.).

**МОЛОКО́** *н.* Малако. ○ КІ́СЛОЕ МОЛОКО́. Сыракваша. Семяховічы.

*Малако́, мле́ка н. Молоко* (Дзісеншч.).

*Сырокква́ша ж.; сырапо́ня ж. Сыракваша* (Дзісеншч.).

**МУ́ЛЯР** *м.* Муляр. Семяховічы.

*Му́ляр, муля́р м.* (Дзісеншч.).

**МУРЛА́ТА** *ж.*, **МУРЛА́ТЫ** *мн.* Бервяно, пакладзенае ўздоўж верхняга вянца сцяны на перарубах для падтрымання кроквах на страсе. *Тая страха́ на шчэ́пах, а гэ́та – на мурла́тах.* Лозічы, Марочна.

**МЫТАНА́** *ж.* Смятана. Семяховічы.

*Сьміта́на ж.* (Дзісеншч.).

**МЯ́СО** *н.* Мяса. Семяховічы.

*Мя́са н.* (Дзісеншч.).

**НАВОДНЕ́НЬНЕ** *н.* Паводка. Марочна.

*Навадне́ньне н.; паво́дка ж.; разво́дзьдзе н.* (Дзісеншч.).

**НА́ВОЛОКА** *ж.* Навалачка. Марочна.

*На́улячка ж.* (Дзісеншч.).

**НАДВОУРОК, НАДВУ́РОК** *м.* Панадворак. Семяховічы.

*Панадво́рак м.* (Дзісеншч.).

**НА́КІДКА** *ж.* Накідка. Семяховічы.

*На́кідка ж.; насо́ў м.* (Дзісеншч.).

**НА́МІТКА** *ж.*, **НАМІТКІ́** *мн.* Галаўны ўбор у жанчын. Марочна.

*На́мітка, намётка ж.* (Дзісеншч.).

**НАНО́С** *м.* Мелкае месца каля берага. Марочна.

*Адме́л м.; нано́с м.* (Дзісеншч.).

**НАСТОУЛНЫК**, **НАСТЎЛНЫК** *м.* Абрус. Семяховічы.

*Абрýс м.; настóльнік м.* Семяховічы.

**НÁСЫПКА** *ж.* Насыпка; ніжняя навалачка падушкі, якая напаўняецца пухам, пер'ем. Семяховічы.

*Нáсыпка ж.* (Дзісеншч.).

**НАТЫКÁНЬНЕ** *н.* Вытканыя ўзоры на тканіне. Марочна.

*Вы́ткань ж.; вытыкáньне н.* (Дзісеншч.).

**НОГОВЫ́ЦЫ** *мн.* Штаны. Семяховічы.

*Нагавíцы мн.; штаны́ мн.* (Дзісеншч.).

**НЫЗ** *м.* Ніз, нізіна. Марочна.

*Лог м.; нізінá ж.; нізь ж.* (Дзісеншч.).

**НЭГÓДА** *ж.* Сцюжа; моцны холад, мароз. Марочна.

*Сьцюжа ж.* (Дзісеншч.).

**ОБДЫ́РКА** *ж.* Найгоршая кудзеля, самая непрыдатная для прадзіва. Семяховічы.

*Зрэ́б'е, йзрэ́б'е н.; зрэ́бніца, йзрэ́бніца ж.; зрэ́бнае, йзрэ́бнае н.* (Дзісеншч.).

**ОБÓРА** *ж.* Двор для жывёлы. Марочна.

*Абóра ж.* (Дзісеншч.).

**ОБРЫ́Ў** *м.* Круты схіл берага ракі. Марочна.

*Абры́ў м.* (Дзісеншч.).

**ÓГНІСКО** *н.* Вогнішча. Марочна.

*Вóгнішча н.* (Дзісеншч.).

**ОДКÓС** *м.* Адхон; нахільная паверхня гары. Марочна.

*Адкóс м.; схон м.; схонаватасьць ж.* (Дзісеншч.).

**ОДЛЫ́ГА** *ж.* Адліга. Марочна.

*Адлéга, адліга ж.* (Дзісеншч.).

**ОДНОПÓЛКА** *ж.* 1. Посцілка. Семяховічы. 2. Суцэльная, без швоў з аднаго палотнішча посцілка. Семяховічы.

*Пасьцíлка ж. Посцілка* (Дзісеншч.).

*Намётка ж. ○ Пасьцéльная намётка; прасьцірáдла н. Суцэльная, без швоў з аднаго палотнішча посцілка.* (Дзісеншч.).

**ОЗЭРЦЭ́** *н.* Невялікае возера. Марочна.

*Азяркó н.; азярцó н.* (Дзісеншч.).

**ОЛÁДОК** *м.* Аладак. Семяховічы.

*Алáдак м.; блінóк м.* (Дзісеншч.).

**ОЛЫВÓ** *н.* Волава. Марочна.

*Вóлава н.* (Дзісеншч.).

**ОПЫЛÓЎКА** *ж.* Апілоўка бярвення з усіх бакоў пры дапамозе пілы ці напільніка. *Опылóўка дрэва.* Семяховічы.

*Апілóўка, пілóўка ж.* (Дзісеншч.).

**ОРАНЬНÉ** *н.* Апрацоўка зямлі плугам ці сахой. Семяховічы.

*Арбá ж.* (Дзісеншч.).

**ОСЛÍН** *м.* Услон; пераносная лаўка ў хаце. Марочна.

*Зэ́даль м.; тапчáн м.; услóн м.* (Дзісеншч.).

**ÓССТРОЎ** *м.* Востраў. Марочна.

*Астрóў, вóстраў м.; астравíна ж.* (Дзісеншч.).

**ПАДЎШЭЧКА** *ж.* Беларускі народны танец. Семяховічы.

*Падýшачка ж.* (Дзісеншч.).

**ПАКÓЙ** *м.* Пакой. Марочна.

*Пакóй м.* (Дзісеншч.).

**ПÁЛЕЦ** *м.*, **ПÁЛЬЦЫ** *мн.* Валік або стрыжань у машынным коле, які захоплівае і пускае ў рух шасцярню. Лозічы.

*Кулáк м., кулакí мн.* (Дзісеншч.).

**ПАЛЬЧÁТКІ** *мн.* Пальчаткі. Семяховічы.

*Пальчáткі мн.* (Дзісеншч.).

**ПАНЧÓХА** *ж.*, **ПАНЧÓХЫ** *мн.* Панчоха. Семяховічы.

*Панчóха ж., панчóхі мн.* (Дзісеншч.).

**ПÁНЧЫРЫЦА** *ж.* Падчарыца. Семяховічы.

*Пáдчарыца, пáчарыца ж.; пáсірбіца ж.* (Дзісеншч.).

**ПАСТЎЛ** *м.*, **ПАСТОЛЫ́** *мн.* Пасталы; мяккі сялянскі абутак з цэлага кавалка скуры, які носіцца з анучамі і прывязваецца да ног аборамі. Семяховічы.
**ПОСТОУЛ**, **ПОСТЎЛ** *м.*, **ПОСТОЛЫ́** *мн.* Піншчына.

*Пáстал м., пáсталы мн.; лáпаць м., лáпці мн.* (Дзісеншч.).

**ПАЦЁРКІ** *мн.* Пацеркі, каралі. Семяховічы.

*Пáцеркі мн.* (Дзісеншч.).

**ПАЦЫЯ́Т**, **ПАЦІЯ́Т** *м.* Дашчаны шчыт на двухскатнай страсе будынка. *Страхá із пацыя́там.* Піншчына.

*Шчыт м. Страхá са шчы́там* (Дзісеншч.)

**ПÁЧЭСЭ** *н.* Кудзеля з лёну, які быў абчасаны дручкай. Семяховічы.

*Пáчаскі мн.; пáчасьсе н.* (Дзісеншч.).

**ПІНЖÁК** *м.* Пінжак. Семяховічы.

*Кулёк м.; пальтóўка ж.* (Дзісеншч.).

**ПÍРНАЧ** *м.* Пярына. Марочна.

*Пернáт м.; пяры́на ж.* (Дзісеншч.).

**ПЛОВЭ́ЧНІК** *м.* Вадзяная лілія. Лозічы.

**ПЛОТНЫК**, **ПЛОТНІК** *м.* Цясляр. Семяховічы.

*Плóтнік м.* (Дзісеншч.).

**ПЛЮ́ХА** *ж.* Мокрае, дажджлівае надвор'е. Марочна.

*Макрая́дзь ж.; моч ж.* (Дзісеншч.).

**ПОГОДЫЦЦА** *зак.* Памірыцца. *Погодылыса.* Семяховічы.

*Пагадзíцца зак. Пагадзíліся.* (Дзісеншч.).

*Згóда ж.; пагóдзіны ж. Згода; мірныя адносіны* (Дзісеншч.).

**ПОДЭ́НКІ** *мн.* Падонкі; рэшткі вадкасці з асадкамі на дне пасудзіны. М. Марочна.

*Падóньне н.* (Дзісеншч.).

**ПÓЛОГ** *м.* Роды. ◊ ЛЕЖÁЦЬ У ПОЛОГЎ. Раджаць. *У Сэмэ́на роды́ны: Сэмэ́ныха у пóлогу лэжы́ць.* Семяховічы.

*Пóлаг м. ◊ Ляжáць у пóлагу. Раджаць. У Сымóна радзíны: Сымóніха у пóлагу ляжы́ць; рады́ мн.* (Дзісеншч.).

**ПÓЛЫЎКА** *ж.* Кіслы мучны суп. Семяховічы.

*Патраўка ж.; пóліўка ж.; хлюбка ж.* (Дзісеншч.).

**ПОМЫРЫЦЦА** *зак.* Памірыцца. *Помырылыса.* Семяховічы.

*Пагадзíцца зак. Пагадзíліся.* (Дзісеншч.).

**ПОПÍНКА** *ж.* Пакрывала для каня. Марочна.

*Гýнька ж.* (Дзісеншч.).

**ПОПРУ́ГА** *ж.* Скураны пояс. Марочна, Семяховічы.

*Дзя́га ж.; рэ́мень м.* (Дзісеншч.).

**ПО́ПЫЛ** *м.* Попел. Марочна.

*По́пел м.* (Дзісеншч.).

**ПОРЫ́Г** *м.* Парог. Марочна.

*Паро́г м.* (Дзісеншч.).

**ПОСЦІ́ЛЬ** *ж.* Пасцель. Марочна.

*Пасьцéль ж.* (Дзісеншч.).

**ПОУДПА́Л, ПУДПА́Л** *м.* Падпал. Марочна.

*Падпа́л м.* (Дзісеншч.).

**ПОУЖЭ́Р, ПУЖЭ́Р** *м.* Пажар. Марочна.

*Пажа́р м.* Марочна.

**ПОУСТ, ПУСТ** *м.* ○ ВЭЛЫКІ ПОУСТ (ПОСТ). Велікодны пост. Семяховічы.

*Пост м.* ○ *Вялікóдны пост, Вялікі пост* (Дзісеншч.).

**ПОЎШВА, ПЎШВА** *ж.* Насыпка; ніжняя навалачка падушкі, якая напаўняецца пухам, пер'ем. Семяховічы.

*На́ўлечка ж.; на́сыпка ж.* (Дзісеншч.).

**ПОЎСУКНО́** *н.* Паўсукно. Семяховічы.

*Паўсукéньнік м.* (Дзісеншч.).

**ПО́ХОРОНЫ** *мн.* Пахаванне. Семяховічы.

*Хаўту́ры мн.* (Дзісеншч.).

**ПОШКРЫ́БУХА** *ж.* Булачка хлеба з рэштак цеста. Семяховічы.

*Падскрэ́біш м.* (Дзісеншч.).

**ПО́ЯС** *м.* Пояс; мужчынскі рэмень, шнур і пад., чым падпяразваюць адзежу на таліі. Семяховічы.

*Пая́с м.* (Дзісеншч.).

**ПРА́ДАК** *м.*, **ПРА́ДКІ** *мн.* Продкі. Семяховічы.

*Прэ́дак м., прэ́дкі мн.* (Дзісеншч.).

**ПРА́ДЗІД** *м.* Прадзед. Семяховічы.

*Пра́дзед м.* (Дзісеншч.).

**ПРОРЫ́Ў** *м.* Роў, які ўзнік з-за ціску вады. Марочна.

*Про́рва ж.; роў м.; ры́тва ж.* (Дзісеншч.).

**ПРОСЬЦЬ** *ж.* Шлях па балоце, на якім можна ехаць напрасткі. Марочна.

*Нацянькі прысл. Напрасткі, напрамкі* (Дзісеншч.).

**ПРОТА́ЛКА** *ж.* Праталіна. Марочна.

*Прата́лак м.* (Дзісеншч.).

**ПРОТО́К** *м.* Пратока. Марочна.

*Вадацéч ж.; прато́к м.* (Дзісеншч.).

**ПРЫБІ́Й** *м.* Прабой. Марочна.

*Прабо́й м., прабаёк м. ласк., прабо́йчык м. ласк.* (Дзісеншч.).

**ПРЫДВІСЭ́НЬНЕ** *н.* Прадвесне. Марочна.

*Прэ́двесень ж.* (Дзісеншч.).

**ПРЫДЫ́ШЭЛЕК** *м.* Жэрдка, прымацаваная да сярэдзіны пярэдняй восі калёс у машынным прывадзе малатарні. Лозічы.

**ПРЫ́ЗБА** *ж.* Прызба. Марочна.

*Зава́льня ж.; пры́зба ж.* (Дзісеншч.).

**ПРЫ́ЙМЫНА** *ж.*, **ПРЫ́ЙМЫНЫ** *мн.* Жэрдка, якая прымацоўваецца да лат пры дапамозе лазовых вітак пры пакрыцці страхі саломай. Марочна.

*Пасьцéль ж.* ○ *Саламяная пасьцéль. Саламянае пакрыццё страхі* (Дзісеншч.).

**ПРЫ́МОРОЗОК** *м.* Лёгкі марозец вясной. Марочна.

*Пры́маразак м., пры́маразкі мн.; пры́маразь м.* (Дзісеншч.).

**ПРЫСЬЦЬ** *м.* Рукаў ракі. Марочна.

**ПРЫЧЎЛАК** *м.* Канец выпуклай страхі. *Стры́ха із прычу́лком.* Марочна, Плешчыцы, Сернікі. **ПРЫЧЎЛОК** *м. Стры́ха із прычу́лкам.* Пінշчына.

*Лабя́к м. Страха́ з лабяко́м* (Дзісеншч.).

*Лаба́ты прым. Выпуклы. Лаба́тая страха́* (Дзісеншч.).

**ПУЛЬЦЬ** *ж.* Вялікі кавалак свінога сала. *Пульць са́ла.* Семяховічы.

*Полсьць ж. Вялікі кавалак свінога сала. Полсьць саланіны.* (Дзісеншч.).

**ПЭ́РКАЛЬ** *м.* Паркаль. Семяховічы.

*Парка́ль м.* (Дзісеншч.).

**ПЭРОУГ, ПЭРЎГ** *м.* Пірог. Семяховічы.

*Піро́г м.* (Дзісеншч.).

**ПЭРЭ́СПА** *ж.* Перашыек. Марочна.

*Перава́л м.; перасмы́к м.; пярэ́спа ж.* (Дзісеншч.).

**ПЭТРО́ЎКА** *ж.* Пятроўка; пост у праваслаўных перад святам апосталаў Пятра і Паўла. Семяховічы.

*Пятро́ўка ж.* (Дзісеншч.).

**ПЫЛЫ́ПАЎКА** *ж.* Піліпаўка; пост перад Калядамі. Семяховічы.

*Пілíпаўка ж.* (Дзісеншч.).

**ПЫ́ЛЬЧЫК** *м.* Пільшчык. Семяховічы.

*Пілéчнік м.; пілóўшчык м.; пільшчык м.* (Дзісеншч.).

**ПЫСО́К** *м.* Пясок. Марочна.

*Пясо́к м.* (Дзісеншч.).

**ПЫСЧУГА́** *ж.* Сыпкі пясок. Марочна.

*Пясчура́ ж.* (Дзісеншч.).

**РАГО́ЖА** *ж.* Сіт; высакарослая балотная расліна. Лозічы.

*Сíта н.; сíтнік м.* (Дзісеншч.).

**РАДНО́** *н.* Саматканы дыван або посцілка. Марочна.

**РАСПАШО́К** *м.* Прорезі на світцы па баках. Марочна.

**РАТА́Й** *м.* Чалавек, які абрабляе зямлю плугам ці сахой. Семяховічы.

*Арбíт м.; ратáй, аратáй м.* (Дзісеншч.).

**РОСКА́ЛЬ** *м.* Пачатак вясны, калі растае снег. Марочна.

*Згон м.* ○ *Згон зімы́* (Дзісеншч.).

**РОЎНІНА́** *ж.* Раўніна. Марочна.

*Раўнíна ж.; раўня́дзь ж.* (Дзісеншч.).

**РУБА́ШКА** *ж.* Кашуля. Семяховічы.

*Руба́шка ж.* (Дзісеншч.).

**РУКАВІ́ЧКІ** *мн.* Пальчаткі. Семяховічы.

*Рукавíчкі мн.; пальча́ткі мн.* (Дзісеншч.).

**РУЧНЫ́К** *м.* Ручнік. Семяховічы.

*Ручнíк м.* (Дзісеншч.).

**РЫКА́** *ж.* Рака. Марочна.

*Рака́ ж.* (Дзісеншч.).

**РЫ́МАР** *м.* Рымар. Семяховічы.

*Ры́мар, рыма́р м.* (Дзісеншч.).

**КЕСЬЦЭ́, КОСЬЦЭ́** *н.* Кассё; ручка ў касе. Дубнавічы, Сернікі.

*Касаўё н.; касавільна н.* (Дзісеншч.).

**КІПКА** *ж.* Пячурка; невялікая ніша ў сцяне печы для сушкі прадзіва і пальчатак. Сернікі.

*Пячу́ра ж.; пячу́рка ж.* (Дзісеншч.).

**КЛОПОТ** *м.* Прылада ў жорнах, якая прымацоўваецца да сцяны і служыць вушкам пры мліве. Сернікі.

*Лапацéнь м.* (Дзісеншч.).

**КОМІ́НОК, КОМЫ́НОК** *м.* Асобная частка прыпечка, у якой раскладваецца агонь для асвятлення хаты. Сернікі.

**КО́ПКА** *ж.* Пячурка; ніша збоку прыпечка, куды заграбаюць вуголле, попел. Сернікі.

*Я́мка ж.* (Дзісеншч.).

**КОРО́БКА** *ж.* Пасудзіна з саломы, абплеценая лазой, для трымання мукі або збожжа; падчас сяўбы выкарыстоўваецца як прыстасаванне, з якога сеюць (сявенька). Дубнавічы.

*Лу́бка ж.; сева́лка ж.* (Дзісеншч.).

**КОРЭ́Ц** *м.* Прымацаваная да верхняга жарнавога каменя ручка, што выкарыстоўваецца пры мліве. Сернікі.

*Карэ́ц м.* (Дзісешч.).

**КОЦЁЛКІ́** *мн.* Прыстасаванне ў кроснах, якое рэгулюе напрамак нітак. Сернікі.

*Калéсцы мн.* (Дзісеншч.).

**КРУ́ЖКА** *ж.* Пасудзіна для чэрпання і піцця вады. Дубнавічы.

*Ко́наўка ж.; ку́бак м.; кубарка ж.*

**КУ́БАК** *м.* Тое ж. Дубнавічы.

*Ко́наўка ж.; ку́бак м.; кубарка ж.* (Дзісеншч.).

**КУ́ЛЯ** *ж.* Кассё; ручка для трымання касы. КУ́ЛЬКА *ласк.* Сернікі.

*Кавела́ ж.; кавёлка ласк.; палю́х м.* (Дзісеншч.).

**КУ́ХОР** *м.* Драўляная скрыня з выпуклым векам для захоўвання палатна і вопраткі. Дубнавічы.

*Ку́фар м.* (Дзісеншч.).

**КУ́ЧКА** *ж.* Прастора пад печчу, дзе зімой трымаюць курэй. Сернікі.

**КЫШ** *м.* Лазовы кош. Дубнавічы.

**ЛЁЗО** *н.* Вострая частка сякеры ці нажа. Сернікі.

*Абу́х м.* Тупая частка сякеры, процілеглая лязу. (Дзісеншч.).

*Тро́нкі мн.; чаранкí мн.* Ручка сякеры ці нажа. (Дзісеншч.).

**МАКЕТРА, МАКЭТРА** *ж.* Шырокая, невысокая, з выпуклымі бакамі гліняная міса. Сернікі. **МАКУТРА** *ж.* Дубнавічы.

**МЛЮН** *м.* Рухавік жорнаў. Дубнавічы.

*Мялéн м.* (Дзісеншч.).

**МЫ́СА** *ж.* Міса. МЫ́СКА, МЫ́САЧКА *памянш.-ласк.* Дубнавічы.

*Míса ж., міска, місачка памянш.-ласк.* (Дзісеншч.).

**НАБЫЛІЦА** *ж.* Набіліцы; у кроснах драўляныя планкі, у якія ўстаўляецца бёрда. Дубнавічы.

*На́білкі мн.; набíльніца ж.* (Дзісеншч.).

**НАБЫЛЬКІ́** *мн.* Набіліцы; у кроснах драўляныя планкі, у якія ўстаўляецца бёрда. Сернікі.

*На́білкі мн.; набíльніца ж.* (Дзісеншч.).

**НІЖ** *м.*, **НІЖЭ́** *мн.* Нож. Чэмяры. **НЫЖ** *м.*, **НОЖЫ́** *мн.* Нож. Парэчча.

*Нож м., нажы́ мн.* (Дзісеншч.).

**НІТ** *м.*, **НІТЫ́** *мн.* Ніт; злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы. Сернікі.

**ОСНО́ВА** *ж.* Папярочныя ніткі, якія пераплятаюцца і ўтвараюць тканіну. Сернікі.

*Асно́ва ж.* (Дзісеншч.).

**ПАЛУ́КОШЭК, ПОЛУ́КОШЭК** *м.* Палукаш; пляцёны з лазы кораб, які ўстаўляецца ў драбіны воза. Дубнавічы.

**ПЛЯ́ШКА** *ж.* 1. Пасудзіна, якая служыць для захоўвання вадкасці. 2. Мера вадкасці, роўная аб'ёму гэтай пасудзіны. *Паста́ў нам пля́шку гарэ́лкі!* Парэчча.

*Бутэ́лька ж.* (Дзісеншч.).

**ПОДНЭБЭ́НЬНЕ** *н.* Паднябенне, скляпенне (у печы). Сернікі.

**ПО́ДОК** *м.* Под; гарызантальная паверхня ўнутры печы, на якую кладзецца паліва. Сернікі.

*Пады́ мн.* (Дзісеншч.).

**ПОКОТЭЛЬНІКІ** *мн.* Прыстасаванне ў кроснах, якое рэгулюе напрамак нітак. Сернікі.

*Калéсцы мн.* (Дзісеншч.).

**ПО́НЫЖ** *м.*, **ПОНОЖЫ́** *мн.* Педаль у кроснах. Сернікі.

*Панажы́ мн.* Педаль у кроснах (Дзісеншч.).

**ПОПРЫ́ЦА** *ж.* Прыстасаванне з жалеза, якое ўмацавана ў верхні жарнавы камень і служыць воссю пры яго руху. Дубнавічы. **ПОЎПРЫ́ЦА** *ж.* Сернікі.

**ПО́РЦЫЯ** *ж.* Мера гарэлкі, роўная адной чарцы. Піншчына.

*Ча́рка ж.* (Дзісеншч.).

**ПОУДПОУД, ПУДПУД** *м.* Под у жорнах; гарызантальная паверхня пад камянямі жорнаў. Дубнавічы.

*Под м., пады́ мн.* (Дзісеншч.)

**ПОЎЗІНЬНЕ** *н.* Сухое галлё, якое кладзецца на стрэхі і стагі сена для аховы іх ад ветру. Сернікі.

**ПРАЧ** *м.* Пранік; плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны пры мыцці і паласканні. Дубнавічы.

*Пра́нік м.* (Дзісеншч.).

**ПРЫ́ЗБА** *ж.* Прызба; невялікі земляны насып уздоўж сцяны хаты. Дубнавічы.

*Зава́льня ж.* (Дзісеншч.).

**ПРЫ́ПЕК, ПРЫ́ПЭК** *м.* Прыпечак; пляцоўка перад чалеснікамі печы. Сернікі.

*Пры́печак м.* (Дзісеншч.).

**ПЫД** *м.* Под у жорнах; гарызантальная паверхня пад камянямі жорнаў. Сернікі.

*Под м., пады́ мн.* (Дзісеншч.).

**СІ́ДАЧКА** *ж.* Месца для сядзення пры працы на кроснах. Дубнавічы.

*Седзíлка ж.* (Дзісеншч.).

**СКОВОРОДА́** *ж.* Патэльня; металічная пасудзіна для смажання. Дубнавічы.

*Патэ́льня ж.; скварада́ ж.* (Дзісеншч.).

**СПОДА́К** *м.* Ніжні камень у жорнах. Сернікі.

**СПОДЗЯ́К** *м.* Тое ж. Дубнавічы.

**СУДЫ́НКА** *ж.* Гліняная пасудзіна для захавання малака. Дубнавічы, Сернікі.

*Гарла́ч м., стаўбу́н м.* (Дзісеншч.).

**ТАРЭ́ЛКА, ТАРЫ́ЛКА** *ж.* Талерка. Сернікі, Дубнавічы.

*Тале́рка ж.* (Дзісеншч.).

**ТРАПАЛО́** *н.* Трапло; прылада, пры дапамозе якой трэплюць лён. Галево.

*Трапло́ н.* (Дзісеншч.).

**ТРЭ́ПАЧКА** *ж.* Драўляная падстаўка, якую выкарыстоўваюць пры трапанні лёну. Галево.

*Со́шка ж.* (Дзісеншч.).

**ТЭ́РНІЦА** *ж.* Церніца; прылада, якой труць лён. Дубнавічы, Парэчча, Сернікі.

*Мяліца ж.* (Дзісеншч.).

**УШУ́ЛА** *ж.* Шула; бервяно ці тоўсты брус з высечанымі пазамі, замацаваны ў сцяне. Дубнавічы.

*Шула́ ж.* (Дзісеншч.).

**ЦІЎКА** *ж.* Цэўка; прыстасаванне, на якое навіваюцца ніткі і якое ўстаўляецца ў чаўнок пры тканні. Дубнавічы. **ЦЫЎКА** *ж.* Сернікі.

*Цэ́ўка ж.* (Дзісеншч.).

**ЦЭ́БЭР** *м.* Цэбар; шырокая драўляная пасудзіна з двума вушкамі, якая ўжываецца для пераносу вады або іншых вадкіх спажывецкіх прадуктаў. Дубнавічы.

*Цэ́бар м., цабэ́рак памянш.-ласк.* (Дзісеншч.).

**ЧОЎНЫ́К** *м.* Чаўнок; дэталь у ткацкім станку. Сернікі.

*Чаўна́к м.* (Дзісеншч.).

**ЧЫГУ́Н** *м.* Гаршчок, кацёл або кацялок з чыгуна. Дубнавічы.

**ЧЫНЫ́** *мн.* Чын; месца скрыжавання нітак асновы, дзе ходзіць чаўнок. Сернікі.

*Чыно́ўкі мн.* (Дзісеншч.).

**ЧЫРЭНЬ** *ж.* 1. Ляжанка на печы, якая служыць для спання і сушкі розных рэчаў. 2. Под; гарызантальная паверхня ўнутры печы. Сернікі.

*Под м., пады́ мн.* Под; гарызантальная паверхня ўнутры печы (Дзісеншч.).

**Ю́ХТА** *ж.* Юшка; металічнае прыстасаванне, якім закладаюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра. Сернікі.

*Лю́хта ж.; лю́шка ж.; ю́шка ж.; ю́хта ж.* (Дзісеншч.).

**ЯЧ'Я́** *ж.* Ніша ў жорнах, куда ссыпаюць збожжа. Сернікі.

*М. В. Абабурка*

## ВАРЫЯНТНА-СІНАМІЧНЫЯ РАДЫ ДЗЯСЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ Ў ВЁСЦЫ МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

У 1978 г. убачыла свет кніга «Жывое слова» пад рэдакцыяй Ю. Ф. Мацкевіч і І. Я. Яшкіна. Гэта зборнік «падборак мясцовых народных слоў з розных раёнаў Беларусі», сярод якіх была і наша публікацыя пад назвай «Экспрэсіўныя дзесловы ў гаворцы в. Морач Клецкага раёна» (с. 178–183). Сёння нам здаецца, што варта больш увагі звяртаць на фіксацыю сінонімаў і адлюстроўваць сінаніміку рэгіянальнай лексікі, каб такія абазначальныя сродкі не страціліся разам са знікненнем носьбітаў рэгіяналізмаў. У згаданай публікацыі адлюстраваныя варыянтна-сінанімічныя рады, як падаецца зараз, з'яўляюцца няпоўнымі: СТУ́КНУЦЬ – ЗЫ́РНУЦЬ – ГВА́ЗНУЦЬ – АШАПУ́ЛІЦЬ – ЗБАБО́ЎШЫЦЬ – АПЯРЭ́ДЗІЦЬ; СТУ́КНУЦЦА – ГВА́ЗНУЦЦА – ЗЫ́РНУЦЦА – ЗГРЭ́БНУЦЦА – ЛУЗАНУ́ЦЦА; УПА́СЦІ – ГО́ПНУЦЦА, ГЭ́ПНУЦЦА – ЗГРЭ́БНУЦЦА; ПІСА́ЦЬ – ГЕ́РЗАЦЬ – КРАМЗО́ЛІЦЬ – КРЭ́ЙЗАЦЬ, КРЭ́МЗАЦЬ – ШРАЎБАВА́ЦЬ, ШРАЙБЭ́ЛІЦЬ і інш. Паспрабуем ніжэй падаць больш поўныя варыянтна-сінанімічныя рады толькі некалькіх дзеясловаў, дамінантамі якіх найперш з'яўляюцца стылістычна-нейтральныя ці гутарковыя літаратурныя намінацыі. Сінонімы будуць пададзены праз працяжнікі, а варыянты – праз коскі.

АБАБЕ́ГАЦЬ, АББЕ́ГАЦЬ – АБАБЕ́ГЧЫ, АББЕ́ГЧЫ – АБАБЕ́ГЦІ, АББЕ́ГЦІ – АБКАЛЯСІ́ЦЬ, АБКАЛЯСНІ́ЦЬ – АБЛА́ЗІЦЬ – АБПО́ЎЗАЦЬ – АБЛЯ́ТАЦЬ, АБЛЁТАЦЬ – АБПАХА́ТНІЧАЦЬ, НАПАХА́ТНІЧАЦЦА – АБЦЕ́РЦІ ЧУЖЫ́Е(Я) ВУГЛЫ́, ПААБЦІРА́ЦЬ ЧУЖЫ́Е(Я) ВУГЛЫ́ – АДВЕ́ДАЦЬ СУСЕ́ДАЎ, АДВЕ́ДАЦЬ СУСЕ́ДЗЯЎ – ПЕ́РШЫМ АДЧЫНІ́ЦЬ СУСЕ́ДАВУ ХА́ТУ – ПЕ́РШЫМ ЗАЙЦІ́ (ЗАЙСЦІ́) У ХА́ТУ СУСЕ́ДАЎ (СУСЕ́ДЗЯЎ)

*По́куль вада́ ў чыгуно́х закіпіць, мая́ ababе́гае (аббе́гае) паўсялá. Абабе́гчы то ўсіх аббяжы́ць, але ж які́ толк з гэ́тага, як (ак) была́ паха́тніца, так е́ю й засталáся. Ці ж я магу́ ўсіх абабе́гці (аббе́гці), ці ж мне 20 або 30 гадо́ў – вы ж са́мі ве́даеце, што ўсе 50?! Ну, што, паха́туха, абкалясíла ўсіх сваíх падру́г? Абкалясні́ць з са́мае ра́ніцы ўсе́нькі асяро́дак, дак нагаво́рыцца на*

*цэ́ленькі дзянёк... А мая ж так ле́дзьво хо́дзіць, а па ха́тах абла́зіць за паўдня́ ўсе́нькі акало́так, каб то́лько плётак напляціс(ся). Заду́мала абпо́ўзаць усіх сваякоў, дак уве́чары то́лько дадо́му прыцягну́лася. Ох, і спры́тна ж маладзіца – за якіе там пятна́ццаць міну́т аблётала й сусе́дзяў, і ў ма́газін дапя́ла. Здэ́цца аблятала б уве́сь раён, каб сілы хапіло – от дак вы́дра, от дак ліса́! Ко́жненькі бо́жы дзень абпаха́тнічае сядзіб з пято́к – тагды́ й бярэ́цца ўхо́жвацца. Напа(па)-ха́тнічаецца, а тагды́ ёй мло́сно ро́біцца – ве́дамо ж , усяля́кіе во́чы й ду́мкі ў людзе́й: і до́брые, і злы́е (зло́сные). Паку́лечы ні абцярэ́ (паабціра́е) усе́ сусе́дскіе вуглы́, то на́вет і за яду́ ні во́зьмецца – вот паро́да дак (дык) паро́да. По́сле сну адве́даць сусе́даў (сусе́дзяў) – мой святы́ абавя́зак (найпе́ршы доўг). – От хто б нам пе́ршы адчыні́ў хату́, калі ж ні на́ша сусе́дачка, – малайчы́нка, малайчы́нка! Зра́нку пе́ршым зайці (заісці) у ха́ту да сусе́да – гэто́ пачо́т, гэ́то ж са́мые звыча́йные адве́дкі (во́дведкі): дазнае́шся, як (ак) здаро́ўечко, што но́ваго ў ро́дных і блізкіх, яка́я нужда́ іх апанава́ла і мно́го чаго́ іншаго, – так заве́дзено ў нарма́льных людзе́й (лю́дцаў).*

АБАБІ́ЦЬ – АБКАЛАЦІ́ЦЬ, АКАЛАЦІ́ЦЬ – АБЛАТАШЫ́ЦЬ – АБТРЭСЦІ, СТРАСЦІ – СТРАХАНУ́ЦЬ – АПРАТА́ЦЬ – АЧЫ́СЦІЦЬ – АЦЯ́ЦЬ, СЦЯЦЬ – АГАЛІ́ЦЬ – АБЦЕРАБІ́ЦЬ, АЦЕРАБІ́ЦЬ

*Ко́жды го́д ве́цер без пары́ абабіва́е (абіва́е) мно́го я́блыкаў, быва́е што на́вет і з гальём. Абкалаці(лі) без дай ладу ра́но ўсе́нькі садо́к, дак (дык) німа́шака каму́ і куды́ ўпе́рці гэ́сты ўраджа́й. Акалаці́ць я́блыка то акалацілі, а дзе ж на іх спрат узя́ць, скажэ́це мне?! Бу́ра аблаташы́ла дай жэ ж вішні й рабіны, от жа, хале́ра лазяна́я, што ж мне рабі́ць? Му́сіць, трэ́бо абтрэ́сці снег з галінак, бо папрыліпа́е й абло́міць малады́е дрэ́ўца. Трэ́бо як (ак)-то страсці (стрэ́сці, страхану́ць) снег з правадо́ў, бо абарве́, зара́за чо́ртава... Пале́зь хібо́, сыно́к, на я́блыні й апра́ч атту́лека, з са́менькаго вяршо́чка, тые мале́нькіе я́блычкі, а то ж загнію́цца яны́ та́мака, пта́шкам яны́ ні трэ́бо... На зіму я ачышча́ю жэ́рдкаю недара́звітые плады́, каб ні загніва́лі та́мака. Хаце́ў аця́ць (сця́ць) усе́нькі снег, а шчэ напе́рад наламаў галья́. Агалі́ў садо́к для (дзе́ля) гэ́стых перакупшчыка́ў... Прые́халі, братко́ ты мой, дзве фу́ры, абцерабілі мне ўсе-ўсе́нечкае да пасле́дняго я́блычка і пагу́лі наза́д – цяпе́рака я багаты́р! Ну што, агаро́днічак, ацерабі́ў мне віша́нькі дачыста́ – ах, няго́днік!*

АБАБІ́ЦЬ, АББІ́ЦЬ – АБМАХНУ́ЦЬ, ЗМАХНУ́ЦЬ – АБТРАПА́ЦЬ – САГНА́ЦЬ, ЗГНАЦЬ – СТРАХНУ́ЦЬ, АТРАХНУ́ЦЬ – ЗМАХНУ́ЦЬ, АБАБІ́ЦЬ ГРОШ (КАПЕ́ЙКУ) – АБАБІ́ЦЬ РО́СУ (РА́СУ) – АБАБІ́ЦЬ ШЛЯХ (ДАРО́ГУ) – ЗНЭЙСЦІ ВЫ́ХАД

*Абабі-ка мне пыл зьлёгку, ну, хоць ге́стаю выбіва́чкаю. Хлапчанё! На-ка маім кійко́м аббі тое ву́ньдзека спе́ленькае я́блычко. Ну, хоць бы абмахну́ла тро́хо снег, а то прэ́цца пра́мо з гу́ліцы на цэ́нтру, пасто́й ля паро́га, зарэ́ ж лу́жа бу́дзе ту́тако. Быва́ло, атрэ́плем лён ад кастры́цы, а ён аж све́ціцца, ну, ні раўну́ючы, як (ак) у не́каторых ко́сы (валасы́) на галаве́. Саганю́ руко́ю то́го кляшча́ – і пашла́ дале́й зьбіра́ць я́гады, ніхто́ й ні дума́ў, што яны́ такіе ўрэ́дные(я), ты́е(я) кляшчы́. Згані, міла́чка, тых камаро́ў з мае́ спіны, а то панапіва́юцца крыві, я і ні чу́цьму. Страх-ну́ла, здэ́цца ж, до́брэ ладо́нью гэ́ту га́дасць, а яна́ й па плячо́х по́ўзае – прышло́сё й разьдзява́цца. От пы́лу дак пы́лу! Атрахну́лі мяне́ ад яго́ разо́ў з дзе́сець, а з мяне́, здэ́цца, і цяпе́рака шчэ сып(л)ецца. Зма́хвала гэ́то павучэ́нне мо сто раз, а яно́ як (ак) прыліпа́е – пе́р'е ці пух і то зьля́тае, а гэ́то нічы́м ні саб'е́ш, аддзіра́ць ажні ж трэ́бо. Змахну́ла слязу́ платко́м і пашла́ дадо́му адна́. Абаб'ю́ які грош ці хоць капе́йку – узаб'ю́се(ся) на швэ́дар (сві́тар, сві́цер). Абува́й сме́ло сваé ла́пці (басано́жкі): лю́дзі ўжэ даўно́ ро́су (расу́) абабілі. Ідзі саба́чым сле́дам: Ша́рык абабі́ў табе́ шлях (даро́гу), а як (к, ак) по́ле пра́йдзеш, тагды́ й сам зна́йдзеш вы́хад, калі ні захо́ч(эш) по́ўзаць па тым сне́зе.*

АБАБРА́ЦЬ – АЧЫ́СЦІЦЬ – АХА́ЯЦЬ – ЗНЯЦЬ – ПРЫБРА́ЦЬ, ПРЫВЕ́СЦІ Ў ПАРА́ДАК РУКА́МІ – АБАБРА́ЦЬ СВАІ́МІ РУКА́МІ – АБКАРНА́ЦЬ ДА СА́МАГО НЕ́ЛЬГА

*Трэ́бо асцяро́жно рука́мі (руко́ю) абара́ць ко́ждае дзераўцо́, пакла́сці ўраджа́й у асо́бенные скры́нкі, паста́віць іх адна́ на адну́. Ачы́сцімо сад ад я́блык са́менькіх по́зніх – тагды́ й напыр-скаемо тваім ляка́рством. Аха́йвалі са́мі ко́ждую галінку ад гэ́тае драбязы́, а мне й вялікіе(я) ужо́ пара́дкам надаелі. Зні́меш ка́ждае яблы́чко, прыбярэ́ш у пара́дак усе́нькі садо́к сваімі ж*

*рукáмі – паглядзіш патóм, аж сэ́рцо ўзрыганéцца ад рáдасці, задавóленасці самíм сабóю. Калі абабрáць усé дрэ́ўцы сваімі рукáмі, калі самóму прывéсці ў парáдак сад, то й зімóю прыятно ўспóмніць цяпло́ ад спéлых і пераспéлых груш, слíў, я́блык, асóбенно антóнавак. Абкарнáлі да сáмаго нéльга маладóга садкá, дзе нáвет і галíны (вéткі) папааддзірáлі.*

АБАБРÁЦЬ – АБАКРÁСЦІ – АГАЛІ́ЦЬ – АЧЫ́СЦІЦЬ – ЗВАЛАЧЫ́ – СЦЯГНУ́ЦЬ – СВІ́СНУЦЬ – СПÉРЦІ – СЦЁБНУЦЬ – СТЫ́РЫЦЬ – СЦІ́БРЫЦЬ – ПАДЦЯЦÉРЫЦЬ – ХÁПНУЦЬ, ХАПЯНУ́ЦЬ – ПРЫСВÓІЦЬ ЧУЖÓЕ – АБАБРÁЦЬ ДА НІ́ТАЧКІ – АБАДРÁЦЬ ЯК ЛІ́ПКУ (ЛАЗУ́) – ПАЗЫ́ЧЫЦЬ НАСАЎСІ́М

*Э́то ж трэ́бо было так абадрáць пасярóд бéлаго дня: пад’éхалі задкóм на машы́ні да сáменькаго акнá, цішкóм вы́білі, залéзлі – і цягáлі, кóлько ўлéзло. Абакрáлі ўжэ́ другі раз – і ні мóгуць дазнáцца: хто? Ні паглядзéлі, што дзяцéй кýча – агалілі да трусóў. Ачы́сцілі дачкý так, што аж стрáшно слýхаць яé раскáзы, нáвет паўкастрá (паўстóга) дроў сцягнýлі. Звалаклí нібы́то валакýшамі ў сілóсную я́му, а самдзéле ўсéнькае сéно ў сваю адры́нку сцягнýлі – от бо зладзю́гі, і камáр нóса ні падтóчыць, спрытню́гі дак спрытню́гі... Ужэ́ й пры Малянкóве сусéд мой свіснуў мяшóк пшаніцы – і два гóдзікі адсéдзеў... Ні так хадзілі ў той калхóз, каб што зарабíць, а каб што-ніштó спéрці, бо працадзéнь каштавáў двáццаць капéек – от жы́тка былá, аж бры́дко, зáрэ й гавары́ць пра тóе, што былó ды й сплылó. Бывáло, сцёбнеш пáру мóрквін, пóлючы ці прарэ́джваючы, а дзéцям – такáя рáдасць, такóе шчáсце, ну, прóсто як (ак) тым зáйчыкам у тэ́ліку. Сты́рым галóўку капýсты й пáру кішэ́нь картóплі, дак (дык) вячэ́ра на ўсе сто... Пóсле вайны́ нічóго ні клáлі без нагля́ду і жыўнасць былá пад замкóм, бо раз-два сцíбраць – і слéду ні знáйдзеш. І сусéдзі нáшы лю́бяць падцяцéрыць з калхóзнаго сáду. Падскóчыць да сталá, хáпне (свíсне), што з краёчку ляжы́ць, – і так дасць дзёру, ажні пя́ткі блíскаюць. Быў, брáце, і я на том вясéлы – хлóпець прóсець вы́несці чагó смáчненькаго, дак я ўваскóчу, хапянý што-нібýдзь у кішэ́ню да й хóду даю, а хлóпцы й дзяўкі рáды... Ні люблю́ я такíх, што пазы́чаць, а пóсле прысвóйваюць чужóе, ну, прóсто ні аддаю́ць, бо лю́бяць крáсці. Абабрáць да нíтачкі або абадрáць як лíпку ні кóжды мóжэ, бо дóбрэ вéдае, што гэ́то грабёж. Абдзёр як (ак) лазíну мянé рóдны брат, і я паéхаў на зарабóткі ў Данбáс. Пазы́ч мне пáру вёдзер картóплі, бо я як (ак, к) адсéяўся, дак і ў вóчы яшчэ́ яé ні бáчыў, а то я калі-нéбудзь вéчарам пазы́чу насаўсíм усé, што засталóсё ў тваёй прыгрэ́бцы.*

АБАГАЦІ́ЦЦА, АБАГАЧÁЦЦА – РАЗБАГАЦÉЦЬ, УЗБАГАЦÉЦЬ – АЗАЛАЦІ́ЦЦА, АЗАЛАЦÉЦЬ, АЗАЛАТНÉЦЬ – АПАТЫ́ШЫЦЦА – СТАЦЬ БАГАТЫРÓМ (ПАМÉШЧЫКАМ, КНЯ́ЗЕМ, МАГНÁТАМ) – АБРАСЦІ́ БАГÁЦЬЕМ – НАБІ́ЦЬ ТÓРБУ (КІШЭ́НІ, КАШАЛЁК, СКРЫ́НЮ, СУНДУКІ́, СЯЛЬНІ́К) ГРАШМІ́ (ГРАШÁМІ, ГРАШЫ́МА) – ПАТАНУ́ЦЬ У ДАЛЯ́РАХ (У ЗÓЛАЦЕ, У ЗЯЛЁНЫХ)

*Мо зноў нам удáсца й цяпéрака абагаціцца з я́гад да й грыбóў, як (ак) у том гóдзі. Прывы́к абагачáцца з чужóго мазаля́, дак (дык) пачáў крáсці ў калхóзі – ці тóлько надóўго?! Разбагацéлі мнóгіе пры Брэ́жняві: машы́ны пакуплялі, дáчы парабілі да й адбудавáліся на ўсе сто! Кóжды хóчэ ўзбагацéць, а ні глядзíць, што закóнно і што не – смéлые ўсе вéльмо ж стáлі... Ранéй, яшчэ́ ў Саю́зі, мóжно былó азалаціцца ад клубнíкі (трускáлкамі яе завём), а цяпéрачы ў кóждаго свая́ – навучы́ліся расцíць... Азалацéла, вóзячы ўсяля́кіе анýчы (убóры) сюды́-тýды́, але ж без пóльзы – сталá ж вéльмо скупáя... І жукóвіны на кáждом пáльцы залаты́е, і завушніцы залаты́е, і цэ́пкі з кры́жыкамі залаты́е – слóвам, азалатнéла ўсéнькай самá, нáвет валасы́ зрабіла жóўтые, як (ак) тóе зóлато. Пастаршынявáў мо гадóў пятнáццаць, дак (дык) браткó ты мой, так апаты́шыўся, што ажні ў Крымý дамóк сабé вы́страіў – от што знáчыць адчáйны начáльнік, а ні то што нікатóрые хóдзець тóлько ў аднóм касцю́ме, баяцца сéсці ў фóрму ці пайсці на паніжэ́нне. Як (ак) прызнáчылі кладаўшчыкóм, дак (дык) стаў багатырóм на ўсéнькі раён, а мой – на вóбласць. У нáшом калхóзі мóжно былó стаць і памéшчыкам, і князькóм, і магнáтам – абы́ ўмеў аддымáць і дзяліць... Мой сусéд, што з прáваго бóку, абрóс багáццем, не раўнýючы, як той кáмень, што абрастáе мóхам. Ну, што з тагó, калі набі’еш тóрбу абó скры́ню грашы́ма – сераўнó ты іх ні спажывéш, а застанéцца твае багáцье чóрту лы́саму – от так я табé скажý, дальбóг жэ ж чы́ста(я) прáўда! Ах жэ ж і рáдасць вялíка(я): набíў сяльнíк грашмí, а сам спíць на цвёрдай*

*падлóзі... Цяпéрака маладые старáюцца патанýць у далярах, у зялёных, як яны сáмі кáжуць... Плáвалі пры Пóльшчы некатóрые ў зóлацi й серабры, а патóм затанýлі рáзам з íмі, але ж наслéднікі і сягóннечы дыхаюць тым багáцьем.*

АБВІНІ́ЦЬ, АБВІНЯ́ЦЬ – АБВІНАВА́ЦІЦЬ, АБВІНАВА́ЧВАЦЬ – НАКІДА́ЦЦА, НАВА́ЛЬВАЦЦА – РАБІ́ЦЬ ВІНАВА́ТЫМ – ПРЫПІ́СВАЦЬ ВІНУ́ – ВЯРНУ́ЦЬ (ЗВАРО́ЧВАЦЬ) ВІНУ́ НА АДНАГО́ – КІ́ДАЦЬ КАМЯНІ́ (ШЫ́ШКІ) У ЧУЖЫ́ АГАРО́Д – ВЕ́ШАЦЬ УСІ́Х САБА́К НА АДНАГО́

*Абвіні́ць чалавéка раз-два, вéльмо лéгко, а вот апраўдáць, хоць і не нівінавáтаго, ні так-то прóсто. Мянé абвіня́лі (абвінавáчвалі, вінавáцілі) чортведóмо ў чом, а ўсе ж былá напрáсліна – і нівядóмо, чым бы кóнчылася тая прыдýманая вінá, каб ні адвакáт. Накі́нулісе ўсе рáзам, навалі́лісе(ся) на аднагó – і тлумáч ім, чамý тóе ні гэ́дак, а гэ́тае ні так. Навалі́лісе(ся), пáне мой, ну, як (ак) на ліхýю шáпку, адлупцавáлі ні за што, ні пра што, а цяпéрака шчэ й па судóх пацягáюць – от і дакáзвай, што ты ні верблю́д – ну й жы́тка пашлá! Зрабі́лі вінавáтым, прыпісáлі вінý – скарыстáнне службóвых абавя́зкаў для сябé, для сваé ўцéхі, а цяпéрака шы́юць (падшывáюць) спрáву пад нéкім там спецыя́льным нóмерам. Ці ж па-лю́дску гэ́то зварóчваць усíхную вíну на аднагó: білася цэ́ла(я) шáйка, а шукáюць завадáтара? Брáце ты мой, кі́даюць у мой агарóд і камéньчыкі, і булы́жнік справядлóвы, а ні тóлько нéкіе там шы́шкі ці шы́шачкі. Ну, скажы́це мне, лю́дзі, чагó й то шы́шкі ляця́ць тóлько ў мой агарóд, чамý-то нéльго гэ́тые шы́шкі кі́нуць у чужы́ агарóд, бо я ні ў чым невінавáты. Сёнячы мóдно вéшаць усі́х сабáк на аднагó – з адны́м лёгко ўсім распраўля́цца, нáвет і прыкáзка гавóрыць: «Адзін у пóлі ні вóін!»*

АБГАВАРЫ́ЦЬ – АБМАЛО́ЦЬ – АБМЫ́ЦЬ – АБПЛЯВА́ЦЬ – АБХАРКА́ЦЬ – АБГА́ДЗІЦЬ – АБГНЮСІ́ЦЬ – АБСМЯЯ́ЦЬ – АПАСКУ́ДЗІЦЬ, СПАСКУ́ДЗІЦЬ – АПЛЯТКА́РЫЦЬ – ЗБЭ́СЦІЦЬ – АШАЛЬМАВА́ЦЬ, СШАЛЬМАВА́ЦЬ – СЧАРНІ́ЦЬ – СПЛЯ́МІЦЬ – СПАПЯЛІ́ЦЬ СЛО́ВАМІ – АБЛІВА́ЦЬ ГРАЗЁЮ (ПАМЫ́ЯМІ) – ЗАТАПТА́ЦЬ У ГРАЗЬ – ПЕРАМЫВА́ЦЬ КО́СТАЧКІ (КО́СЦІ) – НАВЫДУМЛЯ́ЦЬ УСЯ́КАЕ ЎСЯ́ЧЫНЫ – АБЛІ́ЦЬ ГАРА́ЧАЮ ВАДО́Ю

*Гэ́той паскýдзі абгавары́ць мянé нічóго ні стóіць – ёй абы́ языкóм ля́пнуць. Абмéле, абмóл гэ́ты, з усíх бакóў абля́пае карóвячымі лёпамі. Абмывáе, зарáза, усіх падрáд, ні глядзíць ні на кóго й ні на чóго – от каб яé ўжэ самýю скарэ́й бáбы абмы́лі. Хібó ж табé мнóго стóіць абплявáць або абхаркáць кагó папáло? Ну ні па-лю́дску гэ́то: спéршку абгáдзяць, а як здáчы дасі́, дак аблізваюць. Ці ж то чалавéк настая́шчы бýдзе старáцца, каб абгнюсіць, абсмяя́ць цябé німавéдамо якімі слóвамі – але ж каб гэ́то хоць прáўда былá?! Ніўжэ́ так мнóго чáсу трэ́бо, каб апаскýдзіць (спаскýдзіць) саўсім невінавáтаго!? А гэ́та пахáтуха з сáменькае рáнічкі апляткáрыла мянé на ўвесь бéлы свет, хоць ты цяпéрака й на лю́дзікі ні пакáзвайся (ні выхóдзь на сялó). О-хо-хó! І трэ́бо ж так збэ́сціць, ашальмавáць нізаслýжано перад усéнькім сялóм (сабрáньем) – ну, я гэ́той сýчцы ні падарýю, так ёй гэ́то ні сы́дзе, бýдзе я́на круці́цца ў мя́не, як в’ю́ны на скаварадзé. А ці ні грэх гэ́то – так ніспраўядлóво счарні́ць, спля́міць, збэ́сціць, абгнюсíць усяля́кімі бры́дкімі, нілю́дскімі слóвамі?! От, брáце ты мой, спапяліў славáмі мя́не той пракурóр! Мнóгім так і хóчэцца аблівáць гразёю ці памы́ямі нáвет сваíх сусéдзяў, блі́зкіх, знакóмых ... чамý так гэ́то? Адчагó ж гэ́то? – скажы́ мне... Ох, нáшы бáбы й абгавóрлівые: спéршку затóпчуць у гразь, а пóсле перамывáюць усé твае кóстачкі... Ад злóсці незаслýжано ці заслýжано – але ж перамы́юць кóсці... Як (ак) навыдумля́ў мне ўся́кае ўся́чыны пра маю́ благавéрную, дак (дык) я ажні́ ўпацéў – сераўнó як (ак) гарáчаю вадóю аблíў, вы́радак гэ́ты!*

АБДУРЫ́ЦЬ, АДУРЫ́ЦЬ – АБЖУ́ЛЬНІЧАЦЬ, АБЖУ́ЛІЦЬ – АБХІТРАВА́ЦЬ – АШУКА́ЦЬ – АБДУ́ЦЬ, НАДУ́ЦЬ – АБШМУЛІ́ЦЬ – АБВЯРЦЕ́ЦЬ – А(Б)КРУЦІ́ЦЬ – А(Б)КАЛПА́ЧЫЦЬ – А(Б)ДУРМА́НІЦЬ – АБМАХЛЯВА́ЦЬ, АБМАХЛЯ́РЫЦЬ – АБ’ЯГО́РЫЦЬ – АТУМА́НІЦЬ – АХМУРЫ́ЦЬ, АЧМУРЫ́ЦЬ, АЧМУЦІ́ЦЬ – А(Б)КРУЦІ́ЦЬ (АБВЯРЦЕ́ЦЬ) КРУГО́М ПА́ЛЬЦА (ПА́ЛЬЧЫКА) – АБУ́ЦЬ (АБУВА́ЦЬ) У ЛА́ПЦІ (АТО́ПКІ) – КУПІ́ЦЬ НІ ЗА ШТО́ – КУПІ́ЦЬ ЗА РЖА́ВЫ ЦВІК – ПАДВЕ́СЦІ ПАД ДУРНО́ГО ХА́ТУ – ПАДВЕ́СЦІ ПАД МАНАСТЫ́Р – ПАДКУЗЬМІ́ЦЬ ЯК (АК) МАЛО́ГО – ПАДКУСІ́ЦЬ СПАДЦІШКА́ – ПАДГАЎНЯ́ЧЫЦЬ ЯК СВАЙМУ́ (СВАЯКУ́) – ПУСЦІ́ЦЬ ДЫМ (ПЫЛ, ТУМА́Н) У ВО́ЧЫ

*Абдýрваюць, абжýльваюць ні тóлько цыганы́, абдýрваюць, абжýльнічваюць усé адзін аднагó – ад малóго да старóго. Дуры́лі, дуры́лі цыгáнкі, ну, так адуры́лі, што далá ім кусóк сáла, каб тóлько больш ні абдýрвалі. Абхітры́ла мяне́ прадаўшчы́ца на цэ́леньку(ю) ты́сячу. Абхітравáць беларýса – раз, два... Мы ўсе вéльмо ж давéрлівые(я). Ашукáў ашукáнец, а хто павéрыў, той засрáнец. На базáры ўсе старáюцца абдýць (надýць) хоць на мáкавае зéрне (зéрнятко). Абшмулíў – дак (дык) больш ні паглядываў, зарáза, на мяне́. (З мясцовай «брыньдзюшкі»). Абвярцéлі як (ак) хацéлі. Абкруцілі дýрня – бýдзе знаць нізнакóмых сабуты́льнікаў. Ты малы́м сябé лічыш, што дáўсе а(б)калпáчыць на ўсе стó? Ні йдзі ў гэ́ту кампáню – а(б)дурмáняць, а(б)жýльнічаюць, аблапóшаць з усіх бакóў – і бýдзеш пéрад усім нарóдам свяціць вачы́ма. Чагó ты з бальшунáмі звя́зваешсе(ся), хібó забы́ў, што ні адзін ужэ́ праз цябé абмахлявáлі (абмахля́рылі)? Ні смéйсе(ся), што мáму аб'ягóрылі, а глядзі, каб і да цябé ні падлéзлі з лáсачкаю, а пóсле языкі павысалапляюць і раты́ да вушэ́й параздзірáюць ад смéху з цябé. Сваім язычкóм кóждаго атумáніць, ахмуры́ць – і ўсе чамý-то вéраць... От чамý гэ́то так, ці ні скáжэш мне, чалавéча?! Гэ́такаму прайдакý (прайдзісвéту) ачмуры́ць, ачмуціць любóго з нас раз-двá – і ні стыдá, ні сарамá, вы́радак, ні знáе... Кýпіць цябé ні за штó ні пра штó і рагóчэ, як (ак) той конь на пóплаві. Купіць то кýпіць ён цябé за лóманы (паламáны, палóмлены) грош, але ж і ты пéрад ім вóка заплю́шчыш – і бýдуць усé на сялé з абýдвух вас пацяшáцца. Абкрýціць, абвéрціць цябé гэ́та дзéўка кругóм свайгó пáльчыка – і плáкалі твае́ грóшыкі... Ой, кóлько разóў ужэ́ абувáлі мяне́ ў лáпці, а я сераўнó вéру гэ́тым абмáншчыкам і хулігáнам. Падýмаць тóлько: гэ́то трэ́бо так кóжды Бóжы дзень абувáць ні то штоб у нóвые лёгкіе лáпці, а то ў нéкіе парвáные атóпкі – усé шукáюць дурнéйшых за сябé – от свет настáў, забы́лісе ўсе пра вайнý... Цікáво вéльмо ж: я хóчу ўсіх купіць ні за што, а сусéд смяéцца і кáжэ: «Дак, пáне брáце, і я ж хачý цябé купіць ні за што!» Кýды мы прышлі, што кóжды старáецца купіць цябé ж за твой жэ ж ржáвы цвік... «Ні абманéш – ні пражывéш», – гавóрыць пры́казка, – вот мы і старáемсе(ся) адзін аднагó падвéсці пад дурнóго хáту, абó, як (ак) цяпéрака прывы́клі выражáцца, падвéсці пад манасты́р, пачці што – «мані, стар!» Усé зáрэ хóчуць цябé падвéсці пад манасты́р – і малы́е, і пажылы́е, і дзéўкі, і бáбы, каб іх халéра ні напаткáла! Падкузьмілі мяне́, ак (як) малóго, далí вы́піць нéкае гáры, я адрáзу ж і звіўся, а яны́ рагóчуць, ак (як) жарабцы́ на вы́гані... Здэ́цца ж, і дрýгам бы́ў сардэ́чным, а падкусíць спадцішкá любíў і мяне́... Падгаўня́чыць, бывáло, як свайму́ (сваякý), а сам і ні лыс, нáвет і ні ўсміхнéцца – от зарáза былá хітра(я). А цыгáнка тáя пусціла мне ці то дым, ці то пыл у вóчы, адны́м слóвам, нéкім туманóм засланíла мне вóчы, схапіла сáмы лéпшы з абразóў над акнóм – і далá хóду; пóкуль я ачóмаўсе(ся) – яé й след прасты́ў. Так што вучýсе й я пускáць тумáн у вóчы табé.*

АБ'ÉСЦІСЯ(СЕ) – АБАБЭ́НЧЫЦЦА – АБДÝЦЦА, УЗДÝЦЦА – АБАБЭ́НЧЫЦЬ – АБЖÓРЦІСЕ, АБЖЭ́РЦІСЯ – НАПÉРЦІСЕ(СЯ) – НАГЛЫТÁЦЦА – НАХАПÁЦЦА – НАПХÁЦЦА, НАПІХÁЦЦА – НІ ПАПЕРАВÁРВАЦЬ, НІ ПЕРА(Ы)ВАРЫ́ЦЬ – НАБÍЦЬ ЖЫВÓТ (ПÝЗО, БРÝХО, НÓЧВЫ, ЧЭ́РАВО, ТРЫБÝХ) ЦАЛКÓМ (НІ ПЕРАЖÓЎВАЮЧЫ, НІ ПЕРАЖАВÁЎШЫ), (НІ ПЕРАВÁРВАЮЧЫ, НІ ПЕРАВАРЫ́ЎШЫ) – НАКÍДАЦЬ УНÍЗ (У ПÝЗО і г. д.) – НАÉСЦІСЯ БЕЗ МÉРЫ

*Заўсю́ды зайздрóсны на чужóе пéршы аб'éсца на вясéлы ці нáвет на папóйцы. Аб'éсціся можнó раз-двá, калі кóрмець ні за твой кошт (шчот). На канюшы́ні з расóю за пяць мінýт абабэ́нчыцца карóва. Ак карóву абабэ́нчыць, трэ́бо яé вадзіць сюды́-туды́, ні давáць стая́ць абó ляжáць. Абдýлася скацíна (жывёла) ад удабрэ́ння ў грýдах, налізáлісе, ак (як) тае́ сóлі. Каня́ ўздýло, ну, так уздýўся мóцно – і ні адхáялі (ні адратавáлі). Я раз абжóрсе(ся) на зарýчынах, то ратавáлі мяне́ нéкаю хлóркаю: давáлі піць, а пóсле мяне́ рвáло, ак (як) катá. Аднагó рáзу абжэ́рлася мая́ жóнка на йгры́шчы, то мо вядрó вады́ халóднае вы́піла, дак (дык) і прашлó навылёт. От гэ́ты галадамíр напрэ́цца абы-чагó, а пóсле жыватóм качáецца (канáе, хварэ́е). Напéрцісе ні штýка, а вот адратавáцца цяжкавáто. Наглытáцца мóжно й закýскі без гарэ́лкі, але ж тагды́ й ратавáцца дóўго пры́дзецца. Хапáе, хапáе, пóкуль ні нахапáецца – абабэ́нчыцца й крычы́ць на ўвесь свет, што ягó атравíлі мя́сам спóрчаным. Брáтко ты мой, і я адзін раз – былó гэ́то на брáтавым вясéлы – напхáўся нéкіх алáдак з павíдлам, дак так уздýло, што дýмаў лóпну й ад іх, і ад лéкаў. Панапіхáў мне*

*ўсякае яды ў кішэні, а я як з'еў усё-ўсёнечкае, дак і ўздула мой жывот – стаў цьвордым, ак (як) лоб. Малые ўсялякім зялёнівам панапіхваюцца, а после ні папераварваюць і крычаць на ўвесь белы свет, пакулечы ім клізмы ні паробяць. Сёмак наглытаюцца, ні пераварацьі – і качаюцца ад болю. Бывало: залезем на яблыню, наб'ём жыватьі цалком яблычкамі, ні пераж\u0301оўваючы, ні пераварваючы, а тагды выем ад рэзі, покуль ні павыблёўваем – от дурні дак дурні былі... А нам то што – абы пузо (чэрава) набіць тымі жмыхамі, а яны для кароў прызначаліся, от і было з намі дзялоў па саменькіе вушы... После вайны ніякае яды ні было – я ўжэ тут ні гавару пра ўсялякіе там прысмакі – дак мы караньков саладкаватых з травы рознае ўніз сабе накідаем, так дзень і пройдзе, а вечарам нешто бацькі аднекуль прынясуць, то й яшчэ дабавім – так і жылі, ні жылі, а перакідаліся з дня на дзень. У нас адны былі думкі: каб только наесціся, ак (як) мы гаварылі, ад пуза, або па горло, а гэто значыло – наесціся(ся) без меры. Наямосе(ся) без меры й чаго папало, дак качаемосе(ся) жыватамі, а маўчымо, бо заўтра нічого ні палучым – і прыдзецца галадаваць, што намного горш, чым той боль.*

АБДУМАЦЬ – ПЕРАВАРЫЦЬ – ПРАДУМАЦЬ, ПЕРАДУМАЦЬ – АБМЫСЛІЦЬ – АБМАЗГАВАЦЬ – РАЗВАЖЫЦЬ, УЗВАЖЫЦЬ – ПАКУМЕКАЦЬ – ЗМІКІЦІЦЬ – АБЧАСАЦЬ, АЧАСАЦЬ – РАСКІНУЦЬ МАЗГАМІ – ПАШАВЯЛІЦЬ МАЗГАЎНЁЙ (МАЗГАВЁШКАЙ, МАКАТЫРАЙ) – ПАВАРЫЦЬ КАЦЯЛКОМ (КАСТРУЛЯЮ, ГАРШКОМ) – ПАВАРУШЫЦЬ ІЗВІЛІНЫ – ПАШАВЯЛІЦЬ МАЗГАМІ (ЗВІЛІНАМІ, СЕРЫМ ВЕШЧАСТВОМ) – ПАСТУКАЦЬ ПА ЧАРАПКУ – ПАСТУКАЦЬ ІЛБОМ (КАЧАНОМ) АБ СТОЛ (СЦЕНКУ, ВУШАК) – ПАПСТРЫКАЦЬ ПА ГАЛАВЕ – ДАЦЬ ПАРУ ПСТРЫЧАК У ЛОБ – ПАЧУХАЦЬ ЛАБАСІНУ – ПАЦЕРЦІ ЛАБАЦІНУ – ПАЧУХАЦЬ (ПАСКРЭБЦІ, ПАДЗЕРЦІ) ПАТЫЛІЦУ (КАРКАВІНУ, КАРАК, ЗАТЫЛАК) – ПАСТУКАЦЬ ПА ЦЕМЕЧКУ

*Ні трэбо ніколі пароць, трэбо ўсе-ўсёнечкае абдумаць, пераварыць, абмысліць, каб і камар свайго носа ні падтачыў. Прадумай харашэнько, перадумай яшчэ колько разоў, абмыслі ак (як) след, а тады ўжэ абнародуй (крычы на ўвесь свет, плявузгай). А абмазгаваць напярод сваё выступлённе ні хочэш? Абсмакла ўсе костачкі, абчашы ўсе палёнцы, разваж, а мо й змікіціш ак (як) трэбо. Абдумай усё харашэнько, узваж усеньку драбязу, а тагды ўжэ й сведчы, калі надумаўсе быць сведкаю. Ні страдай, а пакумекай добрэ – а вот і ўсе выдзе на тваём... Разважлівые людзі спачатку разважаць, раскінуць сваімі мазгамі, абчэшуць усеньку кастрыцу, абсмокчуць усё костачкі, тагды ўжэ вылазяць з сваімі думкамі ці развагамі. Пашавялі сваёю мазгавёшкаю (мазгаўнёю, макатыраю), тагды ляпай, а то плявузгаеш ні к сялу ні к гораду. Паварыў моцно сваім кацялком – вот і сам рашыў гэту задачку, а мне яна ні пад сілу: я ж только пару класаў закончыў – і ты е ашчэ пры Польшчы, або па-цяперашняму, да вайны. Што гаршчок (каструлька) ні варыць – парушы ізвіліны, пашавялі мазгамі, і ўсе подзе ак (як) па маслі, пабачыш... Ні можэш шавяліць серым вешчаством – пастукай качаном сваім па сталё ці аб вушак, ляву або сцяну – хай звіліны зварухнуцца, а то яны ў цябе прыкарэлі... Ні йдзе задачка, а ты пастукай па чарапку ці хоць папстрыкай па сваёй галавешцы, глядзіш, і пайшло-паехало... Ні хочэш доўго абдумваць – а ты дай пару пстрычак у лоб, мо ўслед і выдзе тое, што табе трэбо... Чухай або ні чухай сваю лабасіну, а сераўно трэбо добрэ абдумаць, бо можэш так ляпнуць, што век выпікацьмуць і старые і малые. Пачухай ці хоць злёгку патры сваю лабаціну – і лёгко ўсе пойдзе, ні трэ будзе абдумваць усеньку ноч напралёт... Ці чухай, ці скрабі, ці хоць дзяры сваю патыліцу, а калі звіліны ні працуюць, то абдумвай хоць цэлые суткі – нічого мудрэйшаго за пракурорavae ці адвакатавае ні прыдумаеш, бо іх кацялкі, каструлі, гаршкі лепей вараць, чым нашы з табою... Пачухай каркавіну, пастукай па цемечку, можэш і ўсёю каструляю аб сцяну паджвагаць, а вот і выйдзе тое, што даўно ўжэ абдумаў ці перадумаў, абсмактаў ці ўзважыў мо сотню разоў, а мо навет і больш. Падзяры затылак аж да крыві, то й выдзе твая задума, то й абдумваць больш ні трэ будзе...*

АБДЫМАЦЦА – АБНІМАЦЦА – АБШЧЭПВАЦЦА, АШЧЭПЛІВАЦЦА – АБШЧАПЕРЫЦЦА, АШЧАПЕРЫЦЦА, УШЧАПЕРЫЦЦА – АБВІВАЦЦА – АБХВАЦІЦЦА – АБХЛАПВАЦЦА – ЦІСКАЦЦА – ПРЫЖЫМАЦЦА – ГУЛЯЦЬ У ПРЫЖЫМОНІХУ – ПРЫЦІСКАЦЬ ДА ГРУДЗЕЙ (ДА СЭРЦА) – ЦІСКАЦЦА Ў АБДЫМКАХ – СЦІСНУЦЬ РУКАМІ (ЛАПАМІ) –

ДУШЫ́ЦЬ, АБДЫМА́ЮЧЫ (ЦІ́СНУЧЫ, ПРЫЦІСКА́ЮЧЫ) РУКА́МІ – ЧА́СТА КІ́ДАЦЦА Ў АБДЫ́МКІ (АБДЫМА́ХІ) І ЛЮСКАЦЦА (ЦАЛАВА́ЦЦА)

*Ак (як) жаніха́юцца, тагды́ абдыма́юцца да й цалу́юцца на ко́жном шагу́, а к (ак, як) нажы́вуцца ра́зам, дак (дык) быва́е, што й паб'юцца да крыві́. Абніма́цца ў ло́жку лягчэ́й, чым матыкава́ць у гаро́дзі. Мала́я была́ ашчэ́, але ж і любі́ла абшчапе́рвацца: абаўе́ ру́чкамі тваю шы́ю, абслюня́віць гу́бкамі цябе́ ўсе́нечкаго, а табе́ хоць бы што – прыя́тно. І вы́расла Га́лька высо́зная, а ні саро́мелася ніко́го: ашчэ́піць сяро́д ха́ты й цалу́е беспярэ́станку. Цяпе́рака то́лько апшчэ́плівающца ча́сто, а цалу́юцца (лю́скаюцца) на лю́дзях ве́льмо рэ́дко. От, братко́ ты мой, е́сцека такіе́ дзе́ўкі, што ак (як) асме́ліцца ўшчапе́рыцца, дак пато́мі хоць вадо́ю адліва́й – ну, про́сто ак (як) клешч. На пе́ршым го́дзі на́шае жані́цьбы мы ў любо́м ме́сці маглі́ абхваці́цца й лабыза́цца, паку́лечы ні ста́не цё́мно ў вачо́х. Быва́ло, абаўе́цца мая́ благаве́рная, ні раўну́ючы, ак (як) хмель круго́м дзе́рава, і то́лько ча́сто ды́хае, ды́хае, ды́хае – маўчы́ць, ні́чо́генько не гаво́рыць. Ране́й по́йдзеш на вячо́ркі, дак мо́жно было́ й абла́пваць нікато́рых, а на гу́ліцы нізашто́ ні дава́ліся дакрану́цца – на́вет уцяка́лі з кры́кам: былі́ не́кіе дзі́кіе. Цяпе́рачы ці́скаюцца на лю́дзях, лю́скаюцца да пасіне́ння і ні ў ро́знак, усе́ ду́маем, што так і трэ́бо, што гэ́то мо́дно, бо ў целяві́зарах тако́е пака́зваюць, аж бры́дко глядзе́ць, хоць ты пішы́: «Пажылы́м глядзе́ць ні дазво́лено!» Прыжыма́юцца грудзя́мі адна́ да другое, цалу́юцца са сма́кам – і ўсе гэ́то, панебра́це, на лю́дзях, ні́бы́то назнаро́к: глядзе́це й аблі́звайцесе. Нагле́дзецца й малы́е целяві́зараў, да й без пары́, без ча́су гуля́юць у прыжымо́ніху – вот і распу́ста адгэ́туль. Хто па любві́ прыціска́е (прыжыма́е) да сваі́х грудзе́й (да свайго́ сэ́рца), а хто каб то́лько пазухава́ць, пакрасава́цца – глядзі́це й зайздро́сце (заві́дуйце): во́т мы які́е сме́лые! Адны́ хо́рашо, палюбо́ўна абдыма́юцца й цалу́юцца, а другі́е – про́сто ці́скаюцца ў абды́мках, ні́бы́то гуля́юць у прыжымо́ніху: ні́бы́то той мядзве́дзь абла́пвае то́лько сваі́мі ла́памі, а тае́ любві́ й ні́якаго сле́ду. Хто-ніхто́ так сці́сне сваі́мі ла́памі, што й ды́хаць не́льго, але не маўчы́ш, а то бра́зне ў ры́ло – і кро́ўю заплыве́ш – от былі́ бандзю́гі, але не па́ру такі́х ак (як) пасадзі́лі, то й сё́нека ніхто́ й па́льцам ні кране́. Мой яшчэ́ хло́пцам быў, дак (дык) про́сто заду́шваў, абдыма́ючы рука́мі, ак (як) кле́шчамі, а мне так і хаце́ласё, каб яшчэ́ мацне́й... Цяпе́рачы ве́льмо ча́сто кі́даюцца ў абдыма́х (абдыма́кі, абды́мкі) і лю́скаюцца (цалу́юцца) без дай ладу́, без дай прычы́ны.*

АБЛА́ЯЦЬ, ЗЛА́ЯЦЬ, ВЫ́ЛАЯЦЬ – ЗБЭ́СЦІЦЬ – ЗНЯСЛА́ВІЦЬ, АБНЯСЛА́ВІЦЬ – ЗБРЫ́ДЗІЦЬ – ЗДРАЖНІ́ЦЬ – МАЦЮГНУ́ЦЬ – МАЦЮКНУ́ЦЬ – ПРАПЯСО́ЧЫЦЬ – ДАЦЬ (ПУСЦІ́ЦЬ) МАЦЮКА́ – АБЛА́ЯЦЬ ПА МА́ЦЕРЫ – МА́ЦЕРНА ВЫ́РАЗІЦЦА – АБСЫ́ПАЦЬ БРЫ́ДКІМІ СЛО́ВАМІ – ПАСЛА́ЦЬ К ЧО́РТУ (К ЧО́РТАВАЙ МА́ТАРЫ) – АДДУБА́СІЦЬ, АДЧЫХВО́СЦІЦЬ СЛО́ВАМІ – НАКРЫЧА́ЦЬ, НАКРЫ́ЦЬ (АБЛА́ЯЦЬ, ЗБЭ́СЦІЦЬ, ЗБРЫ́ДЗІЦЬ, ЗДРАЖНІ́ЦЬ) БЛАГІ́М МА́ТАМ – ЗРАБІ́ЦЬ РАЗНО́С – РАСПУСЦІ́ЦЬ (СВОЙ) ЯЗЫ́К – ДАЦЬ ПРЫКУРЫ́ЦЬ – ДАЦЬ У КО́СЦІ – УСЫ́ПАЦЬ ГАРА́ЧЫМІ СЛО́ВАМІ – НАКРУЦІ́ЦЬ ХВОСТ – ДАЦЬ ПРАЧУХА́НЦА – ДАЦЬ ЧО́СУ *гл.* АБГАВАРЫ́ЦЬ

*Цяпе́рашніе лю́дзі ні́бы́то чака́юць, каб іх абла́ялі, – вот тагды́ яны́ й рухаве́юць. Ну, брыгадзі́р: зла́е ўсі́х на чым свет стаі́ць, а по́сле па-чалаве́чы гаво́рыць, ак (як) свой зяме́ля. Вы́лаяла гэ́тую су́чку са́мымі нядо́брымі сло́вамі – мо хоць гэ́так да яе́ до́йдзе, а то паняла́ мо́ду хадзі́ць на змярку́ ў лес. Ну, хва́ціць табе́ ўжэ бэ́сціць сваю нявє́стку перад усі́м наро́дам – ні така́(я) ж яна́ ке́пска(я), ак (як) ты лі́чыш. Спача́тку знясла́віць усяля́кімі сло́вамі, а по́сьле ле́зе цмо́кацца – от не́ўдаль дак (дык) не́ўдаль! Абнясла́ўлены, збры́джаны са́мымі га́дкімі сло́вамі чалаве́к, на́вет і до́бры, стано́віцца злым, нелюдзі́мым, бо ўсе зу́бы ска́ляць ні з яе́, а з яго́. От гэ́то жо́нка дак (дык) жо́нка: перад усе́нькімі людзьмі́ здрапе́ніць і мужыка́, і каго́ хо́чаш, а мужы́к той то́лько мацюкне́цца, плю́не да й бяго́м у сваю нару́. Быва́е, што мо́цно сва́рацца ўсяля́кімі бры́дкімі сло́вамі, але ж калі́ мацюкне́ш раз... другі́, трэ́ці раз, дак (дык) ту́тако не сва́рка сціха́е – от дзі́во яко́е мацюкі́! Быва́ло, ба́цько ак (як) прапясо́чыць нас усі́х ма́церными сло́вамі, дак (дык) мы до́ўго маўчымо́, а ма́ці яго́ – на́ша бабу́ля – пу́сціць і яму́ наўздаго́н тож не́калько мацюко́ў, і яму́ такса́мо ні́со́ладко стано́віцца. Цяпе́рачы й шко́льнікі даю́ць мацюко́ў ко́лько ўле́зе... От стаў свет, што на́вет саплі́вае дзіця́, яшчэ́ шапяля́е, а ўжэ ма́ты гне, абла́е цябе́ па ма́церы з усі́х бако́ў і во́кам*

*ні міргнé. Мне дýмаецца, што хто старáецца мáцерна вы́разіцца, той ні тóе, што нікультýрны чалавéк, а вы́радак, якóго трэ́бо адвýчваць тóлько дубíнкаю. І на гýліцу бры́дко выхóдзіць, бо там тóлько ляцяць з кóждаго дварá ў тваю гóлаў рýскіе мáты ці абсыпáюць цябé бры́дкімі слóвамі, прымéрно гэ́такімі: Чагó бéльмы сваé вы́лупіў? Якýю трáсцу вывіжóўваеш? Кудьі мóрду сваю прэш? А каб табé павылáзілі гэ́тые твае фáры! Ні трасí тут сваíм вы́мем, павыстаўляла дóйкі, дак дýмаеш усé й палéзуць на цябé адзін за адны́м, у радóўку стáнем... Паслáць цяпéрака старэ́йшаго к чóрту ці к чóртавай мáтары (мáцеры) – ніякіх праблéм, гэ́то ўжэ стáло мóдно. Огó нявéстачку Бог паслáў: аддубáсіць, адчыхвóсціць цябé слóвамі, што будзéш тóлько слíну каўтáць і язы́к праглынéш. Накрычáць, накры́ць цябé благíм мáтам – гэ́то нашáму брыгадзíру ні купíць, да малады́е цяпéрака без мацюкóў ні абхóдзяцца – вот культýра дак (дык) культýра, чорт бы яé пабрáў (падрáў)! Гэ́то, хлóпцы, ён ні абляяў нас, гэ́то ён нáм сваíмі бры́дкімі слóвамі зрабíў разнóс... Распýсціш свой язы́к, дак ні зглéдзіш, ак (як) стáнеш мацюкáцца (пускáць мацюкí). Ну й давáў прыкуры́ць старшыня ўсім брагадзíрам на лятýчцы, ах, і чырванéлі ж ты́е, гэ́то ім ні з нáмі... Ну й даў ім у кóсці... Ну й даў ім прачухáнца... Ну й даў ім чóсу... Вот усы́паў гарáчых слóвамі... Вот дак (дык) накруцíў ім хвасты́...*

АБНАСÍЦЦА, ЗНАСÍЦЦА – АБАДРÁЦЦА – АБТРАПÁЦЦА, СТРАПÁНУЦЦА – АБДРЫ́ПАЦЦА, ЗАДРЫ́ПАЦЦА – АБШАРПÁЦЦА, АШАРПÁЦЦА – АПУСЦÍЦЦА – АПАТÝРЫЦЦА – ЗЛАХТАДРЫ́НІЦЦА – ЗЛАХÝДРЫЦЦА – ЗЛЯ́МЧЫЦЦА – ТРАСЦÍ ТРÁНТАМІ, ДРÁНЦАМІ (ЛÁХАМІ, ЛÁХТАМІ, ЛАХМАНÁМІ, ЛАХТАДРЫ́НАМІ, АШМÓЦЬЕМ, АБНÓСКАМІ, НІДАНÓСКАМІ) – НАСÍЦЬ ЧУЖЫ́Е НІДАНÓСКІ (АБНÓСКІ)

*Пáне брáце, абнасíўся(се) ты да сáмаго нéльга, даўнéй жабракí лéпей выглядáлі за цябé (чым ты). Знасíлася, чалавéча, і твая адзéжа, і, канéчно, ты й сам... Паабдзірáлісе(ся) гэ́тые п'янчýгі, піцьзакýсваць éсцека за што, а каб хоць у свя́то ні хадзíць абадрáнымі (абалрáнцамі), дак ні знóйдзецца ні грашá – цікáво, ці, абдзярýцца ж яны́ да гóлаго цéла? Адзéжа ўсéнька абтрапáна, сáмі ўжэ саўсíм страпáные(я), а гáру ці чарнíло жлýкцяць штóдня – от вы́бралі сабé жы́тку! Ох, мая сусéдачка, страпáлася ўся мая жы́зня з-за гэ́таго п'янтóса, ну, скажы́ хоць ты, што мне рабíць, кудьі дзявáцца? Хóдзіць тут адзін абдры́паны, ці лéпей сказáць, задры́паны паўз платы́, ні раўнýючы, ак (як) свіня, пéсні мармы́чэ, а ні вéдае, што на ягó ўжэ глядзéць гáдко, а ні то, каб стаць ці сéсці пóбач. Абшарпáлася я, мілáчка, за гэ́тым агарóдам, з гэ́тым пóлівам і з гэ́тым матыкавáннем – свéту бóжаго ні бáчу! Па кустóх лазя́чы за гэ́тымі куранятамі, ашарпáлася ўся, пачалá ўжэ сы́навы стары́е пінжакí насíць, яны́ бы́тто мацнéйшые. Ну, трэ́бо ж ямý так апусціцца, апатýрыўся саўсíм, бедалáга, плывучы́ адзін-адзінюсенькі... Нé-нé, а пóсле саўсíм злахтадры́ніцца й да смéрці пóўзае ў дрáнцах, або, як нас яшчэ́ кáжуць, у лахманóх (лáхтах). Без мужыкá бáба мóжэ раз-два аднá злахýдрыцца і да сáменькае смéрці хадзíць у тых сáмых трáнтах (дрáнцах). Ой, Бóжухно-бáцюхно, ніўжó ты ні бáчыш, што, валя́ючысе пад плóтам, ля́мчыцца ні тóлько адзéжа – сам жэ чалавéк станóвіцца гóршым за тóго ля́мца, уразумí ягó, Бóжухно-бáцюхно... На лю́дзях трасцí сваíмі трáнтамі (дрáнцамі) скажý вам адкры́то – гэ́то прóсто ніпрылíчно! Каб то былі бéдные, а то ж жыць у такóм багáцці і трасцí на лю́дзях сваíм ашмóцьем, сваíмі абнóскамі-ніданóскамі – гэ́то пáзор, «стыд і срам на ўсю Еўрóпу»... Мы ні жабракí, каб насíць чужы́е ніданóскі, здавáйце іх анýчнікам ці збóршчыкам-загатавíцелям, а лепш занясéце ўсе вáшы лахтадры́ны і шмóткі на звáлку, за сяло абó ў сáменькі лес – хай звяры́ пацяшáюцца! А я бáчыла ў Мíнску, што мнóга хто казырáе дрáнцамі, асóбенно джы́нсамі-дрáнцамі.*

АБРАДЗÍНІЦЦА – РАДЗÍЦЬ, НАРАДЗÍЦЬ (*у парý*) – ЗРАНÍЦЬ, ВЫ́КІНУЦЬ, СКÍНУЦЬ (*без пары́*) – ПУСЦÍЦЬ ЧАЛАВÉКА НА БÉЛЫ (БÓЖЫ) СВЕТ – ПАВЯЛÍЧЫЦЬ СЯМ'Ю – ПРЫНЯСЦÍ Ў ПРЫПÓЛІ (БАЙСТРУКÁ, БЭ́НСЯ) – ПАДАРЫ́ЦЬ, ПАДАРАВÁЦЬ ЖЫВÝЮ ЛЯ́ЛЬКУ – СПАРАДЗÍЦЬ (ВЫ́РАДЗІЦЬ, ПРЫВЯСЦÍ, ПАРАДЗÍЦЬ) НІДАНÓСКА – СПАРАЖНÍЦЦА (ПЕРАСТÁЦЬ БЫЦЬ ТÓЎСТАЮ) САМÓЙ, САБÓЮ – СПАРÓЦЬ ДЗІЦЯ́ СВАÍМІ РУКÁМІ – ЗРАБÍЦЬ КРЫМІНÁЛЬНЫ АБÓРТ

*Гэ́то вéльмо дóбрэ, калі тóўста бáба абрадзíніцца ў свой час: і янá бýдзе здарóва, і дзіця́тко бýдзе нармáльнае. Радзíць не штýка, а вот вы́расціць нармáльнага чалавéка – вот гэ́то ні ўсяля́каму*

*пад сілу – так паяўляюцца й апівóшы, й зладзéі, й рóзные там вы́людкі... Урадзіць урóдзіш – пабаліць да й перастáне, але ж як (ак) нілю́дскі вы́расце, дак хóпіш гóрушка па сáменькіе вýшы. Я ажнó пяцяры́х нарадзіла, дай вы́гадавала, дзя́каваць Бóгу, ні гóршых за іншых, а вот жывý аднá-аднюсенька(я)... Двóе зраніла: падняла ў пóграбі аднагó рáзу два кашы́ картóплі – і гатóва, а другі раз было́ яшчэ́ прасцéй: пакаўзнýлася зімóю, упáла – і зноў вы́кінула без пары́. Мая сусéдка, што жывé спрáва, тры разы́ скінула – і жывé без дзяцéй, паглядáе на маіх, а ўваччý заўсю́ды слёзы паблісквають – от ні павязлó бáбі дак не павязлó. Пусціць чалавéка на Бóжы (бéлы) свет – гэ́то вéльмо ж пачóтно! А даўнéй пачці штогóд павялічвалася сям'я́, бо радзілі, кóлько Бог ні дасць – у майгó бáцька балó (калі й мянé лічы́ць) аж двáццаць аднó дзіця́, прáўда, ад двух жóнак – ад пéршае былó дзéвяць, ад другóе – дванáццаць, а засталóсе нас тóлько трóе пóсле вайны́: я – ад пéршае мáмы й дзве сястры́ – ад другóе мáмы. Ой, і быў жа вялікі пазóр – прынясці й ў прыпóлі бэ́нся, або байструкá, як цяпéрака ўсе ягó назывáюць... Цяпéрачы нікатóрые рóдзяць тóлько на пацéху, на вялíку(ю) рáдасць: глядзéце, лю́дзі, я вам падары́ла (падаравáла) жывýю ля́льку, нáце, цéшцесе, забаўля́йцеся, хоць гадавáць і начэ́й нідасыпáць мне пры́дзецца... Спарадзіць ніданóска, а пóсле гадавáць калéку – гэ́то вялíка(я) Бóжа(я) кáра! От вы́радзіла нéкаго ніданóска, дак (дык) тóлько спакóю німá з гэ́тым матóцыкам (матацы́клам) – равé й равé, абы тóлько сцямнéло... Мáр'я прывялá без пары́ ніданóска і ў радзільным дóмі пакінула ягó, а ты́я ўзя́лі да й адпрáвілі нівядóмо кудьі́, дак цяпéрачы б'éцца галавóю аб сцéнку, бо ніякага ўжо дзіця́ці німá-шака і больш ні бýдзе... Вéдаеш, кýмка (галýбка), ці не, а Лявóніха ўжэ перастáла быць тóўстаю, спаражнілася самá, самá сабóю – і хоць бы што, і закóну ёй німá... Я́к-то мóжно спарóць дзіця́ сваімі рукáмі, а калі ж парнéш у другóе мéсто – то й амін?! Зрабіць крымінáльны абóрт – гэ́то ж цяпéрака злачы́нство, стацья́, сýдзяць за гэ́то – і прáвільно зрабілі, бо спáсу ні былó ад такіх...*

АБСЛЕ́ДАВАЦЬ, ДАСЛЕ́ДАВАЦЬ, РАССЛЕ́ДАВАЦЬ – АБГЛЕ́ДЗЕЦЬ, АГЛЕ́ДЗЕЦЬ, ВЫ́ГЛЯДЗЕЦЬ – АБНЮ́ХАЦЬ, ВЫ́НЮХАЦЬ, РАЗНЮ́ХАЦЬ – АБША́РЫЦЬ, АБШНАРЫ́ЦЬ, АБШНЫ́РЫЦЬ – АБША́СТАЦЬ – АБШЫ́КВАЦЬ, АШУ́КВАЦЦА – ВЫВЕ́ДВАЦЬ, РАЗВЕ́ДВАЦЬ – ВЫВУ́ДЖВАЦЬ – ВЫЗНАВА́ЦЬ, ДАЗНАВА́ЦЦА, РАЗУЗНАВА́ЦЬ – ШПІЁНІЦЬ, ВЫШПІЁНЬВАЦЬ, ВЫШПІГО́ЎВАЦЬ – ВЫКО́ПВАЦЬ, ДАКО́ПВАЦЦА – ВІЖАВА́ЦЬ, ВЫВІЖО́ЎВАЦЬ – ВЫЯСНЯ́ЦЬ, ПРАЯСНЯ́ЦЬ – АБШЧУ́ПВАЦЬ ВАЧА́МІ І РУКА́МІ – АКІ́НУЦЬ ВО́КАМ (ПО́ГЛЯДАМ) – ЗМЕ́РАЦЬ (МЕ́РАЦЬ) ВО́КАМ (ВАЧА́МІ, ВАЧЫ́МА)

*Цяпéрака дзéці разóмные рóдзяцца: ашчэ́ ў калясцы ляжы́ць, а ўжэ пáльчыкам кóжду(ю) тваю маршчы́нку абслéдуе – то ўверх, то ўніз вóдзіць і ўсе гудзé нéшто сам сабé... Усé нéчаго вéчно шукáе, даслéдуе, паравéрне і ў шáфі, і ў кýфры, і ў кубéлках... Спачáтку ўсе-ўсéнькае расслéдуй сам да драбню́тачак, а пóсле ўжэ нападáй, ак (як) кóршун на кýрыцу... От праны́ра: абглéдзіць усé да нітачкі, а патóм абгавóрыць на ўвесь бéлы свет... Аглéджвае, брáце ты мой, ак (як) вялікі спец, а вы́глядзіць – і дóўго маўчы́ць, напéўно, паравáрвае ўсе да драбніц, пакýлечы ні пачýюць(ем, еш): «Дабрó!» Нідавя́рак такі, ну, прóсто нічóгенько нікóлі нікóму ні давéрыць, пóкуль ні абшнáрыць хоць вачмі... Спачáтку абшны́рыць, ак (як) той зладзюгá, а тагды́ ўжэ пачынáе тýю малацьбý... От кот дак кот – абшáстае ўсе куткі кругóм, а пóсле лажы́цца табé на калéні й нéшто мармы́чэ: бы́тто даклáдвае пра ўбáчанае... Пры́дзе, мая ты галýбко, німá каб то пасядзéў табé, а ён усé нéчаго шукáе, абшýквае, дашýкваецца, ак (як) той слéдчы, што ў судóх выступáе й дакáзвае... А ці ні надаéло табé ўсіх абню́хваць, усé выню́хваць, каб пóсле пасвары́цца ці тóлько пасмяя́цца з чалавéка працавітаго і нівінавáтаго?! Разню́хае, пáне мой, ні раўню́ючы, як тáя сýчка, а пóсле па ўсім сялé брэ́шэ, каб ёй нéчаго зарвáло на вéкі вéчные(я)... вывéдвае, вынюхóўвае, а тагды́ начáльству даклáдвае – ці ні парá ямý цёмную зрабіць, як ты дýмаеш?! Развéдваць, як (ак) бы даслéдваць напярóд, гэ́то дóбрэ, але ж камý тáя прáўда трэ́бо?! Вызнавáць, абó вы́вуджваць, усё-ўсялякае нек (нейк) ніпрылічно... Дазнавáцца прáўды – гэ́то ні грэх, за гэ́то нікатóрые гóлавы сваé палажы́лі... Мíленькі ты мой, разузнавáць прáўду – гэ́то ні кóждаму дáдзено... А мы дакапáлісе такі да ісціны, хоць выкóпвалі пачці год, вывýджвалі з кóждаго па слóўцу, па аднóм «Ыгы́!». Прышлóсе, брáце, і пашпіёніць, ак (як) у том кінé: віжавáў, віжавáў, але ж такі вы́глядзеў усé да кáпелечкі... Вывіжóўваць – гэ́то ў нас тóе сáмае, што й выясня́ць,*

*праясня́ць, дазна́цца, дакапа́цца, дасле́даваць само́му... Вышпіёньваць, вышпіго́ўваць, выву́джваць, падгле́джваць, падслухо́ўваць ні па майму́ нутру́, схадзіце лепш да сусе́дзяў: яны́ на гэ́то дзе́ло – вялікіе майстры́... Э-хе-хе́, снача́ла, братко́ ты мой, абшчу́палі ўсе́нькаю мяне́ вача́мі й рука́мі, а по́сле за дро́цікі ўзялі́се... Акі́нуў мяне́ адны́м во́кам і гаво́рыць: «Садзі́цесь!», а яму́: «Ні за што ні ся́ду!» Ты́е со́ткі я акі́нуў по́глядам і згадзі́ўся купі́ць адра́зу... А сад той ні зме́раць вача́мі (вачы́ма, вачмі́)! Ме́рай во́кам ні ме́рай, а пажыве́ш – тагды́ ўгле́дзіш плюсы́ й мі́нусы...*

АБСТРАЛЯ́ЦЬ (з усіх відаў зброі) – АББАБА́Х(К)АЦЬ, БАБА́ХКАЦЬ, БАБА́ХАЦЬ, БАБА́Х-НУЦЬ (з артылерыі) – АБСТРАЧЫ́ЦЬ, СТРАЧЫ́ЦЬ, СТРАКАНУ́ЦЬ (з аўтамата ці кулямёта) – АББУ́ХКАЦЬ, БА́ХНУЦЬ (з двухстволкі) – УСМАЛІ́ЦЬ, СМАЛЬНУ́ЦЬ (з драбавіка, з вінтоўкі) – ЗАКІ́ДАЦЬ СНАРА́ДАМІ, МІ́НАМІ, БО́МБАМІ і інш.

*– Ой, братко́ ты мой, ле́пей ні ўспаміна́ць ту́ю вайну́... Папа́лі мы ў акружэ́нне, ве́льмо про́сто: спе́ршку абстраля́лі нас з усі́х бако́ў, по́сле баба́хкалі з ро́зных пу́шак, а як (к, ак) пасу́нулісе мы прарыва́цца, абстрачы́лі нас і з куля́мётаў, і з аўтама́таў – про́сто палажы́лі ўсі́х: каго́ на-сме́рць пастраля́лі, каго́ канту́зілі, каго́ ра́нілі – от так і заграба́сталі ляжа́чых. І цяпе́рака, як (ак) аббу́хкаюць з двух ствало́ў на акружа́ных ваўко́х у ле́сі, дык мне сні́цца то́е акружэ́нне людзе́й, усі́х нас, і жывы́х, і мёртвых... Быва́е, што ні з таго́ ні з сяго́ ўсма́ліш з свайго́ драбаві́ка́ ў не́бо – і на том тро́хо ўспако́ішсе(ся). Смальне́ш уве́рх – і спо́куй... Бо́мбы на на́шае сяло́ то́лько дзве скі́нулі, а снара́дамі й мі́намі закіда́лі...*

АБСТРАЛЯ́ЦЬ, СТРЭ́ЛЬНУЦЬ – АБПРАСІ́ЦЬ, ВЫ́ПРАСІЦЬ – ВЫ́КЛЯНЬЧЫЦЬ – ВЫ́ЦЫ-ГАНІЦЬ – ВЫ́ЕНЧЫЦЬ – ВЫ́МАЛІЦЬ – ВЫ́ДУРЫЦЬ (часцей за ўсё цыгарэту, папяросу і інш.)

*Нідарэ́мно ўсе дра́жняць яго́ «про́ся» – паку́лечы ні стральне́, паку́лечы ні абпро́сіць усі́х падра́д, паку́лечы ні заку́рыць з чужо́го прыпа́су, дату́лека за рабо́ту ні во́зьмецца ані на ма́кавае зе́рне... Вы́прасіць мо́жно, што захо́чэш, але ж абстраля́ць трэ́бо мно́го каго́. Цыганы́ – вы́клян-чаць у каго́ хо́чэш хоць што-абыя́кае – у мяне́ раз старо́го кабата́ з плячэ́й знялі, ну, ні пра́мо ўзялі й знялі, я сама́ ім аддала́... Сусе́дка вы́цыганіла ў мяне́ са́менькае мале́нечкае парася́тко, бо ні хапа́ло яму́ цы́цкі ў свіні́, вы́паіла яго́ каро́чым малако́м, а цяпе́рака до́бры каба́н вы́рас. Вы́енчыць, вы́маліць хоць нідаку́рка, але ж каб чужо́го паспыта́ць, хоць адну́ зацяжку зрабі́ць... Абстраля́е, не́ўдаль, паўсяла́, але ж вы́дурыць хоць паўшкля́нкі апахмялі́цца на дурні́цу...*

АБСТРАЛЯ́ЦЬ – АБГЛЕ́ДЗЕЦЬ, АГЛЕ́ДЗЕЦЬ – ГЛЯ́НУЦЬ – КІ́НУЦЬ ВО́КАМ, ПО́ЗІРКАМ – АКІ́НУЦЬ ВАЧЫ́МА, ПО́ЗІРКАМ – ПРАБЕ́ГЧЫ ВАЧА́МІ, ВАЧЫ́МА – ПРАНІЗА́ЦЬ УЗГЛЯ́-ДАМ, ПО́ГЛЯДАМ

*Абстраля́ла ўсі́х адны́м по́глядам, ні на ком ні прыпыні́ла воч сваі́х, а абмы́ла з ног да галавы́ – вот гэ́то дак спрытню́га! Агле́дзіць цябе́ з ног да галавы́ рапто́ўно, сераўно́ ак (як) стральне́... Гля́не нібы́то вы́страліць, і зноў во́чы пад лоб хава́е, а гавары́ць нічагу́сенько ні гаво́рыць, то́лько абстрэ́львае й абстрэ́львае сваі́мі бе́льмамі... Кі́не во́кам, бытто стралу́ пу́сціць з лу́ка, і маўчы́ць... Кі́не по́зіркам – і маўчы́ць, нібы́то каро́вы ёй язы́к аджава́лі... От бо хале́рна(я) дзе́ўка! Прабя-жы́ць вачы́ма па ўсі́х, усміхне́цца сама́ сабе́, ада́ле праніз́вае по́глядамі (узгля́дамі) то аднаго́, то друго́го, то трэ́цяго...*

АБСТРАЛЯ́ЦЬ – НАВУЧЫ́ЦЬ – НАПРАКТЫКАВА́ЦЬ – ПАКАЗА́ЦЬ НА ПРА́КТЫЦЫ – ПРАКЛА́СЦІ ПЕ́РШУЮ БАРАЗНУ́ – НАБЫ́ЦЬ ВО́ПЫТ – ПРАЙСЦІ́ КУРС МАЛАДО́ГО БАЙЦА́

*– Ну, што, дружо́к, абстраля́ла цябе́ Мару́шка? Цяпе́рака наву́чаны, як (ак) дзе́вак ба́бамі рабі́ць?! Бу́дзеш ужэ́ сам ні за сало́меннымі ўдо́вамі ганя́цца, а за ты́мі, хто цябе́ ажэ́ніць на сабе́ – вот так, друг мой! Напрактыкава́ўся на разво́дцы, а цяпе́рачы мо́жэш і жо́нку займе́ць... Ну, паказа́ла табе́ салда́тка на пра́ктыцы, а цяпе́рака цёлку сабе́ знахо́дзь! Што ж, калі пера-навача́ў у Мару́шкі, то цяпе́рака праклада́й пе́ршые баро́зны ў сваі́х аднакла́сніц... Набы́ў во́пыт, прайшо́ўшы курс маладо́го байца́, а цяпе́рачы – напе́рад! Да дзе́вак!*

*Л. П. Кунцэвіч*

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ

(з тэкстаў, апублікаваных у «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона» (Мінск, 2009)

**АБГУРА́ЦЬ** *незак.* Абворваць. *Ужо́ мы ў калхо́зе абгура́ем карто́шку. Субо́та. І чу́ем, што ў Зале́сьсі ужо́ му́зыка ігра́е.* Пух.

**АБДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Адзець, апрануць. *На дварэ́ іх там абдзэ́лі ўжо тро́хі і пахава́лі ў нас у Хайка́х на клада́х.* Асіп.

**АБО́РЫВАЦЬ** *незак.* Абворваць. *У нядзе́льку Дубо́вік прыгно́ў нам каня́ – карто́шку абара́ць. Мы не або́рывалі, і дзе́цям прыказа́ла, і дзе́ці не або́рывалі. Учо́ра абара́лі, бу́дняга дня мо́жна.* Дзярж.

**АВЯРУ́ШКІ** *мн.* Гаварушкі; веснавыя апенькі. *Грыбы́ ў нас усяля́кія. Вот пе́рвыя, авяру́шкі мы называ́ем, вот ужо́ лісі́чкі начына́юцца, баравікі́, падасі́навікі, сырае́жкі.* Дзярж.

**АГЛЯДА́ЦЦА** *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Прыяжджа́лі, агляда́ліся, садзі́ліся за стол і пачына́лі трапе́зу.* Дзярж.

**АДА́ЛЕ** *прысл.* Потым. *Ада́ле ўжэ нас прывязьлі́ ў не́кі ває́нны гарадо́к.* Клецк.

**АДЗІВО́Т** *м.* Ідыёт. *Маргу́н мой «харо́шы» быў, ніко́лі мне рубля́ ні даў гро́шэй. І мне ні мо́жно было́ сабе́ й ма́йкі купі́ць. Адзіво́т, про́сто вам сказа́ць.* Капыл.

**АДЗІНАЛІ́ЧНІК** *м.* Аднаасобнік. *Хто ў калхо́з хаце́ў – ішлі́ ў калхо́з, а хто ні хаце́ў – адзінаґлі́чнік быў.* Карэл.

**АДЛЯЖА́ЦЦА** *зак.* Вылежацца. *Так мяць не́льга, трэ́ба каб адляжа́ўся лён.* Смал.

**АДНАЛІ́ЧНЫ** *прым.* Аднаасобны. *Аднаґлі́чныя ўсе гаспада́ркі ў Арха́нгельск – дубы́ пілава́ць.* Карэл.

**АЛА́ДЗІ** *мн.* Аладкі. *Ала́дзі пяку́ць картафля́ныя з ма́кам.* Дзярж.

**АПАЛУ́ШКІ** *мн.* Начоўкі. *На іх быва́ло каза́лі апалу́шкі, начо́ўкі такі́е ніба́льшые.* Люб.

**АПЕ́ЧАК** *м.* Насціл з дошак для спання, які робіцца на высокім узроўні ад падлогі паміж печчу і сцяной; палаткі (?) *Цяпе́р ро́бяць кірпі́чныя апе́чкі, а то дзерав́янныя. Мы на гэ́тых апе́чках спа́лі.* Смал.

**АПРА́ТАЦЬ** *незак.* Апранаць. *Абаўе́ў усе́ тры кабіне́ты с тым чалаве́кам, вы́вяў на гэ́та ме́ста, згё́ртае бума́жкі, кладзе́ ў карма́н, апра́тае, па́лку дае́.* Капыл.

**АПРЭ́СЬНІК** *м.* Праснак. *Апрэ́сьнікі пякліся, вары́ліся.* Капыл.

**АПЦЁРТЫ** *прым.* Які многа бачыў у жыцці, бывалы, вопытны. *А як с бо́льшым абразава́ніем, дык і чалаве́к бо́лей апцёрты.* Пух.

**АРЭ́Й, ЯГЕ́Р** *м.* Аер (расліна). *Сы́палі арэ́й на пол, кап па́хло.* Клецк. *Кла́лі ягер на Сё́муху. Гэ́та гавары́лі, што бло́хі выганя́е. За́пах прыя́тны.* Дзярж.

**АСМАКАВА́ЦЦА** *зак.* Адчуць смак. *Тады́ асмакава́лась і ка́жа: гэ́та ж сма́чна.* Смал.

**АТРО́БІЦЬ** *зак.* Адпрацаваць. *Сядзі́це, по́куль я ні атро́блю зьме́ны, тады́ по́йдзем к дахтаро́м.* Капыл.

**АТТАРГНУ́ЦЬ** *зак.* Адгаварыць. *По́сьле вайны́ – я сем кла́саў ко́нчыла – міне́ бра́лі на буга́лцера, дык не пусьці́ла ма́ма. Аттаргла́ мяне́.* Смал.

**АТХО́ЖА** *ж.* Прыбіральня. *Ма́ма, е́сьці бу́дзеш хаце́ць, у атхо́жу ні схо́дзіш.* Капыл.

**БАЛО́ТЛІВЫ** *прым.* Балотны. *Малі́на сало́ткая была́, ліс́ная, бало́тлівая.* Мін.

**БАНЬСЮ́К** *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Гэ́так баньсю́к называ́лі, байстру́к.* Чэрв.

**БАРДЖЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Ідзё́м барджэ́й збіра́ць тра́вы, ён называ́е іх.* Чэрв.

**БАСЯКА́** *прысл.* Басанож. *Мы басяка́ пля́шам пад ту́ю скры́пку.* Асіп.

**БЛЕХ** *м.* Сродак для адбельвання палотнаў. *Пато́м пало́тна ў блех саджа́лі. Іс бле́ху зноў у рэ́чку. Атбе́львалі ў бле́ху.* Клецк.

**БО́ЕЧКА** *ж.* Драўляная пасудзіна, у якой білі масла; бойка. *І бо́ечкі былі́ ма́сла біць. У нас ма́сьцер быў, рабі́ў іх.* Смал.

**БРА́МКА** *ж.* Веснічкі. *Перат Сё́мухаю у субо́ту высяка́лі бяро́скі, ста́вілі ў бра́мках.* Дзярж.

**БРАВЭ́РКА** *ж.* Верхняе суконнае адзенне. *Наве́рх гэ́тага шы́лі бравэ́ркі. Бравэ́ркі гэ́тыя іс сукна́.* Дзярж.

**БРАЦЕ́ЛЬНІК** *м.* Дваюрадны або траюрадны брат. *Убі́лі перагаво́ршчыка, паліця́я шчэ аднаго́, Ко́лі Куляшо́ва два браце́льнікі ўбі́лі.* Асіп.

**БРАЦЬ** *незак.* Жаніцца, праходзячы абрад вянчання. *Ско́лькі ў нас было́ вясе́льляў, а каб у нас шлю́бы бра́лі... Шлю́бы ў нас ні бра́лі.* Дзярж.

**БУЛДА́ЎКІ** *мн.* Вадзяная лілея. *Ты́е разы́ е́тые, як мы каза́лі, булда́ўкі, кру́глые лісты́, пато́м распу́сьціцца, е́така харо́ша, жо́ўценька.* Клецк.

**БУРНО́С, БУРЛО́З** *м.* Верхняя мужчынская і жаночая вопратка з даматканага сукна. *Бурно́с ест, суко́нны. Зімо́й насі́лі, на каня́ накры́юць, каб не замё́рз.* Дзярж. *Бу́рку пашы́е – называ́лі бурло́з, дл́інны такі́ пашы́е бурло́з – і мушчы́ны і жанчы́ны насі́лі.* Клецк.

**БЭ́НЬСЯ** *н.* Пазашлюбнае дзіця. *Гэ́та, ка́жа, бэ́ньсю ро́дзіш.* Чэрв.

**БЯЛУНЫ́** *мн.* Грузды (грыбы). *Бялуны́ гэ́тыя, што скрабу́ць верх і сяро́дзіну і насо́ліваюць.* Дзярж.

**ВАДАКРЫШЧЭ́НІЕ** *н.* Вадохрышча. *Перад но́вым го́дам – ужо́ бага́тая, перад Водакрышчэ́ніем то́жа гэ́на по́сная куцьця́.* Смал.

**ВАЛАСЫПЕ́Д** *м.* Веласіпед. *Пато́м ста́лі валасыпе́ды не́як, валасыпе́дам ста́лі е́здзіць да Слабады́.* Мін. *На валасыпе́дзе ляці́ць па каля́іне. Паб'е́ валасыпе́д і мне на по́грабе кі́не.* Капыл.

**ВАЛАЧО́ННЕ** *н.* Валачобнае; велікодны пачастунак. *Ды баба, каторая бабіць ужэ дзіця, к рожаніцы ідзе з валачоннем, дае ўнукам.* Клецк.

**ВА́ЛЕН** *м.* Вянок, фата. *От з гэтаго рабілі вянок, утыкалі то кветак які. Ну, рабілі сюда валена.* Клецк.

**ВАРО́ПАЎКА** *ж.* Жаба-рапуха. *А гэта варопаўкі. Гэта абычна такія як жабы, толькі такія таўстыя, с такімы валякамы.* Дзярж.

**ВЕЛЬКА́НАЦ** *м.* Вялікдзень. *Святкавалі і Сёмуху, і Каляды, і Велькaнац, і ўсё.* Дзярж.

**ВІДУ́К** *м.* Дзікі мак. *Тут, гэта, відук і шчоўе.* Дзярж.

**ВІ́ШЫЦЬ** *незак.* Пазначаць вехамі дарогу; ставіць вехі. *Я гавару: кадá шла, вішыла дарогу.* Смал.

**ВО́СЕЛАЧКА** *ж.* Дужка ў вядры, кашолцы і г. д. *Я ўзяла такі куўшын іс воселачкай, літраў на два, і пашла.* Асіп.

**ВУ́ЙМА** *прысл.* Вельмі шмат, многа. *Нашых было вуйма парцізан.* Дзярж.

**ВУЛЁЧКІ** *мн.* Вуллі. *Садзіцеся, раёчкі, да і в новыя вулёчкі, / Сьвяты вечар, в новыя вулёчкі* (з песні). Асіп.

**ВЫ́ВЯТРАЦЬ** *зак.* Выдуцца ветрам, перасохнуць. *Высахло ўсе на сьвеце, вывятрало. Шчэ й вятры етые сільные і жара.* Люб.

**ВЫ́ГРАБЦІСЯ** *зак.* Выжыць. *Эта ж нас было шэсьціра, цяпер адно не хочуць мець. А як мы выграбліся?* Мін.

**ВЫ́САЛКА** *ж.* Высылка, ссылка. *Мне было васемнаццаць гадоў толька, як была высалка. Кулакоў высылалі, і выслалі яго.* Пух.

**ВЯЛІ́КАННЯ** *н.* Вялікдзень. *На Вялікання далжны быць плаціцы новые.* Мін.

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ** *м.* ◊ МЯ́РТВЫХ ВЯЛІ́КДЗЕНЬ. Радаўніца. *Мяртвых Вялікдзень у чацьвер пасля Вялікадня. Вот у нядзелю Вялікдзень, серада – Градавая ў нас, чацьвер – Мяртвых Вялікдзень.* Дзярж.

**ВЯЧО́РКІ** *мн.* Вячоркі. *Бывала, гаварылі, што вот ідзеш з вячорак тых, а тады дагоніць* [русалка] *– прасьніцу ж нясеш у руках – дык дагоніць і на сядло сядзе.* Асіп.

**ГАЛАЎКЕ́** *мн.* Насенныя каробачкі льну. *Галаўке, што дзе во семяны – яно ш як не гавары, так там астаецца на этым кастрыца – іх атдзельна.* Асіп.

**ГАПТАВА́ЦЬ** *незак.* Гафтаваць. *І шыць умела, і гаптаваць.* Старадарож.

**ГАРБЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* Многа і цяжка працаваць. *А бацька мой дык гарбячыў добра, дык было мяса.* Асіп.

**ГА́ЧКА** *ж.* Матыка, капаніца. *Дачка прыяжджала, пашла, узяла тую гачку, як мы называем, матыку, усё сьсекла, сьсекла, вырвала.* Карэл.

**ГІДАВА́ЦЬ** *незак.* Грэбаваць. *Антон вельмо гідаваў, як муха ўпадзе ў стакан, ні піў малако, то Валодзя спецыяльно муху зловіць, укіне ў яго стакан, а тады вукене тую муху і скоранько сам вуп'е.* Старадарож.

**ГЛАДЫ́ШКА** *ж.* Гарлач, збанок. *Я ўзяла эту гладышку, толькі набрала, яны ш мяне бачылі – яны ш там у засадзе сядзелі.* Асіп.

**ГНЯЗЬДЗЕ́ЙКО** *н.* Гняздзечка. *Я іх* [шпакоў] *і шкадую, яны бедненькія яечак нанясуць і там гнязьдзейко зробяць.* Карэл.

**ГУРЦЫ́** *мн.* Агуркі (плады). *Машыну сыну купілі за тыя гурцы.* Карэл.

**ҐАРО́НКІ** *мн.* Карункі. *І плесьці кручком умела: і пудзорнікі, і шторкі на вокна, і ґаронкі к просьцінам пляла.* Старадарож.

**ДА ГРАМУ́ЧАЧКІ** *прысл.* Датла. *Вайна як началася, спалілі немцы ўсё чысьценька, да грамучачкі.* Смал.

**ДАВАЛЬНЕ́ЙШЫ** *прым.* Усім здаволены. *Цяпер людзі давальнейшыя, то ўжэ і бапка ні гэтака смачная.* Клецк.

**ДАКА́ЗАВАЦЬ** *незак.* Даносіць. *Папа ўсё ўрэмя хаваўся. Даказавалі. Усякіе людзі былі: і нашым, і вашым, і немцам, і парцізанам.* Мін.

**ДЗВІЖЫ́ЦЬ** *незак.* Рухацца, мітусіцца. *Дзвіжыць гуліца, ды граюць, ды паюць, ды ў біткі мушчыны б'юцца.* Клецк.

**ДЗЕ́ВЕР** *м.* Брат мужа. *Дзевяры – мужыковы браты, сёстры – залоўкі, а яна ўжо, нявеста – братавая, нявесьціны сёстры – шватеркі, брат – шватер.* Дзярж.

**ДЗЕ́РАВА** *н. зб.* Лесаматэрыял. *Я ўжэ пашла ў лес, дак далі дзерава, мы зрубілі хату.* Клецк.

**ДЗЁРКАЧ** *м.* Змецены бярозавы венік; дзяркач, галень. *Яны астаўляюць мяне ў хаце мыць. А непакрашанае было, трэба ж дзёркачом дзерці і пяском пасыпаць, штоп чыстая падлога была.* Смал.

**ДРА́НКА** *ж.* Бабка (з дранай бульбы). *Дык маці нясі на плячах, рабі мне дранку.* Смал.

**ДУРНІ́ЦЫ** *мн.* Буякі (ягады). *У нас называлі дурніцы. Сініе гэтые. Іх ніхто і ні браў.* Мін.

**Е́РНІК** *м.* Аер (расліна). *На Тройцу прыбіралі хату зяляньню – клён ламалі, ернік ірвалі, пасыпалі, бяроскі ў лесе сьсякалі і ставілі на двары.* Пух.

**ЁСЬЦІКА, ЁСЬЦЕКА** *незак.* Ёсць. *Каля Дадуліна нівялікі лес быў, ён і цяпер ёсьціка.* Мін. *А ка мне як прыбяжыць, я што ў мяне ёсьцека – ёй.* Капыл.

**ЖЫСЬ** *ж.* Жыццё. *Немцы ўжо як пашлі, дык усё, ў нас ужо нармалізавалася жысь.* Асіп.

**ЗА́ЛВІЦА** *ж.* Залоўка. *Я ж там сьмялейшая ў маткі, як у братавай... ці як гэта... ў залвіцы.* Дзярж.

**ЗА́МАЛАДА** *прысл.* З маладосці. *Я рабіла, дзіцятко, замалада.* Карэл.

**ЗАРУ́ЧЫНЫ** *мн.* Абрадавая вясельная песня. *Заручыны вот, што я пела, эта ўжо пасадзяць маладую за стол, ужо бабы прыходзяць з вуліцы і пяюць ей заручыны.* Асіп.

**ЗАСКВА́РАНЫ** *дзеепрым.* Запраўлены скваркамі. *А калі куцьця багатая, тады ўжо ўсё: і каўбаса, і мяса навара, і кашу пастаўя пярлоўваю, куцьцю, ужо засквараная. Стол быў багаты.* Мін.

**ЗАСЛО́Н** *м.* Услон. *Шчэ ш садзяць на заслон і падымаюць на ура – суха ці мокра баба.* Асіп.

**ЗБРА́САЦЬ** *незак.* Скідваць. *От правільна, лоўкі ты хлопец. Збрасай пакрывала.* Пух.

**ЗВА́ЦЦА** *незак.* Клікаць адзін аднаго ў госці. *Ку́мы хадзілі к друг дру́гу гуля́ць, по́сьле абе́да ўжэ зва́лісе, ужэ́ і пе́лі, гуля́лі.* Асіп.

**ЗНАХА́ЛЬНІЧАЦЬ** *зак.* Згвалціць. *Мы, дзе́вачкі, баяліся не́мцаў, хава́ліся, бо, каза́лі, яны́ мо́гуць і знаха́льнічаць, дык не высо́ўваліся нідзе́.* Дзярж.

**ЗЬВЕСТАВА́НЬНЕ** *н.* Благавешчанне. *На Зьвестава́ньне – гэ́та ж вялі́кае сьвя́та – ніч́ога не рабілі. Пту́шка гнязда́ не кладзе́, а дзе́ўка касы́ не пляце́.* Дзярж.

**ЗЬДЗЯВА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Раска́звалі, што рабілі цяшко, але не́мцы ні ве́льмо зьдзява́ліса.* Старадарож.

**ІРЖО́ЎНЯ** *н.* Іржышча. *Гэ́та ячме́нь ніска жа́лі, пшані́цу, а жы́та высо́ка. Во так, тако́я іржо́ўня.* Мін.

**КАВЁРКІ** *мн.* Перамёрзлая бульба, якая засталася пасля зімы. *Пато́м кавёркі хадзілі сабіра́лі. Кавёркі – гніла́я карто́шка по́сьле зімы́.* Мін.

**КАЗА́К** *м.* Страва з яек і малака. *Ме́ншаму каза́к пякла́. Для казака́ малако́ трэ́ба. Трэ́ба разьбі́ць яйцо́, ці два, ці тры, да малака́ туды́, да разбаўта́ць, тады́ жыр ці сква́рку на ско́вараду, сьпячэ́цца, да́й сма́чны.* Клецк.

**КАЗЛЫТА́ЦЬ** *незак.* Казытаць. *Руса́лкі яны́ ў вадзе́ жыву́ць і выла́зяць. Як дзе́ці ў жы́це, дык яны́ тады́ дзяце́й ло́вяць і ця́гнуць. Казлы́чуць і заказлы́чуць.* Капыл.

**КАРАНЬКЕ́** *мн.* Ніжняя частка трасты льну. *Не дава́лі кудзе́лю таку́ю пра́сці, а вот дра́лі на э́ту шчо́тку каранькe мяхчэ́йшыя – іх атдзе́льна.* Асіп.

**КАРАЎЛО́Т** *м.* Калаўрот. *Ма́ма пра́ла, як ма́гла, на караўло́це і нас застаўля́ла пра́сьці.* Мін.

**КАРТА́ВЕНЬКІ** *прым.* Кортавы (з корту). *Як ішла́ за́муш, дык спадні́чку карта́венькую перавярну́ла, бо яна́ ж аблезлая была́, каб чарне́йшая была́.* Дзярж.

**КАРТО́ПЛЯ** *ж.* Бульба. *Ты́дзень стая́лі мы ў тупіку́, карто́плю па́рылі.* Клецк.

**КАТАРА́ЧКА** *ж.* Катаракта. *Абышла́ я ўсе кабіне́ты. Катара́чка. Се́мдзесят гот, ужэ́ старая́ апера́цыю рабі́ць.* Капыл.

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кош. *Каму́ бу́льбу пасаджу́ – дад́уць кашэ́ль бу́льбы.* Смал.

**КВЁТ** *м.* Квіток; дакумент на збор ягад. *Пабяжы́ш, хто с квётам ідзе́, а ты зь ім ідзе́ш. Нарве́цца – забярэ́, не нарве́цца – твае́ шча́сьце, занясе́ш дадо́му.* Клецк.

**КЛЫ́НДА** *ж.* Страва з ільнянога семя. *Для клы́нды трэ́ба се́м'я насушы́ць, а тады́ стаўчы́ ў сту́пу. А тады́ трэ́ба кры́шку ква́су, ка́плю мукі́ паджа́рыць, ды ўжэ чысныќу разатрэ́ ў мі́сцы. А ва́рыцца квас з грыпка́мі, і бурачка́ ўсягда́ чырво́нага ўкры́шым. Тады́ ўжэ той квас нава́рыцца – і залiва́ем у клы́нду. Яшчэ́ ста́вім у печ, яна́ прыкіпі́ць – і гато́ва.* Клецк.

**КО́КА** *н.* Яйцо. *Не дасі́ яе́чка, здо́хне і аве́чка. Не дасі́ ко́ка – вы́лязе табе́ во́ка* (з песні). Дзярж.

**КО́ПКА** *ж.* Бакавая частка прыпечка, куды выгортваюць жар, попел. *Выго́ртвая жар, вы́гарня жар у ко́пку. Вот печ, а тады́ збо́ку ко́пка. Ка́жны дзень палі́лі, і ў ко́пку жар.* Мін.

**КО́ТЛІНА** *ж.* Сядзіба. *Да́жа прыяжджа́лі от няда́ўно на гэ́тую Гасьці́лаву ко́тліну.* Карэл.

**КО́ХТКА** *ж.* Кофта. *Не, ня по́мню, як я была́, у чым я была́, ці мо́жа ко́хтка была́...* Мін.

**КРАСАВА́ЦЬ** *незак.* Цвісці. *Віду́к красу́е, а тады́ адкрасо́ўвае, высяю́ць ужо́ насе́ньне, і ала́дкі мача́юць.* Дзярж.

**КРА́ШАНЫ** *прым.* Пафарбаваны. *Мы садзі́ліся за стол, усі́м кладзе́м па кра́шанаму яйцу́ і ста́вім свянцо́ную соль, зьяда́ем.* Дзярж.

**КРОЛЬ** *м.* Трус (жывёла). *Кралі́ дзяржу́, ву́ткі дзяржу́, каро́ву дзяржу́.* Капыл.

**КРО́ШКА** *ж.* Кавалак. *Учо́рэ пашлі́, да вялі́ку кро́шку са́ла ўзяла́ на по́лудзень, як у ба́нку ле́зе.* Старадарож.

**КРУЖЭ́ВЫ** *мн.* Карункі. *Я сама́ і ўгафтава́ла, і вышыва́ла, і кружэ́вы вяза́ла, а цяпе́р...* Дзярж.

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Скрылькі бульбы. *Нам ма́ма су́пу нава́рыць, крышано́ў.* Асіп.

**КУБЕ́ЕЦ** *м.* Кубелец. *Кумпякі́ мы скла́двалі у кубе́йцы. Ён такі́ шыро́кі зьні́зу, а пад ве́рх вузе́йшы.* Смал.

**КУВА́ЦЬ** *незак.* Кукаваць. *Як куе́ зязю́ля на го́лы лес, ураджа́й не бу́дзя харо́шы.* Клецк.

**КУГА́КАЛА** *н.* Грудное дзіця. *З куга́калам хадзі́лі жаць, пад сно́па кла́лі.* Дзярж.

**КУДЗЯЛЯ́НКА** *ж.* Саматканая пасцілка. *Кудзяля́нкай накрыва́ліся.* Клецк.

**КУЛА́ЧЫЦЬ** *незак.* Раскулачваць. *Тады́ як кула́чылі, дык забра́лі і паду́шкі, і ўсё.* Асіп.

**КУПА́ЛА** *ж.* Купальская кветка. *Рва́лі такія купа́лы – цьвяты́. Купа́льныя гэ́тыя цьвято́чкі, купа́ла.* Капыл.

**КУРА́ЧНІК** *м.* Куратнік. *Рас уцяклі́ ў кура́чнік, з дашчо́к зро́блены, бо як упадзе́ бо́мба ў дом, дак жэ ш та́мака ні ву́лязяш.* Клецк.

**КУ́ХАН** *м.* Невялікі круглы праснак у выглядзе піражка, начынены ў сярэдзіне цыбуляй, макам ці інш. *На по́лымі блі́ны як ку́ханы. Падыхо́дзяць такіе пышные, харо́шые.* Смал.

**КУ́ХАР, КУХР** *м.* Куфар. *Ране́й кухры́ былі́, шкафо́ў ні было́. З кухро́м і пашла́ за́муж. Палажы́ла ў кухр той блакно́т.* Чэрв.

**ЛАСІ́ЦА** *ж.* Ласка (звярок). *Ёсць і ласі́цы, яны́ па каро́вах хо́дзяць, і яны́ малако́ цмо́кчуць.* Дзярж.

**ЛЕ́САМА** *прысл.* Лесам. *Ве́даю, што да няве́сткі е́хала, му́сіць, кіло́метраў со́рак ле́сама.* Дзярж.

**ЛЕ́ЦІ** *мн.* Гады. *Дзе́ўкі, варо́чайцеся, прайшлі́ на́шы ле́ці, ніха́й гуля́юць на́шы дзе́ці.* Асіп.

**ЛУ́СКА** *ж.* Шалупінне (з цыбулі). *Пірагі́ пячо́м, тады́ гэ́тыя яе́чкі ў лу́сцы ва́рым, чырво́ненькія яны́.* Карэл.

**ЛУХ** *м.* Вада з попелам для адбельвання бялізны, палатна; луг, шчолак. *По́пал дрыве́сны атва́рываюць ды пуска́юць чэрас по́сцелку такі́ лух. Мо́чаць палатно́, кап адбялі́ць.* Пух.

**ЛЯСАВЫ́** *прым.* Лясны. *У нас шчыта́лі лясава́я зо́на, парціза́ны ў ле́се жылі́.* Люб.

**ЛЯСЁНКА** *ж.* Посцілка насіць сена, траву, салому. *Вот такáя лясёнка, чатыры ласкуты, вот такáя пóлка во.* Асіп.

**МАЙ** *м.* Галінкі бярозы, клёну і іншых дрэў, якімі ўпрыгожвалі хату на Сёмуху. *Сёмуха. Упéрат поп прыéдзе ў сяло. Мáя натыкаюць – зь ліпы натыкаюць.* Пух.

**МАКАЦЁР** *м.* Гліняная пасудзіна, міска. *Ганчары вазілі міскі, абó макатры называлі вялікія. І туды налівáе ў адзін гэты макацёр, стáвіць пасярадзіне сталá, і ўсе гэтымі лóшкамі дванáццаць чалавéк і цёгаюць с аднаé міскі.* Клецк.

**МЕ́ДЗЯНЫ** *прым.* Мезены (палец). *Мéдзяны пáлец рас чуць ні атрэзала во так сярпóм.* Мін.

**МУРО́ЎЕ** *н.* Муравейнік. *Ён éдзе-éдзе – гарыць мурóўе. Ён зьлез с каня, атламáў вéтку і лóпаў-лóпаў па гэтаму муравéйніку і затушыў яго.* Пух.

**МУ́ЧАЛЬНІК** *м.* Талакнянка (расліна). *Нéйкі быў мýчальнік, на чóрнае фарбавалі ў ім.* Клецк.

**МЯКІ́НЯ** *ж.* Вельмі многа. *Каб грóшай мякіня былá цэлая, дык бы наймáла, дый плаціла.* Дзярж.

**МЯРЦЬВЕ́Ц** *м.* Нябожчык. *Тады на сталé пастаўляюць яду – прыдзе мярцьвéц, бýдзе éсьці.* Пух.

**НАГА́ЦЬ** *незак.* Качаць (яйкі на Вялікдзень). *І зьбярýцца яшчэ бóльшыя, дык і яéчкі нагáюць – лубóчкі тады выігрываюць.* Дзярж.

**НАЙГРА́ЦЬ** *зак.* Нагуляць, зацяжарыць. *Там ці с паліцáямі мо найгрáла ці ўжэ пóсьле дзіця ў яé былó. І янá істрабіла дзіця тóе.* Люб.

**НАЙДЗЁНЫ** *дзеепрым.* Пазашлюбны. *А Аркáдзя* [трэці сын] *– эта ўжо найдзёны. Прымáк тут быў Грамыка, і с Арынай жыў больш, чым с той Кáцяй. І дабылі этага Аркáдзю.* Люб.

**НАЙЛУ́ЧЧЫ** *прысл.* Найлепш. *Кáждаму хацéлася як найлýччы.* Смал.

**НАКАПЦАВА́ЦЬ** *зак.* Насыпаць. *Водэтэ малірóвано вядрó накапцýю, яшчэ бітóнчык тры літры ў рýку і прынясý.* Люб.

**НАКАРА́ПКАЦЬ** *зак. экспр.* Напісаць. *Чатыры клáсы кóнчыла. Пісьмó і накарáпкаю як-нібýдзь камý-нібýдзь.* Пух.

**НАЛО́ЖАНЫ** *прым.* Насыпаны. *Цяпéр нідзé такóй сьцéшкі ні нóйдзеш, нідзé ў нас німá, усюды ўжо налóжаныя пяскі, а калі ніналóжаныя, то ўжо садрáная там, перадрáная.* Дзярж.

**НА́МЕТКА** *ж.* Доўгі кавалак тонкага даматканага палатна; намітка. *Нáметка – во такóй шырыні, палацéнцэ шырóкае.* Асіп.

**НАПЁША** *прысл.* Пяшком, пехатой. *Ужó напёша нас на вакзáл унóчы* [адправілі]. Клецк.

**НЕБАЖА́ТА** *мн.* Пляменнікі. *Усé самá раблю, небажáта памагáюць, а ён ні даé аннагó рубля с сваéй палýчкі.* Клецк.

**НЕ́СКУКА** *ліч.* Некалькі. *Прайшлі, не дайшлі да мéста – пацерáлі нéскука чалавéк, стáрых кáдравікаў, с кáдравай слýжбы катóрые былі.* Пух.

**НІБО́ЙШЧЫК** *м.* Нябожчык. *А брат, ужэ нібóйшчык, паткрáўса і нажóм перарэзаў вярóвачку, і карóва нáша прышлá.* Люб. *Аднáжды, шчэ як мáма-нібóйшчыца жылá, я прыéхала на вакзáл.* Люб.

**НІМА́ШАКА** *незак.* Няма. *Там ухóду німáшака.* Капыл.

**НО́ЧАЎКІ** *мн.* Начоўкі. *Вáля ж яшчэ спавіта ў нóчаўках на пéчы былá.* Люб. *Мáма звáрыць éтых картóшак чагáнчык і ў нóчаўкі высыпле.* Люб.

**НО́ЧЫ** *прысл.* Ноччу. *У нас так былó: нóчы прыхóдзяць парцізáны, днём – нéмцы.* Мін.

**ПАВЫГРЭ́БАЦЬ** *зак.* Усё забраць дачыста. *Дзве кóўдры асталіся ат парцізáн, а то ўсё-ўсё павыгрэбалі.* Клецк.

**ПАДВУ́ЙНІКІ** *мн.* Падвойныя вокны. *А вóкны ж былі адны, падвýйнікаў жа ш ні былó. Э́та цяпéр падвýйныя вóкны.* Дзярж.

**ПАДЗЬДЗЕ́РЖАЦЬ** *зак.* Падтрымаць. *Яны хто што нам – хто прадýкты, хто адзéжу, вот трóхі нас падзьдзéржалі.* Асіп.

**ПАДНЯБЕ́НЬНЕ** *н.* Скляпенне ў печы. *Во ўжо трэці дзень хаджý прашý, каб паднябéньне у пéчы злáдзіць. Выгарала. Німá кагó прасіць і заплаціў бы, німá кагó прасіць, вымірáе ўсё.* Смал.

**ПАЗГРЭ́БЖВАЦЬ** *зак.* Пазбіраць; пазабіраць. *Мáчыха пазгрэбжвала ўсё, пазгрэбжвала і пашлá.* Смал.

**ПАЗЬМІРА́ЦЬ** *зак.* Памерці, павыміраць. *А мушчыны нéкіе пазьмірáлі, аднó гэтых бáбаў асталóсо. Усé ўдóвы.* Клецк.

**ПАЗЬМІРА́ЦЬ** *зак.* Памерці. *Усé ўжо і падрýгі маé, і аднаклáсьнікі, дзе якія былі, пазьмірáлі.* Смал.

**ПАКРЫ́ШКА** *ж.* Накідка на падушку. *Нáдзя па ўсямý сялý наўшывáла і пакрышак, і прóсьцінь, і нáвалак.* Старадарож.

**ПАМА́НЬВАЦЬ** *незак.* Дражніць. *А яé памáньвалі Цýрыха. Мáня і дýмае: тóлькі ад дóму атвéзьлі, а ўжэ знáюць, як мяне памáньваюць, хто ім расказáў.* Старадарож.

**ПАМЫ́ШЛІЦЬ** *зак.* Падумаць. *Я дáжэ ні памышліла, што ягó ўбілі.* Смал.

**ПАПАЛО́ДНАВАЦЬ** *зак.* Паабедаць. *А Анюта маá: «Сядзь, Вóля, папалóднуй з нáмі».* Старадарож.

**ПАСТАЎНІ́К** *м.* Загон. *Я за чапялý сваю, на пастаўнік: «Íрка, у хáту. Ні йдзі к бáбе, ідзі ка мне».* Капыл.

**ПАСЬЦІ́** *прысл.* Амаль. *Мы жылі нéяк с крáю пасьці.* Клецк.

**ПАТРЭ́ПКІ** *мн.* Атрэп'е. *А патрэпкі, йіх жа трэплюць – лён патрýць, а тады йшчэ трэплюць ягó – вытрэпваюць зь ягó патрэпкі, вот мне этые патрэпкі прáсьці і тыя галаўкі.* Асіп.

**ПАТШЫВА́НКА** *ж.* Саматканая коўдра, зверху суконная, а знізу парцяная. *Кóўдры брáлі, патшывáнкі называліся. С аднагó бóку ўжо сукóнная – гэта адзіяла, а зьнізу ўжо парцянáя – гэта зь лёну, а пасярэдзіне клáлася кудзéля.* Дзярж.

**ПАЎПРАЎЛЯ́ЦЦА** *зак.* Зрабіць усё ў гаспадарцы. *Паўпраўляемся ўсе – і ў завóт, у кантóру, у клуп завадскі.* Асіп.

**ПАШНЯ́** *ж.* Збожжа (жыта, ячмень і г. д.). *Я пама́цаю: ру́ку саўгану́ ў пашню́, рука́ ле́зе – зна́чыць, ячме́нь харо́шы.* Люб.

**ПЕРАВЯ́СЛА** *ж.* Перавясла. *Снапкі ста́вілі. Зро́бім перавя́слу. Перавя́сла гэ́та, і жнём.* Мін.

**ПЕ́РЫЦЬ** *незак.* Стукаць (палкай). *Ужо́ тут во чарта́, і пе́рым у той пуп там, на ско́лькі ме́траў стаіць ён.* Асіп.

**ПЛО́ЦІНА** *ж.* Штыкеціна. *Вы́йдзеш ці не вы́йдзеш за́муж, як ужо́ там пло́ціна пака́жа* [пры варажбе]. Карэл.

**ПЛЮС** *м.* Плюш (тканіна). *О́чынь харо́шая машы́на. Стаіць іна́ во, плю́сам накры́та, плю́сам.* Мін.

**ПО́ПРАТКІ** *мн.* Попрадкі. *На по́пратківі хадзілі зімо́ю – днём, а на вячо́ркі хадзілі ўжо ве́чарам.* Асіп.

**ПО́ТЧУРАК** *м.* Почырк. *Жандарме́рыя е́ці швар-га́лкі нашлі, а по́тчурак майго́ мужука́. Яго́ дамо́ў ні дапусьцілі і з машы́най арыставалі.* Смал.

**ПРАСАВЕ́НЬНЕ** *н.* Абмалочаная прасяная салома. *Прасаве́ньне стая́ло, про́со падмало́чанэ, пад гумно́м стая́ло.* Клецк.

**ПРУС** *м.* Прусак (насякомае). *Прусы́ былі, бло́хі, во́шы і клапы́ – усё было́ ў нас у во́йну.* Асіп.

**ПРЫСЛЕ́ДАВАЦЬ** *незак.* Праследаваць. *Цяпе́р нічо́га німа́ – раскідалі. Зьеха́ў пан. Ста́лі ш прысьле́даваць.* Пух.

**ПРЭСТАРЭ́ЛЫ** *прым.* Інтэрнат для адзінокіх старых. *Хале́ра яго́ ве́дае, калі ў прэстарэ́лы забяру́ць, дак усё тут аста́нецца.* Дзярж. ○ ПРЫСТАРЭ́ЛЫ ДОМ. Тое ж. *Лю́дзі ка́жуць, каб ішла́ Во́ля ў прыстарэ́лы дом, то ні хо́чэ, ка́жэ папрабу́ю шчэ до́ма перазімаваць.* Старадарож.

**ПУЦЬ** *ж.* Чыгуначная каляя. *У нас пуць была́ праве́дзена ў са́менькі падва́л. Пуць ат заво́да.* Асіп. *То́лька там, за пуцё́й, за ста́нцыяй, там ста́рые жы́целі былі́.* Мін.

**ПЯРЭ́ЗВЫ** *мн.* Наведванне маладых бацькамі нявесты праз тыдзень пасля вяселля. *Праз нядзе́лю гэ́та пярэ́звы. Прыяжджа́юць туды́, дзе няве́ста, бацькі́ няве́сты прыяжджа́юць.* Дзярж.

**РАДА́НІЦА** *ж.* Радаўніца. *Дык вот мы хо́дзім убіра́емся накану́ня Ра́даўніцы, а ўжо на Рада́ніцу нясё́м кве́ткі.* Дзярж.

**РАДО́ЎКА** *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Вот прышо́ў сё́ньня пасту́х ка мне, я даўжна́ яго́ пакарміць, даўжна́ зь ім у по́ле гнаць. Наза́ўтра – к друго́му, па радо́ўках так хадзілі пастухі́.* Чэрв. *Ра́нічкай у радо́ўку, по́мню, ліне́ дождж, ніхто́ ў лес не ідзе́, а я сюды́-туды́ па ле́се.* Дзярж., Капыл.

**РАЗГАЎЛЯ́ЦЦА** *незак.* Есці першы раз скаромнае пасля посту. *Ра́ніцай гэ́тымі яе́чкамі разга́ўляліся, і трэ́ба гэ́тыя яе́чкі браць не ві́лкаю, то́ка рука́мі на́да браць.* Дзярж.

**РАПШТА́ЦЬ** *незак.* Быць незадаволеным, бурчаць. *А ўсе́ лю́дзі рэ́пшчуць, ні ве́даюць, чаго́ хо́чуць, адно́ на адно́.* Люб.

**РАЎЧА́К** *м.* Раўчук. *Цяпе́р у на́с лес тро́хі ле́пшы, а тады́ там равы́ былі такія, раўчакі́ – і закінулі ту́ю муку́ там яны́.* Смал.

**РО́БІЦЬ** *незак.* Працаваць. *Ва́ля, мая́ дачка́, у апце́кі ро́біла.* Чэрв.

**РУЧЭ́ЙКА** *ж.* Жменя лёну (валакна). *Бяру́ць, ско́лька ў ру́ку ўле́зе – жме́ню, і ў мя́ліцу гэ́тую і цiскаліціскалі. Палуча́юцца ручэ́йкі такія мя́ккія.* Смал.

**РЫЖО́ВІНА** *ж.* Праслойка мяса ў сале. *То, ка́жэ, саба́ка ні чапа́ў на́шага по́лудню, а то паразіт ву́цяг, да й зьеў то́е са́ло да з рыжо́вінаю.* Старадарож.

**РЫШАТО́** *н.* Рэшата. *Муку́ се́ялі, рышаты́ такі́е былі́.* Мін.

**САРАКІ́** *мн.* Памінальны стол па нябожчыку праз сорак дзён пасля смерці. *Ма́чыха пабыла́ да сарака́ дней, саракі́ атпра́віла і ўшла́ ат на́с.* Смал.

**САША́, СО́ША** *ж.* Шаша. *Вот за го́рат вы́скачылі, з машы́ны, а там – саша́ як сьцякло́.* Капыл. *Ты мне чамада́н завязі на со́шу, перш чамада́н, а тады́ мяне́.* Капыл.

**СВЯНЦА́ЦЬ** *незак.* Свянціць. *Ішлі́ на Усяно́чную, свянца́лі яе́чкі.* Дзярж.

**СЕМЯНО́** *н.* Семянная бульба. *Семяно́ там рэ́жам, перабіра́ем, насыпа́ем таго́ семяна́ і паехалі се́яць.* Асіп.

**СЁ́НЯЧЫ** *прысл.* Сёння, цяпер. *А сё́нячы по́ўна сяло́ п'я́ніц.* Капыл. *Сё́нячы я дзяржу́ сваю каро́ву – перадо́йка.* Капыл.

**СІЛЬТСІСО́Н** *м.* Страўнік, начынены вантробамі. *Ма́ма с кабана́ рабіла сільтсісо́ны. Усё́ рабіла: сільтсісо́ны, калба́сы і кунпякі.* Мін.

**СКА́БКІ, СКА́ПКІ** *мн.* Рэбры. *Вераша́ка была́ жы́рная, бо ска́пкі жы́рныя. Спячэ́ш ска́бак, тады́ мукі, ло́жка-дзьве раскало́ціш рэ́дзенька, узьліе́ш гэ́тай мукі, усё сьпячэ́цца, вот і вераша́ка.* Смал. *Тады́, як ёсць ска́пкі, са́ла, тады́ ро́біць мача́нку. Са́ла накрыша ў скавараду́, ска́бачак туды́.* Мін. СКА́БАЧКІ *ласк.*

**СКВАРЭ́ШАНЬКА** *ж. памянш.-ласк.* Шпакоўня. *А стары́ мой як жыў, любіў паставі́ць скварэ́шаньку пту́шачкам, каб яны́ вяліся.* Карэл.

**СКЛА́ДНЫ** *прым.* Умелы. *Ма́ткі на́шы былі скла́дные, калба́сы вку́сные рабілі, грыпкі такі́е пяклі пат торт пахо́жые, маглі што-ні́будзь зрабі́ць.* Пух.

**СКЛАДНЫ́Я** *мн.* Складчыны. *Але жылі і весяліліся, і складны́я рабілі, і като́ў гэ́тых пяклі, і гулялі. Складны́я ўсяля́кія, на Вялі́кдзень і на Сё́муху.* Дзярж.

**СЛОЙ** *м.* Сувой. *Пато́м пало́тна скру́чвалі ў слоі.* Клецк.

**СПІНА́Т** *м.* Шпінат (расліна). *Яны́ не́кі спіна́т там се́ялі, дак я ду́мала мо э́то шча́вель.* Клецк.

**СПРАГА́ЦЬ** *незак.* Запрагаць у адну вупраж. *Твая́ каро́ва, мая́ каро́ва – спрага́ем і аро́м су́ткі.* Асіп.

**СТАР'Я́** *н. зб.* Старыя людзі. *Ма́ла тут у нас людзе́й, паастава́лася то́лька стар'я́.* Смал.

**СТАЯ́ЦЬ** *незак.* ◊ ЯК СТОЙ. Голыя, без нічога. *Мы по́сьле вайны́ асталіся, што як пашці стой, як стой. У нас нічо́га-нічо́га ні асталóся.* Клецк.

**СТО́ПКА** *ж.* Памяшканне для захоўвання гароднiны, іншых прадуктаў; істопка, варыўня. *А ба́цька ўзя́ў, сто́пка была́ така́я, нябальша́я, зрабіў пе́чку ў сто́пкі, і мы там жылі.* Асіп.

**СТРЫК** *мн.* Струк (бобу). *Я по́мню, боб быў такі зжа́ты – стрыкі. Нарву́ць мне гэ́тых стрыко́ў, прынясу́ць, і е́ла.* Смал.

**СТУ́ДЗЕНЬ** *м.* Халадзец. *І кісялю ж на́да навары́ць, і ка́шу, і блінчыкаў, і там яе́шню, і сту́дзеню яко́га.* Асіп.

**СУВО́ЙЧЫК** *м.* Кавалак палатна, скручаны ў трубку. *Яна́ панесла ў цэ́ркву, аддала́ гэ́ты суво́йчык, кап пато́м пазванілі і памалілісе, кап яму́ не́шта зрабілася дрэ́ннае* [за тое, што ўкраў яе палатно]. Пух.

**СЬВІ́ДЗЕР** *м.* Світар. *Ручны́е сьвідзеры зьвя́жаш – кап цяпле́й, дак адзе́не.* Пух.

**СЬМІКА́ЛКА** *ж.* Кемлівасць. *Вот дармо́, што чаты́ры кла́сы, але ў міне́ была́ така́я сьміка́лка, што я і магла́ гэ́та ўсё і рабі́ла.* Мін.

**СЯВЕ́НЬКА** *ж.* Лубянка для ручной сяўбы. *Не́калі ж была́ мо́да се́яць жы́та сяве́нькаю, а тады́ – з сало́мы сяве́нька ро́біцца – нясу́ць, свянцу́юць багаце́йшыя, сяве́нькаю нясу́ць.* Дзярж.

**СЯДНО́** *прысл.* Усё роўна. *Ён уцякаў у кусты́, дак застрэ́лілі, прыцяглі, у аго́нь сядно́ ўкінулі.* Люб.

**СЯЛІ́ПКА** *ж.* Невялікая сядзіба. *Цяпе́р яе́ да́чнікам прада́лі, гэ́ту сялі́пку.* Мін.

**ТА́МАКА** *прысл.* Там. *Ба́цька наняў кварці́ру, паста́віў халадзі́льнік, паўкра́шваў, паўмува́ў та́мака ўсё.* Капыл.

**ТАНЦО́ЎШЧЫЦА** *ж.* Танцорка. *Я го́жа танцу́ю цыга́начку, танцо́ўшчыца я.* Смал.

**ТАРАНО́ВАЧКА** *ж.* Шарсцяная хустачка. *Ты́мі гада́мі по́сьле вайны́ былі про́чные такіе шарсьця́ные тарано́вачкі, красі́вые-красі́вые.* Люб.

**ТАРНО́ЎКА** *ж.* Вялікая шарсцяная хустка. *Адна – шу́ба і ху́стка бе́ла, а друга́я як праста́я ба́ба – тарно́ўка і пальто́ асе́ньне.* Капыл.

**ТАРЫ́Н** *м.* Тканы рушнік. *Дак во ге́та ручні́к ашчэ́ мае́й ма́мы. Е́та не́калі называ́лі тары́н, як ху́сткі-тарано́ўкі. Пало́ску атрэ́звалі, а тут про́шывы, а ге́та ўжэ ткáнае.* Капыл.

**ТРЫБУШЫ́ЦЬ** *незак.* Зніштажаць. *У э́тым бало́це іх трыбушы́лі, як селятцо́ў. Вот там іх памясі́лі* [немцаў]. Пух.

**ТРЫСКА́ЛКІ** *мн.* Клубніцы. *А так і трыска́лкі са́дзяць на гра́дах.* Дзярж.

**УВІ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Бегаць, заляцацца. *А яны́ ні лю́білі, бо ўжо хло́пцы за на́мі больш уві́львалі, за малады́мі, яны́ ўжо былі атста́лыя, з два́ццаць седьмо́га го́да такі́я ўжо дзе́ўкі былі.* Асіп.

**УГАВО́Р** *м.* Дамовы бацькоў нявесты з бацькамі жаніха пра час правядзення вяселля. *Угаво́р – гэ́та ўжо дагава́рываюцца, калі вясе́льле, ко́лькі ат каго́, бясе́да яка́я бу́дзе.* Дзярж.

**УДВАЁХ** *прысл.* Удзвюх. *Ба́цька мой у ва́рміі быў, а мы з ма́май удваёх жылі.* Мін.

**УНТО́** *прысл.* Калісьці. *Макаро́ны унто́ жа́рыла, то ўсе ку́чаю паяда́лі.* Старадарож.

**ХВАЗЬНІКІ́** *мн.* Хмызняк. *Там стра́шны такі роў быў, глыбо́кі. Хвазьнікі́ расту́ць у дзярэ́ўні. Там ён калі даро́гі. Усіх пазьбіра́лі ў гэ́ны роў, і ў гэ́ным ро́ве* [забілі]. Мін.

**ХРАБЫСТА́ЦЬ** *незак.* Хрумстаць. *Тады́ ўжо я́блыкі былі, зялёныя такі́я, я гэ́тымі я́блыкамі храбыста́ла. Вы́жыла на ле́та, вы́жыла.* Смал.

**ХРУШЧ** *м.* Грузд (грыб). *Лісі́чкі, кабы́лкі, хрушчы́ – о́чань харо́шыя грыбы́. Іх ма́ла хто зна́е, ма́ла хто бярэ́.* Клецк.

**ХЭ́ЎРА** *ж.* Сяброўства. *А лес? Хто ўкра́дзе зьве́здзіць. Той, хто зь лесьніко́м хэ́ўру меў. Хэ́ўра – дру́жба была́ зь лесьніко́м.* Чэрв.

**ЦАБЕ́РЫК** *м.* Шырокая круглая драўляная пасудзіна з клёпак з двума вушкамі; цэбар, цэбрык. *Рабілі такіе бачо́нкі, цабе́рыкі называ́лі, бальшы́е, дак апа́рыш е́тые гара́чай вадо́й у кіпятку́, по́пелу ўсы́плеш, у сту́пу, патаўчэ́ш, прабалта́еш і сьце́леш на му́раву, на траві́чку сьце́леш.* Пух.

**ЦАДЗІ́ЛКА** *ж.* Кавалак палатна або іншай матэрыі для працэджвання малака. *На́да цадзі́лкі, іго́лкі туды́, і кіпяці́ць, каб ве́дзьма малака́ не атабра́ла.* Асіп.

**ЦЫБУ́ЛІ** *мн.* Галіны. *Смаро́дзіна малада́я, стары́я цыбу́лі пааблáмлівала, а малады́я ста́лі расці́.* Дзярж.

**ЦЯПЕ́РАЧЫ, ЦЯПЕ́РАЧА** *прысл.* Зараз, цяпер. *Ба́пку вары́лі, то ба́пку і цяпе́рачы ро́бяць.* Клецк. *Ну дак от цяпе́рачы ўжэ я на які вялікі пра́зьнік, па зако́ну (хажу ў царкву).* Капыл.

**ЦЯПЕ́РАШКА** *прысл.* Тое ж. *А я сама́ і баранава́ла, сама́ і гарава́ла на гэ́тай зямлі: от забале́лі ру́кі, но́гі. Цяпе́рашка ўжо нічо́го ні дзяржу́.* Карэл.

**ЧАПЛЯЯ́** *ж.* Чапяла. *А я як чапляю дзяржа́ла да па ша́пцы.* Капыл.

**ЧУГАНО́К** *м.* Чыгунок. *Нам ма́ма нава́рыць такі карто́шкі вот чугано́к лі́траў на шэсь, і гаршо́к быў мо лі́траў на пяць аплёцены – су́пу нава́рыць.* Асіп.

**ЧЫЛАГРЭ́ЙКА** *ж.* Фуфайка, целагрэйка. *Ша́пкі да́жа шы́ла і чылагрэ́йкі шы́ла. Прыстро́чываю чылагрэ́йку во так во.* Мін.

**ЧЫМЖА́** *ж.* Жэмчуг. *Мая́ залатавало́сая развляка́лася ў са́дзіку і пацяра́ла, рассы́пала чымжу́. Вот е́сьлі но́йдзеш – бу́дзеш маладзе́ц.* Пух.

**ЧЫ́МЖЫК** *м.* Тое ж. *А чы́мжыку то́го было́ сто штук, сто па́церак.* Пух.

**ШАМКІ́** *мн.* Званочкі. *Ко́ні паўбіра́юць. Э́та ве́шаюць такі́я шамкі́, штоп е́дзе конь – шамкі́ зьвіня́ць.* Клецк.

**ШАСЬЦЁРНЯ** *ж.* Цыстэрна. *Патхо́дзіць шасьцёрня, налі́ваюць сьпі́рта і паве́зьлі куда́ на́да.* Асіп.

**ША́ХАР** *м.* Цукар. *Варэ́ньне ёсь. Ша́хару не пакупля́ла, дык кі́слае ўжо.* Дзярж.

**ШАШО́К** *м.* Тхор. *Лі́сы лю́бяць кура́ціну, шашкі то́жа ёсьць.* Дзярж.

**ШВАРГА́ЛКА** *ж.* Шпаргалка. *А дзірэ́ктар і чалаве́к, ка́жыцца, ву́мны быў – ён сам масквіч – Сяргей Іва́навіч шварга́лкі е́тые у пінджа́к у карма́н клаў. Чаго́ ты іх прачыта́ў і ні унічто́жыў?* Смал.

**ШЛЮБАВА́ЦЦА** *незак.* Вянчацца. *У нас сын апо́шні жані́ўся, ён то́жа шлюбава́ўся: вот яму́ э́тыя іко́нкі далі́, што ўнізу́ вiся́ць.* Дзярж.

**ШТАМПЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Ставіць штэмпель на дакументах. *Со́лтус е́ты – ён до́бры быў чалаве́к, але ж ужэ́ служы́ў у е́ту ру́ку – штамплява́ў дакуме́нты.* Клецк.

**ШУХАРНЫ́** *прым.* Шустры, прабіўны. *Ён ве́льмі быў шухарны́ чалаве́к.* Асіп.

**ШЧЫ́ЛАЧКА** *ж.* Шчылінка, дзірачка. *Прахы́кваем у вакне́ шчы́лачку, штоб е́то ба́чыць, як ма́ма ісьці́ме.* Люб.

**ЮНЬ** *м.* Чэрвень. *Э́та трына́ццатага ю́ню, называ́ўся* (свята) *Анто́нія.* Пух.

*Т. М. Трухан*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

**АЛЁШАВЫ** *прым.* Алешнікавы. *Есь але́шавы дро́ва, то до́брэ і лёхко ко́люцца. Але́шавы да ўсякіе, до́брые тут дро́ва.*

**АПА́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Абаграваць, рабіць цёплым. *Гру́пка была́, сра́зу апа́львалі са́мі ха́ту.*

**АСІНО́ВЫ** *прым.* Асінавы. *Дзе асіно́вые дро́ва, то яны́ до́брэ ко́люцца, я іх ў пе́чку калю́.*

**АТКАРА́СКАЦЦА** *зак.* Адчапіцца. *Га́на як прыста́не ка мне, то німо́жно аткара́скацца ад яе́, гаво́рыць і гаво́рыць.*

**АТЦУРА́ЦЦА** *зак.* Адрачыся ад каго-н. *Як паехала ў го́рад, то і вачэ́й ні пака́звае, і бацько́ў ні хо́чэ ба́чыць, атцура́ласа.*

**БА́НЬКІ** *часцей мн.* Паветраны шарык у вадзе, бурбалкі. *Ты́е го́ды каза́лі: як ба́нькі ўсхва́тваюцца, то бу́дзе до́бры дож* (прыкмета).

**БАРДЖЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Барджэ́й бяжы́ ў мага́зін, там усяго́ навязьлі́ сма́чнаго.*

**БРЫ́ТКО** *прысл.* Сорамна. *Як табе́ ні бры́тко, што ты апрану́ла? Адзе́нь хала́т, а ні шта́нікі, як дзіця́ мало́е.*

**ВАЛЬЦО́ЎКА** *ж.* Пшанічная мука вышэйшага гатунку. *Сказа́ла сы́ну, каб вальцо́ўкі купі́ў, трэ́ба які́х пе́рнікаў напячы́.*

**ВЕРАБЕ́Й** *м.* Верабей. □ *Ўво́сень і верабе́й бага́ты.*

**ВІСО́К** *м.* Скроня. *У віска́х цэ́лы дзень сту́кае, як даўле́ньне высо́ке.*

**ВО́БЗЕМ** *прысл.* Вобземлю. *Дзе́ці прышлі́ са шко́лы, усю́ адзе́жу во́бзем – і на ву́ліцу.*

**ВО́СІЛКА** *ж.* Дужка ад вядра. *Вядро́ ў кало́дзяйзі саржавéло, і во́сілка адлама́ласа.*

**ВО́ЧАРАДЗЬ** *ж.* Чарга. *У на́шум канцы́ было́ мо тры́ццаць каро́ў, і ўсе па во́чарадзі па́сьцілі. У нас пасу́ць каро́вы па во́чарадзі: сёне я, а за́ўтрэ ты, а калі ў цябе́ дзьве каро́ве, то пасе́ш два дні.*

**ВУЖЫ́ШЧЭ** *н.* Моцная тоўстая вяроўка. *Ко́лісь бяз вужы́шча ніхто́ ні е́зьдзіў па се́но, трэ́ба было́ се́но на воз ускі́нуць і вужы́шчам кругóм абвяза́ць.*

**ВУ́ТКА** *ж.* Качка. *Цяпе́р гэ́тых ву́так ніхто́ ні дзяржы́ць, усе́ старые́, зь і́мі рабо́ты шмат. На́ша На́дзя пражыла́, як ву́тка на вадзе́.*

**ВЫДЗІРА́ЦЬ** *незак.* Зневажаць каго-н., лаяцца. *Нап'е́цца да як пачне́ выдзіра́ць на ўсіх – стра́шно слу́хаць!*

**ВЫ́СЫПАЦЦА** *зак.* Пра з'яўленне мноства дзірачак на анучы. *От вы́сыпаласа ану́ча, што на адны́е ды́рачкі.*

**ВЫ́СЯРБАЦЬ** *зак.* Сёрбаючы, з'есці. *Ба́цьку паста́віла цэ́лу мі́ску капу́сты, усю вы́сярбаў і яшчэ́ папрасі́ў.*

**ГАЛЯЛЁДЗІЦА** *ж.* Галалёдзіца. *Галялёдзіца як про́йдзе, то і ў гало́шах сьлі́ско, ні то́лькі ў бахі́лах.*

**ГАМАНКІ́** *прым.* Гаваркі. *Такі́ ўжэ гаманкі́ Зі́ньчын Мікі́та: усе́ ве́дае і ўсіх, і пра ўсе раска́жэ.*

**ГАРАЧА́ЦЬ** *незак.* Гарачэць, станавіцца гарачым. *Накі́далі дроў, патпалі́лі, і пе́чка гарача́е.*

**ГАРДЭ́БЛЯ** *агульн. эмац.-ацэн.* Высокі і худы чалавек. *На Вало́дзю Малю́жыча ка́жуць гардэ́бля. Ён худы́, высо́кі, як жэ́ртка.*

**ГАРЦА́ЦЬ** *незак.* Бегаць. *Як пры́дзе нядзе́ля, ніко́лі до́ма ні пасядзі́ць, па сялу́ дзень гарца́е.*

**ГО́ЛАС** *м.* ◊ У СЬВІНЫ́Я ГАЛАСЫ́ прыхо́дзіць. Вельмі позна. *Што ты прышо́ў у сьвіны́я галасы́? Усе́ карто́плі вы́бралі і перавязьлі́.*

**ГО́ЛЫ** *прым.* Не прыпраўлены. *Ба́цько го́лые крышаны́ е́сьці ні бу́дзе, трэ́ба, штоб кусо́к мя́са быў.*

**ГУСЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Шчыльна сатканы або сплецены. *Ма́цаю штаны́, штоб гусьце́йшые тро́хі надзе́ць, а ты́е сі́ніе, як рэ́шато.*

**ДАГАРЫ́** *прым.* ◊ ДАГАРЫ́ НАГА́МІ. У поўным беспарадку. *Як пры́ехалі дзе́ці з го́рада ўсе перавярну́лі, усе́ ў ха́це дагары́ нага́мі.*

**ДАДО́ЛУ** *прысл.* На падлогу. *Сядзе́ў на палку́, забаўля́ўся, ада́ле ўпаў дадо́лу.*

**ДАСТА́ЦЬ** *зак.* ◊ С-ПАД СУ́ЧКІ Я́ЙЦА ДАСТА́НЕ. Пра хітрага пранырлівага чалавека. *Таі́ска така́я сьме́ла, бы́стра – прайдзісьве́т, яна́ с-пад су́чкі я́йца даста́не.*

**ДЗЯНЯ́ШНІ** *прым.* Дзённы, атрыманы днём. *Дзяня́шняе малако́ стаі́ць у ту́мбацэ. Вядро́ надаі́ла, налі́ла ў атсто́йнік і ў каро́ўнік.*

**ДЗЯЦІ́НІЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе па-дзіцячы. *Хва́ціць табе́ дзяці́ніцца, ты ўжэ вялі́кі хло́пец.*

**ДО́ЛЕ** *прысл.* На падлозе. *Пад палко́м ні шука́й мі́ску, яна́ ў той ха́це до́ле стаі́ць, я памы́ласа і паста́віла.*

**ДУХ** *м.* Сіла чалавека. *Пасьле́дні дух вылáзіць, так стара́ласа, каб ні аста́цца.*

**ДЫ́ЛЯ** *ж.* Дылёўка, тоўстая дошка. *Трэ́ба зрабі́ць но́вы падако́нік, е́ты ша́шаль з'еў, у гаражы́ ляжы́ць ды́ля на падако́нік.*

**ЕТАКСА́МО** *прысл.* Таксама. *Етакса́мо яны́ не́шта прыгато́вяць, салігóрскіе, і на́шы на дзень жа́твы.*

**ЕТО** *часц.* Гэта. *Ето печку, відаць, пабяліла, грубку, як мы кажам.*

**ЖАЎТАВАЦЕНЬКІ** *прым. ласк.* Жаўтаваты. *І ў той жэ бляшчэ есь жаўтаваценькіе дзічкі.*

**ЖУКОВІНА** *ж.* Пярсцёнак. *Цяпер у нас ні кажуць жуковіна, а бабы старые то казалі.*

**ЗАБАВІЦЦА** *зак.* Затрымацца. *Забавіласа ў Каці, думала на мінютку, а яна ніяк с хаты ні выпускае.*

**ЗАВЯЗАЦЬ** *зак.* ◊ ЯК ЗАВЯЗАЦЬ. Вельмі поўна. *Толя прыехаў Ваньчын, а я яму мяшок картопель накапцавала як завязаць.*

**ЗАГАВАЙЛО** *агульн.* Гультаіна. *Загавайло ты! Хоць работу якую зрабі! Толькі летаеш па хатах, а работа стаіць.*

**ЗАГОН** *м.* Паласа, участак ворнай зямлі. *Вясною пасадзім на загоне шмат гарбузоў, іх абрабляць ні цяжко.*

**ЗАГРУЗАЦЬ** *незак.* Грузнуць. *Выехалі на кані к Валі на свадзьбу: конь загрузае, ні можно было ехаць, і на свадзьбу к Валі ні папалі.*

**ЗАГУМЕННЕ** *н.* Месца за гумном. *Трэба накапаць гліны і летам перарабіць печку. Казалі, што гліну капаюць на загумені.*

**ЗАДНІК** *м.* Частка абутку, якая ахоплівае пяту. *Хочу вечарам заднікі ў валёнках налапіць і абшыць, добрэ будзе зімою ў дварэ хадзіць.*

**ЗАЙЗДРОСНЫ** *прым.* Заядлы, які выконвае што-н. з вялікай адказнасцю і жаданнем. *Наша Валя ў Старобіне рабіла, зайздросна была на работу. Яе ўсе зналі ў Старобіне.*

**ЗАКРЫЛІНА** *ж.* Вузкая дошка на шчыце будынка, да якой прылягае ліст шыферу або іншага дахавага пакрыцця. *Закрыліны ні крась, яны пагнілі, іх мяняць трэба, а лабок пакрась.*

**ЗАЛЕТАСЬ** *прысл.* Два гады назад. *Залетась сеялі картоплі на гэтуй палавіне загона і летась.*

**ЗАЛЕТАШНІ** *прым.* Залеташні. *Яшчэ залеташне сено ляжыць у хляве, трэба будзе хоць воз які прадаць.*

**ЗАМЕШВАЦЬ** *незак.* Гатаваць корм, мешанку жывёле; замешваць. *Трэба ўжэ замешваць сьвіням, хай паядзяць, а тады самі што-нібудзь перакусім.*

**ЗАНЯПАДВАЦЬ** *незак.* Станавіцца хваравітым, занядужваць. *Трохі заняпадвае Каця, а памяць харошa, усе помніць. І Валя наша трохі заняпадвае, а мужык плачэ горкімі сьлязьмі.*

**ЗАПЛІКНУЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Заплікні камзэльку, на вуліцы вецер пранізьлівы, холодны.*

**ЗАПЛЮСНУЦЬ** *зак.* Заплюшчыць вочы. *Даўно са мною такого ні было: напіласа карвалолу, залезла на печ, заплюснула вочы і да пяці часоў раніцы спала.*

**ЗАПЛЯМІЦЬ** *зак.* Пакрыць плямамі, запляміць. *Запляміла ўсю спадніцу, на чорнум вельмі відаць.*

**ЗАПЯЦЬ** *зак.* Завесіць. *Запні акно, ато з вуліцы ўсе відаць у хаце.*

**ЗАЦІШНО** *прысл.* Зацішна, ціха, бязветрана. *За будкаю зацішно, сяду і дзень мяцёлкі вяжу.*

**ЗАЯДЛІВЫ** *прым.* Заядлы, які выконвае што-н. з вялікай адказнасцю і жаданнем. *Тожэ заядліва была на работу наша Валя.*

**ЗВОДЫ** *толькі мн.* Выдумкі, плёткі. *Я век гэтых зводаў ні любіла.*

**ЗДАРАЎЧАНЫ** *прым.* Здаровы. *Яна ні вельмо здараўчана была, а картошку зьбірала.*

**ЗДАРОЎКАЦЦА** *незак.* Вітацца. *Мушчыны як встрачаюцца, дак яны здароўкаюцца.*

**ЗНАДВОРКУ** *прысл.* З вуліцы. *Знадворку прышоў, куртку скінуў, а рукі халодные-халодные.*

**ЗЬВЯГЛІВЫ** *прым.* Назойлівы, надакучлівы. *Ну й чалавек зьвяглівы, ні можна ад яго атчапіцца.*

**КАРАЎКІ** *мн.* Рыззё. *Каравак цэла прыгрэбіца: і на насілах вісяць, і на сьцяне. Трэба сабраць і на агародзе запаліць.*

**КАРЖАКАВАТЫ** *прым.* Невысокі, шыракаплечы, моцнага целаскладу; каранасты. *Адзін каржакаваты, нізкі, малы, а яны былі ўтрох, а чацьвёрты, мо што ў хляве глядзеў.*

**КАРТАПЛЯНІКІ** *часцей мн.* Бліны з дранай бульбы. *Маці часто пякла картаплянікі, здорам мазалі – вельмі смачно.*

**КАРТАПЛЯНІШЧЭ** *н.* Поле, дзе расла бульба; бульбянішча. *Увосень на картаплянішчы спалім сухое сено і картаплянік.*

**КАРТАЧКА** *ж.* Фотаздымак. *У дзярэўні ўсе карточкі ў рамках на сьценах вісяць.*

**КАЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць. *Валя, выпусьці ката на вуліцу, сеў у дзьвярах і каўкае.*

**КАЧАЛКА** *ж.* Драўляны валік для раскачвання цеста. *Вазьмі качалку і стаўчы камякі; ні забудзь тўку ўліць.*

**КІПЕЦЬ** *м. эмац.-ацэн.* Пра вельмі сквапнага чалавека. *У іх то бацько – кіпець, шкадаваў капеячкі.*

**КРАМСАЦЬ** *незак.* Рэзаць абы-як. *Ні крамсай хлеб, а парэж як трэба, а то крошак сьвет на сталё.*

**КРУК** *м.* ◊ КРУКАМ НОСА НІ ДАСТАЦЬ. Пра вельмі ганарыстага чалавека. *Паставілі начальнікам, то цяпер да яго ні падыйці, крукам носа ні дастаць.*

**КУБЕЛ** *м.* Дзежка з вушкамі і векам для захоўвання прадуктаў і рэчаў. *Кубел з прыгрэбіцы перанясьлі ў хлеў і туды трохлітровые банкі склалі.* КУБЕЛЬЧЫК *памянш. Косьці добрэ салілі і ўсе ў кубельчык клалі.*

**КУКЛА** *ж.* Жаночая прычоска: сабраныя і закручаныя ў вузел ззаду валасы. *Цяпер усе стрыгуцца, а раньшэ жанкі сваё валасы ў куклу закручвалі.*

**ЛАПАНОСЫ** *прым.* Шыраканосы. *На яго казалі лапаносы, бо ў яго нос круглы і шырокі.*

**ЛАПІКЛО** *н.* Кавалак тканіны, якім залатана дзірка на адзенні, лата. *Адзела спадніцу на работу, дак яна ўся ў лапіклах.*

**ЛАПІЦЬ** *незак.* Латаць. *У бацька былі ваеные сарочкі, яны моцные, а варатнік праціраўса, я часто яму лапіла.*

**ЛАПЛЕНЫ** *дзеепрым.* Які мае латкі, залатаны. *Папанасіў рубашак і штаноў лапленых.*

**ЛОПАЦЕНЬ** *м.* Той, хто многа гаворыць; лапатун, балбатун. *Лопацень ты, а ні чалавек, дай хоць людзям сказаць, а то дзень балбочэш.*

**ЛУПАЙКІ** *мн.* Лупіны. *Прынясі картоплі і вядро на лупайкі, налуплю картопель на вечар.*

**ЛЫГА́ЦЬ** *незак.* Прагна есці. *Еж нарма́льно, ні сьпяшы́, а то ўсе лыга́е і лыга́е.*

**МЯТУ́СІЦЦА** *незак.* Мітусіцца. *Адно́ туда́ бяжы́ць, друго́е туда́ бяжы́ць – вот так мяту́сяцца лю́дзі.*

**НАБІ́РКА** *ж.* Пасудзіна для збору ягад. *Вёдрамі чарніцы з Кірпі́чнага насілі, да яшчэ́ і набі́ркі назьбіра́ем.*

**НАВА́ЖЫЦЦА** *зак.* Намерыцца нешта зрабіць. *Я нава́жыласа сёня карто́плі пабаранава́ць, трэ́ба Але́га папрасі́ць.*

**НАВЫ́ЛЯТ** *прысл.* Навылёт, наскрозь. *Вы́йшаў сь сьвіна́рніка, а дож як уліў, я навы́лят прамо́к.*

**НАГАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Угаварыць. *Нагамані на яго́, хай сёне бу́дзе до́ма, хо́піць яму́ літа́ць у Салі́горск.*

**НАЛА́ПІЦЬ** *зак.* Залатаць. *За зі́му ўсе куха́йкі нала́піла: то рука́ў парве́цца, то карма́н, то паткла́тка.*

**НАПРУ́ГАЦЦА** *зак.* Многа напіцца. *Так напру́гаўса вады за дзень, што ўсе ліцо́ апу́хло.*

**НАСЕ́НЕ** *н.* Насенне. □ *Ра́не хоць ні ро́дзіць, а насе́не ні зво́дзіць.*

**НАСТЫРА́ЦЦА** *незак.* Сварыцца, уступаць у спрэчкі. *Ні чапа́й ты іх, яны́ лю́дзі як лю́дзі. Чаго́ ты настыра́еса?*

**НА́СЦЕ** *прысл.* Насцеж. *Як паго́да, то по́грап трэ́ба на́сьце аткрыва́ць, хай со́хне.*

**НАЎЗДАГО́Н** *прысл.* Услед. *Я крычу́ ёй наўздаго́н, а яна́ і ву́хам ні вядзе́.*

**НІ́ЦЫ** *прым.* Пранізлівы. *Ве́цер такі́ ні́цы, што прайма́е ўсяго́ чалаве́ка.*

**НІЧЭ́ПАНЫ** *прым.* Непачаты, цэлы. *Пашла́ ў чарні́цы ў Гра́ткі, а там я́гат сьвет, нічэ́паныя. Стаі́ць ка́ша ў пе́чы, яшчэ́ нічэ́пана, даставаі́, бу́дам е́сьці.*

**НО́СЦАМ** *прысл.* Нагою. *Як даў яму́ но́сцам, дак ён і паляцеў ку́барам з паро́га.*

**ПАВЕ́СІЦЬ** *зак.* ◊ ПАВЕ́СІЦЬ ХАМУ́Т НА ШЫ́Ю. Ажаніцца. *Ну што? Паве́сіў хаму́т на шы́ю! Цяпе́р і сто грам ні мо́жэш вы́піць!*

**ПАВЯНДЛІ́ЦА** *ж.* Паляндвіца. *Кабана́ вы́кармім, зако́лем, ба́цько павяндлі́цы павырэ́звае і на стол у бу́дку пакладзе́.*

**ПАГАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Пагутарыць, пагаварыць. *Сяджу́ адна́ ў ха́це, як воўк, ня́ма с кім і пагамані́ць.*

**ПАГО́НІСТО** *прысл.* Хутка. *Мятло́ю паго́ністо мясьці́, так до́брэ заме́тае.*

**ПАГРЫ́СЬЦІСЯ** *зак.* Пасварыцца. *Ужэ́ ў Гу́рськіх ціхо ў ха́це, пагры́зьліса і цяпе́р маўча́ць.*

**ПАГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Пасядзець, адпачыць. *Пайду́ к Ка́ці Гара́ськавых пагуля́ю, даўно́ ў яе́ ні была́. Ба́цько ўсе хадзі́ў к Во́льцэ Каралёвуй гуля́ць, там усягда́ кампа́нія.*

**ПАДАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Пададзець, падапрануць. *На ву́ліцы хо́ладно, пададзе́нь бязрука́ўку, яна́ цёпла, натура́льна.*

**ПАДДА́ЦЬ** *зак.* Дапамагчы падняць (на спіну, плечы). *Сама́ ні падыма́й мяшо́к, я падыйду́ і падда́м.*

**ПАДО́ШВА** *ж.* Падэшва. *Трэ́ба хадзі́ць басіко́м па зямлі ле́там, дак і падо́швы бале́ць ні бу́дуць.*

**ПАДПЕ́ЧАК** *м.* Месца, прастора пад печчу. *Я высушыла бахі́лы і ў патпе́чак паставі́ла, хай ні валя́юцца пад нагамі́.*

**ПАДЧАРО́ЎЕ** *н.* Падчарэўе, падбрушша. *Сьвіню́ закало́лі, дак ма́ма ўзяла́ патчаро́ўе, адбі́ла, пасалі́ла, прыпра́вамі пасы́пала, скруці́ла і перавяза́ла.*

**ПАД'ЯЛДЫ́КВАЦЬ** *незак.* Падтакваць. *А ты стой ці́хо і маўчы́, а ні пад'ялды́квай!*

**ПАЗАЙМА́НЫ** *дзеепрым.* Заняты. *Усе́ вёдра пазайма́ныя: то з лупа́йкамі, то з карто́плямі.*

**ПАЗМІРА́ЦЬ** *зак.* Паўміраць. *Ужэ́ ўсе стары́е лю́дзі пазьміра́лі, като́рае пра́лі і тка́лі.*

**ПА́ЛЕЦ** *м.* Драўляная ручка на дзяржальне касы. *Скажы́ ба́цьку, хай зро́біць па́лец, по́сьле нядзе́лі касі́ць по́йдуць.*

**ПАКРЫ́ШКА** *ж.* Вышытая ці мярэжаная накідка. *Памы́й пакры́шкі, паўцю́ж і к Вялі́кадню паду́шкі панакрыва́й.*

**ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Ідзі́ палядзі́ газ, мо́жа кампо́т пабе́г і ўвесь газ залі́ў.*

**ПАМЯТУ́СЯНЫ** *дзеепрым.* Накінуты верхам уніз. *Перакры́й пакры́шкі, ато́ ў цябе́ не́як памяту́сяно: на адно́й пакры́шцэ цьвяты́ ўверх, а на друго́й уні́з.*

**ПАМЫ́І** *толькі мн.* Брудная вада пасля мыцця чаго-н.; памыі. *Ні выно́сь памы́і на ву́ліцу, за́ўтрэ ра́нкам сама́ вы́нясу.*

**ПАНАРА́ВІЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Ве́льмі ж краСі́вые по́сьцілкі тка́ные, так мне панара́віліса.*

**ПАПАЦЁМКУ** *прысл.* У цемры, у цемнаце. *Што ты хо́дзіш папацёмку? Сьвет уключы́!*

**ПАПЛЕ́ЦІНА** *ж.* Тонкі доўгі дубец. *Бу́дзеш стая́ць напе́радзе, дак вазьму́ паплеціну да паплеціна́ю па пляча́х.*

**ПАРАШО́К** *м.* Таблетка. *Дай мне парашо́к вы́піць ад галавы́. Цяпе́р е́тых парашко́ў ні набра́цца, п'юць лю́дзі то́намі, і бальны́е ўсе.*

**ПАРУШО́К** *м.* Парушынка. *Парушо́к вы́кінь, с чагана́ ўпаў, як карто́плі вары́ла.* ПАРУШО́ЧАК *памянш.* *Нідзе́ ні парушо́чка ні было́, так чы́сто памы́ла сваё штаны́.*

**ПАЎТАПЛЯ́ЦЬ** *зак.* Вытапіць, выпаліць (у печы). *Ты ду́маеш, што ўжэ ўсе паўтапля́лі ў пе́чы? Некато́рые ішчэ́ і ні пачына́лі.*

**ПАХАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Моцна пахнуць. *Сьлі́ўка распусьці́ласа, так пахаці́ць, хоць у ха́ту ні ўвахо́дзь.*

**ПАХВІ́НА** *ж.* Пахвіна. – *Не́што балі́ць у пахві́не.* – *Мо́жэ дзе сту́кнуласа.*

**ПЕ́ЛЯНА** *ж.* Прыпол. *Палю́ на агаро́дзе карто́плі і зе́ле ў пе́ляну кі́даю, а тады́ на мяжу́ выно́шу.*

**ПЕ́ПАНКА** *ж.* Пепін шафранавы, зімовы сорт яблыкаў. *У Гара́ськавых такі́е сма́чные пе́панкі былі́!*

**ПЕРАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Разабраць і сабраць будынак, замяніўшы пашкоджаныя бярвёны. *Трэ́ба ўле́тку хлеў перасы́паць, ато́ кры́ша цячэ́ і бярве́не ша́шэль пае́ў, парахня́ сы́плецца.*

**ПЕ́РЫЦЬ** *незак.* Ліць (пра моцны дождж). *З ра́нку як пача́ў пе́рыць дож, то да ве́чара, і ні суня́ўся ні на міню́тачку.*

**ПІСЯ́Г** *м.* Рубец. *Так сьцебанўў дубцóм па нагáх, аж пісягí засталíса.*

**ПЛАШЭ́ЙШЫ** *прым.* Горшы. *Прóсо трóхі плашэ́йшэ, як рáньшэ былó. Пракідáласа і харóшая картóшка, і плашэ́йшая.*

**ПЛЮ́ШАЎКА** *ж.* Плюшавы жакет. *Гэ́та плюшаўка ў мянé вéльмі даўнó. Яшчэ́ ў Слýцку купля́ла, як з бáцькам прадавáлі парася́та.*

**ПО́ДБІЎКА** *ж.* Ніжняя частка сукенкі, спадніцы і пад., якую падрубліваюць; падбіўка. *Ся́ду на дзівáн да пóдбіўку ў спадніцы патшы́ю, атó так і бýдзе цяляпáцца.*

**ПО́ДЛЕТАК** *м.* Хлопчык або дзяўчынка ў пераходным узросце, падлетак. *Лéтам шмат гэ́тых пóдлеткаў, лéтаюць па сялý на валасыпéдах.*

**ПО́ДМАСКА** *ж.* Кавалачак сала, якім падмазваюць патэльню, калі пякуць бліны, аладкі; подмазка. *Адрэ́жу кавáлачэк сáла – і дóбра пóдмаска. Яé надóўго хапáе.*

**ПО́КУЦЬ** *ж.* Чырвоны кут у хаце. *У нас на пóкуці ікóна вісíць і рушнікі вышытыя.*

**ПО́РКАЦЦА** *незак.* Корпацца. *Хто аддыхáе, а хто пóркаяцца на зямлí.*

**ПРАЛЫ́СІЦЬ** *зак.* Дрэнна памыць падлогу. *Палядзí, як ты падлóгу пamы́ла? Пралы́сіла тóлькі, а ні памы́ла.*

**ПРА́НЦЫ** *мн.* Пранцы. *Хай цябé прáнцы вóзьмуць, як ты мне надаéў.*

**ПРА́СЛО** *н.* Частка агароджы паміж слупамі. *Трэ́ба ў гэ́тым гóдзе плот загарадзíць за дварóм, хацяб прáслы тры-чатэ́ры.*

**ПРО́РАЗЬ** *ж.* Праслойка мяса ў сале. *Каб былá прóразь у сáле, трэ́ба сьвіні малакó падлівáць.*

**ПРО́СТЫНА** *ж.* Прасціна. *К Вóсьмаму мáрта купíла прóстыну харóшу, хай бýдзе.*

**ПРЫГА́РАК** *м.* Бульба з прыгарэлым верхам; прыгарка. *Ні скрабí картóпель цэ́лы чагáнчык, а то зьвéрху адны́е прыгáркі.*

**ПРЫГРЭ́БІЦА** *ж.* Пабудова, склеп над пограбам; прыгрэбнік. *Навазíлі ў прыгрэ́біцу ўсякага хлáму, трэ́ба вы́мясьці і прыбрáць.*

**ПРЫСТА́ЦЬ** *зак.* Стаміцца. *Да дажджý пасéкла ўсе галíнкі смурóдзіны, што ты навырэ́звала, і ў падпавéс злажы́ла, прыстáла, ледзь у хáту ўвайшлá.*

**ПРЫ́ХВАТКАМІ** *прысл.* Урыўкамі. *Пры́хваткамі вы́палала гарбузы́, яны́ распаўзýцца па ўсём загóну.*

**ПРЫ́ЦЕМКАМ** *прысл.* Адвячоркам, калі сцямнела; прыцемкамі. *Ніна ўжэ пры́цемкам прыхóдзіла, пагýляла, правéдала мянé і пашлá.*

**ПУСТАДО́МАК** *м.* Ветраны чалавек. *А éтаго пустадóмка нікóлі дóма німá, усé па чужы́х дварáх лéтае.*

**ПЯЧО́РКА** *ж.* Невялікая ніша ў сцяне печы; пячурка. *Наскі і рукавíцы пакладзí ў пячóрку, за ноч вы́сахнуць.*

**РАСПУ́КВАЦЦА** *незак.* Распускацца (пра пупышкі). *Я́блыні ўжэ распýкваюцца, такíе красíвые, лю́бо глядзéць.*

**РУБЕ́ЛЬ** *м.* Прылада для ўціскання сена ці саломы на возе. *Накладзé цэ́лы воз сéна, утóпчэ зьвéрху і яшчэ́ рублём ўцíсьне.*

**САПЛІ́ВІЦЬ** *незак.* Сапліўіць. *Кóля саплíвіць чáсто, трэ́ба цяплéй апранáцца.*

**САСТУПІ́ЦЦА** *зак.* Ссесціся; збегчыся пасля мыцця. *Такá былá спадніца красíва, у цьвяты́, а два раз памы́ла, янá саступíласа – цяпéр тóлькі на анýчы.*

**СВЕТ** *м.* Вельмі многа. *Ой, што ты, я ў хáту ні захóджу цэ́лы дзень, у мянé рабóты сьвет.*

**СВІДРАВА́ЦЬ** *незак.* Дзьмуць з вялікай сілай. *Так сьвідрýе вéцер ў вóчы, што пазірáць ні мóжно.*

**СВІНУ́ШНІК** *м. перан.* Беспарадак. *Дзьве дзяўкí ў сям'í, а такí сьвінýшнік у хáце, ні пераступíць!*

**СЁДНЕ** *прысл.* Сёння. *Сёдне нéшто пахмýрвае, хацяб дажджý ні былó, атó ўся рабóта на смáрку пóйдзе.*

**СКАВАРО́ДНІК** *м.* Праснак. *Як мы былí малы́е, то мáма чáсто скаварóднікі пяклá ў пéчы.*

**СЛА́БКО** *прысл.* Слаба, не туга. *Завязáла пярэ́днік слáбко, ні ўсьпéла зайцí на агарóд, як ён разьвязáўса.*

**СУНІ́МАК** *м.* ◊ БЕЗ СУНІ́МКУ. Бесперапынна. *Цэ́лы дзень лье дож без сунíмку.*

**СУРАВЫ́** *прым.* Свежы. *Суравы́ гурóк дóбрэ зьéсьці, да яшчэ́ са сваéй грады́.*

**СЦЯГА́Ч** *м.* Валацуга. *Як пайшóў сьцягáч з рáнку, дак тóлькі к вéчару прышóў дадóму.*

**СЯРАЎНО́** *прысл.* Усё роўна. *Мне сяраўнó калі палóць картóплі: ці рáнкам, ці ўвéчарэ.*

**СЯЎКІ́** *прым.* Насенны. *Картóплі дрóбные, ні сяўкíе, насéньня трэ́ба шмат, картóшка – вялíкае дзéло.*

**ТУ́ПКО** *прысл.* Цвёрда, не вязка. *На дварэ́ падмарóзіло, тýпко ісьцí, дóбрэ, цíхо, вéтру нíмá.*

**УГРЭ́БАЦЬ** *незак.* Уграбаць (пра гной). *Сáмі бýдам садзíць картóплі, а Тóля хай гной угрэ́бае.*

**УПО́КАТ** *прысл.* Адзін каля аднаго. *Ранéй на палкý ўпóкат усé ляжáлі: і дзéці, і бацькí – усíм мéста хапáло.*

**УПУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Спудзіцца. *Упýдзіўса Ю́зік і паляцéў аж да Нóвае дарóгі, стаў і глядзíць назáд.*

**УСЯДНО́** *прысл.* Усё роўна. *Мне ўсяднó: я магý прыéхаць і ў сыбóту, і ў нядзéлю.*

**УТАЧНЯ́ЦЦА** *незак.* Удакладняць. *Ён жэ ні ўтачня́ўса, штоб я тóчно сказáла.*

**ХВАРСІ́СТЫ** *прым.* Фарсісты. *У малады́х гадóх Кóля быў красíвы і хварсíсты.*

**ХІЛЬЧАВА́ЦЬ** *незак.* Хітраваць. *Я вéльмі ні люблю́, калí хто хільчýе, пасóбіць – знáчыць пасóбіць.*

**ХМАРУ́К** *м.* Невялікая хмара. *Як хмарýк нáйдзе, мéсяц схавáецца трóхі, ужэ́ так ні сьвéціць.*

**ХРАСТО́К** *м.* Адростак у бульбе. *Картóплі пад палкóм стая́ць, дак ужэ́ й храсткí парасьлí, трэ́ба пасадзíць у агарóччыку.*

**ЦЁСКА** *ж.* Трэска, шчэпка. *Набяры́ цёсак і ўкінь у пéчку, трэ́ба патпалíць, у хáце нéшто хóладно.*

**ЦЭ́БЕР** *м.* Цэбар. *Цяпéр нямá карóвы, то і цэ́бер ні трэ́ба, даўнéй запáрвалі мякíну з мукóю ў цэ́бры.*

**ЦЮХЛЯ́К** *м.* Цюфяк. *Вазьмí цюхля́к у сéнцах і занясí ў бéлу бýтку на лóжак.*

**ЦЯЛЁШНІКІ** *толькі мн.* Чалеснікі. *Ні стаў у печ чага́нчык, хай у цялё́шніках стаі́ць.*

**ЦЯЛЬПУ́Х** *м. эмац.-ацэн.* Пра непаваротлівага, нязграбнага, тоўстага чалавека; цяльпук. *Ні дзіця́, а цяльпу́х, карміць меньш трэ́ба*!

**ЦЯПЕ́РАКА** *прысл.* Цяпер. *Цяпе́рака жыць до́брэ: пе́ньсію даюць ко́жны ме́сяц, у мага́зін ўсяго́ панаво́зілі, аўтала́ўка два раз на ты́дзень хо́дзіць.*

**ЧАПЛЯЯ́** *ж.* Чапяла. *Чапляю засмаліла, вазьмі намы́ль ану́чу і до́брэ вы́тры, а то́ ўся чо́рна ад са́жы.*

**ЧАСЦЯКО́М** *прысл.* Вельмі часта. *Як ба́цько жыў, дак Во́ва часьцяко́м к нам прыхо́дзіў, а цяпе́р не́што даўно́ ні быў.*

**ШАМЕ́ЦЬ** *незак.* Шамацець. *Ве́цер на ву́ліцы, ліст шаме́чэ туда́-сюда́.*

**ШЛЫ́НДАЦЬ** *незак.* Сноўдацца, бадзяцца. *Ні шлы́ндай па ха́тах, а ідзі двор скасі, ба́чыш яка́я трава́ вялі́ка!*

**ШЧЫ́ЛЬНО** *прысл.* Шчыльна. *А падло́га ў нас шчы́льно пасла́на, до́ска к до́сцэ прыстае́.*

*Ж. С. Сіпліваня, І. І. Бубновіч*

## САСТАЎНЫЯ І СКЛАДАНЫЯ МЯНУШКІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Як і іншыя катэгорыі онімаў, па структуры мянушкі могуць быць простымі (яны складаюць пераважную большасць адзінак), складанымі і састаўнымі. Аднак на Гродзеншчыне пашырэнне маюць і апошнія дзве групы вулічных імёнаў-мянушак. Статус і месца аналітычных і складаных мянушак не падаецца нам простым і адназначным. Так, напрыклад, структурныя асаблівасці мянушак тыпу *Баба-яга, Баба-тазік* даюць падставы кваліфікаваць іх як словы-кампазіты, аднак варыянтнасць перадачы на пісьме (*Баба Яга*) дае магчымасць аднесці падобныя назвы да групы састаўных.

Як сведчаць назіранні, на Гродзеншчыне актыўна функцыянуюць мянушкі, што ўяўляюць сабой спалучэнне назоўніка (уласнага і агульнага) з прыдаткам: *Анка-кулямётчыца*[1], *Антон-ціліфон, Баба-гром, Баба-мур, Васька-трубач, Баба-тазік, Казё-дзіджэй* і інш. Выяўлены таксама антрапонімы, у якіх нельга адрозніць галоўны і залежны кампаненты: *Саша-Іра, Тані-Мані.*

Пашырэнне мае мадэль 'уласны назоўнік+прыметнік': *Васька Нясмелы, Доўгі Іван, Канцавы Сідар* і г. д. Прыметнік выконвае асноўную характарыстычную функцыю і можа быць па паходжанні якасным (*Салодкі Янак, Васька Нясмелы, Манька Белая, Кароткі Іван*), адносным і прыналежным (*Канцавы Казік, Канцавы Сідар, Ядзя Віцюкавая, Люба Фядосіна, Гандзя Верцялішская*). Якасныя прыметнікі вылучаюць носьбітаў мянушак паводле паводзін (*Добры Жук, Васька Нясмелы*), знешняга выгляду (*Доўгі Іван, Кароткі Іван),* адносныя прыметнікі ўказваюць на месца жыхарства чалавека (*Паліна Астрынская, Тоцька Запольская, Гандзя Верцялішская, Сонька Табольска, Канцавы Казік*), адлюстроўваюць адносіны па крэўнай роднасці і па шлюбе (*Алёша Мікалуеў, Ядзя Віцюкавая, Люба Фядосіна*). Уласныя назоўнікі – пераважна гутарковыя формы імёнаў. Фармальна адпавядаюць названай мадэлі і мянушкі тыпу: *Белая Грыва, Бяздонна Бочка, Дзеравянныя Вушы, Жоўты Зуб, Кулацкі Сын, Пікавая Дама* і інш., аднак у працэсе намінацыі семантычнае значэнне асобных кампанентаў сціраецца, іх можна ўспрымаць толькі як семантычна цэлае. У якасці лексічнай базы для мянушак нярэдка могуць выступаць састаўныя і складаныя паводле структуры лічэбнікі, прыслоўі, гукапераймальныя словы, колькасна-іменныя словазлучэнні (*Трыццаць тры, Тутака-тамака, Гаў-Гаў, Сто адзін талант* і інш.).

Адзначаны мянушкі, што пераймаюць афіцыйнае іменаванне, складаюцца з «імя і імя па бацьку»: *Мангал Цюльпаныч, Бадзяк Асотавіч, Кандыбай Кандыбаявіч.*

Састаўныя мянушкі часам адпавядаюць мадэлі 'назоўнік+назоўнік у пэўнай склонавай форме з прыназоўнікам'. Пашырана мадэль 'назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у Р. скл.': *Алёша з калакольні, Бронця з Мураванаў, Вера з Амшарова, Гэля з Сухініч, Тадзік з перакростка, Тэньця з Верцялішак*, зафіксаваны мянушкі, утвораныя паводле мадэлі 'назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у Т. (М.) скл.': *Барыс з веласіпедам, Лёша з батонамі, Чорт на батарэйках, Нітка з іголачкай.*

Састаўныя найменні могуць указваць на пэўныя якасці носьбіта мянушкі, што набліжаюць яго да знакамітай асобы, кінагероя, персанажа кнігі, мультыплікацыйнага фільма, чыё імя выкарыстоўваецца для намінацыі: *Антонего Бандэрас, Ілля Мурамец, Пётр Першы, Пчолка Мая,*

[1] У артыкуле захоўваецца аўтарскае напісанне некаторых мянушак.

*Віні Пух.* Аднак і ў фармальным абліччы такіх мянушак праяўляюцца мясцовыя адметнасці іменавання, напрыклад, замест *Антоніо* бачым каталіцкую форму імя – *Антонего,* пашыраную на Гродзеншчыне.

Па агульнасці, сугучнасці імёнаў людзей і вядомых, часта чутых рэкламных фраз, назваў тавараў утвараюцца мянушкі тыпу *Галіна Бланка, Каўбоі Хагіс.* Магчыма, ад назвы музычнага гурта паходзіць мянушка *Дзядзя Ваня.*

Актыўна выкарыстоўваюцца на Гродзеншчыне ў якасці мянушак выразы і спалучэнні слоў, што адлюстроўваюць асаблівасці маўлення людзей: *Граматны ў сваіх адносінах, Еслі тока, Так, як я сказала, Тутака-тамака.* Паводле сугучнасці з імем, прозвішчам вядомай асобы найменне можа ўскладняцца ім: *Блін-Клінтан.* Зафіксаваны мянушкі, што развіліся на аснове гукапераймальных слоў: *Гаў-гаў.*

Нярэдка мянушка адносіцца да двух чалавек, якія складаюць адно цэлае ў пэўных адносінах, асобна адзін кампанент ужываецца рэдка, абедзве структурныя часткі наймення звязаны злучнікам *і*: *Лёлік і Болік, Чук і Гек.* Звычайна гэта імёны вядомых усім літаратурных герояў, дзеючых асоб мультыплікацыйных фільмаў, якія выклікаюць уяўленне пра два чалавекі.

Ніжэй падаюцца складаныя і састаўныя мянушкі, зафіксаваныя на Гродзеншчыне.

**АЛЁША З КАЛАКÓЛЬНІ**. Мянушка нязграбнага пажылога мужчыны. *Наш Алёша с Калакóльні за што ні вóзьмяцца, усё зламáя.* Пеляса Воран.

**АЛЁША МІКАЛУ́ЕЎ**. Мянушка мужчыны паводле імя бацькі (гутарковай формы Мікалуй). *Алёша Мікалу́еў з мáці жылí ў такóй хáццы, што ў ёй зімóй праш шчы́ліны сьнéгу намятáла.* Шынкаўцы Шчуч.

**А́НКА-КУЛЯМЁТЧЫЦА** *ж.* Мянушка дзяўчыны, якая хутка размаўляе. *А́нка-кулямёччыца так ху́тка размаўля́я, што лéдва паня́ць, што янá кáжа.* Свіслач.

**АНТОНÉГО БАНДЭ́РАС**. Мянушка мужчыны, дадзеная паводле яго імя Антон. *Знáчыць так, называ́юць мінé па-рáзнаму, але ж больш мне нрáвіцца, калі клíчуць Антонéго Бандэ́рас.* Азёры Гродз.

**АНТÓН-ЦІЛІФÓН** *м.* Мянушка хлопца, якому ў вёсцы першаму падключылі тэлефон. *Гэ́та во да Антóна-ціліфóна падыдзéця, ён вам усё параскáзвая.* Губінка Гродз.

**БА́БА-ГРОМ**. Мянушка дужай, поўнай і рослай жанчыны. *Мушчы́ны з нáшай вёскі і ты́я баяцца падысьці да Бáбы-гром.* Ігнатава Навагр.

**БА́БА-МУР**. Мянушка здаровай, працавітай жанчыны. *А ў нас каня́ трымáя тóлькі Бáба-мур. Як трэ́бо, янá вам самá і гарóт пасáдзіць.* Лакно Гродз.

**БА́БА-ТА́ЗІК**. Мянушка жанчыны, якая ў калгасную лазню ходзіць са сваім тазікам. *Бáба-тáзік не лю́біць мы́цца пасьля́ кагó-нéбуць.* Луцкаўляны Гродз.

**БА́БА-ЯГА́** *ж.* Мянушка старой жанчыны з вялікім носам. *Бáба-Ягá жывé за гарадáмі. Мóжна сьцéжачкай прайсьці.* Лакно Гродз.; Цэнтральная Іўеў. *Мы ў акнó да Бáбы-ягí заглянýлі і давáй уцякáць.* Навасёлкі Шчуч.

**БАДЗЯ́К АСÓТАВІЧ**. Мянушка мужчыны. *Бадзя́к Асóтавіч асóт называ́ў бадзякóм, бо так у іх вёсцы гавары́лі.* Гродна.

**БАРЫ́С З ВЕЛАСІПÉДАМ**. Мянушка мужчыны, які заўсёды ездзіць на веласіпедзе. *У Бары́са зь веласіпéдам сёньня выханны́.* Наваельня Дзятл.

**БÉЛАЯ ГРЫ́ВА**. Мянушка хлопчыка з прозвішчам Белагрывы. *Бéлая Гры́ва ў амбáр на лéта ўстрóіўса. Яку́ю капéйку зарóбіць сабé.* Пескаўцы Лід.

**БЛІН-КЛІ́НТАН** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле асаблівасцей яго маўлення (часта ўжывае ў гаворцы слова «блін»). *А вун Блін-Клíнтан ідзé, свáрыцца с пачтáркай, што не андалá яму́ ўчóра пéньсії, бо той ягó жóнка прыказáла ні давáці.* Путрышкі Гродз.

**БÓЖЫ АДУВА́НЧЫК**. Мянушка спакойнага, ціхага мужчыны (так яго называлі ў старасці). *Бóжы Адувáнчык нікóму слóва кéпскага ні сказа́ў.* Губінка Гродз.

**БРÓНЦЯ З МУРАВА́НАЎ**. Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імя Браніслава. *Брóнця з Муравáнаў мéла двох сынóў, аля ні з аннагó тóлку німá.* Верцялішкі Гродз.

**БЯЗДÓННА БÓЧКА**. Мянушка жанчыны, якая многа гаворыць. *Гэ́та Бяздóнна бóчка ўжо сядзіць у гóрлі, ні магу́ больш слу́хаць.* Грушаўка Маст.

**ВА́СЬКА НЯСМÉЛЫ**. Мянушка сціплага мужчыны, ад якога зацяжарыла дзяўчына і з якой ён вымушаны быў ажаніцца. *Вáська Нясьмéлы Зóську кахáў, а ажаніўса з Мары́ськай.* Зайкаўшчына Бераст.

**ВА́СЬКА-ТРУБА́Ч**. Мянушка мужчыны, які грае на трубе. *Вáська-трубáч грáе лéпяй за ўсіх.* Свіслач.

**ВА́ТАВА-Э́ТАВА**. Мянушка мужчыны, які ў сваім маўленні часта выкарыстоўваў выраз 'ватава-этава'. *Вáтава-э́тава быў стары́ халасьця́к, а пóтым маладу́ю жóнку ўзяў. А як пра сваю жанíдзьбу раскáзваў, мо разóў двáццаць паўтары́ў: «Вáтава-э́тава».* Гродна.

**ВÉРА З АМШАРÓВА**. Мянушка жанчыны. *Нéкалі мáці яé нарадзíла ў лéсі. Гэ́дак і пашлó: «Вéра з Амшарóва».* Рэцямля Навагр.

**ВІ́НІ ПУХ**. Мянушка поўнага хлопца. *Віні Пух сядзíць на лáўцы і тóлькі пыхціць. І тóя яму́ падáй, і гэ́та паднясí.* Навагрудак.

**ГА́НДЗЯ ВЕРЦЯЛІ́ШСКАЯ**. Мянушка жанчыны, якая злоўжывае гарэлкай. *Гáндзя Верцялíская піць п'е, але чужóга нíгды ў ру́кі ні вóзьмя.* Верцялішкі Гродз.

**ГА́РЫ ПО́ТЭР**. Мянушка жанчыны, дадзеная паводле знешняга падабенства з вядомым героем кнігі. *О, глядзі, глядзі, Га́ры По́тэр ідзе́!* Гродна.

**ГАЛІ́НА БЛА́НКА**. Мянушка жанчыны з імем Галіна, хударлявай, неахайнай. *Галі́на Бла́нка папе́рла ў абе́дзьвюх рука́х то́рбу з бутэ́лькамі.* Дзятлава.

**ГАЎ-ГАЎ**. Мянушка злога мужчыны. *Гаў-Гаў заўсёды хо́дзіць адно́й даро́гай на пра́цу.* Жытомля Гродз.

**ГРА́МАТНЫ Ў СВАІ́Х АДНО́СІНАХ**. Мянушка мужчыны, які ў сваім маўленні часта паўтарае: «Граматны ў сваіх адносінах». *Гра́матны ў сваі́х адно́сінах зноў сва́рыцца на сваю́ жо́нку.* Вензавец Дзятл.

**ГЭ́ЛЯ З СУХІ́НІЧ**. Мянушка жанчыны паводле імя Алена. *Гэ́ля с Сухі́ніч прыва́блівая жанчы́на.* Дубна Маст.

**ДЗЕ́ДА ПЕ́ТРА**. Мянушка жанчыны, мужа якой завуць Пётр. *Дзе́да Пе́тра такі́ ж го́лас до́бры мая́.* Путрышкі Гродз.

**ДЗЕРАВЯ́ННЫЯ ВУ́ШЫ**. Мянушка мужчыны, які недачувае і карыстаецца спецыяльным слыхавым апаратам. *Дзеравя́нныя Ву́шы што нідачу́я, дык вы́думая.* Верцялішкі Гродз.

**ДЗЯ́ДЗЯ ВА́НЯ**. Мянушка хлопца паводле імя Іван. *Дзя́дзя Ва́ня ні лю́біць шу́мныя кампа́ніі, лепш адзі́н пасядзі́ць.* Капцёўка Гродз.

**ДО́БРЫ ЖУК**. Мянушка маладога добразычлівага хлопца з прозвішчам Жук. *До́бры Жук чаму́сь сё́ньня злы.* Лозкі Дзятл.

**ДО́ЎГІ ІВА́Н**. Мянушка высокага мужчыны. *У нас у Казьміро́ўцы есьць Іва́н До́ўгі і Іва́н Каро́ткі, бо адзі́н высо́кі, а другі́ малы́.* Казіміраўка Гродз.

**ДО́ШКА-САРАКО́ЎКА**. Мянушка хударлявай дзяўчыны. *До́шка-сарако́ўка так і ні вы́шла за́муш.* Геранёны Іўеў.

**Е́СЛІ ТО́КА**. Мянушка строгага мужчыны, які меў звычку гаварыць: «Еслі тока». *Е́сьлі то́ка дзісь цэ́лы дзень ні выхо́дзіў с ха́ты.* Жытомля Гродз.

**ЕЎРО́ПА-ЛІ́БЕРА**. Мянушка жанчыны, якая паклёпнічае на людзей. *«Жа́лаба вам абяспе́чана!» – ляпнуўшы дзвяры́ма, зараўла́ Зі́нка Еўро́па-Лі́бера.* Дзятлава.

**ЖО́ЎТЫ ЗУБ**. Мянушка мужчыны з жоўтымі зубамі. *Жо́ўты Зуп, напэ́ўна, сваé зу́бы ні чы́сьціць.* Жыдомля Гродз.

**ЗАЛАТА́Я ЗЭ́МБІХА**. Мянушка жанчыны, якая за грошы сватала хлопцаў да дзяўчат і дзяўчат да хлопцаў. *Залата́я Зэ́мбіха зноў каго́сьці да Лё́дзі павяла́.* Азёры Гродз.

**ЗАЛАТЫ́ ЗУБ**. Мянушка мужчыны, які мае залаты зуб. *Залаты́ Зуб да сваяко́ў паеха́ў, у Гро́нна.* Азёры Гродз., Ражанка Шчуч.

**ЗЛО́ТА Я́НКА**. Мянушка жанчыны, якая прывозіла аднекуль золата на продаж. *Зло́та Я́нка ха́ту вялі́кую ацстро́іла.* Сапоцкін Гродз.

**ЗМЯІ́НЫ ЯД**. Мянушка жанчыны, якая робіць усім шкоду. *Бая́цца на́шы ба́бы Зьмяі́нага Я́ду. Яна́ як гля́ня, ноч спаць ні бу́дзяш.* Райца Карэл.

**ЗО́РКІ СО́КАЛ**. Мянушка мужчыны, які ўсё ведае ў вёсцы. *Калі́ хо́чаш чаго́ даве́дацца, ідзі́ да Зо́ркага Со́кала.* Погіры Дзятл.

**ЗУБНА́Я ФЕ́Я**. Мянушка жанчыны, якая працавала стаматолагам. *Зубна́я Фе́я паўгаро́ччыка кве́ткамі засе́яла. Нашто́, ка́жа, с памі́до́рамі дуры́цца.* Індура Гродз.

**ІЛЛЯ́ МУ́РАМЕЦ**. Мянушка дужага гультаяватага хлопца. *Ілля́ Му́рамец я́ўна не́дзе зноў сі́лай ме́раўса. Пад во́кам до́брага сіня́ка́ мая́.* Гродна.

**КА́ЗЁ-ДЗІДЖЭ́Й**. Мянушка мужчыны. *Ка́зё-дзіджэ́й ра́ніцай у касьцё́ле на арга́нах граць бу́дзе.* Сапоцкін Гродз.

**КАНДЫБА́Й КАНДЫБА́ЯВІЧ**. Мянушка кульгавага старога дзеда. *Дзе трэ́бо, там Кандыба́й Кандыба́явіч пе́ршы даляці́ць.* Сколабава Гродз.

**КАНЦАВЫ́ КА́ЗІК**. Мянушка мужчыны, які жыве на канцы вёскі. *Ка́зік Канцавы́ ўзо́ўтра каро́вы пасе́.* Індура Гродз.

**КАНЦАВЫ́ СІ́ДАР**. Мянушка чалавека, які жыве на канцы вёскі. *Канцавы́ Сі́дар не́калі на фе́рмі рабі́ў, с ха́тай по́бач.* Грабава Зэльв.

**КАРО́ТКІ ІВА́Н**. Мянушка невысокага мужчыны. *Каро́ткі Іва́н да́ляй жыве́.* Казіміраўка Гродз.

**КНЯЗЬ ГАЛІ́ЦЫН**. Мянушка хлопца, дадзеная паводле яго паводзінаў, пыхлівай самаўлюбёнасці і гуллівага пачуцця пераўзыходства над іншымі людзьмі, таксама паводле гучнага прозвішча Галіцын. *Князь Галі́цын, мо́жна зада́ць вам пыта́ньне?* Гродна.

**КО́КА БУ́ДЗЕКА**. Мянушка мужчыны, які гандлюе курынымі яйкамі. *Яек у Ко́ка Бу́дзека купі́.* Вулька Гродз.

**КО́ЛЯ ПЕК**. Мянушка мужчыны, які спаў толькі на печы. *Вот што казо́ў Ко́лька Пек пра сваю́ клі́чку: «Мі́не пыта́ліса, мол, дзе я сплю, раз ло́шка ні́ма́. А я атка́зваў, што на пяку́».* Путрышкі Гродз.

**КУЛА́ЦКІ СЫН**. Мянушка хлопца, які ўвесь дзень нешта робіць. *Але і працаві́ты гэ́ты Кула́цкі Сын.* Геранёны Іўеў.

**ЛАШАДЗІ́НЫ ДО́КТАР**. Мянушка ветэрынара. *Наш Лашадзі́ны До́ктар ле́чыць усю ска́ці́ну ў вё́сцы.* Погіры Дзятл.

**ЛЕ́ВА РУКА́**. Мянушка мужчыны, якому пасля аварыі ампутавалі руку. *Ле́ва Рука́ зусі́м ні працу́я.* Капцёўка Гродз.

**ЛЕ́ЙБА ГУЗАВА́ТАЯ**. Мянушка жанчыны, у якой на нагах гузы са скуламі. *Ле́йба Гузава́тая павязла́ сы́на ў го́рат. Не́дзе вучы́цца по́йдзе.* Путрышкі Гродз.

**ЛЁ́ЛІК І БО́ЛІК**. Мянушка братоў-блізнят. *Бу́льбу мне ў падва́л Лё́лік з Бо́лікам панасі́лі.* Капцёўка Гродз.

**ЛЁ́ША З БАТО́НАМІ**. Мянушка мужчыны. *Лё́ша з бато́намі лё́тнае вучы́лішча ско́нчыў.* Сачыўляны Дзятл.

**ЛЫ́СА-БО́СА ГАЛАВА́**. Мянушка лысага мужчыны. *Гэ́та Лы́са-бо́са галава́ ў нас аграно́мам ро́біць.* Зінякі Шчуч.

**ЛЮ́БА ФЯДО́СІНА**. Мянушка жанчыны, свякроўку якой звалі Фядосся. *Трэ́ба сказа́ць гэ́ту но́васьць Любе Фядо́сінай.* Палонка Свісл.

**ЛЯСНА́Я СМЕРЦЬ**. Мянушка жанчыны, дадзеная паводле яе звычкі хутка збіраць ягады і грыбы. *Ох і шво́рная ж ба́ба гэ́та Лясна́я Сьмерць.* Завадзічы Гродз.

**МА́НЬКА БЕ́ЛАЯ**. Мянушка жанчыны са светлымі валасамі. *Ма́нька Бе́лая, як варо́на, на ўсё бліску́чае нясе́цца.* Ляшчанка Шчуч.

**МА́НЬКА СА́МЕРЫХА**. Мянушка жанчыны паводле мянушкі мужа. *Ма́нька Са́мерыха, бо му́жа Са́мерам празыва́лі.* Стрыеўка Гродз.

**МА́ЦІ ТЭРЭ́ЗА**. Мянушка жанчыны, якая да ўсіх прыходзіць на дапамогу. *Пастарэ́ла на́ша Ма́ці Тэрэ́за, а не́калі лёталa як го́нча.* Белякі Дзятл.

**МАНГА́Л ЦЮЛЬПА́НЫЧ**. Мянушка мужчыны, які вырабляў з жалеза розныя рэчы. *Схадзі да Манга́л Цюльпа́ныча, ён табе́ і ро́зу мо́жа зрабі́ць, і цюльпа́н.* Гродна.

**МАРСКА́Я ЗО́РАЧКА**. Мянушка жанчыны, якая жыла раней паблізу Чорнага мора. *Марска́я Зо́рачка мая́ сусе́тка.* Казіміраўка Гродз.

**МІ́ША-МАСЫ́НА**. Мянушка мужчыны, які выразна не вымаўляў гук [ш]. *Мі́ша-масы́на ціпе́р у Мі́нску жыве́.* Гродна.

**МІС КАВАЛЁЎКІ**. Мянушка непрыгожай дзяўчыны. *Міс Кавалёўкі нія́к за́муж ні вы́йдзя.* Варняны Астр.

**МЭ́РЫ КЭЙ**. Мянушка жанчыны, якая займаецца распаўсюджваннем касметыкі. *Мэ́ры Кэй паеха́ла ў Мі́нск.* Гродна.

**НІ́ТКА З ІГО́ЛАЧКАЙ**. Мянушка двух хлопцаўсяброў, якія заўсёды хадзілі разам. *А куды́ прапа́лі на́шы Ні́тка з ыго́лачкай?* Гродна.

**НЯМЕ́ЦКА ТАРПЕ́ДА**. Мянушка мажнай жанчыны. *Ізно́ў увалі́ласа да міне́ гэ́та Няме́цка Тарпе́да. Спа́су ад яе́ німа́.* Бялавічы Маст.

**ПА́НІ МО́НІКА**. Мянушка жанчыны, знешне падобнай да гераіні «Кабачка 13 крэслаў» пані Монікі. *Па́ні Мо́ніка сібе́ высо́ка цэ́ніць, абы́ с кім ні сябру́я.* Рудзявічы Маст., Верцялішкі Гродз.

**ПАЛІ́НА АСТРЫ́НСКАЯ**. Мянушка неахайнай жанчыны. *Палі́на Астры́нская і валасэ́ ні рашчаса́ла.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПАН ПРАФЕ́САР**. Мянушка разумнага чалавека. *Пан Прафе́сар памо́жа сваі́м хло́пцам рашы́ць любу́ю зада́чу.* Ліда.

**ПАРВА́НЫ НОС**. Мянушка мужчыны, у якога была траўма носа. *Зімо́й яшчэ́ малы́м на́тта пабі́ўса сь кі́мсьці, нос пакале́чыў мо́цна. Так і клі́чуць ціпе́рака Парва́ны Нос.* Дзенькаўцы Маст.

**ПЁТР ПЕ́РШЫ**. Мянушка высокага, статнага, з цёмнымі валасамі мужчыны. *Усе́ ба́бы за Пятро́м Пе́ршым лёталі.* Варняны Астр.

**ПІ́КАВАЯ ДА́МА**. Мянушка прыгожай немаладой жанчыны. *Пі́кавая Да́ма ізно́ў мужыка́ с ха́ты вы́гнала.* Васілевічы Гродз.

**ПІЎНА́Я ФЕ́Я**. Мянушка жанчыны, якая некалі гандлявала разліўным півам. *Піўна́я Фе́я працу́я за́раз не́дзе ў го́радзі.* Путрышкі Гродз.

**ПІЎНЫ́ БАРО́Н**. Мянушка мужчыны. *Піўны́ Баро́н ужэ́ ў стало́вай сядзі́ць.* Капцёўка Гродз.

**ПЧО́ЛКА МА́Я**. Мянушка працавітай жанчыны. *Пчо́лка Ма́я зра́нку на гаро́дзі.* Путрышкі Гродз.

**РУ́ТА-МЯ́ТА**. Мянушка дзяўчыны. *Пайду́ да Ру́ты-мя́ты, яна́ ў гаро́ччыку се́янку по́ля.* Заполле Маст.

**РЭ́НЯ ВАЦЮ́ШКАВАЯ**. Мянушка бабулі, дадзеная паводле імя мужа. *Рэ́ня Вацю́шкавая ў касьцёл адна́ хо́дзя, бо падру́га захварэ́ла.* Бабраўнікі Астр.

**САЛО́ДКАЯ ВА́ТА**. Мянушка жанчыны з пышнай прычоскай. *Сало́ткая Ва́та ў магазі́н ні вы́йдзя, по́куль страху́ на галаве́ ні паста́віць.* Індура Гродз.

**САЛО́ДКІ Я́НАК**. Мянушка мужчыны, які любіў частаваць дзяўчат цукеркамі. *Сало́ткі Я́нак малады́х дзяўча́т лю́біць, цуке́ркамі ўсі́х часту́я.* Казіміраўка Гродз.

**СА́ША-І́РА**. Мянушка мужчыны, дадзеная пасля змены полу. *Са́ша-І́ра працу́я за дваі́х.* Путрышкі Гродз.

**СВЯТЫ́ ЗЛО́ДЗЕЙ**. Мянушка набожнай жанчыны, якая часта крадзе. *Сьвяты́ Зло́дзей ра́ніцай мо́ліцца ў касьцёлі, а ве́чарам крадзе́.* Геранёны Іўеў.

**СКУРАНЫ́ ЧУ́ПА-ЧУПС**. Мянушка чалавека, які апранаецца ў скураное адзенне. *О, Скураны́ Чу́па-чупс пайшо́ў.* Масты Гродз.

**СМЕРЦЬ АНДА́ТРАМ**. Мянушка мужчыны, заўзятага рыбака і паляўнічага. *Сьмерць Анда́трам нагу́льгаўса так, што лы́ка ні вя́жа.* Жылічы Бераст.

**СНЕ́ЖНЫ ЧАЛАВЕ́К**. Мянушка неахайнага мужчыны. *Сьне́жны Чалаве́к мо́жа не́калькі дзён ні мы́цца і ні бры́цца.* Гродна.

**СО́НЬКА ТАБО́ЛЬСКА**. Мянушка распуснай жанчыны. *Со́нька Табо́льска хо́дзіць у каро́ткуй спаньні́цы і ў пі́йся́т гадо́ў.* Верцялішкі Гродз.

**СТО АДЗІ́Н ТАЛА́НТ**. Мянушка працавітага мужчыны, майстра на ўсе рукі. *А во, зноў вы́йшаў наш Сто адзі́н тала́нт, не́шта пайшо́ў выдумля́ць.* Жытомля Гродз.

**СУШЫ́ ЗУ́БЫ**. Мянушка хлопца, які заўсёды смяецца. *Сушы́ Зу́бы з усяго́ сьмяе́цца, як неразу́мны.* Наваельня Дзятл.

**ТАВА́РЫШЧ СТА́РШЫ СЯРЖА́НТ**. Мянушка пыхлівага хлопца. *Тава́рышч ста́ршы сяржа́нт, дазво́льце далажы́ць: зау́тра бу́дзя канцэ́рт. Не хо́чацца схадзі́ць?* Гродна.

**ТА́ДЗІК З ПЕРАКРО́СТКА**. Мянушка мужчыны, які жыве побач са скрыжаваннем дарог паблізу аўтавакзала. *Та́дзік сь перакро́стка стары́ стаў.* Гродна.

**ТА́ДЗЯ-БО́ДЗЯ**. Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імя і прозвішча (у скарочаным выглядзе). *Та́дзя-бо́дзя ў нас кавалём рабі́ў.* Гродна.

**ТАК, ЯК Я СКАЗА́ЛА**. Мянушка жанчыны, якая нярэдка ўжывае падчас размовы словы: «Так, як я сказала». *Так, як я сказа́ла хо́дзіць, як прафе́сарша, па вёсцы.* Васілевічы Гродз.

**ТО́ЦЬКА ЗАПО́ЛЬСКАЯ**. Мянушка жанчыны паводле імя Таццяна. *То́цька Запо́льская да Мастоў не́калі ўсё цыбу́лю вазіла про́даць. Цэ́лу зі́му про́дала.* Заполле Маст.

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ ТРЫ**. Мянушка мужчыны, які аднойчы няправільна палічыў кароў. *Тры́ццаць Тры зноў ніпра́вільна палі́чыць, лепш я сам.* Стрыеўка Гродз.

**ТРЫНДЫЧЫ́ХА Я́НА**. Мянушка жанчыны, якая шмат і хутка гаворыць. *Гэ́ту Трындычы́ху Я́ну немахчы́ма перагавары́ць.* Жытомля Гродз.

**ТУ́ТАКА-ТА́МАКА**. Мянушка хлопца, які звычайна ў гаворцы ўжывае словы тутака і тамака. *Ту́така-та́мака сёньня на рэ́цы быў.* Геранёны Іўеў.

**ТЭ́НЬЦЯ З ВЕРЦЯЛІ́ШАК**. Мянушка жанчыны паводле імя Таццяна. *У Тэ́ньці зь Верцялі́шак заўсягда́ на гаро́дзі па́рапкі ро́бяць.* Верцялішкі Гродз.

**ХАЯ́Н-БАЯ́Н** *м.* Мянушка маладога хлопца па прозвішчы Хаян, які умее іграць на баяне. *Чува́ць, што Хая́н-working ба́ян на ву́ліцу вы́йшаў.* Гродна.

**ХІМ-ДЫМ** *м.* Мянушка мужчыны, які вельмі многа курыць. *Хім-дым зноў пайшоў па сыгарэ́ты ў магазі́н.* Стрыеўка Гродз.

**ХМУ́РАЯ У́ТРА**. Мянушка мужчыны, прозвішча якога Хмурчык. *Зноў гэ́та Хму́рая У́тра мне надаяда́я.* Свіслач.

**ЧАЛАВЕ́К-АРКЕ́СТР** *м.* Мянушка мужчыны, які іграе і спявае на ўсіх святах у горадзе. *Сёньня цэ́лы ве́чар бу́дзя сьпява́ць Чалаве́к-арке́стр.* Свіслач.

**ЧАПЛІ́НСКАЙ СЫНО́К**. Мянушка юнака паводле мянушкі хрышчонай маці Чаплінскай. *Ча́плінскай Сыно́к пайшоў да́ляй вучы́цца.* Путрышкі Гродз.

**ЧО́РНА ГАЛАВА́**. Мянушка хлопца, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Ба́цька Чо́рнай Галавы́ таксáма меў чо́рныя валасы́ ў маладо́сьці, ціпе́р пасівеў.* Багушы, Шынкаўцы Шчуч.

**ЧО́РНА ЛЁДЗЯ**. Мянушка жанчыны, якая заўсёды нешта не дагаворвае. *Чо́рну Лёдзю ле́пяй ні пыта́цца, та́я ве́чна цямні́ць.* Малая Рагозніца Маст.

**ЧО́РТАЎ БА́ЦЬКА**. Мянушка мужчыны. *Чо́ртаў Ба́цька жані́ўса і адзін у царкве́ вянча́ўса.* Капцёўка Гродз.

**ЧОРТ НА БАТАРЭ́ЙКАХ**. Мянушка жвавага мужчыны. *Чорт на батарэ́йках – такі́ вясёлы чалае́к.* Гродна.

**ЧУК І ГЕК**. Мянушкі двух мужчын, якія заўсёды разам п'юць. *Ра́зам п'юць пат кра́май Чук і Гек.* Ласосна Гродз.

**ЧУ́ПА-ЧУПС**. Мянушка круглагаловага хлопца. *Пазаві Чу́па-чупса, зь яго́ бо́ляй то́лку.* Кляўіца Ашм., Гродна.

**ЧЫ́КІ-БРЫ́КІ**. Мянушка неразумнай жанчыны. *Чы́кі-бры́кі жыве́ ніда лёка ка́ля шко́лы.* Луцкаўляны Гродз.

**ШЛЁП-НАГА́**. Мянушка жанчыны, якая кульгае на адну нагу. *Да Шлёп-нагі́ раніцо́й дзе́ці прые́халі.* Алішкаўцы Шчуч.

**ШУ́ХЕР-МА́ХЕР**. Мянушка жанчыны, якая працуе парыкмахерам. *Шу́хер-ма́хер то́лька ў сераду́ працу́я, але во́чарадзь зноў.* Капцёўка Гродз.

**Э́ЛАЧКА-ЛЮДАЕ́ДАЧКА**. Мянушка дзяўчыны, якая мае абмежаваны лексічны запас. *Хо́чаш аччу́ць сібе́ разу́мным – паразмаўля́й з Э́лачкай-Людае́дачкай.* Путрышкі Гродз.

**ЮРО́К-ЗАЛАТЫ́ ЗУБО́К**. Мянушка хлопца з залатым зубам. *За́ўтра Юро́к-Залаты́ зубо́к у Гро́нна паедзя.* В. Бераставіца.

**Я́ДЗЯ ВІ́ЦЮКАВАЯ**. Мянушка старой жанчыны паводле імя мужа (гутарковай формы Віцюк). *Я́дзя Віцю́кавая са́мы до́бры чалаве́к у вёсцы.* Бабраўнікі Астр.

**Я́СНЫ ПАН**. Мянушка мужчыны. *Я́сны Пан на ла́ўцы каля сусе́да сядзі́ць.* Новікі Гродз.

*Т. М. Трухан*

## МЯНУШКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

Вёска Замошша знаходзіцца ва Урэцкім сельсавеце Любанскага раёна. У другой палове XX ст. гэта была шматлюдная вёска, яна мела больш за 180 двароў. У 70-я гады мінулага стагоддзя тут знаходзіліся школа-васьмігодка, магазін, клуб, фельчарска-акушэрскі пункт, некалькі жывёлагадоўчых ферм. Усё неабходнае для чалавека таксама рабілася ў гэтай вёсцы здатнымі і працавітымі майстрамі – кавалямі, шаўцамі, ткачыхамі, краўцамі, сталярамі, мулярамі. Усе аднавяскоўцы добра ведалі адзін аднаго, памяталі бацькоў і дзядоў, былі ў блізкім ці далёкім сваяцтве. У той час вёска жыла сваімі звычаямі, традыцыямі, сваімі кепікамі, нязлоснымі кпінамі, а ў кожнага яе жыхара была свая мянушка, якая пераходзіла з пакалення ў пакаленне. У святочны дзень ніхто не працаваў, людзі выходзілі на вуліцу, садзіліся на лаўкі, а лаўка была зроблена каля кожнага двара, смяяліся, жартавалі, расказвалі розныя байкі, узгадвалі шмат прыгод са свайго жыцця і вельмі прыгожа спявалі. Надвячоркам спевамі напаўнялася ўсё наваколле. На вялікі жаль, аднавіць традыцыйны вясковы дух ужо немагчыма. З цягам часу ў вёсцы пачалі адбывацца значныя змены. Моладзь выехала ў гарады Салігорск, Слуцк, Любань, Мінск. Зараз на бацькаўшчыне засталіся жыхары пераважна пенсійнага ўзросту.

Прапанаваныя запісы зроблены ад карэннага жыхара вёскі Трухана Аляксея Рыгоравіча, 1936 г. н. Ён выдатны знаўца мясцовых звычаяў і традыцый, добра памятае мянушкі, якімі называлі людзей яшчэ пры жыцці яго бацькі. Усе запісаныя найменні можна падзяліць на некалькі груп: 1) мянушкі, утвораныя ад прозвішча; 2) мянушкі, утвораныя ад імя чалавека; 3) мянушкі, утвораныя ад імя мужа; 4) мянушкі, звязаныя з ростам чалавека; 5) мянушкі, якія характарызуюць целасклад чалавека. Шмат зафіксавана таксама мянушак, паходжанне і семантыку якіх вызначыць цяжка.

**АДА́РКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Дар'я. *Ада́рка з мужыко́м усе́ ў Паго́ст пяшко́м хадзілі.*

**АКСЕ́НЬКА** *ж.* Мянушка жанчыны невысокага росту, дадзеная паводле імені Ксенія. *У Аксе́нькі харо́шы мужы́к быў, а дзяце́й ні было́.*

**АЛЬХО́ВІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча гаспадара Альховік. *Альхо́вікава Та́ня ішчэ́ і цяпе́р жыве́, ёй мо дзевяно́сто гадо́ў.*

**АМЕ́ЛЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ціхо́н і Пілі́п Аме́лькавых, на іх каза́лі Бабры́.*

**АНДРЭ́ЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Андрэй. *Га́на Андрэ́вых часто́ ў бальні́цы ляжа́ла ў Мі́нску, прые́дзе – глядзі́, тро́хі лепш ёй.*

**АНІ́СЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Анісім. *Ні́на Ані́ськавых спра́ўна ста́ла, у калхо́зе ве́льмо ні рабі́ла, то ў канто́ры, то на кана́ве.*

**АНО́ПРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Дзе Маркату́р жыве́, Хвядо́ра Ано́правых жыла́.*

**АНТО́СІК** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені Антон.

**АНТО́СЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Антон. *Анто́сявых Але́ны ма́ці жыла́. І дзед Анто́сявых на гаро́д ішчэ́ жыў з ба́баю.*

**А́НЬЦІК** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені Антон. *А́ньцік палуча́е до́бру пе́ньсію, дачка́ яго́ глядзі́ць, ко́жны ты́дзень прыяжджа́е з мужыко́м.*

**А́НЬЦІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Аньцік. *А́ньцікавые дзяўкі́ ў Мі́ску жыву́ць, хло́пец тут жыў, а по́тым ж жо́нкаю вы́ехаў.*

**А́НЬЦІХА** *ж.* Жонка Аньціка.

**АРСЕ́НЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Арсеній. *Дзед Арсе́нь у Кале́цкавых дзяце́й за дзе́да быў, а яго́ жо́нка – за ба́бу. Вясё́лы дзет, ш шу́ткамі.*

**БАЛА́БАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Бала́бавых Іва́н ця́жко бале́ў, харо́шы быў мушчы́на.*

**БАРО́ВЕЦ** *м.* Мянушка мужчыны. *Баро́вец Андрэ́й старшыно́ю быў по́сьле вайны́, пам'ё́р ішчэ́ малады́м.*

**БАРО́ЎЦАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Баровец. *Баро́ўцавых дзяўкі́ до́брэ за́муш павыхо́дзілі.*

**БАРСУКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Барсук. *Іва́н Барсу́к заста́ўса ў дзярэ́ўні, а Ма́р'ю забра́ла На́дзя к сабе́, там яна́ і паме́рла.*

**БАРЫ́СІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені бацькі Барыс. *Бары́сікавые даўно́ паме́рлі: і дзя́цько, і цё́тка Со́ня.*

**БІ́РКА** *ж.* Мянушка прыгожай ганарлівай жанчыны. *Бі́рка са сваі́мі дзе́цьмі даўно́ вы́яхала пад Мі́нск.*

**БІРЫ́Ч** *м.* Мянушка мужчыны.

**БО́БЕР** *м.* Мянушка паўнаватага мужчыны.

**БО́БКА** *м.* Мянушка мужчыны. *Бо́бка гультаява́ты быў, на рабо́ту ні ве́льмо хаце́ў хадзі́ць.*

**БО́БКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Бобка. *Бо́бкавых дзе́ўка ро́біць у Лю́бані ў мага́зіне, дзе мацяр'я́л про́даюць.*

**БО́БРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Бобер. *Бо́браву ха́ту да́чнікі купі́лі с Салігo̗рска, і дачка́ туды́ прыяжджа́е.*

**БО́БРЫХА** *ж.* Мянушка жанчыны. *Бо́брыха Ка́ця ве́льмі бале́ла, ляжа́ла мно́го гадо́ў.*

**БРЫГАДЗІ́РАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, бацька якіх працаваў брыгадзірам.

**БРЫГАДЗІ́РЫХА** *ж.* Жонка брыгадзіра.

**БУ́ЗІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ян Бу́зікавых і Аўдо́ця Бу́зікавых.*

**БУ́НЬКА** *м.* Мянушка мужчыны. *Бу́нька рабі́ў у шко́ле, матэма́тыку выклада́ў, ву́чні яго́ баялі́са.*

**БУЯ́К, БУЯЧО́К** *м.* Мянушка нізкарослага каржакаватага мужчыны. *Васі́ль Буя́к (Буячо́к) часто выпіва́ў, Буячы́шка яго́ на са́ньках валакла́ зімо́ю. Быў такі́ мале́нькі, нівысо́кі.*

**БУЯКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *У Буячко́вых цяпе́р зімо́ю ніхто́ ні жыве́.*

**БУЯЧЫ́ХА, БУЯЧЫ́ШКА** *ж.* Жонка Буячка. *Буячы́шка ко́жну зі́му к да́цэ е́дзе, тут ні хо́чэ сядзе́ць.*

**БЫКО́ВЕЦ** *м.* Мянушка мужчыны, які родам з в. Быкова. *Быко́вец жыў у канцы́ сяла́, а дзе ён цяпе́р – ніхто́ ні ве́дае.*

**ВАДАЛЕ́Й** *м.* Мянушка мужчыны. *Вадале́й – Але́нін ба́цько, а Марка́ч прышо́ў у пры́мы.*

**ВА́РКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Варвара.

**ВАЯНРУ́К** *м.* Мянушка мужчыны, які выкладаў у школе фізкультуру.

**ВАЕНРУКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Ваянрук. *Ваенруко́вые дзяўкі́ прыяжджа́юць то́лькі на Ра́дуніцу на клады́.*

**ВАСІЛЁ́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Васіль.

**ВЕРАБЕ́Й** *ж.* Мянушка нізкарослай і вяртлявай жанчыны. *Верабе́й до́брэ за́муж вы́шла. Жылі́ ў Пры-*

*бáлтыцэ, а цяпéр у бацькóўскай хáце. Зрабілі хáту, як ляльку.*

**ВÓЛЬКА** *ж.* Мянушка жанчыны невысокага росту, дадзеная паводле імені Вольга. *Вóлька вéльмі дóбра жанчы́на, як пры́дуць да яé ў гóсьці – усé на стол вы́ставіць.*

**ВУ́ЛЬКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Ульяна. *Ву́лька цяпéр з Áньцікам дру́жыць. У яго́ есь конь, ся́дуць удваíх – і паéхалі па дрóва.*

**ВУ́СЬЦІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені бабы Усціння. *Ву́сьцікавые дзяўкí і цяпéр прыяжджáюць, нéшто там сéюць за хáтаю.*

**ГÁНЬКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Ганна. *Гáнька даўнó памéрла, цяпéр у яé хáце Ніна Адáрчына жывé.*

**ГАРАСІМÓЎКА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ГАРÁСЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Гарáськавых Нáдзька прыяжджáе чáсто с Салігóрска.*

**ГАРДЭ́БЛЯ** *м.* Мянушка высокага чалавека. *Гардэ́бля жаніўса на дзéўцэ з Застары́ня, распíўса, разышóўса, а цяпéр лятáе, як дурны́, па сялу́.*

**ГАРЭ́ЛЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**ГАЎРЫ́ЛАВЫ** *ж.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Гаўрыл. *У Гаўры́лавых Агáпы ні былó мужыкá, усé чужы́х мужыкóў прасíла памагчы́ што.*

**ГÉРМАНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Герман.

**ГЛУШÁК** *м.* Мянушка глухаватага мужчыны. *Глушáк нічóго дóбраго ні зрабíў людзя́м, а ішчэ́ задаéцца, штó-то мол я.*

**ҐÓҐАЛІХА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ҐÓНДАЛІХА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ГÓРСКІЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча бацькі Горскі.

**ҐÓХМАНАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *У Зíны Ґóхманывых вéльмі нóгі баля́ць, чáсто на лáўцэ сядзíць каля Гарáськавых.*

**ГРЫ́ШКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Грыша.

**ҐУ́РСЬКІЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ґу́рські Вíця цяпéр ні п'е, папрáвіўса, стаў спрáўны, усé па ву́ліцы хóдзіць с канцá ў канéц.*

**ГУСÁК** *м.* Мянушка пранырлівага мужчыны.

**ГУСАКÓВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Гусак. *Лю́ба Гусакóва ў Салігóрску ў дачкí дóўго жылá.*

**ГУ́ТА, ГУ́ТКА** *ж.* Мянушка жанчыны. *Гу́та гóлаў задзярэ́, да ўсе хахахá-хахахá.*

**ДАВЫ́ДАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Давыд. *Мáня Давы́давых высóка былá і тóнка.*

**ДАРАХВÉЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Дарафей.

**ДÁЦЕЛЬ** *м.* Мянушка мужчыны.

**ДЖУМÁН** *м.* Мянушка мужчыны.

**ДЖУМАНÍХА, ДЖУМАНÍШКА** *ж.* Жонка Джумана.

**ДЖУМАНÓВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Джуман. *Джуманóвых Вóля даўнó памéрла, а Аляксéй упáў з дзéрава – і тóжэ пам'ёр.*

**ДЖУМАНЫ́** *мн.* Мянушка цэлага роду.

**ДЗЮ́БА** *м.* Мянушка мужчыны з вострым доўгім носам. *Дзю́ба быў інвалíд, на каля́сцэ éзьдзіў, а яго́ жóнку звáлі Вáрка.*

**ДЗЯМÍДАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Дзямід. *А дáлей ужэ́ пашлі – Аляксéй Дзямíдавых, Васíль Дзямíдавых, Дзьмíцер Дзямíдавых.*

**ДЗЯМ'Я́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Дзям'ян. *Дзям'я́навые даўнó памéрлі, а дачкá – п'я́ніца, і самá загíнула.*

**ДРЫ́НКА** *м.* Мянушка мужчыны. *Дры́нка рабíў на трáктары. Жыў тут, а пóтым пераéхаў ў Дарасíн, там кварцíру далí.*

**ДУ́ЦКІЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Лíда Ду́цка даўнó зáмуж пашлá, і вéльмо мужы́к харóшы ў яé.*

**ЖУ́КАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Жук. *Жу́кавых ужэ́ і хáты німá, разабрáлі пад Салігóрск на дáчу. Усé травóю зараслó і бярэ́зьнікам.*

**ÉСІПАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Восіп. *На éты бок жыў Сям'ён Éсіпавых, а ля іх ужэ́ жыў Вáнька Éсіпавых, а тут стая́ў Сáва Макарóвых. Тут тры адзíн на аднóм сядзéлі.*

**ЗАЙЦÓВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Заяц. *Кáцька Зайцóвых ужэ́ старáя, ёй шмат гадóў, шчэ і ні бáчыць, тóлькі вóбмацкам.*

**ЗАЙЧЫ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле прозвішча Заяц. *Гáна Зайчы́ха ў канцы́ сялá жылá ля Пажарнíцы, сáма крáйня хáта.*

**ІГНÁТАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Ігнат.

**КАЗÉЛЬЧЫК** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле прозвішча Казельчык. *У Казéльчыка жóнка памéрла, а ён узя́ў сабé бáбу з другóго сялá.*

**КАЗÉЛЬЧЫКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Казельчык. *Бацькí памéрлі, а Казéльчыкавых Івáн дóўго ішчэ́ прыяжджáў у сваю хáту.*

**КАЛАМÁШКА** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле знешняга выгляду. *Каламáшка – крывы́ гэ́ты к Хадóсі прыстáў.*

**КАЛÉЦКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Калéцкавых Агáпа былá сьляпáя, на аднó вóка ні бáчыла, прапарóла ў лéсе.*

**КАМЯЧКÓВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацька Камячок.

**КАМЯЧÓК** *м.* Мянушка мужчыны. *Камячóк даўнó пам'ёр, а Жэ́ня жывé с сынам.*

**КАМЯЧЫ́ХА** *ж.* Жонка Камячка. *Жэ́ня Камячы́ха чáсто к всаёй сястры́ хóдзіць, яны́ і на сабрáне прыхóдзяць.*

**КАНАВÓД** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле занятку. *Éсіп Канавóд кóней вадзíў.*

**КАНЁВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *А тут ужэ́ пашлі́ Канёвых: Але́на, Канёвых Ага́па і Канёвых Ко́ля – усе́ Канёвых. Канёвых дзя́цько брыгадзі́рам рабі́ў шмат гадо́ў, до́бры бы́ў брыгадзі́р, людзе́й ні абіжа́ў.*

**КАНДРА́ТАВА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені бацькі Кандрат. *Ма́ня Кандра́тава бяз мужыка́ радзі́ла трох дзяце́й: адну́ дзе́ўку і два хло́пцы. Усе́ дзе́ці харо́шые.*

**КАНДРА́ТАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Кандрат.

**КАРАЛЁВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Кароль. *Во́лька Каралёва ве́льмі до́бра і падзе́льчыва жанчы́на. У яе́ ўсягда́ го́сьці і стол ні прыбіра́ецца.*

**КАСТЫ́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**КА́ЦЬКА** *ж.* Мянушка жанчыны невысокага росту, дадзеная паводле імені Каця. *Ка́цька Матрыха́навых і цяпе́р жыве́ адна́ ў ха́це. Яна́ ніч́о́го ні ба́чыць, пад дзявяно́сто гадо́ў ужэ́.*

**КА́ЧКА** *ж.* Мянушка невысокай жанчыны, якая пры хадзьбе перавальвалася з аднаго боку на другі. *Ка́чка жыла́ адна́, по́тым паехала к сыну, там і паме́рла. Калхо́з даў машы́ну, і замо́сцы е́зьдзілі хава́ць яе́.*

**КАСТЫ́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Зо́ся Касты́навых была́ пе́рвая пратсяда́целям.*

**КІРЗА́ТЫ** *мн.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле кірпатага (кірзатага) носа гаспадара. *Ко́ля Кірза́ты ве́льмі здатны быў на шу́ткі. Ні аднаго́ чалаве́ка ні прапу́сьціць, калі стаі́ць на ву́ліцы. Любі́ў і пагамані́ць, і пасьмяя́цца.*

**КЛЯЗО́ВІЧАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча гаспадара Клязовіч.

**КРАЎЦО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі дзеда. *Мужы́к Ве́ры Краўцо́вых так усе́ атстро́іў: і ха́ту, і хлеў, і ўся́кіх прыбудо́вак нарабі́ў з бло́каў.*

**КРЫКУ́Н** *м.* Мянушка мужчыны, які ўвесь час крычаў.

**КУРБЫ́КАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча дзеда Курбыка.

**КУ́ЦАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**КУ́ЦІК** *м.* Мянушка мужчыны. *Ку́цік ча́сто хадзі́ў гуля́ць к Ко́лі Кале́цкавых.*

**КУ́ЦІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Куцік. *Ку́цік ужэ́ пам'ёр, а Ка́ця ішчэ́ крэ́пка ба́ба, ёй і гадо́ў по́уно.*

**ЛАХАІ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны. *Лахаі́ха жыла́ ў Ры́пчынай ха́це, а свая́ згарэ́ла.*

**ЛЁЧЧЫК** *м.* Мянушка высокага стройнага мужчыны. *На е́ты бок Лёччык Аляксе́й ужэ́ жыў.*

**ЛЁЧЧЫКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Лёччык. *У Лёччыкавых былі́ адны́е дзя́ўкі, усе́ і за́муж павыхо́дзілі бы́стро, адна́ за адно́й.*

**ЛІЗІ́НСКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені маці Ліза.

**ЛУЗА́К** *м.* Мянушка мужчыны.

**ЛУЦЭ́НКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Тут стая́ло тры ха́ты: жыў Бутке́віч, Я́каў Баро́вец і Ілья́ Луцэ́нкавых. Тры ха́ты згарэ́лі. Ілья́ Луцэ́нкавых паехаў у Арха́нгельск.*

**ЛЯВО́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ляво́навых – ву́лічная така́я клі́чка. У нас ні́якаго Ляво́на ні было́.*

**ЛЯ́ЦЯ** *м.* Мянушка мужчыны. *Ля́ця по́сьле цюрмы́ жыў адзі́н у сваёй ха́це.*

**МАҐАЛЁВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі гаспадара Маголь. *Паўлю́к не́йкі Маґо́ль жыў, дак яны́ Маґалі зва́ліса, Маґалёвых.*

**МАҐО́ЛЬ** *м.* Мянушка мужчыны.

**МАКАРО́ВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Макар. *Макаро́вые прада́лі сваю́ ха́ту, і там цяпе́р жыву́ць да́чнікі с Салі́го́рска.*

**МАЛА́НКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Малання. *Зва́ласа Мала́нка, а сказа́лі ўжэ як Мала́нья.*

**МАЛЮ́ЖЫЧАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Малюжыч. *Малю́жычавых Гры́ша п'я́ніцай ні быў, ніхто́ ніко́лі ні ба́чыў яго́ п'я́ным.*

**МАНГО́Л** *м.* Мянушка мужчыны, які прыехаў з Манголіі. *Манго́л віціна́рам рабі́ў на фе́рме.*

**МАНГО́ЛАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Мангол. *Манго́лавые дзя́ўкі краси́вые, за і́мі бе́галі хло́пцы.*

**МАНЕ́ТАВА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**МАНЬЧЫ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая гаварыла няпраўду. *Бары́сік купі́ў яе́ ха́ту, як пажані́ліса, а тут Маньчы́ха жыла́. Яна́ мані́ла ўсе, пагэ́тому яе́ празва́лі Маньчы́ха.*

**МА́РКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Тут жыў Хве́дар Ма́ркавых і Максі́м Ма́ркавых, яны́ вы́ехалі, а ба́цько пам'ёр.*

**МАРКА́Ч** *м.* Мянушка мужчыны. *У Маркача́ дурны́ хара́кцер быў, як нап'е́цца – дурно́му раўня́. Марка́ч жыў, вот дзе Іва́н Самсо́наў жыве́, на агаро́дзе.*

**МАРКАЧО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Маркач. *Маркачо́ў Вало́дзя і цяпе́р нідзе́ ні ро́біць, стаі́ць дня́мі на ву́ліцы, да́жэ й сьвет абрэ́залі.*

**МАРЦІ́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Але́ська была́ Марці́навых, а тагды́ Міро́н е́ту ха́тку купі́ў.*

**МАСЬЛЯЧЫ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны. *Масьлячы́ха, як жыла́, дак усе́ не́што прадава́ла, бо́льшасьці раса́ду.*

**МАТРЫХА́Н** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені Мітрафан.

**МАТРЫХА́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Мітрафан.

**МІ́НІЧАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Мініч.

**МІРО́НАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Мірон.

**МІРО́НІХА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені мужа Мірон.

**МЫ́ШКА** *ж.* Мянушка мужчыны невысокага росту. *Лáзіць, такí дастатны́, дак і Мы́шка празвáлі.*

**МЫ́ШКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Мышка.

**НАВУ́МАВЫХ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Навум.

**НÉМЕЦ** *м.* Мянушка мужчыны з дэфектам маўлення. *Нéмец тóлькі мармытáў і пáльцамі пакáзваў, лю́дзі панімáлі, што ён пакáзваў.*

**НÉМЦАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Немец.

**НІКАЛАÉНЬЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Нікалаеня.

**НЫ́ПШЫК** *м.* Мянушка мужчыны невысокага росту.

**ПАРÁСАЧКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Параска. *Парáсачка – Нáдзіна да Вóліна мáці.*

**ПАРЦІЗÁНКА** *ж.* Мянушка жанчыны, маці якой была ў партызанах. *Мáці былá ў парцізáнах і прышлá з дзíцям, дак яé празвáлі Парцізáнка.*

**ПАЦЫКÁЛЬНІКАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Пацыкайнік.

**ПАШТАЛЬЁНКА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая некалі разносіла пошту. *Вóля Паштальёнка дóўго насíла пóшту, да сáмай пéньсіі.*

**ПÁШКА** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені Павел. *Пáшка рабíў брыгадзíрам, задавáўса, гáткі ў ягó харáкцер быў.*

**ПÁШКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Павел.

**ПÉКАРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Пекар. *Пéкарышына Тóма рамóнт цяпéр рóбіць у хáце, лятае с Салігóрска ў Замóшэ.*

**ПÉКАРЫХА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле прозвішча Пекар.

**ПІЛÍПАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Піліп.

**ПÓЧКА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ПРЫМАКÓВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда, які прыйшоў у прымы. *Кóля Прымакóвых з мáцяраю жывé, ён інвалíд другóй грýпы, пéньсію палучáе па інвалíднасьці.*

**ПТУ́ШКА** *ж.* Мянушка высокай чарнявай жанчыны. *Янá ўжэ лятáла, як птýшка, дак і Гáну Птýшка празвáлі.*

**ПЯТРÓВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Пётр.

**РУДÁЯ** *ж.* Мянушка жанчыны з вяснушкамі на твары. *Мары́на Рудáя жылá, а пóтым вы́ехала к сы́ну.*

**РЫ́ЖА** *ж.* Мянушка жанчыны, у якой валасы рыжага колеру. *Ры́жа Алéна жылá каля Паштальёнкі, напрóціў Вýлькі.*

**РЫ́ПКА** *ж.* Мянушка жанчыны невысокага росту. *Ры́пчын брат с Амéрыкі прыéхаў памірáць. Казáў, што ў нас жыць ніплóхо.*

**РЭ́ЛІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у якіх заўсёды было вельмі брудна і ў хаце, і ў двары.

**САВÉТКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Савета. *Савéтка старáя, ёй дзевянóсто гадóў, цяпéр плямя́ніца забрáла ў Пагóст.*

**САМСÓНАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Самсон.

**САМУСЁВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені гаспадара Самусь.

**СІЗЁНАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**СІЗЁНЧЫК** *м.* Мянушка мужчыны.

**СІЗЁНЫ** *мн. зб.* Мянушкі людзей, якія жылі па другі бок ад магазіна.

**СІКÓРСКІЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**СІНÍЦКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**СÓЙКА, СÓЕЧКА** *ж.* Мянушка жанчыны невысокага росту.

**СÓНЬЧЫНЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені маці Соня.

**СÓТНІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Гáнька жылá, дак звáлі Сóтнікавых.*

**СТАХÁНАЎ** *м.* Мянушка мужчыны, які шмат працаваў.

**СТУ́ПА** *ж.* Мянушка тоўстай жанчыны, падобнай на ступу. *Кáця Стýпа на абóры рабíла, карóвы даíла.*

**СУК** *м.* Мянушка сутулага, высокага мужчыны. *Міша Сук даўнó пам'ёр, рабíў на машы́не, а пóтым нéшто занянáў.*

**СУ́КАВА** *ж.* Жонка Сука.

**СЫ́ШЧЫК** *м.* Мянушка мужчыны. *Як скáжэш Сы́шчык Валóдзя, то ўсе сялó знáе.*

**СЫ́ШЧЫКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Сышчык.

**СЫ́ШЧЫХА** *ж.* Жонка Сышчыка.

**СЬВÍДАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Тут Вульяна жылá, дак звáлі Сьвíдавых.*

**ТАГÍЛЬ** *м.* Мянушка каржакаватага, прыземістага мужчыны. *Алёшка Тагíль бóльшасьці на стрóйцэ рабíў, такí ціхі, спакóйны. Ён даўнó пам'ёр, а ягó жóнка тóлькі нідáўно, за вóсімсят гадóў ёй былó.*

**ТАТАРЫ́ЦКІЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Татарыцкі. *Іва́н Татары́цкі адзін раз жанíўса, а пóтым другі раз. У ягó дзьве дачкí, а астáўса адзін.*

**ТÓРБА** *ж.* Мянушка неакуратнай жанчыны, знешне падобнай на торбу. *Гáну Тóрбу дачкá к сабé забрáла, там янá і памéрла.*

**ТÓЎСТА** *ж.* Мянушка невысокай тоўстай жанчыны. *У Алéны Тóўстай сядзéў каля разéткі Валóдзя Прымакóвых. А былá вялíка гразá, гром як стýкнуў у яé хáту, хáта загарэ́ласа, і Валóдзю забíла тóкам.*

**ТÓЎСЬЦІК** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле прозвішча Тоўсцік.

**ТÓЎСЬЦІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча гаспадара Тоўсцік.

**ТУЗЭ́ЛЬКА** *ж.* Мянушка мужчыны.

**ТУПАРЫ́ЛІХА** *ж.* Жонка Тупарылы.

**ТУПАРЫ́ЛО** *м.* Мянушка мужчыны. *Тупары́ло лятáў па сьвéту, пóтым прыéхаў дадóму, жанíўса, тут і жыў.*

**ТУ́ТАЧКА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая часта гаварыла *тута-тута.*

**ТХОР** *м.* Мянушка ўнурыстага, прыземістага мужчыны.

**ТЭ́КЛІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені Тэкля. *А тут, дзе Бала́б жыве́, Тэ́клiных ба́ба жыла́.*

**УСО́ВІЧАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Усовіч. *Ха́та Усо́вічавых пусту́е, усе́ зарасло́, што зна́чыць – німа́ гаспадаро́ў. Тут Ка́ця жыла́, Зайчы́шына до́чка, а Усо́віч у пры́мы прыйшо́ў.*

**УСТЫ́НКА** *ж.* Мянушка жанчыны, дадзеная паводле імені Усціння.

**ХВЯДО́СІК** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені бацькі Фядот. *Хвядо́сік каза́ў, што бу́ду цягну́ць да ста гадо́ў, ажно́ не́як рапто́ўна пам'ёр.*

**ХВЯДО́СІКАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Фядот.

**ХЛУС** *м.* Мянушка мужчыны, які часта гаварыў няпраўду. *Хлус таку́ харо́шу дзе́ўку ўзяў з Дарасіна́.*

**ХО́ДЗІНЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Хо́дзіна Жэ́ня мо са́ма старэ́йша ў сяле́. Хо́дзіць ро́ўно, пра́мо, сама́ высо́ка.*

**ЧА́МЯНІХА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ЧАРНАГУ́ЗАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Чарнагуз.

**ЧАРТО́К** *м.* Мянушка мужчыны.

**ЧАРЦІ́ХА** *ж.* Дачка Чартка.

**ШАВЕ́ЛО** *м.* Мянушка мужчыны.

**ШАЛАХЦЕ́ІХА** *ж.* Мянушка жанчыны. *А там Шалахце́іха была́ ба́ба, Міро́нава сястра́ да Ла́зарава. Яна́ ко́зы дзяржа́ла, ха́тка ўпапяро́к стая́ла.*

**ШКУ́РНІК** *м.* Мянушка мужчыны.

**ШКУ́РНІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда Шкурнік.

**ШКУ́РНІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**ШУРУ́БІНАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**ШЫКУНО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Тут Ла́зар Шыкуно́вых жыў, яго́ так зва́лі.*

**ШЫ́ЛКІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Шылкін. *А да́лей пашлі́ Шы́лкіны: Васі́ль Шы́лкін, Іва́н Шы́лкін.*

**Ю́РКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Юрый. *Ю́ркавых Алёшка харо́шы быў гаспада́р, сто́лярам рабі́ў, у яго́ свой стано́к быў, да́жэ брыгадзі́р к яму́ абрашча́ўса, каб калёса падрамантава́ў.*

**ЯЖЭ́ЛЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Дзе Барсу́к жыў, тут ране́й ба́ба Яжэ́лявых жыла́.*

**ЯКІ́МАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Яўхім. *Які́мавых Ва́ля пчаляро́м ро́біць у Смо́льгаве, а Га́на ў Севасто́палі жыве́.*

**ЯКУ́ША, ЯКУ́ШКА** *м.* Мянушка мужчыны, дадзеная паводле імені Якаў. *Яку́шка ру́кі за сьпі́ну закладзе́ і маршыру́е па сялу́, ні́скі быў.*

**ЯКУ́ШЧЫНЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені бацькі Якаў.

**Я́НАВІЧАВЫЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і.

**ЯРМАКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Ермачэня. *Цяпе́р На́дзя Ярмако́ва ў Салігo´рску ў Тама́ры, саўсі́м сла́ба ста́ла.*

**ЯЎДАКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імені дзеда Еўдакім. *Яўдако́вых ўсе до́брэ жылі́, гарэ́лкі ні пі́лі, усе́ ве́рушчые.*

# АНАМАСТЫКА

*І. І. Бубновіч*

## ДЭНДРОНІМЫ КАПЦЁЎСКАГА СЕЛЬСКАГА САВЕТА ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

На тэрыторыі Капцёўскага сельскага савета Гродзенскага раёна знаходзіцца досыць вялікая колькасць лясоў, пералескаў, розных зараснікаў, а таксама садоў, якія належалі калгасу і розным гаспадарам. Іх назвы цікавыя тым, што адлюстроўваюць многія лексічныя, фанетычныя, марфалагічныя дыялектныя асаблівасці, захоўваюць прозвішчы, мянушкі, размоўныя формы імёнаў, уласцівыя дадзенай мясцовасці.

Усе назвы (дэндронімы) паводле паходжання можна падзяліць на адапелятыўныя, адайканімічныя, адантрапанімічныя і адмікратапанімічныя.

Адапелятыўныя дэндронімы найчасцей абумоўлены найменнямі парод дрэў, што пераважаюць у лесе: *Альшына* 'зараснікі альхі каля шашы' (Капцёўка), *Лозы* 'невялікі лес, кусты каля дарогі на г. Гродна' (Капцёўка), *Вязы 'месца з высокімі вязамі'* (Караневічы), *Асіннік* 'частка лесу каля Бычоўніка, дзе расце шмат асінаў' (Капцёўка), *Дубы* 'частка Талеўшчыны, дзе растуць дубы' (Капцёўка), *Ельнік* 'частка лесу каля Саломенскай дарогі, дзе растуць пераважна елкі' (Капцёўка), *Грушке* 'частка лесу каля лясной дарогі, што пралягае ад в. Капцёўка да в. Цвіклічы, дзе растуць дзікія грушы' (Капцёўка) і інш. Значна радзей на тэрыторыі Капцёўскага сельскага савета адзначаюцца дэндронімы, узнікненне якіх звязана з назвамі месцаў, што былі там раней, пакуль не вырас лес: *Выган* 'месца, зарослае кустамі, дзе параўнальна нядаўна выкапалі сажалку' (Караневічы), *Карчы* 'лес каля в. Караневічы насупраць в. Бычкі' (Караневічы).

Адайканімічныя назвы пераважна састаўныя па структуры, адпавядаюць мадэлі 'адносны прыметнік+назоўнік', прыметнік утвараецца ад назвы вёскі, у напрамку якой знаходзіцца геаграфічны аб'ект, а назоўнік – лес (ці від лесу, напрыклад, *хвайке*): *Каўпацкі лес* 'лес, што расце каля в. Каўпакі', *Сухменскі лес* 'лес, што цягнецца ад в. Караневічы да в. Сухмяні', *Гібулеўскі лес* 'лес каля в. Гібулічы (справа каля шашы на г. Гродна)', *Цвіклеўскія хвайке* 'хвойны лес каля в. Цвіклічы'. Зафіксаваны асобныя дэндронімы, што складаюцца з назоўніка, які абазначае від лесу, і прыназоўнікава-іменнай канструкцыі, што ўдакладняе месца размяшчэння аб'екта: *Хвойнік пад Палатковам* 'стары хвойны лес пад в. Палаткова'.

Адантрапанімічныя дэндронімы адлюстроўваюць прозвішчы, мянушкі, размоўныя формы імёнаў мясцовага насельніцтва: *Курловы* 'месца каля лесу і ўзлесак, дзе жылі людзі па прозвішчы Курловы' (Караневічы), *Далясава беразіна* 'невялікі бярозавы лес пад в. Пагараны за Саліноўшчынай' (Капцёўка), *Строкаў сад* 'стары сад на хутары, які належаў чалавеку па мянушцы Строк' (Капцёўка), *Фэлікаў сад* 'сад у цэнтры в. Капцёўка, які належаў чалавеку па імені Фэлік' (Капцёўка) і інш. Сярод адантрапанімічных дэндронімаў пераважаюць састаўныя найменні, простыя сустракаюцца вельмі рэдка.

Намі зафіксаваны асобныя прыклады адмікратапанімічных назваў: *Лес на Строкавых горах* 'лес, які расце каля Строкавага хутара', *Пры Авечай дарозе* 'лес каля Авечай дарогі недалёка ад калгаснай жывёлагадоўчай фермы'.

Па структуры разгледжаныя дэндронімы, як мы ўжо зазначалі, простыя і састаўныя, складаныя назвы нам не сустрэліся.

Сярод простых можна вылучыць назвы, што ўзніклі шляхам метафарычнага (*Калыска*) і метанімічнага (*Маяк, Фарты*) пераносу, і вытворныя найменні, якія ўтварыліся суфіксальным спосабам (*Ночаўшчына*, *Агулец*, *Свідзяўшчына*), нульсуфіксальным (*Пацяроб*), пераходам апелятываў у разрад уласных назваў (*Дубы, Лозы, Вязы*). Ёсць дэндронімы нявысветленага паходжання: *Чарзеля, Скільма, Гавіна, Пеўпі.*

Састаўныя найменні адпавядаюць мадэлям 'якасны прыметнік+назоўнік' (*Малады сад, Доўгая хваіна, Велькі лес*), 'адносны прыметнік+назоўнік' (*Сухменскі лес, Каўпацкі лес, Карчы Горніцкія, Грыўкоўскі лес, Ліпавая алея*), 'прыналежны прыметнік+назоўнік' (*Богдзяў хвайняк, Фэлікаў сад*).

Ёсць сярод дэндронімаў назвы-арыенціры: *За майстэрнямі* (*За масцярскімі*), *Каля возера, Пры Авечай дарозе* і інш.

Таксама адзначым, што для назваў лясоў характэрна варыянтнасць. Намі заўважаны фанетычныя варыянты: *Беразняк* (*Бярэзнік*) 'частка лесу на Строкавых горах, дзе растуць пераважна бярозы' (Капцёўка), *Вялікі лес* (*Велькі лес*) 'лес, які цягнецца ад в. Капцёўка да в. Грыўкі', *Пацяроб* 'невялікі лес справа каля шашы, якая ідзе з в. Капцёўка на в. Бычкі' (Капцёўка), *Пацярэб* 'лес, што знаходзіцца на паўночны захад ад в. Жукевічы' і інш.

Выяўлены выпадкі, калі адзін аб'ект мае некалькі назваў, якія выкарыстоўваюцца ў розных вёсках, напрыклад, *Салоўскі лес, Кашэўніцкі лес; Сухменскі лес, Караневіцкі лес*. Намі занатаваны дэндронімы, якія з часам змяніліся. Напрыклад, старыя людзі, якія памятаюць 40-я гады XX ст., ужываюць назвы *Агулец, Панскі лес,* звязаны з прыватнай уласнасцю на землі, лясы. Маладыя людзі дадзеных найменняў не ведаюць, а карыстаюцца ў дачыненні да гэтага лесу назвай *Салдацкі лес*, якая замацавалася ў савецкі перыяд. Аднак прайшло ўжо больш за дзесяць гадоў з таго часу, калі салдат з лесу вывелі, і найменне таксама пачынае забывацца.

Нельга не заўважыць аманімію сярод адапелятыўных дэндронімаў, асновай якіх з'яўляюцца назвы парод дрэў. На тэрыторыі Капцёўскага сельскага савета часта можна сустрэць аднолькавыя найменні розных лясоў: *Альшына* 'альховы лес каля в. Цвіклічы', *Альшына* 'зараснікі альхі каля шашы' (Капцёўка), *Арэшнік* 'частка Талеўшчыны, дзе пераважае арэшнік' (Капцёўка), *Арэшнік* 'урочышча, якое знаходзіцца ў в. Жукевічы' (Жукевічы).

У дадзеным артыкуле прапануем у выглядзе невялікага слоўніка дэндронімы, зафіксаваныя на тэрыторыі Капцёўскага сельскага савета Гродзенскага раёна.

**АГУЛЕ́Ц** *м.* Частка лесу, які цяпер называецца Салдацкім лесам. *У Агульцы́, стары́я лю́дзі ка́жуць, быў фальва́рак.* Капцёўка.

**АЛЕ́ШНІК** *м.* Урочышча, якое знаходзіцца на паўночны захад ад в. Жукевічы. *Там, за Але́шнікам, Го́рніца па́сьвіла каро́ў.* Жукевічы.

**АЛЬШЫНА́** *ж.* Альховы лес каля в. Цвіклічы. *А той лес пат Цьвіклічамі Альшыно́й зва́лі.* Цвіклічы.

**АЛЬШЫНА́** *ж.* Зараснікі альхі каля шашы ў в. Капцёўка. *У Альшыне́ заўсёды вада́ стая́ла, а гэ́ты гот пераСо́хла.* Капцёўка.

**АЛЬШЫ́НКІ** *мн.* Альховы лес каля в. Палаткова. *У Альшы́нках ніска, бало́ціста.* Палаткова.

**АРЭ́ШНІК** *м.* Урочышча, якое знаходзіцца ў в. Жукевічы. *У Арэ́шніку выражаш любо́е вудзі́лішча.* Жукевічы.

**АРЭ́ШНІК** *м.* Частка Талеўшчыны, дзе пераважае арэшнік. *Шмат арэ́хаў у гэ́тум годзі ў Арэ́шніку, але вы́рвала ко́лькі, а ўсе чарві́выя.* Капцёўка.

**АСІ́ННІК** *м.* Частка лесу каля Бычоўніка на адлегласці каля 300 м. *У Асі́ньніку расьце́ шмат асі́наў.* Капцёўка.

**БЕРАЗІ́НКІ** *мн.* Урочышча, якое знаходзіцца ў цэнтральнай частцы в. Жукевічы. *Беразі́нкі лес мала́ды.* Жукевічы.

**БЕРАЗНЯ́К, БЯРЭ́ЗНІК** *м.* Частка лесу на Строкавых горах, у якой пераважаюць бярозы. *Беразьня́к на на́шых вача́х вы́рас. Нам і ў лес хадзіць ні трэ́ба. Вы́йшаў с Трохэта́жак – тут табе́ і грыбы́, і я́гады.* Капцёўка.

**БО́ГДЗЯЎ ХВАЙНЯ́К**. Частка хвойнага лесу, што знаходзіцца паміж в. Кашэўнікі і в. Пагараны. *Бо́гдзяў хвайня́к бліжэ́й да Кашо́ўнікаў.* Кашэўнікі.

**БРАХУНО́Ў ЛЕС**. Лес, што знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад в. Жукевічы. *Мне сказа́лі ба́бы, што Брахуно́ў лес ране́й нале́жаў Статке́вічу.* Жукевічы.

**БУДЗЯЎШЧЫ́НА** *ж.* Альховы лес недалёка ад в. Цвіклічы. *Будзяўшчы́на – гэ́та альшына́, другі́х дрэў там ма́ла. Будзяўшчы́на каля ле́су Міжыго́ры.* Цвіклічы.

**БЯРАЗНІЧО́К** *м.* Частка Салдацкага лесу, у якой растуць толькі бярозы. *У Бяразьнічку́, як ні на́тта зарасло́, паві́нны чырво́ныя быць.* Капцёўка.

**ВІ́ШАНЬКІ** *мн.* Зараснікі дзікай вішні на Ванькіным грудзе. *Ві́шні нарва́ў у Ві́шаньках, але драмне́йшая, чым на́ша.* Кашэўнікі.

**ВЫ́ГАН** *м.* Месца, зарослае кустамі, дзе параўнальна нядаўна выкапалі сажалку. *Вы́ган заро́с, а не́калі там каро́ў па́сьвілі, а ціпе́р дзве каро́вы на вё́ску.* Караневічы.

**ВЯ́ЗЫ** *мн.* Месца, дзе растуць высокія вязы ў в. Караневічы. *Вя́зы с Сухмянё́ў віда́ць.* Караневічы.

**ВЯЛІ́КІ ЛЕС (ВЕ́ЛЬКІ ЛЕС)**. Лес, які цягнецца ад в. Капцёўка да в. Грыўкі. *Пад Ве́лькім ле́сам на́ша бу́льба не́калі была́.* Капцёўка.

**ГАВІНА́** *ж.* Лясок злева каля шашы, якая вядзе з в. Капцёўка на в. Бычкі. *Каля Гавіны́ сустрэ́ліса з Рэ́няй. Яна́ ў Капцё́ўку хадзі́ла.* Капцёўка.

**ГАРНО́ЎСКІ ЛЕС (ГАРНО́ЎСКІ)**. Лес, які знаходзіцца недалёка ад в. Жукевічы ў напрамку в. Гар-

ны. *У Гарноўскім лесе дровы загатаўліваў. Трэба, кап хто прывясьці памох.* Жукевічы.

**ГІБУЛЕЎСКІ ЛЕС**. Лес каля в. Гібулічы (справа каля шашы на г. Гродна). *Як мы студэнтамі былі, то першы курс у паход на фарты хадзіў, а вярталіса праз Гібуляўскі лес.* Капцёўка.

**ГРУШКЕ** *мн.* Частка лесу каля лясной дарогі ад в. Капцёўка на в. Цвіклічы, дзе растуць дзікія грушы. *Так прагаладаліса і піць захацелі, што ў Грушке зайшлі.* Капцёўка.

**ГРЫЎКОЎСКІ ЛЕС**. Лес пад в. Грыўкі. *Оліна дача нідалёка, за Грыўкоўскім лесам.* Капцёўка.

**ГУСЦІНА**. Лес, кусты, што ідуць ад в. Кашэўнікі да р. Нёман. *На Гусьціне ранеи людзей хавалі, а пасьля забаранілі. Мой дзет там пахаваны.* Кашэўнікі.

**ДАЛЯСАВА БЕРАЗІНА**. Невялікі бярозавы лес пад в. Пагараны за Саліноўшчынай. *Далясава беразіна, мо яшчэ пры пану была.* Капцёўка.

**ДАЎГАРАЖ** *м.* Лес, што цягнецца ўздоўж шашы ад в. Капцёўка да в. Цвіклічы. *У Даўгаражы міне Ясьненькі падабраў, у вёску падвёс.* Капцёўка.

**ДОЎГАЯ ХВАІНА**. Лес паміж в. Кашэўнікі і в. Гібулічы. *У Доўгай хваіне, недалёка ат патстанцыі, быў Парахавік. Там пры цару порах трымалі.* Кашэўнікі.

**ДУБЫ** *мн.* Частка Талеўшчыны, дзе растуць дубы. *Мы ранеи вясной у Дубы за пралескамі бегалі, а ціпер там новыя паны дамоў набудавалі.* Капцёўка.

**ЕЛЬНІК** *м.* Частка лесу каля Саломенскай дарогі, дзе растуць пераважна елкі. *Давай у Ельнік зойдзем, можа там што нойдзем.* Капцёўка.

**ЗА КОЗЫРАМ**. Зямля, кусты за хатай, якая раней належала чалавеку па прозвішчы Козыраў. *Віця За Козырам хату пабудаваў, кажа, што на дзедаўскай зямлі.* Капцёўка.

**ЗА МАЙСТЭРНЯМІ (ЗА МАСЦЯРСКІМІ)**. Частка лесу, што пачынаецца за калгаснымі майстэрнямі і зерняскладам. *За майстэрнямі быў, грыбоў глянуў.* Капцёўка.

**ЗАРАСЛІ** *мн.* Назва невялікай часткі вёскі, што знаходзіцца ў пачатку в. Сухмяні, дзе растуць елкі. *Яе хата знаходзіцца ў Зарасьлях.* Сухмяні.

**ЗАРУБСКІ ЛЕС**. Лес пад в. Зарубічы. *У Зарупскі лес німа чаго хадзіць, там дачнікаў поўна.* Капцёўка.

**ЗАСЦЕНКІ** *мн.* Лес, што цягнецца ад в. Цвіклічы да в. Капцёўка (бліжэй да апошняй). *І ў Засьценках быў, і За масьцярскімі, а грыбоў ні бачыў. Ведама, такая суш стаяла. Кап колькі дзён дошч пайшоў.* Капцёўка.

**ЗВОНАЎКА** *ж.* Лес, што знаходзіцца на поўнач ад в. Жукевічы. *Кажуць старыя, што ў Звонаўцы раней жыў пан.* Жукевічы.

**КАЛЯ ВОЗЕРА**. Кусты, тэрыторыя каля сажалкі ў в. Капцёўка. *Пайду у Каля возера бэзу нарву.* Капцёўка.

**КАЛЯ ГАРОДАЎ**. Кусты каля агародаў і штучнай сажалкі ў в. Капцёўка. *Сходзі паглядзі, мо Каля агародаў арэхі есьць.* Капцёўка.

**КАЛЫСКА** *ж.* Грыбное месца, лажбіна ў лесе каля в. Гібулічы. *Калыска там, зьлева ат шашы, калі ехаць с Капцёўкі на Гронна.* Капцёўка.

**КАЛЮГІ** *мн.* Равы, зарослыя альхою, што цягнуцца ад в. Кашэўнікі да р. Нёман. *Нам бліжэй да Нёмана прас Калюгі спусьціцца, а ні кругам абыходзіць.* Кашэўнікі.

**КАПІТАНАВА**. Лес каля хутара Капітанава. *Казалі, што там некалі Капітан жыў, таму і хутар яго, і лес так называюць.* Кашэўнікі.

**КАРАНЕВІЦКІ ЛЕС**. Лес, што знаходзіцца паміж вёскамі Караневічы і Сухмяні. *Давай прас Караневіцкі лес пойдзям.* Сухмяні, Каўпакі.

**КАРЧЫ** *мн.* Лес каля в. Караневічы насупраць в. Бычкі. *А чаго ты ў Карчы хадзіў?* Караневічы.

**КАРЧЫ ГОРНІЦКІЯ** *мн.* Альховы лес каля в. Горніца. *У Карчах горніцкіх ног ні пераваламчы: столькі завалу. Нікому дровы ні патрэмныя, ніхто лес ні чысьціць.* Караневічы.

**КАСМАЧОЎ** *м.* Сад, што знаходзіцца ў в. Жукевічы. *Буцьця ў Касмачовым асьцярожныя: там вульлі стаяць.* Жукевічы.

**КАЎПАЦКІ ЛЕС (КАЛПАЦКІ ЛЕС, КАЛПАЦКІ)**. Лес, што знаходзіцца паміж вёскамі Жукевічы і Каўпакі. *Добры быў Калпацкі лес, нашы ў Калпацкі па грыбы хадзілі.* Жукевічы.

**КАЎПАЦКІ ЛЕС**. Лес, які знаходзіцца паміж вёскамі Караневічы і Каўпакі. *Бульбу пасадзілі на тым полі, што нідаязжаючы да Каўпацкага лесу.* Капцёўка.

**КАЎПАЦКІ САД**. Калгасны сад у в. Каўпакі. *Мы ў школі ні толькі на бульбу хадзілі, алі і на яблыкі. І ў Калпацкі сат, і ў Кашэўніцкі.* Капцёўка.

**КАШЭЎНІЦКІ ЛЕС (КАШОЎНІЦКІ ЛЕС)**. Лес, што знаходзіцца паміж вёскамі Салы і Кашэўнікі. *Салоўскія людзі называюць яго Кашоўніцкім лесам.* Салы.

**КАШЭЎНІЦКІ САД**. Калгасны сад у в. Кашэўнікі. *Высяклі Кашэўніцкі сад у той час, як і ўсе сады.* Кашэўнікі, Капцёўка.

**КРАСНА** *н. і ж.* Лес каля в. Жукевічы. *Можа Красна назвалі, што красіва там.* Жукевічы.

**КУРЛОВЫ** *мн.* Узлесак і месца каля лесу, дзе жылі людзі па прозвішчы Курловы. *Курловы раней былі каля лесу, а ціпер і лес туды патсунуўса.* Караневічы.

**ЛЕЙЦЫ** *мн.* Лес, які знаходзіцца на паўночны захад ад в. Жукевічы на адлегласці каля 1,5 км. *Лейцы кажуць, бо лес доўгі.* Жукевічы.

**ЛЕС ЗА БАМАМ**. Лес, які расце за калгаснай жывёлагадоўчай фермай. *Пасьля работы ў Лес за БАМам схадзіў, думаў, што пасьля дажджу грыбы пайшлі.* Капцёўка.

**ЛЕС НА СТРОКАВЫХ ГОРАХ, ЛЕС НА СТРОКАХ**. Лес, які расце каля Строкавага хутара. *Пры маёй памяці Лес на Строкавых горах патсаджвалі. Там, с тога боку.* Капцёўка.

**ЛІПАВАЯ АЛЕЯ**. Рэшткі ліпавай алеі ад месца, дзе стаяў панскі дом, да сучаснага будынка бані ў в. Капцёўка. *Лепш да бані па Ліпавай алеі ідзі, а ні каля гародаў, бо там дарошка ўтравела.* Капцёўка.

**ЛІ́ПЫ** *мн.* Алея ў в. Жукевічы. *Ліпы растýць абáпал дарóгі, што вялá да дóма Чарнéцкага.* Жукевічы.

**ЛІ́СІ ГО́РЫ**. Лес, што знаходзіцца за 2 км ад в. Жукевічы. *У Лісіх гóрах ранéй лісы вадзіліса, мóжа і ціпéр есьць, хто там вéдая.* Жукевічы.

**ЛІСІ́НЫЯ НО́РЫ**. Месца ў лесе Ляда. *У Лісіных нóрах вяліся лісы.* Кашэўнікі.

**ЛО́ЗЫ** *мн.* Невялікі лес, кустоўе каля дарогі на г. Гродна злева в. Капцёўка. *У Лóзах вадá чáста стаіць, а За Кóзырам яшчэ́ ніжай.* Капцёўка.

**ЛЯ́ДА** *н.* Лес каля в. Кашэўнікі, які расце ў бок в. Гібулічы перад Доўгай хваіной. *Як гóрад разбудавáлі, базáр зрабілі, то й грыбóў у нас у Ляда ні стáла.* Кашэўнікі.

**МАЗЫРО́ЎШЧЫНА** *ж.* Лес насупраць в. Сухмяні каля прыпынку на г. Гродна. *А пóмніш, як у нас ад дарóгі да Мазырóўшчыны буракé былі?* Капцёўка.

**МАЛАДЫ́ САД**. Малады калгасны сад у в. Капцёўка. *Наштó вы́сяклі Маладьі сат? Стóлькі там я́блыкаў былó. Выдумалі, што як ні бýдзя ш чагó вінá цісну́ць, то піць перастáнуць.* Капцёўка.

**МАЯ́К** *м.* Месца ў лесе, дзе стаіць маяк. *Пóйдзям у нядзéльку на Маяк, чырвóных гляням. Усё рóўна рабіць ні мóжна.* Караневічы.

**МІЖЫГО́РЫ** *мн.* Лес за в. Цвіклічы ў напрамку да в. Лэйгабалі. *Чамý лес Міжыгóры называюць, я вам ні скажý.* Цвіклічы.

**МО́ГЛІЦЫ** *мн.* Лес ад в. Капцёўка да в. Цвіклічы, у якім знаходзілі крыжы. *У Мóгліцах, кáжуць, яўрэ́і пахавáныя.* Цвіклічы.

**МО́ГЛІЦЫ** *мн.* Невялікі лес насупраць свінафермы ў в. Палаткова. *У Мóгліцах ранéй былі мóгілкі, пазьнéй закóпвалі жывёлу.* Палаткова.

**МО́ЙКАЎШЧЫНА** *ж.* Лес, што знаходзіцца недалёка ад в. Сухмяні (каля падстанцыі). *Мóйкаўшчыну і лéсам назвáць цяшка, бо зусім невялічкая.* Капцёўка.

**МО́ЛІЦЫ** *мн.* Лес, які знаходзіцца на поўнач ад в. Жукевічы на адлегласці каля 1,5 км. *Дзет казáў, што ў Мóліцах людзéй хавáлі.* Жукевічы.

**МО́ЛЬЦЫ** *мн.* Лес каля в. Караневічы, у якім былі пахаванні, там і цяпер дзе-нідзе захаваліся камяні. *У Мóльцах ранéй мóгілкі былі, тамý і лес так называюць. Я, як малáя былá, там шмат камянёў с крыжáмі былó, самá бáчыла.* Караневічы.

**МЯДЗВЕ́ЖЫ ЛЯСО́К**. Лес, які знаходзіцца на поўнач ад в. Жукевічы на адлегласці каля 3 км. *А хто вéдае, чамý Мядзьвéжы лясóк, мо калі даўнéй мядзвéдзі там вадзіліся.* Жукевічы.

**НАВАСЁЛСКІ ЛЕС**. Лес паміж вёскамі Капцёўка і Навасёлкі, справа ад Саломенскай дарогі. *Праз Навасёлскі лес дарóга ідзé на Навасёлкі. Ранéй шырóкая былá, а ціпéр зарастáя.* Капцёўка.

**НА СТАРЫ́Х МО́ГІЛКАХ**. Невялікі лес, які вырас на Старых могілках у в. Капцёўка. *На Стары́х мóгілках яшчэ́ камяні пазаставáліся. Усе пóмняць, што гэ́та ні лес, ніхтó там нічóга ні зьбірáя.* Капцёўка.

**НО́ЧАЎШЧЫНА** *ж.* Поле, а цяпер лес каля сучаснага хімсклада. *Я пóмню, у Нóчаўшчыні грыбóў рóзных былó. Шмат краснагалóвікаў.* Капцёўка.

**ПАГАРЭ́ЛЬЦЫ** *мн.* Частка лесу Доўгая хваіна, якая знаходзіцца недалёка ад цяпліц. *Пагарэ́льцы вы́гарэлі, пасьля́ там маладьі лес вырас.* Кашэўнікі.

**ПАД БЫЧО́ЎНІКАМ**. Частка лесу за в. Капцёўка, бліжэй да калгаснай жывёлагадоўчай фермы. *Як бычóўнік пастрóілі, так і лес стáлі называць Пад Бычóўнікам.* Капцёўка.

**ПАДНЯЎКІ́** *мн.* Хмызняк, што знаходзіцца недалёка ад в. Жукевічы. *У Падняўкáх усё зараслó, а як кусты́ мéншыя былі, мы туды́ за малінай хадзілі.* Жукевічы

**ПАМІДО́РЧЫКАЎ САД**. Сад у в. Жукевічы, які належаў чалавеку па мянушцы Памідорчык. У *Памідóрчыкавым сáдзе грýшы нáтта смáшныя.* Жукевічы.

**ПА́НСКІ ЛЕС**. Лес паміж вёскамі Капцёўка і Навасёлкі злева ад Саломенскай дарогі. *Спрáва ад дарóгі быў Агулéц, а зьлéва Пáнскі лес. Пáнскі лес пáну налéжаў, туды́ ніхтó ні сьмеў хадзіць.* Капцёўка.

**ПАПО́ЎШЧЫНА** *ж.* Частка лесу і зямлі ў лесе Шчуравіна. *Папóўшчына налéжала праваслáўнаму сьвятарý.* Кашэўнікі.

**ПАПЯЛЫ́** *мн.* Лес каля в. Бычкі па дарозе на в. Сухмяні. *Капцёўцы сóткі далі каля Папялóў.* Капцёўка.

**ПАСТЭРНА́КАЎ ЛЕС**. Лес, што знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад в. Жукевічы на адлегласці каля 1,5 км. *У Пастэрнáкавым лéсі хвóйкі анны́я растýць.* Жукевічы.

**ПАЦЯРО́Б (ПАЦЯРЭ́Б)** *м.* Лясок справа каля шашы, якая ідзе з в. Капцёўка на в. Бычкі. *У Пацярóбі грыбóў ні былó нігды, які там лес.* Капцёўка.

**ПАЦЯРЭ́Б** *м.* Лес, які знаходзіцца на паўночны захад ад в. Жукевічы на адлегласці каля 3 км. *Пацярэ́б ад нас далёка, ніхтó туды́ ні хóдзіць.* Жукевічы.

**ПЕ́ЎПІ** *мн.* Кусты альшыны каля в. Каменка. *Лю́дзі стары́я так гэ́тая мéсца называлі – Пéўпі.* Каменка.

**ПЕСКАВА́ТЫ ХВО́ЙНІК (ПЕСКАВА́ТЫ)**. Лес за фермай каля в. Палаткова. *Зямля́ там дрэ́нная былá, пясóк адзін. Тамý і лес называюць Пяскавáты хвóйнік.* Палаткова.

**ПРЫ АВЕ́ЧАЙ ДАРО́ЗЕ**. Лес каля Авечай дарогі недалёка ад калгаснай жывёлагадоўчай фермы, якую называюць БАМам. *Дарóгу лю́дзі Авéчай называлі, бо авéчак на пáшу па ёй ганялі, а лес называлі Пры Авéчай дарóзі.* Капцёўка.

**РАВЫ́ (РАВЭ́)** *мн.* Зараснікі каля в. Капцёўка, якія цягнуцца ў бок в. Палаткова. *Там, дзе Равы́, ранéй маліны шмат былó.* Капцёўка.

**РА́ЙСКІЯ Я́БЛЫЧКІ**. Частка саду каля былога панскага дома, дзе раслі маленькія чырвоныя яблыкі. *Мы ў Рáйскія я́блычкі хадзілі, як я́блыкі пасьпéюць. Нам дзíва былó, што такія малéнькія, чырвóненькія. Такіх нідзé больш ні былó.* Капцёўка.

**РАЙСТЭ́ЛІ** *мн.* Лес і поле ад в. Палаткова да шашы на г. Гродна. *Я на Капцёўку ні шашóй ішлá, а праз Райстэ́лі.* Палаткова.

**РÓЙСЦЕНСКІ ЛУГ.** Кусты і зарослае возера каля шашы на г. Гродна насупраць в. Палаткова. *Ранéй на Рóйсценскім лýзе дóбрае азярцó былó, а ціпéр усё кустáмі зараслó.* Палаткова.

**РУ́ЛЯ** *ж.* Месца за 2 км ад в. Кашэўнікі, дзе раней быў арэшнік, а цяпер пабудавалі заправачную станцыю. *У Рýлю зь вёскі за арэ́хамі хадзілі.* Кашэўнікі.

**САД МАКÁРЫХІ.** Сад, які належаў жанчыне па мянушцы Макарыха. *Як я пóмню, сáмы вéлькі ў вёсцы быў Сад Макáрыхі. На тым хýтары ціпер Пчаляр жывé.* Капцёўка.

**САЛІНÓЎШЧЫНА** *ж.* Лес каля шашы на г. Гродна насупраць в. Сухмяні. *Каля Салінóўшчыны ў гэ́тум гóдзі нéшта кукурýзу ўбірáць ні сьпяшáюцца.* Капцёўка, Сухмяні.

**САЛÓЎСКІ ЛЕС.** Лес паміж вёскамі Кашэўнікі і Солы. *У Кашэ́ўнікі з Грóнна мы хадзілі па дарóшцы прас Салóўскі лес.* Кашэўнікі.

**САРАСÉКАЎ ЛЕС.** Лес, што знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад в. Жукевічы. *Сарасéкаў лес да нас бліжэ́й, чым Семянякаў.* Жукевічы.

**СВІДЗЯЎШЧЫ́НА** *ж.* Кусты, балота за Пацярэбам. *Сьвідзяўшчы́на мéсца ніскае, кустáмі зараслó.* Капцёўка.

**СЕМЯНЯ́КАЎ ЛЕС.** Лес. Знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад в. Жукевічы на адлегласці каля 2 км. *Семяня́каў лес бліжэ́й да Нёмана.* Жукевічы.

**СКІ́ЛЬМА** *ж.* Лес злева ад шашы, што ідзе з в. Капцёўка на в. Індура, насупраць в. Навасёлкі. *Ранéй чóрных ягад і ў Скільме былó, і ў Салдáцкім лéсі.* Капцёўка.

**СМУГÁ** *ж.* Лес недалёка ад вёсак Альшанка і Бросты. *Смугá ад нас далёка, мы туды́ ні хóдзім.* Палаткова.

**СТÁВЫ** *мн.* Зарослае месца каля аптэкі, дзе працякае рэчка. Там пры панах былі ставы і разводзілі рыбу. *У Стáвах склеп пáнскі есьць, фундáмент ад дóма.* Капцёўка.

**СТАКÁНАЎ ЛУГ.** Лес, што знаходзіцца на адлегласці больш за 3 км на паўночны захад ад в. Жукевічы. *Стакáнаў луг знахóдзіцца за дáчамі, бліжэ́й да дарóгі. Мы туды́ ні хóдзім.* Жукевічы.

**СТАРЫ́ САД.** Стары калгасны сад у в. Капцёўка. *Вы́секлі Стары́ сат. Там ціпéр катэ́джы пабудавáлі.* Капцёўка.

**СТРÓКАЎ САД.** Стары сад на хутары, які належаў чалавеку па мянушцы Строк. *У Стрóкавым сáдзе шмат сьліў. Есьць і вангéркі, і ранклёды.* Капцёўка.

**СУ́САЛЫ** *мн.* Лес, які цягнецца ад в. Караневічы да в. Каўпакі. *У Сýсалах крынічка чы́стая былá. Мы да яé па вóду бéгалі.* Караневічы.

**СУХМÉНСКІ ЛЕС.** Лес, што знаходзіцца паміж вёскамі Караневічы і Сухмяні. *Мы гавóрым Сухмéнскі лес, а яны́ – Каранéвіцкі.* Караневічы.

**ТÁЛЕЎШЧЫНА** *ж.* Лес за в. Капцёўка, які цягнецца ў бок в. Сухмяні. *Мы малы́я далёка нікýды ні хадзілі, тóлькі ў Тáляўшчыну.* Капцёўка.

**ФАРТЫ́** *мн.* Месца ў Доўгай хваіне, дзе раней былі фарты. *У Фартáх яшчэ́ віннó збудавáньні. Алі лéсьці туды́ стрáшна. Яшчэ́ абвáліцца.* Кашэўнікі.

**ФЭ́ЛІКАЎ САД.** Сад у цэнтры в. Капцёўка, які належаў чалавеку па імені Фэлік (гутарковая форма ад Фелікс). *Фэ́ліку сад даглéджаны: дрэ́вы пабéляны, гальлё паабрэ́звана. Відáць, што чáста дзéці прыягджáюць.* Капцёўка.

**ХВÓЙНІК ПАД ПАЛАТКÓВАМ.** Стары хвойны лес пад в. Палаткова. *Гэ́та ш трэ́ба былó капцёўскім буракé за Хвóйнікам пат Палаткóвам давáць.* Капцёўка.

**ЦВІ́КЛЕЎСКІЯ ХВАЙКÉ.** Хвойны лес каля в. Цвіклічы. *А чагó ш ты ў Цвíкляўскія хвайкé хадзіў? Тóлькі нóгі трапáў.* Капцёўка.

**ЧАРЗÉЛЯ** *ж.* Кусты па дарозе, якая ідзе з в. Капцёўка на в. Бычкі. *Чарзéля каля хáты Булакá.* Капцёўка.

**ЧАРНÉЦКІ (ЧАРНÉЦКІ ЛЕС)** *м.* Лес, які знаходзіцца на поўдзень ад в. Жукевічы на адлегласці каля 1 км. *Чарнéцкі ранéй не такі вéлькі быў, ягó дасадзілі пры маёй пáмяці.* Жукевічы.

**ЧАРНÉЦКІ** *м.* Сад у заходняй частцы в. Жукевічы. *Як стаў калхóз, Чарнéцкі амáль ўвесь сьпілавáлі і вы́карчавалі, пáру я́блыняў астáвілі, алі які зь іх, стары́х, толк.* Жукевічы.

**ЧÓРТАВЫ КУСТÓЧКІ.** Балоцістая мясціна каля новай дарогі на г. Гродна. *Ранéй Чóртавы кустóчкі былó цяшка праéхаць, нáват ціпéр машы́ны лехкавы́я пасьля дажджу грáзнуць.* Кашэўнікі.

**ШКÓЛЬНЫ САД.** Сад у в. Жукевічы каля былой школы. *У Шкóльны сат карóвы занáджваюцца, травá там смачнéйшая, чым на пáшы.* Жукевічы.

**ШКÓЛЬНЫ САД.** Сад каля школы ў в. Капцёўка. *Ранéй дзéці ў шкóльны сад бéгалі, а ціпéр німá куды́ бéгаць.* Капцёўка.

**ШЧУРАВІ́НА** *ж.* Лес паміж в. Кашэўнікі і лесам Ляда. *Нéкалі Вярхóўскі пат Шчуравінай пóля прыгарáў, бýльбу садзіў. А ўжэ кóлькі год зямля́ пустýя.* Кашэўнікі.

**Я́НАЧКАВЫ КУСТЫ́.** Урочышча ў в. Жукевічы. *У Я́начкавы кусты́ ўсе па апéнкі хóдзяць вóсеню. На анны́м мéйсцы кóшык набрáць мóжна.* Жукевічы.

**Я́СТРАБАЎ САД.** Сад, што знаходзіцца за в. Сухмяні ў бок в. Горніца. *У Я́страбавым сáдзі ўсе я́блыні стары́я, высóкія.* Сухмяні.

*Ж. С. Сіпліевня*

# НАЗВЫ КОЛЕРУ І СВЯТЛА Ў СТРУКТУРЫ МІКРАТАПОНІМАЎ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

У ролі атрыбутыўнага кампанента аналітычных паводле структуры мікратапонімаў Гродзеншчыны шырока выкарыстоўваюцца прыметнікі са значэннем ‘назва колеру ці святла’. У якасці апорных слоў, да якіх дапасуюцца такія прыметнікі, звычайна выступаюць агульныя назвы рэльефу (*балота, гара, луг, возера, роў, крыніца, ручай* і інш.), намінацыі ўчасткаў расліннасці (*лес, бор, кусты* і г. д.). Заўважым, што значная частка аднаслоўных мікратапонімаў нярэдка суадносіцца з падобнымі апелятывамі, з’яўляецца аманімічнай з імі. Напрыклад: *Бор* ‘лес паблізу в. Казіміраўка’, *Востраў* ‘мясціна на возеры, што размешчана за в. Верцялішкі’, *Дубняк* ‘мясціна ў лесе каля в. Шашкі’, *Горы* ‘ўзгоркі ў Хвойніку, што расце на поўдні ад в. Верцялішкі’, *Равы* ‘канавы за вёскай Галаўнічы’ і інш. Мікратапанімічныя адзінкі такога тыпу акрэсліваюць фізічную прастору жыццядзейнасці чалавека, асаблівасці ландшафту пэўнай тэрыторыі. Калі ж у структуры мікратапоніма ёсць яшчэ і колераабазначэнне, той ці іншы аб’ект навакольнага свету набывае больш дакладную і дэталёвую характарыстыку. «Для некаторых ідэй і ўяўленняў, звязаных са словамі, зрокавы вобраз рэчы з’яўляецца іх асноўным, бясспрэчным ці нават адзіным зместам» [1, с. 19]. Менавіта колер выступае часам вызначальным сродкам адрознення аднародных прадметаў ці аб’ектаў (параўнаем: *Лес* ‘змешаны лясок паблізу кар’ера, што знаходзіцца за в. Казіміраўка’, *Чорны лес* ‘стары густы лес на захадзе ад в. Казіміраўка’, *Цёмны лес* ‘лясная мясціна паблізу в. Казіміраўка, дзе растуць пераважна дубы’; *Возера* ‘невялікае возера на поўдзень ад в. Азёры’, *Бела возера* ‘возера, размешчанае на поўначы ад вёскі Азёры’ і г. д.).

Сімволіка колеру, якая закладзена ў семантыцы мікратапонімаў і дапамагае вызначыць асаблівасці этнічнай карціны свету, засноўваецца на характары псіхікі чалавека, цесна звязана з яго філасофскім і эстэтычным асэнсаваннем свету. «Колер быў і застаецца ў наш час адным з найбольш важных параметраў успрыняцця рэчаіснасці, што знаходзіць сваё адлюстраванне як у мове, так, у прыватнасці, і ў геаграфічных назвах» [2, с. 125]. Колераабазначэнні, ці інакш каларатывы, адлюстроўваюць адметнасці народнага светабачання, выяўляюць культурна-гістарычныя традыцыі людзей.

Мікратапанімія як частка агульнай тапанімічнай сістэмы звычайна рэпрэзентуе свет такім, якім яго бачыць чалавек. Праўда, колеравая палітра вызначаецца прадстаўнікамі розных народаў (а часам і розных рэгіёнаў) неаднастайна. Таму ў структуры назваў таго самага аб’екта могуць быць зафіксаваны розныя каларатывы (*Бела возера* і *Светла возера*, *Бела крыніца* і *Малочна крыніца*, *Цёмны вомшар* і *Чорны вомшар, Сіня хвойна* і *Цёмна хвойна* і г. д.).

Назіранні сведчаць, што ў ролі аднаго з кампанентаў аналітычных мікратапонімаў Гродзеншчыны актыўна выкарыстоўваюцца прыметнікі, якія абазначаюць ахраматычны светлы (*белы, светлы, сівы, шэры*) і цёмны (*чорны, цёмны*) колеры, а таксама храматычны афарбаваны колер. Сярод прыметнікаў, якія ўжываюцца для абазначэння храматычна афарбаванага колеру, у структуры мікратапонімаў найчасцей сустракаем каларатывы *красны*[1], *зялёны, жоўты, сіні.* Прычым найбольшай частотнасцю ўжывання вызначаецца прыметнік *красны.*

У складзе мікратапонімаў прыметнікі-каларатывы звычайна ўказваюць на колер вады ў вадаёме (*Бела возера, Красна мора*), колер глебы (*Жоўтыя пяске, Чорны груд, Красна*), лісцевага покрыва (*зялёны мох, Сіня хвойна*), ступень асветленасці аб’екта (*Цёмны лес, Светла далінка*).

Як кампаненты мікратапанімічных адзінак нярэдка падобныя прыметнікі ўжываюцца не ў прамым, а ў пераносным значэнні. «З лінгвістычнага пункту гледжання у большасці тапонімаў, што змяшчаюць колераабазначэнні ў структуры значэння, закладзена метафара, якая можа быць дастаткова поўна матывавана» [3]. Так, чорны колер – гэта сімвал цемры, белы колер, як правіла,

[1] Паводле сучаснай нарматыўнай прыналежнасці слова – гэта запазычанне з рускай мовы, гістарычна і ў анамастыцы яго паходжанне мае іншае тлумачэнне.

сімвалізуе чысціню, святасць. Напрыклад: *Белы ручай* ‘чысты ручай’, *Чорны лес* ‘цёмны лес’, *Малочная крыніца* ‘крыніца, у якой вада чыстая і белая, як малако’.

У асобных выпадках прыметнікі-каларатывы могуць стаць базай для ўтварэння сінтэтычных паводле структуры назваў (*Краснае, Зялёнае, Светлае*). Згаданыя мікратапонімы ўзніклі марфолага-сінтаксічным спосабам – шляхам пераходу прыметнікаў у назоўнікі.

Пэўнае пашырэнне маюць таксама мікратапонімы, утвораныя ад асноў прыметнікаў са значэннем ‘назва колеру і святла’ пры дапамозе суфіксаў *-к-, -от- (-ат-), -ух-* (*Зялёнка, Чарнота, Сівуха*).

Ніжэй змешчаны мікратапонімы, зафіксаваныя на тэрыторыі Гродзенскага раёна.

**БЕ́ЛА (БЕ́ЛАЕ, БЕ́ЛА ВО́ЗЕРА)**. Возера ў в. Азёры. *Учо́ра на Бе́лум сто́лькі рыбако́ў было́, адзі́н на анны́м сядзе́лі. І што́-та гэ́та за рыба́лка?* Стрыеўка.

**БЕ́ЛА БАЛО́ТА**. Балота на ўсходзе ад в. Стрыеўка. *На Бе́лум Бало́ці німа́ ў гэ́тым ро́ку журавін, паме́рзьлі.* Стрыеўка.

**БЕ́ЛА БУ́ДКА**. Месца для купання на возеры паблізу в. Азёры. *Дзіце́й на Бе́лай Бу́цы дзісь ні было́, не́дзе да́ляй павялі́.* Азёры.

**БЕ́ЛА ВЕ́ЖА**. Пагорак за в. Пракопавічы. *Бе́ла ве́жа кустамі́ парасла́, ніхто́ да яе́ і ні хо́дзіць, а не́калі дзе́ці ні выла́зілі.* Рагачы.

**БЕ́ЛА** *ж.* Невялікае азярцо паблізу в. Батароўка. *Упяро́т стары́я Цы́дзіке Бе́ла чы́сьцілі, а ціпе́р німа́ каму́ глядзе́ць.* Грынёўка.

**БЕ́ЛАЕ** *н.* Возера са светлай вадой, якое знаходзіцца паблізу в. Стрэльчыкі. *У Бе́лум ціпе́р вада́ ніхаро́ша, бало́там сьмярдзіць.* Бяляны.

**БЕ́ЛАЯ** *ж.* Сенажаць паміж лесам і палеткам ворнай зямлі на паўночным захадзе ад в. Кісялі. *Выгара́ла на сло́нцы, і сенажа́ць была́ бе́лая. Таму́ і называ́юць Бе́лай.* Кісялі.

**БЕ́ЛАЯ ГАРА́**. Узгорак на поўначы ад былой в. Прынёманская. *На Бе́луй гарэ́ ўсё не́шта капа́юць, капа́юць. Што яны́ там і́шчуць, хто ж іх ве́дая.* Забалаць.

**БЕ́ЛАЯ ТРАПА́**. Сцежка каля возера на поўдзень ад вёскі. *Да Ры́бнага трэ́бо с кіло́метар які́ па Бе́луй трапе́ ісьці́.* Азёры.

**БЕ́ЛО** *н.* Месца ў старым лесе недалёка ад в. Стрыеўка. *Та́дзік Каўшо́ў ў Бе́ло па грыбэ́ ме́уса е́хаць.* Стрыеўка.

**БЕ́ЛЫ БАРА́К**. Выган, які знаходзіцца на захадзе ад в. Азёры *У Бе́лум бара́ку ко́ні ні пуска́юць, пат Пы́ру перагна́лі.* Азёры.

**БЕ́ЛЫ ГРУД**. Лес на паўночным захадзе ад в. Бушнева. *Бэ́рка казо́ў Бе́лы грут карчава́ць ста́лі. Па грыбэ́ ўжо туды́ ні паедзяш.* Табольская Будка.

**БЕ́ЛЫ КА́МЯНЬ**. Межавы знак паблізу в. Баяры. *Гаўры́лік каля Бе́лага ка́мяня но́гі зламо́ў. Чаго́ ён там го́йсаў?* Ракітна.

**БЕ́ЛЫ КРЫЖ**. Балота паміж сажалкай Рыбніца і р. Стрыеўка. *Бе́лы крыш ўсе аммі́на́юць.* Стрыеўка.

**БЕ́ЛЫ КРЫЖ**. Месца ў лесе каля в. Сабаляны. *Вы́йшлі, хі́ба, да Бе́лага кры́жа. Аџьсю́ль да Сабаля́н ніда́лёка.* Сабаляны.

**БЕ́ЛЫ МОСТ**. Мост у в. Стрыеўка. *Учо́ра ма́лы на ро́вары на Бе́лы мост паляце́ў, сё́ньня зноў там. Хоць ты яго́ на двор ні пуска́й.* Масткі.

**БЕ́ЛЫЯ ПЯСКЕ́**. Стары кар’ер на паўднёвым захадзе ад в. Азёры. *На Бе́лых пяска́х не́калі сы́на Чамаду́ркі так засы́пала, кап чуць, то, мо, дайшло́ б дзіця́.* Азёры.

**БЕ́ЛЫЯ ПЯСКЕ́**. Бераг ракі. *Хло́пцы пайшлі́ на ры́бу на Бе́лыя пяске́.* Ланявічы.

**ЖО́ЎТА** *ж.* Узгорак за вёскай. *Жо́ўту не́хта патпалі́ў, то скірда́ пад ёй ўсе́нька згарэ́ла.* Васілевічы.

**ЖО́ЎТАЯ ПАЛЯ́НА**. Назва паляны, што знаходзіцца на горцы побач з в. Путрышкі. *У субо́ту на Жо́ўтай паля́ні гуля́нка была́.* Путрышкі.

**ЗАЛАТА́Я** *ж.* Ніва ў в. Азёры. *Залата́я, бо зяме́лька там на́тто ро́дзіць.* Азёры.

**ЗАЛАТО́Е** *н.* Пляж каля рэчкі Скідлянка. *Залато́е ў гэ́та ле́та пустава́ла, бо ў рэ́цы вада́ ні́до́бра. Які́я-та па́лачкі, ка́жуць, нашлі́.* Скідзель.

**ЗАЛАТЫ́ ДОЛ**. Поле, на якім пасля Вялікай Айчыннай вайны было знойдзена золата. *Казо́ў ба́цько, там і ціпе́р зо́лата і́шчуць.* Путрышкі.

**ЗАЛАТЫ́ ЛЕС**. Асінавы лясок каля в. Багушоўка. *Чаму́ Залаты́, а хто яго́ ве́дая. Шчэ ма́ці мая́ яго́ Залаты́м называ́ла.* Багушоўка.

**ЗАЛАТЫ́ ПЛЯЖ**. Месца для купання на беразе р. Котра ў в. Некрашы. *Як панаяжджа́юць сюдэ́ з Гро́нна, Скі́для, то сваі́м і ме́ста німа́.* Некрашы.

**ЗЯЛЁНАЕ** *н.* Гай недалёка ад в. Грандзічы. *Зялёнае так завалі́лі ламато́й. Дзе там ты яко́га гры́ба зно́йдзяш?* Грандзічы.

**ЗЯЛЁНАЯ ВУ́ЛІЦА**. Частка в. Сабаляны. *А па мне, дык на́ша Зялё́ная ву́ліца са́ма хараш́э́йша.* Сабаляны.

**ЗЯЛЁНКА** *ж.* Штучнае возера, што атрымала сваю назву ад колеру вады. *У Зялёнцы анно́ то́лькі кара́сь бярэ́.* Скідзель Гродз.

**ЗЯЛЁНЫ ГРУД**. Узгорак на поўдзень ад былой в. Прынёманская. *А мой мужы́к зь Зялёнага гру́ду які́х-та ваўчако́ў прывало́к. Ка́жа, до́брыя.* Гродна.

**ЗЯЛЁНЫ ГРУД**. Малады лес за 2 км ад в. Табольская Будка. *У Зялёны грут пасьля́ до́джыкаў мая́ ба́ба па лі́сі́чыкі бе́гая, там яны́ ве́лькія, як лапухе́.* Сыпаная Гара.

**ЗЯЛЁНЫ КРЫЖ**. Урочышча (пагорак, на якім стаіць крыж*). Ба́бы да сьвя́та Зялёны крыш харашэ́ прыбіра́юць.* Парэчча, Сабаляны.

**ЗЯЛЁНЫ ЛУГ**. Луг паблізу возера Белага ў в. Азёры. *На Зялёным лугў шчавёй такі маладзёнькі пад вósень вырас, чысьцянькі, зялёны.* Азёры.

**ЗЯЛЁНЫ ЛУЖÓК**. Частка сенажаці за фермай, размешчанай паблізу в. Рыдзялі. *На Зялёны лужóк увóсень Румынаў сын сваé карóвы навязвае.* Табала.

**ЗЯЛЁНЫ МОХ**. Лясная мясціна. *У Зялёны мох дзіцéй анных апáсна пускáці. Ні дай бох, дзе увáляцца.* Гушчыцы.

**ЗЯЛЁНЫ РОЎ**. Канава. *Зялёны роў зусім зарóс, пярóйдзеш зáпраста.* Стрыеўка.

**ЗЯЛЁНЫ РУЧÁЙ**. Былая крыніца. *Нéкалі ў Зялёным ручаі такáя ш смáчна вадá былá.* Занявічы.

**КАЛЯ́ БÉЛАЙ КРЎЧЫ**. Поле за 2 км ад в. Селюкі. *Кáля Бéлай Крўчы бўльбу дажджóм выбірáлі, дык пасьля́ да зімы з ёй упраўля́ласа, нáтта ж гнілá.* Абухава.

**КРÁСНА** *н.* Поле. *Што на Крáснум мóжа вырасьці, там аннá глíна.* Гібулічы.

**КРÁСНАЕ** *н.* Балота. *Пабéглі па грыбэ́. Дайшлі да Крáснага. Як доў дошч, так і дахáт вярнўліса.* Новая Руда.

**КРÁСНАЕ** *н.* Возера за в. Стрыеўка. *Óзера Крáснае глыбóка, я́маў мáя мнóга.* Стрыеўка.

**КРÁСНАЕ** *н.* Лес каля возера. *У Крáснум каля сáмага пóля ваўкé цяля́ загрызьлі, Сóнін сабáка і той ні адбíўсо.* Стрыеўка.

**КРÁСНАЕ** *н.* Хутар недалёка ад в. Салацце. *У гэ́тым гóдзі бўльбу бўдзям садзіці нéдзе аш каля Крáснага.* Салацце.

**КРÁСНАЕ МÓРА**. Возера ў в. Мількаўшчына, у якім вада мае чырванаваты колер. *На Крáсным мóры ўпярóт хлóпяц малады з Грóнна ўтапíўсо.* Скідзель Гродз.

**КРÁСНАЯ РЭ́ЧКА**. Крыніца на ўсходзе ад былой в. Прынёманская. *Мы вады с-пад крáна ні п'ем, éгдзім да Крáснай рэ́чкі, у бўтлі сабé піць набірáям.* Гродна.

**МАЛÓЧНА** *ж.* Невялікая крыніца. *Óзера ў нас ужэ́ старóя. Ранéй кáжны гот чысьцілі ягó. Ціпéр ні так. А от крыніца нáша, от фáйна. Мы яé Малóчна называ́ям. Ох, і вадзíца. Нап'éсса, як на другí сьвет рóдзісса.* Забагонікі.

**СВÉТЛА ДАЛІ́НКА**. Лясная мясціна. *Калі ні пайдў ў лес, а ў Сьвéтлай далíнцы заўсягдá грыба знайдў.* Бушнева.

**СВÉТЛАЕ** *н.* Балота ў в. Стрыеўка. *Вот кáжацца балóта, а вадá там сьвéтлая.* Стрыеўка.

**СВÉТЛАЕ** *н.* Поле ў в. Путрышкі. *Дóбра пóля, жыта рóдзіць, і бўльбачка харóшая расьцé.* Путрышкі.

**СІ́ВА ГАРÁ**. Узгорак у лесе недалёка ад в. Сіўкава. *Падымíса на Сíвую гóру, і Нёман відáць.* Сіўкава.

**СІ́ВА ДАЛІ́НА**. Сенажаць. *Сíву далíну ў гэ́тым гóдзі рас скасілі, пяклó гэ́дак, усё згарэ́ло.* Гожа.

**СІВЎХА** *ж.* Сенажаць паблізу в. Дворцы. *У гэ́тум рóку на Сівўху буслэ́ ні прылятáюць саўсíм, нéшта ім ні нрáвіцца на ёй.* Сыпаная Гара.

**СІ́ВЫ ЛУГ**. Палетак ворнай зямлі. *Упярóт тут былó балóто. Ат тумáну здавáласа сíвым-сíвым.* Путрышкі.

**СІ́НЯ ХВАЙНÁ (СІ́НЯЯ ХВÓЙНА)**. Лес, які знаходзіцца недалёка ад в. Лакно. *У Сíню хвáйну па дрóвы паéдзям, там павáлу ляжыць, за гадóў пяць ні вывязуць.* Лакно.

**ЦЁМНА ЗÁГАДЗЬ**. Поле за 2 км ад в. Эйсманты. *Ячмéнь на Цёмнай зáгадзі высах, трэ булó даўнó ягó ўбірáць.* Завадзічы.

**ЦЁМНА ЗÁКЛО**. Балота на поўнач ад в. Забалаць. *Хацéў на Праваннўю нідзéлю да мóгліц напрамкé праéхаць, прас Цёмна зáкло. Куды там, лéдво выцягнулі машыну.* Путрышкі.

**ЦЁМНЫ КУТ**. Лясная мясціна, дзе звычайна збіраюць чарніцы. *Кáжуць, шмат чарнíцаў у Цёмным куцé, аля нáтто дрóбныя, як блóхі.* Гожа.

**ЦЁМНЫ ЛЕС**. Стары лес на поўначы ад в. Стрыеўка. *У Цёмны лес ціпéр зубрэ́ прыхóдзяць, аж да дарóгі патхóдзяць, ні баяцца.* Азёры.

**ЦЁМНЫ ЛОМ**. Луг. *Цёмнага лóму нéмцы ні кóсяць, там карчóў мнóга.* Сухая Даліна.

**ЦЁМНЫ РАВÓК**. Роў. *Тáдзік Бэ́пкаў на рóвары ў Цёмны равóк заляцéў. Хíбо, п'я́ны быў, рэ́бры паламáў.* Шынкаўцы.

**ЦЁМНЫЯ БРАДЭ́**. Поле на месцы былога асушанага балота. *На Цёмныя брадэ́ дзікі ўбíліса, усю бўльбу парылі.* Адэльск.

**ЧАРНÓТА** *ж.* Поле на месцы былога балота. *Шкóльнікаў на Чарнóту бўльбу капáці паслáлі. Кáжуць, дóбра там урадзíла.* Путрышкі.

**ЧÓРНА ГАЦЬ**. Возера недалёка ад в. Азёры. *Хлóпцы нáшы на Чóрну гаць бягўць, а з Грóнна ўсё éдуць на Бéла.* Азёры.

**ЧÓРНАЕ** *н.* Возера каля в. Дзертніца. *Быў у нідзéльку са швáграм на Чóрнум, анічóга ні злавíлі.* Дзертніца.

**ЧÓРНАЕ ВÓЗЕРА**. Возера паблізу в. Азёры. *На Чóрна вóзера я ні éгджу, мне там мéсца ні нрáвіцца.* Азёры.

**ЧÓРНАЕ ПÓЛЕ**. Выган. *На Чóрнае пóля карóвы пагнáлі.* Занявічы. [Раней на гэтым месцы было тарфянае балота].

**ЧÓРНАЯ ГАЦЬ**. Сенажаць на поўдні ад в. Тужаўляны. *Хто меў дзя́лку на Чóрнай гáці, сéна ў гэ́тум гóдзі бўдзя мець дóбра.* Казіміраўка.

**ЧÓРНАЯ ГРЭ́БЛЯ**. Лясная мясціна, што знаходзіцца побач з балотам. *З бáцькам у Чóрнуй грэ́блі па кашў груздóў нарэ́залі.* Гушчыцы.

**ЧÓРНАЯ ГРЭ́БЛЯ**. Частка балота. *Гэ́та ат Сьвятóга балóта лявéй. Тудэ́ нáшыя бáбы па журавíны ідўць.* Азёры.

**ЧÓРНАЯ ГРЭ́БЛЯ**. Дарога, якая праходзіць праз балота. *От, цяшко дзéцям дабірáцца зімóй да шкóлы па Чóрнуй грэ́блі. Ідзí ды бóйса, каб дзе ні ўвалíцца ў балóта.* Забярэзіна.

**ЧÓРНАЯ РЭ́ЧКА**. Частка былой р. Лазоўкі. *Кáжуць, паблізу Чóрнай рэ́чкі Гэ́ля Паўлю́чкава нóгі паламáла, мўсіць, у я́му нагóй ступíла. А мо чáры якія. Ю́зік Нíнін там зь мéсяц назáт упóў і рўку зламóў.* Казіміраўка.

**ЧÓРНЫ ЛЕС**. Стары густы лес паблізу могілкаў. *У Чóрнум лéсі днём цёмно, як нóччу.* Путрышкі, Кісялі.

**ЧО́РНЫ МОСТ**. Кладка праз р. Індурка, дзе раней быў мост. *Сястра́ мая́ ў пры́цямках да ха́т зь фе́рмы бе́гла праш Чо́рны мост ды аступіласа, на́тто пабіласа.* Індура.

**ЧО́РНЫ ПАПА́Р**. Сенажаць. *Мой стары́ дзісь Чо́рны папа́р касіў. Казо́ў, ба́чыў вужако́ў сто́лькі, барані бох.* Губінка.

**ЧО́РНЫ РОЎ**. Нізкае месца ў лесе. *Баімо́са і ступіць у Чо́рны роў, сто́лькі ш там гадзю́к, аж гіжы́ць усё.* Баркі.

**ЧО́РНЫЯ КАМЯНІ́**. Неўрадлівае камяністае поле. *На Чо́рных камяня́х нічо́га ні расьце́, хіба, ты́лько какуру́за.* Путрышкі.

**ЧО́РНЫЯ ЛО́ЗЫ**. Вузкакалейка. *На тых днёх у Чо́рных ло́зах цяплаво́с перавярну́ўса. Гэ́дак там пазараста́ло, апхо́ччыке саўсім нічо́га ні глядзя́ць.* Табольская Будка.

**ШЭ́РА АЗЯРЦО́**. Невялікае возера. *Былі мы на тым Шэ́рым азярку́. Адно́ сло́ва, бало́та і сьмярдзіць бало́там.* Шынкаўцы.

**ШЭ́РЫ ВІР**. Месца на р. Нёман паблізу в. Сіўкава. *Ой, дзе́тка, стра́шна гэ́та ме́сца, сто́лькі ш там людзе́й патапіласо.* Сіўкава.

**ШЭ́РЫ ЛУГ**. Поле. *На Шэ́ры лух трактарэ́ наво́с цяга́юць, такі смуро́т у ве́сцы стаіць.* Путрышкі.

**ШЭ́РЫЯ КУПІ́НЫ**. Поле. *То́лькі ніда́ўно жжа́лі, а ўжэ ўсё зеляніць на Шэ́рых купінах.* Баяры.

### Літаратура


1. Ларин, Б. А. Проект древнерусского словаря (принципы, инструкции, источники) / Б. А. Ларин. – Ленинград: Изд-во АН СССР, 1936. – 180 с.
2. Быканова, В. И. Цвета пространства по данным английской топонимики / В. И. Быканова // Известия Российского государственного педагогического университета имени А. И. Герцена. – 2011. – № 131. – С. 124–131.
3. Луговая, Е. А. Этнолингвистическая информация в топонимах виртуального пространства с семантикой цветообозначений (на материале эпопеи Дж. Р. Р. Толкиена «Властелин колец» [Электронный ресурс]. – Режим доступа: www.superinf.ru/view_helpstud.php?id=4792. – Дата доступа: 01.07.2015.


## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*Вітаўт Тумаш*

# НАЗВЫ ЛЮДСКІХ СЯЛІБ ВІЛЕЙСКАЙ, ВІШНЯЎСКАЙ, ВОЙСТАМСКАЙ, ЖОЙДЗІШНАЙ ВОЛАСЦІ ВІЛЕЙСКАГА ПАВЕТА І СМУРГОНСКАЙ ВОЛАСЦІ АШМЯНСКАГА ПАВЕТА

(працяг публікацыі)

Падрыхтавала *Т. Аліферчык*

У зборніку навуковых прац «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні. Вып. 3» часткова былі апублікаваны архіўныя матэрыялы з лінгвістычнай спадчыны Вітаўта Тумаша. Уключаныя ў гэты выпуск матэрыялы дапаўняюць анамастычныя звесткі, сабраныя Вітаўтам Тумашам. Як і ў аўтара-збіральніка, яны падаюцца пад агульнай назвай, але гэта частка спадчыны ўяўляе сабой адметную анамастычную падборку і з'яўляецца самастойным працягам папярэдняй. Як і ў мінулым выданні, тут цалкам захоўваюцца характар і асаблівасці адлюстравання надрукаванай інфармацыі: акрамя тэксту, запісанага сучаснай беларускай арфаграфіяй, змяшчаецца аўтарскі арыгінал на беларускай лацінцы. Транслітараваныя запісы найменняў захоўваюць асаблівасці аўтэнтычных напісанняў.

З улікам адметнага лёсу прапанаваных чытачам матэрыялаў нагадаем гісторыю іх знаходкі, пра што паведамлялася ў мінулым выпуску выдання.

Матэрыялы Вітаўта Тумаша знайшоў у архіўных сховах Юрый Іосіфавіч Внуковіч, кандыдат гістарычных навук, загадчык сектара захавання фальклорнай спадчыны аддзела фальклору і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры.

Анамастычны матэрыял з'яўляўся часткай збораў Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які існаваў і ў міжваенныя гады. Цяпер анамастычная падборка захоўваецца ў Інстытуце літоўскай літаратуры і фальклору.

Збіранне матэрыялаў Вітаўт Тумаш (1910–1998) праводзіў у родных яму мясцінах – на Віленшчыне, дзе нарадзіўся ў в. Спягліца. Аўтар не меў спецыяльнай філалагічнай адукацыі. У пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля вучобу працягнуў у Медыцынскім універсітэце, які закончыў перад Другой сусветнай вайной з кваліфікацыяй «доктар медыцыны». Большую частку свайго жыцця правёў на чужыне, жыў у Нью-Ёрку, дзе стаў адным з заснавальнікаў і дырэктарам Беларускага Інстытута Мастацтва і Навукі[1].

Доктар па адукацыі, ён шмат зрабіў у галіне беларусазнаўства, асабліва Скарыніяны. Пра шырыню яго поглядаў сведчыць бібліяграфічны спіс, змешчаны ў выданні «Вітаўт Тумаш. Выбраныя працы» (Мінск, 2002). У паказальніку прац В. Тумаша назва гэтай анамастычнай падборкі не падаецца, не прыгадваецца таксама, што Вітаўт Тумаш займаўся збіраннем мясцовых найменняў.

Сёння для нас знаходка ўяўляе вялікую навукова-культурную нацыянальную каштоўнасць: яна з'яўляецца новым сведчаннем таго, якім чынам была арганізавана палявая праца па збіранні беларускамоўных матэрыялаў на заходніх абшарах Беларусі для стварэння акадэмічнага нацыянальнага слоўніка жывой беларускай мовы, праца над якім актыўна ажыццяўлялася ў Інстытуце беларускай культуры ў 20-х гадах XX ст.

Матэрыял,<br>сабраны Вітаўтам Тумашам, як водклік<br>на брашуру Брачыслава Скарыніча:<br>«Нашто і як зьбіраці географічныя<br>і асабовыя назовы беларускія?»,<br>выданую Бел. Студ. Саюзам<br>у Вільні, у 1931 годзе.

Вёска Сьпя́гліца, -цы, Вялейскага павету, Вішняўскай воласьці, 6 вёрст ад м-ка Вішнява, 7 в. ад м-ка Жодзішкі і 10 в. ад м-ка Войстама, пры гасьцінцы Войстам-Вішнява. Каля вёскі ёсьць маёнтак таго самога імені; прыкмета: сьпяглянскі.

Воды: **РАКÁ**, -í – мейсца, дзе некалі цякла рэчка, але цяпер яна заплыла балотам, і ўся некалішняя рэчка парасла травой, стала балоцістай сенажацьцю. Пасярэдзіне гэтага балота ўецца больш дрыгвістае мейсца – заплыўшае русло рэчкі, – яно завецца **Рача́ж**, -зі. Усё балота (Рака) маець спад на паўднёвы-ўсход у рэчку **Наро́ча**, -у, а на паўночны-захад у Вішняўскае возера. На вайсковых планох Рака абазначана як рэчка Сьпя́гліца.

**РУЧЭ́Й**, -ч'я́ – некалі плыўшы ручэй, а цяпер так называецца сенажаць знаходзячаяся над заплыўшым балотам ручаём.

**КУ́ДРА**, -ры – высыхаючы стаў.

**КУДРА́ВАЕ БАЛО́ТА** (блізка Ку́дры), **КРУ́ГЛАЕ БАЛО́ТА** (бо круглай формы), заплыўшыя зямлёй і парослыя травой і трастніком сажалкі-вазяркі.

Лес: (толькі дворны) **ВО́СТРАВА**, -а – нізкі сасновы лес з невялікай дамешкай ліставых дрэў;

**ДЗІЧ**, -á – нізкі, мокры лес, растуць там сосны і ёлкі. Часьць гэтага лесу выцягіваецца даўгім вузкім рукавом (паўвостравам) і маець асобны назоў – **Баро́к**, -á.

**ГРАДА́**, -ы́ – гарыстае мейсца, паросшае ляшчыннікам; на ім можна знайсьці сьляды нейкага старога магільніка.

Дарогі: **СЦЕ́НКА**, -і – польная дарожка, вядзець з вёскі да гасцінца Смаргоні–Вішнява.

Сенажаці:

На вясковым: **РАКÁ**, -í – балоцістая сенажаць на мейсцы цёкшай некалі рэчкі (называюць яе яшчэ проста балотам): сенажаць гэтая дзеліцца на шнуры: **СЯРЭ́ДНІЯ**, -ніх, бо ляжаць пасярэдзіне дзвёх іншых сенажацяў;

**МАСЦІ́ШЧА**, -а, бо каля яе быў некалі мост;

**КАЛО́ДЫ**, -д – упіраюцца ў лес. Шнуры менш балоцістай сенажаці: **ШНУР**, -á (Шнуры́, -о́ў);

[1] Напісанне ўласнай назвы адпавядае прынятай на Захадзе традыцыі.

Засьценкі, -нак, складаюцца з: а) **ГАНАШО́ВА**, -а, і б) **КУДРА́ЎКІ**, -авак; сушэйшы канец Засьце́нак называецца **ПАГУ́РАК**, -ка; другі канец, заросшы кустамі, найпрыдатны да касьбы, **САБА́ЧКІ**, -чак.

Шнуры мокрай сенажаці, абнятай двумя рукавамі лесу – **ДЗІЧА́**, завуцца: **ЛІСІ́ЧКІ**, -чак. Два вузенькія шнурочкі, да нядаўняга часу агульны выган, – **ШНУРКІ́**, -о́ў.

Мокрая сенажаць, канцы шнуроў на якіх знаходзяцца сялібы, – завецца: **АСЕ́ЛІЦА**, -цы; блізкая сенажаць пры гародах: **ПРЫАСЁЛКІ**, -каў.

**БЕРТАШЫ́ХА**, -і, – мокрая сенажаць-балота пасярод поля.

**ЛАМО́ЎЕ**[1], -я – сенажаць, паросшая кустамі (назоў паходзіць магчыма ад таго, што ніколі ня было добрага лесу, а лом).

**АЛЁХАВІЦЫ**[2], -віц, завуцца так магчыма таму, што апіраюцца ў алешнік.

**ПАДКА́МЕНЬ**, -мня[3], – кусок нядзелянай сенажаці. Назоў паходзіць ад ляжачага там вялікага камня.

**ГАРО́ДЧЫК**, -а, – клін агульнай сенажаці, паросшай алешнікам і наагул кустамі, іначай завецца яшчэ: **ЗІ́МНІК**, -а, **ВЫ́ГАН**, -а, – абгароджаная агульная сенажаць, дзе пасуцца вясковыя коні.

На дворным: **РУЧЭ́Й**, -ч'я́, – мокрая сенажаць на мейсцы цёкшага руч'я.

**СІКЛІ́ВІЦА**, -цы, – паросшая кустамі сенажаць. Назоў паходзіць ад слова сячы, бо ў час паншчызны там, па загаду пана, былі пасаджаныя адумыслова лозы, якімі секлі правініўшыхся мужыкоў.

Палі:

На вясковым: **3 НІ́ЎКІ**, -вак, – невялікія шнуры ў розных мяйсцох;

**2 ВУ́ЗЕНЬКІЯ**, -кіх, – вузкія шнуры ў розных мяйсцох;

**ЦЭ́РКВІШЧА**, -а;

**ЗАМО́ШНІЦЫ**, -ніц, – бо ляжаць на быўшым некалі мастом-грэбляй; **ЗАГУМЕ́НІЦЫ**, -ніц, – ворная часьць шнуроў, на каторых знаходзіцца сяліба; назоў паходзіць ад стаячых блізка гумнаў;

**ГАРО́ДЫ**, -даў, – маленькія шнуркі-гароды;

**ПЕ́РШЫ ШНУР** – бо першы ад вёскі;

**ЖАРСТВЯ́НКІ**, -нак, – назоў паходзіць ад слова жарства;

**ПАДДУ́БІХА**, -хі;

**ПАДДУБРО́ВІХА**, -хі, – адзін канец Паддубро́віх маець асобы назоў – **ХО́МЛІХА**, -хі;

**ШНУРО́К**, -ка́, бо маленькі;

**ПАДГА́ЙНІХА**, -хі, бо некалі была пад росшым там гаем;

**ЗА́КАЛІХА**, -хі;

**ЗАГРАДА́**, -ды́, – поле, што ляжыць за Градой.

На дворным: **ЛАГАВА́ТКІ**, -так, бо ў лозе.

Прыкмета: *сьпягля́нін*; *сьпягля́не*,- глянь.

Прозвішчы: 1 гаспадар БАГДЗЕ́ВІЧ, -а; 3 ДЫ́РЫ (Ды́ра, -ы); 1 КАБА́К, -ка; 3 ЛО́КЦІКІ (Ло́кцік, -а); 1 КАНАПЕ́ЛЬКА, -кі; 6 КАРВЯЛЁЎ (Карве́ль, -вяля́); 4 МУШЫ́НСКІЯ (Мушы́нскі, -кага); 6 РУКО́ЙЦІКАЎ (Руко́йцік, -ка); 4 ТУ́МАШЫ (Ту́маш, -а); 1 ША́РКА, -і; 1 ШЫПО́К, -пка́; 1 ШУЛЬЖЫ́ЦКІ, -кага.

З недалёкай вёскі па вайне перасяліўся яшчэ ЛЯШЧО́ВІЧ.

Бацькі: ДЫ́РА; КАБА́К, ЛО́КЦІК, КАНАПЕ́ЛЬКА, КАРВЕ́ЛЬ, МУШЫ́НСКІ, РУКО́ЙЦІК; ТУ́МАШ, ША́РКА, ШЫПО́К, ШУЛЬЖЫ́ЦКІ, БАГДЗЕ́ВІЧ.

Жонкі: КАБАЧЫ́ХА, ЛО́КЦІЧЫХА, КАНАПЕ́ЛЬЧЫХА, КАРВЯЛІ́ХА, МУШЫ́НСКАЯ, РУКО́ЙЦІХА, ША́РЧЫХА, ШЫПЧЫ́ХА, ШУЛЬЖЫ́ЦКАЯ, БАГДЗЕ́ВІЧЫХА.

Сыны: КАБАЧО́К, ШЫПО́ЧАК, РУКО́ЙЦІЧЫК.

Дочкі: ШЫПЧЫ́ШКА.

---

[1] Можа чуваць паміж ???

[2] Адз. лік «Алёхавіца».

[3] Мо кажуць «Подкаменя».

Мянушкі:

**БАЛЬШЫ́**, -шóга; **БЯЛÉЦКІ**, -кага; – мянушка паходзіць ад дзеда, каторы быў белы; **ХРАМÉЦ**, -мцá; **МАЦÓКА**, -і; **МАТРЭ́Н**, -на; **МАÉЎСКІ**, -кага; **ЯНШЧЫНЫ**; **НАВІ́К**, -á, – ці **ТАРАМБÁС**, -а;

**СТАЛЯРЫ́ХА**, -і; **СТРУК**, -á; **ШÁРКА**, -і; **ШУЛЬГÁ**, -í; **ПІЛІ́ПЧЫК**, -а; **ВАЎНЮ́К**, -á.

Бацькі: **НАВІ́К-ТАРАМБÁС, БАЛЬШЫ́, БЯЛÉЦКІ, ХРАМÉЦ, МАЦÓНКА, МАТРЭ́Н, МАÉЎСКІ, СТРУК, ШÁРКА, ШУЛЬГÁ, ПІЛІ́ПЧЫК, ВАЎНЮ́К**.

Жонкі: **НАВІЧЫ́ХА** ці **ТАРАМБÁСІХА, БАЛЬШЫ́ХА, БЯЛÉЧЧЫХА** або **БЯЛÉЦКАЯ, ХРАМЧЫ́ХА, МАЦÓНЧЫХА, МАТРЭ́НІХА, МАÉЎСКАЯ, СТРУЧЫ́ХА, ШÁРЧЫХА, ВАЎНЮЧЫ́ХА**.

Сыны: **НАВІЧÓК, СТРУЧÓК, ВАЎНЮЧÓК**.

Дочкі: **НАВІЧЫ́ШКА, ШÁРЧЫШКА, СТРУЧЫ́ШКА, ВАЎНЮЧЫ́ШКА, СТАЛЯРЫ́ШКА, ХРАМЧЫ́ШКА** або **ХРАМЧÁНКА**.

Апрача таго, надта часта цэлую сям'ю ці яе сяброў называюць ад імені бацькі, дзеда а часам і прадзеда, напр.: **ЯЗЭ́ПАВЫ** (па бацьку); **БАЎТРЎЦЬКАВЫ** (па дзеду); **ЦЫПРЫКÓВЫ** (па прадзеду); **ПРАНЦЮКÓВЫ** (па бацьку); **АНТУКÓВЫ, КАРАЛЁВЫ, СЦЯПÁНАВЫ** і іншыя.

Мужчынскія імёны: Адáм, -а (стары); Адóльф, -а, або Адóль, -я (сталы); Э́двард, -а, або Адвáрд, -а (дзяцюк); Альбíн, -а (дзяцюк); Аляксáндра, -ры (сталы); Антóсь, -ся (стары); Антóн, -а, або Антанёк, -танькá (дзяцюк); Брóнісь, -ся (сталы); Хвалíсь, -ся (стары); Франю́к, -á (сталы); Пранцю́к, -á (стары); Я́нка, -і; Я́сь, -ся (сталыя); Я́ська, -і (дзяцюк); Ю́стын, -а (стары); Казю́к, -á (дзяцюк); Кóля, -і, або Кóлячка, -і (хлапец); Кóстусь, -ся (сталы); Язэ́п, -а (стары); Юзю́к, -á (дзяцюк); Лявóн, -а (дзяцюк); Лю́бусь, -ся (дзяцюк); Міхáл, -а (стары); Міхáсь, -ся, або Мíшка, -кі (дзяцюк); Пятрýсь, -ся́ (стары); Салю́к, -á (стары); Стáсь, -ся (сталы); Влáдзя, -і, або Владзю́к, -á (дзяцюк); Вінцýк, -á (хлапец); Вінцýсь, -ся, або Вінцучóк, -чкá (хлопчык).

Памёршыя старыя: Баўтрýк, -á; Цыпрýк, -á; Яхíм, -а; Карóль, -раля́; Сцяпáн, -а.

Жаноцкія імёны: Альжбéта, -ы (сталая); Анýлька, -і (дзяўчына); Анéля, -і (сталая); Алéна, -ы (дзяўчынка); Антанíна, -ы; Антóся, -сі (сталыя); Брóня, -і (сталая); Фэ́ля, -і (сталая); Хвалíся, -сі (старая); Ганýся, -сі (сталая); Ядвíга, -і (сталая); Я́дзя, -і (дзяўчына); Юзэ́фа, -ы, або Юзэ́фка, -і (маладыя і старыя); Кастýся, -сі (старая); Карýся, -сі (старая); Марыля, -і (дзяўчына); Міхалíна, -ы (сталая); Міхалíнка, -і (дзяўчынка); Паўлíнка, -і (дзяўчына); Пятрýся, -сі (старыя і маладыя); Рýзя, -зі (сталая); Стáся, -сі (дзяўчына); Стэ́фка, -і (старыя і маладыя); Вэ́рця, -і (дзяўчына); Забэ́ля, -і (сталая); Забэ́лька, -і (маладая); Зóся, -сі (сталая).

Памёршыя: Луцэ́йка, -і; Настýля, -і; Рузю́тка, -і; Агáта, -ы.

Назовы кароваў: Палáсая; Палавáя; Рабáя; Ры́жая.

Сабакі: Гáлас; Рáбчык.

Materiał
sabrany Vitaŭtam Tumašam, jak vodklik
na brašuru Bračyslava Skaryniča:
«Našto i jak źbiraci hieohrafičnyja j asabovyja
nazovy biełaruskija?», vydanuju Bieł. Stud.
Sajuzam u Vilni, u 1931 hodzie.

Vioska Śpiahlica, -cy, Vialejskaha pavietu, Višniaŭskaj volaści; 6 viorst ad m-ka Višniava, 7 v. ad m-ka Žodziški i 10 v. ad m-ka Vojstama; pry haścincy Vojstam-Višniava. Kala vioski jość majontak taho samoha imieni; prykmieta: śpiahlànski.

Vody: Rakà, -ì – miejsca, dzie niekali ciakła rečka, ale ciaper jana zapłyła bałotam, i ŭsia niekališniaja rečka parasła travoj, stała bałocistaj sienažacciu. Pasiaredzinie hetaha bałota ŭjecca bolš dryhvistaje miejsca – zapłyŭšaje rusło rečki, – jano zaviecca račàž, -zi. Usio bałota (Rakà) maieć spad na paŭdniovy-ŭschod u rečku Naròča, -u, a na paŭnočny-zachad u Višniaŭskaje voziera. Na vajskovych płanoch Raka abaznačana jak rečka Śpiahlica.

Ručèj, -čjà – niekali płyŭšy ručèj, a ciapier tak nazyvajecca sienažać znachodziačajasia nad zapłyŭšym bałotam ručajom.

Kùdra, -ry – vysychajučy staŭ.

Kudràvaje Bałota (blizka Kùdry), Krùhlaje Bałota (bo kruhlaj formy), – zapłyŭšyja ziamloj i parosłyja travoj i trastnikom sažałki-vaziarki.

Les: (tolki dvorny) Vòstrava, -a – nizki sasnovy les z nievialikaj damieškaj listavych dreŭ; Dzìč, -à – nizki, mokry les, rastuć tam sosny i jołki. Ćaść hetaha lesu vyciahivajecca daŭhim vuzkim rukavom (paŭvostravam) i majeć asobny nazoŭ – Baròk, -à.

Hradà, -ý – harystaje miejsca, parosšaje laščyńnikam; na aim možna znajści ślady niejkaha staroha mahilnika.

Darohi: Ściènka, -i – polnaja darožka, viadzieć z vioski da haścinca Smarhoni-Višniava.

Sienažaci:

Na viaskovym: Rakà, -ì, – bałocistaja sienažać na miejscy ciokšaj niekali rečki (nazyvajuć jaje jašče prosta bałotam): sienažać hetaja dzielicca na šnury: Siarèdnija, -nich, bo lažać pasiaredzinie dźvioch inšych sienažaciaŭ;

Maścìšča, -a, bo kala jaje byŭ niekali most;

Kałòdy, -d – upirajucca ŭ les. Šnury mienš bałocistaj sienažaci: Šnùr, -à (Šnurý, -òŭ);

Zaścìenki, -nak, składajucca z: a) Hanašòva, -a, i b) Kudràŭki, -àvak; sušejšy kaniec Zaścìenak nazyvajecca: Pahùrak, -ka; druhi kaniec, zarosšy kustami, najprydatny da kaśby, – Sabàčki, -čak. Šnury mokraj sienažaci, abniataj dvumia rukavami lesu – Dzìča, – zavucca: Lisìčki, -čak. Dva vuzieńkija šnuročki, da niadaŭniaha času ahulny vyhan, – Šnurkì, -òŭ.

Mokraja sienažać, kancy šnuroŭ na jakich znachodziacca sialiby, – zaviecca: Asièlica, -cy; blizkaja sienažać pry harodach: Pryasiòłki, -kaŭ. Biertašýcha, -i, – mokraja sienažać-bałota pasiarod pola. Łamòŭje[1], -a – sienažać parosšaja kustami (nazoŭ pachodzić mahčyma ad taho, što nikoli nia było dobraha lesu, a łom). Alòchavicy[2], -vic, – zavucca tak mahčyma tamu, što apirajucca ŭ alešnik. Padkàmień, -mnia[3], – kusok niadzielanaj sienažaci. Nazoŭ pachodzić ad lažačaha tam vialikaha kamnia.

Haròdčyk, -a, – klin ahulnaj sienažaci, parosšaj alešnikam i naahuł kustami; inačaj zaviecca jašče: Zimnik, -a. Výhan, -a, – abharodžanaja ahulnaja sienažać, dzie pasucca viaskovyja koni.

Na dvornym: Ručèj, -čja, – mokraja sienažać na miejscy ciokšaha ručja. Siklìvica, -cy, – parosšaja kustami sienažać. Nazoŭ pachodzić ad słova siačý, bo ŭ čas panššyzny tam, pa zahadu pana, byli pasadžanyja adumysłova łozy, jakimi siekli praviniŭšychsia mužykoŭ.

Pali:

Na viaskovym: 3 Niŭki, -vak, – nievialikija šnury ŭ roznych miajscoch; 2 Vùzieńkija, -kich, – vuzkija šnury ŭ roznych miajscoch;

Cèrkvišča, -a; Zamòšnicy, -nic, bo lažac za byŭšym niekali mastom-hreblaj;

Zahumiènicy, -nic, – vornaja čaść šnuroŭ, na katorych znachodzicca sialiba; nazoŭ pachodzić ad stajačych blizka humnaŭ;

Haròdy, -daŭ, – maleńkija šnurki-harody; Pieršy Šnur – bo pieršy ad vioski;

Žarstviàńki, -nak, – nazoŭ pachodzić ad słova žarstvà; Paddùbicha, -chi;

Paddubròvicha, -chi, – adzin kaniec Paddubròvich majeć asoby nazoŭ – Chòmlicha, -chi;

Šnuròk, -kà, bo maleńki; Padhàjnicha, -chi, bo niekali była pad rossym tam hajem;

Zàkalicha, -chi; Zahradà, -dý, – pole, što lažyć za Hradòj.

Na dvornym: Łahavàtki, -tak, bo ŭ łozie.

Prykmieta: śpiahlànin; śpiahlànie, -hlàń.

Proźviščy: 1 haspadar Bahdzièvič, -a;

3 Dýry (Dýra, -y); 1 Kabàk, -ka;

3 Łòkciki (Łòkcik, -a);

1 Kanapièlka, -ki; 6 Karvialòŭ (Karvièl, -vialà);

4 Mušýnskija (Mušýnski, -kaha);

6 Rukòjcikaŭ (Rukòjcik, -ka);

4 Tùmašy (Tùmaš, -a);

1 Šàrka, -i; 1 Šypòk, -pkà; 1

Šulžycki, -kaha.

Z niedalokaj vioski pa vajnie pierasialiŭsia jašče Laščòvič.

Baćki: Dýra; Kabàk; Łòkcik; Kanapièlka; Karvièl; Mušýnski; Rukòjcik; Tùmaš; Šàrka; Šypòk; Šulžycki; Bahdzièvič.

Žonki: Kabačýcha, Łòkcičycha, Kanapièlčycha, Karvialìcha, Mušýnskaja, Rukòjcicha, Šàrčycha, Šypčýcha, Šulžyckaja, Bahdzièvičycha.

Syny: Kabačòk, Šypòčak, Rukòjcičyk.

Dočki: Šypčýška.

---

[1] Moža čuvać pamiž ???

[2] Adz. lik «Alòchavica»

[3] Mo kažuć «Podkamienia»

Mianuški: Balšý, -šòha;
Bialècki, -kaha; – mianuška pachodzić ad dzieda, katory byŭ biełу;
Chramièc, -mcà;
Macònka, -i; Matrèn, -na;
Majèŭski, -kaha; Jànščyny;
Navìk, -à, ci Tarambàs, -a; Stalarýcha, -i;
Struk, -à;
Šàrka, -i; Šulhà, -ì;
Pilìpčyk, -a;
Vaŭniùk, -à.

Baćki: Navìk-Tarambàs; Balšý; Bialècki; Chramièc; Macònka; Matrèn; Majèŭski; Struk; Šàrka; Šulhà; Pilìpčyk; Vaŭniùk.

Žonki: Navičýcha ci Tarambàsicha; Balšýcha; Bialèččycha abo Bialèckaja; Chramčýcha; Macònčycha; Matrènicha; Majèŭskaja; Stručýcha; Šàrčycha; Vaŭniučýcha.

Syny: Navičòk; Stručòk; Vaŭniučok.

Dočki: Navičýška; Šàrčyška; Stručýška; Vaŭniučýška; Balšýška; Stalarýška; Chramčýška abo Chramčànka;

Apračа taho, nadta časta całuju siamju, ci jaje siabroŭ nazyvajuć ad imieni baćki, dzieda a časam i pradzieda, napr.: Jasèpavy (pa baćku); Baŭtrùćkavy (pa dziedu); Cyprykòvy (pa pradziedu); Pranciukòvy (pa baćku); Antukòvy, Karalòvy, Ściapànavy i inšyja.

Mužčynskija imiony: Adàm, -a (stary); Adòlf, -a, abo Adòl, -a (stały); Èdvard, -a, abo Advàrd, -a (dziaciuk); Albìn, -a (dziaciuk); Alaksàndra, -ry (stały); Antòś, -sia (stary); Antòn, -a, abo Antaniòk, -tańkà (dziaciuk); Bròniś, -sia (stały); Chvalìś, -sia (stary); Franùk, -à (stały); Pranciùk, -à (stary); Jànka, -i; Jàś, -sia (stałyja); Jàśka, -i (dziaciuk); Jùstyn, -a (stary); Kaziùk, -à (dziaciuk); Kòla, -i, abo Kòlačka, -i (chłapiec); Kòstuś, -sia (stały); Jazèp, -a (stary); Juziùk, -à (dziaciuk); Lavòn, -a (dziaciuk); Lùbuś, -sia (dziaciuk); Michàł, -a (stary); Michàś, -sia, abo Mìška, -ki (dziaciuk); Piatrùś, -sià (stary); Stalùk, -à (stary); Stàś, -sia (stały); Vłàdzia, -i, abo Vładziùk, -à (dziaciuk); Vincùk, -à (chłapiec); Vìncuś, -sia, abo Vincučòk, -čkà (chłopčyk).

Pamioršyja staryja: Baŭtrùk, -à; Cyprùk, -à; Jachìm, -a; Karòl, -ralà; Ściapàn, -a.

Žanockija imiony: Alžbièta, -y (stałaja); Anùlka, -i (dziaŭčyna); Anièla, -i (stałaja); Alèna, -y (dziaŭčynka); Antanìna, -y; Antòsia, -si (stałyja); Brònia, -i (stałaja); Fèla, -i (dziaŭčyna); Chvalìsia, -si (staraja); Hanùsia, -si (stałaja); Jadvìha, -i (stałaja); Jàdzia, -i (dziaŭčyna); Juzèfa, -y, abo Juzèfka, -i (maładyja i staryja); Kastùsia, -si (staraja); Karùsia, -si (staraja); Marýla, -i (dziaŭčyna); Michalìna, -y (stałaja); Michalìnka, -i (dziaŭčynka); Paŭlinka, -i (dziaŭčyna); Piatrùsia, -si (staryja i maładyja); Rùzia, -zi (stałaja); Stàsia, -si (dziaŭčyna); Stèfka, -i (staryja i maładyja); Vèrcia, -i (dziaŭčyna); Zabèla, -i (stałaja); Zabèlka, -i (maładaja); Zòsia, -si (stałaja).

Pamioršyja: Łucèjka, -i; Nastùla, -i; Ruziùtka, -i; Ahàta, -y;

Nazovy karovaŭ: Padłàsaja; Pałavàja; Rabàja; Rýžaja.

Sabaki: Hàłas; Ràbčyk.

# ФРАЗЕАЛОГІЯ, ПАРЭМІЯЛОГІЯ

*М. А. Даніловіч*

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ З КАМПАНЕТАМ *БОГ*

У часы бальшавіцкага атэізму ў рэспубліках Савецкага Саюза праводзілася рашучая барацьба з рэлігіяй ва ўсіх сферах, у тым ліку і ў мовазнаўстве. Да прыкладу, назіралася тэндэнцыя абмежавання рэлігійнай лексікі ў слоўніках. Цэнзура адсочвала, каб у слоўнікі менш пранікалі «божыя» словы і выразы. Па гэтай прычыне ў лексікаграфічныя і фразеаграфічныя працы XX ст. не трапілі многія фразеалагізмы са словам *Бог*. Гэта падборка – спроба сістэмнай прэзентацыі фразеалагізмаў з кампапентам *Бог*, што бытуюць на Гродзеншчыне. Падаюцца і агульнанародныя, і рэгіянальныя фразеалагізмы, запісаныя непасрэдна аўтарам ад носьбітаў гаворак, а таксама выпісаныя з розных дыялекталагічных крыніц, што адлюстроўваюць гаворкі пераважна Гродзенскага рэгіёна. Мы прынцыпова прытрымліваемся напісання слова *Бог* у складзе фразеалагізмаў з вялікай літары, так, як гэта ёсць у пісьмовых мовах розных народаў свету, кіруючыся наступным правілам. Калі кампанент *Бог* сімвалізуе адну вярхоўную істоту, што стварыла свет, і не суадносіцца ні з якім іншым богам ці багамі, то яго трэба пісаць у фразеалагізмах і стылістычна нейтральных, і кніжных, і размоўных, і прастамоўных, і дыялектных з вялікай літары. Адпаведна гэтаму ў абсалютнай большасці фразеалагізмаў слова *Бог* трэба перадаваць на пісьме з вялікай літары. Выключэннем будуць нешматлікія фразеалагізмы, дзе фігуруе нейкі іншы бог ці багі, тыпу *пабачыцца з шкляным богам, бог вайны, двум багам маліцца, хай яго багі.* Пры фразеалагізмах з канструкцыйна абмежаваным значэннем даецца паказчык іх абавязковай граматычнай сувязі з пэўнымі словаформамі: Бог асцярог *каго.* Фразеалагізмы з валентна абмежаваным значэннем суправаджаюцца вылучаным курсівам словам, без якога яны не ўжываюцца: напрамілы Бог *прасіць*, як Бог пахіляе *жыць.* Выкарыстаны алфавітна-гнездавы спосаб падачы фразеалагізмаў. Загалоўкам гнязда выступае пэўная форма слова *Бог*, пад якой у алфавітным парадку па першым кампаненце прыводзяцца ўсе фразеалагізмы з гэтай словаформай. Пасля кожнага ілюстрацыйнага прыкладу ідзе пашпартызацыя. Калі прыклад узяты з нашай асабістай картатэкі, то ў пашпартызацыі ўказваецца толькі вёска і раён. Калі падаецца прыклад з апублікаванай крыніцы, то акрамя назвы вёскі і раёна ён суправаджаюцца ў дужках яшчэ скарочанай назвай крыніцы і лічбавай нумарацыяй старонкі, з якой выпісаны прыклад.

**БАГІ**

ХАЙ ЯГÓ БАГÍ *выкл.* Выказванне перасцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Не прасіся лепш Ахрóму – дасьць па кáрку і налóміць, такí страгí, хай ягó багí.* Эйтуны Лід. (Хрэстаматыя 2007, 232).

**БОГ**

АДЗÍН БОГ ДАГЛЯДÁЕ *каго.* Хто-н. не мае ніякой падтрымкі з боку іншых. *Цяпéр жывý аднá. Дзéці прыдуць, паглянуць і пóйдуць, адзін Бох даглядáе.* Улезлы Ваўк.

АДЗÍН БОГ І СВЯТÁЯ КАРЧМÁ ВÉДАЕ. Нікому невядома. *А як там бýдзя далéй, адзін Бог і сьвятáя карчмá вéдая.* Гродна Гродз.

ÁНІ ТВОЙ БОГ. Ніяк, зусім. *Аля ш нічóго ні стаў есьць, áні твой Бох.* Бабіна Гродз.

БАРАНÍ БОГ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі, адмаўлення ад чаго-н. непажаданага. *Бараní Бóг, каб паспрабавáў даўнéй хто закасíць, па галавé п палучыў.* Чэхі Астр. (Мат. Гродз., 174).

БОГ АБДАРЫ́Ў *каго.* Хто-н. валодае якімі-н. якасцямі, уласцівасцямі. *Мяне яшчэ Бох абдарыў, што я былá двайня́ткай. Éсьлі ýтрам перайдý камý дарогý – павязёт.* Шчучын Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 490).

БОГ АСЦЯРÓГ *каго.* Нічога дрэннага не здарылася з кім-н. *Як дагнáлі, то зьéлі ўсягó, тóлькі нóгі ў бóтах асталíся. А яé Бох асьцярóх за тóя, што анéлачка не кíнула.* Пелкаўшчына Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 239).

БОГ ВАДÝ ВЯЗÉ. Дажджлівае, з грымотамі і маланкай надвор'е. *Што на вýліцы рóбіцца! Бог вóду вязé, па гýліцы рэчкі цякýць.* Алекшыцы Бераст.

БОГ ВÉДА<-Е> (ЗНÁЕ). Невядома (што, які, куды, колькі і інш.). *А як маладыя, дык цяпéр Бог вéдае, кудыя янý éзьдзяць.* Кальчычы Карэл. (Хрэстаматыя 2009, 196). *Бог вéдае, кóлькі той сьнег ляжáць бýдзе.*

Руда Яварская Дзятл. *На вясе́льле пае́халі мы расьпісвацца, дык і ко́льцаў не было́ ў нас, а цяпе́рака ж трэ́ба й ко́льца. Бох зна́я, што шчэ з-за мно́ю бу́дзя.* Мікелеўшчына Маст. *Ле́ты былі́ гара́чыя. Бох ве́да, яка́я гарачыня́ стаіць.* Волькавічы Ашм. (Хрэстаматыя 2007, 115).

БОГ ДАЎ. 1. Як на шчасце. *Гадава́нё было́ цяжо́лае, але Бох даў павырастáлі ўсé.* Навасёлкі Зэльв. (Хрэстаматыя 2007, 71). *Але ш даў Бог дзе́ткі харо́шыя. І памага́лі заўсе́ды, і стыд мы за іх не ме́лі.* Мардасы Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 49). *Алí ш нічо́га, дзе́цi і памага́лі анно́ аннаму́. Даў Бох, усé ў лю́дзі вы́йшлі.* Пескі Маст. (Хрэстаматыя 2007, 152). 2. Прыйшлося, давялося. *Але́ ш зусім Бог пажы́ць даў: пяць брато́чкаў ужэ́ ўмерло́, а тро́ё шчэ як ма́цi жыва́я была́, з гэ́тага го́ра яна́ й асьле́пла.* Навасёлкі Зэльв. (Хрэстаматыя 2007, 71). 3. *каму чаго, каму каго.* Хто-н. валодае чым-н., кім-н., мае што-н., каго-н. *До́бра, што яму́ ро́зуму Бог даў.* Руда Яварская Дзятл. *От ёй Бох і даў шчасьлі́вую до́лю тэ́рас, а тады́ дава́лі дзя́лкі нам на сенажа́ці.* Янапаль Воран. (Хрэстаматыя 2007, 151). *Сваíх дзято́к Бох ні даў на́шай ма́часі. Пра́ўда, былí, але мале́нькія паўміра́лі.* Шыганы Слон. (Хрэстаматыя 2007, 69). *А быў адзі́н гаспада́р. Ён ні ме́ў сваíх дзе́так, яму́ Бох ні даў мець сваíх дзе́так.* Дружная Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 184).

БОГ ДЗЕ́РЖЫЦЬ *каго.* Хто-н. жыве. *А целяфо́н для таго́, ду́маю, дале́зу, хоць ско́рую вы́заву. Але мо́жа Бох яшчэ́ мяне́ дзяржы́ць, за то́, што я любо́му чалаве́ку зла ні ду́маю і хачу́ памо́ч.* Шчучын Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 489).

БОГ ЁСЦЬ *на што.* Што-н. вырашаецца незалежна ад волі каго-н., так, як наканавана лёсам. *Ну чаго́ ты Га́ньця грызе́ся, хай яна́ сабе́ брэ́ша, вот пакрычы́ць і пераста́ня, на гэ́та Бох ёсьць.* Навасяды Ашм.

БОГ ЖЫВЕ́ *ў ха́це. Адабр.* 1. Усё добра, згода, лад і парадак. *Гэ́то як мі́рна ў ха́це жы́зьня, ні сва́рацца, ні б'ю́цца, то ка́жуць: вайдзі ў ха́ту, то ў гэ́тай ха́це Бог жыве́.* Ваўкавічы Навагр. *У іхняй ха́це ўсё до́бра, і дзе́ці до́брыя, пара́дак, Бог жыве́.* Капцёўка Гродз. 2. Вельмі цёпла, утульна. *У гэ́тай ха́це хоць Бог жыве́ць, а ў тэ́й така́я дубары́на.* Косцевічы Астр.

БОГ З ІМ *выкл.* Няхай будзе так. *Прыду́, то ўжо спыта́я, ці вы́гаварылася, пакрычы́ць. Але Бох зь ім. Ве́даеш, Га́нька, у ха́це адно́й то́жа дрэ́нна.* Віганцы Воран. (Хрэстаматыя 2007, 154).

БОГ ЗНА́Е ШТО. Штосьці надзвычайнае. *А я пры сі́льнуй жарэ́ ду́маў Бох зна́я што́.* Мікелеўшчына Маст. (Хромчанка, 115).

БОГ МІ́ЛАВАЎ. Нічога дрэннага не здарылася. *Бог мі́лаваў, хоць да ха́ты до́бра дайшлі́.* Руда Яварская Дзятл.

БОГ МОЙ *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *І тут жа ле́сам, такі́ густы́, і, Бох мой, ні зна́ю ні ве́даю, чорт яго́ зна́е, хадзі́ла.* Уселюб Навагр. (Хрэстаматыя 2007, 82).

БОГ НЕ АБДЗЯЛІ́Ў *каго чым.* Хто-н. адораны якімі-н. якасцямі, уласцівасцямі. *Быў я малады́м, ла́дным: во́лас курча́вы, ро́стам Бог не абдзялíў.* Шлавенцы Воран.

БОГ ПАЛА́ТКІ МЯЦЕ́ (ЗМЯТА́Е). Снежнае надвор'е з мяцеліцай, завірухай. *А на ву́ліцы Бог пала́ткі мяце́. Ужэ́ до́бра патсы́пала.* Алекшыцы Бераст. *Але ш сы́пля сяго́ньня сьне́г, як зь мяха́, Бох пала́ткі зьмята́я.* Альхоўка Навагр. (Мат. Гродз., 461).

БОГ ПАМІ́ЛАВАЎ *каго.* Нічога дрэннага не здарылася з кім-н. *Усíх зь ве́скі на́шай Бох памíлваў, усе́ засталíся жывы́я.* Місявічы Воран.

БОГ ПАСЛА́Ў *каму што.* Пашчасціла мець каму-н. што-н. *Ну як Бох пасла́ў здаро́ўя, о́т усё яшчэ пака́ жыву́.* Бяляўшчына Ваўк.

БОГ ПРЫНЁС *каго куды.* Хто-н. прыйшоў куды-н. *Як во́кам сьцяць лес шумі́ць. «Куды́ ж нас Бох прынёс?» – каза́ў адзі́н.* Хадзілоні Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 223).

БОГ РО́ЗУМ АДАБРА́Ў *у каго. асудж.* Хто-н. паводзіць сябе неразумна. *І жо́нка, і дзе́ці, а яму́ ўсё ро́ўна: п'е без граха́ – Бох ро́зум адабра́ў.* Пераганцы Воран. *У яго́ сям'я́, а ён п'е. Бог ро́зум адабра́ў.* Капцёўка Гродз.

БОГ СКАРА́Ў *каго.* Хто-н. нешчаслівы, трапіў у цяжкае становішча. *Во́сем лет с палаві́наю параліз́о́ваны быў. Я кажу́: «От так, цябе́ Бох скара́ў».* Шчучын Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 489).

БОГ СТАЯ́Ў *каля каго.* На шчасце, нічога дрэннага не здарылася з кім-н., скончылася добра, пашанцавала. *Я ўзе́ў до́бры камушо́к, гэ́та паткраду́ся, дам гэ́тай су́цы. Як доў, а там ні су́ка, а Шыму́к. Е́нчыўе́нчыў бе́дны, а я яму́ ў лэб з усяе́ сі́лы. Гэ́та Бох стая́ў, што не забíў.* Амбілеўцы Шчуч.

БОГ ХАВА́Е *каго.* Жыве хто-н., жывецца каму-н. – *Здаро́ў! Што чува́ць? Як Бох хава́е? – Нічо́га, дзя́куй Бо́гу.* Моцевічы Лід.

БОГ ЯГО́ (ЯЕ́, ІХ) ВЕ́ДАЕ (ЗНА́Е). Невядома. *Бох яго́ ве́дае, куды́ ён пайшо́ў.* Уселюб Навагр. *А Бог яго́ зна́е, чаго́ так вы́йшла.* Гірдаўка Навагр. *А цяпе́р мая́ ўну́чка ішла́, дык Бог яго́ ве́дае, што та́мака.* Кальчычы Карэл. (Хрэстаматыя 2009, 202). *Усе́ пастарэ́лі, ужо́ ма́ла нас асталóся ў Я́твезі, ужо́ не́шта ўсё аджыва́ецца, Бох яго́ ве́дае.* Ятвезь Карэл. (Хрэстаматыя 2009, 204). *А што там за «анту́х», а Бох яго́ ве́дая. Аля акура́тныя былі́, нічо́га благо́га ні рабі́лі.* Вялікія Яцыны Астр. (Хрэстаматыя 2007, 147). *Дзе та́я Ту́р'я, Бог яе́ зна́е.* Буйнічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 469). *А Бог яго́ зна́е, дзе́ ён учо́ра быў.* Малахавічы Гродз.

БОГ ЯГО́ ЗДУ́МАЕ. Цяжка ўспомніць. *Ой дзе́ткі мае́, Бог яго́ зду́мае, калі гэ́та было́.* Капці Дзятл.

БРАНІ́ БОГ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Брані́ Бог вайна́, забіва́лі п, като́рыя ме́рлі п, бо го́лат.* Поліпніца Воран.

ДАЙ БОГ. 1. *выкл.* Выказванне пажадання чаго-н. каму-н. *Дай Бох ме́лі вы што гна́ць. Гэ́та вып'ю – пайду́ спаць.* Голдава Лід. (Хрэстаматыя 2007, 233). *І кажу́: «Сьве́нты Андрэ́ю, кано́плі се́ю, дай Бох сасьні́ць, с кім бу́ду жыць».* Геранёны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 11). *Дай Бох шча́сьця, до́брую до́лю. А до́б-*

*рая доля ўсё ад Бога.* Петрымаўшчына Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 109). *Дай Бох, штоп такога гора ні зналі, як я ўсё пеержылá на сьвецi.* Багушоўка Гродз. (Хрэстаматыя 2007, 46). *Дай Бох, кап у іх усё добра было.* Лаздуны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 109). *Згодне жыюць па васэлі, дай Бог, каб і далей так ішло.* Перавознікі Астр. (Н. сл-сць, 280). *Дай вам Бог здаровячка, дзеткі.* Ваўкавічы Навагр. *Дай Бог, штоб сышлá зь яе грыжа.* Едначы Слон. (Хрэстаматыя 2009, 457). 2. Вельмі вялікі. *Ні напасціся яды адной, а яшчэ ж адзець, абуць трэба – сямейка дай Бог.* Чамяры Слон. (ЖНшС, 182).

ДАСЦЬ БОГ 1. *што.* Пашчасціць займець што-н. *Ціпер маладыя на сваю галаву ўсяго панарабляюць. Дасьць Бох добру галоўку, то паскручваюць.* Пескі Маст. (Хрэстаматыя 2007, 151). 2. *пабочн.* Калі пашчасціць, калі пашанцуе. *Так, дзеткі, вы дачакаецеся, дасьць Бох, старэйшых гаткоў, будзеце самыя маткамі.* Астрына Шчуч. (ЛКГ, 156). *Пятага ліпца залатое вясёлле будзя, калі дажывём. Дасьць Бох.* Рыча Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 51). *Алі мо дасьць Бох палепшае трохі ў нашым сьвеці.* Вялікае Сяло Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 15).

ДАЙ БОГ НЕБА *каму. выкл.* Выказванне добрай памяці пра нябожчыка. *Таточка, дай Бох яму неба, добры быў, але рана пайшоў на той сьвет.* Янапаль Воран. *А дзет мой, дай Бох яму неба, рабацяшчы быў, алі ш дзе што ні так, ні па-ягонаму, ту зразу крычаў.* Янапаль Воран. (Хрэстаматыя 2007, 150).

ЗА МІЛЫ БОГ 1. З вялікай ахвотай, з прыемнасцю (зрабіць што-н.). – *Зробіш мне адно добрае дзела? – За мілы Бох, табе што хочаш зраблю.* Малая Бераставіца Бераст. 2. Вельмі шчыра і настойліва (прасіць). *Я цябе за мілы Бог прашу, ні кажы нікому пра гэта.* Алекшыцы Бераст.

ЗРАБІЎ БОГ *каго* І ГОРКА ЗАПЛАКАЎ *асудж.* Хто-н. дрэнны, нехарошы. *Што ты за чалавек! Адкуль ты такі ўзяўся?! Мусі, зрабіў цібе Бох і горка заплакаў.* Ёдкі Лід.

КАБ ЦЯБЕ БОГ ЛЮБІЎ *выкл.* Незласлівае ўшчуванне каго-, чаго-н. *А, кап цібе Бох любіў, як ты мне надаела сваімі распросамі.* Бабіна Гродз. *Но, Машка, кап цябе Бох любіў! Но баразной!* Косцевічы Астр. *Эх марос-марос. Хопіць ужо да нас лесьці, кап цябе Бох любіў.* Суботнікі Іўеў.

НАПРАМІЛЫ БОГ *прасіць.* Вельмі шчыра і настойліва. *Чалавек напрамілы Бог прасіў яго падвясьці.* Хілякі Бераст. *Прадай ты мне гэтыя боты, прашу напрамілы Бог.* Ліпнішкі Іўеў. *Яна напрамілы Бог прасіла памагчы.* Шылавічы Слон.

НЕ БОГ ВЕДАЕ ШТО. Не вельмі значны, не асабліва важны. *Так ужо ні пяражывай. Прапала, ну й прапала – ні Бох ведае што.* Міхайлаўшчына Ашм.

НЕ ДАЙ БОГ *выкл.* 1. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Сама страшна дзетак сваіх лажыць у зямельку. Не дай Бох каму пеража́ыць такое.* Янапаль Воран. (Хрэстаматыя 2007, 151). *Ні дай Бох такога жыцця, як дасталося мне й маім сястрэ й брату.* Шыганы Слон. (Хрэстаматыя 2007, 69). *Людзі ўсе хавалі такоя, што з адзеньня, грошы. Помню, мы таксама за хатай куфар закапалі свой, кап ні згарэла ні дай Бох.* Ганчары Лід. (Хрэстаматыя 2007, 91). *І я ўсім кажу – не дай Бог нікому гэтай вайны.* Воля-Крупіцы Маст. 2. Выказванне ацэнкі, характарыстыкі чаго-н. з боку сілы, ступені і пад. *Чаго ты рэмзаеш? Такі ты рэмзьлівы мой унучак, што ні дай Бох.* Пескі Маст. (Сл. Гродз., 419).

НЕ ДАЙ БОГ НЕ СУДЗІ *выкл.* Выказванне ацэнкі, характарыстыкі чаго-н. з боку сілы, ступені і пад. *Во ўжо гора людзям – не дай Бог не судзі.* Руда Яварская Дзятл.

НЕ ПРЫВЯДЗІ БОГ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Ні прывядзі Бох, дзеткі, бачыць вам тое, што бачылі мы.* Пальніца Гродз.

НЯХАЙ БОГ КРЫЕ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Няхай Бог крыя, яг град усё пасячэ, у нас адзін год жыто град пасьсякаў.* Куклікі Воран. (Мат. Гродз., 126).

НЯХАЙ САМ БОГ БАЧЫЦЬ *выкл.* Выказванне катэгарычнага нежадання бачыць што-н., быць сведкам чаго-н. *Я гас выключыла, схапіла анучу, узяла гэты саган і вынясла. Як я яго аткрыла, так там ня поймяш што: пер'ё, мясо, вантробы, лапы. Няхай сам Бог бачыць!* Пагарэлка Карэл. (Хрэстаматыя 2007, 86).

ПАМАГАЙ БОГ *выкл.* Выказванне пажадання поспеху, удачы ў працы, у якой-н. справе. *Жнучы, сьпяваем і ні чуем, што дзіця плача. Прыйшоў да нас Мішутачка: «Памагай Бох, малодушкі! Чаго тваё дзіця плача, мусі, яно есьці хоча?»* Замасцяны Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 53).

ХАЙ БОГ АБНОСІЦЬ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Як ужэ іх бяда за бядою насьцягая, то хай Бог абносіць.* Занкі Свісл.

ХАЙ БОГ АДВАРОЧВАЕ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Гэта ш хай Бох адварочвая, кап усе такія дзеці распусныя былі.* Красляны Шчуч. *У мужыка так нага спухла, што хай Бох адварочвая.* Уселюб Навагр.

ХАЙ БОГ АДХІЛЯЕ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Як я змучылася за гэту дарогу, та хай Бог атхіляя, ні расказаць!* Бабіна Гродз.

ХАЙ БОГ БАРОНІЦЬ <*каго, чаго, ад каго, ад чаго*> *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, непрыемнага. *Страху было даволі. Хай Бог бароніць гэдыкага страху!* Лазы Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 21). *Завядуць на ток, разьдзенуць нагола і бізунуюць. Скінуць штаны, скінуць сарочку, усё скідай і лажыся на ток. А там только як цапамі якімі, аш німожна гаварыць, хай Бог бароніць як.* Сухары Гродз. *Аля твой сын і прэнтка езьдзіць, што хай Бог бароніць.* Пеляса Воран. *Як мне цяшка было жыць са сьвякрухай, то хай Бог бароніць.* Зэльва Зэльв. *Хай Бох бароніць мяне ат такой нявестухны.* Краглі Дзятл. *Хай Бог бароніць ад гэтага дажджу! Трэба ж дацярабіць буракі, каб ні заставаліся на ноч.* Пагра-

нічны Бераст. *Ні хачý я такóго шчáсьця, хай Бох барóніць!* Мацвееўцы Ваўк. *Ах, Бóжа мой, Бóжа! Якáя бядá ў Тáні Валюшкавай. Пакінулі дзéці малóго ў яé, а той у кіпятóк улéс. Зáрас дзіцё ў бóльніцы, а тáя рве на сабé валасы́, што ні даглéдзіла. Хай Бох барóніць!* Лунна Маст. *Хай Бог барóніць мяне ад гэ́ткай напáсьці.* Уселюб Навагр.

ХАЙ БОГ ДАЕ́ *каму што. выкл.* Выказванне пажадання поспеху, добрага зыходу. *Я ні шкадýю яé, хай Бог даé ім што найлéпей, бо я ўжэ ні дáла б рáды, цяшко, ужэ вядрó вады́ лéдво ад стýдні прынясý для сібé.* Ліцвінкі Гродз. (Хрэстаматыя 2007, 41).

ХАЙ БОГ КРЫ́Е (КРЭ́Е) *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Усё былó і ўсё прайшлó. Цяпéр тóлькі п'яніцы валяюцца. Перавярнýлася ўсё на сьвéце. Хай Бох кры́я!* Старынцы Бераст. *А мáтку яé забрáлі і забілі. Хай Бох кры́е.* Лявонавічы Дзятл. (Хрэстаматыя 2007, 219). *Такáя азы́ра на дварэ́, азы́ра сёньня, хай Бох кры́я.* Парачаны Лід. (Сл. Гродз., 30). *Хай Бог кры́е быць такім чалавéкам, як ён.* Яблынька Дзятл. *Хай Бог кры́е нас ад лаваты́ такóй.* Капці Дзятл. *Адзявáць, абувáць ні былó чагó ні ў кóго, усé гóлые і бóсые. У нас тóжа жытýха былá, хай Бог кры́е, лю́дзі!* Зэльва Зэльв. (Хрэстаматыя 2009, 452). *Усё нéкія сакрэ́ты, а хай Бог кры́я...* Чамяры Слон. (НЛ, 60). *Гэ́та ш Галíна малáя чуць пат машы́ну ні папáла, хай Бог крэ́е.* Уселюб Навагр. *У нас тут пóле былó, тры́ста чалавéк вы́білі нéмцы, хай Бог крэ́я такóга гóра.* Руда Яварская Дзятл.

ХАЙ БОГ КРЫ́Е-РАТУ́Е *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Ні вéдаю, чамý гэ́та ў ксёнжках ці ун па цілівізару так стрáшна, а хай Бох кры́я-ратýя, пра нéмцаў гавóраць. А да нас пры́шлі ў вёску, нічóга ні трóгалі, ты́лька éсьці ўсё прасілі.* Янапаль Воран. (Хрэстаматыя 2007, 150).

ХАЙ ЯГÓ БОГ ЛЮ́БІЦЬ *выкл.* Выказванне згоды, уступкі. *Няхáй бýдзя так. Ой, што ты ягó чапáяш, хай ягó Бох лю́біць.* Мардасы Шчуч.

ШТО БОГ ДАСЦЬ. Тое, што здарыцца, што прыйдзецца. *Што Бог дасьць, тóе і бýдзе.* Шылавічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 462). *Я таксáма хачý, кап паступáлі ў вы́шая абразавáньня, канéшне, што Бог дась, але ўсярóўна.* Ардашы Смарг. (ЛКГ, 138).

ЯК БОГ ДА́СЦЬ (ДАЎ). Як здарыцца, як прыйдзецца. *Як нам, стары́м, то й дóсыць, гэ́то вам малады́м трэ́ба жыць хóрашо. А нам ужó як Бох дасьць.* Любча Навагр. (Хрэстаматыя 2007, 77). *Як Бог дасьць, так янó і бýдзе.* Няверавічы Ваўк. *І вот мы ўсе сабірáліса прасьць па вóчарадзі, па ты́дню, у кóжную хáту, дзе былá дзéўка ў хáце. Прасьць як Бох даў. Прыхóдзілі кавалéры, сьпявáлі, танцавáлі.* Парэчча Гродз.

ЯК БОГ ПАХІЛЯ́Е *жыць.* Як наканавана лёсам. *Як Бох пахіляя, так і жывýць.* Руда Яварская Дзятл.

**БÓГА**

БÓГА ГНЯВІ́ЦЬ ДЫ ЛЮДЗÉЙ СМЯШЫ́ЦЬ *асудж.* Рабіць што-н. кепскае. *Вон, гарý, падляцы́! Пры́шлі Бóга гнявіць ды людзéй сьмяшы́ць! І прагнáла п'яніцаў.* Індура Гродз.

БÓГА НЯМÁ *ў каго. асудж.* Хто-н. з'яўляецца нявернікам. *А ціпéр маладзéш зусім ні ў што ні вéрыць, у ягó Бóга німá.* Правыя Масты Маст. (Хрэстаматыя 2007, 146).

БÓГА ПРАСІ́ЦЬ. Быць удзячным лёсу. *Шкадýю самá сябé і сваé даўнéйшыя лéта, што тады́ гаравáла, а цяпéр жы́зьня дóбра, свабóда: сьпі, ляжы́ і Бóга прасі.* Талькаўцы Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 236).

ДА БÓГА ДУШÓЮ *не вінаваты.* Зусім, абсалютна, ні ў чым. *Я да Бóга душóю ні вінавáты, чагó ты на міне́ злýеш.* Замасцяны Шчуч.

ДАБÉГЛЫ ДА БÓГА ЯК ДЗЯЛІ́Ў *адабр.* Вельмі разумны, удалы. *Алі ш ты і маладзéц, усё ты вéдаяш, ты мýсі дабéглы да Бóга як дзялíў.* Хадзілоні Шчуч.

ЖЫВЫ́М ДА БÓГА ЛÉЗЦІ. Пакутаваць ад нясцерпнага фізічнага болю. *Конь, ліха яму́, мне на нагý быў наступíў, то жывáя да Бóга лéзла, так ужэ́ балéло.* Ваўкавічы Навагр.

І БÓГА ЗАБЫ́ЦЬ *пайсці.* Доўга не вяртацца адкуль-н. *Але ш і лáзіць нéдзі, пайшлá і Бóга забы́ла, і дахáты ёй ужэ́ ні трэ́ба.* Варонча Карэл.

МÉЦЬ БÓГА ЗА ПÁЗУХАЙ. Быць лаяльным, спагадлівым, чулым да каго-н. *Што ты такóя кáжаш! Май Бóга за пáзухай.* Гудзевічы Маст. *Хто мáе Бóга за пáзухай, мо шчаслівéйшы, чым я.* Талькаўцы Ваўк.

МЕЦЬ БÓГА Ў ЖЫВАЦÉ. Быць лаяльным, спагадлівым, чулым да каго-н. *Ну чагó ты свáрыся на мяне? Не чапíся, май ты Бóга ў жывацé!* Пячоўшчына Валож. *Не бі ягó, май ты Бóга ў жывацé! Ён яшчэ́ малéнькі.* Сухары Шчуч. *Хíба ты Бóга ў жывацé ні мáяш, што такія грóшы дзярэ́ш?* Ашмянцы Шчуч. *Ну ты й д'ябал! Меў бы хоць Бóга ў жывацé. Ні шкадýеш мяне, то пашкадýй хоць дзяцéй.* Хутар Праважа Воран.

НЕ АПÓШНІ Ў БÓГА. Не самы горшы, мае нейкую вартасць. *Ох, усьпéлі на аўтóбус! Ні апóшнія мы ішчэ́ ў Бóга!* Стокі Свісл.

НЕ НÁШАГА БÓГА. Незнаёмы, невядомы, чужы. Пра людзей. – *Ня знáяш, што гэ́та за ён?* – *Пéршы рас віджу. Нéйкі ня нáшага Бóга.* Мураваная Ашмянка Ашм. *Во зноў нéкі ідзé ні нáшага Бóга.* Бершты Шчуч. (Лепешаў 1991, 51).

НЕ ПРАСІ́ ТЫ (НЕ ПРАСІ́ЦЕ ВЫ) БÓГА *выкл.* Выказванне пагрозы-папярэджання каму-н. *Хай тóлькі йзноў пры́дзяш вы́піўшы, та тады́ ні прасí ты Бóга!* Бабіна Гродз. *Ні прасí ты Бóга, нікуды́ ні дзéняся, пры́дзяш дахáты, я цібé навучý, як трэ́ба гавары́ць с старэ́йшымі!* Пеляса Воран. *Папрóбуйця тóлькі яшчэ́ рас залéсьці* [у агарод], *та ні прасéця вы Бóга, зьдзяжу на гóрко я́блыко.* Новая Руда Гродз.

ПАДЗÉЛЯ БÓГА. Несумненна, па ўсіх правілах. *Аддáм я вам падзéля Бóга.* Бакшты Іўеў. (СПЗБ-3, 306).

ПАЙСЦІ́ ДА БÓГА Ў ГÓСЦІ. Памерці, пакінуць гэты свет. *Мой даўнó ўжо пайшóў да Бóга ў гóсьці, а міне тут пакінуў.* Янапаль Воран.

ПРАСІ́ЦЬ БÓГА. Жадаць, спадзявацца. *«Мáіш, бабýля, я́блычак, тóлькі прасí Бóга, каб я зáмуш вы́шла».* – *«Бýду прасíць, малíцца, а ці вы́дзіш – не знáю».* Малі Астр. (СПЗБ-4, 95).

СХАПІЦЬ БО́ГА ЗА БАРАДУ́ *іран.* Напаткаць шчасце, удачу, поспех. *Ты ду́маяш схапіў Бо́га за бараду́, і ўсё табе́ мо́жна. Ні ду́май, ні паглядзя́ць, што ба́цька нача́льнік.* Зэльва Зэльв.

У БО́ГА ВА́РТЫ (ГО́ДНЫ) *адабр.* Добры ва ўсіх адносінах, паважаны. *Што пра нас гаварыць, мы сякта́к пражылі́, а вот каб дзе́ткі на́шы былі́ ў Бо́га ва́ртыя.* Смілавічы Чэрв. *Да́рыць цётка ро́дна, у Бо́га го́дна, ве́лькім кава́лкам, каб здаро́ва знасі́ла! Про́ша прыня́ці і падзенькава́ці!* Парэчча Гродз.

ШКЛЯНО́ГА БО́ГА ЎГЛЕ́ДЗЕЦЬ *іран.* Выпіць, напіцца спіртнога. *Напі́ўсё, шкляно́га бо́га ўгле́дзеў, і што ш ты зро́біш.* Краскоўскія Горы Навагр.

ЯК У БО́ГА ЗА ПА́ЗУХАЙ 1. Вельмі добра, без турбот і клопатаў (жыць). *Пражы́ў век як у Бо́га за па́зухай.* Зенявічы Навагр. *Ёй пры ма́цяры жыве́цца як у Бо́га за па́зухай.* Дзянісава Дзятл. *Жыве́ як у Бо́га за па́зухай.* Верцялішкі Гродз. *Прые́хала да бацько́ў і зажыла́ як у Бо́га за па́зухаю.* Азярніца Слон. 2. Вельмі ўтульна. *Прымасьці́ўся як у Бо́га за па́зухай.* Гезгалы Дзятл. 3. Вельмі надзейна, у надзейным месцы (схаваць). *Гро́шы былі́ схава́ны як у Бо́га за па́зухай.* Малыя Азёркі Маст.

ЯК У БО́ГА ЗА ПЕ́ЧКАЙ *жыць.* Вельмі добра, прывольна і бесклапотна. *І што ёй то́лькі трэ́ба? Жыве́ ў бацько́ў як у Бо́га за пе́чкай, а ўсё но́сам кру́ціць.* Швабы Ашм. (Лепешаў 1991, 94). *Кап паслу́хала міне́, то жыла́ п як у Бо́га за пе́чкай.* Альхоўка Навагр. (Лепешаў 1991, 94).

ЯК У БО́ГА ЗА ПЛЯЧЫ́МА *жыць.* Вельмі добра, бестурботна, забяспечана. *Чаго́ ўжо яму́ жа́ліцца, машы́на, ха́та, гро́шы. Жыве́ як у Бо́га за плячы́ма.* Кусянцы Свісл. *Як пашла́ за Фядо́ся, дык жыве́ як у Бо́га за плячы́ма.* Бабpоўнікі Гродз. *Сусе́т Ме́така жыве́ як у Бо́га за плячы́ма, на ўсім гато́вым.* Правыя Масты Маст.

ЯК У БО́ГА Ў ВУ́СЕ *жыць, быць, знаходзіцца* і пад. Вельмі добра, прывольна, у поўнай бяспецы. *Яна́ пражыла́ на тым ху́тары як у Бо́га ў ву́се: ціха, спако́йна. Ніхто́ цібе ні зачэ́піць.* Шчорсы Навагр.

ЯК У БО́ГА ЦЯЛЁ ЎКРА́ЎШЫ *стаяць. насмешл.* Вінавата, разгублена, з адчуваннем няёмкасці. *Пасьме́йваліся с тако́га кавале́ра – пры́дзя на вечары́нку і стаіць як у Бо́га цялё ўкра́ўшы.* Слесары Іўеў.

**БО́ГАМ**

БО́ГАМ ПАПУ́ШЧАНЫ. Абмежаваны, невялікага розуму. *Дзя́цька Анто́н і Бо́гам папу́шчаны, і людзьмі́ сьцю́каны.* Гейстуны Ашм. (Сл. Гродз., 471).

З БО́ГАМ ДАГАВО́Р ПАДПІСА́ЦЬ *гумар.* Памерці. *Мне ўжэ дзівя́ты дзіся́так, а шчэ з Бо́гам дагаво́ру ні патпіса́ла.* Рамашкі Шчуч. *Ні дачака́ўса яго́ дзет, патпіса́ў з Бо́гам дагаво́р.* Алекшыцы Бераст.

З БО́ГАМ *ісці.* Шчасліва. Пажаданне поспехаў на дарогу. *Сабра́ла яго́ хатулі – і ідзі з Бо́гам!* Малі Астр. (СПЗБ-5, 291).

З БО́ГАМ НА ТЫ́. Прабіўны, даходны, разваротлівы, настырны. *Кап жыць, трэ́ба хітрэ́йшым быць, во Валючы́ха, яна́ і з Бо́гам на ты.* Ашмяны Ашм.

З БО́ГАМ ПАРА́СКА <ДАРО́ГА ЯК ЛЯ́СКА> *выкл.* часта *іран.* Пажаданне шчаслівай дарогі. *Ну што ш, паедзем. Як ка́жуць, з Бо́гам Пара́ска.* Алекшыцы Бераст. *Пара́ ўжэ табе́ ісьці́, а то по́зна бу́дзя. З Бо́гам Пара́ска даро́га як ля́ска.* Хрустава Свісл. *З Бо́гам Пара́ска даро́га як ля́ска.* Радзевічы Гродз. (Цыхун, 183). *Ну, до́бра, до́бра... Я цібе́ паня́ў. Пара́ ўжо табе́ йсьці́, бо на аўто́бус ні ўсьпе́іш. З Бо́гам Пара́ска!..* Косцевічы Астр.

ПАБА́ЧЫЦЦА З ШКЛЯНЫ́М БО́ГАМ *іран.* Выпіць, напіцца спіртнога. *Не паспе́ў з шкляны́м бо́гам паба́чыцца.* Рось Ваўк. (Янкоўскі 1968, 61).

ПАД БО́ГАМ. Пад уладай, пад апекай вышэйшай, наднатуральнай сілы. *Дзе́тачке мае́, а ці вы ў Бо́га ве́рыце? Усе́ мы пад Бо́гам: і мы, і вы.* Белічаны Гродз. – *Беражы́ сібе́, сыно́к, ні лесь, дзе́ ні трэ́ба. – Мы, мама́, ўсе пад Бо́гам хо́дзім.* Малькавічы Маст.

СУСТРАКА́ЦЦА З ШКЛЯНЫ́М БО́ГАМ *іран.* Выпіваць, напівацца спіртнога. *А кап цібе́ ка́чкі стапта́лі, ужэ́ не́дзі сустрэ́ўса ш шкляны́м бо́гам?* Берашты Шчуч. (Лепешаў 1991, 67). *Па вача́х ба́чу, што сустрака́ўся ш шкляны́м бо́гам. А гавары́ў: бо́ляй ні бу́дзяш.* Кайшоўка Карэл. (Лепешаў 1991, 67).

ЯК З БО́ГАМ ПАГАВАРЫ́ЦЬ *адабр.* Адчуць фізічную ці маральную палёгку, задавальненне. – *Ну ці памагла́ табе́ гэ́та замо́ва? – Ой, як з Бо́гам пагавары́ў, нідзе́ ніч́ога ні балі́ць.* Зэльва Зэльв.

**БО́ГУ**

АДДА́ЦЬ БО́ГУ ДУ́ШУ. Памерці. *Хоць ён быў і стары́, але шко́да, што адда́ў Бо́гу душу́.* Спудзвілы Бераст. *Адда́ць Бо́гу душу́.* Баранавічы Гродз. (Сцяшковіч 1968, 4). *Ма́ма і ксе́нджа та́ту прывязла́ туда́ і ўко́ла дава́ла. Ну што, Бо́гу ду́шу оддаў.* Янышы Ваўк. (Хрэстаматыя 2009, 429). *Занядужала яна́ яшчэ́ зімо́й, а ле́там Бо́гу ду́шу аддала́.* Нясутычы Навагр. (Мяцельская 1972, 16). *Наш стары́ чуць Бо́гу ду́шу ні адда́ў.* Мейры Лід. *Шмат чаго́ ба́чыла, дзе́да свайго́ пахава́ла, ма́ці, ба́цьку, ды й сама́ за́ра Бо́гу ду́шу аддам.* Жодзішкі Смарг. *Я се́ньня на даро́зе чуць Бо́гу душу́ не адда́ла, чуць атхо́ялася.* Ігнатаўцы Лід.

БО́ГУ ГРАШЫ́ЦЬ *каму.* Крыўдзіцца, наракаць на што-н., быць незадаволеным чым-н. *Ах, Ма́ня, ну і чаго́ ўжо табе́ Бо́гу грашы́ць. У другі́х вунь намно́га горш, і то маўча́ць.* Місявічы Воран. *На тако́га мужыка́ няма́ чаго́ Бо́гу грашы́ць.* Руда Яварская Дзятл. *Малады́я ка́жуць, што ке́пско жыву́ць. Німа́ чаго́ ім Бо́гу грашы́ць. Вот мы́-та зажылі́ ў сваё маланды́я го́ды, усяка́й бяды́ паба́чылі, ні то, што ціпе́р.* Бабіна Гродз.

БО́ГУ ДУШО́Й *не вінаваты.* Зусім. *На яго́ ўсе гаво́раць, што ён сказа́ў, а ён Бо́гу душо́ю не віна́ваты.* Малыя Эйсманты Бераст. *Мо ён Бо́гу душо́й не віна́ваты. Чаго́ да яго́ прыстала.* Пескі Маст. *Чаго́ ты к чалаве́ку прыста́ла? Мо́жа ён Бо́гу душо́ю не віна́ват.* Сімакава Карэл. (Сл. Гродз., 579). *Чаго́ ат мяне́ хо́чаш, я ш Бо́гу душо́й не ві́нны.* Геранёны Іўеў.

БО́ГУ МАЛІ́ЦЦА *на каго.* Вельмі, занадта шанаваць каго-н., пакланяцца каму-н. *Бутры́м на сваю́ маладу́ю жо́нку гато́вы Бо́гу малі́цца.* Лунна Маст.

ВЫ́БІЦЬ БО́ГУ ВО́КНЫ *іран.* Стрэліць не метка, не папасці ў цэль. *Ну, як страляў у войску? Мусі, ні раз выбіў Богу вокны?* Дамейкі Лід.

ГО́ЛЫ-БО́СЫ І БО́ГУ ПРАЦІ́ЎНЫ. Бедны, нічога не мае, нічога не нажыў. *Каб ажаніўся, то можа й стаў бы чалавекам, а так – голы-босы й Богу праціўны.* Горшавічы Астр. *Прыйшлі немцы, абабралі, і асталіся мы голыя-босыя і Богу праціўныя.* Заборцы Астр. *Гэтая Люпка голая-босая і Богу праціўная, хто зь ёй жыць захоча.* Зенявічы Навагр.

ДЗЕ́НЬКУЯ БО́ГУ. Вельмі добра. *А Тадзюк нават на ровар быў забыўшыся, успомніў пра яго ночай дый думаіць: «Дзенькуя Богу, што ногі ўвалок, а то магло быць і горай».* Падольцы Астр.

ДЗЯ́КАВАЦЬ БО́ГУ *выкл.* Выказванне радасці, задавальнення, палёгкі, супакою з якой-н. прычыны. *Дзякаваць Богу, ні калекамі выраслі.* Райца Карэл. *У маёй дачкі сын такі круткі і добры, дзякаваць Богу.* Ясенавічы Ваўк. (Сл. Гродз., 219). *Дзякаваць Богу, карова адбыдлавала, з другім целям будзя.* Каменка Гродз. (Цыхун, 10). *Сухавейка ат печані памагая, я сама парыла і піла, і дзякаваць Богу, вылячыласа.* Канчатка Гродз. (Цыхун, 140). *Пошару маям, дзякаваць Богу, на ўсю зіму, з дзедам нарабілі.* Парэчча Гродз. (Цыхун, 112). *Было, есьці ні было чаго, а яна* [маці] *то крапівы с-пат плоту, то кіслага малачка прыправіць с цыбулькаю, ды гэдак і перакідваліся. Дзякаваць Богу, ні калекамі вырасьлі.* Райца Карэл. (Хрэстаматыя 2007, 83). *Наканец, дзякаваць Богу, паквітаваў, ціпер нікому ні вінаваты.* Старая Руда Гродз.

ДЗЯ́КУЙ БО́ГУ. 1. *выкл.* Выказванне радасці, задавальнення, палёгкі, супакою з якой-н. прычыны. *Усё чуць ні дашчэнту згарэло, але, дзякуй Богу, людзі засталіся цэлыя.* Сурынка Слон. (Хрэстаматыя 2007, 68). *У хаце і ў хляве, жывіны хапая, усяго, дзякуй Богу.* Куклічы Свісл. (ЛКГ, 138). *А зноў, дзякуй Богу, мне вышло тулько мало даплаціць. Я ўзяла кароўку маладзеньку і назвала яе Зорка.* Ліцвінкі Гродз. (Хрэстаматыя 2007, 40). *Застрэлілі маю дочку, зьвярэ гэтыя, яна яшчэ спала. Зь ёю малы сын споў, але дзякуй Богу, жывы застоўся.* Рыскі Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 218). *Бацька, як вярнуўся с турмы, ту ражжыліся, дзякуй Богу, троху.* Янапаль Воран. (Хрэстаматыя 2007, 151). *Прыйшоў немец. Маці нас у канопле хавала. А было нас шасьцёх. Маці нас нікому ні атдала, дзякуй Богу.* Калядзічы Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 15). *Дзіця было маленько. Нагрэю падушку за пазухаю ды й закручу. Алі, дзякуй Богу, выжыла і прывязла дадому.* Самуйлавічы Маст. (Хрэстаматыя 2007, 36). *Дзякуй Богу, жылі добра.* Галубы Маст. (Хрэстаматыя 2007, 39). *Плакала першыя дні, але, дзякуй Богу, Іван мой добры быў, дык хоць трохі памагаў мне, заступаўся за міне перат братам.* Парачаны Лід. (Хрэстаматыя 2007, 96). *Таперачка ўжо добра жывём, у кожнага ў хаце і ў хляве жывіны хапая, усяго, дзякуй Богу, досыць.* Куклічы Свісл. (Сл. Гродз., 479). 2. Вельмі добра. *Ну, так і елі, а што больш. Вой, мая ты, цяпер-то, дзякуй Богу, а некалі то што за жыцьцё было.* Лаздуны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 107). *Дзякуй Богу, што дажджу нямá.* Сакольнікі Свісл. *Дзякуй Богу, валовікі зарадзілі, будзя чым кароў карміць.* Ляхавічы Навагр. (Мат. Гродз., 74).

І БО́ГУ І ЛЮ́ДЗЯМ *абрыдзець.* Вельмі, надзвычай усім. *Абрыд і Богу і людзям.* Вялікая Мыса Смарг.

К БО́ГУ Ў РАЙ *ісці, пайсці* і пад. Прэч. Выказванне незадавальнення кім-н. і жадання пазбавіцца ад каго-н. *Аччапіся ты, ідзі ты ўжо к Богу ў рай!* Гродна Гродз. (Лепешаў 1991, 43). *Ідзі ты к Богу ў рай с сваімі радамі* [парадамі], *я сваю галаў маю на плячах.* Вараны Бераст. (Лепешаў 1991, 43). *Надаеў ты мне, пайшоў ты к Богу ў рай!* Азёры Гродз. (Лепешаў 1991, 43).

КАБ ТВАЕ́ СЛО́ВЫ ДЫ БО́ГУ Ў ВУ́ШЫ *выкл.* Выказванне пажадання, каб збылося тое, што сказаў суразмоўца. *Кап тваё словы, унучачка, ды Богу ў вушы.* Уселюб Навагр. *– Яшчэ паправіцяса, па грыбы, па ягады будзяця лятаць. – Ой, кап таваё словы ды Богу ў вушы.* Бабіна Гродз.

НЕ СЛА́ВА БО́ГУ *ў каго, каму.* Не так, як трэба ў каго-н. *У гэтаго нідалэнгі ўсё ні слава Богу.* Ганчары Лід. (Мат. Гродз., 312). *Ні адна, та другая прашкода, ёй усё ні слава Богу.* Бабіна Гродз.

НІ БО́ГУ НІ ЛЮ́ДЗЯМ *асудж.* 1. Нічога не варты, ні да чога не здатны хто-н. *Выйшла замуш, а мужык – ні Богу ні людзям.* Дуброва Гродз. *Ад яго карысьці як ад казла малака. Чалавек ні Богу ні людзям.* Тумашаўцы Шчуч. *Гэтакая ў Зосі нявестка, што нельга паказаць ні Богу ні людзям.* Шаршні Дзятл. *Такі ён урадзіўся: ні Богу ні людзям.* Машталеры Гродз. (Сцяшковіч 1968, 61). 2. Нікому (не даць). *Гэты ж скнэра ні Богу ні людзям – лепей змарнуя.* Акмянеі Ашм.

НІ БО́ГУ НІ ЧО́РТУ. Нікому. *Ад яго ні Богу ні чорту ніякай карысьці.* Уселюб Навагр.

НІ БО́ГУ СВЕ́ЧКА НІ ЧО́РТУ КАЧАРГА́ (КАЧАРЭ́ЖКА, ГАЛАВЕ́ШКА, КАЦУБА́, МАЛІ́ТВА, О́ЖАХ, ЧАПЯЛА́) *неадабр.* Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца. *І ты думаяш, што ён табе зробіць, што ты прасіў? Ён ш ні Богу сьвечка ні чорту качарга.* Бабіна Гродз. *Ні Богу свечка ні чорту качарга.* Кунцаўшчына Гродз. (Цыхун, 187). *Ну і ўрадзіўся ш на маю галаву – ні Богу сьвечка ні чорту качарга.* Аколіца Лепі Воран. *Ні Богу свечка ні чорту качарга – гавораць так, як благі муж.* Малі Астр. (СПЗБ-4, 390). *От, які там зь яго чалавек – ні Богу сьвечка ні чорту качарэшка.* Бастуны Воран. *Некі ніпанятны, ні Богу сьвечка ні чорту галавешка.* Старына Маст. *Нічого добраго ў ём німа. Ат, так сабе, ні Богу сьвечка ні чорту кацуба.* Старына Маст. *Такі ён чалавек – ні Богу сьвечка ні чорту малітва.* Танявічы Шчуч. *Такі зь яго работнік – ні Богу сьвечка ні чорту малітва.* Апіта Іўеў. *Алі ж твая жонка, то ні Богу сьвечка ні чорту ожах.* Баброўнікі Свісл. *За што мяне так пакараў Божа, што паслаў мужыка ні Богу сьвечка ні чорту чапяла.* Сенна Навагр.

**БО́ЖА**

А́НІ ТВОЙ БО́ЖА 1. Ніяк, зусім. *Колькі рас клікала яго зайсьці, а ён – ані твой Божа.* Правыя Масты Маст. *Ці ж я яго ні ўгаворвала, думала, паслухаяцца. Ані твой Божа! Усё па-свойму робіць.* Стокі Свісл. *Не слухаецца ані твой Божа.* Дудкі Шчуч. 2. Нядат-

ны, някемлівы, нічога не варты хто-н. *Што за дзіця́тко – а́ні твой Бо́жа: ні да рабо́ты, ні да вучо́бы!* Радзівілаўцы Лід. *Вы́брала мужыка́ а́ні твой Бо́жа.* Грамавічы Шчуч.

БО́ЖА-БО́ЖА *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Ён ка́жа: «Ну́ ты ш і адва́жная. Ах Бо́жа ш Бо́жа, дак гэ́та, – ка́жа, – пакажы́ каму́ гэ́ту га́дзіну, дак бу́дзе ўцяка́ць. А цібе́ адва́гі хваціла біць...»* Уселюб Навагр. (Хрэстаматыя 2007, 81).

БО́ЖА ЗБАЎ *каго.* Выказванне рашучага адмаўлення ад чаго-н. *Бо́жа збаў мяне́ чака́ць яе́.* Купіск Навагр.

БО́ЖА ЗБЯРО́Г *каго.* Нічога небяспечнага, кепскага не здарылася з кім-н. *З малы́м ішла́ і ні по́мніла, і ні зна́ла, і ні міне́ Бо́жа зьбяро́х, а дзіцё п, ду́мала, што снара́ды ве́лькія, жале́зныя.* Стральцы Маст. (Хрэстаматыя 2007, 38).

БО́ЖА КРЫ́Й-РАТУ́Й *выкл.* Выказванне адмаўлення ад чаго-н., нязгоды з чым-н. *А Бо́жа крый-рату́й, ні хаце́ла бы я ні машы́ны, ні яго́ кватэ́ры, калі ш ён такі дурны́, такі п'я́ніца. І як гэта Гэ́лька за яго́ за́муш ідзе́.* Навасяды Ашм.

БО́ЖА МОЙ БО́ЖА *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Тады́ ш мох забіць і ўсё. То мы ты́я і сыры́ пакідалі, ой, Бо́жа мой Бо́жа.* Морына Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 110). *Ой, тады́ я перапужа́лася. А Бо́жа мой Бо́жа, куды́ мне́ дзява́цца, ду́мала.* Лаздуны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 107). *Ду́маю, Бо́жа мой Бо́жа, ціпе́рака дажылі́са, кусо́к хлеба есьць, даду́ць не́каго рубля́, і чалаве́к даво́льны гэ́тым, ляпе́й ні мо́жа быць.* Сухары Гродз. (Хрэстаматыя 2007, 45). *Калі е́халі да шлю́ба, вос чуць ні перавярну́ўся, ку́фар мой аткры́ўся – гэ́та ні павязе́, зна́чыцца, малады́м. Ах Бо́жа ш мой Бо́жа, хто ве́даў, як ле́пяй.* Дубаўцы Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 198). *Мы пакуплялі но́выя пла́цьці. А як мы купілі! Бо́жа мой Бо́жа! Карто́шкі тро́ха прадалі.* Буйнічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 468). *Бо́жа мой Бо́жа, якія былі ты́я панчо́хі, сваёй рабо́ты.* Буйнічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 476).

БО́ЖА МОЙ *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Ой Бо́жа ж мой, ско́лькі гадо́ў прайшло́. На ме́сьці на́шых Заса́даў усё зарасло́.* Парэчча Гродз. (Хрэстаматыя 2007, 48). *Ах Бо́жа ш мой, я тады́ ў кры́к, уцяка́ю і ўжо ка́жда ў куст хава́юся, дзе́ ні гляну, мне здае́цца га́дзіна ля́жыць.* Уселюб Навагр. (Хрэстаматыя 2007, 81). *Ну, та́нцаў то мно́га-мно́га было́. Дык мо́жа я ўсіх і ні вы́лічу. Як пачне́цца по́лька, ва́лец, Васаду́ля, Каро́бачка, а Бо́жа мой!* Вялікія Яцыны Астр. (Хрэстаматыя 2007, 137). *Ту́така ўжо папрыля-та́лі пад акно́. Усе́ ўсё маладу́ю глядзе́ць. А малада́я, Бо́жа мой. Ну, што ты зро́біш.* Гераньёны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 113). *Бо́жа ш мой! Сказа́лі нам, што ўсё завісіць ат ба́цюшкі.* Юравічы Дзятл. (Хрэстаматыя 2007, 73). *По́мню, да́жа мы сь сястро́й А́дляй жнём авёс, се́лі і пла́чам: «Бо́жа мой, усё забіру́ць, а што ш бу́дзе?»* Шчучын Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 487).

БО́ЖА МОЙ МІ́ЛЕНЬКІ (МІ́ЛЫ) *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *А Бо́жа ш мой мі́ленькі, нарадзілася я ў Дзіне́вічах. Нас было́ сямёра, але два хло́пцы і две́ дзяўчы́ны ўмярлі́.* Клюкоўцы Бераст. (Хрэстаматыя 2007, 31). *Э́та жэ ско́лька ра́дасьці, Бо́жа мой, Бо́жа, Бо́жа мой мі́лы, як э́та было́.* Буйнічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 475).

БРОНЬ (БРА́НІ, БРУ́НІ, БРУНЬ, БРЫНЬ) БО́ЖА *выкл.* Выказванне папярэджання, перасцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. *У тваёй ма́цяры, мая́ ты дзіця́тко, адзіна́ццаць было́, а ўсе і дагле́джаныя, і ніхто́ благо́га сло́ва, бронь Бо́жа, ні ска́жа.* Райца Карэл. *Там паро́лі трэ́скай, каб Бо́жа бронь, яко́е бало́та.* Гродзі Ашм. *Со́нца сма́ліць, цалю́сенькі дзень гэ́так прапро́біш. Бро́нь Бо́жа по́ле кінуць незако́нчаным.* Малькавічы Маст. (Хрэстаматыя 2007, 165). *Ду́маю ў гэ́ту нядзе́лю сьвіню́ закало́ць, а ў камо́рцы, бронь Бо́жа, за ле́то й пы́лу не́йкага насе́ла, і павуці́ньня – атку́ль то́лькі яно́ ўзяло́ся – і ат мышэ́й спа́су няма́.* Цырын Карэл. (Хрэстаматыя 2007, 85). *Бронь Бо́жа зачапіць яго́, ён жа ш го́чы табе́ вы́дзяра.* Белякоўшчына Гродз. *Ні пайду́, бронь Бо́жа ціпе́р туды́ ісьці.* Правыя Масты Маст. *А ўсе крыча́ць, тупаця́ць, піха́юць, віжжа́ць, бронь Бо́жа.* Крэва Смарг. *Маце́й захварэ́ў на запале́ньне лёгкіх, бронь Бо́жа, ат тако́й хваро́бы, мо́жна і паме́рці.* Пеляса Воран. *А бронь Бо́жа, каб то́лькі гэ́тага не ба́чыць табе́.* Малі Астр. *Бронь Бо́жа, кап я зь ім куды́ пайшла́.* Кавалі Астр. *А бронь Бо́жа, ніхто́ не чапа́ў яго́, сваімі вача́мі відзяла.* Трокенікі Астр. *Бронь Бо́жа цябе́, сы́нку, як гэ́та ты пьяны паедзяш, а калі міліцыя?* Зенявічы Навагр. *А бро́нь Бо́жа, каб ён расказа́ў што.* Урцішкі Іўеў. *Бра́ні Бо́жа, хай ба́цька дазна́яцца, што ты нарабі́ў.* Алішкаўцы Шчуч. *На стало́х за́фша, дзе́ткі мае́, хвата́ла ядзе́ня. А ве́даяце вы, чаму́, бо ўсе сма́гла і до́бра працава́лі на сваёй зяме́льцы. І не пілі лю́дзі. Бру́ні Бо́жа, як тэ́рас.* Енчы Воран. *Каб я калі дзе што ўзяла́ чужо́ё... Бру́нь Бо́жа!* Бабіна Гродз. *Ды я тваіх кураня́т брунь Бо́жа не ба́чыла.* Новы Двор Свісл. *Брунь Бо́жа міне́ ад гэ́тай нава́лы.* Новая Руда Гродз. *Каб то́лькі ён, брунь Бо́жа, не сустрэ́ўся з гэ́тым чалаве́кам.* Верцялішкі Гродз. *Са́ла, жы́ру брынь Бо́жа ні е́лі ў пост.* Занкі Свісл. *І муш ху́тка памёр. Ця́шка было́ адно́й дзяце́й гадава́ць. А брынь Бо́жа вас, дзе́ткі, ат тако́й до́лі.* Гнезна Ваўк. (Хрэстаматыя 2007, 18). *Глядзі ш, ніко́му, брынь Бо́жа, ні раскажы́, а то панясу́ць ба́бы плёткі.* Вензавец Дзятл.

ДАЙ БО́ЖА 1. *выкл.* Выказванне пажадання чаго-н. *Дай Бо́жа, у до́брую гадзіну вы́мавіць, а ў ліху́ю памаўча́ць.* Дзям'янаўцы Дзятл. (Сцяшковіч 1968, 19). *Аплатка́м падзялілася сям'я́: і дай Бо́жэ, жычэ́ня такіе, каб яны́ встрэ́ціліся і каб жылі шчэ.* Шчучын Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 481). 2. Вельмі добра. *У іх усяго́ было́, жылі дай Бо́жа.* Воля-Крупіцы Маст. 3. Вельмі вялікі. *Ба́чыла Я́нусявага зя́ця, а пу́ца ў яго́ – дай Бо́жа, во-во́, здэ́уца, пэ́нкня.* Бершты Шчуч. (Лепешаў 1991, 48).

ДАЙ БО́ЖА НО́ГІ (НО́ЖАЧКІ). Паспешліва пабег (пабеглі). *Хапілі дзяце́й і дай Бо́жа но́гі. Пазабіва́лі п, каб ні ўцяклі.* Пінск Лях. *А тут хтось па ле́су ішо́ў. Ой, дай Бо́жа но́жачкі, так я паляце́ла, лоб абабіла аб хво́йку, але ш уцякла́.* Лаздуны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 107).

ДАЙ БО́ЖА РА́ДЫ. Вельмі многа. *Рабілі, дай Бо́жа ра́ды. На́ват дзе́ці пара́ткаваліся, хто ў хлявé, хто ў по́лі.* Гальшаны Ашм. (Хрэстаматыя 2007, 149).

І СВЯТЫ́ (СВЕ́НТЫ) БО́ЖА НЕ ПАМО́ЖА *каму.* 1. Няма ніякай надзеі на папраўку, выздараўленне каго-н. *Пашо́ў да Макдале́ны до́хтар, алі ёй ужэ́ і сьве́нты Бо́жа ні памо́жа.* Паўлаўшчына Ваўк. *Ка́жуць, яму́ ўжэ і сьве́нты Бо́жа ні памо́жа.* Каменка Шчуч. *Ма́ня як захварэ́ла, дзе ты́ко ні е́гдзіла, дзе ты́ко ні лячы́ласа, і по́машчы ніякай німа́. Му́сіць, ужэ́ і сьве́нты Бо́жа ні памо́жа.* Лунна Маст. *Нічо́го ні зро́біш, памрэ́ ба́ба. Як ба́чыш, тут ужэ́ і сьвяты́ Бо́жа ні памо́жа.* Старына Маст. 2. Няма ніякага выйсця з безвыходнага, безнадзейнага становішча. *Прасі ні прасі, тут і сьве́нты Бо́жа ні памо́жа.* Алекшыцы Бераст.

КРЫЙ БО́ЖА *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. *Ты адно́ зьвяжы́ся зь ім, то не адчэ́піцца, такі ўя́дны, крый Бо́жа.* Вароны Бераст. (Сл. Гродз., 519). *Шчэ крый Бо́жа, скаці́нка ўцале́ла. Лы́ску і гаве́чак ста́ршы Язэ́пік вы́пусціў з хлява́.* Сурынка Слон. (Хрэстаматыя 2007, 68). *Ну, сыно́чак, крый Бо́жа, ба́цька дазна́ецца.* Ігнатаўцы Лід.

НЕ ДАЙ БО́ЖА *выкл.* 1. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. *Не дай Бо́жа чуць, не то́е, што прайсці.* Буйнічы Шчуч. (Хрэстаматыя 2009, 462). *Ні дай Бо́жа, на́шага жыцьця́. Ця́жка было́.* Кальчычы Карэл. (Хрэстаматыя 2009, 202). *Не дай Бо́жа сасьні́ць но́ччу паччэ́ніка!* Азяраны Дзятл. (ЖС, 14). 2. Выказванне ацэнкі, характарыстыкі чаго-н. *Але ш крывалу́пы, не дай Бо́жа, які крывалу́пы!* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-2, 539).

НЕ ДАЙ БО́ЖА-ГО́СПАДЗІ *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, недапушчальнага. *А Стэ́пка гало́сіць: а, дзе́ткі мае́, як шко́да, ні дай Бо́жа-Го́спадзі тако́га нішча́сьця.* Сурынка Слон.

НЕ ДАЙ ПА́НЕ БО́ЖА *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. *Ось тако́е мае̂ жыце̂ было́, не дай каму́ па́не Бо́жа.* Марцінавічы Зэльв.

НЕ ПРЫВЯДЗІ́ БО́ЖА *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, недапушчальнага. *Такі́х пастра́хаў ад яго́ пазна́ла, што ні прывядзі Бо́жа.* Баброўня Гродз. (Мат. Гродз., 356).

НІ ДА ТА́НЦАЎ НІ ДА РУЖА́НЦАЎ АНІ СВЯТЫ́ БО́ЖА. Нядзатны, някемлівы, нікуды не варты хто-н. *Сусе́тка мая ні да та́нцаў ні да ружа́нцаў ані сьвяты́ Бо́жа.* Малыя Краглі Дзятл.

НІ ТВОЙ БО́ЖА. Ніяк, зусім. *Гульта́й ве́лькі, ні твой Бо́жа нічо́га ні хо́ча рабіць.* Гудзевічы Маст.

ПАМАЖЫ́ БО́ЖА *выкл.* Пажаданне поспеху, удачы ў працы, у якой-н. справе. *Адзін мужы́к быў такі шутлі́вы, а ба́бы далё́ко ад даро́гі жа́лі. Ён клі́ча адну́: «Ганю́ля! Хадзі́ сюды́, хадзі́ сюды́». Так разо́ў ко́лькі кры́кнуў. Гэ́та Ганю́ля андара́к у зу́бы і бяжы́ць бяго́м да даро́гі, ду́мае, мо што зрабілася ў ха́ці. Прыбе́гла і пыта́е, а ён ка́жа: «Памажы́ Бо́жа!»* Замасцяны Шчуч. (Хрэстаматыя 2007, 53).

СКІНЬ ТЫ БО́ЖА БО́МБУ *выкл. гумар.* Выказванне засцярогі ад чаго-н. нежаданага. *Скінь ты Бо́жа бо́мбу, каб ён сюды́ цяпе́рака прыйшо́ў.* Цудзенішкі Ашм.

СТРЭЖ БО́ЖА *выкл.* Выказванне засцярогі ад чаго-н. нежаданага, непрыемнага, недапушчальнага. *Сядзе́ў-гуля́ў на матацы́клі, а тады́ ўча́дзяў ад бінзіну. Захо́джу ў гара́ш, а ён ляжы́ць на ба́ку. Кап, стрэж Бо́жа, яшчэ́ мі́нут дзе́сяць, та і ўсё было́ п.* Парэчча Гродз. *Ні ле́сь ты па гэ́тай страсе́, ба, стрэж Бо́жа, упа́дзяш, та й касьце́й ні пазьбіра́яш.* Бабіна Гродз. (Лепешаў 1991, 66). *Сто́лькі дзяце́й на гу́ліцу бе́гая, а ты так прэ́нтка на мато́цыку ляціш. Глядзі, стрэж Бо́жа, ні нае́ць на като́рага.* Забалаць Вор. (Лепешаў 1991, 66).

ШЧЭ Ж БО́ЖА *выкл.* Выказванне засцярогі ад чаго-н. нежаданага, непрыемнага, недапушчальнага. *Така́я хво́ра пашла́, кап, шчэ ж Бо́жа, усё зь ёй до́бро было́.* Дварчаны Шчуч. *Ніхто́ ні ве́дая, як там што было́, але наза́ўтра найшлі ўсіх гэ́тых Вайцюлёў парэ́заных, Бо́жа шчэ ж, крыві поўха́ты, хоць рандэ́лькам вычэ́рпвай.* Шутавічы Смарг.

**БО́ЖАЧКІ**

БО́ЖАЧКІ МАЕ́ *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Аднаму́ пагада́ла – і ўсё пра́ўда, друго́му – пра́ўда. А Бо́жачкі ж мае, так ко́жнаму ка́ртачку і перазна́ла.* Лаздуны Іўеў. (Хрэстаматыя 2007, 108).

**БО́ЖЭ**

БО́ЖЭ МОЙ *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Лю́дзі каза́лі: што там у яго́ ро́біцца, то Бо́жэ мой.* Парэчча Навагр. (Хрэстаматыя 2009, 209). *Мой Бо́жэ, стра́хата, баяліся.* Біскупцы Ваўк. (Хрэстаматыя 2009, 434).

**БУГ**

ЗА БУГ ЗАПЛУ́ЦЬ. За бесцань ці зусім дарма. *Бу́дзе ён табе́ рабі́ць за Буг заплу́ць! Глядзі! Як ска́жаш, што гро́шай дасі, та мо́жа што і зро́біць.* Лунна Маст.

ХАЙ БУГ КРЭ́Я *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, непрыемнага, недапушчальнага. *Ой, хай Буг крэ́я так жыць каму́нібуць, як я!* Зэльва Зэльв. *Што было́ ў каго́ намало́чано, забра́лі ўсё да кры́шкі. А ціпе́р, ля, го́лу зе́млю прадаю́ць. Усё пражыло́ся, хай Бух крэ́я.* Шурычы Свісл. *Хай Бух крэ́я, як жылі. Пасьля вайны́ была́ бядно́та, адналічно жылі, лён абіва́лі, пра́лі.* Вострава Зэльв. (Хрэстаматыя 2007, 65).

## Скарачэнні[1]

ЛКГ – Даніловіч, М. А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны: дапам. / М. А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 227 с.

[1] Падаецца ссылка на крыніцу, якая не ўключана ў спіс прынятых скарачэнняў.

*М. В. Абабурка*

# АДМЕТНЫЯ ВЫСЛОЎІ Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА

Слоўнік адметных выслоўяў, прапанаваны чытачам, упарадкаваны аўтарам па алфавітным прынцыпе з улікам першай ініцыяльнай літары, з якой пачынаецца выслоўе. Акрамя парэмій у сваю падборку М. В. Абабурка ўключыў асобныя радкі песень і прыпевак, а таксама некаторыя выслоўі, якія ўтрымлівалі лаянкавыя словы. Па меркаванні рэдакцыі такія выслоўі былі выключаны са словазбору.

**А**

*А Бо́жа ж мой, дзе ж го́лас твой?!*
*Абма́н што на со́нцы тума́н.*
*АБС – ні СС, ні КПСС, ні ОБХСС, а про́сто: адна́ ба́ба (ба́бка) сказа́ла.*
*Абу́ў бо́ты – і рабіць німа́ (німа́шака) ах(в)о́ты.*
*Абы зіма́ прышла́, то ўсе мы вы́лежымосе(ся) і вы́спімосе(ся).*
*Абы з рук збыць (адда́ць, прада́ць, вы́кінуць).*
*Абыхо́дзь каня́ спе́раду, каро́ву – зза́ду, а ду́рня – з усі́х бако́ў.*
*Аго́нь (агню́) ні цалу́й – гу́бы а(б)сма́ліш.*
*Аго́нь (агню́) слі́наю ні зату́шыш.*
*Адабра́ў бы саўсі́м Бог твой аве́чы ро́зум.*
*Адабра́ў у ста́рца то́рбу.*
*Ад Бо́га хоць яка́я дапамо́га, а ад чо́рта – нічо́га.*
*Ад во́лі да нявóлі – адзі́н шаг (крок, мат, насту́пак).*
*Ад вялі́кае ле́жні бу́дуць (быва́юць) пралéжні.*
*Ад гара́чкі дае́ Бог баля́чкі.*
*Ад го́ра ці лі́ха пра до́брае ці́ха.*
*Ад гэ́тае цёткі адны́ абгаворы́ да й плёткі.*
*Ад дабра́ (до́браго ўчы́нку) чака́й чаго́ хо́чэ(а)ш...*
*Адда́й жо́нку дзя́дзі, а сам кла́няйсе(ся)...*
*Адда́й па́ну жо́нку, а сам жуй сало́мку.*
*Аддыхне́м(ш), як (ак) ні дыхне́м(ш).*
*Адзі́н аднаго́, ні пера́важаць, ні пераплю́нуць, ні перакрыча́ць і г.д.*
*Адзіна́каво памі́раюць: ад го́ладу і ад пераяда́ння (недаяда́ння).*
*Адзі́н грэх – адзі́н смех, два грахі́ – два смяхі́, мно́го (бага́то) грахо́ў – німа́ (німа́шака) смяхо́ў.*
*Адзі́н дзесяцёх (дзесяцяры́х) ні табе́ й на́вет іх усі́х ні перакрычы́ць.*
*Адзі́н ла́паць, адзі́н бот – гэ́то не́людзь, ідыёт (абармо́т).*
*Адзі́н – нелюдзі́м, адна́ – до́лі жадна́.*
*Адзі́н про́ціў (супро́ць, су́праць) усі́х нічо́го (нічагу́сенько) ні зро́біш.*
*Адзі́н ува ўсім бе́лом све́ці, як (ак) у по́лі ве́цер.*
*Ад зла ніко́лі (ніко́му) ні бу́дзе дабра́.*
*Ад зла ні шука́й(це) ніко́лі дабра́, бо яго́ ні бу́дзе.*
*А для прахво́сту німа́ (німа́шака) по́сту.*
*Ад Мі́колы да Мі́колы ў гульта́я парассыха́лісе(ся) ў калёсах (у драбі́нах) ко́лы.*
*Аднаго́ ба́цькі дзе́ці, хоць і вы́раслі хто ў ха́ці, а хто й у кле́ці.*
*Аднаго́ по́ля я́гадкі, але е́сцека й смачне́йшые(я).*
*Адна́ до́чка, а (к, ак, як) бяздо́нная бо́чка.*
*Адна́ – і (й) до́лі жадна́, хоць спіць ад відна́ да відна́.*
*Адна́ ку́рыца то́лькі ад сябе́ грабе́ – і то то́лько сме́цце (сьме́цье).*
*Аднаму́ ўсе-ўсе́нькае, а другому – нічо́го-нічаге́нькае (ніц ні́цам) з не́ба ні па́дае (ва́ліцца).*
*Аднаму́ абара́нкі, а друго́му – то́лько дзі́ркі ад іх.*
*Аднаму́ ўсяго́ мно́го, а друго́му – саўсі́м нічо́го.*
*Аднаму́ – спра́ва, а друго́му – сла́ва.*
*Ад на́шае гаво́ркі (гу́таркі) даля́р не падзешаве́е.*
*Адны́ абара́нкі жую́ць, а другі́я слі́най плюю́ць.*

*Аднó дзіця́ – як (ак) нівóднаго, двóе – як (ак) аднó, а трóе – ужэ́ справядлóвая (сапрáўдная) сям'я́.*
*Адны́м кры́кам спрáву (нічóго, нічагýсенько) ні зрóбіш.*
*Ад сабáкі ні ўцякáй, а лепш (лéпей) м'я́са кáвал дай.*
*Ад смéрці ні спасýць ні пáпы, ні ксяндзы́, ні чэ́рці...*
*Ад пачастýнку ні знайшóў паратýнку.*
*Адрэ́занаго ці адсéчанаго ні прылéпіш (ні прыклéіш, ні прыгваздзіш, ні прымацýеш).*
*Ад сусéда (сусéдзяў) нічого ні схавáеш і сам ні схавáешсе(ся).*
*Ад хрыпóтаў да сухóтаў дóйдзеш і без падрáных бóтаў.*
*Ад цябé (ягó) і Бог з чóртам адкраснýлісе(ся).*
*Ажаніўсе(ся) – нібы́то ў я́му ўваліўсе(ся).*
*Ажаніўсе(ся) – пра бацькóў забы́ўсе(ся).*
*Ажані́цца – ні ўпіцца: упіўсе(ся) – вы́цверазіўсе(ся), а каб разжані́цца, трэ́бо судзі́цца.*
*Ажаніўсе(ся) – (што, як (ак), нібы́то) утапіўсе(ся).*
*Азвярэ́ў жывóт, дак (дык) бурчы́ць – ліхó на ягó!*
*Ак (як) мóцно хварóба прыжáла, дак (дык) бáба ўрачá (Бóга) пазвáла.*
*Апатýрыўсе (апусціўсе(ся)) чалавéк – і стаў прапáшчы навéк (на ўсéнечкі век, на ўсéнькі свой век).*
*Астанéшся(се) с... (жоўчы́) – ні дагóніш бегучы́.*
*А ты, ліхо, сядзі ціхо, а ты, вóўча, сядзі мóўча.*
*«А ты пастóй, пастóй...» – «Ад пачакáяў сыт ні бýдзеш...»*
*Ах, без вóдкі сóхнуць глóткі, а ад вóдкі – век карóткі...*
*Ах ты, зямля́ ненаéдная (ненаéжная, пустáя і г.д.).*
*Ах ты, мóрда сабáчая (сабачáная), свіня́чая, парася́чая і г. д.*
*Ах, ты, свіня́ аблавýхая (вашы́вая, паршы́вая, німы́тая, ніхры́шчаная і г. д.).*
*Ах ты, сястры́ца – нары́ца, табé ўсягó малó й мáло, глядзі, што лóпнеш ад зайздрóснасці (зáйздрасці).*
*А час няўмóльна йдзе (бяжы́ць, ляціць).*
*Ашукáў ашукáнец: замяніў нóвы касцюм(чык) на нéкі дрáнец (на стáры дрáнец).*
*А я чáю ні ўважáю – лепш бясплáтная вадá.*

## Б

*Бáба (жóнка) запанéла – лічы́це, што здурнéла (звар'яцéла).*
*Бáбі й сам чорт ні дасць рáды.*
*Бáбі ні Бог, ні чорт ні ўгóдзіць (ні ўлагóдзіць, ні ўнарóвіць), а ні то каб там той муж (ык).*
*Бáбская рабóта ні віднá* і *Бáбскай (ае) рабóты не віднó (ні відáць).*
*Багáтаму з нéба вáліцца (пáдае, сы́плецца).*
*Багáтаму й бяссóвеснаму ўсе ні па чóм.*
*Багáтаму мáло і мáло – усéнькі свет забрáў бы.*
*Багáты, бо зайздрóсны й скупавáты.*
*Багáты (багаты́р) і бéдной удавé ні спагадáе.*
*Багáты ўздыхáе, а бéдны слёзы пралівáе.*
*Багáцце спаць ні даé (ні дазваля́е, перашкаджáе).*
*Барáн баранóм, свіня́ свінёй, а ў начáльнікі лéзе (прэ́цца, рвéцца).*
*Бáчыць вóко далёко, але ж рýкі карóткіе(я).*
*Бáцько глядзіць (расціць) дачкý да вянцá, а муж – жóнку да канцá (павінен трымáць жóнку да кáнца).*
*Бéгаў, бéгаў да й нічóго ні вы́бегаў – тóлько нóгі намýчыў (намазóліў).*
*Бéгаў зáйка (зáйчык) каля рэ́чкі, пагубіў сваé яéчкі, а якіе(я) ні скажý – лепш хадзéмце: пакажý.*
*Бéдны ўсім пазычáе, а багáты ад сваіх заціскáе (зажымáе, адбірáе).*
*Без вады́ да й без яды́ ні туды́ і ні сюды́ – кры́шка (капýт, капцы́, смерць, ханá і г. д.).*
*Без галавы́ – і рýкі ні хóчуць нічóго рабіць.*
*Без грóшай (эй) – нікóлі ні жы́цьмеш харóшай (эй).*
*Без жадáння ні бýдзе й кахáння* і *Ні бýдзе жадáння – ні бýдзе кахáння.*
*Без папéры німá (німáшака) вéры* і *Німá вéры без папéры.*
*Без пасáгу ідзі (па(й)шлá) за сярня́гу.*
*Без прынýкі ні лéзуць (даю́цца) навýкі.*
*Без рабóты бамжýе, а ў (пры) рабóце хітрýе.*
*Без рабóты жыць – трýтнем быць.*
*Без рукі (нагі) – інвалід (калéка), а без галавы́ (мазгóў) саўсім прапáшчы.*
*Без снáсці, як (ак) без рук.*

*Без стра́ху – зык (рык, крык), са стра́ху – пшык.*
*Без уся́кіх гро́шай папро́буй стаць (быць) харо́шай.*
*Белару́сы любя́цца, а паля́кі к... .*
*Бі́цца – ні га́дзіцца, ла́яцца – ні палага́ецца.*
*Бі (гані) чалаве́ка дурно́го, як (ак) пса (саба́ку) ліхо́го.*
*Бог адра́зу (спача́тку) ні кара́е.*
*Бог (Бо́жа) наш, пастро́й (купі́) нам гара́ж...*
*Бог высо́ко ў паднябе́ссі – за яго́ анія́к (ані́чым) ні дабярэ́шсе(я).*
*Бог выдзяля́е, а чорт спажыва́е.*
*Бог дае́, Бог і адбіра́е (забіра́е).*
*Бог дае́ й бярэ́ (забіра́е), а чорт то́лько забіра́е (заграба́е, прыграба́е, награба́е).*
*Бог для ўсіх нас адзі́н (наш Гаспадзі́н), а мы ўсе для яго́ ра́зные (чы́стые й гра́зные).*
*Бог зна́е, каго́ й за што кара́е.*
*Бог пусці́ў Ада́ма і Е́ву (нас) на бе́лы свет, а по́сле до́ўго ка́яўсе...*
*Бог спіць (аддыха́е), а чорт бе́лы свет муці́ць (чо́рнаю фа́рбаю мара́е).*
*Бо́гу Бо́гава, а мне мае́.*
*Бо́гу Бо́гава (Бо́скае), а чо́рту чо́ртаво (чарто́ўскае).*
*Бо́гу малі́се, у грахо́х прызнава́йсе(ся), але ж на (пра) чо́рта ні забыва́йсе(ся).*
*Бо́гу малі́се(ся) да й ні завалі́се(ся).*
*Бо́гу малі́се(ся), але сам пра сябе́ клапаці́се(ся).*
*Бо́йсе(ся), каб лю́дзі аб цябе́ язы́кі ні мянці́лі (языка́мі ні часа́лі).*
*Бо́йсе ры́жаго й крыво́го, сераўно́ як (ак) пса ліхо́го.*
*Бо́ты з баці́нкамі – но́гі наму́ляты, ла́пці з ану́ча́мі – но́гі ачу́няты.*
*Бо́ты – для фарсо́ты, а валё́нкі з галё́шамі – для рабо́ты.*
*Брат лю́біць сястру́ бага́тую, муж – жо́нку здаро́вую, а сын з дачко́ю – ўсе ва ўсіх адра́зу.*
*Бу́дзем хадзі́ць у го́сці, як (ак) ліса́ з жураўлё́м (бу́слом).*
*Бу́дзеш любі́цца з ту́зам – (па)кі́не цябе́ з пу́зам.*
*Бу́дзеш маўча́ць – на гарады́ ўзле́зеш, бу́дзеш балбата́ць – у даўгі́ пале́зеш.*
*Бу́сенькі-мілю́сенькі (любю́сенькі) – або́е го́лые-галю́сенькі.*
*Быва́е, што гаспады́ня чо́рна(я), а ў ха́це бе́ла ці наабаро́т (наадваро́т).*
*Быва́е, што ніпра́ўдаю пра́ўды дабіва́юцца (дамага́юцца).*
*Быва́йце здаро́вы са́мі, ва́шы дзе́ткі, куды́, свінні й кве́ткі.*
*Быва́юць грыбы́ смачне́йшые(я) за м'я́со.*
*Была́ б дачка́ харо́ша (я) да й бага́та (я), а зяць зно́йдзецца раз-два́.*
*Былі́ б аве́чкі (бычкі́), а ваўкі́ бу́дуць (зно́йдуцца).*
*Было́ дабро́, да й у мо́рэ сплыло́* **і** *Дабро́ было́, да й у мо́рэ сплыло́.*
*Было́ ке́пско, а ста́ло я(а)шчэ́ горш (го́рай).*
*Быў бы бага́ты, а так – п'я́ніца пракля́ты.*
*Быў бы до́бры зяць, каб было́ калі́ й што ўзяць.*
*Быў і Радзіві́л каму́-то (мно́гім) міл.*
*Быў, быў – узя́ў да й не́куды сплыў.*
*Быў – сплыў.*
*Быць до́брымі – ні то́е, што гарэ́лку піць вё́драмі.*
*Быць дру́гам – ні хадзі́ць кру́гам.*
*Бяда́ й го́ра, што дзед ба́бу (бык каро́ву) ні набо́ра.*
*Бязро́гая каро́ва ўсіх рага́тых пабаро́ла (перабо́ра, перабаро́ла).*
*Бя́ло ні бя́ло – абы во́ду з мы́лам віда́ло.*
*Бяру́ць рука́мі куры́цу, жар-пці́цу, ну й, кане́чне ж, маладзі́цу (красу́ню-чараў́ніцу).*
*Бяры́, але да пары́.*
*Бяры́ го́лую (без паса́гу), але ж ні кво́лую, а здаро́вую.*
*Бярэ́ той, у каго́ е́сцека валаса́та(я) рука́ й мо́цна(я) спіна́.*
*Бярэ́ яго́ зло, што сусе́ду падвязло́ (павязло́, пашанцава́ла, падфарці́ла).*

**В**

*Вада́ згно́іць, аго́нь спапялі́ць, калі на самацё́к усё́ пусці́ць.*
*Вада́ – і ра́дасць, і бяда́.*
*Валі́ (зва́львай) усё́ на Сі́ваго (Дэ́раша): ён усё́ вы́цягне.*

*Валі ўсе на воўка, бо крáдзе ён лóўка.*
*Варажы́ла, варажы́ла да й вы́варажыла старажы́ла (старóго жы́да).*
*Варóна малáя, а рот шырóкі мáе.*
*Вачы́ма (вачáмі) усé паéў бы, але ж жывóт ні даé.*
*Ваўкóў ні забілі, а шкóды ў лéсі нарабілі.*
*Ваўкóў паганялі – ат жа ж лéсу наламáлі.*
*Вéдай, вýчань (вучанік, вучальнік), лéпей (лепш) за настáўніка.*
*Век жыві, век вучы́се(я), а дýрнем памірáй (памрэ́ш).*
*Век звекáваў, а ні па ком ні бедавáў (гаравáў, пераживáў).*
*Век звекавáць – ні май змаявáць.*
*Век пражы́ў, а дабрá ні нажы́ў (ні заслужы́ў).*
*Вéрачы ўсім, ні вер сабé самóму (сваíм).*
*Вер ці ні вер, але й жáба – звер.*
*Відáць рабацягу, калі ён абéд есць ці п'е брáгу.*
*Віднó пáна па халявах, а рабóтніка па ядзé.*
*Вóдка, катóк, кацісе(ся) ў ратóк, хоць адзін-адзінюсенькі (малéнечкі) жытóк.*
*Вóко ўсе есць і п'е, але ж жывóт-абармóт ні даé.*
*Вóльнаму – вóля, а злóдзею (рыштáнту, хулігáну) – цюрмá.*
*Вот вы́радак дак (дык) вы́радак: і прóсьбы, і грóзьбы яму́ ні па чым (хоць бы што, хоць бы хны, хоць бы дзі́чкі).*
*Вот рабóтнік – гарэ́лку піць дак (дык) п'е, а ў сцéну цвікá ні ўвáб'е (заб'é).*
*Воўк ад вóўка ні даб'еццa (ні чакáе) тóлка.*
*Воўк вы́е: абó па ваўчы́се, абó па ядзé ны́е.*
*Воўк з сабáкаю дрýжыць, пакýль (пóкуль, пакýлечы) ягó ні з'éсць.*
*Воўк зубáмі ні ляскае, калі да ягó <йдзеш> з лáскаю.*
*Воўк каня́ хапáе за гóрла (гры́ву), бо капытóў баíцца.*
*Воўк лісý (лісíцу) абхітры́ў да й зéмлю нóсам зары́ў.*
*Воўк ні баíцца сабáкі, а ягó гаспадарá.*
*Вóўку – вóўчае, а чалавéку – чалавéчае.*
*Вóчы – як (ак) у савы́, рóзум – як (ак) у варóны.*
*Вучóба – ні хварóба: ад хварóбы чалавéк слабéе, а ад вучóбы – мацнéе.*
*Вучóны – ні змучóны, бо вучы́цца – ні ўкáлваць ці пыліцца.*
*Вучóны смяéцца, што дýрань усé вучы́ць (вы́вучыць) бярэ́цца.*
*Вучы́се(ся), хлóпча, – і ніхтó цябé ні стóпча (затóпча).*
*Вучы́се(ся), хлóпча, каб вéдаў, на чым свіня́ хвост нóсіць.*
*Вучы́ць вýчонага, што й паганя́ць каня́ замýчанага.*
*Вучы́цца – <заўсюды>прыгадзіцца (згадзіцца).*
*Вучэ́нне – свет, а нівучóных паўсвéту (цьма, незлічóны лік).*
*Вы́лупіў (вы́трашчыў) сваé каяны́ (бéльмы, зéкры, лупачы́;* г. зн. вочы. – *М. А.), дак (дык) да трох яму́ ні гамані (гавары́).*
*Вы́прасіў хлéба, дак (дык) прóсіць ашчэ́ (яшчэ́) чагó-то й да хлéба.*
*Вы́расла пшаніца, хоць вазьмі да й пакацісе(ся).*
*Вы́расла пшаніца – бýдзе зáкусь з гарэ́ліцай.*
*Вы́расла пшаніца пад сáменькае нéбо, але ж лéзці туды́ ні трэ́бо.*
*Высóкі мая́к, да й гóлы ж, як (ак) мак.*
*Вялізны нос: што на вітры́ні, то й у магазіні.*
*Вянчáнне й распісванне бáбніка ля (каля) жóнкі ні ўтрымáюць.*
*Вяснá вяснé розніца: то рáнняя, то пóзняя, то лáскавая, то грóзная...*
*Вяснá за зімý чапляéцца, а за лéто змагáецца.*
*Вяснá краснá, але ж мінáецца й мяня́ецца.*
*Вяснá краснá варóціцца, а змéрлы нікагдá (аніяк).*
*Вяснá пры(й)шлá – усім букéты прынясла́.*
*Вяснóю й жáба жáбі ні даé спакóю.*
*Вяснóю й шы́шкі дрýжаць з саснóю.*

## Г

*Гавары́ла бáба дзéду...*
*Гавары́лі дзя́дзі ў склáдзі...*
*Гавóрыць глáдко, а слýхаць гáдко.*

*Гавóрыць Пóльска: «Хóдзь, хлóпе, да вóйска!»*
*Галавá аблéзла, а вучóба (навýка) ні палéзла.*
*Галавá велікавáта, а рóзуму малавáта.*
*Галавá дурная заўсюды самá сабé гýза шукáе.*
*Галавá кóнска (я), а рóзум (вум) мышыны.*
*Галóдны ні спявáцьме (спявáць ні бýдзе).*
*Гарá з гарóю ні схóдзяцца, а пуп з пýпам – заўсюды.*
*Гарманíст (баянíст) хоць брыдá, а для ўсіх чыст.*
*Гарманíст(ы) як (ак) за(й)граў – сум да й енк саўсíм прымáў.*
*Гарманíсты на рýку нічыя́сты.*
*Гарманíсты пляц прыбрáлі, танцóры ўмэнт за... .*
*Гарэ́лка дýшу весялíць, але ж назáўтра галавá балíць.*
*Гарэ́лкі (гáры) нагнáў і гасцéй насклікáў – ні так нап'юць, як (ак) нальюць ці з сабóю забярýць (панясýць).*
*Гáры (самагóнкі) цыстэ́рну нагнáў – і дачкý (дóчку) зáмуж аддáў.*
*Глáдка(я) стáла, як (ак) кóрмна(я) свіня́.*
*Глухí (дурны) як (ак) пень стары.*
*Глядзí на чужóе, а дýмай пра сваé, хоць абы-якóе.*
*Гля́нуў у падýшку – поп схавáў маю́ дачýшку.*
*Гóды пражыў, а багáцця (рóзуму) ні нажыў.*
*Гóлы, як (ак) калéно, дурны, як (ак) палéно.*
*Гóрло драў да й драў, пóкуль (пакýлека, пакýлечы) улáды ў рýкі ні ўвабрáў.*
*Гóрло ўсе пражóрло (прапёрло).*
*Гóрэ маé чубáтае, ніхтó мяне ні свáтае...*
*Грáбіць, рабавáць – цюрмы ні мінавáць.*
*Грáблі й тые к сабé грабýць, хоць і ні жывые.*
*Град і малáнка – нябéсная (былая) мáнка?*
*Гроб, гроб... да ўсе сабé на гроб (у гроб, трунý, магíлу).*
*Грóшэй зарабíў – мнóго чагó (усягó) сабé купíў.*
*Грыпа давядзé (давялá) да хрыпа.*
*Гýбкі – згýбкі.*
*Гультáй любіць гаварыць: «Сéнцы, тэ́нды, брэ́нды».*
*Гультаю да навýкі, як (ак) да нéба.*
*Гультаю нáвет да малóе рабóты німá (німáшака) вялíкае ах(в)óты.*
*Гультаю й сядзéць бяз дзéла лянóта.*
*Гультаю мáло – éсці падáць: трэ́бо й пажавáць.*
*Гýтар за гýтар, а скацíна ў шкóдзе.*
*Гýтарыць (гаварыць, пляткáрыць, плёткі плясці) гóдзі, бо скацíна ў шкóдзе (у гарóдзі).*

## Д

*Дабрó аплачваéцца (аплáціцца) дабрóм.*
*Дабрó й зло ў вéчном змагáнні – перамóга (перамагáюць) па чарзé.*
*Давáй ваўкý ў зýбы й па бакý* **і** *Давáй вóўку ў зýбы й па бóку.*
*Давáй усíм дýлі (фíгі, хвíгі, хвíчкі) тóлько ў кішэ́ні.*
*Давáй хáбар смéрці, каб ранéй чáсу (пары) ні памéрці* **і** *Каб ранéй чáсу (пары) ні памéрці, давáй хáбар смéрці.*
*Давáлі, давáлі да й давáць перастáлі.*
*Давáлі, давáлі да й давáла прапáла (ні стáла).*
*Да дваццацí год – якí ён, да трыццацí – хто ён, да саракá – дзе ён...*
*Дажыў да пустóго канцá.*
*Дажыўсе(ся) да рýчкі.*
*Дай, Бог, хоць безгарáжну(ю) машыну.*
*Дай, Бог, каб ты нéчаю здох.*
*Дай, Бог, каб ты сам сябé сцярóг.*
*Дай, Бог, нáшаму цялятку вóўка абдурыць.*
*Дай, Бóжэ, каб мой хаў да на цябé напáў.*
*Дай, Бóжэ, лёгкую смерць: каб ішóў, упáў і сканáў.*
*Дай, Бóжэ, ні знáць ні сумы, ні цюрмы.*
*Дай, Бóжэ, пачýтае ўбáчыць, а ўпýшчанае злавíць.*

*Дай, Бо́жэ, ра́но ле́гчы й по́зно ўстаць.*
*Дай(це) газе́тку, заку́рым ва́шага табачку́, бо ў мяне́ запа́лак німа́ (німа́шака).*
*Дай(це) мне з'е́сці м'я́са з ва́шым хле́бам і запі́ць ва́шым ква́сам.*
*Да́йце мё́ду – атраві́цца, каўбасы́ – паве́сіцца.*
*Далё́ка(я) даро́га й уле́гцы нада́есць.*
*Дармаво́е – ні нажыўно́е.*
*Дармаво́е ўсе смачно́е.*
*Дармо́вае – ні крамо́вае (куплё́нае).*
*Дармо́вае (дарэ́мнае, бяспла́тнае) праз бо́кі (рэ́бры) выла́зіць.*
*Дармо́вы хлеб ярундо́вы.*
*Даро́га далё́ка(я), гара́ высо́ка(я), да не́ба ні дапя́ць (даста́ць) – дзе ж тае́ пра́ўдачкі (сі́лачкі) узя́ць.*
*Дарэ́мне й пту́шачкі спява́ць ні хо́чуць* **і** *Дарэ́мне (бяспла́тно) то́лько пту́шачкі спява́юць.*
*Дасту́каўсе(ся), што ні́дзе́ ні адчыня́юць.*
*Даў Бог безгара́жную машы́ну.*
*Даў Бог цыля́тко, да й німа́ яму́ спра́тку.*
*Даў Бог чалаве́чка – ні пачу́еш і славе́чка.*
*Даўне́й рабі́лі ўсе спраўне́й.*
*Да хто ты такі́, што да трох табе́ ні гамані́ (ні гавары́) – вот мацыя́ дак (дык) мацыя́.*
*Джы́нсы й шмы́нсы давялі́ яго́ да гі́рсы.*
*Дзень пусці́ў на ве́цер – на су́ткі блі́жай к сме́рці.*
*До́ўгіе ру́кі прыво́дзяць (прывялі́) да му́кі.*
*До́ўбня до́ўбняю й застае́цца, по́куль ні разасхне́цца.*
*Ду́рань дае́, а разо́(ў)мны бярэ́.*
*Ду́рня пазва́ць пазва́лі, а дзе е́сці бу́дзе, ні сказалі́.*
*Ду́рня ні чапа́й ні́якім чы́нам, на́вет і за во́лас.*

### Е

*Е (е́сцека) такі́е(я) лю́дзі, што то́лько ду́маюць (ма́раць, гада́юць) аб блу́дзі.*
*Е́сці ні с... – мо́жно абажда́ць (пачака́ць).*
*Есць, як (ак) конь, а ро́біць, як (ак) кот.*
*Есць, як (ак) конь, а с... як (ак) пта́шка.*
*Еш, а то памрэ́ш.*
*Еш, по́куль рот свеж (зу́бы жую́ць).*
*Еш у ку́мкі, а ты, кумо́к, і распера́жы́се(ся).*

### Ё

*Ё́каецца таму́, хто нічо́го ні еў (ні пад'е́ў), і таму́, хто – даро́гу чу́е.*
*Ён наравісты, як (ак) конь, яго́ мі́ла – як (ак) кабы́ла, яго́ дзіцё́(я) – як (ак) парасе́(я).*

### Ж

*Жа́ба й жа́бка – ба́ба й ба́бка.*
*Жа́ба й жабо́цька – ма́ма й до́чка.*
*Жа́ба (лягу́шка) вады́ ні баі́цца.*
*Жа́ба мала́я, а рот шыро́кі (крыклі́вы).*
*Жані́х і няве́ста злé́плены з аднаго́ це́ста.*
*Жарало́, жарало́, чым цябе́ накармі́ць?!*
*Жо́нка й мужы́к, што саба́ка й бык.*
*Жо́нка як (ак) жу́чка, у во́чы заглядáе (паглядáе) і хво́сцікам (с..., спані́цаю) вíляе.*
*Жо́рла, жо́рла, паку́лека ні памё́рла.*
*Жо́рло го́рло да й наза́д папё́рло.*
*Журавé́ль – у не́бі, сіні́ца – у са́дзе, а муж(ык) – у с... .*
*Жыве́м(ш) прыпява́ючы, нічо́го ні ве́даючы і ніко́го не зна́ючы.*
*Жыве́м па-ро́знаму, а памі́раем адзіна́каво (на адзі́н капы́л, на адну́ мане́ру, адны́м спо́сабам).*
*Жыві́ ні чужо́ю галаво́ю, а сваё́ю.*
*Жыві́, по́куль (паку́лека, паку́лечы, паку́лечкі) ні памрэ́ш сваё́ю сме́рцю – так ве́лено зве́рху.*
*Жыві́, по́куль жыве́цца, любі́ паку́лечы (ў)дае́цца.*

*Жыві прыпяваючы, нічóго ні вéдаючы і ні знáючы.*
*Живóе слóво й дзéло дух паддымáе (паднімáе), а мёртвае (ніжывóе) – апóшніе(я) сілы (ах(в)óту) адбірáе (забірáе).*
*Живóму й дýмаецца пра жывóе.*
*Живóт на жывóт – і хварóба (балéзня, балéзнь, балéзь, балéсць) прайдзёт <пад плот>.*
*Живý, пóкуль живéцца, бо живы́ ж у трунý ні ля́жэш і ў зéмлю ні палéзеш.*
*Живýць, нікамý як хóчацца, а камý як прыхóдзіцца.*
*Живýць ні хто як хóчэ(а), а камý як давядзéцца (прыхóдзіцца).*
*Живýць сабáка з катóм (кóшкаю) у міры й дрýжбе, калі захóчуць (пажадáюць).*
*Живы́(м) (жыўцóм) у зéмлю ні палéзеш (пóйдзеш) ні за што, ні за якія б там былі грóшы (ні за які(я) грóшы).*
*Живы́я(е) мёртвым ні зайздрóсцяць, а мёртвые(я) ні стыдá ні сарамá ні знáюць (ні вéдаюць, ні мáюць).*
*Жыць цікáво, а дажываць не (нецікáво, невынóсно).*

**З**

*За аднагó бітаго (правéранаго) трох нябітых (ніправéраных) даюць (бярýць).*
*За гарóй сабáчка брэшэ(а) – там, напэўно, злóдзей чэшэ(а).*
*За грóшы здарóўя (сóвесці, шчáсця) ні кýпіш(це).*
*За «дзя́куй» і кýкіш нічóго ні кýпіш.*
*За «дзенькýе» паля́к «ніц ні купýе».*
*За дурнóю галавóю живé(ш) тóлько сам (з) сабóю.*
*Зайздрóснаму й скупóму кóлько ні дай, то мáло (усягó мáло й мáло).*
*Зайздрóсны, як (ак) панóва(е) вóко.*
*Залéзеш вышэй – стýкнешсе(я), пáдаючы, мацнéй.*
*За мýжам (зáмужам) зазнáлася, за (па)любоўнікам з усімі а... .*
*За мýжам нажылáся й слёзак напілáся.*
*За нóвые(я) любóшчы адцурáўсе(ся) і жóнкі, і цёшчы.*
*За сваé ваўчаня́ ваўчы́ца (ваўчы́ха) зарэжэ(а) тваю карóву й сусéдскаго каня́.*
*За сваіх ваўчаня́т ваўчы́ца падýшыць тваіх цяля́т і ягня́т.*
*Засні, ліхо, ніхáй (хай) кругóм бýдзе ціхо.*
*За таблéткі – нéбо ў клéткі (цюрмá).*
*За тваé пітвó й ядý я цябé дадóму давядý (завядý).*
*За ўсе ўсéнькае (усéнечкае) дзя́куй і нічóго нікóму ні дзя́ўкай.*
*За харóшым (дóбрым) гаспадарóм (мужыкóм) трасé жóнка сцягнякóм (кумпякóм).*
*За чужóе пілі, éлі да й дадóму йсці ні хацéлі.*
*Зачэпіш (пачýхаеш) скуля́нку – скулá вы́расце.*
*Зáяц касавóкі, але ж шлях ягó аднабóкі.*
*Зáяц ні трус, а ўцякáе спрáўно (спры́тно).*
*Збіў на гóркі я́блык – звер, а ні чалавéк.*
*Звары́ў кацялóк: за ноч ні з чым жóнку прывалóк.*
*Звер лéпшы за чалавéка, бо ямý дарóгу даé (уступáе).*
*З гарáчкі па(й)шóў на кулáчкі.*
*З гóлаго, апрóч скýры, нічóго ні здзярэш (ні злýріш, ні сарвеш).*
*З гультаём і недарэкай (ністрóпцяй) дзе ся́дзеш, там і злéзеш.*
*Здарóўя й смéрці ў Бóга ні вы́прасіш.*
*З дурнóю жóнкаю й свой рóзум стрáціш (стрáчу, стрáціў).*
*Зéрне перамéлецца – мукá бýдзе, ліхо перамéлецца – цішынá (ціхатá) бýдзе.*
*З'ем ні з'ем, а хоць панюхаю ці пацáпаю (палáпаю, пашчýпаю).*
*Зжор бы (з'еў бы) цэлаго быкá (япрукá), але ж кішка танкá.*
*З-за аднóй авéчкі засталíсе(ся) без хамутá й уздзéчкі.*
*Ззáду – піянéрка, спéраду – пенсіянéрка.*
*З-за мужыкá-п'янтóса ні бáчыць жóнка й свайгó нóса.*
*Зімóвы Мікóла – угóднік, а вяснóвы – збрóднік.*
*Злóдзей – (а)рыштáнт, п'янюга – рыштанцюга.*
*Злóдзей памірáе, а за чужýю кішэню хапáе.*
*Злы сабáка дзяцéй ні кусáе.*
*З людзьмí жыць – трэ(бо) й людзём (лю́дскім) быць (слыць).*
*Знаравілі хлóпца: стаў, як (ак) наравісты конь.*

*Знаро́ўлены, як (ак) конь.*
*З па́льца вы́смакчэш(аш), што хоч(аш).*
*З пра́ўдай(ю) жыць (дружы́ць) – справядл(і)о́ваму быць.*
*Зязюля куку́е: без му́жа Яку́ба гару́е.*
*Зямля́ ненае́жна(я): ко́лько яе́ ні кармі́ (угно́йвай, удабра́й), ёй усе́ ма́ло й ма́ло.*
*Зяцёк – парсючо́к-дварнячо́к, а сыно́к – каба́нчык-ко́рмічак.*

## І

*І ва́рана(е), і сма́лена(е), і так кава́лкамі.*
*Ідзе́ задава́ка: і во́кам ні міргне́, і ву́хам ні павядзе́, і но́са жэ́рдкаю ні падапрэ́ш.*
*Ідзе́ й п'я́ніца па крывой ву́ліцы.*
*Ідзі́ дармо́вае (дарэ́мнае, дармаво́е) пі(ць) да й ні ло́пні (то́лько глядзі́, каб ні ло́пнуў).*
*Ідзі́ з маі́х вачэ́й (воч маі́х), сыхо́дзь у бе́лы свет і а́драса ні прысыла́й (ні пакіда́й).*
*Із-за́ гарэ́лкі далі́ га́ньбу дзе́ўкі.*
*І ко́шкі, ве́даюць (зна́юць) тро́шкі.*
*І ко́шкі разбіра́юцца, дзе мы́шы і дзе кро́шкі.*
*І круць – верць* **і** *Верць – круць.*
*І мёд ад сме́рці ні (ў)рату́е.*
*І мёд быва́е го́ркі, што кало́м у нутро́ ні ўваб'е́ш (ні заго́ніш, ні ўвапрэ́ш).*
*І мёд ні ўсе лю́бяць (трыва́юць, це́рпяць).*
*І мёд ні ўсім памага́е (на по́льзу, на ка́рысць ідзе́).*
*І ні гэ́т(д)ак, і ні так – от дура́к дак (дык) дура́к.*
*І ні даць, і ні ўзяць – от гэ́то зяць: з усіх зяцёў – зяць, ядро́на маць!*
*І ні хварэ́ў, а памёр (нечака́на пайшо́ў на той свет)* **і** *І ні хварэ́ў, і ні бале́ў, а на той свет паляце́ў (на не́бо паляце́ў).*
*І разу́(о́)мные(я) памыля́юцца.*
*І ры́бы, і м'я́са, і хле́ба, і да хле́ба – от гэ́дак (так) жыць (жы́ці) трэ́ба.*
*І разу́мнікі (разо́(у́)мные(я)) папада́юць у не́рат, што ні ўзад ні ўпе́рад.*
*І сло́вы з пе́сні (пе́сень, пе́сняў) выкіда́юць (выкі́дваюць).*
*І сюды́ – гара́, і туды́ – гара́, а памі́ж імі́ – нічо́го (анічо́генько) німа́.*
*І так, і гэ́д(т)ак.*
*І ўле́во, і ўпра́во – от дак (дык) пра́во.*

## К

*Каб жэ ж тває́ сло́вы да й Бо́гу ў ву́шы (да й Бо́жачко, Бог прыня́ў).*
*Каб жэ ж я, братко́ ты мой, мог, я б табе́ ні адзі́ны разо́к (разо́чак) дапамо́г (памо́г).*
*Каб мець (з'е́сці, паспыта́ць) грыб ці суні́цу, трэ́бо ні́зко – ні́зко паклані́цца (накланіцца, нахілі́цца).*
*Каго́ лю́біш, блюдзі́ (глядзі́), а ні лю́біш – убо́к адыдзі́.*
*Каго́ люблю́, таму́ ўсе аддаю́.*
*Каго́ палюблю́, за таго́ за́муж пайду́.*
*Каго́ палюблю́, за тым на край све́ту пайду́ (пабягу́, палячу́, паскачу́).*
*Каго́ палюблю́, за яго́ за́муж пайду́ й на свой капы́л нераблю́ (перэтвару́, перакраю́).*
*Ка́жды гад гасця́м (ні) рад.*
*Кажу́х і капо́та – саўсім ні раўно́та.*
*Кажу́х надзе́ў – адра́зу спаце́ў, надзе́ў радно́ – ста́ло халадно́.*
*Каза́ло лі́хо, што бу́дзе сядзе́ць ці́хо (сядзе́цьме ці́хо).*
*Калі гаспады́ня право́рна, то ў ха́це бе́ла (чы́ста), а ні чо́рна.*
*Калі дзе́ўку ні вянча́ць, бу́дзе то́е ж са́мае.*
*Калі до́бра(нько) пад'е́ў, заткні́ дзі́рку, каб ні бз... .*
*Калі е (е́сцека) у калхо́зі ста́так, то бу́дзе ўсім даста́так.*
*Калі каго́ палюблю́, таго́ ж наве́кі загублю́.*
*Калі лю́бяць (лю́бяцца), то й гу́бяць (гу́бяцца).*
*Калі саба́цы (саба́кам) німа́ (німа́шака) чаго́ рабі́ць, дак (дык) яны́ я́йца лі́жуць (блох шука́юць).*
*Калі сам ні з'ясі́, то каму́ ж ты аддасі́?!*
*Калі хо́ча(э)м(ш) жыць у шча́сці (няшча́сці), трэ́бо кра́сці, кра́сці й кра́сці.*
*Калі чаго́ лю́дскага німа́ (німа́шака) сказа́ць, то лепш цярплі́во памаўча́ць (прамаўча́ць).*

*Каля́дкі блі́зко, каўба́скі (кілба́скі) нізко – іх бу́дзем адрыва́ць і свя́то святкава́ць (Бо́га ўспаміна́ць).*

*Каля́ды, Каля́ды, але ні ўсе ім ра́ды.*

*Каму́ Бог дае́, а ка́му ба́цько ўсе́-ўсе́нечка аддае́.*

*Каму́ мядніца, а каму́ штаны́ ці спа(д)ніца.*

*Каму́ пашанцу́е, той і бо́сы патанцу́е (станцу́е).*

*Каму́ спра́ва, а каму́ злева сы́плецца ма́нк(н)а з само́га (высо́кага) не́ба.*

*Каму́ трэ́бо кіў, а каму́ трэ́бо й кій.*

*Каму́ шчы́ранькі пост, а каму́ пха́юць (запіхваюць) пад са́менькі хвост.*

*Каму́ што, а п'я́ніцы хоць бы кро́пелькі з ча́рачкі (з ча́рыцы).*

*Капу́ста без гры́ба і м'яса, што вада́ із кваса.*

*Капу́ст(к)а з грыб(к)о́м, што (як, ак) мёд з агурко́м.*

*Каро́ва чо́рна(я) – малако́ бе́ла(е), ма́ці чо́рна(я) – дзіця́ чарне́йша(е).*

*Каро́ўку прада́ў (прадалі) ра́зам са свінкаю – купі́ў (купілі) дачу́шцы ку́ртку (касцю́м) да й шака́лад ра́зам з начы́нкаю.*

*Касцю́м да й бо́ты купі́ў – з бацько́ў апо́шніе(я) мільёны злупі́ў.*

*Касцю́м (н)адзе́ў з іго́лачкі, а йдзе ў ёлачкі.*

*Касцю́м надзе́ў, а чый ён (што ён чужы́, ні свой), ні паглядзе́ў (даглядзе́ў).*

*Каўтану́ў – і язы́к (слі́ну, камя́к) праглыну́ў.*

*Каці́лася то́рба з высо́кага го́рба...*

*Кача́йсе(ся), валя́йсе(ся), але ні здава́йсе(ся).*

*Квакту́ха ні глядзіць, на які́х (чы́іх) я́йц(к)ах сядзіць.*

*Квак(х)ту́се ні дахо́дзіць (абхо́дзіць), што за сабо́ю ні кураня́та, а гусяня́та (качаня́та) во́дзіць.*

*Ке́пска(я) снасць зарабі́ць (зарабо́тку) ні дасць.*

*Кі́нем(ш) спе́раду – зно́йдзем(ш) ззаду.*

*Кі́нецца ўпе́рад – зно́йдзецца по́сле (апасля́).*

*Кі́нуў ка́мень на (у) сабаку, а папа́ў на (у) яго́ гаспадара́ (хазя́іна).*

*Кіўну́ў – і дамо́ва адра́зу ж гато́ва.*

*Кішэ́ню ба́цькаву трасі́, а ў мяне́ гро́ша(э)й ні прасі́.*

*Кія ў ле́сі ні шука́юць, як (ак) і дроў туды́ ні во́зяць.*

*Кляне́ (кляну́ць) на чым свет стаі́ць, аж нічо́го ні відно́ і ні чутно́ (аж, ажно́, ажні нічо́го і́ншаго ні віда́ць і ні чува́ць).*

*Кляні́, кляні́ – і сабе́ < ўсе > бяры́ (забіра́й).*

*Кляні́ мяне́ – бяры́ на сябе́.*

*Ко́жды ду́мае пра і́ншых (другі́х), гле́дзячы на само́го сябе́.*

*Ко́лько во́ўка ні кармі́ – воўк во́ўкам заста(н)е́цца: яго́ сераўно́ ў лес ця́гне (сераўно́ ў лес збяжы́ць).*

*Ко́ляды – старо́го го́да про́вады.*

*Конь саба́кі ні баі́цца – ідзе́ сабе́ й ні хмылі́цца.*

*Конь (бык) свіні́ ні друг, ні тава́рыш, ні брат.*

*Конь ці кабы́ла – адна́ ко́нска(я) сі́ла.*

*Ко́шка здо́хла – хвост абле́з.*

*Ко́шка з ко́шкаю ні жыву́ць.*

*Кра́мнае – купле́нае, кужэ́льнае – рука́мі (мно́ю) рабле́нае.*

*Крыва́я душа́ не быва́е без граша́.*

*Крыво́го й ры́жаго бо́йсе, як (ак) зэ́ка стры́жаного.*

*Крывы́(м) быў (жыў) – крывы́(м) і сплыў (згнíў).*

*Крывы́(е)я ту́флі ці бо́ты – смех да пако́ты.*

*Кры́чма крыча́ў, а ў КПЗ (цюрму́) сераўно́ папа́ў.*

*Ку́-ку, ку́-ку, ку́-ку, а фі́гу (хві́гу, ду́лю) з рукі́ ў ру́ку.*

*Купе́ц – ні глупе́ц, бо купі́ў – ні згубі́ў.*

*Купі́ў бы вала́, але ж ду́па (с...) гала́.*

*Купі́ў бы каня́, дак (дык) купі́ла німа́.*

*Купі́ў «ІЖ», а з ім – крыж.*

*Купі́ў – ні прапі́ў (ні згубі́ў, гро́шай ні згнаі́ў).*

*Купі́ў-прада́ў – і ўсе запа́сы (што збіра́ў) чо́рту лы́саму адда́ў.*

*Купле́нае – ні даро́нае (даро́ванае) і ні ўкрадзе́нае.*

*Купля́ць ні купля́ў, але ўсягéнькаго пасмакава́ў (паспрабава́ў, на язы́к узя́ў).*

*Ку́рыца ад сябе́ то́лько сме́цце грабе́.*

*Ку́рыца сако́ча(э), а дзе́ўка за́муж хо́ча(э).*

*Ку́рыца знясла́ яе́чко, а кры́ку нарабі́ла на ўсе мясце́чко.*
*Ку́рыца яйцо́ зне́сла – і ўсі́м (усяму́ све́ту) разне́сла (сваі́м кры́кам у ду́шу зале́зла).*
*Кура́выя во́чы (пракураныя во́чы) ды́му ні бая́цца.*
*Кусі́, лы́ско, зло́дзей (зладзю́ка) блі́зко.*
*Кыгі́кае сава́ – то й ніко́го ні́дзе́ німа́.*
*Кыш, ато́ ў печ (у суп) паляці́ш (заляці́ш).*

### Л

*Лаві́лі зло́дзея (даму́шніка), а злаві́лі шмо́ндзеля (двуру́шніка).*
*Лад дак (дык) лад, разла́д дак (дык) разла́д.*
*Ла́сы на чужы́е(я) каўба́сы (кілба́сы), а хто сам па іх ла́зіць таму́ (яму́) праз бок яны́ выла́зяць.*
*Ле́пей (лепш) асле́пнуць ад наву́кі, чым быць сляпы́м без яе́.*
*Ле́пей (лепш) з разо́(у)мнаю жо́нкаю стра́ціць (згубі́ць), чым з дурно́ю знайсці́.*
*Ле́пей (лепш) з чужы́м стра́ціць, чым з сваяко́м (сваі́м) знайсці́.*
*Ле́пей (лепш) ке́пско е́хаць (сядзе́ць), чым до́брэ (фа́йно) і(с)ці́ (стая́ць).*
*Ле́пей (лепш) на па́ру ні жыць, калі ло́жак скрыпі́ць, а ў гру́дзях бурлі́ць (хрыпі́ць).*
*Ле́пей (лепш) ні чапа́йсе(ся) з ду́рнем – ні (хай) яго́ лі́хо (ску́ла) учэ́піць (зачэ́піць).*
*Ле́пей (лепш) ці́хо (пшы́кам), чым мо́цно (ры́кам) пабздзі́кваць, калі жыво́т нісправу́ны.*
*Ле́пша(я) крыва́я даро́га за прамую́, на като́рай (яко́й) стаі́ць нача́льнік (даі́шнік, гаі́шнік).*
*Лес шумі́ць, наро́д гамо́ніць, а кі́ла́ бурчы́ць.*
*Ле́там снег – кура́м (людзя́м) на смех.*
*Лі, налі́ва́й (разліва́й), але ж пра жо́начку і дзе́так (сваі́х і чужы́х) ні забыва́й (успамі́на́й).*
*Лі́хо яго́ (іх) ве́дае, хто бяды́ надава́ў (напуска́ў, нагадава́ў): ці то чорт, ці то д'я́бал, ці то сам пан А́дам.*
*Лю́біш мяне́ – любі́ і ўхва́ткі (но́равы, звы́чкі, насме́шкі) мае́.*
*Любо́ў – ні карто́шка (карто́пля), а кроў – ні вада́.*
*Лю́дзі пагаво́раць да й паля́гуць спаць, а я, маладзе́нька, з мі́ленькім – гуля́ць.*
*Лю́дзям раты́ ні заткне́ш (ні пазатыка́еш).*
*Ля́тае за хло́пцамі, што аж (ажно́, ажні́) з пла́цця (суке́нкі) выла́зіць (вылу́зваецца).*
*Ля́тала, ляце́ла да й падзаляце́ла.*
*Ляця́ць бу́ські да Мару́ські, як з вы́раю гу́ські – а хто ве́дае-зна́е, што яе́ чака́е?!*

### М

*Магі́ла пра́віць ні то́лько гарба́тых.*
*Магі́лы ве́льмо цярплі́вы: у свой час дачака́юцца й нас.*
*Мае́ гла́зкі ні каля́скі: на іх ні ката́юцца.*
*Мае́ ла́скі як (ак) каля́скі.*
*Мае́ ла́скі, што (ні́быто) мату́ліны (бабу́ліны) ка́зкі.*
*Мае́ цы́цкі трасу́цца – з мяне́ хло́пцы смяю́цца.*
*Мае́ цы́цкі – хло́пцам пстры́чкі: мё́дам пама́заны (нама́заны) і ніко́му ні пака́заны.*
*Ма́еш дачку́ – май і гарэ́лку ў глячку́, ашчэ́ й да́чу да й машы́ну ўпрыда́чу.*
*Маладзі́цу хап за цы́цу, а за гэ́то – у мілі́цу (у патылі́цу).*
*Маладо́му з маладо́ю маладо́е (мало́е) у галаве́.*
*Малады́ з маладо́ю, як (ак) ры́бка з вадо́ю – ры́бка на дно, а яны́ – у гумно́.*
*Ма́ло гасце́й – нам намно́го прасце́й.*
*Мало́му, калі па́дае, Бог паду́шачку падкла́двае, а стары́ як (ак) спатыкну́ўсе(ся) – на каме́нні апыну́ўсе(ся).*
*Ма́ло, што саўсі́м дурны́ (нераз(о́)у́мна), дак (дык) ашчэ́ й з му́хамі ў но́гі.*
*Мало́е, што дурно́е.*
*Мало́дшы памо́чнік ста́ршаго ко́нюха.*
*Малы́е(я) бы́лі – бацькі́ дапамага́лі, а павыро́сталі са́мі – бацько́ў абабра́лі (абадра́лі).*
*Малы́е(я) й стары́е(я) – на адну́ вагу́ й ме́ру.*
*Малы́е(я) былі́ – дружы́лі, а як (ак, к) вы́раслі – адзі́н аднаго́ палюбі́лі й сям'ю́ (сяме́йку) ствары́лі.*
*Малы́, як (ак) дурны́, а стары́, як (ак) малы́.*
*Малы́я(е) дзе́ці галаву́ ду́раць, а калі вы́растуць – і сэ́рцо змарну́юць.*
*Маўчы́, каб табе́ зарва́ло.*
*Маўчы́, маўчы́, ну, про́сто, як (ак) жа́ба ў карчы́.*
*Мая́ мі́лка, як (ак) кабы́лка, то́лько хвасто́м ні мата́е, бо валасы́ абстрыга́е (абраза́е, адраза́е).*
*Мая́ мі́лка ў агаро́дзе, як (ак) пры наро́дзе.*

*Мно́го чаго́ ў нас было́, але ж з вадо́ю сплыло́.*
*Мно́го (ма́ло) дзяце́й – мно́го (ма́ло) ра́дасці й го́ра.*
*Мо́жно й сце́жкаю хо́дзечы грыбо́ў назбіра́ць.*
*Мо́жно... Не́льга... Усе́ мо́жно – то́лько асцыро́жно!*
*Мо́жно паўве́ка падма́нваць (абво́дзіць круго́м па́льца) свайго́ (ве́льмі блі́зкаго) чалаве́ка.*
*Мо́жэм ні можэ́ш, а трэ́бо.*
*Мо́цно хво́раму й мёд ні памо́жэ (дапамо́жэ).*
*Мо́цно хво́раму й Святы́ (све́тлы) Бо́жа ні памо́жа.*
*Мудры́(це), мудры́(це), але ж ні перамудры́(це).*
*Мудры́це, але, каб ні перамудры́лі, глядзі́це.*
*Музыка́нты (музыка́нцікі), або́ гра́йце, або́ гро́шы (гро́шыкі) аддайце.*
*Музыка́нты – рызыка́нты.*
*Мы з табо́ю ні дружы́лі, але ж до́бранько нача́льніку (нача́льству) служы́лі (паслужы́лі).*
*Мы з табо́ю, як (ак) ле́бедзі (з вадо́ю й без вады́).*
*Мы ні выганя́емо цябе́, але ж было́ б лепш (ле́пей), каб ты ўзяў да й сам па(й)шоў бы адсю́лека (адгэ́туль).*
*Мядзве́дзя наву́чыш (вы́вучыш), а ду́рня – ніко́лі (нія́кім чы́нам, нія́кімі ме́тадамі).*

**Н**

*На абе́д у «Бульбя́най»: пе́рша(я) стра́ва – бу́льба з вадо́ю (бульбя́ны суп, булён); другая – бу́льба без вады́ (сма́жаная бу́льба ў гаршчо́чках); трэ́ця(я) – вада́ без бу́льбы (чай, кампо́т, сок).*
*На абма́не далёко ні за́йдзеш і ні зае́дзеш.*
*На аднаго́ ра́ба тры прара́ба.*
*На Бо́га спадзява́йсе(ся), а сам ні цяра́йсе(ся).*
*Наву́ка – му́ка, але ж за спі́ной яе́ ні но́сяць.*
*Наву́ка – му́ка, але ж ру́к(і) ні адрыва́е (свабо́дные(я) но́гі, плечы й ру́кі).*
*Наву́ка – му́ка, але спі́ну(ы) ні му́ляе.*
*На ву́чаных (вучо́ных) уве́сь бе́лы свет дзяржы́цца (трыма́ецца).*
*Нагавары́ў мех і то́рбу.*
*На галаве́ або́ гу́сто, або́ пу́сто.*
*На галаве́ гу́сто, а ў галаве́ пу́сто.*
*На галаве́ – страха́, а ў галаве́ – блыха́ (мазго́ў крыха́).*
*На дармаві́нку й жыд (чучмэ́к, мусульма́н) есць саланінку.*
*Нае́лася ба́ба (жа́ба) жабурэ́ння, дак (дык) і кру́мкае.*
*Нае́лася то́рба па са́мае го́рла.*
*На ле́чаном кані́ й чужо́м ро́зумі далёко ні зае́дзеш (прасу́нешсе(ся), ад'е́дзешсе(ся), ад'е́дзеш).*
*На Міко́лу вясно́ваго (маёваго) кладзі́це спаць дало́ў чалаве́ка го́лаго.*
*На Пакро́вы раву́ць у хлявох каро́вы.*
*Напо́й ба́бу – і бу́дзе чорт у спа(д)ні́цы.*
*На пры́вязі гырчы́ць, а як (к, ак) сарве́цца – маўчко́м маўчы́ць.*
*На Пятра́ ка́жда(я) ба́ба хітра́.*
*На Пятра́ ні ад(ы)хо́дзь ад макатра́.*
*На рабо́ту жыцця́ ні хапа́е.*
*На рабо́це, як (ак) у ка́зцы: што нача́льнік, то пень; што наме́снік, то дуб; што бухга́лцер, то кало́да; адны́ сакрата́ркі – я́гадкі-малі́нкі.*
*Нараві́сты, як конь.*
*Нарадзі́ў дачку́ – ні спі на бачку́, а малаці́ гро́шы на тачку́.*
*Нарадзі́ўсе(ся) – адразу́ ж да спа(д)ні́цы прычапі́ўсе(ся).*
*Наро́д за камуні́стамі – саво́к, а генсе́к – бо́гачалаве́к.*
*На скаварадзе́ (скаваро́дцы) пішчы́ць, а ў жываце́ бурчы́ць.*
*На сняда́нне – мача́нне, на абе́д – капу́ста й хлеб, а на вячэ́ру зло́вім цяце́ру.*
*На ўсе хваро́бы е (е́сцека) ляко́бы.*
*На хі́трыках да Масквы́ дае́дзеш, а наза́д ні прые́дзеш (ні ве́рнешсе(ся)).*
*Начамі халасцяко́м і старыко́м ні спі́цца, а днямі ні сядзі́цца.*
*Начна́я зязю́ля дзённую (дзённяшнюю) перакуку́е.*
*На чужбі́не со́нцо ні так грэ́е, як (ак) до́ма.*
*На чужо́й старо́нцы для нас німа́ со́нца (со́нейко саўсі́м нам ні грэ́е).*
*На́ша пе́сня без канца́ – пачына́й спача́тку.*
*Нашто́ мне вянча́цца, калі й так е (е́сцека) з кім каха́цца (улюбля́цца, мілава́цца).*

*Ні адбірáй у стáрца тóрбу.*
*Ні аддáм дачкý, бо ты ў шарачкý і заглядаеш у чарачкý.*
*Ні аднамý мне на табé свет клінам сышóўся(се).*
*Ні бóйсе(ся) нікóга, і ні чóрта, і ні Бóга...*
*Ні брашы на сóнцо, бо язык адсóхне (прысóхне).*
*Ні бýдзе жаніхá, ні будзé й грахá.*
*Ні бяры цераз сілу, бо пуп надарвéш (грыжу, кілý нажывéш).*
*Ні вáжно, што вéдьмо ж зацяжно.*
*Ні вáжно, што тóлько бумáжно.*
*Ні вош, ні блыхá, а гніда (сівая гніда).*
*Ні вучы вýчанага (навýчанага, прывýчанага).*
*Ні вучы сабáк брахáць (як і на кагó).*
*Ні выбірáй сабé жóнку, на тáнцы ідучы, а выбірáй, рабóту рóбячы.*
*Ні гáўкай, дзе ні трэбо (варт), бо скóро язык укарóцяць (падрэжуць, адшчыкнýць).*
*Ні гáўкай, калі (дзе) трэбо лізáць (лізнýць).*
*Ні глядзі так, харашá, ні палýчыш і грашá.*
*Ні глядзіць ні вóка, ні бóка, ні мáці, ні дзіцяці...*
*Ні давáй нікóму фігаў (хвігаў, дýляў) нáвет у кішэні (праз кішэню).*
*Ні давáй свіні вóлю, а мужыкý (жóнцы) пáнство (начáльство, верхавéнство, камáндаванне).*
*Ні давядзі, Гóспадзі, у прымах пражывáць, а на чужбіне памірáць.*
*Нідавярка ні ўгаварыць, ні ўпрасіць.*
*Ні дай Бог свіні рог, затóе ўвесь свет збяры.*
*Ні дýмай без тóлку – здурнéеш.*
*Ні дýмай (гадáй) пра тóе, што бýдзе (прыдзе).*
*Ні éўшы, спаць кладзіся, але ж Бóгу памаліся.*
*Ні жáба – ні квáкай.*
*Ні жытка, а пытка (псялытка).*
*Ні загалілася (агалілася, распранýлася) самá – той нівінавáта(я).*
*Нізапрашóны – г... сушóны, бо ніўкармлёны.*
*Ні зайздрóсць(ціце) – брахáць (хлусіць) ні прыдзецца.*
*Ні запрашáлі ці запрашáлі – абы выпіць дáлі.*
*Нізапрашóны, бо ніўкармлёны.*
*Ні заўсюды дабрó дабрóм канчáецца (завяршáецца).*
*Ні заўсюды і ўсюды маўчáнне – зóлато.*
*Ні заўсюды ў ваўкá цэлые(я) бакá.*
*Ні йдýць у мáі дажджы – багáтаго ўраджáю ніжджы.*
*Ні йдзі супрóць (прóціў) нарóду, бо бýдзе мнóго смурóду.*
*Ні кажы нікóму, а насі паціхеньку знахóдку дадóму.*
*Ні кажы пра ўбáчанае нікóму, а бяжы бягóм дадóму.*
*Ні казáла пра ўсе нікóму – тóлько Бóгу аднáму.*
*Ні калá ні дварá ў тагó (хвалёнаго) гаспадарá.*
*Нікóгенько (нікамýсенькі) німá (німáшака) а-ні-ні: ні блізкіх, ні радні.*
*Ні крычы, бо прыстáнеш ядучы.*
*Ні куéцца, дак (дык) плéшчацца.*
*Ні кум, ні сват, ні друг, ні брат, а так сабé!*
*Ні лезь, а то абязвéчу (скалéчу, мóрду разаб'ю).*
*Ні ляпай языкóм, як (ак) клямкаю (зáмкаю, зáсаўкаю).*
*Німá (німáшака) стáтку – ні бýдзе й дастáтку.*
*Німá (німáшака) тагó, што яшчэ бýдзе – пачакáйце трóшкі, мáйце цярплівасць (цярплівóсць).*
*Німá (німáшака) чагó табé тут вышчарáцца (выскаляцца, а лéпей бы дадóму адпраўляцца (сабірáцца)).*
*Німá (німáшака) чагó прадавáць – німá (німáшака) чагó й купляць.*
*Ні мнóго ні мáло – абы былó б што спажывáць.*
*Ні мóжэ(а)ш – навýчым, ні хочэ(а)ш – прымýсім.*
*Ні мяды – старыя(е) гады* **і** *Старые(я) гады – ні мяды.*
*Ні на ўсе хварóбы е (éсцека) лякóбы* **і** *На ўсе хварóбы е (éсцека) лякóбы.*
*Ні нóсе(я)ць цяпéр(-ака, -ачы) картóвае – (па)давáй ім (маладым) імпартóвае (імпартнае).*
*Ні павёў мяне дадóму, а павёў (завёў) мяне ў салóму.*
*Ні плюй(це) у (на) вадзіцу – захóчаце(аш) яé ж напіцца.*

*Ні прасі Бо́га, калі сам ні змо́га.*
*Ні прасі́ла, ні малі́ла, а перад но́сам дзве́ры зачыні́ла (а к чо́рту паслáла й хáту зачыні́ла).*
*Ні рабі́ дурно́го – і ні бо́йсе(ся) ніко́го.*
*Ні рабі́ ты мне бяды́, як (ак) пажэ́німсе(ся) – тады́ (то́е бу́дзе заўсягды́).*
*Ні руш чужы́ капялю́ш.*
*Ні ры́бы, ні мя́са – прападзі́ ты, до́ля на́ша.*
*Ні скаль (пака́звай, сушы́) зу́бы бездайла́ду (без прычы́ны, без патрэ́бы, без то́лку).*
*Ні сме́йсе(ся) з па́льца, бо Бог (чорт) адарве́ я́йца.*
*Ніспадзе́ўкі – дзіця́ (пу́за) у дзе́ўкі.*
*Ні спява́й зра́нку, бо ве́чарам запла́ча(э)ш.*
*Ні спяшы́ за́муж, На́стачка, паспе́еш (успе́еш) напла́кацца.*
*Ні спяшы́ на той свет, бо ашчэ́ й на гэ́том ме́сто ест (есць).*
*Ні спяшы́ сам на той свет: у сме́рці свой раскла́д (свая́ чарга́, свая́ пара́).*
*Ні сыры́, ні ва́раны, а тро́хі паджа́раны (падсма́лены).*
*Ні так, дак (дык) гэ́т(д)ак – абы дабро́м (за)ко́нчыласё(ся, се).*
*Ні так дзяце́й люблю́, як (ак) гэ́ту рабо́ту.*
*Ні таму́ (табе́), ні сабе́ – як (ак) саба́ка на се́ні.*
*Ні трэ́бо жыць, як (ак) набяжы́ць, а трэ́бо – як (ак) ка́жэ (гаво́рыць) не́бо.*
*Ніўпрашо́наго – ні ўпрасі́ць, ніўкармлё́наго – ні ўкармі́ць.*
*Ні ў ко́ло, ні ў мя́ло, ні ў салда́ты, ні ў матро́сы, а падма́зываць калё́сы.*
*Ні ў ка́ждом ле́сі праўдзі́вы грыб расце́.*
*Ні ў ка́ждом ле́сі праўдзі́вікі (баравікі́) расту́ць.*
*Ні ўкушу́, дак (дык) хоць угнюшу́.*
*Ні ўсе то́е смяшно́, што грашно́.*
*Ні ўме́еш з сябе́ смяя́цца – ні сме́йсе(я) з і́ншых.*
*Ні ўсе́ ўрачы́ – рвачы́.*
*Ні хадзе́це, дзе́ўкі, у лес, бо зязю́лемі ста́неце.*
*Ніха́й (хай) ідзе́ ў лю́дзі – пагледзімо́, што ж з яго́ (яе́) бу́дзе.*
*Ні хо́чэш бяды́ – ні дражні́ агню́ й вады́.*
*Ніхто́ адту́лека (адту́ль) ні вярну́ўсе (з таго́ све́ту ні прышо́ў), а то́лько Ісу́с Хрысто́с уваскро́с.*
*Ніхто́ сам сябе́ за ло́каць ні ўкусі́ў і ні ўку́сіць.*
*Ніхто́ табе́ горш ні зро́біць, як (ак) ты сам сабе́.*
*Ні цалу́й агню́ (аго́нь), бо асма́лішсе(ся).*
*Ні чака́й зваро́ту таго́, што даўно́ ўжо сплыло́.*
*Ні чалаве́к, а до́шчачка (*руск. *доска – два соска).*
*Ні чапа́й бо́льку рука́мі, бо по́йдзе па ўсім це́ле струпа́мі.*
*Ні чапа́й з ве́чара скуля́нку, бо бу́дзеш чу́хаць (дзьму́хаць) да са́менькаго ра́нку.*
*Ніцо́го ні пачына́й, калі канца́ ні ба́чыш (ні ўба́чыш).*
*Ні шкаду́й ніцо́го, бо ўсе ўсе́нькае й са́мі ўсе мы пад Бо́гам (ад Бо́га).*
*Ні жыць, ні пра(с)ць, а то́лько е́сці да й спаць.*
*– Но, во́ўчае – м'я́со.*
*Но́ч'ю й бе́ла(я) каро́ва здае́цца чо́рна(ю).*
*Но́ч'ю мала́ды (стары́), а днём стары́ (малады́).*
*Ноч но́чы ро́зніца, калі му́ж(ык) да жо́нкі (с)по́зніцца.*
*Ноч перамага́е (перамо́жа) працо́ўны дзень.*
*Ну й зяць: ні сабе́ паглядзе́ць, ні лю́дзям паказа́ць.*
*Ну й спана́трыў: нагату́й, пада́й, у рот палажы́, а пра́ўдачкі ані́ сло́ўца ні ска́жы.*
*Ну, то ж і зяць: ні сця́ць, ні ўзя́ць.*
*Ну, чаго́ ж ты (на каго́ ж ты) вы́зверыўсе(ся)?!*
*Ня(ні)ве́рная жо́нка, што ко́шка ўпацё́мках і што су́чка з кабялё́нкам.*
*Ня(і)ву́чаны на ву́чаным е́дзе і пу́гаю пад ганя́е (на ка́рку сядзі́ць і паганя́е).*

**О**

*О, да́йце мё́ду атраві́цца...*
*О, да́йце мё́ду цэ́лую кало́ду...*
*«Ой!» да й «Ах!» – або́е ў гада́х.*
*О́йчэ (О́тчэ) наш – уго́днік ваш, і́жэ ясі́ – і нам е́сці нясі́, але ж сам ніцо́го ні прасі́, а як (ак, к) паб'ё́м – ні галасі́.*

*От зрабіў (зрабілі) мне бяду, што я й дадому ні дайду...*
*От лежма ляжыць, як (ак) гнілая калода.*
*От стойма стаіць, як (ак) слуп, укопаны пры дарозі...*
*Охай да й ахай цяпер(ака), а лепш пасылай усіх падальшэ(й), дзе былі раньшэ(й),* і *Охну да й здохну.*
*Ох, рох! Ні дай, Бог, мне заснуць без задніх ног...*
*Ох, у полі, пры дарозі, жывуць (крадуць) людзі ў калхозі...*

## П

*Па адном мы ўсе памром* **і** *Адзін за адным на той свет (на нechо) паля(е)цімо.*
*Пабудзь (пасядзі), покуль (пакулечы, пакулека) ні пойдзеш.*
*Падары... Падары... А калі (як, ак) падарылі – ворага(ў) сабе нажылі (набылі).*
*Падвёў п'яны кацялок: сусед жонку ўвалок (у салому завалок).*
*Паехаў за свет (у чужы свет) – як (ак) быў, так і нет.*
*Пазычыць прасіў, маліў, а аддаць пазыку (пазычку, пазычанае) навек (па)забыў.*
*Падлец на падляцу сядзіць і на Бога ні глядзіць.*
*Падлец на падляцу сядзіць да й на іншага глядзіць (і на нікога ні глядзіць, навет ні б...).*
*Падляцу ўсе к ліцу* **і** *Подлы на ўсе згодны.*
*Падручыўсе(ся) як (ак) заручыўсе(ся), а наняўсе(ся) як (ак) прадаўсе(ся).*
*Па Ільі (Іллі, Іллю) да й Спасу – у раку (ваду) ні разу.*
*Пайсці то па(й)шлі, але ж нічого ні на(й)шлі.*
*Пайсці то пайшлі, але ж сюды ні пры(й)шлі.*
*Пайсці то пойдзеш, але ж куды мы зойдзем.*
*Пакулека (пакуль, пакулечы, покуль) бедны ўзяць сабраўсе(ся), багаты ўжо па саменькае горло нахватаўсе(ся).*
*Пакуль (пакулека, пакулечы) прыжджэш – напеўно, капыты задзярэш (ні адзін раз памрэш).*
*Палілісе(ся) мае <горкі> слёзы, як (ак) па зеркалі (шкле, сцяклé) вада.*
*Палюбіла гультая – така(я) долюшка (долечка, доленька) мая.*
*Палюбіцца, што (як, ак) гары напіцца (упіцца).*
*Паляк паляка (у)бачыць здаляка.*
*Паляк палячку любіць на стаячку.*
*Палякі сталі, як (ак) сабакі.*
*Па Міколе спіцца ў доле да й поўно ягад у прыполе.*
*«Паміраць нам заранне» – гавораць як адзін цыгане.*
*Паміраць (пазіраць) – ні піва прадаваць.*
*Паміраць памірай, але ж чужому ні давай (свайго ні аддавай, дабро сваім параздавай).*
*Папаў у небо пальцам.*
*Папаў у воўча(е) логаво (у гадзючнік, у балото).*
*Папаў цмоку на абед (на з'яданне, на верну(ю) гібель, смерць і г. д.).*
*Попова(о) воко бачыць далёко.*
*Поповы валасы залезлі ў жончыны трусы.*
*Поповы вочы (вокі) завідушчые(я), а рукі заграбушчые(я).*
*Поповы словы б'юць і у лоб, і ў бровы.*
*Папрасі хлеба (харчу) у небясі – і на днёх будзеш у вечных даўгох.*
*Папраў казе (аўцы, сабацы) хвост.*
*Папу шануе, хоць ён пае, а ні танцуе.*
*Паршывой карові Бог ні даў (дае) рог.*
*Па савету выбраў сабе (ні сваю) кабету.*
*Па савету жыве паўсвету.*
*Пасланец пайшоў (паляцеў) – і навет пра самого Бога забыў.*
*Пасляў Богу на падмогу.*
*Пасляў дурного, за ім – другого, і німа (німашака) ні гэтаго, ні того.*
*Пасляў пасланца да й ні з свайго сяльца.*
*Патрабуе й старая кабыла, каб жарабец быў малады, здаровы да й старанны.*
*Пахне мядком, але ж ні возьмеш ратком.*
*Пацалуй сабацы пад хвост – мо дарэмно (на дармавінку) брахаць ні будзе.*
*Пацалуй сам(а) сабе ў с... (пад хвост) – і (то) воўка (чорта) баяцца ні будзеш.*
*Пашла гуляць – і нагуляла за адну ночку сына й дочку.*

*Пашла́ (вы́шла) на хвілі́нку, а прабе́гала гадзі́нку (часі́нку) – от дак (дык) пахáтніца (пахáтуха).*

*Пашо́ў вайно́ю Кіта́й – усе́, пáне-брáце, кідáй да й куды́ во́чы глядзя́ць уцякáй.*

*Пашлі́ (пасылáй) пасланцá аднóга, а за ім другóга.*

*Пéвень дóбрэ пеў, але й дóбрэ еў.*

*Пенсіянéру нóчью ні спíцца, а днём ні сядзíцца.*

*Перад смéрцю ўсе рóўны(е, я): німá (німáшака) для яé ні бéдных, ні багáтых; ні высóкіх, ні нізкіх; ні далёкіх, ні блíзкіх...*

*Перакóрміш сабáку (сýку) – брахáць (гáўкаць) ні бýдзе як след (саўсíм перастáне).*

*Перахрысцíсе(ся) і дзяцéй перахрысці, сабрáўшысе(ся) у дарóгу.*

*Пéсенніца дóбрэ пéла, бо чужóе смéло éла.*

*Пéсня пéсні – рóзніца: мóжэ пець калхóзніца.*

*Пéсняю(мі) сыт(ы) ні бýдзем(ш).*

*Пéсня ўся, пéсня ўся, пéсня скóнчылася: галасы́ – на лясы́, а ўсім – скýлы на насы́.*

*Пітвó чужóе ліхóе* **і** *Пітвó чужóе ні ліхóе.*

*Пітвó чужóе вéльмо ж смачнóе, бо дармавóе.*

*Пі ў мéру, бо й рóзум прап'éш і без жóнкі (сям'і) бýдзеш (астанéшсе(ся)).*

*Піў ні ў мéру: прапíў машы́ну й кватэ́ру.*

*Піць і курыць – пра здарóўе забы́ць (здарóўю ўрадзíць).*

*Пíшэм рукóю, а чытáем галавóю.*

*Пíшэш сваéю рукóю (чалавóю), а чытáеш маéю.*

*Плíшчыцца, шчэ́міцца, як (ак) парася́(ё) у плот.*

*Плюгáвы, але з грашáмі (грашы́ма).*

*Пнéцца, карáбкаецца, як (ак) жáба на кýпіну.*

*Пнём пень, вымышляé ўвесь (ўсéнечкі) дзень.*

*Пóдламу як (ак) нівóднаму (нігóднаму).*

*Пóдласць да й падмáн рóдные (сястрá й брат).*

*Пóдлых вéшаюць або на крывóй бярóзі, або на сухóй асіні.*

*Пóдлых людзéй ні пускáюць (пушчáюць) і да дзвярэ́й.*

*Пой (пі) да пасінéння: зáўтра(э) ж васкрасéнне (ускрасéнне).*

*Пóйдзем (вы́йдзем) пагавóрым* **і** *Давáй(це) пóйдзем (вы́йдзем) пагавóрым.*

*Поп адзéў шырóкіе(я) рызы, каб былó дзе схавáць валізы.*

*Поп лю́біць быць забірáхам (пазычáхам), але ж ні аддавáхам.*

*Поп панý ў вóчы ні плюé (ні плю́не).*

*Поп ці дзяк – сераўнó лайдáк (прайдáк).*

*Поп чужýю жóнку спавядáе, хоць сам пад спа(д)ніцай у чáрку заглядáе.*

*Пост – гэ́то ні пост, калі скóрам есць прахвóст.*

*Пóўна хáта (царквá, цэ́ркаў) гультаёў, дзе ж набрáць ім халуёў.*

*Праз хлеб (шчáсце) хлéба (шчáсця) ні шукáюць.*

*Прáўда прáўдаю, а нíпрáўда (кры́ўда) ніпрáўдаю (кры́ўдаю) застаéцца.*

*Прáўда трэ́ба і жывым, і мёртвым.*

*Прáўда хоць і (ў) вóчы кóле, але навéрх вылáзіць (выхóдзіць, выпаўзáе).*

*Прашý прыня́ць мянéў КП, бо ў СС я быў пры нéмцах* (служыў паліцаем («бобікам») на акупаванай немцамі зямлі).

*Прóйдзенага (прóшлаго, мінýлаго) ні вéрнем(ш).*

*Прóсам прашý аддáць, што скашý (перакашý).*

*Прóсьбаю(мі) прóсіць, мальбóю мóліць, а пазы́чыць (пазы́чыўшы) і прысвóіць.*

*Прóшаных пóяць і кóрмяць, а няпрóшаных у кáрак гóняць.*

*Прывы́к да малéбна – і рабóта ні патрэ́бна.*

*Пры́дзе парá і вы́расце (згíне) травá.*

*Прыкусі язы́к, ля́пало (бóлбацень, балбатýха).*

*Прымáй, зямéлька: памёр Ямéлька (Амéлька).*

*Пры паля́ках жылі па-ўсяля́каму, а пры савéтах забы́лі і тóе, і гэ́то (і гóрэ, і бéды).*

*Прытуліў змяю ля грудзéй, бо ні паслýхаў разó(ў)мных людзéй.*

*Прышлá вяснá (парá) – і вы́расла травá (і ажылá зямля́).*

*Прышлá зімá, пры́дуць у сваю́ парý вяснá, лéто й вóсень, калі ў адзíн дзень пагóд вóсім (вóсем).*

*Прышлі Дзяды́ – прынéслі мнóго смáчнае яды́.*

*Прышлі свáтацца дýрань і п'я́ніца.*

*Прышлóсе ў цюрмý сéсці, каб былó на гóрло і напíцца, і паéсці (кóлько й чагó захóчацца папíць да й паéсці).*

*Прышоў у сваты, а ў самóго лáта на лáці да й шва (швоў) ні пазнáці.*
*Пся крэў, марш (ідзі) у хлеў!*
*Птýшка – у акнó, госць – у дзвéры.*
*Пустóе мéсто ні бывáе: варóна з калá, а на ягó (кол) – дзéсяць сядáе.*
*Пýсто ў хáці стáло без бáці (бáцькі).*
*Пчалá падыхáе (здыхáе, памірáе), але ж сераўнó кусáе (джáло вымáе, у ход пускáе).*
*Пчóлы ляцяць на мёд, а мýхі – на смурóд.*
*Пытáецца Лыско, ці тóрба з сáлам (ядóю) блізко.*
*П'янтóсаво гóрло ўсе прапілó й пражóрло.*
*П'яніца й на пажáры выпіць прóсіць (папрóсіць).*
*П'яніца нікóму ні нарáвіцца (ні мáе чым панарáвіцца).*
*П'яніца ні тым, чым трэ́бо, слáвіцца.*
*П'яны – апантáны (абадрáны, абплявáны).*
*П'яны чалавéк тагды́, калі двóе (ягó) вядýць, а трэ́(й)ці (ямý) нóгі перастаўляе.*

## Р

*Рабі да й папрáўсе(ся).*
*Рабі пáну вéрне, а ён табé пéрне.*
*Рабі тóлько дабрó – і (а) шчáсце прыдзе самó.*
*Рабіў, рабіў да й дзярмóм (г...) завяршыў.*
*Рабіў сланá, а зрабіў мýху (а вы(й)шла мýха).*
*Рабіцьмеш (бýдзеш рабіць) ад зары́ й да зары́ – так і рóбліва ні стáне (ні хвáціць, ні бýдзе).*
*Рабіць спяшы́ш – людзéй смяшы́ш.*
*Рабóта дýрняў лю́біць, а дýрні лю́бяць рабóту.*
*Рабóта – ні бес, ні ўцячэ́ (збяжы́ць) ад цябé ў лес.*
*Рабóта рабóтай, а ах(в)óта ах(в)óтай.*
*Рабóтай, мужчы́на, рабóтай, ні стой: ніхтó ні заплáціць табé за прастóй.*
*Рабóту рóбячы варóн ні страляй, па бакóх ні пaглядáй.*
*Рабóты да пакóты.*
*Рабóчаму – рабóта, а лóдару – цянёта (лянóта).*
*Радáсць, што зрабіў гáдасць.*
*Радзівіл любіў (глядзéў) медзвядзéй лéпей, чым людзéй (любіў медзвядзёў лепш, чым людзёў).*
*Радзівіл мужыкóм сказáў, як (ак) іх звязáў.*
*Радзівіл – пан у Нясвіжы, а ўсе кругóм ягó падпáнкаў ліжуць.*
*Радзівілу – гýлікі, а мужыкóм – с... .*
*Рад раб, што ядá дармóвая (бясплáтная, дарэ́мная).*
*Разóмны вéдае, дзе чорт (неразóмны) днюе й начýе.*
*Разóмны вýчань (вучанік) свайгó настáўніка заганяе ў казіны рог (у тупік).*
*Ранéй кýжаль і зрэ́б'е насілі, а ў бацькóў грóшэй ні прасілі.*
*Ранéй спа(д)ніцы й панёвы муцілі галóвы, а цяпéр (цяпéрака, цяпéрачы) калгóткі бярýць усіх за глóткі.*
*Расхадзілісе (разышлісе), як (ак) свінні на дóждж.*
*Расцвілá, як (ак) мак, а ніхтó ні бярэ́ за так (за пятáк, мядзяк).*
*Расцé на лес глéдзячы і ў чужы́ агарóд (сад) лáзячы.*
*Расцé ні ўвысь, а ўшыркі.*
*Расцé ні ў вяршкі, а ў карашкі (караньки).*
*Расцé ні ў ствол, а ў крóну.*
*Расцé як (ак) на закáз ці пакáз.*
*Расцé як (ак) у кáзцы.*
*Рóбім, як (ак) умéем, а плáту бярóм, як (ак) сумéем.*
*Рóзум май, а (і) рукáм вóлі ні давáй.*
*Рóзуму ў магазіні (за шакалáдку) ні кýпіш.*
*Рукá без рукі ні абыхóдзіцца (ні мóжэ жыць).*
*Рýкі залаты́е(я), а мы́слі (дýмкі) прапіты́е(я).*
*Рýкі ўсе рóбяць, а хмель (п'янство) усé пóрціць.*
*Рызыка ні заўсю́ды да дабрá вядзé (давóдзіць).*
*Рызыкáнты – фарсуны́ і фрáнты.*
*Рызыкýюць, рызыкýюць, а пóсле дóма ні начýюць.*

*Рэвізія прайшла́ – пара́дак навяла́.*
*Рэвізо́р усі́х правяра́е, на кашалькі́ іх пазіра́е.*
*Рэ́кі бягу́ць (цяку́ць) сваі́м шля́хам (сваёю даро́гай, сваі́мі мясці́намі).*
*Рэ́шатом во́ду ні ко́сяць, а зо́лата німа́ (німа́шака), каб свет здзіві́ць бага́цьем.*

## С

*Саба́ка брэ́шэ(а), а гаспада́р пу́зо чэ́шэ(а).*
*Саба́ка гало́дны, калі гаспада́р (мужы́к) ніго́дны.*
*Саба́ка здружы́ўсе(ся) з во́ўкам, а гэ́ты яго́ з'еў* **і** *Саба́ка дружы́ў з во́ўкам, по́куль (паку́лека, паку́лечы) той, яго́ ні з'еў.*
*Саба́ка ні баіцца го́ласу да й кі́ва, а баіцца ні́я.*
*Саба́ка саба́ку зна́е, але ж з-за су́кі (су́чкі) адзі́н аднаго́ куса́е* **і** *Саба́ка саба́ку зна́е, але ж з-за су́кі (су́чкі) і гаспадара́ пакуса́е.*
*Саба́ка хвасто́м віля́е і ў во́чы пазіра́е – кармі́ то́лько.*
*Саба́ка ў во́чы пагляда́е, а як (ак) сказа́ць ні зна́е* **і** *Саба́ка ў во́чы пагляда́е, а што сказа́ць ні зна́е.*
*Саба́ка ў сусе́давом ку́блі са́ло ўкраў і ў сваёй бу́дцы схава́ў.*
*Саба́ка чалаве́ку слу́жыць, але ж на пры́вязі (на ланцугу́) без су́кі (су́чкі) ту́жыць.*
*Саба́ка язы́к ма́е, але ж то́лько ў во́чы пазіра́е (пагляда́е, загляда́е).*
*Саба́кі па чарзе́ (у чаргу́) су́ку (су́чку) лі́жуць і адзі́н друго́га нінаві́джуць.*
*Саба́ку й во́ўка кляну́ць, але ж да іх аніяк праклёны (пракля́цце, клёнічы) ні прыстаю́ць.*
*Саба́цы (саба́кам) сераўно́, на каго́ га́ўкаць (браха́ць, кіда́цца).*
*Саве́т вам і (да й) любо́ў, каб ні былі́ халасцякі́ (халасцякамі́) зноў.*
*Саве́т да й ра́да – то́е, што й пара́да (нара́да).*
*Сам(а) ле́зу ў гару́, а чорт цягне (ні пуска́е) за нагу́.*
*Сам(а) сабе́ ігра́ю, сам(а) слу́хаю, сам(а) спява́ю й сам(а) слуха́ўкі (ву́шы) чу́хаю.*
*Сама́ чо́рна(я), дак (дык) і ў ро́ці чо́рно (чо́рнае).*
*Саўсі́м ні еш, а пра́ўду-ма́тку рэж.*
*Сваё біцесе, ла́йцесе, а чужы́е (знако́мые, сусе́дзі) ні мяша́йцесе(ся).*
*Свайго́ лёсу (назна́чанага, да́нага табе́ зве́рху) ні абы́дзеш і ні аб'е́дзеш ні з яко́га там ні было́ б бо́ку.*
*Сваму́ (сваяку́) панёс (занёс), а мне ду́лю (фі́гу, хві́гу) пад са́менечкі нос.*
*Сва́рацца баля́с і баля́сіха (зладзе́і) – усі́м бу́дзе лі́ха.*
*Сва́таючы ўсва́таеш, адбіва́ючы адаб'е́ш.*
*Сваты́ – ні браты́.*
*Сваяк сваяка́ ба́чыць здаляка́, як (ак) рыба́к рыбака́.*
*Сваяк сваячку паклі́каў на стая́чку (у чаргу́ па дэфіцы́т).*
*Сваяк у баку́, сусе́д у ваку́* **і** *Сваяк бо́кам, бо́кам, а сусе́д во́кам, во́кам (на сусе́дзяў во́кам, во́кам).*
*Свая́ ру́чка ні су́чка: ні мо́жэ вільну́ць, а мо́жэ ўшчыпну́ць (прыгарну́ць, загарну́ць).*
*Свой ні свій, але ж як (ак) усе́ до́яць, дак (дык) і ты дой.*
*Свій ні свій, а ў чарзе́ (радо́ўцы) пасто́й.*
*Сённечы (сённека, сяго́ннячы) тут, а за́ўтра(э) там – такі́ цыга́нскі тарара́м.*
*Сі́лаю й го́ры варо́чаюць (зваро́чваюць, пераваро́чваюць).*
*Сказа́лі сляпцы́: «Глухо́му (глухі́м) – капцы́!»*
*Сказа́ў бы па-по́льскі, але ж язы́к ко́нскі.*
*Скарбо́вае – ні дармо́вае.*
*Ска́ча жа́ба па даро́зі: німа́ хле́ба (чаго́ е́сці й пі́ць) у калхо́зі; у амба́ры тро́хі е, да й старшы́нька ні да́е.*
*Скрыпу́чае дзе́рава пераскрыпі́ць ніскрыпу́чае.*
*Ску́ла хай (ніха́й), садзі́цца на чужо́м це́лі.*
*Скуп, скуп, але ж ні глуп.*
*Скупы́ зімо́ю сне́гу ні дасць (ні пазы́чыць).*
*Скупы́ (скупе́ц, скупяндзя́, скна́ра) ніко́лі све́жаго м'я́са ці са́ла ўво́лю ні паеў (з'еў, ужыва́ў).*
*Сло́ва да сло́ва – і гато́ва прамо́ва (вымо́ва).*
*Сло́ва за сло́ва – і (прыйшла́) дня пало́ва.*
*Сло́вам пады́меш або́ прыб'е́ш, або́ саўсі́м заб'е́ш.*
*Сляпі́цаю ле́з(е), каб яго́ не́мач.*
*Сма́чна(я) капу́ста, калі ў ей са́ла (м'я́са) гу́ста.*
*Смерць ні ўрач (ні цыга́н): у рот (у зубы́) ні глядзі́ць.*
*Смяе́цца паля́к з белару́са, што з яго́ пра́цы гаду́е (вы́гадаваў, вы́расціў) сваё пу́за.*

*Снег ляціць (ля́жыць) – зімá спяшыць.*
*Снег растáў – вадóю (вяснóю) стаў.*
*Снег і снег, а дзéцям смех (пацéха й смех).*
*Сéіў: мёд еў і піў, а як (ак, к) прачну́ўсе(ся), то зноў сон даглядáць памкну́ўся(се).*
*Сóнцо па-свóйму ўсхóдзіць без усялякіх там пéўняў.*
*Сóрак лет – бáбін век, а ў сóрак пяць – бáба дзéвачка апя́ць (а ў сóрак пяць гадóў бáба цэ́лая (цэ́лачка) ізнóў).*
*Сóрам і стыд па(й)шлі на збыт (адышлі ў нябы́т).*
*Сóрам ні скóрам – без ягó мóжно жыць (да й яшчэ́ і як).*
*Спадзявáйсе(ся) на лéпшае , а рыхту́йсе(ся) да гóршаго.*
*Спасі нас, Спас, хоць ні нівялікі час: дай смáчнаго мёду цэ́лу(ю) калóду, яблык з дóбраго сáду й мнóго чагó з агарóду, – а гарэ́лачкі мы й сáмі знóйдзем!*
*Спачáтку – «дай!», «дай!», а пóсле – «А ты казáў: ні аддавáй!»*
*Спачáтку рабі галавóю, а пóсле ўжо рукóю.*
*Спеў, як (ак) бу́лку (сухáрык, абарáнак) з'еў.*
*Спусцілі сабáку на небарáку.*
*Старáецца цéшча ні для зя́ця, а для свайгó дзіцяняці.*
*Старáецца цéшча зя́ця для свайгó ж дзіцяня́ці.*
*Стáрасць – ні рáдасць, а вялікія гóды – ні пацéха.*
*Старáюцца цéшча й мáці для свайгó ж дзіцяня́ці.*
*Старáя пéсня вáша, як кабы́ла нáша.*
*Стары́ бурчы́ць – малады́ маўчы́ць, малады́ бурчы́ць – стары́ на чым свет крычы́ць.*
*Стары́е(я) гады́ ні лéчаць мяды́.*
*Стаў прымакóм – палучы́ў (атрымáў) прымакóў* **і** *Прымакóм стаў – прымакóў атрымáў.*
*Сто лет – чалавéчы (чалавéкаў) век.*
*Сто лет жыў чалавéчна і дóбру(ю) памя́ць навéчно заслужы́ў* **і** *Сто лет жыў чалавéчна і памятацьму́ць вéчна.*
*Ступіў на жáбу, а янá ўзялá да й вы́страліла.*
*Стыд да й скрóмнасць упрыгóжваюць людзéй.*
*Стыдлівы – ні сварлівы.*
*Стыдлівы чалавéк – богабая́зцы й сóвесцы.*
*Супрóць (прóціў, напрóціў) цячэ́ння (вады́) плыць – трэ́бо здаравéнным быць.*
*Сусéд укрáў, а сусéдка паплацілася (штраф заплацíла).*
*Сын, а з бáцька грóшы (плáту) спаганя́е.*
*Сын стаў свін, бо на бáцька падня́ў дрын.*
*Сын – сы́ну рóзніца: адзін у пару́ прыхóдзіць, другі – заўсю́ды пóзніцца.*
*Сышóўся клінам свет на ёй (жóнцы) ні тóлько мужу́ аднаму́.*
*Сышóў (схуднéў) на нет.*
*Сэ́рцо крóўю абліваецца, а слёзы сáмі сы́плюцца з вачэ́й (цяку́ць ручаём).*
*Сэ́рцу ні прыкáжэш (ні загадáеш), а сілаю ні быць мілаю.*
*Сюды́-туды́ павярні мазгáмі – і бу́дзеш з грашáмі.*
*Сядзéла, сядзéла – ні вы́сядзела, чакáла, чакáла – ні дачакáлася.*
*Сяк-тáк, абы-я́к: абы́ ні па-лю́дску (па-чалавéчаму).*
*Сяк-тáк із гóрам папалáм (напалáм).*
*Сяк-так і зіму перагру́калі (пераж́ылі).*
*Ся́к-тáк мне да вéчара дажы́ць, а ўвéчары гарэ́лка (дая́рка, свінáрка) прыбяжы́ць.*
*Ся́кі-тáкі (абы-я́кі) бяжы́ць за дзеўкáмі.*
*Сякі-такі, прóсто ў палóсачку (паласáценькі, да тагó ж яшчэ́ й рóхкае).*
*Сярóд людзéй бу́дзе й дабрадзéй (знóйдзецца і дабрадзéй).*

## Т

*Табé варóну злавіць, што мне плю́нуць.*
*Табé жабурэ́нне, а жáбе (лягу́шцы) – насéнне (сямéйнае папаўнéнне).*
*Тагды́ аддыхнéм(ш), як (ак) ні дыхнéм(ш).*
*Тагды́ дзéўка схамянéецца, калі (кадá) нéхто ў пу́зі шавяльнéецца.*
*Тагды́ людзьмі стáнем, калі (кадá, кагдá) вóдку (гарэ́лку, самагóнку, вінó, брáжку, спірт) піць (жлу́кціць, бухáць, хлістáць) перастáнем.*
*Тагды́ мáці (мáтка) разбярэ́цца, калі (кадá) у дóчкі (дачкí) жывóт разрасцéцца.*

*Тагды́ тóе бýдзе, калі (кадá) загавóраць (падымýць на смéх) лю́дзі.*
*Тагды́ тóе вы́йдзе, калі (кадá, кагдá) рýскі мéсяц узы́йдзе (пры́йдзе, пады́дзе).*
*Тагды́ тóе стáне, калі (кадá) мужы́к (хлóпец) нéбо пáльцам дастáне.*
*Тагды́ нéшто кýпіш, калі ў нéкаго (з нéчае с...) штаны́ злýпіш.*
*Тагó й запрóсяць, хто éсці ні прóсіць (ні крóшкі з сабóю ні знóсіць).*
*Так і бýдзе, як (ак) скáжуць дóбрые (разóмные) лю́дзі.*
*Так і хáваем(ó)се: дарóга за бугóр, а я за вугóл.*
*Так тамý й быць, як (ак) начáльство вялíць.*
*Так тамý й быць, як (ак) скрóено, гэ́дак жа ж і сшыць...*
*Там дóбрэ, дзе мы ні жывéм* **і** *Тáмака дóбрэ, дзе нас нíмáшака, ні былó, ні бýдзе, а дзе жывýць саўсíм другíе(я) лю́дзі.*
*Танцóр – ухажóр, танцóрка – ухажóрка, пэ́ўне, бýдучые муж і жóнка.*
*Танцýй да пары́, да чáсу, пакýлека (пакýлечы) е (éсцека) сíлы ў запáсі.*
*Танцýй, скачы́, што жанáты прамаўчы́ (сціснí зýбы і маўчы́).*
*Тáнцы да й дзéўкі паставíлі хлóпца на калéнькі.*
*Тая́, што хвастóм матáе (на вус матáе і ўсíм давáе).*
*Тваé абяцáнкі, як (ак) жыдóўскіе пачакáнкі.*
*Тваé багáцце да пажáру, а я – красýня на вéкі вéчные.*
*Тлýста й капýста, калі ў ёй сáла (м'я́са) гýста.*
*Тóе й бýдзе, што (с)кáжуць лю́дзі.*
*Тóе, што былó, даўнó сплылó (крапівóю зараслó, травóю зараслó).*
*Той ні ўспамінáе, хто за душóю нічóго ні мáе.*
*Тóлько Бог усé вéдае (знáе).*
*То крычы́ць, то бурчы́ць, то плáчэ, то скáчэ – от нінармáльны.*
*Тóлько тóе бяды́ й тагó клóпату?!*
*Тóлько гэ́тулько і ўсягó тагó?!*
*Тóрба й мех падымáюць на смéх.*
*Тóўсты, як (ак) пóўна(я) бóчка, а гугня́ва – як (ак) пустáя.*
*Трóе ж да й на аднагó...*
*Трымáй грóшы ў кішэ́ні (кашалькý), а зóлато за пáзухаю.*
*Трэ́бо (па)варажы́ць, як (ак) усé (усéнькае, усéнечкае) паражы́ць.*
*Трэ́бо жыць: кóлько хоч(эш) éсці й кóлько хоч(эш) піць (чагó хоч паéсці, чагó хоч папíць).*
*Трэ́бо ўсе падрáд жэ́рці, каб з гóладу ні памéрці.*
*Тупы́ й халóдны, як (ак) дýпа (с...) старóе бáбы.*
*Тýт (ако) мне вýдачкі ні закідáй – жанíсе і хоць лóжкаю хлябáй.*
*Ты ім як ні гавары́ – сераўнó паравéрнуць дагары́.*
*Ты мне ні сын свой, хоць і друг (брат) мой.*
*Ты, мой друг, жыві з прáцы сваíх, а ні маíх рук.*
*Ты – мой тáта, ну, дак (дык) парá ўжо выбірáцца з нáшай хáты (з гэ́тай хáты, з сваéй хáты).*
*Ты – панéнка, я – панíч, ты – паля́чка, я – масквíч.*
*Ты ні пой, ты ні пой, бо вéльмо ж грýбы гóлас твой.*
*Ты ні пой, ты ні пой: ты ж ні запявáла...*
*Ты сунь у лáпу мне, а я табé – і бýдзем блíзкіе(я), сваé.*
*Ты ў лес з канём, а я, за вáмі бягóм.*
*Ты ў мянé ні пéршы й ні паслéдні (апóшні)...*
*Ты ў ягó вазьмí, аддáй мне, а я ямý вярнý – і ўсе будзéм сучáснымі гаспадарáмі...*
*Ты́я ж сáмыя лю́дзі, а жывýць, як (ак) дзю́дзі, у рэ́зруху да й брýдзі.*

## У

*У багáтаго ўсю́ды ўсягó пóўно, а ў бéднаго – ні ў жмéні ні ў кішэ́ні.*
*У Бóга больш дзён (чáсу), чым у нас рабóты.*
*У чарцéй усé ні так, як (ак) у людзéй.*
*Увá ўсíх патаскýх па мнóго мужóў і дзяцéй.*
*Увíшны́е(я) і сплючы́ зарабля́юць (грашáць, грэ́шным дзéлам займáюцца, заня́ты бíзнесам).*
*Угá! Дак (дык) такí запáс абяссмéрціць нас...*
*У гультаёў, пся маць, ад рабóты (ад прáцы) рýкі ні баля́ць.*
*У гэ́таго нíмá, у тóго нíмá – усé забрáла (папíла і паéла) карчмá (кумá, зімá, самá).*
*У гэ́то! Дальбóг мы пéршы раз чýем (мы чуць ні чýлі і вéдаць ні вéдалі).*

*Удáло пачнéм(ш) – удáло й (за)кóнчым(ш).*
*Удáло пачнéш – (за)кóнчыш ашчэ́ лепш.*
*Узяló, як (ак) я́звенніка (багáтага, хвóрага) за жывóт (за жывóе, за нівынасíмае).*
*Узя́ць бы Бóга за бóраду, а чóрта за хвост!*
*У кагó – па завя́зку, а ў нас – у каля́ску!*
*Улéз у даўгí, як (ак) бóсы ўскóчыў у пры́сяк.*
*У людзёх ні прападзёш!*
*Умéеш працавáць – умéй і аддыхáць (адпачывáць).*
*Умéў бы танчы́ць, а ўсямý другóму гóрэ (бядá) наўчы́ць.*
*У мянé (нас) тры мáмы: пéрша(я), што (на)радзíла; другáя – шкóла; трэ́ця(я) – áрмія савéцка(я).*
*У мянé тры сýчкі: аднá – у бýдцы éсці вымагáе; другáя – у клýбе прападáе, а трэ́ця(я) – вýньдзека з пéчы гарлáе.*
*У мянé ў пяцé больш рóзуму, чым у тваéй галавé (макаты́ры, башцы́, карóбычцы, мазгавéшцы).*
*У нарóдзі – усé-ўсéнькае, як (ак) у прырóдзі (на прырóдзі).*
*У паля́каў дýпа да пýпа (тóўста с...), а ў беларýсаў мóрды, як (ак) тóрбы.*
*У пéршы апрэ́ль нікóму ні вер.*
*У сакавікý каты́ марцýюць, а лю́дзі працýюць.*
*У сваю пóру (парý) і грыбы́ растýць (вылáзяць, лéзуць з зямлí).*
*Усé бáбы й мужы́кі злéплены (зрóблены) з аднаé мукí.*
*Усé б лепш (лéпей) за ўсíх зрабíў, каб свій дурны́ рóзум ні прапíў.*
*Усé жывéм пад Бóгам (нябéсным).*
*Усé мужыкí й бáбы на перадóк слáбы.*
*Усé ў нас да цóту (лáду): вяснóю – дымíшча, а лéтам – пылíшча; увóсень – гразёта, а зімóю – хлюпóта (слёта, слатá).*
*Усé чужóе фáйнае да й смáчнае.*
*Усíм сваíм (сваякóм) як (ак) быў жыў шкадавáў, а як (ак, к) памірáў, то чужы́м усé-ўсéнечкае параздавáў.*
*Успóмні (успамінáй), калі е (былó), што дóбрае ў цябé.*
*Уступíў у пáрцію, як (ак) сусéд у каравя́к (каравя́чые(я) ля́палы, ля́пы, лёпанкі).*
*Усхадзíўсе(ся) нібы́то на пажáр.*
*Усхапíўсе(ся) нібы́то на пажáр (хáта, дом, сялó гары́ць).*
*У сы(у)бóту кíдай рабóту, а ў нядзéльку сцялí жóнцы пасцéльку.*
*Усю́ды вóдка, усю́ды вóдка, усю́ды вóдка без канцá...*
*Уся́ксе прыхóдзіцца выкрýчваецца ў сваéй жытýсе (жы́зні).*
*Уся́(ля́)кі гад гасцíнцам рад.*
*Уся́(ля́)кі гад лéзе напéрад, а ні прэ́цца назáд.*
*Уся́(ля́)кіе(я) нéкі ні для калéкі.*
*У тваé дóчкі ні лю́дскага кажушкá, ні лю́дскай сарóчкі, а ў майгó мальчóнка – бýркі да й дублёнка.*
*У хаці ў кажухý звары́ўсе (упацéў), а вы́шаўшы на двор, адрáзу ж прастудзíўсе (у бальнíцу захацéў).*
*У цеснацé да й цемнацé – ні абíдно, бо цёпло й нíчóго ні вíдно.*
*У цюрмý намнóго лягчэ́й пападáцца, чым адтýлека (адтýль) выбірáцца (вырывáцца).*
*У цюрэ́мной кáмеры хоць хóдзіш, хоць спіш, – сераўнó сядзíш.*
*У цяпéрашняе маладзёжы (мóладзі) цэ́лые (усéнькіе) сýткі рабóта: усю ноч піць, éсці, гуля́ць (танцавáць), а ўвесь дзень спаць, спаць і спаць.*
*У чужóе прóсо бес спрóса ні сунь свайгó (свіня́чага) нóса.*
*У чужóй (на чужóй) старóнцы сóнейко ні грэ́е, апрóч радзíмай мáмкі, ніхтóчкі пажалéе.*
*У шкóлі штодзéнь бывáе, а нічагýсенько ні знáе (ні чартá, ніц ніцам ні знáе).*
*У шкóлу (шкóлку) па(й)шóў – шмат чагó й кагó знайшóў (мнóго нóвых друзéй і вéдаў знашóў).*

**Ф**

*Фéдзька вéдае, што знáчыць «рэ́дзька».*
*Фéдзю (Хвéдзю) гарэ́лка й чэ́рці давялí да смéрці.*
*Фéдзя, дай ды́хту ці хоць ды́му!*
*Фéдзя éдзе, да й ні на «Пабéдзі», а на лісапéдзі...*
*Фéдзя, напéрад! Ламí ўсе ўсяля́кае – дóбрае і абыя́кае!*
*Фéдзя, ні варóнь!*
*Фігнóс пад сáменькі нос.*
*Фíгу давáй (даў) праз кішэ́ню (у кішэ́ні).*

## Х

*Хабóтню (хáвала, хáўкала, хлебагрызку) паскрыў – і рýскім мáтам усíх накрыў (пакрыў).*

*Хавáцца ад рабóты – пайці ў гóсці (перайці) да лянóты.*

*Хадзіла да кадзіла, а патóм ад ягó ж і нарадзіла (урадзіла).*

*Хадзіў, казáў, а зáмуж тавáрышку ўзяў.*

*Хай (ніхáй) табé Бог дапамагáе, а мне – суcéд рáзам з усімі ягó сваякáмі, блíзкімі і знаёмымі.*

*Хай (ніхáй) табé Бог дае́, а чорт ні забірáе (адбірáе).*

*Хай (ніхáй) цябé вóзьме, як (ак) багáтаго (хвóраго) за жывóт.*

*Халóднае вады напіўсе(ся) – і ў хáці прастудзіўсе(ся).*

*Хацéў купíць-прадáць, дак (дык) Бог хацéння пачáў шкадавáць (перастáў давáць).*

*Хацéў у святы дзень зрабíць (зарабíць), але ж сам (пан) Бог рашыў забарáніць (парáніў рукý).*

*Хацéў, хацéў, але ж Бог хацéння ні давёў да канцá.*

*Хацéў, хацéў, але ж перахацéў.*

*Хвалькó хвáліцца, а скнáра скнáрыцца.*

*Хваравéка дóўго хвóры(м) быў, а ўсíх здарóвых перажыў.*

*Хвастýн (хітрýн) – свістýн.*

*Хітрýн дзень з сусéдкаю прагуляў, а ноч сяк-тáк з жóнкаю пракантавáў – от і пражыў дзень і ноч (сýткі, 24 гадзіны).*

*Хлýсу (хлусні) чамý-й-та мнóгіе(я) верáць.*

*Хоць бéдно жывý, але ж ні тужý: вазьмý й раззлуюсе(ся) да й за паслéдняе (апóшняе) нап'юсе (да знямóгі набярýсе, -я).*

*Хоць ён злóсны, а янá чóрна(я), як (ак) хмáра, але ж прáўду людзі кáжуць, што два бóты – пáра (кажуць: «Два боты – пáра»).*

*Хоць з навýкі галавá пабóльвае, але ж навýка кóждую хварóбу адóльвае (пераадóльвае).*

*Хоць і запрашóны, але ж ніўкармлёны.*

*Хоць і (з)асталóся дамóў з дзéсяць, але ж хлеб пякýць да й надáлей цéсто мéсяць.*

*Хоць камý-то ён – дýрань як (ак) трэ́бо, але ж ён хóдзіць у цэ́ркаў і дýмае (спадзяéцца) пра (на) нéбо.*

*Хоць мóрда ў крыві, але крычыць: «Ні падарýю!»*

*Хоць радзі (парадзі), але давáй (дай, купляй, пазычáй).*

*Хоць раструхáнка, але ж усім кахáнка.*

*Хоць сараматнік радню сарамаціць, але ж у ягó кішэ́ні свéжа(я) капéйка (зóлато) звініць.*

*Хоць стáла багáта(я), але ж, як (ак) і былá, засталáся ні на што ніздáтна(я).*

*Хоць укрáдзе, але дзéткам улáдзь.*

*Хóчэш(аш) зрабíць дóбрую спрáву (дóбрае дзéло) – паслýхай жóнку і зрабі наадварóт.*

*Хóчэш(аш) прапáсці – пачынáй (ідзі) крáсці.*

*Хрыпы ў гóрлі – дóма сядзі да й у акнó глядзі.*

*Хрысціўсе, маліўсе (у царквé), але ж напіўсе(ся) (у магазіне) і спаць завалíўсе(ся) (за магазíнам) – от табé й святы (святóша, вéрнік).*

*Хто б знаў пра дзятла, каб ні ягó дзюб (нос, стук).*

*Хто б знаў пра камарá, каб ні ягó звон (гóлас).*

*Хто вéдае – знáе, што нас чакáе?!*

*Хто да кагó, а я да свáцці.*

*Хто ж цябé пахвáліць, апрóч самóго сябé (калі сам сябé ні пахвáліш).*

*Хто зáмуж спяшáе(цца), той слёз нахапáе(цца).*

*Хто знáе (вéдае), што зрóбіць чорт, калі Бог заснé?*

*Хто кагó, а я ягó – сусéда свайгó (супéрніка свайгó).*

*Хто крáдзе з шыкам (пшыкам), а хто – з крыкам (рыкам).*

*Хто люóіць вадý ў стýпі таўчы, тамý хоць усé пяць пáльцаў у рот кладзі.*

*Хто маўчáў, той грóшы палучáў, а хто крычáў, той з КПЗ жытку нóву(ю) пачáў.*

*Хто мнóю балбóчэ, той у закрытку (цюрмý) хóчэ.*

*Хто ні кýрыць і ні п'е, той здарóвенькі памрэ́.*

*Хто ні стыдзіцца, той Бóга ні баіцца (нікóго ні баіцца).*

*Хто п'е і ні закýсвае, у тагó німá (німáшака) нічóго людскаго.*

*Хто пóсле яды ні аддышэ, тагó Бог у рабóтнікі ні запішэ.*

*Хто працýе, а хто старцýе (жабрýе).*

*Хто рáніцаю (рáнкам) пае́ ці скáчэ, той днём ці вéчарам (за)плáчэ.*

*Хто сабáкам сéно нóсіць, той у быўшай (былóй) жóнкі éсці й піць (па)прóсіць.*

*Хто сам сябé хвáліць, хай (ніхáй) тагó малáнка (пярýн) спáліць.*
*Хто сілкóм, а хто гарэ́лкаю з мядкóм (бярýць сабé мýжа ці жóнку).*
*Хто стыдзíцца, тамý німá (німáшака) дзе прытулíцца.*
*Хто схапíў кол (ком), а я – два.*
*Хто ў гóсці (ні) хóдзіць, той сам сабé шкóдзіць.*
*Хто ў лéсі ні крáдзе (злóдзей), той з жóнкаю ні ў лáдзе (той дóма ні хазя́ін).*
*Хто хлýсіць, то вы́п'е й закýсіць, а хто прáўду кáжэ(а), той галóдны (так) спаць ля́жэ(а).*
*Хутарáне – ні палешукí, а паля́не.*

## Ц

*Цалавáўсе(ся), мілавáўсе(ся), а сабáкаю (свінёю, скацíнаю) застáўсе(ся).*
*Цалýй, цалýй, нічы́ста(я) сíла...*
*Цалýй, цалýй, нічы́сты дух...*
*Цаля́ў у сабáку, а папáў у ягó гаспадарá.*
*Цацáнка – абяцáнка як (ак) жыдóўскі «пачакáй».*
*Цéло свярбíць – трэ́бо ні чýхаць, а мыць (з мы́лам ягó мыць).*
*Цецярýк балбóчэ(а) – у суп хóчэ(а).*
*Цéшсе(ся) з сябé самóго, калі німá (німáшака) за душóю нічóго (калі німá з кагó другóго).*
*Цíхо, каб вас ні ўзялó лíхо (каб на вас лíхо).*
*Ці крывýля, ці крывяндá – сераўнó (е)рундá (нінармáльны, крывы́).*
*Ці чорт, ці д'я́бал, ці сам пан Áдам...*
*Цю́целька ў цю́цельку, крóпелька да крóпелечкі: і крóшачкі пабрáў, і я́мачкі на шчóчках, і ўсім усміхáецца – ну, вы́літы тáтко.*
*– Цю́цік, цю́цік! Ці дóбрэ тýтако табé? – Гаў, гаў, гаў!*
*Цябé дачакáцца, як (ак) жыдóўскаго «пачакáйце»...*
*Цябé (ягó) трэ́бо тóлько па смерць пасылáць – от дóўго жы́цьмем (бýдзем жыць).*
*Цяпéрака (цяпéрачы, зáрэ, цяпéр) зáмуж ідýць ці па рашчóту, ці па залёту.*
*Цяпéрака пóсле сну аддыхáю (адпачывáю).*
*Цяпéрачы (цяпéрака, цяпéр, зáрэ) у танцóра й танцóркі ўсю́ды распóркі.*
*Цяпéрачы кóжны вóка ні заплю́шчыць і рэ́жэ ўсе, што дýмае напрамýю.*
*Цярплівóсці ні хапáе пóсле злóсці* **і** *Злóсці пóўные кóсці – ні хапáе (хватáе) цярплівóсці.*

## Ч

*Чагó ні ясí, тагó ні прасí (ні дасí).*
*Чакáй сарóка, Пятрá – пад'ясí (наясíсе(ся)) сы́ру.*
*Чакáй, чакáй, а (в)от (мóжэ) і дачакáешсе(ся).*
*Чакáй, чакáй, пóкуль ні дачакáеўсе(ся).*
*Чакáў, чакáў да й ні дачакáўсе(ся), як (ак) у сáдзі салавéй нідашчабятáўсе(ся).*
*Чакáў, чакáў да й чакáнні паéў (чакáць перастáў).*
*Чалавéк з чалавéчым языкóм, а брэ́ша, ну, ні раўнýючы, як (ак) сабáка.*
*Чамý бывáць, тагó ні мінавáць* **і** *Чамý быць, тамý быць (адбы́цца).*
*Чамý збы́цца, ад тагó ні адрабíцца (адхрысцíцца).*
*Чамý збы́цца, тамý адбы́цца.*
*Чамý (камý) прысягнýць, тагó ні мінýць.*
*Чамý? Чамý? – Тамý, што канчáецца на "у".*
*Частавáўсе(ся), сталавáўсе(ся), а свінёю (з)астáўсе(ся).*
*Чóрна ці бéла – ні твае́ (вáша, сабáчае) дзéла.*
*Чóрна(я) карóва бéлу(ю) пабарóла*
*Чорт – гэтó п'я́на(я) бáба (жóнка, кабéта).*
*Чорт прáвіць свéтам, калі (кадá, кагдá) Бог спіць (аддыхáе, адпачывáе).*
*Чужáя хáта нічы́м ні багáта, а свая́ халýпа ўсім напхнýта* **і** *Чужáя хáта ўсім багáта, а свая́ халýпа дзярмóм напхнýта.*
*Чужóю наéўсе(ся) – пáльцы аблізáў да й пóяс развязáў (напрýжку, дзя́гу, рамéнь расперазáў).*
*Чужы́ (а)гурóк вы́лезе (вылáзіць) праз бок.*
*Чужы́ (куплёны) мйод без пары́ загнáў у гроб (у магíлу, у трунý).*
*Чужы́ савéт прымáй, але ж і свій рóзум май.*

*Чыé бычкí ні скáчуць, а тваé цяляткі плáчуць (крычáць і плáчуць)* **і** *Чыé бычкí ні скáчуць, а цяляткі тваé.*
*Чым і(с)ці за такóго, то лепш (лéпей) ні за кóго.*
*Чэсць і хвалá вáшаму дóму, а мы пóйдзем (паéдзем) к другóму.*
*Чэсць і хвалá вáшаму бáцьку (дзя́дзьку).*
*Чэсць і хвалá гаспóдзе вáшай.*
*Чэсць і хвалá Усявы́шняму, каб ён і вас, і нас заўсю́ды й ад усягó надóбраю аберагáў.*

## Ш

*Шáхвараст (вяртýн) такí, што ў стóйцы ямý ні стаíцца, у хадуне ямý хóдзіцца, а ў пасцéлі (калубéлі) ямý ні ляжы́цца.*
*Шкадавáў на гэ́том свéці, шкадавáў усягó, а на той свет з сабóю ні забрáў нічагó (ні тагó, ні сягó).*
*Шкадавéка зарэ́зала чалавéка.*
*Шкадóва давялá да грóба.*
*Шкадóтнікам ашчэ́ пры жыццí напімінáюць, што на (пры) трунé багáжнікаў німá (німáшака).*
*Шкóла даé камý вéды, а камý снядáнні да й абéды.*
*Шкóльнікі – шкóднікі* **і** *Ні ўсе шкóльнікі – шкóднікі.*
*Штаны́ да штанóў, спа(д)ніцы да спа(д)ніц.*
*Што алáдка, то ні блін, што двóе (дваíх, удваíх), то ні адзíн.*
*Што былó, тóе з вадóю (са снéгам) сплылó.*
*Што вяснóю, лéтам і ўвóсень (восéнью) нóжкамі топ-топ, то зімóю ручкамі хоп-хоп.*
*Што былó, тóе сплылó, што бýдзе, тое прыбýдзе, але ж горш, чым е (éсцека), напэ́ўно, ні бýдзе.*
*Што гадóк, то й жыдóк (сынóк), а ў вісакóсном – дак (дык) і два!*
*Што ж тады́ бýдзе, калі (кадá, кагдá) табé ашчэ́ 10 гадкóў прыбýдзе?!*
*Што люблю, тóе й раблю.*
*Што лю́дзі (с)кáжуць, то мне хоць бы што (хоць бы дзíчкі, хоць бы хны, хоць на сухí лес).*
*Што лю́дзі пра мяне плёткі плятýць, то тагó я ні баюсе(ся) – памалюсе(ся) і спаць кладýсе(ся).*
*Што малóму знасíць, што старóму з'éсці – і там, і тут перавóд тавáру (аднó і тóе ж).*
*Што малы́, што стары́ – адны́ ўбы́ткі (адны́ расхóды, дарэ́мны первóд тавáру).*
*Што-нібýдзь аднó зрабí: абó сцалýй, абó забí (згубí).*
*Што ні кажы́, што ні гавары́ – нідóбрые(я) лю́дзі пераве́рнуць дагары́.*
*Што стары́ з'есць, а малы́ знóсіць – лíчы, без кары́сці прапáло.*
*Што хачý, тóе й варачý: хачý – крычý, хачý – маўчý.*
*Што хóч(аш, эш) кажы́, але ж рабíць памажы́.*
*Што хóч(аш, эш) рабí: абó пакíнь, абó любí.*
*Што чалавéк, то й рóзум, а што дýпа (с...), то й смурóд (вaнíшчэ).*
*Шукáе галавá гýза (бóльку, скýлу).*
*Шчáвель ці (або) лебядá – вéльмо ж бéдная ядá* і *Шчáвель ці (або) лебядá – вітамíнная ядá.*
*Шчэ (ашчэ́, яшчэ́) жывé пры мацяры́нскай с... а вымышляе (крычы́ць, патрабýе), каб у замóрскае (íмпартнае) увабрáцца (адзявáцца).*
*Шырóкае гóрло(а) усé-ўсéнькае пражóрло(а).*

## Ы

*Ыгы́кае ыгы́кало, каб хоць (хоць бы) бядý якýю ні наклíкало.*

## Э

*Эй, пан, ад мяне адстáнь, а шукáй сабé такýю, як (ак) ты сам...*
*Эх, дóля ты нáша, гóрка(я), як (ак) гарэ́лка! Дóля ты нáша да й ніўкармлёна(я)... Да й ніўкармлёна(я), да й нікóму нівядóма(я).*
*Эх, і прахвóст! Дýмае, што ўзяў Бóга за бóраду, а чóрта за хвост – усé на гэ́том свéці да пары́, да чáсу...*

## Ю

*Ю́ля ні Настýля, а Настýля ні Ю́ля.*
*Ю́р'я накармíў шчаўлюкáмі, а Мікóла – грыбкáмі.*
*Ю́р'я расý абівáе (спраўляе), а Мікóла лáндышы збірáе (прадавáе).*

## Я

*Я быць там ні быў, а шапка мая – але ж як (ак) тудьі яна папала, каб вы ведалі, ні знаю... Дальбог жа ж ні знаю!*

*Яго багацце – адзін дух да й пятух...*

*Яго пекло чакае, а ён (грэшнік) на небо пазірае...*

*Я да цябе так, як (ак) і ты да мяне* **і** *Як (ак) ты да мяне, так і я да цябе.*

*Я і ты – кроўные(я) браты (крэўные браты).*

*Якая ж жытуха твая, бо вельмо ж паскудна мая?!*

*Якая прырода, такая й парода (урода).*

*Якая справа, такая й слава.*

*Якая ты сама, такая й дочка (дачка) твая.*

*Як (ак) да маці, так і да дзіцяці* **і** *Як да дзіцяці, так і да маці.*

*Як (ак) добру(ю) работу здабыў, дак (дык) пра ўсе і пра ўсіх кругом забыў.*

*Як (ак) дома жыў – сын сынам быў, а як (ак, к) жонку прыдбаў – адразу ж свінёю стаў.*

*Як (ак) за гарою рак свісне, так і ва ўсім лесі ваўкі паздыхаюць.*

*Як (ак) і казла падоіш, так ты й мяне напоіш.*

*Як (ак) Манька вырасла, так пасцельку ў сені (сенцы, сенечкі) вынесла.*

*Як (ак) надзеў свой капялюш, дак (дык) яго цяпер (цяперака), ні руш – ён ужэ начальнікам стаў* **і** *Як (ак) паспеў начальнікам стаць – жэрдкай носа ні дастаць.*

*Як (ак) наеўсе(ся) і напіўсе(ся), дак і добранькім зрабіўсе(ся).*

*Як (ак) пад'ела, так і песеньку запела.*

*Як (ак) свая вош укусіць, тагды й рукі рабіць мусяць.*

*Як (ак) сумеў, так і з'еў.*

*Як (ак) сучка хвастом ні вільне, то й сабачка ні адным вокам ні зірне (ні павядзе).*

*Як (ак) той Зосі давялосё адбівацца ад з...*

*Як (ак) трывога, дак (дык) усе да Бога ці да бацькаваго (бацькоўскаго) парога.*

*Які бондар, такая й дайніца, якая чысцёха, такая й спа(д)ніца.*

*Які дзень, такі й вечар, як білі, так і енчыў.*

*Які музыкант, такое і гранне, якія(е) танцоры, такое й скаканне.*

*Які татко, такое й дзіцятко* **і** *Якое дзіцятко, такі й татко.*

*Якое спаньйе, такое й снyданьйе.*

*Яны ўдвух, але ж адзін дух.*

*Я – сабе, а яны (ён, яна, яно) – сабе.*

*Я – сам свой, а ты – сын мой.*

*Я тое, а ён (яна, яно, яны) гэтае (другое).*

*Яшчэ чэрці на кулачкі ні білісе(ся), а мы ўжэ Богу памалілісе(ся).*

*Яшчэ (ашчэ) чэрці на кулачкі ні йшлі, а мы ўжэ з бацькам па (у) грыбы па(й)шлі.*

# НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

*Ф. Д. Клімчук*

## ГАВОРКІ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гаворкі Брэсцкай вобласці неаднародныя. У іх выдзяляецца шэраг груп і падгруп, а таксама асобныя зоны і мікразоны. Падобная класіфікацыйная неаднастайнасць, абумоўленая дыялектнай стракатасцю гэтага рэгіёна, выклікае ва ўспрыняцці мясцовага дыялектнага ландшафту пэўныя цяжкасці. Афарыстычна такую вялікую колькасць класіфікацыйных адзінак можна ахарактарызаваць адметным выслоўем «За дрэвамі лесу не бачна». Па гэтай прычыне перад сучаснымі даследчыкамі ўзнікае праблема не выдзялення асобных дыялектных згрупаванняў у абшары гаворак Брэстчыны, а іх аб'яднання ў больш буйныя структурна-моўныя ўтварэнні. Калі ж аб'яднаць блізкароднасныя групы і падгрупы гаворак Брэсцкай вобласці, то ў межах тэрыторыі іх лакалізацыі можна выдзеліць чатыры дыялектныя зоны: гаворкі 1) гродзенска-баранавіцкія ці панямонскія, 2) уласназагародскія, 3) паўночнабрэсцкія, 4) сярэднябрэсцкія. Да гродзенска-баранавіцкіх, ці панямонскіх, прымыкаюць блізкія да іх слуцкія гаворкі, да паўночнабрэсцкіх – тураўскія. Сярэднябрэсцкія гаворкі складаюцца з шэрагу невялікіх дыялектных груп. Кожнае з чатырох занальных моўных утварэнняў Брэстчыны было вылучана тэрытарыяльна ў адпаведнасці з комплексам моўных рыс рознага тыпу.

**Гродзенска-баранавіцкія**, або **панямонскія**, гаворкі [7; 29, с. 160, 180; 30, с. 208–220; 32; 34; 43, с. 152–176; 44][1].

Пашыраны яны на поўначы Брэсцкай вобласці. Ахопліваюць поўнасцю Баранавіцкі і Ляхавіцкі раёны, паўночны ўсход Пружанскага (Ружаншчыну), цэнтр і поўнач Івацэвіцкага, цэнтр і поўнач Ганцавіцкага раёнаў. Блізкія да іх слуцкія гаворкі пашыраны ва ўсходняй частцы Ганцавіцкага раёна і на паўночным усходзе Лунінецкага раёна (Чучавіцкі сельсавет) [14, с. 39; 45, с. 52–59; 46, с. 144–156; 48, с. 81–85].

Гродзенска-баранавіцкія і слуцкія гаворкі блізкія да літаратурнай беларускай мовы. Ім, у прыватнасці, характэрны наступныя граматычныя асаблівасці:

1. Мяккасць губных зычных і пярэднеязычных перад рэфлексамі гістарычных **е, *і: бéраг, вéчар, мéншы, пéршы, дзень, расцé, вязé, нясé, нéбо, зрабíў, вішня, мілы, піць, хадзіць, ціхо, зімá, сіла, ніва.*

2. Паслядоўнае цеканне-дзеканне: *дзед, дзяўчына, цень, ціхі, хадзіць.*

3. Прыметнікавыя формы: *нóвы, дóбры, малады́, малы́.*

4. Займеннікавыя формы: *ён, янá, янó, яны́.*

Гэтым гаворкам уласціва і пэўная спецыфіка.

1. Няпоўнае аканне, паколькі гістарычны **о* ў паслянаціскных складах захаваўся: *вадá, малакó, кавáль;* але: *бáцько, лéто, жы́то, нічóго, чужóго.*

2. Наяўнасць «закрытага» [*ê*] або [*е*] на месцы гістарычнага «яця» (ѣ) пад націскам: *лêс, лêто, сêно, пêсьня, лес, лéто, сéно, пéсьня.* «Закрыты» [*ê*] вымаўляецца як [*е*] з адценнем [*і*].

3. Рэалізацыя пад націскам «закрытага» [*ô*] або [*о*] на месцы галоснага **о* ў новых закрытых складах: *вôз, кôнь, бôльшы, карôўка, воз, конь, бóльшы, галóўка.* «Закрыты» [*ô*] вымаўляецца як [*о*] з адценнем [*у*].

4. Назоўнікавыя формы: *вясéлё, насéнё, зéлё, вéцё, чытáнё, збóжо* (адпаведна літаратурнамоўнаму: *вяселле, насенне, зелле, вецце, чытанне, збожжа*).

[1] Тут і далей у дужках адзначаюцца навуковыя крыніцы, дзе даецца характарыстыка вылучаных гаворак як іх асобнага віду.

Слуцкім гаворкам у адрозненне ад гродзенска-баранавіцкіх характэрна, у прыватнасці, саканне: *наеўса, ўмыўса.*

Унутраныя структурныя адрозненні паміж гродзенска-баранавіцкімі гаворкамі нязначныя. У Брэсцкай вобласці на тэрыторыі пашырэння разглядаемай дыялектнай групы выдзяляецца некалькі дыялектных мікразон.

1. Ваўкавыская мікразона пашырана пераважна ў межах Гродзенскай вобласці. На тэрыторыі Брэсцкай вобласці да яе адносяцца гаворкі некалькіх сельсаветаў на захад ад Ружан (Пружанскі раён) [5]. Фарміраванне гэтай мікразоны звязана з уплывамі старажытнага горада Ваўкавыска.

2. Слонімска-косаўская мікразона займае тэрыторыю галоўным чынам у Гродзенскай вобласці. У межах Брэсцкай вобласці да яе адносяцца гаворкі цэнтральнай і паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна, а таксама гаворкі наваколля Ружан і тэрыторыі на ўсход ад гэтага населенага пункта (Пружанскі раён) [5, 2005, с. 22; 33, с. 103, 182, 189; 34, карты № 12, 14, 60, 61]. Фарміраванне гэтай мікразоны звязана з уплывамі старажытнага горада Слоніма, а таксама старадаўняга населенага пункта Косава[1].

3. Навагрудска-баранавіцкая мікразона прасторава лакалізуецца ў межах Гродзенскай і Брэсцкай абласцей [33, с. 103, 106, 111, 124, 132, 182, 189; 34, карты № 12, 14, 60, 61, 66]. У Брэсцкай вобласці да яе належаць гаворкі Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў, а таксама цэнтральнай і паўночнай часткі Ганцавіцкага. На фарміраванне дадзенай мікразоны вялікі ўплыў аказаў старажытны горад Навагрудак, а ў новы час – горад Баранавічы.

Гаворкі слуцкага структурнага віду, ці слуцкія гаворкі, у межах Брэсцкай вобласці пашыраны на ўсходзе Ганцавіцкага і паўночным усходзе Лунінецкага раёнаў [14, с. 39; 45, с. 52–59; 46, с. 144–156]. Яны адносяцца да слуцкай дыялектнай мікразоны, пашыранай пераважна на тэрыторыі Мінскай вобласці. Складванне і лінгвістычнае вылучэнне адзначанай мікразоны звязана з гістарычным статусам старажытнага горада Слуцка.

## Паўночнабрэсцкія (паўночнаберасцейскія) і тураўскія гаворкі

Паўночнабрэсцкія гаворкі займаюць поўнач гістарычнай Берасцейшчыны [5; 6; 7; 14, с. 7–8; 42; 45, с. 52–59; 50, с. 38]. Ахопліваюць яны паўночна-заходнюю частку Пружанскага раёна, пераважаюць у паўднёвай частцы Івацэвіцкага раёна (на Целяханшчыне), на большай частцы Лунінецкага раёна, а таксама ў паўднёвай частцы Ганцавіцкага раёна. Суцэльную тэрыторыю займаюць паўночнабрэсцкія гаворкі ў межах Івацэвіцкага, Ганцавіцкага і Лунінецкага раёнаў. Аддзелены ад іх масівам верхняясельдскіх і стрыгінскіх гаворак паўночнабрэсцкія гаворкі Пружанскага раёна [5, 31]. Тураўскія гаворкі пашыраны на ўсходзе Столінскага і ў паўднёва-ўсходняй частцы Лунінецкага раёнаў [13, карта № 1; 16, с. 130–135; 19, с. 5–37; 47]. Асноўныя асаблівасці гэтых гаворак наступныя.

1. Оканне. Галосны **о* ў ненаціскных складах у гэтых гаворках захоўваецца: *головá, молокó, добрó, ходзíў, гóлос, хóлод, бáцько.* Выключэнне складае значная частка паўночнабрэсцкіх гаворак Пружанскага раёна, у якіх у пераднаціскных складах **о* перайшоў у [*а*]: *галавá, малакó, дабрó, хадзíў*; але ў паслянаціскным становішчы ў канцавых закрытых і адкрытых складах выступае [*о*]: *гóлос, хóлод, бáцько.*

2. На месцы гістарычнага «яця» (ѣ) пад націскам вымаўляецца «закрыты» [*ê*] або [*е*]: *лêс, лêто, сêно, пêсьня, лес, лéто, сéно, пéсьня.*

3. На месцы галоснага **о* ў новых закрытых складах пад націскам вымаўляюцца [*о*], [э] або закрыты [*ô*]: *воз, конь, бóльшы, корóўка (карóўка), вэз, кэнь, бэ́льшы, корэ́ўка, вôз, кôнь, бôльшы, корôўка.*

---

[1] Гэта назва мае аналогіі ў славянскім свеце: г. Косаў (Косів) у Івана-Франкоўскай вобласці ва Украіне, былая сербская вобласць Косава, Косуў Ляшскі і Косуў Рускі – населеныя пункты ва ўсходняй частцы Мазавецкага ваяводства ў Польшчы.

4. Мяккасць губных зычных і пярэднеязычных перад рэфлексамі гістарычнага *і, пярэднеязычных перад рэфлексамі гістарычных *е, *і: *дзень, росцé, расцé, вэзé, несé, нéбо, зробі́ў, зрабі́ў, вішня, мілы, п·іц·і : п·іц·ь, ходз·іц·і : ходз·іц·ь : хадз·іц·, ціхо, зімá, сіла, ніва*. Перад гістарычным *е ў большасці паўночнабрэсцкіх і ў некаторых тураўскіх гаворках губныя зычныя цвёрдыя: *бэ́рэг, вэ́чор, мэ́ншы, пэ́ршы, вэснá, бэдá, мэжá, пэсóк.*

5. Сустракаюцца формы тыпу: *бадá, вадрó, машóк, пасóк* (адпаведна: *бяда, вядро, мяшок, пясок*).

6. Паслядоўнае цеканне-дзеканне: *дзед, дзе́ўчына, цень, ціхі, ходзіці* (*хадзіці, ходзіць*).

7. Займеннікавыя формы: *вон (вэн), вонá (ванá), вонó (ванó), воны́ (ваны́).*

8. Паўночнабрэсцкім гаворкам уласцівы дзеяслоўныя формы тыпу *ходзіці (хадзіці), робіці (рабіці)*, тураўскім – з канцавым фармантам *-ць: ходзіць, робіць.*

У паўночнабрэсцкіх гаворках выдзяляюцца наступныя тыпы.

1. Асноўныя паўночнабрэсцкія гаворкі. Ім характэрна: а) оканне, б) захаванне галоснага *о ў новых закрытых складах пад націскам або пераход яго ў «закрыты» [ô]. Гэтыя гаворкі займаюць тэрыторыю паміж Пружанамі і Шэ́рашавам у Пружанскім раёне, на крайнім паўднёвым захадзе Івацэвіцкага раёна, у паўднёвай частцы Ганцавіцкага раёна, ва ўсходняй частцы Лунінецкага раёна.

2. Паўночнабрэсцкія з рэфлексам *о > [э] у новых закрытых складах. Дадзеныя гаворкі пашыраны ў паўднёвай частцы Івацэвіцкага раёна і на значнай частцы Лунінецкага раёна. У іх межах выдзяляецца цэнтральнацеляханская падгрупа [13, карта № 1; 42, с. 58].

3. Паўночнабрэсцкія акаючыя. Згодна з лінгвагеаграфічнымі звесткамі, гаворкі гэтага тыпу займаюць прастору на паўночным захадзе Пружанскага раёна [5].

У абшары пашырэння тураўскіх гаворак на тэрыторыі Брэсцкай вобласці выдзяляюцца тры мікраарэалы: усходні, пагарынскі і паўночны [13, карта № 1; 16, с. 130–135; 19, с. 35–37]. Найбольш тыповымі тураўскімі гаворкамі па асаблівасцях іх складу з'яўляюцца гаворкі ўсходняга арэала. У адрозненне ад іх гаворкі пагарынскага арэала зазналі ўплыў заходнепалескіх гаворак. Гаворкі паўночнага арэала (размешчаны на поўнач ад Прыпяці) знаходзяцца ў цесным узаемадзеянні з паўночнабрэсцкімі гаворкамі, што пакінула свой адбітак на іх структуры.

## Загародскія (уласназагародскія) гаворкі

Загародскія (уласназагародскія) гаворкі складаюць аснову гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся [2–5; 7; 13; 14; 15, с. 191–208; 16; 17, с. 57–63; 19; 22, с. 57 (карта), 218–219; 29, с. 201–214; 30, с. 238–255; 31; 33, карта № 32; 34, карты № 6–8, 71; 42; 49; 50, с. 137–140; 51, с. 98–100]. Арэал іх пашырэння ўключае раёны: Брэсцкі, Камянецкі, Маларыцкі, Жабінкаўскі, Кобрынскі, Драгічынскі, Іванаўскі, Пінскі (за выключэннем некалькіх вёсак на поўначы раёна), заходнюю частку Столінскага, паўднёвую частку Бярозаўскага (у тым ліку раён Белаазёрска), паўднёва-заходнія ўскраіны Пружанскага, заходнія ўскраіны Лунінецкага раёнаў. У Лунінецкім раёне ва ўсходняй яго частцы ёсць невялікі масіў загародскіх гаворак. Яго наяўнасць тут абумоўлена з'яўленнем паселішчаў перасяленцаў у мінулым стагоддзі. За межамі Беларусі загародскія гаворкі пашыраны ў Польшчы і ва Украіне ля мяжы з Брэсцкай вобласцю [1, карты № 41, 43, 87, 210, 211; 10, с. 121–125; 11, с. 199–207; 13, карта № 1]. Для асноўнага масіву гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся ў навуковай літаратуры выкарыстоўваюцца яшчэ назвы: гаворкі брэсцка (берасцейска)-пінскія, або заходнепалескія.

Характэрныя асаблівасці ўласназагародскіх гаворак наступныя.

1. Оканне – гэта значыць адрозніванне галосных [*о*] і [*а*] не пад націскам: *молокó, головá, здорóвый, замóк.*

2. Вымаўленне на месцы (ѣ) «яця» пад націскам галоснага [*і*]: *білый, сіно, на нозі, ліс.*

3. Цвёрдасць губных і пярэднеязычных перад этымалагічнымі *е, *і: *вэ́чор, бэ́рог, дэнь, тэ́плый, нысэ́, вызэ́, мы́ска, бы́ты, ходы́ты, зымá.*

4. Цвёрдасць заднеязычных у спалучэннях *гы, кы, хы*: *нóгы, кы́нуты, хы́трый.*

5. Наяўнасць мяккіх этымалагічных шыпячых: *ножі, шяпка, жяба*, [*р*]: *річка, горіх, поря́док*, [*ц*]: *жнэць, хлóпэць, на конці.*

6. Губна-зубны або губна-губны [*в*] на месцы [*ў*] у беларускай літаратурнай мове: *прáвда, сказáв.*

7. Адсутнасць цекання: *тінь, тіло, тягнýты.*

8. Адсутнасць дзекання: *дід, дівчына, дя́куваты.*

9. Канчатак *-ый* у назоўным склоне прыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку: *нóвый, сы́ный, молоды́й, круты́й.*

10. Указальныя займеннікі *гэ́той, гэ́тый, гэ́та, гэ́тэ, гэ́ты, гэ́то.* У некаторых гаворках ім адпавядаюць абазначальныя сродкі: *ці́тый, ці́та, ці́тэ, ці́ты, ці́то* (Маларыцкі раён), *сі́тый, сі́та, сі́тэ, сі́ты, сі́то* (захад Камянецкага раёна), *стой, ста, стэ, сты* (Радастаўскі сельсавет Драгічынскага, Павіцкі сельсавет Кобрынскага раёнаў), *цëй, ця́я, цéе, ці́йі* (поўдзень Брэсцкага раёна). Займеннікі *гэ́той, гэ́тый, гэ́та, гэ́тэ, гэ́ты, гэ́то* ўжываюцца на прылягаючай да Брэсцкай вобласці тэрыторыі Украіны (поўнач Роўненскай і паўночны ўсход Валынскай абласцей) [1, карты № 210, 211]. Мяжа пашырэння займеннікаў *гэ́той, гэ́тый, гэ́та, гэ́тэ, гэ́ты, гэ́то* ва Украіне суадносіцца з паўднёвай мяжой гістарычнай Піншчыны і паўднёва-ўсходняй мяжой арэала брэсцка-пінскіх гаворак.

11. Займеннікавыя формы: *мні, йéю.*

12. Пашырэнне лексем: *клýня* ‘гумно’, *прач* ‘пранік’, *пацыя́т* ‘франтон’, *шíпка* ‘павець’, *быя́к* ‘біч’, *шы́тык* ‘папруга’, *судосы́ты* ‘сустрэць’, *волочы́ты* ‘баранаваць’, *латáты* ‘лапіць’, *бы́цю-бы́цю* ‘падзыўныя для кароў’, *путь-путь* ‘падзыўныя для курэй’ [7].

У загародскіх гаворках выдзяляюцца чатыры асноўныя дыялектныя групы, або тыпы: гаворкі паўночназагародскія, сярэднезагародскія, паўднёвазагародскія і тараканскія. Сярод гэтых чатырох тыпаў тры маюць генетычныя карані – паўночназагародскі, сярэднезагародскі і тараканскі. Што датычыцца паўднёвазагародскіх гаворак, дык яны, па сутнасці, з’яўляюцца пераходнымі паміж сярэднезагародскімі і тараканскімі. Паўднёвазагародскія гаворкі захоўваюць пераважна аснову сярэднезагародскіх з наяўнасцю некаторых тараканскіх рыс. У першую чаргу ім уласцівы так званы екавізм, ці вымаўленне гука [е] на месцы **’а, *ę* пад націскам. У частцы паўднёвазагародскіх гаворак выяўляецца комплекс рознаструктурных асаблівасцей, якія з’яўляюцца агульнымі з тараканскімі гаворкамі.

Адрозніваюцца паміж сабой асобныя групы загародскіх гаворак перш за ўсё рознай рэалізацыяй **о* (новыя закрытыя склады), **’а, *ę, *е, *ь* ў націскной пазіцыі.

1. На месцы **о* ў новых закрытых складах пад націскам вымаўляюцца [*і*], [*ы*], [*ӥ*] у сярэднезагародскіх, паўднёвазагародскіх і тараканскіх гаворках: *він, віз, більш, сіль, ніс кінь, вын, выз, быльш, сыль, ныс, кынь, вӥн, вӥз, бӥльш, сӥль, нӥс, кӥнь*, у паўночназагародскіх гаворках рэалізуецца [*у*]: *вун, вуз, бульш, суль, нус, кунь.*

2. Розная рэалізацыя **е, *ь* > *э* ў сярэдне-, паўночна- і паўднёвазагародскіх гаворках: *дэнь, вызэ́, бэ́рог, мэд, вычэ́ра, цэ́рква; *е, *ь* > [*а*] у гаворках тараканскіх: *дань, вызá, бáруг, мад, вычáра, цáрква.*

3. Розная рэалізацыя **’а, *ę, *’а, *ę* > [’*а*] у паўночна- і сярэднезагародскіх гаворках: *взяв, ся́ду, гля́ну, шя́пка, шáпка, зять; *а, *ę* > [’*е*] – у гаворках тараканскіх і паўднёвазагародскіх: *взев, сéду, глéну, шéпка, зеть.*

У тараканскіх гаворках Драгічынскага раёна адзначаны наступныя рэгіянальныя лексемы і словаформы, якія не характэрны суседнім гаворкам іншых дыялектных тыпаў: *бруслэ́нэ* ‘брусніцы’, *бýкач* ‘птушка бугай’, *залóга* ‘каўнер кажуха’, *кеп* ‘кепка’, *кутáся* ‘стужка’, *нарýччэ* ‘абярэмак’, *пáсмо* ‘пластаваны абярэмак сена’, *пасмовáтэ* ‘пластаваць граблямі сена’, *пíлка* ‘кош, плецены з лазы і саломы’, *хвартýх* ‘ніжняя частка, нахіл у франтоне’, *ці́ха* ‘радно’, *шéнка* ‘невялікі мяшок з добрага палатна’.

Зафіксаванае чляненне загародскіх гаворак даволі выразнае. Існуюць фразы-жарты, у якіх спецыяльна канцэнтруюцца словы, што адлюстроўваюць пэўную рысу гаворкі. Вось, для прыкладу, некаторыя з іх:

*Шéпка ёблык пӥеть рублів. Жéба в éмцы качéе ёблыко. Повправлéюсь, прыдý в хáту, сéду да бýду прéсты. Дéдьку, ны робы́ тéшко. Зароблéлы грóшы да куплéлы, шо трэ́ба.*

*Продалá вáпручка, купэ́ла цáбрычка. Іду́ по стáжцэ, дывлю́сь на нáбо, пудхóджу до хáтэ, сту́каю в двáрэ, выхóдыть Хвáдур і кáжить: Дóбри вáчур. Гáтэ дáрво вáймэ твáрдэ. Ці́лы дань выбырáлэ мад.*

*Там мóжна бу́дэ вэ́пытэ горі́лкэ і закусэ́тэ рэ́быю. Нымá сэ́лэ всю робóту поробэ́тэ.*

*Вун туды́ бульш ны пу́йдэ. Гэ́то муй кунь і муй вуз і нықóму я ёгó ны дам. Кут скóчыв на ослу́н, з ослóна на стул да помарáв насту́лнычка. Ці́лу нуч було́ зу́рно на дворі́. Тю́тка взялá свою́ кору́вку за руг. Прыню́с цы́лый кóшык грыбу́в.*

Размяшчэнне адзначаных тыпаў гаворак мазаічнае. Паміж асобнымі гаворкамі аднаго і таго ж тыпу, размешчанымі ў розных рэгіёнах, існуе розніца, нярэдка даволі значная.

У асноўным масіве загародскіх гаворак (сюды не ўключаюцца перыферыйныя загародскія гаворкі) амаль палавіну яго тэрыторыі займаюць гаворкі сярэднезагародскія, каля чвэрці – паўночназагародскія, таксама каля чвэрці – паўднёвазагародскія, прыкладна 5 % – тараканскія.

Вышэй былі адзначаны асноўныя рэлевантныя асаблівасці асобных груп загародскіх гаворак. Гэтым групам (тыпам) уласцівы і іншыя асаблівасці. Найбольш характэрнымі рысамі для кожнай з адзначаных груп з'яўляюцца наступныя.

Для *сярэднезагародскіх* гаворак.

1. Рэфлексы **о* > [*і*], [*ы*], [*ӥ*] (новыя закрытыя склады пад націскам).

2. Рэфлекс **а, *ę* > [*'а*] (пад націскам, як і ў паўночназагародскіх гаворках).

3. На месцы этымалагічных **е, *ь ў* паслянаціскных закрытых складах вымаўляецца [*е (э)*]: *хлóпэць, хлóпэц, гóсэнь, пóпэл* (як і ў гаворках паўночназагародскіх).

4. У асноўных сярэднезагародскіх гаворках у параўнанні з іншымі дыялектнымі групамі Брэсцка-Пінскага Палесся найбольш шырокая дыстрыбуцыя мяккага [*ц*].

5. Шырокая дыстрыбуцыя мяккага [*р*] (як і ў паўднёвазагародскіх і тараканскіх гаворках).

6. Шырокая дыстрыбуцыя мяккіх шыпячых (як і ў паўднёвазагародскіх і тараканскіх гаворках).

7. У параўнанні з іншымі дыялектнымі групамі Брэсцка-Пінскага Палесся тут найбольш паслядоўна захоўваюцца спалучэнні *-гы-, -кы-, -хы-*.

*Паўднёвазагародскія* гаворкі ад сярэднезагародскіх адрозніваюцца наступнымі асаблівасцямі.

1. Рэфлексы **а, *ę* > [*'е*] (пад націскам).

2. Рэфлексы **о* > [*ӥ*], [*ы*] (новыя закрытыя склады пад націскам) сустракаюцца параўнальна рэдка.

5. На месцы этымалагічных **е, *ь* ў паслянаціскных закрытых складах вымаўляецца [*ы*]: *хлóпыць, хлóпыц, гóсынь, пóпыл.*

3. Больш абмежаваная дыстрыбуцыя мяккага [*ц*].

4. Гістарычныя *-гы-, -кы-, -хы-* ў пэўных выпадках перайшлі ў *-гі-, -кі-, -хі-*.

Гаворкі *паўночназагародскія.*

1. Рэфлекс **о* > [*у*] у новых закрытых складах пад націскам.

2. Рэфлекс **а, *ę* > [*'а*] (пад націскам, як і ў сярэднезагародскіх гаворках).

3. Вузкі галосны [*і*$^{ы}$] або [*ы*$^{і}$] на месцы гістарычных **і, *ы* пасля шыпячых, [*р*] і [*ц*] (*жі*$^{ы}$*то, ші*$^{ы}$*ты чы́*$^{і}$*сто, рі*$^{ы}$*ба, трі*$^{ы}$*, ці*$^{ы}$*бу́ля*).

4. На месцы этымалагічных **е, *ь ў* паслянаціскных закрытых складах вымаўляецца [*е (э)*]: *хлóпэц, гóсэнь, пóпэл* (як і ў гаворках сярэднезагародскіх).

5. Пераважае цвёрды [*ц*].

6. Пераважае цвёрды [*р*].

7. Пераважаюць цвёрдыя шыпячыя.

8. У рэфлексах гістарычных спалучэнняў *-гы-, -кы-, -хы-* пераважае паўмяккае вымаўленне заднеязычных: *-г·и-, -к·и-, -х·и-*.

Гаворкі *тараканскія* [8, с. 253; 14, с. 25–27, 32, 38–39, 81–88, 122–123; 15, с. 192–208; 18, с. 34–35; 22, с. 57 (карта № 1), 218–219; 24, с. 109–114; 25, с. 199–204; 26, с. 296–302; 27, с. 191–195].

1. Рэфлекс **е, *ь* > [*а*]. У тараканскіх гаворках Маларыцкага, Кобрынскага і Пінскага раёнаў дыстрыбуцыя [*а*] < **е, *ь* больш шырокая, чым у тараканскіх гаворках Драгічынскага і Іванаўскага раёнаў.

2. Рэфлекс *'а, *ę > ['е] (як і ў гаворках паўднёвазагародскіх).

3. Рэфлекс *ы, *і > [э], [эи], [ие]: *ходэ́в, сэн, рэ́ба, робэ́тэ, нымá сэ́лэ* (адпаведна ў літаратурнай мове: *хадзіў, сын, рыба, рабіць, няма сілы*).

4. Рэфлекс *о > [і] (новыя закрытыя склады пад націскам).

5. Звужэнне *ы* > *і, іы, ыі*.

6. На месцы *е, *ь ў паслянаціскных закрытых складах вымаўляюцца [*ы*], [*і*]: *гóсынь, хлóпіц.*

7. Пераважае цвёрды [*ц*].

8. Шырокая дыстрыбуцыя мяккіх шыпячых і мяккага [*р*] (як і ў паўднёва- і сярэднезагародскіх гаворках).

Сярод разгледжаных рыс, якія характэрны для тараканскіх гаворак, маюць месца аналогіі ў заходне- і паўднёваславянскіх мовах. Параўн.: тараканскае *вынáц, дань, конáц, купáц, пáкло, слыпáц, тасть, тáшча, часть, чыпáц* і серб. *венац, дан, конац, косац, купац, пако, слепац, таст, ташта, част, чепац* (адпаведна ў літаратурнай мове: *вянец, дзень, канец, купец, пекла, сляпец, цесць, цешча, чэсць, чапец*), а таксама тараканскае і паўднёвазагародскае *взéтэ, взéты, глéнув, дéкуватэ, дéкуваты, зеть, мнéсо, пйеть, пйéты, пйéтый, тéшко, тылé, чéсто* і серб. *зет, месо, пет, пети, теле, тешко, узети*, балг. *зет, месо, пет, пети, теле, тежко, често*, славен. *zet, meso, tele, težak, gledati*, чэшск. *zet', tele, pět, děkovat, děkovati, težko.*

Пераход *е > [*а*] характэрны і для неславянскіх індаеўрапейскіх моў. Параўн.: авест. *-da* 'дзе' (тараканскае *да* 'дзе'), санскр. *dārava, dārva, dāru*, хецк. *taru*, ст.-ірл. *daur* 'дрэва' (тараканскае *дáрво, дáрыво, дáраво* 'дрэва'), авест. *dasa*, скіф. *dasa* 'дзесяць' (тараканскае *дáсить, дáсать* 'дзесяць'), санскр. *dvār, dvara*, авест. *dvar, dvara*, скіф. *dvara* 'дзверы' (тараканскае *двáрэ* 'дзверы'), авест. *madu-*, скіф. *madu* 'мёд' (тараканскае *мад* 'мёд'), санскр. *nábhan* 'неба' (тараканскае *нáбо* 'неба').

Акрамя дыялектных тыпаў у арэале загародскіх (заходнепалескіх) гаворак вылучаюцца дыялектныя зоны і мікразоны. Дыялектныя зоны заходнепалескага арэала – заходнезагародская і ўсходнезагародская. Мяжа паміж імі праходзіць па заходняй частцы Іванаўскага раёна. Гаворкам заходнезагародскай дыялектнай зоны характэрны наступныя рысы: часціцы *-ся, -сь* (*найівся найівсь, вмы́лася, вмы́лась, платы́лось*), суфікс *-ськ-* (*бáтьковськый, сíльськый, Пыньськ*), этымалагічны мяккі *ц у ненаціскных складах і на канцы слоў пераважна захаваў мяккасць (*гýлыця, рукавы́ця, конэ́ць, хлóпэць*), формы прыметнікаў тыпу *малóе, старóе, золотóе*, лічэбнікі *сім, шысть*. Гаворкам усходнезагародскай зоны характэрны: часціцы *-са, -со* (*найівса вмы́ласа, платы́лосо*), суфікс *-ск-* (*бáтьковскый, сíльскый, Пынск*), этымалагічны мяккі *ц у ненаціскных складах і на канцы слоў пераважна зацвярдзеў (*гýлыца, рукавы́ца, конэ́ц, хлóпэц*), формы прыметнікаў тыпу *малэ́е, старэ́е, золотэ́е*, лічэбнікі *сэм, шэсть.*

Мяжа паміж заходнезагародскай і ўсходнезагародскай дыялектнымі зонамі суадносіцца са старадаўняй мяжой паміж Берасцейскай і Пінскай землямі.

Дыялектныя мікразоны ў заходнепалескім арэале выдзелены пераважна на аснове матэрыялаў «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» [7], выданняў «Лінгвагеаграфія і групоўка беларускіх гаворак» [34], складзенай паводле матэрыялаў ДАБМ, а таксама манаграфіі «Лексічныя ландшафты Беларусі» [33].

Да такіх мікразон адносяцца:

1. Брэсцка-кобрынская мікразона [7, карты № 25, 47, 139, 166, 196, 223, 225, 230, 238, 244, 265, 275, 306; 33, карта № 36; 34, карта № 3].

2. Прыбужжа ў шырокім плане [7, карты № 30, 33, 201, 269, 271; 33, карта № 37, 38; 34, карта № 14, 28].

3. Прыбужжа ў вузкім плане [7, карты № 90, 228, 247, 275, 302, 305, 310; 33, карты № 37, 38; 34, карта № 14, 28].

4. Брэсцка-янаўская [33, карта № 36].

5. Камянецка-высокаўская або паўночна-заходняя мікразона [7, карты № 156, 254, 256, 264, 265, 307, 315, 331; 33, карта № 32, 36].

6. Камянецкая мікразона (палявыя матэрыялы, публікацыі).

7. Маларыцка-дамачоўская або паўднёва-заходняя мікразона [7, карты № 47, 62, 82, 242, 243, 247, 268, 278, 283, 296].

8. Раён г. Кобрына [7, карты № 44, 171, 228 (уключае Маларытчыну), 232, 235, 242, 250, 255, 317].

9. Цэнтральнае Загароддзе або кобрынска-драгічынска-янаўская мікразона [7, карты № 33, 47, 83, 140, 193, 221, 229, 243, 248, 253, 237; 33, карта № 35].

10. Драгічынска-пінска-столінская мікразона [7, карты № 47, 144, 196, 228, 230, 242, 265, 306; 33, карта № 27, 34; 34, карта № 1].

11. Раён г. Пінска [7, карты № 131, 223, 229, 259, 278, 286, 303].

12. Заходнястолінская або паўднёва-ўсходняя мікразона [7, карты № 24, 84, 86–88, 139, 142, 164, 181, 221, 248, 281, 286, 296, 325].

13. Паўночна-ўсходняя мікразона або Загародскае Заясельдзе [7, карты № 29, 127, 138, 184, 192, 241, 260, 279–281, 304; 33, карта № 32, 40; 34, карта № 5].

14. Лагішынска-столінская мікразона [7, карты № 25, 35, 51, 71–79, 85, 86, 109, 114, 152, 179, 194, 220, 239, 258, 277, 323; 34, карты № 2, 4, 12, 23, 25].

15. Пінска-столінская мікразона [33, карта № 29, 33; 34, карта № 33].

16. Радастаўская мікразона (палявыя матэрыялы, публікацыі). Арэал радастаўскай мікразоны суадносіцца з паўночна-ўсходнім «клінам» гістарычнай Холмскай зямлі.

17. Паўднёвыя ўскраіны загародскага дыялектнага арэала [7, карты № 31, 32, 64, 103, 259, 267, 277, 286].

Папярэдне выдзеленая намі брэсцка-драгічынская мікразона [33, карта № 36; 34, карта № 3; 33, карта № 36] адпавядае заходнезагародскай дыялектнай зоне.

**Сярэднябрэсцкія** (сярэдneберасцейскія) гаворкі.

Сярэднябрэсцкія гаворкі ўтвараюць некалькі невялікіх груп, якія лакалізуюцца на ўзмежжы гаворак уласназагародскіх, з аднаго боку, і гаворак паўночнабрэсцкіх і тураўскіх – з другога.

Тэрытарыяльна, пачынаючы з захаду, яны размяшчаюцца наступным чынам: гаворкі 1) верхняясельдскія, 2) малецкія, 3) стрыгінскія, 4) паўднёвацеляханскія, 5) валішчанска-аброўскія, 6) традыцыйная гаворка м. Целяханы, 7) традыцыйная гаворка в. Вулька Лаўская, 8) бобрыкскія, 9) лунінскія, 10) традыцыйная гаворка г. Лунінца, 11) гаворка г. Давыд-Гарадка, 12) гаворка в. Дубенец, гаворкі 13) гараднянскія, 14) сярэднепагарынскія, 15) беражноўскія, 16) колкаўскія.

Гэтыя дыялектныя адзінкі аб'ядноўваюцца ў некалькі тыпаў.

I. *Гараднянскі* тып. Да яго адносяцца гаворкі гараднянскія, якія бытуюць у мястэчку Гарадная Столінскага раёна і ў суседніх вёсках. Гэта самы архаічны тып сярод гаворак Заходняга Палесся [9, с. 255–257; 16, с. 130–135; 19, с. 35–37; 20, с. 118–135; 21, с. 214–227; 23, с. 454–465; 2 8, с. 261–268].

Найбольш характэрная рыса гараднянскіх гаворак – зычныя [*д*], [*т*], [*з*], [*с*], [*н*] перад гістарычнымі **е*, **і* вымаўляюцца паўмякка: *д·э́рэво, д·энь, т·эп·э́р, н·э́бо, з·эмля́, до с·эб·э́, ход·и́т·и, з·има́, с·и́ла, гон·и́т·и, накос·и́в*[1]. Гэтая рыса была ўласціва праславянскай мове і старажытнарускай кніжнай мове ранняга перыяду. Гэтыя ж зычныя перад гістарычным **ы* – цвёрдыя: *дым, ты, тры козы́, сы́пат·и, б·эз войны́*. На месцы *ѣ (яця) у націскных складах у гараднянскіх гаворках вымаўляецца *ê* закрытае (*лêс, сêно, снêг*), на месцы **о* ў новых закрытых складах пад націскам – *ô* закрытае (*вôз, кôнь, стôл*).

II. *Стрыгінскі* тып [20, с. 118–135; 21, с. 214–227; 31; 42]. Да гэтага тыпу адносяцца гаворкі стрыгінскія (цэнтр і паўночны захад Бярозаўскага раёна), паўднёвацеляханскія (узмежжа Івацэвіцкага і Пінскага раёнаў), сярэднепагарынскія (традыцыйная гаворка г. Століна, гаворкі навакольных вёсак).

У гаворках стрыгінскага тыпу зычныя [*д*], [*т*], [*з*], [*с*], [*н*] перад гістарычным **е* вымаўляюцца цвёрда, перад гістарычным **і* – мякка: *дэ́рэво, дэнь, тэпэ́р, нэ́бо, зэмля́, до сэбэ́, ході́ті, зіма́, сі́ла, гоні́ті, накосі́в*. Губныя зычныя перад **е* цвёрдыя, перад **і* ў большасці гаворак мяккія, у гаворках вёсак Бухлічы і Варані – цвёрдыя. На Століншчыне заднеязычныя перад [*і*] звычайна мяккія, у некаторых гаворках (Бухлічы, Варані) – цвёрдыя або паўмяккія. Цеканне-дзеканне

[1] Літарай [*и*] абазначаецца гук сярэдні паміж [*і*] і [*ы*]. Паўмяккасць абазначаецца значком [·] пасля зычнага.

звычайна адсутнічае. У некаторых сярэднепагарынскіх гаворках (н. п. Бухлічы, Варані) на месцы *д мяккага і паўмяккага вымаўляецца гук сярэдні паміж [дь] і [дзь], на месцы *т мяккага і паўмяккага – гук сярэдні паміж [ть] і [ць]. На месцы *ѣ (яця) у націскных складах выступаюць: у стрыгінскіх гаворках – [е] або дыфтонг [іе], у паўднёвацеляханскіх – пераважна [ê] закрытае, у сярэднепагарынскіх – [ê] закрытае, у некаторых гаворках (Рэчыца, Церабяжоў) – [і]. На месцы *о ў новых закрытых складах пад націскам ужываюцца: у стрыгінскіх гаворках – [о] або дыфтонг [уо], у паўднёвацеляханскіх – [э] (*вэз, кэнь, стэл*), у сярэднепагарынскіх – [ô] закрытае, у некаторых гаворках (н. п. Рэчыца, Церабяжоў) – [у].

III. *Верхнаясельдскі* тып [5; 20, с. 118–135; 21, с. 214–227; 51, с. 87, 108]. Да гэтага тыпу адносяцца гаворкі верхнаясельдскія і традыцыйная гаворка г. Лунінца. Верхнаясельдскія гаворкі пашыраны ў цэнтры і на ўсходзе Пружанскага раёна, на паўночным захадзе Бярозаўскага раёна і ў некалькіх населеных пунктах на поўдзень ад г. Бярозы. У верхнаясельдскіх гаворках выдзяляюцца тры падгрупы: смаляніцкая, рудніцкая і ліноўская.

У гаворках верхнаясельдскага тыпу зычныя [д], [т], [з], [с], [н] перад гістарычным *е вымаўляюцца цвёрда, перад гістарычным *і – мякка: *дэ́рэво, дэнь, тэпэ́р, нэ́бо, зэмля́, до сэбэ́, ходзіці (ход$^{з}$іці), зіма́, сіла, гоніці, накосів*. Губныя зычныя перад *е цвёрдыя, перад *і – мяккія. Мяккі і паўмяккі *т перайшоў у мяккі [ц], акрамя пазіцыі перад *е. Мяккі і паўмяккі *д у рудніцкай і ліноўскай падгрупах верхнаясельдскіх гаворак, а таксама ў традыцыйнай гаворцы г. Лунінца перайшоў у мяккі [дз], акрамя пазіцыі перад *е. Мяккі і паўмяккі *д у смаляніцкай падгрупе верхнаясельдскіх гаворак ператварыўся ў мяккі [д$^{з}$ь], акрамя пазіцыі перад *е. У пазіцыі перад *е былыя паўмяккія зычныя *д і *т у гаворках верхнаясельдскага тыпу захавалі сваю якасць і ацвярдзелі. На месцы *ѣ (яця) у націскных складах у верхнаясельдскіх гаворках выступае дыфтонг [іе], у традыцыйнай гаворцы г. Лунінца – пераважна [ê] закрытае. На месцы *о ў новых закрытых складах пад націскам у верхнаясельдскіх гаворках вымаўляецца дыфтонг [уо], у традыцыйнай гаворцы г. Лунінца – галоўным чынам дыфтонг [ыэ].

III. *Беражноўскі* тып [12, с. 83–87; 16, с. 130–135; 19, с. 35–37; 20, с. 118–135; 21, с. 214–227; 37, с. 295–298; 38, с. 90–92; 39, с. 286–288; 40, с. 284–286; 41, с. 151–153; 42]. Да гэтага тыпу адносяцца: гаворкі беражноўскія (некалькі населеных пунктаў, размешчаных на паўночны ўсход ад г. Століна па р. Гарынь, і в. Храпунь на паўночным усходзе раёна), лунінскія (некалькі населеных пунктаў на захад ад г. Лунінца), бобрыкскія (два населеныя пункты на поўначы Пінскага раёна), традыцыйная гаворка м. Целяханы, традыцыйная гаворка в. Вулька Лаўская на поўначы Пінскага раёна.

У гаворках беражноўскага тыпу зычныя [д], [т], [з], [с], [н] перад гістарычнымі *е, *і вымаўляюцца мякка: *дéрэво, день, тепэ́р, нéбо, земля́, до себэ́, ході́ті, зімá, сіла, гоніті, накосів*. Дзеканне-цеканне адсутнічае. У некаторых гаворках (вёскі Белагуша, Манькавічы, Хотамель) мяккі зычны [д] мае прыгук зычнага [дз], мяккі зычны [т] – прыгук зычнага [ц]. Для большасці гаворак беражноўскага тыпу характэрна оканне, бобрыкскім гаворкам уласціва аканне. На месцы *ѣ (яця) у націскных складах у большасці гаворак выступае [ê] закрытае, часам – [е]. У лунінскіх гаворках у гэтай пазіцыі мае месца [і]: *сіно, сніг, ліс*. На месцы *о ў новых закрытых складах пад націскам у беражноўскіх гаворках вымаўляецца [ô] закрытае, часам – [о]. У лунінскіх гаворках – звычайна [ы] (*стыл, ныс*).

IV. *Малецкі* тып [20, с. 118–135; 21, с. 214–227; 42]. Да гэтага тыпу адносяцца гаворкі малецкія (паўднёвы захад Бярозаўскага раёна) і валішчанска-аброўскія (узмежжа раёнаў Івацэвіцкага і Пінскага). У гаворках малецкага тыпу губныя зычныя і пярэднеязычныя перад рэфлексамі гістарычных *е, *і вымаўляюцца цвёрда: *вэ́чор, бэ́рог, дэнь, тэ́плы, нэсэ́, вэзэ́, мы́ска, бы́ты, ходы́ты, зымá*. Усім гаворкам характэрна оканне. Дзеканне-цеканне адсутнічае. На месцы *ѣ (яця) у націскных складах у малецкіх гаворках выступае дыфтонг [іе], у валішчанскіх – пераважна [ê] закрытае. На месцы *о ў новых закрытых складах пад націскам у малецкіх гаворках вымаўляецца дыфтонг [уо], у валішчанска-аброўскіх – пераважна [ê] закрытае.

Фактычна асобныя тыпы ўяўляюць гаворкі г. Давыд-Гарадка, вёсак Дубенец і Колкі. Адзначым іх найбольш спецыфічныя рысы.

Гаворцы г. Давыд-Гарадка характэрна цеканне-дзеканне, аднак гукі [*дз*], [*ц*] перад [*е*] ацвярдзелі: *дзэнь, до цэбэ́* (*дзень, да цябе*) [20, с. 127; 51, с. 98–100].

У гаворцы в. Дубенец Столінскага раёна ў адрозненне ад гаворкі суседняй в. Беражное былыя паўмяккія губныя перад рэфлексамі **і* вымаўляюцца паўмякка або цвёрда: *робі*$^{ы}$*ті, робы*$^{і}$*ті* [12, 83–87]. Гаворцы в. Колкі (паўднёвы ўсход Столінскага раёна) характэрна цеканне, але адсутнічае дзеканне: *ціхо, ідýць, ходіці, день*. Л. Асоўскі яшчэ ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя адзначаў такую спалучальнасць ў некаторых суседніх населеных пунктах: Альманы, Белагуша, Сямігосцічы [51, s. 98–100]. У канцы ХХ – пачатку ХХІ ст. у гэтых і некаторых суседніх населеных пунктах намі адзначана наступнае.

Моўцы з в. Колкі (перасяленцы з Колак кампактна жывуць на адной з ускраінных вуліц г. Століна, дзе мы даследавалі іх гаворку) паслядоўна захоўваюцца мяккія [*д*'], [*ц*']. Жыхары в. Альманы (магнітафонныя запісы І. В. Мазюк) рэалізуюць мяккія [*дз*'], [*ц*'], рэдка [*д*$^{з}$'], [*д*']. Насельнікі в. Белагуша (магнітафонныя запісы К. Ф. Руца) вымаўляюць пераважна [*д*'], [*т*'], [*д*$^{з}$'], [*т*$^{ц}$'], некаторыя носьбіты ўжываюць [*дз*'], [*ц*']. У маўленні вяскоўцаў в. Вялікія Вікаравічы (фіксацыі аўтара і В. Л. Вярэніча) выступаюць [*дз*'], [*ц*']. Жыхары в. Манькавічы (фіксацыі аўтара і М. П. Антропава) вымаўляюць пераважна [*д*'], [*т*'], [*д*$^{з}$'], [*т*$^{ц}$'], некаторыя носьбіты ўжываюць паралельна [*дз·*'], [*ц·*']. Насельніцтву в. Сямігосцічы [47] характэрна рэалізацыя [*дз*'], [*ц*']. Склад жыхароў в. Бор-Дýбенец (мясц. *Грýшовка*) вызначаецца пэўнай стракатасцю. Тут жывуць перасяленцы з в. Грушава Кобрынскага раёна, з суседніх вёсак, нямала выхадцаў з в. Рубель Столінскага раёна, а таксама іх нашчадкаў. Усе яны ў значнай ступені захавалі свае гаворкі з уласцівымі ім асаблівасцямі.

На тэрыторыі бытавання паўночнабрэсцкіх, сярэднябрэсцкіх і тураўскіх гаворак існуе некалькі дыялектных мікразон.

1. Верхняясельдская мікразона. У межах Пружанскага і Бярозаўскага раёна аб'ядноўвае гаворкі паўночнабрэсцкія, верхняясельдскія, стрыгінскія, малецкія.

2. Выганаўская мікразона. Акрэслена гаворкамі поўдня Івацэвіцкага раёна і яго наваколля [33, карта № 31; 42, с. 269–272, 275, 277–284].

3. Лунінецка-целяханская мікразона. Уключае поўдзень Івацэвіцкага раёна, асноўную частку Лунінецкага раёна, сумежныя тэрыторыі другіх раёнаў. Асноўная фанетычная рыса гэтага рэгіёна: рэфлекс **о* > [э] у новых закрытых складах пад націскам. Відаць, тут калісьці жыло асобнае малое племя.

4. Малькавіцка-лахвенская мікразона. Уключае поўдзень Ганцавіцкага і ўсход Лунінецкага раёнаў.

5. Пагарынская мікразона. Уключае тэрыторыю Пагарыння ў вузкім сэнсе. Тут бытуюць гаворкі сярэднепагарынскія, беражноўскія, гараднянскія, колкаўскія, заходняя частка ўсходнепалескіх (тураўскіх).

6. Тураўска-жыткавіцкая мікразона. Уключае ўсход Столінскага і паўднёвы ўсход Лунінецкага раёнаў.

На тэрыторыі пашырэння гродзенска-баранавіцкіх і паўночнабрэсцкіх гаворак лакалізуецца панямонска-паўночнабрэсцкая дыялектная зона.

На тэрыторыі Палесся намі выдзелена некалькі дыялектных тыпаў [20, с. 118–135; 21, с. 214–227]. Кожны тып звычайна аб'ядноўвае некалькі дыялектных адзінак. У межах Брэсцка(Берасцейска)-Пінскага Палесся выдзелены наступныя дыялектныя тыпы.

Паўночнапалескі тып складаюць гаворкі паўночнабрэсцкія, тураўскія (усходнепалескія), колкаўскія, гаворка г. Давыд-Гарадка.

Паўднёвапалескі тып аб'ядноўвае гаворкі паўночна-, сярэдне- і паўднёвазагародскія і тараканскія.

Малецкі тып прадстаўлены гаворкамі малецкімі і валішчанска-аброўскімі.

Стрыгінскі тып уключае гаворкі стрыгінскія, паўднёвацеляханскія, сярэднепагарынскія.

Верхняясельдскі тып складаюць гаворкі верхняясельдскія і традыцыйная гаворка г. Лунінца.

Беражноўскі тып уключае гаворкі беражноўскія, лунінскія, бобрыкаўскія, традыцыйную гаворку м. Целяханы, традыцыйную гаворку в. Вулька Лаўская.

### Карта-схема дыферэнцыяцыі і групоўкі гаворак Брэсцкай вобласці[1]




Групы і тыпы гаворак на тэрыторыі Брэсцкай вобласці: *1* – сярэднезагародскія; *2* – паўночназагародскія; *3* – паўднёвазагародскія; *4* – тараканскія; *5* – малецкія; *6* – валішчанска-аброўскія; *7* – гараднянскія; *8* – стрыгінскія; *9* – паўднёвацеляханскія; *10* – сярэднепагарынскія; *11* – верхняясельдскія; *11а* – смаляніцкая падгрупа верхняясельдскіх гаворак; *12* – традыцыйная гаворка г. Лунінец; *13* – традыцыйная гаворка м. Целяханы; *14* – традыцыйная гаворка в. Вулька Лаўская; *15* – гаворка в. Бобрык; *16* – лунінскія; *17* – беражноўскія; *18* – асноўныя паўночнабрэсцкія; *19* – паўночнабрэсцкія з рэфлексам *о > [э]; 20 – паўночнабрэсцкія акаючыя; *21* – усходнепалескія; *22* – гаворка г. Давыд-Гарадка; *23* – колкаўскія[2]; *24* – панямонскія (гродзенска-баранавіцкія); *24а* – навагрудска-баранавіцкая мікразона; *24б* – слонімска-косаўская мікразона; *24в* – ваўкавыская мікразона; *25* – слуцкія.

Спіс скарочаных назваў населеных пунктаў (у дужках прыводзяцца мясцовыя назвы):

Ан – Антопаль (Антопілле, Гантоптілле, Антопу́лле, Анто́поль); Бл – Белаазёрск (Білоозе́рск, Білоозе́рськ, Грэс); Бр – Бяроза (Бэрэ́за); Вл – Валадзімірэц (Володимерец); Вс – Высокае (Высо́кэ); Гн – Ганцавічы (Га́нцавічы, Га́нцэвічы); Др – Драгічын (Догогы́чэнь); Д-Г – Давыд-Гарадок (Городо́к, Давы́д-Городо́к); Жб – Жабінка (Жа́бынка, Жя́бынка); Івн – Іванава (Яны́в); Івц – Івацэвічы (Іваце́вічы,Ваце́вічы); Кб – Кобрын (Ко́брэнь); Км – Камянец (Ка́мынэць, Ка́мэнэць); Кс – Косава (Ко́саво); Лг – Лагішын (Логы́шын); Лн – Лунінец (Лу́нінец, Лу́нінэц, Лу́нынэц); Лх – Ляхавічы (Ля́хавічы); Мк – Мікашэвічы (Мікаше́вічы); Мл – Маларыта (Малоры́та); Пр – Пружаны (Пружа́на, Пружана́я); Рж – Ружаны (Ража́на, Ружа́на, Ружа́ны); Ст – Столін (Сто́лін, Сто́лын); Цл – Целяханы (Телеха́ны, Целеха́ны); Шр – Шэрашаў (Ше́рэшэво); Берасце – (Бе́рэсть); Баранавічы – (Бара́навічы); Пінск (Пынск, Пынськ)

[1] Бланкоўку карты падрыхтаваў І. Кошчанка.

[2] Традыцыйныя гаворкі вёсак Альманы і Сямігосцічы аднесены да колкаўскіх на падставе працы Л. Асоўскага [Ossowski, s. 98–100] і архіва В. Л. Вярэніча.

### Крыніцы факталагічнага матэрыялу

Вярэніч, В. Л. Палескі архіў. Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы / В. Л. Вярэніч; пад навук. рэд. Фёдара Клімчука [і інш.]. – Мінск: Выдавец А. А. Вараксін, 2009. – 691 с.

Ігнатюк, І. Українські говірки Південного Підляшшя [опис, тексти і словничок] / І. Ігнатюк. – Люблин: Вид-во Episteme, 2013. – 108 s.

Климчук, Ф. Д. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья / Ф. Д. Климчук // Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. – М., 1968. – С. 20–78.

Клімчук, Ф. Д. Групы гаворак на Піншчыне / Ф. Д. Клімчук // Навук.-практ. канф., прысвеч. 900-годдзю Пінска. – Пінск, 1997. – С. 33–35.

Клімчук, Ф. Д. З лексікі вёскі Камянюкі Камянецкага раёна / Ф. Д. Клімчук // Жывое народнае слова: дыялекталаг. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. П. А. Міхайлаў, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 36–55.

Клімчук, Ф. Д. Словы з-пад Белавежскай пушчы / Ф. Д. Клімчук // Жывое наша слова: дыялекталаг. зб. (Да 90-годдзя чл.-кар. НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч) / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Л. П. Кунцэвіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Беларуская навука. – 2001. – С. 63–78.

Клімчук, Ф. Д. Пра мову п'есы «Пінская шляхта» / Ф. Д. Клімчук // Гістарычная брама: гісторыя і культура Палесся. – 2010. – № 1 (25). – С. 143–150. У артыкуле дапоўнены звесткі пра арэал галоснага [ü].

Клімчук, Ф. Д. Прыказкі і прымаўкі з вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна / Ф. Д. Клімчук // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – Вып. 3. – С. 157–168.

Клундук, С. С. Слова да слова – будзе мова: дыялектны слоўн. в. Фядоры / С. С. Клундук. – Брэст: БрДУ, 2010. – 100 с.

Лексіка Палесся ў прасторы і часе / рэд. В. У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 215 с.

Ліпко, М. С. Бабраўцы: асаблівасці гаворкі / М. С. Ліпко // Скарбы народнай мовы: дыялекталаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – С. 103–106.

Мацкевіч, Ю. Ф. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове / Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1959. – 292 с.

Філосаф, В. М. З гаворкі горада Камянца Брэсцкай вобласці / В. М. Філосаф // Скарбы народнай мовы: дыялекталаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – С. 176–180.

Філосаф, В. М. Тэксты з Камянецкага раёна / В. М. Філосаф // Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 310–316.

Tarnacki, J. Studia porównawcza nad geografią wyrazów (Polesie – Mazowsze) / J. Tarnacki. – Warszawa, 1939. – 101 s. (z il.), 94 + 1 mapa, 1 tab.

### Літаратура

1. Атлас української мови. – Т. 2: Волинь, Наддністрянщина, Закарпаття і суміжні землі. – Київ: Наук. думка, 1988.

2. Бірыла, М. В. Этымалагічна мяккія губныя зычныя ў беларускіх народных гаворках / М. В. Бірыла // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. – 1957. – Вып. III. – С. 71–93.

3. Бірыла, М. В. Рэфлексы агульнаславянскіх *о, ъ, ѣ, е, ь* ў беларускіх гаворках / М. В. Бірыла // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. – 1959. – Вып. VI. – С. 67–97.

4. Бірыла, М. В. Парныя па цвёрдасці-мяккасці д–дз'(д'), т–ц'(т') у беларускіх гаворках / М. В. Бірыла // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. – 1960. – Вып. VII. – С. 89–101.

5. Босак, А. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя): фанетыка і марфалогія / А. Босак, В. Босак; адк. рэд. Ф. Д. Клімчук. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2005. – 94 с.; Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя): лексіка / А. Босак, В. Босак; адк. рэд. Ф. Д. Клімчук. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2006. – 124 с.

6. Вайтовіч, Н. Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі / Н. Т. Вайтовіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 219 с.

7. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы [ДАБМ] / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. – VIII + 338 карт.

8. Карский, Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам / Е. Ф. Карский. – М.: Изд-во АН СССР, 1962. – 712 с.

9. Клімчук, Ф. Д. Аб адным праславянскім архаізме / Ф. Д. Клімчук // Беларуская мова ў культурнай і моўнай прасторы Славіі: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 24–25 лістап. 2009 г. – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С. 255–257.

10. Клімчук, Ф. Д. Аб суадносінах гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся і Падляшша / Ф. Д. Клімчук // Badania dialektw i onomastyki na pograniczu polsko-wschodniosowiaskim. – Białystok, 1995. – S. 121–125.

11. Клімчук, Ф. Д. Берасцейска-пінскі дыялектны арэал / Ф. Д. Клімчук // Волинь філологічна: текст і контекст. Західнополіськи говірки в просторі і часі. – Луцьк, 2010. – Вип. 9. – С. 199–207.

12. Клімчук, Ф. Д. Гаворка вёскі Дубенец Столінскага раёна / Ф. Д. Клімчук // Фальклор і этнакультура Палесся ў індаеўрапейскім кантэксце: матэрыялы III Міжнар. навук. канф., Мінск, 7–8 снеж. 2006 г. – Мінск, 2007. – С. 83–87.

13. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі Берасцейска-Пінскага Палесся і Падляшша як вынік гістарычнага развіцця / Ф. Д. Клімчук // Pogranicze. – Lublin, 2003. – Т. 4. – S. 245–256 + карты № 1, 2.

14. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс / Ф. Д. Клімчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.

15. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі Маларыцкага раёна Брэсцкай вобл. / Ф. Д. Клімчук // Gwary i onomastyka pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego. Tom prac ofiarowany prof. Michałowi Kondratiukowi z okazji 45-lecia pracy naukowej. – Białystok, 2006. – С. 191–208 (карты і тэкст).

16. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі ў нізоўях ракі Гарынь / Ф. Д. Клімчук // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 15–16 крас. 2008 г. – Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2008. – С. 130–135.

17. Клімчук, Ф. Д. Галосны [ü] у брэсцка-пінскіх гаворках / Ф. Д. Клімчук // Полісся: мова, культура, історія. – Київ, 1996. – С. 57–63.

18. Клімчук, Ф. Д. Да пытання аб палеска-арыйскіх (інда-іранскіх) сувязях / Ф. Д. Клімчук // Арэалогія. Праблемы і дасягненні: тэз. дакл. Міжнар. навук. канф., Мінск, 25–27 траўня 1993 г. – Мінск, 1993. – С. 34–35.

19. Клімчук, Ф. Д. Дыялектнае ўзмежжа ў Ніжнім Пагарынні / Ф. Д. Клімчук // Актуальныя праблемы мовазнаўства і лінгваадукацыі: матэрыялы Рэсп. навук. канф. да 70-годдзя з дня нарадж. праф. Галіны Мікалаеўны Малажай, Брэст, 20–21 сак. 2008 г. – Брэст: БрДУ імя А. С. Пушкіна, 2008. – С. 35–37.

20. Климчук, Ф. Д. Диалектные типы Полесья / Ф. Д. Климчук // Слово и культура. Памяти Никиты Ильича Толстого. – М.: Индрик, 1998. – Т. 1. – 118–135.

21. Климчук, Ф. Д. Диалектные типы Полесья на общеславянском фоне / Ф. Д. Климчук // Славянские этюды: сб. к юбилею С. М. Толстой. – М.: Индрик, 1999. – С. 214–227.

22. Клімчук, Ф. Д. Заходнепалескія гаворкі / Ф. Д. Клімчук // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 57 (карта № 1), 218–219.

23. Климчук, Ф. Д. Отголоски праславянщины в Столинском районе Брестской области // Язык культуры: семантика и грамматика. (К 80-летию со дня рожд. акад. Никиты Ильича Толстого (1923–1996)). – М.: Индрик, 2004. – С. 454–465.

24. Клімчук, Ф. Д. Славянскія і індаеўрапейскія сувязі тараканскіх гаворак (рэфлекс *е, *ь > [а]) / Ф. Д. Клімчук // Волинь філологічна: текст і контекст: західнополіський діалект у загальноукраїнському та всеслов'янському контекстах. – Луцьк: РВВ «Вежа» Волин. держ. ун-ту ім. Лесі Українки, 2007. – Вип. 4. – С. 109–114.

25. Клімчук, Ф. Д. Славянскія і індаеўрапейскія сувязі тараканскіх гаворак (рэфлекс *е, *ь > [а]) / Ф. Д. Клімчук // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: материалы Междунар. науч.-метод. конф., Брест, 17–18 нояб. 2005 г.: в 2 ч. – Брест, 2006. – Ч. I. – С. 199–204.

26. Klimčuk, Fjodar D. Славянскія і індаеўрапейскія сувязі тараканскіх гаворак (рэфлекс *Е, *Ь > [А]) / Ф. Д. Клімчук // Zora, 41. Diahronija in sinhronija v dialektoloških raziskavah. – Maribor, 2006. – S. 296–302 (карта).

27. Клімчук, Ф. Д. Тэксты на тараканскіх гаворках Драгічынскага раёна / Ф. Д. Клімчук // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларуская навука, 2010. – Вып. 1. – С. 191–195.

28. Клімчук, Ф. Д. Тэксты са Столінскага раёна / Ф. Д. Клімчук // Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 261–268.

29. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003. – 167 с.

30. Крывіцкі, А. А. Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. – Мінск: Вышэйш. шк., 1984. – 272 с.

31. Леванцэвіч, Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Л. В. Леванцэвіч. – Брэст: Брэст. дзярж. пед. ін-т, 1993. – Ч. 1. – 52 с.; Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсц-

кай вобласці. Фанетыка: вучэб. дапам.: у 2 ч. – Брэст: Брэсц. дзярж. пед. ін-т, 1993. – Ч. 2: Карты № 1–60. – 68 с.; Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Лексіка: вучэб. дапам. – Брэст: БрДУ, 2001. – 135 с.

32. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / пад рэд. М. В. Бірылы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1993. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет. – 160 с.; XIX + 368 карт; т. 2: Сельская гаспадарка. – 1994. – 145 с. 354 карты; т. 3: Чалавек. – 1995. – 115 с.; 293 карты; т. 4: Побыт. – 1997. – 150 с.; 439 карт; т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск. – 1998. – 125 с.; 337 карт.

33. Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / навук. рэд. Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 256 с.

34. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. – Мінск: Навукі і тэхніка, 1968 (318 с.), 1969 (80 карт).

35. Ляшкевіч, І. Альпенскі дыялектны слоўнік / І. Ляшкевіч. – Альпень; Берасьце, 2004. – 36 с. (Бібліятэка Старога Гораду: Палескі куфэрак, 1).

36. Пашкевіч, М. І. Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік: для студэнтаў-філолагаў / М. І. Пашкевіч; УА «БрДУ імя А. С. Пушкіна», філал. фак., кафедра беларус. мовазнаўства. – Брэст: БрДУ, 2008. – 66 с.

37. Руц, К. Ф. Дыялектны матэрыял з вёскі Белавуша Столінскага раёна Брэсцкай вобласці / К. Ф. Руц // Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 295–298.

38. Руц, К. Ф. З лексікі вёскі Беражное Столінскага раёна / К. Ф. Руц // Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 90–92.

39. Руц К. Ф. Палешукі пра сябе і сваё жыццё / К. Ф. Руц // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. / Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі; рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларуская навука, 2010. – Вып. 1. – С. 286–288.

40. Руц, К. Ф. Так гавораць мае землякі / К. Ф. Руц // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. / Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі; рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларуская навука, 2010. – Вып. 1. – С. 284–286.

41. Руц, К. Славуты Хотамель / К. Руц, Ф. Клімчук // Гістарычная брама: гісторыя і культура Палесся. – 2010. – № 1 (25). – С. 151–153.

42. Самуйлік, Я. Р. Атлас гаворак Выганаўскага Палесся / Я. Р. Самуйлік, навук. рэд. Ф. Д. Клімчук. – Брэст: БрДТУ, 2013. – 323 с.

43. Самуйлік, Я. Р. Панямонскія (гродзенска-баранавіцкія) пучкі ізаглос у «Атласе народных гаворак Выганаўскага Палесся» / Я. Р. Самуйлік // Поліськi зворини: зб. пам'яті проф. Миколи Васильовича Никончука (1937–2001). – Житомир: Вид-во ЖДУ ім. І. Франка, 2007. – С. 152–176.

44. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.], рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986.

45. Телентюк, Д. С. Перехідні говірки Лунинецького району Пінської області Білоруської РСР / Д. С. Телентюк // Діалектологічний бюлетень. – Київ: Вид-во АН УРСР. – 1953. – Вип. 4.

46. Трафімчык, А. В. Словы з вёскі Вялікія Кругавічы Ганцавіцкага раёна (у артыкуле змешчана карта гаворак Ганцавіцкага раёна) / А. В. Трафімчык, В. Я. Чабатарэнка // Скарбы народнай мовы: дыялекталаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – С. 144–156.

47. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; склад. А. А. Крывіцкі [і інш.]; рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987.

48. Целянцюк, Д. С. Лунінецкія гаворкі / Д. С. Целянцюк // Матэрыялы першай дыялекталагічнай канферэнцыі БССР. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1950. – С. 81–85.

49. Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny // Prace Slawistyczne / PAN, In-t Słowianoznawstwa. – Nr. 17. – T. 2. – Wrocław etc.: Ossolineum, 1989. – 308 s. (42 mapy).

50. Barszczewska Nina, Jankowiak Mirosław. Dialektologia białoruska / Nina Barszczewska, Mirosław Jankowiak. – Warszawa: In-t Slawistyki PAN. – 2012. – 308 s.

51. Ossowski, L. Studia slawistyczne / L. Ossowski. – Wrocław; Warszawa; Krakow, 1992. – S. 77–89 [Ossowski].

*А. М. Лапцёнак*

# СІНТАКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ З ДЗЕЯСЛОВАМІ *ВУЧЫЦЬ / ВУЧЫЦЦА* І ПАД. У ТЭКСТАХ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»

Вывучэнне сінтаксічных асаблівасцей беларускай мовы пачатку XX ст. дазваляе прасачыць працэс фарміравання пісьмовай беларускай мовы, прааналізаваць развіццё і станаўленне яе сінтаксічнай нормы. Надзвычай ілюстратыўнай для такога вывучэння з'яўляецца газета «Наша Ніва», на старонках якой адбываўся паступовы пераход ад жывой народнай гаворкі да ўнармаванай літаратурнай мовы. Мова газеты, паводле назіранняў даследчыкаў, не з'яўляецца нечым гатовым і строга акрэсленым, у ёй шмат варыянтаў і непаслядоўнасцей на ўсіх узроўнях, у тым ліку і сінтаксічным, што дае магчымасць прасачыць працэс выпрацоўкі нормы.

Дзеясловы *вучыць / вучыцца,* а таксама іх аднакарэнныя ўтварэнні *навучыць / навучыцца, навучаць / навучацца* і інш., вытворныя дзеепрыметнікі, аддзеяслоўныя назоўнікі і пад. дастаткова шырока выкарыстоўваюцца ў тэкстах «Нашай Нівы» ў складзе розных па семантыцы і структуры словазлучэнняў. Структурна яны больш разнастайныя, чым у сучаснай літаратурнай мове, бо, як сцвярджае В. П. Лемцюгова, мову «Нашай Нівы» трэба «разглядаць як пэўны этап развіцця і інтэграцыі дыялектных сістэм» [12, с. 14], кожны з аўтараў газеты выкарыстоўваў сродкі сваёй гаворкі, у тым ліку і сінтаксічныя.

У залежнасці ад будовы і семантыкі словазлучэнняў іх можна падзяліць на некалькі груп. У спалучэннях пры абазначэнні працэсу засвойвання, набыцця ведаў, навыкаў, што выражаецца зваротнымі дзеясловамі *вучыцца, навучыцца, вывучыцца* і пад., а таксама пры абазначэнні працэсу перадачы каму-небудзь ведаў, навыкаў, выражаным дзеясловамі *вучыць, навучыць, навучаць* і г. д., дзеясловы кіруюць залежным кампанентам у давальным склоне без прыназоўніка, што ўласціва і сучаснай літаратурнай мове [1, с. 61; 15, 1, с. 516; 15, 3, с. 220]. Аднак такія спалучэнні колькасна не вельмі шматлікія на старонках газеты, у якасці галоўнага кампанента адзначаюцца пераважна зваротныя дзеясловы: *Хаця у гэтай школе бы* ***вучыліся*** *іх дзеці і унукі аб гаспадарцы новымі способамі, і* ***агароднічёству і рэмеслам*** [1912, № 2, с. 4][1]; *Навучылі майстэркі – праз пяць год тэрмінаваў у суседа пана Бэрковіча і* ***навучыўся шавецтву*** [1913, № 6, с. 1]; *Многа можна прывесьці прыкладоў таго, што бывае з народамі ня хочучымі* ***навучацца чужому...*** [1913, № 42, с. 2. Лявон Гмырак. Свайго не чурайцесь, чужому навучайцесь]; *Гэта добрая старана Амэрыка, бо беларус пабыўшы там не траціць свайго національнаго аблічча, а* ***навучаецца многа чаму новаму*** [1913, № 42, с. 2. А. У].

Значна шырэй у мове газеты выкарыстоўваюцца словазлучэнні з залежным кампанентам у форме роднага склону без прыназоўніка, у якасці галоўнага кампанента словазлучэнняў адзначаюцца як зваротныя, так і незваротныя дзеясловы. Такія спалучэнні фіксуюцца ў розныя гады выдання газеты, ужываюцца яны і ў нумарах за 1920 г., калі «Наша Ніва» была адноўлена пасля перапынку ў некалькі год. Параўн.: *У гэтай школе будуць* ***вучыць расейскай мовы, арытмэтыкі, геомэтрыи и*** *для праваслаўных* ***славянскай мовы*** [1907, № 28, с. 7]; *Ведама, што* ***навучыць*** *мужыкоў* ***добрай гаспадаркі*** *– рэч карыстная* [1908, № 19, с. 2]; *Na lekcii kožny sielanin, pryjechaŭšy za swaimi sprawami na tork, može darma zachodzić i* ***šmat čaho dobraho nawučycca*** [1910, № 23–24, с. 361–362]; *Ale, apryč blahoha prykladu, dzieci* ***nawučajucca šmat čaho drennaho*** *i ad taho, što baćki nia umiejuć hadawać ich* [1911, № 28, с. 359]; *...****стаў навучаць гэтых песень...*** [1912, № 17, с. 2]; *Школа мае 4 клясы у каторых* ***апрача рысаваньня і маляваньня*** *будуць* ***вучыць чарчэньня, пэрспэктывы, анатоміі і гісторыі штукарства*** [1913, № 7, с. 2]; *...Абрусіцельная школа якраз і немае змогі выпоўніць нават сваей найпершай мэты, –* ***навучыць расейскай мовы*** [1914, № 19, с. 2]; *На курсах [вучыцельскіх] будуць* ***вучыць беларускае мовы, беларусазнайства і мэтодыкі*** [1920, № 9, с. 4].

[1] Тут і далей пры ілюстрацыях у якасці спасылкі на газету «Наша Ніва» пададзены год, нумар газеты і нумар старонкі, пры наяўнасці – аўтар і назва публікацыі паводле картатэкі мовы «Нашай Нівы».

Залежны кампанент у такіх словазлучэннях мае рознае значэнне: шырока адзначаюцца назвы прадметаў выкладання, школьных дысцыплін і пад.: ***навучаюць граматы*** [1907, № 18, с. 4]; ***будуць навучаць рэлигии...*** [1907, № 28, с. 7]; ***вучацца ... большых навук: гісторыі, географіі*** *(навука о зямлі)* ***і шмат іншых*** [1910, № 22, с. 341]; ***wučyliby i roznaj mowy (jazykoй)*** [1910, № 4, с. 69]. Часта залежны кампанент – назва рамёстваў, прафесійнага занятку з рознай ступенню абагульнення: ***будуць вучыцца кавальства, сьлесарства, сталярства і токарства*** [1910, № 10, с. 163]; ***выўчыцца сельскай гаспадаркі і агародніцтва*** [1912, № 6, 9 (22) лют., с. 1]; ***шмат чаго добраго вучылі:*** *и чытаць, и писаць, и* ***рукадзельнай работы*** [1908, № 4, с. 7]; ***padwucycca jakoha remiesla...*** [1910, № 5, с.85]; ***не навучацца якой спэціальнасьці*** [1910, № 21, с. 328]. Часта выкарыстоўваюцца спалучэнні, у якіх залежны кампанент абазначае адцягненае, абстрактнае паняцце, часам ён выражаны займеннікамі: *...пытаньне,* ***чаго вучыць*** *дзяцей у школах...* [1912, № 3, 19 (1) ст., с. 1]; *Ці зрабілі што-небудзь карыснае для беларусоў, – хаця-бы дзеля таго,* ***каб чаго добраго, карыснаго навучыць*** *нашых селян?* [1913, № 13, с. 1]; *...чатыры гады* ***вучыўся усяго, апрыч патрэбнаго*** *для гаспадаркі* [1912, № 2, 13 (26) ст., с. 2]; *...dzieci* ***nawucajucca smat caho drennaho...*** [1911, № 28, с. 359]; ***Шмат чаго навучыць*** *нас гэта страшэнная вайна...* [1915, № 24, с. 1].

У якасці галоўнага кампанента словазлучэнняў адзначаюцца і аддзеяслоўныя назоўнікі: ***Вучэнне*** *ў народнай школе* ***расейскай мовы и других навук*** *вельми палегчыцца с прызнаннем украинскай мовы, як прадмета выкладу* [1907, № 11, с. 5]; *Да такіх спраў належыць і справа* ***навучаньня*** *дзяцей* ***асноў*** *веры і малітв...* [1915, № 11, с. 2].

Як відаць, канструкцыі з родным склонам адзначаюцца надзвычай шырока ў тэкстах газеты, яны выкарыстоўваюцца рознымі па сацыяльным стане і адукацыі аўтарамі, якія прадстаўляюць розныя дыялектныя тэрыторыі: сучасная паўночна-заходняя Беларусь (А. Уласаў, В. Ластоўскі і інш.), заходняя частка краіны (Э. Ажэшка), цэнтральная Беларусь (Ядвігін Ш.), усходняя частка (М. Гарэцкі) і інш., таму нельга лічыць, што спалучэнне пашырылася на беларускай тэрыторыі пад уплывам польскай мовы, дзе беспрыназоўнікавыя канструкцыі з родным склонам з'яўляюцца сёння літаратурнай нормай: *uczyć kogoś czegoś* [9, с. 294].

Аднак у навуковай літаратуры амаль няма сведчанняў пра бытаванне такіх спалучэнняў у беларускай мове. Так, у манаграфіі Я. Ф. Карскага аналізуюцца толькі словазлучэнні з давальным склонам: *ти ж батько вуча худому; научить розуму; научить лихому* [8, с. 404], гэта спалучэнне падаецца нарматыўным і ў сучасных граматыках [3, 6].

Як нарматыўны залежны кампанент у форме роднага склону разглядаецца толькі Я. Лёсікам пры дзеясловах *вучыць, вучыцца, навучацца, слухаць* і пад.: *Навучайцеся муштру добрага* і інш., навуковец дадае, што пры такіх дзеясловах можа быць і давальны склон [10, с. 142]. Аднак пазней у манаграфіі «Сынтакс» Я. Лёсік у дадзеных канструкцыях пры абазначэнні асобы або прадмета, «да якіх накіраван пэўны душэўны рух», ужо адзначае толькі давальны склон: *Ці-ж маці вучыць благому? Навучыць розуму, наравіць ліхому, вучыцца мове* [11, с. 191].

Абодва спалучэнні зафіксаваны і ў падручніку «Формальны сынтакс», які адлюстроўвае стан беларускай мовы канца 20-х гг. XX ст., але спалучэнні з дадзенымі дзеясловамі падрабязна не аналізуюцца. Так, адзначаецца, што «для выражэння прысваеньня прадмета часам ужываецца давальны склон», дзе ў якасці прыкладу пазначана словазлучэнне *навучыўся грамаце, маляванню, мове* [17, с. 55]. Такое ж значэнне словаспалучэнняў, але без прыкладаў, адзначаецца і пры разглядзе роднага склону. Пры апісанні «роўналежных пабудоў» (сінанімічных канструкцый) аўтарамі падкрэсліваецца замена роднага склону давальным і наадварот, дзе сярод прыкладаў знаходзім: *ты песень наўчыла мяне* [17, с. 86]. Варта адзначыць, што ў якасці прыкладаў у падручніку прыводзяцца спалучэнні, выбраныя аўтарамі (г. зн. адлюстроўваюць тагачаснае маўленне), і прыклады з мастацкай літаратуры.

Фіксацыя такіх спалучэнняў у гаворках амаль адсутнічае, у дыялекталагічнай літаратуры можна знайсці толькі адзінкавыя прыклады, параўн.: *Не звучылі нашого езыка шчэ?* (Запясочча) [16, 2, с. 142]. Але канструкцыя адзначаецца ў вясельнай песні, пашыранай у розных рэгіёнах

Беларусі, што ўскосна сведчыць пра бытаванне і пашырэнне канструкцый з родным склонам: *Пусьці, пусьці, маці, гуселек паслухаць і песенек наўчыцца!..*

Як бачым, спалучэнні з родным склонам, нягледзячы на шырокую ўжывальнасць у тэкстах газеты, не знаходзяць падмацавання выкарыстання ў якасці асаблівасцей беларускай мовы ў навуковай літаратуры. Відаць, таму С. А. Важнік адносіць дадзенае спалучэнне да сінтаксічных архаізмаў – раней актыўна ўжывальных канструкцый, якія ў працэсе развіцця літаратурнай мовы былі выцеснены з ужытку іншымі канструкцыямі, але тым не менш захаваліся ў прэцэдэнтных тэкстах [5, с. 34]. Паводле яго даследаванняў, канструкцыя з родным склонам характарызуе ідыястыль К. Каліноўскага [4, с. 344].

У тэкстах газеты сустракаюцца і асобныя своеасаблівыя па будове словазлучэнні, сінанімічныя дадзеным. У якасці адметных можна адзначыць канструкцыю з залежным кампанентам у месным склоне з прыназоўнікам *аб*: *Хаця у гэтай школе бы* ***вучыліся*** *іх дзеці і унукі* ***аб гаспадарцы*** *новымі способамі* [1912, № 2, с. 4]; *...Duma pryznala prawa być suddziami tolki tym ludziam, katoryje, apraca bahactwa, (cenzu) končyli školu, hdzie* ***wučać ab zakonach*** [1910, № 5, с. 75]. Згодна з «Сынтаксам» Я. Лёсіка, прыназоўнік *аб* з месным склонам ужываецца для абазначэння прадмета размовы, гутаркі (пры дзеясловах маўлення) [11, с. 206]. Магчыма, ужыванне канструкцыі з дзеясловам *вучыць* адбываецца пад уплывам гаворак.

Залежны кампанент можа таксама мець форму вінавальнага склону без прыназоўніка, адметна, што дадзеная канструкцыя ўжываецца пераважна пры зваротных дзеясловах: *Ён [сьвяшчэннік] аддаваў сваю дачку і на яе вясельлі завёў усе абрады і песьні,* ***якіе ён навучыўся*** *ад селян з другіх ваколіц* [1911, № 8, с. 126]; *Ne saŭsim tolki zdawoleny kataliki tym, što im prychodzicca* ***wučycca paciery*** *pa rasiejsku* [1910, № 12, с. 193]. Магчыма, такая канструкцыя выступала як сінанімічная словазлучэнням з родным склонам у некаторых гаворках, бо ў апошнім прыкладзе далей па тэксце адзначаецца залежны кампанент у родным склоне: *Chacia ŭsie tut bielarusy, ale ciomnyje ludzi chočuć* ***wučycca pacieroŭ*** *nie pa bielarusku, a pa polsku, bo dumajuć, što jak chto katalik, to ŭzo i palakom staŭsia* [1910, № 12, с. 193].

Спалучэнні з вінавальным склонам адзначаюцца і ў нататках, напісаных С. Пяцельскім пад псеўданімам М. Арол, ураджэнцам Беласточчыны [2]. У межах адной публікацыі адзначаны як зваротныя, так і незваротныя дзеясловы, апошнія канструкцыі цалкам стасуюцца з сучаснай літаратурнай нормай. Параўн.: *Або даеш* ***навучыцца*** *на памяць які колечы* ***расейскі верш*** *– беда... А дай* ***навучыцца родны верш****, зразу з ахвотай прымуцца [дзеці] і скажуць так, што міла паслухаць... Я часта чытаў сваім вучням газэту, байкі с календара і* ***вучыў беларускіе вершы****... Нам трэба чытаць дзецям і селянам нашы кніжкі,* ***вучыць нашы вершы****...* [1912, № 25, с. 3. М. Арол. З нашага жыцця]. Параўн. у дыялектах: *Ой, ты, бра, і гэто навучылаcа?* (Лутки) [16, 3, с. 117].

Пры абазначэнні прафесіі або спецыяльнасці, набыць якую мае намер асоба, вельмі шырока выкарыстоўваюцца канструкцыі, дзе залежныя назоўнікі маюць форму вінавальнага склону з прыназоўнікам *на*: *18 лістапада амэрыканская дэлегацыя адведала беларускіх кадэтаў, што* ***вучацца на ахвіцэраў*** *у Варшаўскай школе «падхаронжых»* [1920, № 8, с. 2]; ***Выучым*** *цябе* ***на доктара****, або* ***на інжынера*** [1913, № 6, с. 2]; *З тых меншых адзін сын [Гэдаля]* ***вучыўся на шэўца****...* [1907, № 13, с. 7]; ***На вучыцеля*** *буду* ***вучыцца*** [1913, № 3, с. 1]; *У Гродне ... будуць* ***вучыць*** *дзеўчат* ***на бабак і фэльчэрыц*** [1910, № 34, с. 526]; *У Міншчыне нехват школ, гдзе* ***вучылі бы на народных вучыцелёў*** [1908, № 12, с. 6]; *Piermskaje ziemskaje hubernskaje sabrańnie afiaruje poŭ miljona rubloŭ, – kab atkryć uralskuju Palitechniku, dzie* ***wučać na inžynieroŭ*** [1910, № 12, с. 53]; *Бацькі сваіх дзяцей, каторые скончаць тутэйшые школкі, як мага з астатка высылаюць іх* ***вучыцца*** *далей: найбольш* ***на народных вучыцелёў*** [1910, № 28, с. 426. Ядвігін Ш. Лісты з дарогі]. Параўн. таксама словазлучэнне з дзеясловам *ісці* і прыназоўнікам *на*: *...вёсковые дзеўчыны, скончыўшы школу,* ***ідуць на вучыцелек*** [1910, № 10, с. 164]. Я. Карскі адзначаў словазлучэнні з вінавальным склонам і прыназоўнікам *на* [8, с. 426] пры дзеяслове *вучыцца* як сінанімічныя з прыназоўнікам *за* [8, с. 420], сінанімічныя яны і ў сучаснай літаратурнай мове, абодва пазначаюцца як размоўныя [15, 1, с. 516; 15, 1, с. 60]. Аднак у тэкстах газеты спалучэнняў з прыназоўнікам *за* намі не адзначана. Магчы-

ма, тлумачэнне гэтага можна знайсці ў даследаванні Я. Лёсіка. Ён размяжоўваў канструкцыі ў залежнасці ад семантыкі галоўнага дзеяслова: пры дзеяслове *вучыцца* ўжываецца залежны кампанент з прыназоўнікам *на: вучаць там каго на шаўца, а каго на краўца. Вучыцца на доктара, на настаўніка.* Аднак пасля дзеяслова *быць* выкарыстоўваецца прыназоўнік *за: будзе за доктара, за пісара, за настаўніка* [11, с. 220].

У беларускіх гаворках словазлучэнні з прыназоўнікам *на* выкарыстоўваюцца ў паўночна-ўсходніх гаворках: на Магілёўшчыне і ўсходзе Віцебшчыны [7, № 212], параўн.: *Яна ш на вучыцельку вучыцца ў Мінску* (Сцебіракі, Віл.) [14, с. 67]. Спалучэнне дзеяслова *вучыцца* з прыназоўнікам *за* шырока адзначаецца ў паўднёва-заходніх і цэнтральных гаворках [7, № 212], гэта канструкцыя адзначаецца і ў дыялектных слоўніках: *Поехаў год вучыцца за доктора* (в. Хачэнь) [16, 1, с. 184]; *Вучылася за метсястру* (в. Альхоўцы, Ляхавіцкі р-н.) [13, 1, с. 339]. Але, напрыклад, у слоўніку М. Шатэрніка адзначаюцца абедзве канструкцыі, хоць пераважае спалучэнне з прыназоўнікам за: *за булгакцяра вучыцца хлопяц* [18, с. 26.]; *Пятрусёў гадованак недзя вучыцца пайшоў за вучыцяля* [18, с. 40]; *Купіў гармоню, за музыканта вучыцца* [18, с. 43.]; *Вучыцца на настаўніка* [18, с. 172].

Словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі, дзе залежны кампанент абазначае мову навучання, таксама прадстаўлены некалькімі сінанімічнымі канструкцыямі. Спалучэнне дзеяслоў+на+назоўнік у месным склоне са значэннем спосабу дзеяння адпавядае сённяшняй сінтаксічнай норме: *У Польшчы и ў Литве дзеци* ***вучацца*** *ў народных вучылишчах* ***на сваих мовах****...* [1907, № 11, с. 4]; *У некаторых месцох ў народных школах* ***вучацца ўжо на сваёй мове*** [1907, № 11, с. 4]; *Так, нам трэба дамагацца беларускай школы, каб дзетки нашы магли* ***вучыцца на нашай роднай мови****, каб яны ведали, што яны беларусы* [1907, № 13, с. 8]. Аднак колькасна такія спалучэнні не вельмі шматлікія. Больш шырока адзначаюцца словазлучэнні з прыназоўнікам *па* і прыслоўем, утвораным ад назвы мовы: *Вось і ешчэ дзіва: чаму гэта хоць колькі дзесяткаў гадоў* ***вучаць*** *у тысячах школ дзяцей* ***па расейску****, а гэткі малы працэнт гаворучых па расейску?* [А. К-к. 1913, № 13, с. 2]; *...як беларус будзе* ***вучыцца па своему – па беларуску****, як яго мова знойдзе сабе прыпынак у школі, дык нельга будзе дурыць людзям галаву...* [1913, № 11, с. 1]. Такія спалучэнні таксама адпавядаюць сучаснай літаратурнай мове, аднак усе яны адметныя паводле афармлення – прыназоўнік *па* пішацца асобна. Але ў наступным прыкладзе прыслоўе набывае «сучасны» выгляд, але рэалізуе іншыя адносіны – прадмет навучання, выкладання: *Ізноў вучыцелька французскай мовы, Вера Карлоўна, вядома тым, што бадай зусім глухая, дык і ставіць двойкі безмала ўсім вучэніцам, ажно тые* ***кідаюць вучыцца па-французску*** [1910, № 14, с. 226]. Такое ўжыванне можа сведчыць пра двайную семантыку дадзенай канструкцыі, яе шматзначнасць. Такія спалучэнні адзначаюцца і ў сучасных гаворках, але адзначаюцца пры дзеясловах маўлення: *Кужды па-своему гаворыц* (Парэчча Гродз.); *Па-польску аворыць* (Паляцкішкі Воран.) [13, 1, с. 398]; *Старыкі лапочаць папросту* (Відаўцішкі Вілен.) [13, 2, с. 619]; *Цыганка гергечэ по-свойму* (Хотамель) [16, 1, с. 198].

Колькасна ў «Нашай Ніве» пераважаюць канструкцыі дзеяслоў+у+назоўнік у месным склоне, якія адзначаюцца ў нумарах за розныя гады: *школа прынясла ў народ сьвет и навуку, трэба, каб дзеци* ***вучылися не ў чужой, а ў панятнай им, роднай мове*** [1907, № 18, с. 4]; *...рэлигии* ***вучыцца могуць*** *дзеци* ***ў сваей роднай мови****...* [1907, № 28, с. 7]; *Пішуць, што цяперака у пачатковых школах веры дзяцей будуць* ***навучаць у тэй мове****, якою гукаюць бацькі* [1913, № 6, с. 3. І. Жывіца. Пан Шабуневіч]; *Daйhinoйcy-ž chočić, kab tolki* ***wučyli й adnej mowie*** [1910, № 4, с. 69]; *Трэба гэту больку загаіць, а яна загоіцца толькі тады, як стане ён [народ]* ***вучыцца у сваей роднай мове*** [1913, № 13, с. 2. А. К-к.]; *Як відаць, то мусіць і Шчэрбакова* ***абучалі*** *з малку дзён* ***не ў яго роднай мове, а ў нейкай іншай****, што ён зрабіўся такім «патрыатычным»* [1913, № 42, с. 4].

Такія канструкцыі вельмі частыя ў газеце, у якасці галоўнага кампанента адзначаюцца аддзеяслоўныя назоўнікі і нават іншыя дзеясловы: *Да такіх спраў належыць і справа* ***навучаньня*** *дзяцей асноў веры і малітв* ***у іх роднай, матчынай мові*** [1915, № 11, с. 2]; *Гэтые кніжкі малітвеннікі* ***друкаваны ў польскай мове****...* [1912, № 2, с. 4]; *А значыцца павінны будуць вучыць і* ***чытаць і пісаць у роднай мове*** [І. Жывіца. Пан Шабуневіч 1913, № 6, с. 3]; *У Рызі у канцылярыях*

*окружнога суду забаронена гаварiць па латышску, эстонску і літоўску, а такжэ рабіць* ***спраўкі і аб'ясненні ў гэтых мовах*** [1915, № 18, с. 4]; *...бацькі павінны пастарацца, каб у хаці былі* ***кніжкі ў роднай беларускай мове...*** [1911, № 30, с. 379].

Адметна, што часам у адным артыкуле адзначаюцца розныя па будове канструкцыі: *Камісія Гас. Савету нідаўна аткінула права* ***вучыць*** *дзяцей у школах* ***на украінскай і беларускай мовах*** *нават у першым гаду. Праўда, колькі членоў Гас. Савету (мы гэта добра ведаем) стаяць за* ***вучэньне*** *дзяцей у* ***іх роднай мове****, але такіх ёсць мала. ... Рэч ясная, што народ павінен* ***маліцца, дый вучыцца у сваей роднай беларускай мове...*** [1912, № 4, с. 1].

У словазлучэннях са зваротным дзеясловам *вучыцца* пры рэалізацыі значэння сродку навучання, як і ў сучаснай мове, залежны кампанент мае форму меснага склону з прыназоўнікам *па*: *Значыць, толькі малая часць беларусоў (каталікі)* ***вучыцца па лацінскім друку...*** [1912, № 6, с. 2]. Як сінанімічныя адзначаюцца і словаспалучэнні, дзе залежны кампанент далучаецца з дапамогай прыназоўніка *на* і мае форму меснага або вінавальнага склону: *Ну, пачалі нас* ***вучыць на кніжках****, каб карысць нам даць!* [1914, № 28, с. 3. Добранец. Жэртва]; ***На малітвенніку*** *дзеці і* ***чытаць вучацца...*** [1912, № 2, с. 4]. У навуковай літаратуры няма інфармацыі пра такое ўжыванне, не адзначаюцца падобныя спалучэнні і ў гаворках.

Такім чынам, словазлучэнням з дзеясловамі *вучыць/вучыцца* і пад. у тэкстах «Нашай Нівы» ўласцівы наступныя асаблівасці: пры выражэнні аб'ектных адносін ужываецца залежны кампанент у родным склоне без прыназоўніка (*вучыць чарчэньня, пэрспэктывы, анатоміі і гісторыі штукарства; вучыцца кавальства, сьлесарства, сталярства і токарства*), значна саступаюць ім спалучэнні з давальным склонам (*навучацца чужому*), адзінкавыя канструкцыі з месным склонам і прыназоўнікам *аб* (*wučać ab zakonach).* Адметнымі з'яўляюцца беспрыназоўнікавыя канструкцыі з вінавальным склонам, дзе галоўным кампанентам выступае зваротны дзеяслоў (*навучыцца вершы*). Пры абазначэнні прафесіі або спецыяльнасці, набыць якую мае намер асоба, выкарыстоўваюцца толькі канструкцыі з вінавальным склонам і прыназоўнікам *на* (*на вучыцеля буду вучыцца*). Словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі прадстаўлены сінанімічнымі канструкцыямі з прыназоўнікам *на* і залежным кампанентам у месным склоне (*вучацца ўжо на сваёй мове*), дзеясловам з прыслоўем, утвораным ад назвы мовы (*вучаць у тысячах школ дзяцей па расейску*), і дзеясловам з прыназоўнікам *у* і залежным кампанентам у месным склоне (*вучыцца у сваей роднай мове*), дзе апошнія спалучэнні колькасна пераважаюць.

**Літаратура**

1. Арашонкава, Г. У. Кіраванне ў беларускай і рускай мовах. Слоўнік-даведнік / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск: Вышэйш. шк., 1991. – 303 с.

2. Арол М. [Электронны рэсурс] // Электронная энцыкляпэдыя. – Рэжым доступу: http://slounik.org/80804.html. – Дата доступу: 27.07.2015.

3. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – Ч. 2: Сінтаксіс. Пунктуацыя. – 431 с.

4. Важнік, С. А. Аб так званых «сінтаксічных паланізмах» у «Мужыцкай праўдзе» і «Пісьмах з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага / С. А. Важнік // Паланістыка 2012 / пад рэд. А. Кіклевіча, С. Важніка. – Мінск: Медысонт, 2013. – С. 337–349.

5. Важнік, С. А. Нацыянальная сінтаксічная ідыяматыка: ад унутрымоўнай спецыфікі да міжмоўных адрозненняў / С. А. Важнік // Веснік БДУ. – Сер. 4. – 2011. – № 1. – С. 31–36.

6. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / рэд. К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1962. – Т. 2: Сінтаксіс. – 756 с.

7. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963.

8. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский; коммент. В. Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 2, кн. 2: язык белорусского народа. – 512 с.

9. Киклевич, А. К. Польский язык. Практический курс / А. К. Киклевич, А. А. Кожинова. – Минск: ТетраСистемс, 2000. – 320 с.

10. Лёсік, Я. Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы / Я. Лёсік // Я. Лёсік. 1921–1930: зб. тв. / уклад., прадм. і камент. А. Жынкіна. – Мінск: НАРБ: Выд. Логвінаў, 2003. – С. 113–156.

11. Лёсік, Я. Сынтакс беларускае мовы / Я. Лёсік. – 2-е выд., перароб. – Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1926. – 255 с.

12. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларуская навука, 2005. – 303 с.

13. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.

14. Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / уклад. Е. С. Мяцельская [і інш.]; пад рэд. Е. С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1: А–П. – 287 с.

15. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т., 6 кн. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977–1984.

16. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987.

17. Чудовіч, В. Фармальны сынтакс / В. Чудовіч, С. Дружылоўская. – Менск: Бел. дзярж. выд-ва, 1930. – 152 с.

18. Шатэрнік, М. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны / М. Шатэрнік. – Менск, 1929. – Факсімільнае выданне: Мінск, 2011. – 317 с.

# ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

## *ГАВОРКІ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Ф. Д. Клімчук*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ СІМАНАВІЧЫ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Д. Ф. Клімчук, 1907–1988 гг.****; запіс зроблены ў 1986 г.*

### Спо́мынкы про біжынці

Почала́сь Мыкола́ёвська война́. Вла́сті ста́лы заставляя́ты, шоб втыка́лы од ні́мця, коб выйішчя́лы в біжынці, войско́вы вла́сті заставля́лы. Шчыта́лы, шо кро́хы одйідымо і вэ́рнымось. Ляка́лы, шо ні́мці збытку́ють. Скоты́ну с собо́ю побра́лы, багажу́, скы́лько мо́жна. Шо на выз мо́жна було́ положы́ты, то́е і взялы́, са́мэ ныобході́мэ. Са́мы йшлы. Я мо́жэ пудйі́шчя́в кро́хы, бо був малы́й, а так са́мы йшлы. Шэ коне́вы (конэ́вы) й помага́лы кро́хы. Пудво́дамы дойі́халы до Лу́нінца. А там вжэ всэ оста́вылы – скоты́ну, коня́, во́за. Погрузы́лысь на по́йізд і пойі́халы в глуб Росі́йі. Гэ́так отправляя́лысь. Выйішчя́лы в пятна́цьцятым ро́цы. Прыйі́халы в Калу́жыську губе́рню. Ста́нцыя Сухі́нічы Жы́здрынського уе́зда Калу́жыськыйі губе́рні. В біжынцях пробулы́ шты́ры ро́кы. Ме́сто жы́тільства мыня́лы. В Калу́жыськуй губе́рні пробулы́ повтора́ ро́ку. С Калу́жыськыйі пырыйі́халы в Тамбо́вську (Танбо́вську) губе́рню. Рык булы́ в Тамбо́вськуй (Танбо́вськуй) губе́рні – Лі́пецкый уе́зд, ста́нцыя Гря́зі. С Тамбо́вськыйі (Танбо́вськыйі) губе́рні пырыйі́халы в Воро́ніжыську, там булы́ повтора́ ро́ку. Булы́ в Бобро́вськым уе́зды, пото́м в Валу́йськым. А стыль ста́лы добыра́тысь знов на ба́тьковшчыну. В сімна́цьцятым ро́цы нас заста́ла рыволю́цыя. В Воро́ніжыськуй губе́рні, помыта́ю, там ба́тюшку заколо́лы, ба́тько ходы́в глядíты. Война́ була́ з дінíкінцямы. Мы разы́в кы́лька пырыхо́длы з рук в ру́кы. З на́шыйі терыто́рыйі тоды́ ні́мці отступы́лы, а захваты́ла По́льшча. Йі́халы наза́д на Бі́лу Цэ́ркву, на Кы́ёв, пото́м на Са́рны, пото́м на Холм, пото́м на Брэсть (Бэ́рэсть). На Лу́нінец тоды́ пойізда́ ны ходы́лы. Дэ́которы шало́намы добыра́лысь, а мы йі́халы на свый рыск. Дэ́кылько сіме́йств йдэм до начя́льніка ста́нцыйі, са́дыть нас на по́йізд і йі́дымо, по́кыль по́йізд ідэ́. Пото́м знов гэ́так, на дру́гый по́йізд садымо́сь. А граны́цю пырыйі́шчя́лы дэсь пырыд Са́рнамы. То ве́шчы пырыно́сылы на плэ́чух. Була́ така́я бы я́ма, бы лужо́к такы́й, алэ сухы́й. На оды́н бык булы́ ру́скы войска́, большовыкы́, а на дру́гый – поля́кы. І в туй *корытыны* мы хава́лысь, бо то ж стрыльба́ була́, і вночі. Прыйі́халы, зыйшлы́ в *Нагы́рйі*, на ста́нцыйі. Ве́шчы там оста́вылы, пото́м йі́здылы по йіх. Йшлы з *Нагы́р'я* пышко́м, сюдо́ю на *Былы́нь* йшлы. Прыйі́халы. Ны було́ нычо́го – ны хлі́ба, ны скоты́ны. По́мошчы од госуда́рства ныя́кыйі. Ба́тько ходы́в за скоты́ною в ход. Шэ гро́шы ходы́лы мыкола́ёвськы. Купы́в коро́ву в *Ла́хвы*. А в *Псы́шчовы* позна́лы ту́ю коро́ву. І кы́лько сказа́в, ты́лько далы́ ёму́. Тоды́, як йі́халы в біжынці, то там, в Лу́нінцы, в *Ла́хвы*, кы́далы скоты́ну. За коня́ з во́зом ба́тько тры рублі́ взяв; а шэ войны́ ны було́, то за коня́ того́ одда́в сто дэ́сэть рублі́в. Прода́в ба́тько в *Псы́шчовы* ту́ю коро́ву, прышо́в додо́му, оддыхну́в с ты́ждэнь. Пото́м знов пошо́в. То купы́в дьві коро́вы, прыві́в. Мы ты́йі коровы́ нагучы́лы гора́ты. Ма́ты, *Встымня, Олэ́ня* ходы́лы туды́. Там пря́лы, старцёва́лы там. Пышко́м ходы́лы. Ты́йі лю́дэ ны выйі́шчя́лы в біжынці, то там всэ оста́лось. Ня́кось по́йізд ходы́в, то прыйі́шчя́лы чя́сом. *Олэ́ня* роска́зувала, шо в *Рублі́* ходы́ла. Там була́ хоро́ша скоты́на, то прыво́дылы. Раз і *Олэ́ня* ходы́ла, то прывыла́ тылу́шку. Як булы́ в Росе́йі, то заробы́лы кро́хы. Пры По́льшчы гэ́ты гро́шы, мыкола́ёвськы, шэ до́вго ходы́лы, былльш як рык. Ба́тько пото́м знов прода́в, знов пошо́в, разы́в шты́ры ходы́в. Тут платы́лась скоты́на. По́сля ста́лы тут фігурі́роваты до́лары, а вжэ пото́м, то зло́ты.

То вырну́лысь в дывытна́цьцятому ро́цы на Покро́ву. А выйішчя́лы дэсь лі́том. І шэ двацьця́тый і два́ццэть пэ́ршый рык быдова́лы быз хлі́ба. А вжэ в два́ццэть дру́гым ро́цы напыклы́ сврго́ хлі́ба. А так прышло́сь попрэ́буваты і вэ́росу, і сы́тняку, і лыбыды́, і бо́йкы с плы́сняку йі́лы, і жолы́дде, і прокыву́. За одным гэ́тым ны вы́був бы. Бо кро́хы доставля́лы стыль, з *Ла́хвы* – то хлі́ба, то карто́плюв, то сухарі́в, то мукы́. Бабы́ булы́ шэ здоро́вы, то прывызу́ть шо. Ма́ты раз ходы́ла в По́льшчу, дэсь за Бу́гом. Бо поля́кы ны выйішчя́лы.

Ляка́лы, шо ні́мэць збыткýе. А хто оста́вся, той був. Ма́ло хто остава́вся в нас, алэ остава́лысь. Бо шоб було́ ца́рскэ праві́тільство, то мо́жэ шо воро́чалы б. А то вжэ була́ дру́га власть, По́льшча.

Бы́льшу чясть поостава́лысь жы́вы. Там сусі́дэ булы́ ныдале́ко, Пры́сіны, помырлы́ з го́лоду. А в тым конці́ Чабае́ва ма́ты вмырла́. Алэ ма́ло помырло́. Сымня́ вылі́ка, ныку́ды ны пойі́халы, помырлы́.

Пошлы́ на́шы бабы́ в ход. Оста́лысь оно́ я з ба́тьком і *Га́нна*. Га́нна мала́я була́. Пошо́в ба́тько до *Шмы́лка*. То за сто рублі́в пуд жы́та купы́в. І шэ *Шмы́лко* прыказа́в, шоб ныко́му ны каза́в, шо прода́в, бо ны було́ жы́та. То́е жы́то моло́лы в жорна́х с потыру́хыю, той пу́дык. Пыклы́ коржі́ да йі́лы. Да так по́кы бабы́ прышлы́. Всэ зва́лы – в ход пошлы́. Мо́жэ опочы́в с ты́ждэнь і знов пошо́в.

А гро́шы – шо гро́шы, гро́шэй ны пойісы́. Я ны ві́ду, як тых гро́шэй тоды́ і збыра́лы. За коро́ву трэ́ба платы́ты рублі́в сімсо́т-восімсо́т. В Росі́йі був і ба́тько на робо́ты, була́ й *Олэ́ня* на робо́ты.

А тут у нас, як мы булы́ в бі́жынцях, то большовыкы́, то наступа́лы, то знов отступа́лы. А по́сля вжэ до По́льшчы одыйшла́ на́ше тэрыто́рія.

***Расказвае А. А. Клімчук, 1912–1989 гг.****; запіс зроблены ў 1986 г.*

**Спо́мынок ма́тыра**

Як прыйі́халы з Росе́йі, йі́лы сы́тняк, бо́йкы; з рызаку́ котяшкы́ – то вжэ до́брэ, на муку́ моло́лы. Рокы́в кы́лька ны булы́, то позаро́сталы всі поля́, лугы́, сы́тняком позаро́стало. Са́мо наймэ́нч булы́ тры ро́кы, а найбы́льш – шысьць булы́. *Любын* ба́тько, *Корзы́*, булы́ шысьць рик. Мынэ́ вызлы́ в тры ро́кы, а наза́д – було́ се́мый рик. Будкы́ робы́лы над во́зом, дэ́якое радно́ обтя́гнэ. Була́ шэ ті́тка Ма́рта, ті́тка Юхы́мня була́ й ма́ты моя́, Хвыдо́ра. Ба́ба по ста́рцях ходы́ла. Ходы́лы в Ла́хву чы куды́ і жывы́лы тых, хто ынтрудоспосо́бны. Ма́ты моя́ пошла́ до ба́тюшкы служы́ты в *Быздіж*. На однэ́ лі́то й мынэ́ бра́ла. То гоны́лы на рі́чку па́сты качкы́, свы́ны гоны́лы па́сты.

Ма́ло остава́лось тут в Сы́моновыч, выйішчя́лы в Росе́ю. Шо с собо́ю забыра́лы, шо зако́пувалы в ямы́. В бабэ́й жэ було́ поло́тен, то зако́пувалы (в сундука́х). Ма́тырыного судука́ сусі́д вы́копав. Вин остава́вся, ны выйішчя́в. То як вырну́лысь мы з Росе́йі, то всэодда́в. Прыйі́халы, була́ го́сэнь тэ́пла, то на́шы бабы́ набра́лы козлякы́в. Дэ́хто шчыта́в, шо ты́йі, шо прыйі́халы, вырну́лысь з Ро́се́йі, то ны *очэ́плеецьця*, шо з го́лоду помыра́ють. А воны́ то зэ́мню зылызняка́мы копа́лы, то в ход пошлы́ дэсь у Ла́хву, то сяк, то гэ́так, по́кы розжылы́сь. За рик, за два лю́дэ очыпы́лысь.

А я то збыра́ла по горо́ду биб, дэ биб сі́ялы, дэ бобы́ну найду́. Навары́ла ко́лысь ба́ба *товчэ́ні* с такы́х дрыбну́сінькых карто́плюв, шо на по́лы да в горо́ды назбыра́лы. То кажу́: ба́бо, навары́ шэ за́втра, такы́йі сма́чны.

І Лосы́нці выйішчя́лы.

Ба́ба (свёкрі́в) роска́зувала, шо вона́ ходы́ла в *Лысныка́х* по ста́рцюх. То одна́ знако́ма дала́ пойі́сты.

Мы булы́ в Танбо́вы в бі́жынцях. Я була́ з ба́быю. А дьві ті́ткы в мынэ́ було́, ба́тьковы се́стры. Ма́ты пошла́ за *Ля́ша*, як прыйі́халы з Росе́йі. Гэ́то дру́гый за́муж. Ляш – Ко́рзын. *Корзы́* булы́ в бі́жынцях аж шысьць рик, дэсь в Сама́ры булы́. *Чырні́ёвці*, ма́тырын брат, булы́ дэсь в Сара́товы. Тё́ткы ходы́лы в зарі́бкы.

***Расказвае Ф. Ц. Пігас, 1888–1969 г.**; запіс зроблены ў 1986 г.*

### Спóмынок бáбы

Як попрыйішчя́лы лю́дэ з біжынцюв, з Росе́й, пóсля Мыколáёвськыйі войны́, то нымавісты як забыдовáлы. Пу́хлы з гóлоду, а кы́лька вмырлó. Бáло, як удáсьця прыобры́ты якы́й пу́дык жы́та чы кóшычок картóплюв, то онó коб на затірку чы на крышаны́ булó дэ́колы звары́ты. Вэ́рос йілы, з вэ́росу коржí пыклы́, вары́лы да йілы лыбыду́, прокы́ву, чорноголóв по пóплавы збырáлы, корінне с плы́сняку йілы. Чя́сом хто чогó, шо й ны трэ́ба, найісьця, то пóсля на жыви́т поку́тує. А вжэ я́годы, козлякы́, горіхы – то булы́ нымавісты якы́йі смакы́.

Пóсля я пошлá до бáтюшкы служы́ты. Ны хотів вин мынэ́ брáты, шо з дыты́ною, алэ лятóго взяв. Мий чоловíк з Гамэ́рыкы ны вырну́вся. Ня́кось остэ́рбалы помалéньку. Дівчына пудрослá да стáла коровы́ пáсвыты, займанкы́ займáла. Знов понажывáлы лю́дэ всёгó.

### Спóрово

В дюдэ́й жэ ж зымні ж мáло булó. Му́сылы дэсь косы́ты, в паны́в, в Спóров йіздылы. Там обы́чно загатовля́лы сіно. Клáлы в стогы́. Пан оцыня́в ёгó, а зымóю, як вывóзылы, – платы́лы. Ны сам пан, а управля́юшчый. В Спóровы булá графіня, помéшчыца; то вонá в Варшя́вы булá, а тут управля́юшчый. Зымóю йідэш, выплáчуйіш у контóры і забырáйіш сіно. Там жэ в ёгó булó шыснáццэть ты́сяч гыктáрув. Там вся околы́шность косы́ла. Косы́лы сéла: Сы́моновычы, Вы́лька Сы́моновська, Окріпнэ, Сукачí, Марковы́чы, Пырэ́спа, Осовля́нэ, Чырніёвычы, там і зарíчанэ – з Пузíв, з Высóкого, там Хомськ, Залыéнне, Жя́бэр, Гóшов, Ду́бровкы, Крамнó, Біла, Быздíж, там і Мóтоль, Опы́ль, Ля́довы́чы, Опырóво, Лёвковычы; Лосы́нці вжэ мáло йіздылы в Спóров. А в Мóтолі, в Опóлі булó крóхы свогó болóта, в тых болотáх булó сынокóсу. Був спорывськый пан, а там шэ був пісковського пáна. То гэ́та сторонá тут ны робы́ла сіно. Там був в Опóлі пан. В ёгó булы́ сажолкы́, ры́бу розвóдыв той пан. А тут гэ́ты паны́ бідні́шы булы́, то в йіх на чясть косы́лы сіно. Мужыкы́, як сынокóс, то на трэ́тю, на чытьвёрту чясть косы́лы, на п'я́ту, а дэ по болотáх то наполовы́ну косы́лы. В Спóровы – за грóшы косы́лы. За пуд трэ́ба тры́ццэть вы́сім грóшэй заплаты́ты. Шэ ныгдэ́ козьбы́ нымá, а в Спóров вжэ йідуть. Там пылновáлы вжэ сіно, булы́ пудря́дчыкы. Тріййця прыхóдыть і всі, як оды́н, здвыгáють в Спóров. Там накосы́в, зложы́в і стойіть вонó. Сынокóсу – рідкэ хозя́йство булó, шоб був свый сынокóс, шоб хватáло. Лосы́нці за канáл йіздылы. Нішо й нáшы сы́моновці йіздылы за канáл, алэ мóжэ з рык. Покы́нулы. Далёко возы́ты булó. А в Спóров – пóкы вжэ совéцка власть прышлá. Болóто ды́кэ, трáвы всякы булы́. Дэ́хто по ныділь дьві сыды́ть в тому́ болóты. Бырэ́ харчí, кóсу, граблí. На ныділь дьві одрáзу забырáлысь йіхаты. Выхóдыть с тогó болóта табы́ с тюрмы́. Там кумарня́ такáя, а гы́нчэ літо говады́. Вын (гóвад) жэ, як удáрыть, то одрáзу проб'é шку́ру. На гóстровы робы́лы бу́дку. І жывэ́ш там, кóсыш, пóсля грыбэ́ш, у стожóк кладэ́ш. Дэ́хто на моложя́й йіздылы косы́ты, вжэ дышóвшый вын. Вышя́р тóжэ йіздылы косы́ты. Хто богáтчый, то на вышя́р йідэ, пудстылáты, на пудстéл (пудстіл) вышя́р. А пэ́ршый раз, то всі йідуть. Там трэ́ба компáнія. Оды́н одному́ помагáють. Дэсь оды́н раз лёвковці нáшэ зáймыско скосы́лы. Вжэ брашовці, завылівці йіздылы за канáл. А в олыксіёвцюв булó свогó болóта крóхы. Торокáнці мáло йіздылы, бо в йіх свый сынокóс. А саловці за Дорогы́чэнь йіздылы. В Спóровы, то кы́рыз гóзыро й болотá. За канáлом далёковáто і там сіно горішэ. А так кóло кáжного сылá ня́кэ болы́тцэ е. А вжэ як двыр (імéніе), то сіна мужыкы́ вкóшували. Пóкы ны замэ́рзнэ, то ны забырáлы сіна (в Спóровы), бо ны дойідэш. А замэ́рзнэ, то йіхалы. Выйіжджя́лы в дванáццэть часóв (нóчы). Опря́татысь трэ́ба шо найтыплій. Обувáлы постолы́, окру́чувалы солóму, вóвну. Кожу́х, на кожу́ха бу́рка з башлыкóм. Шя́пка з гушы́ма – ны булó тоды́, а булá шя́пка з бáраныці, да башлы́к. В дванáццэть часóв вы́йідыш, то шэ до дня зайідыш, до дворá, шэ пóночы. Шэ і сіно вы́платыш, і кóны опочы́нуть. А жывэ́, шо до дня сіна накладэ́ш. Кіломэ́трув тры́ццэть до сіна. Чырыз гóзыро йіхалы по лёдовы. А вжэ вэ́рнысься,

то вжэ ввэ́чыры. Як со́нцэ за го́зыром, то ста́нэ змырка́ты, і прыйі́дыш, а як пуд Мы́трычамы, то якра́з су́ткы вы́будыш, по́кы прыйі́дэш. Шо там наро́ду, шо там пудво́дэй гы́нчый раз здвы́гнэ. Ко́ны до́бры булы́ то ты́снуцьця бы сумашэ́дшы. Гы́нчый раз, то всэ го́зыро на кіло́мытрув тры одна́ за однэ́ю пудво́ды.

Як на чясть косы́лы, то на трэ́тю копы́цю – дьві па́новы, одна́ собі́, на чытьве́рту копы́цю – тры па́новы, одна́ собі́, на половы́ну – одна́ па́новы, одна́ собі́, на п'я́ту – дьві собі́, а тры па́новы.

### Смола́ і пэ́кло

Ко́лысь, як ста́лы смолу́ з лі́са тягну́ты, то оды́н чолові́к пыта́е:

– Шо воны́ с смолы́ гэ́тыйі робы́тымуть?

А дру́гый ка́жэ:

– Пэ́кло робы́тымуть. А шо ж воны́ с смолы́ робы́тымуть. Повызу́ть смолу́ на той світ, в пэ́кло. Там смола́ трэ́ба. В смолі́ грі́шныкы кыпі́тымуть.

### Як сыло́ на́шэ палы́лы

В нас спалы́лы ты́лько сыло́, хутырі́ оста́лысь. На хутыря́х спалы́лы оно́ Бо́руха, Сачавы́цю й Власюка́ – гэ́то Ко́жух за то́е, шо по мо́рды бы́лы. Вын був пры По́льшчы со́лтусом. Ёго́ Кузе́нько зловы́в в Дорогы́чыні і прывылы́ сюды́. Кузе́нько прыві́в, то ны чыпы́в, бо був вооружо́ный. Вын пырыд Кузе́ньком на колі́на становы́вся на доро́зы, коб ны стрыля́в. Оста́лысь в сылі́, ны згорі́лы Молодэ́нького, Сылывэ́строва, Балычо́ва і Лы́сыкова хаты́. За то́е, шо ны втыка́в од ні́мця, Молодэ́нькому зу́бы повыбыва́лы партіза́нэ. А в Вылыя́на Паліёвого стрыля́лы, то дьві пу́лі пройшло́ кы́рыз гру́ды, то шэ мо́жэ й допі́ро жывэ́, вын на Куба́нь вы́йіхав. По Вылыя́новы полосну́в з автома́та. З йі́мы (ні́мцямы) була́ полі́цыя нымэ́цька і дэ́якыйі прыслу́жныкы нымэ́цькы. Спалы́лы, забра́лы скоты́ну, яка́я була́. Алэ́ тут тако́е ді́ло. Днем пырыд тым була́ в Дорогы́чыні Га́нна Хомыно́го. Да там пуба́чыв йійі Ва́ся Сла́вчын, якы́й був в полі́цыйі. Поклы́кав йійі да ка́жэ: За́йдыш додо́му, то скажы́ лю́дюм, шо палы́тымуть на́шэ сыло́. То вона́ сказа́ла лю́дюм. То лю́дэ прыгото́вылысь. Пошлы́ в ліс. А пырыд гэ́тым мно́го хто скоты́ну позаганя́лы в надё́жнэ мі́сьце. То ны всю скоты́ну забра́лы.

Ны втыка́лы: Сылывэ́стэр – слыпы́й був, Молодэ́нькый – так собі́ ны втыка́в, Балы́ч був з двух сторо́н обіспе́чанный – шваґрі́ в полі́цыйі булы́, а брат і ба́тько в партіза́нах. А до Лы́сыка зогна́лы тых, кого́ захваты́лы – Сылывэ́стра, Балычя́...

Йі́халы з Дорогы́чыня на Вы́льку, а з Вы́лькы на Сы́моновычы. В Дорогы́чыні гарнізо́н стоя́в. По́сля окружы́лы сыло́. Калэ́ныкова ха́та бля́хыю кры́та була́, ны бра́лась. Прыныслы́ бырэ́мне соло́мы, сёромно́ ны загорі́лась, то бінзі́ном облылы́.

А Ко́жуха бы́лы, то пудхо́дылы до ёго́, бы́лы. Ста́роста був, да дэ ж ба́чылы, шоб нача́льнік був до́брый. Кро́хы то шэ вын загорды́вся. Допі́ро й на Горбачо́ва плыту́ть нымаві́дь шчо. А вын жэ чолові́к до́брый. Ко́жух пры ні́мцях був вжэ бургомі́стр. Тут вын проявы́в вжэ кро́хы жысто́кость, вжэ ны по-чылове́чыскы.

В Сы́моновыч була́ вжэ тут во́лость. Сы́моновці в ні́мцюв засу́джаны булы́ спалы́ты, а людэ́й ны бы́ты. А в Хо́мську засу́джаны булы́ всі бы́ты. То кото́ры бідні́шы, то повтыка́лы в болота́, а хто бога́тчы, то – мы ны вынова́ты, оста́лысь, то побы́лы сёромно́ всіх. А в Сы́моновыч Чырвы́вого росстрыля́лы (ні́мці). Втік у жы́то да встав, го́лову пуба́чылы, выглядáв з жы́та, то застрэ́лылы. Нашлы́ мэ́ртвого.

Мойі́ ба́тько й ма́ты то́жэ схава́лысь в жы́товы. Коровы́ вы́пустылы, во́за вы́вызлы з латошя́мы. На́шы, як сыді́лы в жы́ты, то, роска́зувалы, прыбі́г до йі́х соба́ка. Ду́мають, ну всэ, прыбі́г соба́ка, шука́е йі́х. А той соба́ка сам втыка́в. Гэ́так зо мно́ю раз було́. Був я в жы́товы, чу́ю, шылёхты́ть (шылёсты́ть) в жы́товы; аж тут вы́лёз йі́ж.

Тыпэ́р воны́ геро́йі, йім чэсть і сла́ва. А всэ на мі́рному населе́нію. Помыта́ю, організо́вувалы стовпы́ тіліграфны зрі́зувты. А са́мы оно́ хава́лысь од ні́мця. Як зганя́в ні́мэць дэ у обо́ру ты́сячы людэ́й, хай бы воны́ тоды́. Як ні́мці поки́дaлы постыру́нкы? У полі́цыю німе́цку набыра́лы. Там воны́, партіза́нэ, на́йдуть кого-нэ́будь, зговоре́цьця – колы́ я бу́ду на посту́. Поздава́лы свойі́ постыру́нкы. У Закозэ́ллі у бра́гу повкыда́лы. Пе́тя і Хома́ – с Хо́мська булы́ партіза́нэ, воны́ то́жэ поде́йствовалы гэ́тому. В полі́цыю ні́мці назнача́лы, а булы́ таки́йі, шо са́мы пырлы́сь. Кро́хы богатова́ты ны любы́лы сове́цкыйі вла́сті. Мобілізова́лы в полі́цыю бідні́шых, бо бога́ччый отку́пыцьця. Коло́шва утік, то побы́лы Колошо́в ні́мці – Рома́на, Ля́ша, хло́пця Ля́шового.

## Майі́вка

Здурі́в соба́ка Фрэ́ньков, сусі́да. А на́ша Люба зайшла́ да ста́ла ла́шчыты того́ соба́ку: А мый Свэ́рдлычок, а мый Свэ́рдлычок. Воны́ зва́лы Свэ́рдёл того́ соба́ку. Гла́дыть ёго́, ла́шчыть. Вона́ ёго́ ла́шчыть, а вын йийі́ хап за ру́ку, вкусы́в за мызы́нця. Одра́зу роспу́х па́лэць – посаджя́в зу́бы соба́ка. То вона́ на вко́лы попоходы́ла в Дорогы́чэнь. А шэ далы́ юй майі́вку ззі́сты. Коб вона́ ны ві́дала дава́лы. Дырж́ялы в горі́лцы куза́ку таку́ю, майі́вку. Раз ввэ́чыры, вжэ пры́поноч було́, ма́ты ка́жэ: Шэ в мынэ́, дыткы́, мэ́ду кро́хы оста́лось, нама́жу вам по скы́боццы хлі́ба да ззі́жтэ. І дала́ по скы́боццы хлі́ба, пома́заного мэ́дом: Лю́бы, мыні́, Го́льцы, Ва́сі. А ту́ю лу́сту, шо Лю́бы дала́, в мэд ростэ́рла майі́вку. І ззі́лы мы той мэд. Ка́жуть, шо як дурны́й соба́ка вку́сыть, то трэ́ба майі́вку да́ты.

## Козлякы́

Ко́лысь в козлякы́ трэ́ба було́ йты вдо́свыта, шэ по́ночы. Зайшлы́ в ліс. До лі́са було́ дале̑ко. Мы булы́ пообу́ваты. А одна́ ба́ба, Пола́я Ю́шова чы Шышуко́ва, була́ бо́са. Вжэ було́ холодно́ бі́лый моро́з, а вона́ бо́са. С хло́пцем вона́ була́. Зайшлы́ в ліс, то розыйшлы́сь – ты́йі собі́, а ты́йі собі́. Козлякы́ – то по одному́ хо́деть, коб одна́ пырыд дру́гыю ны хвата́лы.

Всяк ходы́лы. В ліс трэ́ба постолы́, чы в грыбы́, чы в я́годы. До лі́са дохо́деть і обува́юцьця. Дэ́хто ра́но пры́дэ, дале̑ко за́йдуть, то козлякы́ позбыва́ють оно́, бо ныв́ыдно́.

Ко́лысь мы збыра́лысь ра́но в грыбы́ пойты́. Дывчя́та: Дава́й в соло́мы ночова́ты і пы́йдым рані́й. В кото́рыйі, шо блы́жэй до лі́са. Ну й лыжымо́ вжэ, спымо́ в туй копы́ці, в соло́мы, в Омыля́на Барано́вого. Чу́йімо, йдуть вжэ старі́шы. Ну, дава́й і мы ході́мо с старі́шымы, бо самы́м стра́шно. Повыла́зылы с тэ́йі соло́мы. Пудхо́дылы Наста́ся Пытро́вського с свойі́м Пытру́сем і Жбі́та з Мыха́лочком, мужыкы́ з жонка́мы. Жбі́та була́ з Нымэ́ржы, то йимэ́нне йийі́ тако́е. Служы́ла тут у Пытро́вського і за́муж тут узялы́. Наста́ся вжэ посва́тала свою́ служя́нку. Шэ брат прысла́в дола́рув якы́х двацьцэть.

Ну, пошлы́ мы. Мыха́лко той в бі́луй свы́тцы був. Пудхо́дымо блы́сько до мо́лыць і (Мыха́лко) круну́в убы́к до мо́лыць. А мы ба́чымо, шо вын пошо́в туды́. Колы́ вжэ ра́ка выла́зыть з мо́лыць, вжэ ляка́е. Ну, гэ́того ма́ло. Зайшлы́ в ліс, шэ по́ночы. Ді́вчын скы́лько, ты́йі бабы́ з на́мы, смыю́цьця – ха-ха-ха, шо гэ́так вын выробля́е. Знов той Мыха́лочко одде́льно пошо́в, вжэ ляка́е бы то вын вовк. Папыро́са в зу́бы і знов ра́ка лі́зэ, бы то вжэ вовк гочы́ма сві́тыть. Пото́м шо. Роспалы́лы огонь. Розві́дняло. Мы вжэ за йі́мы ны пошлы́. Мы зна́лы грыбовы́йі мі́сьця́. Воны́ обыйшлы́ ввэсь ліс, а мы булы́ пры крайі́. То мы набра́лы былш грыбы́в за йі́х. Мы оно́ до йі́х прычыпы́лысь, коб по́кы по́ночы. То от тобі́ воны́ нас і ляка́лы, і всэ. Той Мыха́лочко стары́й, алэ дурны́й – трэ́ба нас поляка́ты, ді́ты ляка́ты трэ́ба.

А ді́вчыною, то с сусі́дськымы хло́пцямы ходы́ла, з дывчя́тьмы. Пошла́ за́муж, то вжэ сама́ ходы́ла, зна́ла всі вы́ходы. До Лосы́нського (лі́са) було́ кіло́мытрув шты́ры. Вжэ вэ́льмы ра́но ны йшла. А наза́д ужэ́ йду, то там Даны́ло (мужы́к) ко́ло лі́са судо́сыть. Одного́ ро́ку насушы́лы мышо́к шэ й то́рбу кы́нську. Кілогра́м бі́лых насушы́ла, пра́са за йі́х купы́ла.

## Як ко́лысь кынь поносы́в

Трэ́ба було́ завызты́ ма́тыры порося́. Було́ лі́том. Даны́ло вы́правыв мынэ́, а сам пошо́в до сі́на, грыбсты́. А я коб завызла́ порося́ і коб прыйі́хала до ёго́. Коб прыйі́хала, то вын шэ накладэ́ сі́на, прывызэ́ сі́на шчэ. Да шэ взяла́ хло́пця с собо́ю, шты́ры ро́кы було́ хло́пцёвы (хло́пэць – аўтар гэтых радкоў). Повызла́ то́е порося́. Ко́нык малы́й, мызэ́рный. Бо робы́лы ха́ту. Продалы́ кобы́лу хоро́шу, а купы́в дышо́вынького. Моло́дынькый був ко́нык. Йі́халы в той бык, йі́халы, то такы́й высёлый був, так біг, так біг. Пудйішчя́лы блы́сько ма́тыра. Нюрка (сусі́дка ма́тырына) вы́йшла, ка́жэ: Ны бойі́сься ты йі́хаты конём. А я кажу́: шоб я боя́лась, гэ́тым соба́кыю да шэ боя́лась йі́хаты. А робы́лы ха́ту с п'ять па́льцюв, по́мочы ныя́кыйі ны було́. То коро́ву прода́в, вы́годовалы, то кобы́лу продалы́, то мызэ́рного коня́ купы́в. Так ужэ́ збыжы́ть кро́хы, кро́хы оста́ныцьця. Зайі́хала до ма́тыра. Ма́ты: ох Бо́жы мый, ді́тятко, чым гэ́то ты прыйі́хала – шо мызэ́рный кынь по́сля хоро́шыйі кобы́лы. Я ныц, смыю́сь, шо хоро́шый, ны мызэ́рный, як ужэ́ прыхо́дыцьця. Я ёго́, ны роспрага́ючы, порося́ оддала́ да й наза́д. По́кы далёко була́ до́ма, ныц, вро́ді біг норма́льно. А як поба́чыв, шо блы́сько до́ма, то як ужэ́ ко́пынэ кырэз ногу по ку́пы, быз доро́гы. Хло́пэць впыро́д мэ́нэ сыды́ть. А я вжэ дыржу́ того́ коня́, коб як-ныбу́дь ёго́ прыдэ́ржаты. Ня́кось ужэ́ прыпэ́ндывсь на двыр. Ужэ́ ма́ты (свёкрів) вы́бытла: «ко́ська, ко́ська» до ёго́. А той ко́ська – стоя́ла стылюга – покоты́лась, стоя́в цэ́бэр – то́жэ гэть. Я ёго́ вжэ в корчі круну́ла. Вы́тявся в гольшы́ну голобля́мы і став ля то́го. Я вжэ ёго́ роспрагла́, спу́тала, вжэ вдвох з ма́тырыю. А сама́ – в Мысыня́тыну, до сі́на. Даны́ло: чому́ ты ны прыйі́хала? Я кажу́: коб ты пуба́чыв, як я йі́хала. Вын прышо́в, забра́в коня́, шэ де́дько Ныкы́пор помага́в тоды́ грыбсты́. Накла́в сі́на, прыві́з. Кырыз якы́й ты́ждэнь ярма́рок в Дорогы́чыні. Даны́ло з ба́тьком (свёкром) йі́дэ в Дорогы́чэнь. Зайі́халы на Былы́нь, почу́лы, шо ярма́рка ны бу́дэ, вырну́лысь додо́му. Той кынь гэ́так і Даны́ловы зробы́в. Ба́тько зліз, напрошкы́ йшов, тут од Омыля́на. Кынь круну́в, як пошо́в, як пошо́в. Я вжэ ба́чу, пэ́ндыцьця. Мына́е дорі́жку, шо зворочя́ты. То вжэ ёго́ на по́лэ, по по́лю вжэ ны побыжы́ть. І дэсь пэ́ршый ярма́рок був, то прода́в того́ коня́.

## Як на нучлі́ ко́ны воды́лы

Збыра́лысь в однэ́ мі́сьце. Як ко́нчыцьця робо́та, як стымні́е, і вылы́ ко́ны на ночну́ю па́шу. На опрыділённы уча́сткы. Всі лажы́лысь спа́ты, а двох оставля́лы діжу́рыты. Ка́жон вэ́чор воды́лы в дру́гэ мі́сьце. На Сырэ́дне, в Малашо́вэ, на Залі́ссе, у По́лонь, на Бырызыны́. Наш куто́к був, дэ гэ́той груд, Скабарі́ колы́шны, і Поясы́, Рыпыхы́. Чолові́к пятна́ццэть-два́ццэть. А там в тым конці́ ты́йі одде́льно булы́. Ці́лэ лі́то воды́лы. Двох варту́ють, а ты́йі спеть. У ка́жного постіль, соло́мнянка, і всі вы́ложецьця в ряд. Всю ныч пылну́ють. Вжэ по о́чырыді. По двох. Гэ́ту ныч ты́йі, ту́ю другы́йі. Вночі́ па́слы, а вдэнь робы́лы. А ны робы́лы, то то́жэ па́слы. Вжэ такэ́ю арте́лью ны воды́лы. А нучлі́, булы́ нучлі́, як зако́н. А як дошч, то в хлыві́, вдо́ма, бо ны ночова́тымэш пуд дошчём. Чя́сом застае́ дошч уночі́, – забыра́йімо ко́ны і додо́му. Вжэ пуд са́му зы́му холодно́ ста́нэ, то вжэ ны во́деть. Не́которэ врэ́мне, с по́ля всэ позбыра́ють і по́кы посі́ють, то так хо́деть. А як посі́ють, знов шэ во́деть. Навысні́ наростэ́ па́ша, почына́ють воды́ты одра́зу. А як хутырі́ ста́лы, пырыста́лы воды́ты. Вжэ ко́ны стоя́лы в хлыві́. На́нуч дава́лы шэ сі́но, сі́чкы дэ якэ́йі, травы́. В два́ццэть во́сьмому ро́цы хутырі́ ста́лы.

## Як дід в Гамэ́рыку йі́здыв

Дід в Гамэ́рыку йі́здыв. Пырыправля́лы а́гынты. В Дорогы́чыні був жыд. Ну і догова́руюцьця з йім, дае́ ёму́ гро́шы і отправля́е. А не́которы йі́халы по доку́мынтах. Трэ́ба було́ вы́робыты губе́рнскы доку́мынты, трэ́ба посыла́ты в Гро́дно. Двісты рублі́в і всэ. А тоды́ шэ в Амэ́рыцы доку́мынты ныя́кы ны трэ́ба. На не́которэ врэ́мне гро́шы трэ́ба показа́ты, шо е на пропіта́ніе. Каза́в, шо як кырыз граны́цю пырыво́дылы, каза́лы, як пырэ́йдытэ, то вас судо́сыть чоловік. Позна́ты

ёго́ – там повя́зка бу́дэ. По́сля ся́дытэ на корабэ́ль і дойі́дытэ. В Соедінённы Шта́ты йі́здыв. Вжэ в Кана́ду пры По́льшчы йі́халы, а в Шта́ты вжэ ны пуска́лы. Там на вся́кых робо́тах вын був. Дэсь на жылі́знуй доро́зы був. Дэсь ня́кы фо́рмы вылыва́лы, то носы́в роспла́вляный мыта́л. Всі чы́сто булы́ в го́роды. А наза́д раз йі́хав кырыз Япо́нію. На Япо́нію да в Харбі́н, а там в Росі́ю йі́халы.. Пэ́ршый раз пойі́хав, то ха́ту поста́выв, вжэ очыпы́вся. Як дру́гый раз з Амэ́рыкы прыйі́хав, то я помыта́ю, вжэ я йі́здыв в Дорогы́чэнь судошя́ты ёго́. А дру́гый раз коня́ купы́в. Того́ коня́, шо пойі́халы в бе́жынці. Два ро́кы побу́дэ да й воро́чайіцьця. За до́лар два рублі́ платы́лы. В Амэ́рыку до тэ́йі войны́ почті́ всі йі́здылы, хто ты́лько здоро́вый, то йі́здылы мужыкы́. Пры По́льшчы закры́лы, ны пусты́лы, то мэнч йі́здылы. Зра́зу булы́ пойі́халы, алэ в Кана́ду. По́сля й в Кана́ду ны пусты́лы. В Аргенты́ну то шэ йі́здылы. В Кана́ду то трэ́ба чырыз до́хтора мыдіцы́нскэ обслу́жываніе трэ́ба пройты́. Не́которы позабыра́лы сэ́мні да й оста́лысь там. Шэ в Параґва́й йі́здылы, ма́ло йі́здылы. В Бразі́лію с Сы́моновыч ны було́. В Параґва́й Фрэ́нько пойі́хав.

### Партіза́нэ

Партіза́нка – почя́ток такы́й. Не́которы оста́лысь тут, чы пле́нны, чы од фро́нту оста́лысь. І почалы́ організо́вуваты тут. А пото́м так ужэ́. Хто ужэ́ подозрі́тільный був, то втыка́в у ліс. Кому́ случя́й якы́й. Хто пылнова́в доро́гу, німці выганя́лы пылнова́ты, то партіза́нэ зорву́ть по́йізда. То в партіза́ны вжэ йшлы. Бо вжэ тых німці покара́ють. Пле́нны такы́йі буллы́, шо втыклы́ с пліну́. І охо́тнікув мно́го пошло́ в партіза́ны. Го́ндэ Са́нік Хомыно́го пошо́в. Тут організова́в отря́д хомськы́й. Вын в Росі́йі був. Жэ́нька ёго́ зва́лы. По́сля партіза́нэ усы́лылысь. А як вжэ воны́ порозбыва́лы нымэ́цькы гарнізо́ны, то вжэ в йіх сы́ла була́. Сторо́ннікув німця побы́лы, а ты́йі, шо в полі́цыю завырбо́ваны, то пошлы́ до партіза́н. Зра́зу було́ на́шых быльш, в гэ́тым отря́ды Жэ́ньковськым, а пото́м пудыйшлы́ дру́гы отря́ды, то там було́ вое́нных быльш. Булы́ Балычо́вого Мыкола́я до́чкы. Забра́лы йіх у Гырма́нію. А позна́ла на йіх одна́ ді́вчына пла́тте свое́, шо забра́лы партіза́нэ. Тоды́ хат п'еть чы шысть спалы́лы, і шты́ры чоловікы жывы́мы спалы́лы. І одного забы́лы – втыка́в. Йіх спалы́лы за связь с партіза́намы. Не́которы, коб в Гырма́нію ны йты́, йшлы в партіза́ны. Пошо́в охо́тно Маскалю́к. Мобілізова́лы – Йван Шы́тыкув, Іва́н Пытро́вського і Га́лік. А шэ звязны́йі булы́ тут. Гы́нчы, коб дэ́шо пожывы́тысь. Тоды́ ж була́ свобо́да. Шэ ж було́ активі́стув кы́лько: Са́нік Палі́йів, Хомы́ч, Ёсып, Штэ́льмах, Капа́н. Йі́здылы, оды́н одного́ гра́былы.

На Вы́льцы був штаб гэ́тых бульбашів, у Сні́тка.

Сцёпа Балычів в партіза́нах був, а пото́м з бульбашя́мы звяза́вся.

Шэ булы́ такы́йі партіза́нэ, шо по́сля войны́ ра́былы людэ́й. Са́мый руководі́тель в Сы́моновыч – Хомы́ч.

Молоды́йі хло́пці чы туда́, чы сюда́ йты трэ́ба було́. Ва́ся Лук'я́нов був агроно́мом пры ні́мцях, то му́сыв іты́ в партіза́ны.

Зра́зу кы́нулысь до ні́мцюв, а пото́м вы́нуждены до партіза́н, як партіза́нка усы́лылась.

### Як ха́ту робы́лы

Ха́ту робы́лы. Купы́в дэ́рыва да найня́в майстрі́в. Пе́рвым до́лгом купы́в дэ́рыва. Пото́м найня́в пі́льшчыкув, порі́залы. Рі́залы: Іва́н Саха́ркув, Анто́нкув Іва́н і Па́вэл Шы́тыкув. А вывозы́лы дэ́рыво толоко́ю, сусі́дэ помага́лы, родня́. А дово́зылы са́мы, з Наста́сію. Робы́лы зру́ба майстрі́, 17 (сімна́ццэть) дён робы́лы. А в тры́ццэть дывя́тым ро́цы накры́лы. Ху́тко война́ вы́бухнула. Трох майстрі́в, дубровэ́чанэ: Олыксі́й, Владі́мыр і Калэ́нык. Владі́мыр ба́ло як возьмэ́ кота́ – ту́ва́льса, ту-ва́льса кото́м. Як загра́е кото́м. Такы́й весёлый, жартовпы́вый чолові́к. Одда́в майстря́м сто діві́но́сто зло́тых. Вы́пустылы са́мы дэ́сэть зло́тых. Харчова́лы до́брэ. Свы́нку заколо́лы якра́з, салну́ю, са́ло було́. На харчі́ ны жя́лылысь.

А пэ́чы робы́в Грэ́чка з Дорогы́чыня. Пробу́в дэ́вэть дён. Сла́вный му́ляр був. Тшча́тільно так выво́дыв ка́жну цёглыну. Ні́мці забы́лы Грэ́чку, бо вын жыд був. А го́кна й двэ́ры столярі́

с Хóмська – Фáйбэль і Гэ́ршко. Булы́ такы́йі молéнны (богомóльны), шо свойі́ ложкы́ брáлы з дóмы. Кýрочку – до рызныкá трэ́ба булó. Ныбурáкы рóблеть, рóблеть, тя́гнуть тогó спýста, тычэ́ з йіх. Молокó, мáсло йі́лы, а свынн́ячого ны хоті́лы. Шэ й кýрыцю вызлы́ до Хóмська (до рызныкá). Бі́дны ня́кы.

Пырыйшлы́ в нóву хáту на Покрóву сóрок пэ́ршого рóку, шэ Лéня роды́вся в туй хáты. На Покрóву пырыбрáлысь всі. А пырыд тым я (Даны́ло) с Фéдію спав там. А в пыст з Андрі́ём Лопáтчыным, с Пáвлом пудлóгу вкладáлы, в пыст пырыд Пáскыю. С Пáвлом, Андрі́й помагáв.

Дэ́рыво купы́в в Острі́вках, в пáна. Вы́воротні всі, восімнáццэть кубóмытрув, ты́лько вы́воротні. Хорóшый ліс був, вынóсный. То вжэ дэ́хто казáв – нымаві́сты шо бýдэ. Гэ́то ж нычы́ста сы́ла (в вы́воротнях). А я хáту робы́в (з вы́воротнюв). Пові́р'е – шо бýдэ – бы нычы́ста сы́ла вы́валыла (дэ́рыво), то ны мóжна в хáту. Выбырáлы мі́сьце, то кладýть хліб, ля хáты мі́сьце. Як пыроночýе, то мóжна стáвыты. А я ныя́кых прышыбэ́ нькув ны прызнавáв.

Клынэ́ш, як закладáйіш хáту: Коб ужэ́ гэ́ты пудрýбы на мі́сьці погнылы́.

### Ласýня

Ласýня, я юй клáла сі́но і стýкнула мынэ́ рóгом. Наступы́ла мыні́ на нóгу, то зáрэ пáлэць погóду взнаé. На дворі́ дойі́ла, то вонá наступы́ла. Бáло всэ бáба (свёкрі́в) йійі́ дóйіть. Я Чýбку дойі́ла бáло. А як горі́ло сылó, мы втыклы́ в ліс. Коровы́ вы́пустылы. Ходы́лы, дэ хоті́лы. Ходы́лы в своёму ячмэ́ні, а пóсля зайшлы́ до Лі́ля в капýсту. То і врáно ны дойі́лы, і вдэнь. То вжэ прышлá Ласýня і спýталы. А як прышлóсь продавáты, то сказáлы: выбырáй. Чýбка булá бóнда Даны́лова, далá ті́тка Всты́мня. А Ласýня булá с свойі́х корі́в. Алэ в Ласýні булó вэ́льмы дóбрэ молокó. То й дыржя́лы йійі́ з-за молокá.

*І. І. Лучыц-Федарэц*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ АКРОПНА ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

***Расказвае В. І. Лучыц, 1925–2015 гг., ураджэнка і жыхарка в. Акропна Драгічынскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2015 г.*

Маёй інфарматаркай была найстарэйшая жыхарка вёскі Акрóпна (1925 г. н.), якая ўлетку 17 мая 2015 г., на жаль, памерла. Яе ўспаміны я запісаў зімой гэтага ж года.

Тэкст запісаны ёкаючай гаворкай заходнепалескага моўнага масіву. Пра фанетычныя асаблівасці гаворкі мы пісалі ў 1-м выпуску «Беларускай дыялекталогіі: матэрыялы і даследаванні» (Мінск, 2010, с. 275). Гэта ў асноўным існаванне мяккіх шыпячых і зацвярдзелых, наяўнасць *и* [і] пасля цвёрдых зычных і *і* [і] пасля мяккіх, дыфтонг [іэ́] перадаецца, як Ĕ ĕ; гаворцы характэрны пераход [ы] ў [э] (напр., *мэ* 'мы') і інш.

### Дзявочыя ўспаміны

Любóў – гэ́то сáмэ сві́тлэ, шо мóжэ бýтэ ў чоловíка, осóбінно ў молодóго. Ĕк я ўжэ тобі́ колэ́сь казáла, мэ жылэ́ ў сылі́ Окрі́пному коля Ванькóвийі хáтэ. Нáша хáта булá шчыльні́шэ ('бліжэй') до дорóгэ. У сёлах тоді́ булó ті́сно – хáта на хáтэ. І томý ў трэ́ццыть пэ́ршому рóцэ поляке пырисі́лювалэ людэ́й на хуторі́, а ў пыдисётых годáх лю́дэ зноў пыринóсылися ў сылó. Наш хýтор буў под лі́сом «На Тэ́пцах» (палеск. *Тэ́пыц, ты́пэць* – 'сівец, Nardus L.').

Тэ пытáйіся, дэ мэ с Кóлію познакóмылись?.. Нас ныхтó ны знакóмыў, булэ́ мэ ў однóму сылі́ і ві́далэ одэ́нь про óдного. Кóля буў хорóши: чóрнэ кучырёвэ кóсэ, сэ́нэ гóчэ... Він мыні́ зáўшэ нарáвыўся. Я булá на трэ рóке мэ́нча ('маладзейшая') за ёгó, булá боязлэ́ва, осóбо ныдэ́ ны ходэ́ла, спáла ў сі́нюх. Алэ́ я ёмý понарáвылася таксáмо. От одногó рáзу він миніі́ й кáжэ: «Давáй

поцылу́йімося. Тэ ти́лько ска́жэ, чы тобі́ до́брінько бу́дэ, ěк я тыбэ́ цылува́тиму. Ек не – то тэ ска́жэ, шо я тобі́ протíўни». Мэ стоěлэ одэ́нь каля о́дного блэ́зько, я руко́ю дыржěлася за ёго́ шэ́ю, і мэ цылува́лись. Він ны курэ́ў, ны пэў горíлке, і з ро́та ў ёго́ ныěкого за́паху ны було́ чу́тэ.

Ěк оно́ я почу́ствувала ёго́ гу́бэ на свойíх, мині́ так ста́ло до́брэ, зробэ́лося тыпло́ по ўсёму тíловэ... Я ны могла́ ўжэ одорва́тися од ёго́. Мэ любэ́лись і цылува́лися мно́го-мно́го раз. Ка́жного ра́зу мині́ робэ́лося прия́тно. Чырíз дэякéй чěс Ко́ля мині́ й ка́жэ: «Дава́й пойíдимо ў Дорогэ́чінь і ў конто́рэ роспэ́шимося». Ěк оно́ мэ зайшлэ́ тудэ́, то той (му́сить, нíмыц) шо роспэ́суе ка́жэ: «А тэ шэ малоле́тка, ідэ́ додо́му і пудростэ́ кро́хэ, то тоді́ мэ вас роспэ́шимо».

Мині́ тоді́ буў оно́ сімна́ццати рочо́к. Лю́дэ ў сылі́ шось-там шоло́халэ про нас, пыта́лися ў минэ́, чы я пойду́ за ёго́ за́муж. Алэ я віда́ла, шо Ко́ля буў ужэ́ жынэ́х і знаў, шо ёму́ робэ́тэ. Бо я тоді́ шэ на́вить ны поніма́ла, ěґ это бу́тэ за́мужом. Я остала́ся сырото́ю зма́лку, ныхто́ мині́ нэц про за́муж ны каза́ў. Ма́чоха моя́ то́жэ нэц ны роска́зувала.

Ко́ля пі́зні мині́ роска́зуваў, шо той нíмыц с конто́рэ судосэ́ў ('сустрэў') ёго́ і стаў каза́тэ Ко́лі: «Шо гэ́то тэ ны мо́жыш з е́ю спра́вытись: зробэ́ў бэ так, коб вона́ за тобо́ю бíгала. Тэ йійі́ цылу́йіш?» Ко́ля ка́жэ: «Цылу́ю». «Тэ ўжэ лыжэ́ш з е́ю?» Ко́ля ка́жэ: «Лыжу́». «А ў йійі́ гру́дэ е́сьця? Ěк е́сьця, то бырэ́ йійі́ за цэ́цочку...»

От мій Ко́лька бырэ́ минэ́ за одну́ грудь, выцило́вуе йійі́, за дру́гу... А я тоді́ кажу́ ёму́: «Кончěй гэ́тэ ба́лушке! Мині́ спа́тэ хо́чыца...» Ну, мэ тэ́йі но́чэ поспа́лэ, ěк поло́жано мужыко́вэ і жíнцэ.

А пото́м я зробэ́лася зусíм ныěка, нéка быто́ хво́ра. Ко́ля й пытáйіца ў минэ́: «Шо тобí долягáе? Мо́жэ ў тыбэ́ задэ́шка ('дыхавіца')? «Не» – кажу́ я. «Тэ ўжэ, му́сить, то́ўста!» ('цяжарная') – ка́жэ він.

По сыло́вэ ста́лэ говорэ́тэ, шо я – роспу́ста. Усěк калěлэ минэ́ ('абзывалі брыдкімі словамі'). Ко́лі гэ́тэ розгово́рэ ны нара́вылися.

Тоді́ він сказа́ў свому́ ба́тьковэ (ді́довэ Тара́совэ), шо хо́чэ минэ́ бра́тэ. У ба́тька була́ вилíка сымнě, і він отказа́ў ёму́: «Тэ сам дармойі́д і шэ одного́ дармойі́да хо́чыш прывыстэ́». А Ко́ля сказа́ў, шо ěк Го́льке (значыть, минэ́) тут ны бу́дэ, то й минэ́ тут ны бу́дэ». Прышло́ся ді́довэ купэ́тэ нěкого свыро́ночка...

З концě тэ́сячу дівітцо́т со́рок трэ́тёго до два́ццить во́сьмого ю́ля со́рок чытво́ртого ро́ку він буў у партіза́нах. У концí войнэ́ Ко́ля вучэ́ўся ў Брэ́сьці ў жылізнодоро́жному тéхнікумовэ. Дову́чуваўся по́сля войнэ́. Мій ба́тько поста́выў ха́ту. Ěк Ко́ля прыйішчěў, то мэ жылэ́ ра́зом з йім. На робо́ту посла́лэ ёго́ дэсь далěко ў Росéю. Робо́та ёму́ ны нара́вилася: ла́зытэ по стоўба́х і прово́дытэ лéтрыку с тіліхво́ном; у ёго́ ста́лэ болíтэ го́чэ. Він поке́нуў йійí і пойíхаў у Пэньськ вучэ́тыся на вучíтіля. Робэ́ў йім до смэ́ртэ (до тэ́сячу дівітцо́т шіздысěт дывěтого ро́ку). А ў со́рок чытво́ртому ро́цэ родэ́ўся наш пэ́рши сэн Се́ня.

*Ю. Л. Хвіланчук*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ МОТАЛЬ ІВАНАЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае М. А. Мацукевіч, 1938 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Моталь Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

***

Гэ́та ха́та начала́сь будова́тыса ў тры́ццаць пя́тым году́, а ўжэ ў тры́ццаць шэсто́м накры́лы і ўбра́лыса. Ну то я́ка была́ традíцыя: як закла́дають, то в у́гол кладу́ть копéйкі. І тэпэ́р кладу́ть. Зало́жуть ужэ́, ста́вляють стола́, ну і отмеча́ють немно́жко. Наклада́ють на стол ска́терть і ўжэ немно́жко вы́пьють, поедя́ть. То ўжэ закла́дыны ро́блять. А в ха́ты ўжэ всэ покупнэ́е за́рэ. Гэ́тэ ўсэ государ́ственнэ, магазíннэ. А ў нас нíколы ны було́ ныя́кого. Половікы́ булы́ свої́. Тка́лы свої́ поло́тна. Із тра́пок рíзалы да тка́лы знача́ла. А пото́м ужэ́, гэ́та ўжэ в дівяно́стых, як ста́лы шы́ты кожу́хі е́ты, то ўжэ з тых обрíзкей, шо вырíзвалы з кожу́хей е́тых, тка́лы половікы́. То во́уну

стрыжэ́м, да шы́ем, да прадэ́м. Да кра́сылы, да тка́лы. З тра́пок ні́колы тка́лы. Рва́лы тра́пкі, рі́залы на такі́ ле́нточкі, закла́далы і тка́лы. А за́рэ гэ́тэ ўжэ всэ покупнэ́е ны та́кэ, бы ні́колы.

Ні́колы мы йі́здылы выступа́ты. Такы́ быў фальклóрна-этнаграфі́чны теа́тр «Мóтольскіе сосе́ді». Де́йствуе більш чым тры́цьцыть літ калекті́в. У Пóльшчу йі́здылы, у Мі́нск, по деревня́х. У Пóльшчу як заі́халы, да вжэ як вы́йшлы на сцэ́ну спыва́ты, да вжэ нарóд зобра́вса, там жэ нарóд наш есть у Пóльшчы, і говóрать по-на́шэму і всё. А оды́н вы́йшаў старычóк, ну ны такі́ сі́льно стары́, да стаў, да ка́жэ: «Шо прыйі́халы пане́нкі до коха́ння, а воны́ прыйі́халы до ўмі-ра́ння». Бо вжэ пожылы́і жэ́ншчыны. А як ужэ́ ста́лы спыва́ты, да ста́лы выступа́ты, то ста́лы удівля́тыся, што такі́е пе́сні спыва́ють да всэ. Да танцóвалі ні́колышны та́нец «Шы́мы». Вся́кое булó. А булó ны так, бы тыпэ́р. Ны булó ныя́кіх клу́бэй. Найма́лы домá, платы́лы по пу́довы зірна́. І всю зы́му ходы́лы так.

У вóйну шо робы́лося. Я однэ́ помэта́ю. У нас óндэ дом ра́зом. Мні булó шты́ры гóда. Да пар-тіза́нка тут була́. То вжэ сыдымó ка́жна сэм'я́, ждэм. Стук-стук у óкнó. Страда́лы дóбрэ і от своі́х. Потому́ шо ў болóтах сыді́лы партіза́ны, голóдны булы́, хлі́ба ны булó. По прыка́зу трэ́ба булó всім да́ты. Збыра́лы по людё́х. Вся́кэ булó.

Могó отца́, на́шу сэ́мню, то тóжэ ні́мцы забыра́лы ў Герма́нію. У нас булó двóе дытэ́й: я і брат. У мэ́і ма́мы була́ тё́тя. У еі́ була́ ба́бушка стара́я, і булó трóе дытэ́й малы́х. Вона́ нас на фургóны той посады́ла. А ма́ма туда́ далё́ко ў віз лэгла́, накры́лы еі́ посте́лямі, і мы сі́лы і повызлы́ ў Мó-лодово. Там буў збóрны пункт. С ты́ль отправля́лы ў ту́ю Герма́нію. А отца́ могó зра́зу забра́лы. А він ка́жэ: «Вэтэ́ спаса́йтэса, а я ўтэчу́. Як поса́дять мэнэ́ ў пóезд, то я з Іва́нава ўтэчу». А ёгó як посады́лы у Іва́нові, то ў Бэрлі́ны ў товарні́ку открылы, ныгдэ́ він нэ ўті́к. Він сам буў у Герма́ніі. А нас ужэ́ з Мóлодова вэрну́лы, бо ў ба́бы трóе дытэ́й і нас двóе – п'ятёро, і стара́я та́я ба́ба – шóста, і хазя́йка – сё́ма. Ужэ́ вона́ нэ могла́ нас усі́х покормы́ты там, такі́х ужэ́ нэ бра́лы. То ўжэ ма́му моюю вы́сунулы, онó шо откача́лы, вона́ чуть не задушы́лась там. Додóму вэрну́лы. То коб мы пойі́халы ў ту́ю Герма́нію, то і грóшы получа́лы б, і жылы́ б сэм'ё́ю. А так ні́мцы спалы́лы ўсю на́шу гу́лыцу. Ха́та згорі́ла і хлів, і всэ згорі́ло, і куда́ нам ді́тыся, і двóе дытэ́й у ма́тыры. Мні булó мо й і шэсць лет тогды́, а Мі́шы шты́ры. Мі́шу на ру́кі, мэнэ́ за ру́ку, і всі лю́ды на кла́дбішча пошлы́. Ужэ́ як бу́дуть стрыля́ты, то ўжэ коб там лэжа́лы. І от мы йдэм, а ба́тько ўжэ прысыла́ў пі́сьма з Герма́ніі. Мы йдэм, а воны́ – ні́мцы іду́ть у рабэ́й одэ́жы, з автома́тамі, вэлы́ка колóна ішла́ іх. Воны́ вжэ там, кала Бу́тьмана окупі́равалыся, у тых хата́х. Мы подхóдым. Воны́ автома́ты понастовля́лы. Ма́ты з-за па́зухі вы́няла ты́я ба́тьковы пі́сьма. Воны́ подывы́лыся. Нас поглáдылы по голова́х, шэ далы́ по такóму малэ́нькому, бы пу́гавіца, канфе́тыковы і пошлы́ на кла́дбішча. Там ужэ́ мы ночова́лы. Ужэ́ ма́ма вы́сунэ нóгу із сапóжка да вса́дыть у запа́зуху, бо мэ́рзнуть – э́то óсэнню ўжэ булó пі́знею. Прыйшлы́ попялі́шчэ, усэ́ згорі́ло до ка́пель, да ўжэ до ба́бы мы пошлы́, да ў ба́бы жылы́. А оте́ц, як закóнчылась війна́, він там доі́ў коровы́ ў хозя́іна. Там він отслужы́ў год, да тогды́ вэрну́ўся додóму. Напыса́ў пісьмó ў Бэрлі́н. Прыка́з вы́йшаў, шо грóшы бу́дуть дава́ты. А до на́шого прыка́за, то він нэді́лю нэ дожы́в. І нам ныц нэ далы́. І мы страда́лы. Мій ба́тько любы́в хорошэ́ одева́тыся. У ёгo сапогі́ булы́ красі́вые, одё́жа вся була́ красі́ва. Він так чы́сто любы́в ходы́ты. І як він йі́хаў у ту́ю Герма́нію, він усэ́ тэ́е оста́выў. І ма́ма закопа́ла ці́лого тогó сундука́ далё́ко ў сара́і. А воны́ прышлы́. Жучóк той ма́тыру до стены́ поста́вив і ка́жэ: «Дава́й одё́жу ба́тькову: дава́й сапогі́, дава́й штаны́, дава́й пінджака́». Тогды́ ж пінджакі́ ня́кы сукóнны булы́. А ма́ты ка́жэ: «Він усэ́ повіз у Герма́нію». Він пісталé́та наста́вив. А я ж няк бó-ком вы́скочыла. Забі́гла і кажу́, шо ма́му хóчуть застрэ́лэты. І Ва́нік, той прыйі́хаў і даў прыка́з, і ізвіня́ўся ўжэ кі́лька раз той Жучóк. А воны́ шэ пошлы́ і спорылы ты́гам усеґó двора́ – шука́лы і ныгдэ́ нэ нашлы́. І ўмэр той Жучóк, і ма́ты на́ват нэ выхóдыла на гу́лыцу, бо так протíвно булó, шо нэвозмóжно. То, коб нэ той Ва́нік, то він ма́тэру б і застрэ́лыў.

А однóго ра́зу була́ сва́дьба. І ні́мцы разрэшы́лы сва́дьбу. І населе́ніе зобра́лося, і па́ру ні́мцэй прышлó туда́. І партіза́ны про э́то ўзна́лы. І вот воны́ рэшы́лы застрэ́лыты тых ні́мцэй. І ні́мцы наказа́лы за гэ́тэ. Зачэ́м булó стрэля́ты. Партіза́ны зна́лы, шо бу́дэ в отве́т. І ні́мцы застрэ́лылы жэні́ха́, неве́сту і всіх тых госте́й, шо булы́ на сва́дьбе за тых ні́мцэй. От такэ́ булó.

До войны́ ў нас мны́га расстрэ́ляно еврэ́ев було́, бо тут населе́ніе евре́йскэе було́ – трэ́тья ча́сть. Як ужэ́ началы́ звόзыты, растрэ́льваты еврэ́ей, то оды́н молоды́ еврэ́йчык сіў у той біб і сыдíў він нэділю голо́дны, йіў той біб сыры́, нэ здýжав аж вы́йті з го́лоду. А дід Зэ́йда вы́йшаў на двір. Пойшо́ў шчыпа́ты ў горо́ды цыбу́лю да поба́чыў ёго́. А той хло́пэц ка́жэ: «Олэксíй, дай мні кусо́чок хлíба, бо я нэ мо́жу, я ўжэ голо́дны». А він пошо́ў до німцэй да заявы́в, і прыхо́дыть нíмыц оды́н, і повíў того́ хло́пца-еврэ́йчыка на го́зэро до воды́, вы́стовыв. Ка́жэ но ёго: «Закры́й глаза́ ша́пкію». А той жыдо́к накры́ў глаза́ і ка́жа на то́го Олэксíя: «Олэксíй, Олэксíй, накормы́ў ты мэнэ́». Всі гэ́тэ запомыта́лы. Да вы́стрэлыў той нíмэц да ка́жэ: «Я нэ хотів, алэ я му́сю, бо мэнэ́ расстрэля́ють». О та́кэ було́. Усяк було́, стра́шно було́.

А го́ндэ ў гэ́тым лíсы нíколы буў ху́тор. На ху́торы гэ́тым жылы́ лю́ды. А чэрэз рэ́ку мост буў і зра́зу дере́вня, і там стоя́лы нíмцы. Партіза́ны подышлы́ до ху́тора і з-за сара́я загля́далы туда́, дэ ты́і нíмцы нахо́дяцца. А нíмцы поба́чылы партіза́нов чэрэз бино́кль. Партіза́ны побíглы в ліс наза́д, утэклы́. Да прышлы́ нíмцы, да спыта́лы: «А ў вас булы́ партіза́ны». А воны́ ка́жуть: «Мы ны ба́чылы, мы ныц ны зна́ем, у ха́ту ныхто́ ны прыхо́дыв». А нíмцы ны повíрылы да поду́малы, шо воны́ прыма́ють партіза́нов. Да росстрыля́лы всіх тых людэ́й. Да до сё́ння заста́лыса на ху́торы ў лíсы ты́я крысты́ з мо́гілкамі. За́рэ ныхто́ ны жывэ́ і ныхто́ ны́ц ны са́дыть там. Ты́лько крысты́ стоя́ть.

***

У нас в дере́вні по́сле войны́ пчо́лы вэ́льмі гíблы, потому́ шо з самалё́та сíялы всю хíмію. Пчо́лы пропада́лы з-за гэ́того. Тэпэ́р ужэ́ з самолё́та ныхто́ ныц ны сíе, ныц нэ ро́блять. Уно́сять удобрэ́нне ў зэ́млю тра́ктором. Пчо́лэй вэ́льмы мны́го. Мэдовыкы́ есть. По лíсах стоя́ть пчо́лы, по боло́тах стоя́ть, дэ мо́жна дойíхаты, на по́лы, дэ грэ́чка, дэ рапс. Вэ́льмы мны́го мэдовіке́й сейча́с ста́ло.

***

У Мо́толі такы́йі лю́ды ўсі стара́тельны. Воны́ всю жы́знь нíчым займа́юцца. Оть як ужэ́ по́сле во́йны, то сады́лы огурцы́. Возы́лы по раё́нах і продава́лы. По́сле огурцэ́й ста́лы шы́ты кожухí, дублё́нкі. У нас овэ́чкі ны дыржа́лы, бо тут населе́ніе гу́стэ, зэмлí ма́ло. А дэржа́лы по хутора́х, по сё́лах: Дрогíчэнскі раё́н, Пíнскі, Івацэ́вечэнскі. Там хутора́ булы́. Там дэржа́лі ове́чкі. Алэ́ гэ́та не цэ́нные ове́чкі. Цэ́нны булы́ шо з-под Москвы́. Там булы́ овэчкí та́кы сортовы́і. Та́ка ма́ленька шэ́рстка була́. Мы купля́лы сыр'ё́ э́тэ, возы́лы мэшка́мі і выраба́твалы са́мы муко́ю, тíстом. Як мы робы́лы: большá́я бо́чка дэрэвля́ная, сы́плэш муку́ жы́тнюю, налыва́еш воды́ туды́, сы́плэш со́лы і нама́зваеш э́ту оўчы́ну, скру́тьваеш і склада́еш одна́ на одну́ в э́ту бо́чку. А пото́м нагрыва́еш во́ды немно́жко, така́ лíтня була́, тэ́пла, і знов добавля́еш туды́ мукí, со́лы і такíм ры́дкім ужэ́ залыва́еш, коб воны́ там пла́валы. І воны́ са́мы по собí ўкіса́ють і выраба́тваюцца. Лэжа́ть нэ мэ́ншэй, як дві ныдíлі. У дві ныдíлы мы одну́ бырэ́м, розго́рным. Есть такы́е па́хлы бэз шэ́рсті, малэ́нька шэ́рстка, і от так як дэ́рнэш руко́ю, па́льцом, як обла́зыть э́та шэ́рстка, то ўжэ зна́чыцца вона́ гото́ва. Мы ее́ вы́ймаем, су́шым, дэрэвля́ны такы́ ключы́ булы́ на но́гу, мнэм, вымына́ем еí на мня́гко, пото́м шкрэ́бчэм такíмы шкра́балымі жэлíзнымі, а по́тым ужэ́ іх чы́стылы наждака́мі. І шы́лы мы іх, і са́мы ходы́лы в э́тых кожушка́х, і дітё́м, і собí шы́лы. Снача́ла бíлыі булы́, жо́ўтыі. А пото́м іх кра́сылы, да йшэ з квітамы. У восемдеся́тые года́, то стаў тут кожу́шны бум. З усе́і Расе́і да шэ і з-за зарубе́жйя йіхалы до нас. У ка́ждой ха́те булы́ тут мастера́ по вы́делкі. Назбыра́лы лю́ды гро́шэй мны́га, і пропа́лы ўсі ты́е гро́шы ў девяно́стых года́х. Боя́лысь собí шо купы́ты, усэ́ на кны́жку кла́лы, і пропа́лы. Я хо́чу сказа́ты, шо людэ́й за э́ты кожу́хі вызыва́лы ў сельсаве́т, оні булы́ спекуля́нты. Шо проізво́дылы своім трудо́м. Тэпэ́р пэрэку́пять, пэрэпродаду́ть, і он называ́ецца прэдпрэнема́тель. От як врэ́мя помэня́лося. Ужэ́ ко́нчылысь ты́е кожу́хі і сла́ва бо́гу, бо э́то буў такí тяжо́лы труд. Алэ мотоля́не нэ сыдíлы, прыду́малы платкí. У Пíнску було́ КВТ акры́ловае. Бра́лы там бабíны, купля́лы. І ткалы всё врэ́мня

і продава́лы. У Мо́толі такы́ лю́дэ. Ні́колы шэ за по́льскэю вла́стію ны було́ матеріа́лу і вса одэ́жа була́ ізо льна́. Всё гэ́то рэмэсло́ пошло́ з еврэ́ев. Еврэ́і так счыта́лы, шо колы́ дэнь прожы́ў і ныц ны прода́ў, то дэнь пусто́й. От так жывэ́м, дожыва́ем. Буў вэ́льмі тяжёлы труд, бо всэ робы́лы ўручну́ю. Сіялы той лён на по́лы, рва́лы его́ ўручну́ю, ростыла́лы, йі́халы на по́лэ, збыра́лы, колоты́лы там той лён. Лён вяза́лы в снопы́, возы́лы на го́ры, ростыла́лы полові́ну, полові́ну мочы́лы у го́зыры, коб буў бі́лы, вымо́чвалы. Вы́сунуть із воды́, ростыла́ють. Вы́сохнэ, збыра́лы. Тэ́рныцы булы́, такы́ станкі́. Трэ́цца він ужэ́, мнэ́цца. Пото́м его́ кладу́ть ужэ́ ў дру́гу машы́ну, выпрамля́ецца і звя́звають у такы́ снапкі́, і мы трэ́плэм ужэ́. Такэ́ трэпа́ло було́ з ру́чкою. Бэрэ́ш па́чок тако́го льна, прыту́льваеш і выбыва́еш. Вытры́пваеш усю́ коро́сту. Остае́цца оно́ лён, бы ў вас э́ты волоса́. І мы э́та ўсё робы́лы, по́ко нэ ста́ла э́та те́хніка.

***Расказвае К. А. Бялова, 1936 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Моталь Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

***

Була́ моло́да да по́йіхалы ў Сібі́р, Новосібі́рск, у заро́бкі. Булы́ ў колхо́зы лі́то. У ма́і пойі́халы. Дівча́ты пойі́халы доха́ты в октябрі́, а я оста́лась, бо за́муж вы́йшла. Була́ ўся́ка робо́та там: і на по́лы робы́лы, і на стро́йцы робы́лы. После Но́вого го́ду прыйі́хала сюды́, а пото́м ны пойі́халы, бо ма́ты з ба́тьком ны пусты́лы. І він ны пойі́хаў, бо я берэ́менная ста́ла. Він устро́івся на робо́ту, трактори́стом стаў. Постройі́лы ха́ту. Оть поду́малы, шо трэ́ба дві ко́мнаты зробы́ты. Оно́ одна́ ў мэнэ́ до́чка з пяцьдзесят шо́стого го́ду – Га́ля. А як і́мя вы́бралы. Оть я вам раскажу́. Я зва́лася Кры́сця. Я нэ люблю́ своё і́мя. Да як зайі́хала ў Сібі́р, да мойму́ чолові́ку подоба́лоса і́мя Га́ля. І він зваў мэнэ́ так. А як роды́лыса ў мэнэ́ ді́вчына, то я ёму кажу́: «Зна́еш шо Ві́тя, хва́тыть мэнэ́ Га́лёю зва́ты. Дава́й покры́стым ді́вчыну Га́лею». За́рэ ў Го́мелі вона́. А ў еі две ді́вчыны. То́жэ вжэ повыу́чвалыся. Одна́ ро́быть врачо́м, а одна́ – у жэлезнодоро́жным інтыту́це прэподова́телем. До́чка моя́ робы́ла на заво́де, за́рэ ўжэ на пе́нсіі.

***

Оть за́рэ вяжу́ носкы́, бо зыма́. А Ко́ляды прыхо́дять, да мы гото́вымся на Ко́ляды. Колядныќы хо́дять. Ді́ты бэжа́ть і бэжа́ть. Ужэ́ назбыра́ла гро́шэй. Ны замкнэ́сса ж от дытэ́й. Ні́колы і мы ходы́лы. Ні́колы ны дава́лы гро́шы, а хлі́ба кусо́чок даю́ть. Мы ў ха́ту ны захо́дылы. Мы гурто́м ходы́лы. А тэпэ́р по-одному́. Пэ́ршы дэнь Ко́ляд прыйшо́ў – гэ́тэ се́моє, а вэ́чэром хо́дять. На Ко́ляды ўсэ готу́ем: і мня́со, і котле́ты жа́рым, і холоде́ц. А хто на Ко́ляды кабана́ б'е, хто дэ́ржыть, коб свыжына́ була́.

***

Я семна́ццаты рік робы́ла ў колхо́зы. Ходы́ла на колхо́зну робо́ту. Тоды́ лён сі́яла. А пото́м трэпа́лы ўручну́ю, да здава́лы его́. Да й мы пра́лы з льну́. Всэ робы́лы. Ні́колы сорочкы́ шы́лы. Всэ на сві́ты шы́лы. Шэ ў мэ́нэ поло́тна е́сця. Пошы́ла застыла́чок – ко́йку застыла́ты. Всэ порасшыва́ла. Шэ і ўну́кам подава́ла по про́стыні. Зять ка́жэ: «Так прыя́тно на гэ́тому спа́ты». А ні́колы ходы́лы ў сорочка́х такы́х з льну. А воны́ то́нэнькі. Пра́лы, да рука́мы пра́лы. Спочо́тку соро́чку наложы́лы, а пото́м ко́фточку наве́рх. Да шы́еш-шы́еш, коб усэ́ ро́внэнько було́. А за́рэ нэ хо́чыцца шы́ты. Ба́йку ўзяў да вы́мыў у со́ды, а гэ́тэ на́да выва́рваты.

***

Лі́том у я́годы ходю́. Ягі́д мны́га. Тэпэ́р бли́зко ліс нарі́с. А як була́ я ді́вчына, то далёко ліс буў. В шко́лу я ма́ло ходы́ла. Ті́лько два кла́сы. Потому́ шо трэ́ба було́ коровы́ па́свыты. У шэсть рік с полові́ной пашу́ коровы́. Пэ́ршы рік, як забыра́лы ў Герма́нію людэ́й, пастуха́ забра́лы ў Герма́нію. Да ны було́ кому́ па́свыты. Да я пасвы́ла. Аж п'ять рік па́свыла. Да трэ́ба ра́но було́

вставáты. Тóрбочку накладýть мні тóго хлíба да пойдý. Дале́ко-дале́ко пáсвыла коровы́. Аж под Бýсу. Коровы́ поўзýть і поўзýть. А ты ідэ́ш і ідэ́ш за гэ́тымі коровáмі. А пры́йдэш додóму, да гэ́ты ножоня́ты потрíскаюцца. Босякóм ходы́лы, бо ны було́ шо обýты. Сэнтя́брь канчáецца, да холоднó. І ныхтó ны кáшляв, і грíпа нэ нападáла, ныхтó ны хворíв. А тэпэ́р шо рóбыцца. Нэ вспíеш вы́йті на двір, а ўжэ хворíеш.

Бáтько мый ры́бу ловы́ў. Тогдí стíлько ры́бы було́. А зáрэ я самá ловлю́ ры́бу. От бáтька навучы́ласа. Ловлю́ сéткаю. Такá вы́вязана сéтка. У мэнэ́ шэ і лóдка е, алэ бóюсь, коб нэ ўпáсты. Постáвлю сéтку і пойíхала додóму. Увэ́чэры пойíду, посмотрý, е – вы́бэру, а нэмá – пойíду назáд. Всі з мэнэ́ смэю́цца. Мужчы́ны кáжуть: «Ну, рыбáчка, как дéло, шо зловы́ла?». А я кажý: «Лýчшэй, – кажý, – всех!». Однóго рáзу замэ́рзло гóзэро, буў морóзчык, то прынысли́ мні два шчупакí.

***

У вóйну нíмцы жылы́ ў хатáх. У нас жыў офіцэ́р. Кáжнэ ўтро мáты встаé врáно і ідэ́ ў ёгó пол мы́е. Нíмэц так прыказáв. Да він однóго рáзу конфéт нам понасы́пав. А мы рáды-рáды. А партізáны нáшы сыдíлы ў болóтах. Да грáбылы. Ну ім ж нáдо було́, бо шты́ры рóкы сыдíлы ў болóтах. Ім тóжэ трэ́ба було́ жы́ты і йíсты нíшчо. То ходы́лы да забырáлы всэ. Пóмню прыйшóў партызáн до нас да кá на бáтька: «Давáй махнё́м на сапогí?». А бáтько знымáе гэ́того сапогá. А голінíшчэ отпáло, да пэрэменя́лы на лýчшэе.

Нас забырáлы ў Гермáнію. От колóна пострóена. І мы ў Гермáнію йíхаты. І тудá на Пінск напрáвылы нас. Там пáнскі палáц буў. Да туды́ загнáлы людэ́й. А лю́ды всі плáчуть. А мы як йíхалы, а ў бáтька булá самогóнка, і сáло в тóрбы було́. Да отдáў бáтько нíмцу тэ́е сáло. Да й утэклы́ хутчíй у ліс. А в тым палáцы такы́й рів буў. Стрáшно було́, як лю́ды плáкалы там. Мні й здаéцца шо і зáрэ там такí рів. А войнá кóнчылася, то поворóчвалыса ты́і лю́ды. Да ўсякэ там було́. Одны́ хозяевá ў Гермáніі дóбрэ кормы́лы, а одны́ давáлы брýкву з чэрвакáмы. После войны́ колхóз став. Мы пэ́ршы запысáлысь у колхóз, бо прышóў оды́н із сельсавэ́та начáльнік да кáжэ на бáтька: «Алексе́й пышы́сь, бо тóлку нэ бýдэ, бо обкладýть такы́мы подáткамі, што ты ны оплáтышся, да мýсыш ітьí. Да й запысáвса бáтько. Мáты моя́ вообшчэ́ нэ грáмотна булá, в шкóлу ны ходы́ла. Воны́ край нас трóшкі навучы́лыса, край дытэ́й. Да й я ны ходы́ла. Учíтельніца на мэнэ́ накрычáла. Я пошлá ў тýю шкóлу. Тетрáді ны було́. Бáтько мій з жóўтый бумáгі зробы́ў тетрáдю, да ны́ткыю зсшы́ў, да тóрбочку мні зсы́шлы. А я вжэ пошлá в шкóлу. Да кáжэ мні ўчíтельніца чытáты. А я нэ ўмíю. Да кáжэ после ўрóкоў. Да вонá накрычáла на мэнэ́. Бáтько прышóў, а я сыдю́ на пэ́чы да кудэ́лю прадý, да плáчу. А бáтько пытáе: «Чогó вонá плáчэ?». А бáба кáжэ: «Учíтельніца накрычáла, бо нэ ўмíе чытáты». А бáтько кáжэ: «Мáты нэ грáмотна, да я ны грáмотны, а вонá коб здоровэ́нька булá да ны гультáйка, да онó робы́ла». Ну і прáвда, голýбка, я зоробы́ла гэ́таку пéнсію, шо мáло хто гэ́таку получáе. У мэнэ́ сóрок літ стáжу. Я скрізь робы́ла, от.

***

***Расказвае М. Д. Кузюр, 1928 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Моталь Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

Мій муж быў у пóльскай áрміі. Да з áрміі зганя́лы нíмцы ў плен. Трýдно було́. Да кáжэ, як жэнýть іх на робóту з тогó лáгера, упадэ́ дэ буря́к, як вэзýть нíмцы буракы́. Да емó-емó, да смáчны-смáчны ты́е буракы́. Суп собí вары́лы, бо нэ було́ шо йíсты. Як пры́йдэ ніч, а врáно встаéм да ны було́ два, тры нымá, нэжывы́х дытэ́й. А потóм прыйíхаў хозя́ін оды́н, да пытáе, шо мо й хто соглáсны, то я возьмý на робóту. Да взяў ёгó на робóту, а хозя́йка, да кáжэ, далá мні йíсты, да влылá, чэрпачóк оды́н влылá. А я дýмаю: «Ну шо вжэ вонá мні влылá, то я йим наймса? Мні трэ́ба дóбрэ найíстыса». Да кáжэ на еí: «Шо ж вэтэ́ мні дáлы, вэтэ́ мáло мні дáлы». А вонá кáжэ: «Нылзя́. Вэтэ́ голóдныі, а вам дай мнóго, то всё по вас бýдэ». Да однóго дня́ – однóго чэрпачкá, другóго – більш крóхы, трэ́тёго – шэ більш. Да хлíба гэ́таку скíбочку малэ́ньку врíжуть.

А потóм, як найшлá совéцкая влáсть, то вэрнýвса додóму. А хто хотів, то ожоны́вса тáма да взя́в поля́чку, да й пойі́хали в Амэ́рыку. А він пошкодовáв мáтэра да прыйі́хав. Рік походы́в. Да ожоны́вса, я взя́ла. Да вэзлы́ мэнэ́, як помэтáю, на сáнках мэнэ́ туды́. Да пэрэкы́нулыса. Да повылáзылы бы мэдвэ́ді. Э́то булó в фэвралі. О як булó. Шо хоч булó. Вік дóўгі, то шо хоч побáчыш. От пóмню. Быў мостóк, рэ́чка. Да там прывязáлы партізáна до вóза, нóгі прывязáлы, а головá до зэмлі да Дрожылóвіч этáк вэ́злы. Стрáшно. Ой, бýло в вóйну вся́кое гóрэ. Коб нáшы діты онó гэ́того ны бáчылы.

Мої діты поўмырáлы. Булó трóе дітэ́й. Дві дівчыны і сын. Зять прыйі́хаў мэнэ́ доглядáты. Унýкі éсця – дві дівчыны. Однá зáмужам. Дóчка з зя́тем жы́лы ў Мінску. Сват буў воéнны да ім вы́клопотав квартіру. Да вжэ воны́ ў квартіры булы́. Да двóе дывчáт. Однá Мары́нка, другáя – Тáня. Да остáласа бáба однá. Трэ́ба мні жы́ты, а дітём умэрáты. Да шо ж ты зрóбыш. Ныц нэ зрóбыш. Шо Бог даé, то мýсыш пэрэнóсыты.

***

***Расказвае Л. І. Бабрыковіч, 1938 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Моталь Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

***

Начынáецца Велікі пост пэрэд Пáскею. Ныц ны йілы, тóлько картóшка, огýрчыкі, фасóль, всё-всё пóсное. Пэрэд Вэлы́коднем, у чэтвэ́рг, счытáлоса Чы́сты чэтвэ́рг. У гэ́ты дэ́нь прыбырáлы хáты, прыбырáлы всэ, ішлы́ на клáдбішча. У Чы́сты чэтвэ́рг чытáецца двэнáццаць Евáнгелій, ўсі шлы до цэ́рквы. У пя́тніцу ў пять часóв ішлы́ до цэ́рквы і клáлы плошчаны́цу. Ныц нэ робы́лы. У субóту готóвылы, пэклы́, алэ ныц ны йылы. У Велікі пост йішлы́ до спóвэды. Пэрэд прáзднiком шэ вэ́рбу свэ́тять. В субóту прыбрáлыса і ідэ́м на всэнічну. А ў час нóчы выклыкáлы Хрыстá і ўрáно корзінкі святы́лы. І вжэ хто пэ́ршы старáўся забіхты дохáты.

***

***Расказвае М. Н. Маркевіч, 1950 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Опаль Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

Кóнчыла шкóлу. Пóсле шкóлы в Пінске открывáвса комбінáт вéрхнего трікотáжа. Поéхала на ўчёбу закрóйшчыцой в Косінó Москóвской óбласті. Муж з Дрогічэнского раёна. Потóм посля ўчы́лася в Стóліне в тéхнікуме. Кóнчыла тéхнікум. Рабóтала ўжэ в сельсавéте бухгáлтером. На пéнсію пошлá. А посля пéнсіі шэ год робы́ла. Дітэ́й у мэнэ́ трóе. Сын в Мінске рóбыть. Він організáтор всех гэ́тых меропрія́тій. Офóрмыв прэдпрэнімáтельство. Оды́н сын в Грóдно. Тóжэ закóнчыў музпедвучы́лішчэ. Жэнáты. Рóбыть в вучы́лішчэ строітелей. Прэподаé вокáл. Дóчка в Мóзыры. Тудá пошлá зáмуж. Тут на свáдьбе познакóмылысь. І там остáлась. Муж ýмер у две ты́сячы пя́тым годý. Діты рáньше чáсто прыезжáлі, а зáрэ ў ніх свої проблéмы.

***Расказвае М. В. Шуляк, 1951 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Опаль Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

На свáдьбу пэклы́ коровáя. Коровáй росчынéлы. А потóм пэклы́. Трэ́ба булó спэкты́ на коровáй шэ дэ́вять шы́шок. Чомý дэ́вять? Потомý шо Трóіца – тры шы́шкы, тры двóйкі і тры трóйкі. Імéлося ввідý шо Бог лю́быть Трóіцу. Шышкы́ нáдо булó оквэ́тыты. Допýстім штыры коровáйніцы, мукы́ насіелы. Онó сты́ка насіялы, шоб ны одбавлéты і ны добовлéты. Для тогó, коб булá дóля ў молоды́х дóбра. Начынáем мэсы́ты коровáя – мóлымса. Выпывáем по пóвнэй стóпцы гарілкі бэз закýскы. Замісы́лы і постáвылы, шоб зыхóдыв. Бэрэ́м вдвох коровáй і лóжым в таз, шоб пэкті. Спэклы́ коровáя. А шышкы́ ўквічвалы ёлкамы, а потóм бірвы́нец. Уквітылы тогó

корова́я. Біру́цца ты́я шышкы́. І корова́йныцы должны́ всі одноврэмённо вколо́ты ты́е шышкы́, шоб у молоды́х всё було́ до́брэ. Всё горынём обкруты́лы чырво́ным. Для того́, шоб ту́ю ны́точку чырво́ну на ру́ку завяза́ты, шоб ны болі́ла рука́. Пото́м корова́я однэсу́ть в комо́ру і до вэсілля ны чапля́ють. Под корова́й кла́лы гро́шы. Надіжнік хоро́шы накладу́ть.

От пэрэд Коле́дьмы вжэ пэчу́ть, да хліб пэчу́ть, да бу́лочку пэчу́ть. То возьмэ́ дівычна ту́ю бу́лочку, да вы́бэжыть на двір, да шчо кры́кнэ. Да хто пэ́ршы одзовэ́цца, той так бу́дэ зва́тыса еі муж. Да так гада́ють.

***

***Расказвае М. Д. Кузюр, 1928 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Опаль Іванаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

Я сама́ о́польская. Тут роды́лась і за́муж вы́шла. Як була́ молода́, то йіздыла ў Рі́гу, у Москву́ йіздыла. У мэнэ́ чэ́твэро ді́тай. І вну́кі, пра́внукі есць. Го́сьмэро вну́ков і шэ́стэро пра́внуков. Я сэра́дня ў сэм'і. У нас було́ сім душ. Сёмы послэ́дні хло́пэц. Алэ дывкы́ булы́ спокойні́шы. Шэ помытаю я войну́. Я помэта́ю, як німцы люда́й бы́лы. Згоне́лы люда́й сюда́. То й на́шых сосі́дэй побы́лы. Я ішла́ от сває́ тёткі. А воны́ со стрэ́льбамы і попэро́к, і ззаду гна́лы люда́й. Сусі́да забы́лы німцы на́шого. Ма́ты накла́ла сорочэ́к на смэрть. Алэ по нас ны прышлы́. Так мы і оста́лыса. Згоне́лы люда́й на боло́ты. То зогна́лы одно́го ра́зу ў ха́ты люда́й, коб спалы́ты. Мужчы́н зогна́лы, а бабэ́й отпусты́лы. От, шчэ раз ба́тько наш пойшо́в у хлів, схава́ўся, як згоня́лы мужчы́н. А німыц прыйшо́в, да ка́жэ: «А дэ пан?». А мы сказа́лы, шо нэма́, пойшо́в. Так мій ба́тько і зоста́вса.

***

Тут лі́са й нэ ма́е. Іда́мо ў Псы́шчавскі ліс, Мікі́цкі, іда́мо в Крэ́вно. Дэ́ржымо і коровы́, і свінэ́й. Ку́ры, гу́сы, індюкі́ есць. Алэ і магазі́ннэ покупа́ем. Моло́ко купля́ем, бо сейча́с корів ма́ло лю́дэ дэ́ржать. Було́ ра́ньше мні́га корів. За́рэ нэ дэ́ржым. Молоды́е нэ хо́чуть дэржа́ты. Молоды́х за́рэ ма́ло. Ні́колы було́ на́дта мні́го люда́й у нас. Топі́рычку по всему́ сельсаве́ту ты́сяча. Ні́колы було́ молодёжі мні́го. І було́ вэсёло. Дывкы́ собыра́лыся на заро́бкі на Укра́іну. Так каза́лы. На Укра́іну. А гэ́то ны то́лько Украі́на. Гэ́та Белгоро́дска, Пе́нзенская о́бласть. Так і мужчы́ны выйезжа́лы. Зостова́лыса труддя́гі-жэ́ншчыны. Жэ́ншчыны ў нас косы́лы на́вить. А после косі́ння – втомлены да йшэ на музы́кы захо́дылы. Да всі вэсёлы булы́.

От вспомыта́ласа вночі пі́сню, сплю́чы:

Чы я тобі ба́тэнько довіла, шо ты мэнэ́ отдае́ш, одйіла,  
Чы я тобі жы́точка ны же́ла, чы я тобі сі́ночка ны грыбла́.  
Жэ́ла тобі жы́точко нэ зра́ньку, а грыбла́ тобі сі́ночко чыста́нько,  
А тэпэ́р ужэ́ бу́дэш і жэньцы́в найма́ты, да гро́шы дава́ты.  
Да пе́ршы дынёчок по сорокі́вцы, а другі́ дэнёчок по золоты́вцы,  
А трэ́ті дэнёчок по трэчэрві́нцы.

***

Там за лі́сом со́нечко всхо́дыть,  
Там Ма́ніна ма́ты возы́ обхо́дыть.  
По́кэ обыйдэ́ всэ шты́ры во́зы,  
Порозлыва́е дрі́бные слёзы  
Просі́тэ дэвкы́ Бо́га,  
Коб дуга́ полома́лысь,  
Да коб Ма́нечка оста́лась.

Мы й дугу́ пола́дым і супо́ню нато́чым,
А Ма́нечку забэра́мо.
Выбыгло́ два хло́пчыка із сыла́,
Да пэрэзвэ́ночкі до сы́ла,
Тут жа вам да доро́жэнька вложэна́,
Бо сюдо́ю ва́ша Ма́нечка вэ́зёна.
Там молода́я Ма́нечка войшла́ в но́ву ха́ту
Да й ста́ла говоры́ты, Го́спода Бо́га просы́ты:
«Ой, дай мні, Бо́жэ, в э́той но́вый ха́ты,
Свяко́рка шанова́ты і свякру́ху шано́воты,
Свяко́рка за – ба́тэнька, свякру́ху – за ма́тёнку».

Ой, глу́мненькі да разу́менькі,
Свякро́вку, як напье́цца, до комо́рэнькі спа́ты йда,
А як проспы́цца хорошэ́, в ха́ты лад выда́.

Ой, гу́мная да розу́мная Ма́нечка
Покоты́ла золоты́ ку́бок по столі́,
Вы́верыла свойго́ свякро́вка ў хмэлі́.

Ой, свякро́вкы, голубо́чкы, про́сім у вас,
Коб ны було́ на́шай Ма́ні кры́ўды ў вас,
Коб ны стое́ла ві́ткэй под окно́м,
Коб нэ отэра́ла дрі́бны слі́зкы руково́м.
Да коб ну було́ ві́ткэ пові́ткэ загадок,
Да коб ны була́ сусе́дочка за ма́тку.

От так спува́лы і спува́лы. Гэ́тэ сва́дебны пі́сні.

*А. М. Шумер*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК КАМЯНЕЦКАГА РАЁНА

***Расказвае В. М. Міцковіч, 1951 г. н., ураджэнка в. Макавішча, жыхарка в. Дзмітравічы Камянецкага р-на;*** *запіс зроблены ў 2013 г.*

– А я ба́чтэ, коб смэрть быз робо́ты ны заста́ла, – ры́жу такі́е во... бу́ду кругі́ вяза́ты [ходнікі]. Ну шо вам, шэ шо сказа́ты?

*– А на Куттю і на Коляду разны пісні спывалы?*

Ну, на Куттю́, Куття́ то шысто́го. Співа́лі одны́ – коля́дны пі́сні. Кінь мою́ ту́ю ку́ртку на зэ́млю. Скінь йийі. На зэ́млю положы́ і всё. І шо вам, пісні́ спива́ты?! (смяецца). То дай хай там о ся́дут, ну-у бо, так нычо́го. За столо́м ся́дут. А ты тут во, сядь о, прыся́дь тут во. Ой, Бо́жэ! Ну, які́йі вам пісні́ спів...

*– На Куттю якыйі спывають?*

– А-а... шысто́го як співа́ють?

Ой, в са́ду-са́ду, пава́ ходы́ла,
Гэй, Куля́до́! Пава́ ходы́ла!
За ей худы́ла красна́я па́ні,
І знов повтора́ецца:
Гэй, Куля́до́, красна́я па́ні!

Красна́я па́ні пе́рье збіра́ла,
І знов повтора́еця:
Гэй, Кулядо́, пе́рье збіра́ла!
Пе́рье збыра́ла, в фарту́шок кла́ла...

Пудуждытэ, мо́жэ шо пропустыла, да́йтэ поду́маю.

Ой, в са́ду-са́ду, пава́ ходыла,
Гэй, Кулядо́! Пава́ ходыла!
Пава́ худыла, пе́р'е губыла...

Гэ́ты каза́ла я, ны? Ну, ба́чтэ, ду́маю, шось пропустыла.

Гэй, Кулядо́, пе́рье губыла!
За ей худыла красна́я па́ні,
Гэй, Кулядо́, красна́я па́ні!
Красна́я па́ні, молода́я (ну, як там де́вочка е, то молода́я, там, Ле́на, чи хто...)
Гэй, Кулядо́, молода́я Ле́на!
Молода́я Ле́на, пе́рье збіра́ла,
Гэй, Кулядо́, пе́рье збіра́ла!

І тогды вжэ:

Гэй, Кулядо́, в фарту́шок кла́ла!
С фарту́шка бра́ла, выно́чок выла,
Гэй, Кулядо́, выно́чок выла!
Звывшы выно́чок, пушла́в садо́чок,
Гэй, Кулядо́, пушла́ в садо́чок!

Всё гэ́тэ.

Ну, пе́рье губыла от па́вы, і вуна́ віно́чок такі́й віла́ і наложыла віно́чок, пушла́ в садо́чок. Ну, зна́йітэ шо тако́е пі́р'е? Ну, от, вуна́, та́я па́ва, ходыла, губыла, а за е́ю молода́я кра́сна па́ні, ходыла збіра́ла, в фартушо́к кла́ла, по́сле с фартушка́ бра́ла і віно́к віла́. А як звіла́ віно́чок, то пушла́ в садо́чок ужэ́ гуля́ты.

***

***Расказвае Г. Н. Гладун, 1935 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Ставы;** запіс зроблены ў 2014 г.*

***

То о тако́е е, як ко́лют, воно́ пырыро́слёнэ... Там тро́ху са́ла, там тро́ху мя́са, там тако́е о. О тако́ скруну́ты, зробыты, то мні, пріме́рно, нара́выцця. То Лю́да робыла, вона́ мні... вчора-ка прыйіжжя́ла. Вона́ туды і наза́д автобусом. І пойі́хала тым, на ву́сюм, са́мым пузні́шым пуйі́хала.

***

Тобі́, мо́жэ, вына да́ты тро́хы выпыты? Вып'йіш? Чи ты ны пьє́ш? За́ра я пойду́... Ны зна́ю яко́е воно́. Колысь робыла до́брэ, я́кось в мэ́нэ ныц ны получа́йіцця пу́тнэ. Ку́бок тобі́ да́ты мо́жэ? На но, бырьі, про́буй. Як до́брэ пойі́сты, йім до́брэ запыты (смяецца). Выногра́днэ. Я бульш ны з чо́го ны роблю. Я там робыла з я́блык, со́ку я́блочного. Ты зна́йіш, як воно́ мні саму́й обрыдло. То там, я́кось, прыво́зылы до мэ́нэ хло́пці, ны по́мню що. Ну, я взяла́ того́ вына́, йім дала́ выпыты. Ну, і мні о́дэ той сусі́д: «Ві́тэ вжэ бульш тако́го вына́ ны ста́втэ, – воно́ кыслэ, ёго́

ны му́жьня пы́ты». Я ёго́, хы́ба, пью? Я ёго́ ны пью, чу́ты выно́, – то й чу́ты выно́. «Жэб я бульш ны ба́чыв...» І пра́вда, воно́ як шэ пустуя́ло, воно́ шэ бульш кы́слэ ста́ло, вы́дно, са́хару ма́ло було́. І вжэ от тых пур ны ста́ла з тым выно́м... ты́ко кажу́: «Са́хару то ду́жо ідэ́ на то́е вы́но я́блочнэ, а то́лку ма́ло, а выногра́днэ-то воно́ нічево́ тако́е во».

***

То якра́з шыпо́внік розцві́вся. Цвытэ́ так красі́во. Шыпо́внік, зна́йіш шыпо́внік? Мы прохо́дымо, там ба́шня [ваданапорная]. На той ба́шне – бу́сёны. Бу́сён звыв кубло́, і мале́нькы сыдя́ть бусёнкы́ і ты́йі, стары́йі. Вы́дно, прыныслá шэ йі́сты, воны́ так клоко́чуть всё. Мы, з О́лію, йдэм впэро́д, а вун [муж Вольгі] всё позаді́, фотографі́руе. Ну, мы захо́дымо на мо́гылкы, вун сра́зу обраты́в внімáніе: «Почéму у вас крест в головé, а не в ногáх?». Я кажу́: «Я ны знáю, Сергéй, чом у нас... бач, кругóм во всіх стойíть». А в Росíйі дістві́тільно кресты́ стоя́ть в ногáх. А от ты подывы́ся, як ідэ́ш до нáшыйі цэ́рквы, э́та, Мы́цька [жанчына, ад прозвішча мужа – Мыць] там похóвана. Там есть однá могы́лка. Вонá прáвільно похóвана. А в нас вжэ не.

***

Всё дорогóе, всё дорогóе. Знáйіш, ны накупля́йісся, там всё ходы́ты, в тóе, в магазі́н. А топі́ро вжэ я ны могу́ тримáты [гаспадарку].Тя́жко вжэ. О, глáвнэ – ходы́ты, тудá-сюдá. Як бы шэ хтось так помагáв трóху, то так, а так не, саму́й, то вжэ тя́жко. І вжэ ны тримáю нычóго, одны́ гу́сы і ку́ры. Ку́ры ты́йі... прóшлый год шось внáдылося. Такы́йі курыня́та вжэ булы́, як ты́йі куропáтвочкы, вжэ вылы́кы такы́йі булы́ і вжэ виділя́лыся дэ курочкы́, дэ пітушкы́, вжэ такы́йі булы́ хорошóнькы. І тож то двáцыць чты́ры курыня́та забрáло шось. За одну́ нуч. Остáвыло однó курыня́ і ку́рыця, а тóе всё забрáло. А потóм внáдылося в ку́ры. Захóжу до хлівá: булó сімнáцыть ку́рыць, остáлось ту́лько сім. Пойі́дёны.

***

***Расказвае М. І. Колтун, 1935–2015 гг., ураджэнка і жыхарка в. Агароднікі Воўчынскага с/с;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

***

– *То Ві́тэ кáжытэ, шчо ны всі булы в вáшыйі сім'йі катóлікамі?*

– Бáтько ру́скый, а знáйіш шо...

– *Месный?*

– Мéсный. Як в Росíю выйіжжя́лы, і вун остáвся сыротóю у штырнáцыть літ. Прыйі́халы на зы́му – ны хлíба, ны чóго, і шось хлібáнув.., якэ́йісь... росóлу і, зрáзу, – холéрка. Ты знáйіш, якáя то болéзь? Умэ́р. І мáты вмырлá. Ну, і шчо? Вун за Буг, а з-за Бу́га ныхтó ны выйіжжя́в. Там одны́ поля́кы. Ныхтó.., а то налякáлы, шо нíмці бут [будуть] му-у́чаты, рі-і́заты – о-éй! Хучíй втыкáлы в Сібíр. І прыйі́хав. І шчо ж вун? Тóжэ, на зы́му. І пошóв, врóді тóго, пáсты коровы́, а ёгó застáвылы, кáжэ, в пітнáцыть літ, ора-áты, сíяты, всё, всё робы́ты. І там ёгó поля́кы научы́лы, тóго, пóльскійі молі́твы, до косцёла брáлы. І вун звычя́вся.

– *А бу́в православный?*

– Бу́в праворслáвный. Пырыйшóв совсíм. І пáцера, а ружáнэць говоры́в, бо ны булó ружáнці, то на пáльцях – бы дэсы́ть. В мэ́нэ, бáчиш обрáз ружáныць, бач як об'явы́вся: одна стáцыя булá тэ́мна вся, то шэ ж пырыд тым, як то в'йі́халы у Сібíр... і туды́ бáбця завызлá і назáд прывызлá, і ря́мка (чéрвы ззíлы), – впáла. Сíтую ікóну. І дру́гу взялá зробы́ла [раму]. В горí однá [частка рамы], бáчиш, як стáла свíтла? Алі чом кругóм так ны об... Ты бач якáя Бóжа сы́ла? Очíщяе всё, грязь. А тут по-сусíдську такы́йі быдóты булы́ і ікóна булá старáя-старáя, а потóм як стáла сíяты зóлотом. Обновы́лася.

# *ГАВОРКІ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. А. Грачыха*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. М. Пліско, 1933 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Паўазер'е Бешанковіцкага р-на ў 2012 г.*

### З успамінаў пра вайну

У вайну́ нагарува́ліся! Мо́жна сказа́ць так, што ў вайну́ не́мцы і на́шы вінува́ты. Днём – не́мцы, но́ччу – парціза́ны. Баімся спаць лажы́цца. Мы сьпім, а нас пры́дуць, разбу́дзяць, соль іска́лі пад на́мі, калі што ёсьць. Ма́тка схава́іць там со́лі, на́йдуць – забе́руць. А то, што лу́чшэе, ўкра́дуць, ну, ні ўкра́дуць, во́зьмуць і ўсё. І было́ тако́е, што былі́ не́мцы і паліцэ́йскія. А паліцэ́йскія былі́ на́шы ш ру́скія, і яны́ хадзілі раз но́ччы, гэ́тыя паліцэ́і, і спра́шывалі, бу́тта парціза́ны: «Дзе не́мцы і як ча́ста бува́юць?». Распрасілі – гэ́тыя расказа́лі ўсё, а назаўтра іх во кала́ кла́дбішча, дзе абры́ў бальшы́. І к то́му абры́ву – пастраля́лі ўсіх. Там, гаво́руць, я́ма шывялілася – като́рыя ра́неныя, като́рыя ўбітыя. І да цех пор стая́лі, пака́ шавялілася і ўсё страля́лі.

А ў нас быў ба́цька, а ба́цька і ма́ткі прыка́зваў. Мы малы́я ні зналі, ці гэ́та не́мцы, ці гэ́та парціза́ны, хто іх зна́іць. Ба́цька ка́жыць: «Калі спра́шываюць у вас пра парціза́н ці пра не́мцаў, ці бува́юць у вас, а ты атвіча́й, што я ні зна́ю, прыхо́дзюць, а хто – ці яны́ парціза́ны, ці не́мцы?».

Лішакі́ во, дзе хадзілі ў клю́кву, азёрка мало́е там. Там, у Лішака́х, быў такі́ Цісьлёнак, бугомірстам быў у не́мцаў. Той падска́жыць, што вон твой мужы́к слу́жыць, ваю́іць, ці чый, тых нака́зываюць, б'юць. І по́сьлі вайны́ змы́ўся і німа́ яго́ тут.

А во гэ́та Міхнючы́ха, што ў нас жыве́ць. Ба́цька е́йны быў паліцэ́йскі, жыў у Бачэ́йкаві, а прыіжджа́ў сюда́. І ў дзярэ́ўні знаў, калі парціза́ны прыхадзілі. У нас стая́ла парціза́нская сім'я́. А парціза́ны прыхо́дзілі но́ччы ядзы́ які́й. Касту́сь такі́ быў, сасе́т, з ма́ткай дагаво́рана было́, што вакно́ аччыня́льнае, ні зашчэ́пліна, то нічо́га. На вакне́ паста́вім, а ён пры́дзіць, ціхенька во́зьміць і ў амша́ру. А ге́ты, такі́ Йван Бубно́ў, яго́ зва́лі, то́жа прыхадзіў. А гэ́ты Я́шка – Міхнючы́хін ба́цька – быў ту́така і яго́ саправажда́лі паліцэ́йскія не́йкія. Іва́на спайма́лі і забра́лі, кала́ згаро́ды злавілі. А тады́ на́шы пудпільнува́лі парціза́ны, у яко́е Я́шка врэ́мя хо́дзіць, і пад Варатынскай гаро́й застрэ́лілі гэ́тага Я́шку.

Прас парціза́н спалілі на́шу дзярэ́ўню. Дзярэ́ўня на́ша была́ два́ццаць дамо́ў. І ўжо тут не́мцы бліска падхо́дзюць, наду́маліся вувазіць зярно́ ў парціза́нскую зо́ну. Ну й пяць падво́т паста́вілі, нагрузілі. А тут, атку́ль ні вазьміся, ляце́ў самалёт, і ге́та ўсё ўвідзіў. А я нагу́ была́ пасе́кла сабе́. Парціза́нская сім'я́ ў нас была́. Тады́ ш у гру́пкі есь вары́лі. А цёпла йшчэ було́ – ле́та. Ма́тка ка́жыць: «На́да к вячэ́ры звары́ць». Нас сім'я́ і іх тры душы́, парціза́наў гэ́тых. Начы́сьцілі мы бу́льбы, а як йіна́ ка́жыць, каб мяльчэ́й пасе́ч, аблажы́ць і быстрэ́й звары́лася, і жа́рка б ні было́ ў ха́ці. А я, хто мі́не ўчыў? Мне було́ тады́ сем ці во́сім гадо́ў. Пайшла́, тапо́р у ру́кі, ніхто́ мне не зага́дываў, пайшла́, пакало́ла ме́лка, а тады́ (што мне ста́ла?) ні ў кало́тку, а ў нагу́. А баю́ся ма́ткі й ба́цькі, каб міне́ ня білі, а гэ́та парціза́нка ў нас была́, йіна́ мне зага́йвала нагу́. Ну й на печ зале́зла, ціханька ляжу́ і ні пла́чу. А кроў! Там, якія парця́нкі былі́, у падо́л, у пла́цце нагу́. Тады́ ні бінту, ні ва́ты – нічо́га не было́. І ляжу́. Ішчуць міне́ бу́льбу е́сьці, а ні знаю́ць, дзе я ёсьць. І к Хвядо́су пайшлі́, і туды́, а міне́ нет. Тады́ Ва́лька гэ́та, парціза́нка, ка́жыць: «Мо́жа, йіна́ на пе́чы засну́ла? На́да паглядзе́ць». Парціза́нка пале́зла на печ глядзе́ць, а я дава́й пла́каць, каб ня білі міне. А йіна́ міне с пе́чы сцягну́ла, а я ўся ў крыві́. А ціпе́р во міскі ўся́кія, тарэ́лкі, а тады́ былі́ то́лькі гліня́ныя міскі і дзірвя́ныя ло́шкі. Са́мі выстру́гувалі. І як ма́тка ўвідзіла міне́ ў кры́ві, і міску гэту ўпусціла, і разьбілася, і разьлило́ся там – капу́сту ці што там нісла́ к бу́льбі. Тады́ гэ́та парціза́нка, йіна́ ш пірывя́звала, калі што́. Быў і бінт – пірыбінтува́ла, прамы́ла, а абува́ць жы не́чага було́. Такі́ с пла́цця шшы́лі та́пачкі і ў гэ́ты та́пачак. Ды да́жы як гэ́ты самалёт ляце́ў, усе́ рыбя́ты

бе́гаюць, а мне хо́чыцца бе́гаць, а ні магу́. Сядзе́ла на ла́вачкі, а тады́ йду ў ха́ту, а ён як ляцеу́, ніска па на́шым по́грабу да́жы, і, як ве́трам, пувалі́ў міне́. Ну й наза́ўтра на́шу дзярэ́ўню бамбі́лі.

Ба́цька й ка́жыць: «Ну што ш, дзярэ́ўню на́шу прас парціза́н спалі́лі». А нас кала кла́дбішча ў кана́вы кі́налі, а тут ужо́ нам ме́ста нет. Глядзі́м с тэй кана́вы – ха́та на́ша гары́ць, а буты́лкі таке́я кіда́лі, зажыга́цельныя. Буты́лка (а то йіна́, як лімі́нівая, ці што?) у зямлю́ ўе́дзіць і там гары́ць. На ха́ту кі́нуць гэ́ту буты́лку, і ха́та загары́цца. А тут ужо́ парціза́ны сядзе́лі, і Мі́шка наш, бальшы́ быў, і зь і́мі, у куста́х, на гармо́ні йгра́юць і ска́чуць парціза́ны.

Мы ў Астро́ўкі аж зайшлі́, кала Рыбушо́ў. А тады́ ўжо ба́цька і гэ́та Ва́лька-парціза́нка прыбе́глі і забра́лі нас. А тады́ ве́чарам дзярэ́ўню ўсю спалі́лі, усё спаласка́лі. Ве́чарам ба́цька ка́жыць: «Ну, куды́ вы по́йдзіці, там гарэ́лле, не́куды. Сядзі́ці ў кана́ві гэ́тай, блі́жы к дзярэ́ўні, і мы пры́дзем к вам». Нам жа начува́ць не́дзе. А парціза́ны ка́жуць: «Не. Праз нас дзярэ́ўню спалі́лі, мы вас забі́раім с сабо́й».

У Навасёлкі нас забра́лі. Мы па тры, па чаты́ры сям'і́ ў Навасёлках у ха́це жылі́. На палу́ зімо́й спа́лі. Зіму́ пераzімува́лі ў Навасёлках, а вясно́й ужо́ ме́ста нет нам. Мі́шка наш паеха́ў с парціза́намі за на́шай ба́бай. Іх там раз апстраля́лі, другі́ раз. Пае́халі, а ўжо ха́ту гэ́ту патпалі́лі. Вот і ба́ба згарэ́ла.

А тады́ ш, нет ме́ста ў Навасёлках. Таке́я кусты́ там бальшэ́я, і парціза́ны там хава́ліся, і мы ў тых куста́х сядзе́лі. А я йшчэ ні паніма́ла ніч́ога. Но́ччы засну́, была́ ў нас яшчэ́ каро́ва й конь, на падво́дзе на гэ́тай. Праснулася: «Та́та, а дзе гэ́та што сту́каіць?». А ён: «Гэ́та до́бра, што сту́каіць ды да нас ні далітаіць. Гэ́та снара́ды».

Тады́ забра́лі не́мцы нас у Баро́ўку. У Баро́ўку загна́лі, дзьве нядзе́лі ў Баро́ўкі жылі́. Круго́м гэ́тага до́ма абне́сіна калю́чай про́валкай. У бара́ку гэ́тым. А былі́ на́ры, вот ні́жняя, срэ́дняя і ве́рхняя. На ве́рхнюю ўжо набі́лася людзе́й мно́га, не́гдзе ме́ста. Пупа́лася нам срэ́дняя. А там такі́я і сла́быя, ці́фам забале́лі ма́лыя. А ўшэй было́! А во́шы бальшы́я! Не́ік спаць было́! А ніч́ога ж у нас ні было́: ні накры́цца, ніч́ога, як staі́м, што то́лькі на нас надзе́та было́. Ды дзень б'ём гэ́тых ушэ́й, но́ччы цёмна, тады́ вы́ганюць нас на прагу́лку ніб́ы з бара́ка, алі за про́валку за гэ́ту, ну і ахраня́юць нас. А не́мцы, каторы ахраня́іць, у іх былі́ такі́я, як гу́зікі, канфе́ты-лідзя́шкі, ці кусо́чык хле́ба, разло́міць. кі́ніць, а мы б'е́мся, кап хто схапі́ць – е́сьці ш хо́чым. А ён як стрэ́ліць уве́рх – мы ўсе атляці́мся ад гэ́тай про́валкі, і ніхто́ ня хо́чыць е́сьці. А дава́лі ў дзень нам паўлітро́вую ба́нку і сто грам хле́ба – гэ́та на су́ткі. Ма́тка жале́ла нас і ба́цька, са́мі адзін гэ́ты булён, ні бу́льбіны, ніч́ога не было́, з ба́начкі пап'ём, і ту́ю по́ўную не налію́ць. Вот так і жылі́.

Дзьве нядзе́лі аджылі. Нам сказа́лі: «У гэ́ты бок ідзі́це, куды́ хо́чыце, а наза́т – ні ша́гу». Ну пупа́лі ў не́йкую дзярэ́ўню – Чырствя́ды. І там была́ Ду́ська, і ба́цька хазя́йку нашо́ў, а ў йіе́ быў сын такі́, ні хадзі́ў, ён і нямы́. А ўжо ў гада́х такі́ і вуса́ты. І ба́цька сказа́ў сядзе́ць, а сам пайшо́ў за ма́ткай. Сядзі́м, Ду́ська прыбе́гла, ры́бу лаві́ла, нам па ры́біне прыняслі́. А гэ́ты ма́лец як по́ўз з ха́ты, бальшы́ ш, і – глаб за гэ́ту ры́біну ў Ва́ські. А мы як спужа́ліся, як увідзелі яго́, а ён такі́ абро́шшы, як закрычы́м, а куды́ бе́хчы – ні зна́ім куды́. Ду́ська як увідзіла, што мы бяжы́м, бяжы́м у той бок, атку́ль ба́цька нас вёў, вы́скачыла, аб'ясні́ла нам.

Тады́ з тых Чырствя́даў ніб́ы дамо́ў прышлі́. Прышлі́ – была́ зімля́нка ў нас, у зімля́нкі былі́. Паду́шка была́ адна́ йшчэ. А тады́ не́мцы прыйшлі́ і вы́гналі нас, паду́шку гэ́ту пупарва́лі, пе́р'е рассы́палася. І мно́га назьбіра́лі дзераве́нь і пагна́лі нас. Тако́е Крыву́шчына – дзярэ́ўня за Ду́браўкай. Ма́тка была́ бале́ла ці́фам. Вот ня мо́жыш іці́, ці я, ці хто, тады́ яны́ нас тут жа ў чаты́ры рады́ ста́вюць па чаты́ры чалаве́кі, і шарэ́нга бальша́я. Ня йдзе́ш ты – тут во шарэ́нга і тут во застрэ́люць. Ба́цька ка́жыць: «Дзе́ткі, як-не́буць ідзі́це». Ва́ську на калёсах цягну́лі, а я ўжо забалі́вала ці́фам. А ма́тка ці́фам ужо́ бале́ла, выздара́ўліваць ста́ла. І пад гару́ нас паста́вілі. І ка́жуць, шчас во ту́така бу́дзім начава́ць. А я ду́жа паніма́ю. Сарціру́юцца не́ік, сабіра́юцца ку́чай дзераве́нцы, а чаго́, не зна́ю. А на гарэ́ стаі́ць тры красі́вых такі́х, як цяпе́р ужо́ мне аб'ясні́лі, пулімёты. А нас пад гару́ – бу́дуць стрыля́ць. А тады́ прыйшла́ машы́на, така́я галу́бенькая, красі́вая, блісця́шчая. Пагі́ркалі са́мі сабо́й, пагі́ркалі і тады́ сказа́лі: «Ідзі́це ў гэ́ты бок, куды́ хо́чыце, наза́т – ні ша́гу». Ну, а куды́ ўжо, цямне́іцца. Дзярэ́ўня гэ́та не́йкая была́, як іна́ і зва́лася,

ні зна́ю. Ба́цька нас у пу́ню. А нас у пу́ні было́, мо́жа, сяме́й сем ці во́сем. І я так замары́лася і так ужо́ забале́ла. Як лігла́ ўжо і ня чу́ствувала, што там была́ дзвяры́на, і кля́мкай бок пралё́жыла, забале́ла ці́фам. А Ду́нька на́ша ўжо прайшла́ ціф, хадзіла па ста́рцах. А ніхто́ ні дае́ць е́сьці, не́чага ш е́сьці. У ба́бы ў не́йках, там бура́кі дзе́лала, вот расо́л, ні дала́ расо́лу гэ́тага папі́ць, а дала́ два бура́кі сыры́х мачо́ных. І мы сыры́я буракі гэ́тыя гры́злі, е́лі і ці́фам бале́лі і не памё́рлі.

Ну, тады́ атту́ль мы перайшлі́ ў Го́ры, у Гара́х былі́. Ужо́ ў пу́ні це́сна і хало́дна. І ту́така ўжо, ба́цька па-няме́цку пуніма́ў, пад узва́лкам ляжы́м, а снара́ды ў азяро́, калі дась! І вада́ кве́рху фанта́нам, і ры́бы там наглушы́лі мно́га. І тады́ ён чу́іць, што бягу́ць, ка́жыць: «Блі́ска на́шы ўжо! Цярпі́це як-не́буць». А тут не́мцы перашлі́ мост і ду́малі, што і́хныя там усе́, узя́лі мост узарва́лі, кап ру́скія не дагна́лі. А тут і́хных мно́га. І яны́ бягу́ць, гі́ркаюць і кіда́юць, што ёсь. Адзі́н кі́нуў ка́ску ды пра́ма мне ў галаву́. Ба́цька мне рот заці́снуў, каб я ня кры́кнула – пастраля́юць ад зло́сьці ўсіх. Ну й ляжы́м, цярплю́. А тут ужо́ на́шы ззаду за і́мі. І тады́ мно́га не́мцаў у плен узя́лі. Ну й ту́така нас тады́ ра́ды, цалува́ліся, благадары́лі.

І тады́ атту́ль нас пусці́лі дамо́ў іццí. А ў нас не́чага абу́ць, дзе тра́пкі які́я на́йдзем та́мака, но́гі апкру́цім, ко́лка іццí, хало́дна яшчэ́. Дамо́ў прышлі́. Прышлі́ на го́лае, нічо́га німа́, бліндаш і той разьбі́лі. Во так і жылі́. І нажыва́лі. Ні было́ ні бу́льбы, нічо́га се́іць, ні е́сьці. А ма́тка на́ша ў пліну́ асталáся. Паніслá Мі́шку е́сьці, і там забра́лі яе́. Мы год жылі́ біз ма́ткі ў Во́рлаві. А тады́ ўжо нам ка́жуць, што ма́тка ідзе́ць. Пайшлі́ яе́ ўстрыча́ць, а йіна́ й дзярэ́ўні сваёй ні зна́іць. Абміну́ла і пайшла́ на Палазе́р'е. Мы йіе́ піраня́лі. А ў ей во́шэй по́ўна, і йіна́ така́я йшчэ бальна́я, ішчо́ забале́ла. А мы ўжо жылі́ – ба́ньку не́йкую абла́дзілі. Ба́цька ба́ньку вы́тапіў. Там і спа́лі, там і мы́ліся. Адзе́жу пірадзе́ць не́чага. Напру́дзілі, на ка́мні пакіда́лі, ма́тку пірадзе́лі, памы́лі. І так жылі́, нажыва́лі. А дзе-то ба́цька заро́біў там бу́льбы, і тады́ абрыза́лі то́ўста. Шалу́пкі садзі́лі, а гэ́та – булё́н вары́лі. А с шалу́пкі ня вы́расла ні аднэ́й бальшо́й, така́я вот па́ранка. А на другі́ год ужо́ з гэ́тай больш пасадзі́лі. Ні каро́вы ні было́, нікаво́. Усё́ нажыва́лі. А Мі́ша наш пупа́ў – Аме́рыка яго́ забра́ла ў плен, гот не было́. А яму́ на́да было́ ў а́рмію іццí. Тады́ там у Аме́рыкі заро́біў два касцю́мы. Ён на грані́цы адда́ў адзі́н касцю́м, пупрасі́ўся: «Пусці́ці міне́ іс сваі́мі паві́да́цца, тады́ я сам прыду́ ў ваінкама́т». І за другі́ касцю́м мы купі́лі цё́лачку. Тады́ гадува́лі. Ну, а ён пайшо́ў у а́рмію. Во так паціхо́ньку і жылі́, і нажыва́лі.

***Расказвае В. І. Яскун, 1926 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Ульянаўка Бешанковіцкага р-на ў 2012 г.*

***

Я была́, як гэ́та, ўзьнік. Я сама́ ў не́мцаў была́, паку́ль вайна́ ня ко́нчылася. Ат Берлі́на во́сімсят кіло́метраў. Мы былі́ ў парцiза́нах. Не, сьперва́ былі́, во тут жылі́, пато́м парцiза́ны не́мца аднаго́ тут у саду́ забі́лі, і тады́ нас узя́лі, сабра́лі і пастро́лі нас, хаце́лі нас забі́ць, і пулімё́т ужо́ прыгна́лі. Пастро́лі нас і стаі́м, там не́мец з ле́су, му́сіць, ста́ршый прышо́ў, пагавары́лі па-няме́цку ( я ш тады́ тры кла́сы ко́нчыла), нам нічо́га ні сказа́лі, а пулімё́т пацягну́лі, і мы стаі́м, стаі́м, жджом, жджом, німа́ ніко́га, німа́. Нам ніхто́ ні сказа́ў расхадзі́ціся, ну, мы са́мі, раз ужо́ німа́ ніко́га, разышлі́ся і пашлі́ ў парцiза́ны.

Пато́м ако́пы нам загада́лі капа́ць. А тады́, як не́мцы ста́лі наступа́ць, сказа́лі пад жале́ску, дзе по́ест, перайці́ нам, сабра́лі нас ужо́ мно́га-мно́га. На́да паўсьці́ было́, а мы ня ўсьпе́лі паўсьці́. Гэта нам не зьве́чара, но́чы нам на́да было́, а не́мцы, му́сіць, заме́цілі, на́чылі апстрэ́ліваць. Тады́ нам парцiза́ны скама́ндывалі ў лес. Мы вярну́лісі і ў лес пашлі́. А пато́м, як у лес мы атступі́лі, ту́така не́мцы. Ды як наступі́лі на гэ́тых парцiза́наў, парцiза́н пара́нілі, а нас забра́лі. Тады́ ў насіле́нія яны́ ўзя́лі каро́ў атабра́лі і нам сказа́лі, каб шлі туды́, дзе гэ́тыя ваго́ны стая́лі. Мы йшлі́, а тады́ палядзе́лі, дзе бой быў, там сто́лькі крыві́, сто́лькі на́шых пабі́лі. А ко́ні былі́ няме́цкія, но́гі таўсты́я такі́я. Ну, опшчэ́, увесь бальша́к у крыві́ – стра́шна, ідзе́ш па крыві́. Кап вы то́лькі зна́лі, як успамі́наю, хачу́ пла́каць, стра́шна было́ так.

Ну, а тады́ ўзя́лі ў нас забра́лі гэ́тых каро́ў, пагрузі́лі ў ваго́ны і нас. І нас больш ні пусьці́лі. І пагна́лі аж у го́рат Цыта́ў. І да́жа, хто хо́чыць у тувале́т, да́жа і не пуска́лі, а зьдзе́лалі як кары́ты такі́я. І по́ест вёз нас, мы да́жэ ні зна́лі куды́. Прывязьлі́ нас ужо́ ў го́рат Цы́таў, до́ўга е́халі, ніякі́х усло́вій не было́. Я была́ така́я ху́дзенькая, а так я ўсігда́ была́ по́ўненькая, ну, ня е́ўшы былі́.

Пагна́лі нас у адну́ шко́лу, і там нас не́мцы сарцірава́лі каго́ куды́, ста́рых не бра́лі, маладзе́йшых то́лькі, такі́х пітна́ццаць гадо́ў, дзьвіна́ццаць. А на́ша ма́ма ўзіла́, калі не́міц пайшо́ў у гэ́ты бок, і перабе́гла к нам. До́бра, што з на́мі была́, а то мы ўжо падо́хлі п. Нас паго́нюць у строй на рабо́ту, а ма́ма по́йдзіць к не́мцу, яны́ называ́ліся ба́вары. Маю сястру́ забра́лі к ба́вару, а нас, мяне́ і сястру́, нас было́ тры, на заво́т. На заво́дах мы к самалёту прыка́львалі про́валку. С аднэ́й старанны́ каляса́ да друго́й старанны́ каляса́. На аднэ́й старанны́ нама́тана ў трубу́, яка́я цяніць про́валку на друго́е калясо́. А як апазда́ім, калі-не́буць па мо́рдзе про́валка по́йдзіць, шра́маў нам гэ́тых надзе́лаюць.

А мы ў падва́лах жылі́, з заво́да як забе́руць, пастро́юць і ў падва́л. Е́сьлі бальша́я бу́льбіна, дык адну́ пало́жуць і падліву, і ўсё, пато́м, е́сьлі ме́ньшыя, тады́ тры пало́жуць. Ну, яка́я там яда́!

Ма́ма пахо́дзіць па гэ́тых ба́вараў, дзе харо́шыя, як у нас мілі́цыя, у іх называ́лася жанда́рмы, дык тады́ прапу́сьцюць яе́, як харо́шы, уся́кія былі́. А як злы, дык адбе́руць, і ма́ма ніч́ога не пранясе́ць. Хто дасьць хле́ба, хто бура́к які́ дасьць, ма́ма по́йдзіць у качыга́рку сьпячэ́ць нам і пранясе́ць.

А пато́м ужэ́ лісто́ўкі ста́лі кіда́ць, во папро́буй сагну́цца, адра́зу б'юць бізуна́мі такі́мі. Прыгна́лі нас у заво́т, і не́мцы гэ́ты ўжо баяліся, што мы со́йдземся і бу́дзім саве́тывацца, не пуска́лі. Тады́ мы ўжо са́мі замі́цілі, як э́та лісто́ўкі паляце́лі, – настрае́ніе ў іх ужо́ ні тако́е ста́ла. Тады́ прагна́лі нас, зра́зу у падва́л, а вакно́ ў нас тако́е было́ высо́кае і з рашо́ткамі, мы ш ня мо́жым так, мы ш ня ду́жа бальшы́я былі́. Хо́чыцца нам знаць. Грымі́ць, а ў падва́лі ду́жа чу́тна гром. Грымі́ць і грымі́ць не́шта. А там мы ня мо́жым, адна́ на адну́ ста́нім і палядзі́м, аж гэ́тыя няме́цкія фу́ры, у гэ́ты фу́ры грузі́лі населе́ніе і атступа́лі ад го́рада. А тады́ пад у́тра ці́ха ста́ла, не іду́ць і не іду́ць не́мцы за на́мі. А яны́ ня ўспе́лі і забы́ліся, што мы там. Мы сядзе́лі ці́ха, глядзі́м, яны́ абра́тна ста́лі, а ра́ньшы ш пяхо́та была́ ні така́я, як цяпе́рака машы́ны, та́нкі там усё, вярхо́м на́ша разьве́тка была́. Палядзі́м – салда́ты на́шы, мы так узра́даваліся, што разьве́тка прые́хала, а пяхо́та ішла́ по́сьлі, на кані́. Тады́ мы абра́тна ста́лі, глядзі́м – пяхо́та. Мы тады́ ў дзьве́ры ста́лі сту́кацца, ста́лі крыча́ць, а гэ́та ўжо пяхо́та нача́льніку тады́ гаво́рыць, што там лю́дзі ёсьць у падва́лі, а ні зна́юць, рускія ілі не́мцы. Пяхо́та гэ́та пры́шла не на кані́ ўжо, на машы́ні ста́лі е́хаць. Падышлі́ к нам, а мы крычы́м, што мы свае́. Тады́ гэ́ты нача́льнік перапілі́ў замо́к і аткры́ў, а там цёмна было́, ён ня ві́дзіць, а мы гаво́рым, што сва́е. Старэ́йшых ужо́ пусьці́лі к дзьвяра́м: ма́тка мая́, яшчэ́ там мно́га такі́х ма́так зь дзяцьмі́ было́. То́ка аткры́лі, і яны́ к ім у но́гі, а ты́я гаво́руць: «Ну, падажджы́це, мы ста́ршаму ска́жым, што вы ту́така на́шы». Глядзі́м, іду́ць і салда́т вяду́ць і гаво́руць: «Хо́чаце есь?» Ну, ві́дзяць, што мы гало́дныя. Яны́ маладзе́йшых вы́бралі нас і павялі́ ў хлебапяка́рню. Надава́лі нам бато́наў, каньсе́рвы, гэ́тае чу́да! Каньсе́рвы надава́лі і накармі́лі нас. А тады́ гаво́руць: «Вы нікуды́ ня йдзі́це, бу́дзьце тут, мы гэ́ты го́рат заня́лі, ці́ха бу́дзіць, то́лькі ні разбяга́йціся, мы бу́дзім знаць, што вы ў нас ёсьць».

А да гэ́тага яшчэ́ ма́тка мая́ пашла́ ў шча́віль, сабіра́ць за гару́шкай, а там пулімёт стаі́ць, і салда́т ля таго́ пулімёта. І гаво́рыць: «Бабу́лічка, ідзі́ к нам. Мы бу́дзім сяго́нні но́ччу наступа́ць на гэ́ты го́рат, то́ка ты маўчы́, ска́жыш, мы цябе́ заб'ём». Угразі́лі. У гэ́ту ноч тады́ наступа́лі. Ма́тка прышла́, шэ́пчыць, што бу́дуць го́рат бамбі́ць. Мы маўча́лі, а тады́ мы ўжо пасьля́ сказа́лі, што ві́дзілі салда́та, які́ сказа́ў, што бу́дуць го́рат бамбі́ць.

Го́рат Цыта́ў ад Берлі́на быў во́сімсят кіло́метраў. Ішлі́ салда́ты на́шы, будзі́лі нас, забра́лі с падва́ла і распрадзялі́лі па ко́мнатах – не́мцы ж атступі́лі і ўсё пакіда́лі. Там было́ ўжо лу́ччы, кармі́лі нас, як салда́таў: салда́ты адзе́льна, а мы адзе́льна. Салда́ты і мы рабо́талі, яны́ касі́лі, зярно́ ўбіра́лі, а мы вяро́ўкамі ўбіра́лі ў снапы́, а тады́ малацілі. А тады́ і бума́га была́ красі́вая. І цьветы́ мы харашо́ дзе́лалі з гэ́тай бума́гі. І прывязьлі́ дамо́ў яшчэ́ гэ́ту бума́гу нямно́шка. Мы ж го́лыі, не́мцы ўсё пакіда́лі, а які́ мацер'я́л у іх быў харо́шы.

А вязьлí нас да граніцы нáшы, а салдáты ш такія былí нахáльныя, і дзяўчáты ніхарóшыя былí. Давязьлí нас, граніцу перавязьлí. Яшчэ́ нам там бáню дзéлалі.

Там метсе́стры прыéхалі і гэ́тых дзіўчáт стáлі правірáць, нашлí мнóга нячы́стых, страх. А як вязьлí нас, дык і салдáтаў мнóга éхала. А салдáты гэ́ты ўсё к дзéўкам, а катóрыя дзéвачкі былí харóшыя, а катóрыя і сáмі лéзьлі. Ну, прыхóдзюць пад нáшу машы́ну, ужó там пішчэ́лі і крычáлі. А мáтка мая́ гавóрыць ш шафе́рам, што салдáты дзéвак гэ́тых мýчыюць, скажы́, што мы зарáзныя. Яны́ патхóдзюць пат нáшу машы́ну, а мы пад машы́най ляжы́м, а шафе́р гавóрыць ім: «Мáльцы, калі хóчыце, кап вы чы́стыя былí, я вязý нячы́стых дзéвак». А я ж булá красíвая, касá бальшáя. І мáтка ўсё ўрэ́мя нас сахраня́ла. А салдáты брэ́шуць на нас усяк. Так нас прывязьлí чэ́сных. А як прывязьлí нас у Бешанкóвічы, то стáлі зноў правярáць нарýжны віт, а дакумéнтаў нікакíх нет. Мяне́ памаладзíлі, сястрý памаладзíлі, ну, усíх на два гады́. І мы два гады́ рабóталі лíшніх.

Прыéхалі мы дамóў – хáта спáліна. Пакýль там калхóс пастрóіў ізрýп. Нéчага ш тóжа былó есь. Мы ўвéсь, што прывязьлí мацер'я́л, прадáлі, у дзярэ́ўні прадавáлі. Так мы і гóлыя пааставáліся, есь жа хацéлася нам. У нас брыгадзíр быў, давáў нам бýльбы па вядрý. Ну, мы трóху і сабрáліся, так патóм і ражжылíся патрóху.

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК ШУМІЛІНСКАГА РАЁНА

У тэксты ўведзены характэрны для ўсходу Віцебшчыны рэдукаваны галосны няпоўнага ўтварэння, сярэдні паміж [а] і [ы], які ўмоўна абазначаецца сімвалам ъ.

***Расказвае К. І. Жыгуноў, 1935 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Мішкавічы Шумілінскага р-на ў 2009 г.*

***

Да вайны́ ў шкóлу я хадзíў нядóўга. Паспéў закóнчыць тóлька тры клáсы. Але ж умéў чытáць, пісáць, шчытáў. Патóм у канцы́ вайны́ тóжа аткры́лі шкóлу ў адны́м з ацалéлых ніч́эйных дамóў. Мы сáмі там прыбірáлісь, пéчкі тапілі, кап ні заме́рзнуць, яшчэ́ на ўрóках сідзéлі. У гэ́тым адны́м клáсі мы былí рáзных узрастóў: ат сямí гадóў дъ адзінáццаці. У шкóлі пісáлі чарнíлъмі. Іх мы сáмі дзéлълі з буракóў, с сóка буракóў. Пісáлі на нéйкіх абрíўках стáрых газéт. Нікатóрых бацькí ў шкóлу ні пускáлі, калі былó халóнна. Абýць нам ні ўсігдá былó чагó. У це́плыя ўрэ́мя хадзíлі бъсякóм. Яшчэ́ ні пускáлі, як дóма былó мнóга рабóты. Мы, малы́я, пъмъгáлі й сéіць, й къпáць, глідзéлі карóвы, кóні, дзéлълі сéна на зімý. Чагó мы тóлька ні дзéлълі. Ні былó ў нас стóлька ўсягó, як ціпéр у дзяцéй. І вы́ръслі нърмáльнымі людзя́мі. А ціпéръшнія мъладзе́ш? Што ні папрóсюць, усе́ ім бацькí купля́юць. Яшчэ́ саплíвы, а ўжо й часы́ на рукé нóсіць, усягó ім пънадзéнуць. Пóмню, на дзень нарóдзін бáцька паве́с міне́ ў гóрат выбірáць дарýнак. Дык ат такóга шчáсьця й ні знаў, што вы́брацць. Мнóга чагó хацéлась, а выбірáць нáда былó адно́. Бáцька купíў мне міхані́чныя часы́. Дык патóм усé мáльцы хацéлі сабé такія часы́.

***Расказвае Н. Я. Пісарава, 1941 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Мішкавічы Шумілінскага р-на ў 2009 г.*

***

Лéта – гэ́та харашó. Скóра прыéдзіць к мінé мая́ віндэ́шычка – гэ́та ўнýчычка. Янá ў Віціпску жывéць. Янá к мінé на лéта прыіжджáіць зь дзіце́нкам сваíм. Гэ́та ўжо мой прáўнучык. Прáвільна дзéлыіць. Тут сьвéжы вóздух, вадá дóбръя, сваé гуркí, лук, пъмідóры, я́гады, бýльба. Мáлы тут лýчшы расцéць. І мінé дóбра. Янá мінé ўсё піраррóбіць: й на гарóдзі, й у хáці. У гарóдзі ўсё пъпóліць, пъпылівáіць. У хáці пъпрыбірáіць, пасьцéлі пъвътрысáіць, пъперасýшыць, усе́ пъратрэ́ць,

пърамы́іць. Лю́біць яна́, як усё́ стаі́ць нъ сваі́х міста́х. Адзе́жу маю́ складзе́ць у шка́фе, усе́ збанчо́кі ў ку́хні паста́віць на ме́сты, у кладо́ўкі навядзе́ць міне́ пъра́дък.

Яна́, як й я, лю́біць зъйма́цца цьвіта́мі. Яшчэ́ вясно́й у гаро́ччыку пънасе́іла цьвято́ў. Усе́ ра́зныі. А пра́ўнучык мой йшчэ ма́лый. Сё́літа ўжо хо́дзіць, пры́дзіцца зь яго́ воч ні спуска́ць.

***Расказвае Н. Я. Пісарава, 1941 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Мішкавічы Шумілінскага р-на ў 2009 г.*

***

Нам усё́ ўрэ́мя жыло́ся нялё́хка. То въйна́ была́, то пато́м ляхчэ́й ні ста́ла. Кап хоць е́сьці было́ чаго́, усягды́ дзіржа́лі сваё́ хъзя́йства. Ку́рыцы былі́ й бальшы́я, й ма́лыя. Ма́лых ча́ста краў каршу́к. Як наляці́ць зьняна́цку, ча́пніць. А ты стаі́ш, хоць плач. Так бы пазгу́ры яму́ пъбла́мвъла. Дзіцё́нкі на́шы па́сьвілі й ко́ні, й каро́вы, гра́білі се́на. Дзіржа́лі сьвіне́й. Як мы ра́дъвълісі, калі іх атгадо́ваных забіва́лі. Мужыкі́ зарэ́жуць, разьбяру́ць, апсма́люць. Ба́бы гэ́та ўрэ́мя ім пъмъга́юць й е́сьці гату́юць. Нъ скъвърадзе́ скврърча́ць са́ла, мя́са, пячо́нка. Як ужо́ ўсё падзе́лаўшы, пъто́м мы садзі́мся е́сьці. Ат таке́й смажані́ны ўсе даво́льныя. Дзіцё́нкі вы́мъжуцца, як сьвіню́шкі. Ат даво́льныя! Ця́шка было́, як успо́мню, а то ш былі́ мълады́я, здаро́выя. А ціпе́ркацька вунь і сэ́рца балі́ць, хадакі́ пло́ха йдуць. Як гэ́та да́льшы жыць?

***Расказвае Г. Ф. Арцем'ева, 1938 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Мішкавічы Шумілінскага р-на ў 2009 г.*

***

Сё́літа пасадзі́ла я гаро́т ме́ньшы, чым у про́шлым го́дзі. Ні магу́ мно́га ро́біць. Здаро́ўе ўжо ні то́я. Ка́жды гот усё́ цяжэ́й і цяжэ́й. А хо́чыцца пъкъпа́цца ў гра́дах. А бо́льшы люблю́ сабіра́ць грыбы́. Нап'ю́ся таблё́так цэ́лую аха́пку і пайду́. Ё́сьць у нас лес ніда́лё́ка, там мно́га расце́ць грібо́ў. Ё́сьць ра́зныя: сырае́шкі, мъсля́ты, лісі́чкі, падбяро́зъвікі, пъдасі́нъвікі, бъръвікі́. З грыба́мі мо́жна мно́га чаго́ дзе́лаць. Іх жа́руць, ва́руць. Бъръвікі́ ду́жа хърашо́ сушы́ць нъ зіму́. На́да іх пі́ръбра́ць, парэ́заць, пъста́віць нъ патэ́льні ў пе́чку, кап со́хлі. Уку́сна грыбы́ е́сьці з бу́льбай, хле́бам, вары́ць суп грыбны́. Мае́ ўну́кі про́сюць бліі́нчыкі з грыба́мі. Я грыбы́ перабіра́ю, мы́ю, вару́. Ва́рыцца яны́ до́ўга. Пе́ну зь іх на́да зьніма́ць. Пато́м ва́раныя перакру́чваю на міса́ру́пку. У гэ́та ўрэ́мя вару́ яйцо́ і абжа́рваю на скввърадзе́ лук. Да лу́ка лажу́ парэ́зъная зва́рънае яйцо́ і перакру́чъныя грыбы́. Забы́лася саўсі́м. Усё́ гэ́та на́да пъсалі́ць, у бліны́ патро́ху кладу́ гэ́тай ма́сы. Зъвара́чываю іх і абжа́рываю на скввърадзе́. Так уку́сна! За ву́шы ні аццягніш.

***Расказвае М. В. Еўсціфееў, 1937 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Крывое Сяло Шумілінскага р-на ў 2008 г.*

***

Сама́ [рыба сом] брацьмо́жна ра́зна: на шнур, асьцё́м, кры́гай, тапту́хай.

На шнур ста́вяцца крукі́ бальшы́я с казытко́м, на іх садзі́ць на́да жыўца́. Жыўца́ на́да капа́ць у закаба́інах ці на іспо́ле на дне, дзе мно́га і́ла. Садзі́ць на крук на́да астаро́жна, пат шку́рку, штоп не пашла́ жыві́ца. Е́сьлі пайдзе́ць жыві́ца, то такі́ жыве́ц ніку́ды́ не го́дны. Шнур кіда́ць на́да зра́зу за бурья́к, дзе паглу́пшы.

У кры́гу сама́ бра́ць на́да ці ў нача́ле іюля, ці ў канцы́ а́ўгуста, када́ ён ты́чыцца ў траву́, ці зрання́, пака́ ішчо́ со́нца не ўста́ла.

На дзяду́ на́да ста́віць здараве́йшага мужыка́, штоп мох удзіржа́ць кры́лле. На да́льні крыль – са́мага высо́кага. То́е ж і таптýхай, то́ка ця́глай на́да пахло́пываць ча́ста. Асьцё́м на́да біць пад во́сень, пъка́ въда́ пъхъладне́ець. Біць на́да за галаву́ ско́сна і падыма́ць ско́сна, а то сърве́цца. А вот на квоч не лаві́ў ні ра́зу. Ба́цька, пъка́ жывы́ быў, кво́чыў, а я не.

***Расказвае Ф. П. Бароўка, 1936 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Крывое Сяло Шумілінскага р-на ў 2008 г.*

***

Ой, жы́лі мы ў бе́днасці, бо въйна́ была́. Не́мцы пъзъбіра́лі пачці́ ўвесь скот, а нас у ма́ткі сем душ было́, во як. А е́сьці на́да не́штачкі, дык ма́мачка зь мя́кіны і крапі́вы хлеп дзе́лала ў пе́чы. Адзё́жы не было́, са́мі шы́лі сабе́ й пла́цці, й спадні́цы зь мешкаві́ны. У то́я ўрэ́мя нам хво́рсы ні на́да бы́лі. Ой, а ро́біць жа хадзі́лі, не дай бажэ́, с са́май ра́нічкі і с цё́мным ужо́ ідзе́ш у ха́ту й нох не чу́еш, а папро́буй не пайці́.

Ра́ньшэ не бы́ла гэ́тых канба́йнаў, усё́ во гэ́тымі ру́чкамі ро́білі. Ско́лькі яны́ паро́білі! Жнеш, а жа́рка, пот цячэ́ць, а нікуды́ не дзе́ніся. Пяцё́ра брато́ў было́ яшчэ́ ў мяне́, як ба́цька на фронт пашо́ў. Дык у ма́ткі адна́ надзе́жда на іх была́. Ва́нька са Сла́ўкам вапшчэ́ ма́лыя бы́лі, а астальны́м ужо́ па трына́ццаць, па шъсна́ццаць гадо́ў было́, то́жа хадзі́лі ро́біць. Шчас во гляджу́ на маладзё́ш й дзі́ву даю́ся: чаго́ ў іх то́лькі німа́, мы тако́е да́жа й не зна́лі. Вот як вре́мя міня́ецца.

***Расказвае М. В. Шыёнак, 1934 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Крывое Сяло Шумілінскага р-на ў 2008 г.*

***

Бы́ла яшчэ́ маладу́хай, дык хадзі́ла на вечары́ны, як ціпе́р гэ́та дыскатэ́камі называ́юць. Сабе́рымся ў бальшо́й ха́це, ма́льцы на гармо́ніку як даду́ць, а мы з дзе́ўкамі ўжо выпля́сываем. Ой, а інцярэ́сна ж бы́ла! А як пры́дуць чужы́я ма́льцы й с Чарне́цкага й з Зака́менцаў, а ўсе кръса́ўцы, як дубы́! Пато́м як зададу́ць гъпака́, аш шы́бы трасу́цца ў во́кнах.

Хадзі́ла на кірма́ш яшчэ́, а кірма́ш вялі́кій быў. Мне, яшчэ́ по́мню, брато́к прывё́с матыр'я́лу шо́ўкавага, а ма́тка пашы́ла мне пла́цце, як ра́ньшы мо́дна бы́ла, со́нца-клёш такі́я. Я як адзе́ну яго́, валасы́ навяду́, дык хадзі́ла па кірмашы́, як цары́ца, усе́ ма́льцы зъгля́дываліс.

Събіра́лася яшчэ́ ве́чарам уся́ мъладзё́ш, палі́лі касьцё́р каля ле́су, пе́лі пе́сьні, дзіўча́ты як завяду́ць, а прыго́жа, ажно́ душо́й аддыха́еш.

***Расказвае Н. С. Чарняцова, 1936 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Бокішава Шумілінскага р-на ў 2008 г.*

***

Пе́рвы рас я эле́ктрыку ўві́дзела ў вайну́. Не́мцы, што жы́лі ў на́шай ха́це, прывялі́. Мы сідзе́лі за каптуро́м і ві́дзелі, як не́мец круці́ў не́шта пат паталко́м. А пато́м як ста́ла я́рка! Ма́тка прыбе́гла з дво́ру, ду́мала, што пъжа́р. А не́мцы рагочуць, дастаю́ць бу́тлю с сі́вушкай і крыча́ць ма́ццы: «Дъва́й на стол, па́ні!» Ма́тка аткры́ла засло́ну ў пе́чы, дъста́ла мундзяро́ў кацяло́к. Нъча́лі піць. А брато́к мой ста́ршы Іва́н хаце́ў сьпе́рці ў не́мца папіро́сы съ стала́. Не́мец увідзеў і замахну́ўся на Ва́ньку ружжо́м ды зацапі́ў ла́мпу. Та́я і разьбі́лася. Вы́гналі нас не́мцы с ха́ты і нъчава́лі мы ў камо́ры. На ўсю жызьнь запо́мнілі мы ту́ю эле́ктрыку.

***Расказвае В. П. Банадысенка, 1935 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Сінякова Шумілінскага р-на ў 2008 г.*

***

Пъсля́ вайны́ как бы́ла: мужыко́ў, шчыта́й, не было́, а ро́біць на́да. Мне тады́ чаты́рнацаць гадо́ў бы́ла, бъльша́я ўжэ, ма́тке пъмъга́ла ў калхо́зі: се́яла, жа́ла, кано́плі мо́чаныя церапла́, пато́м вяро́ўкі зь іх віла. Не да наву́кі бы́ла. Да вайны́ тры кла́сы і пато́м адзін судо́лела. Пато́м, як ма́тка паме́рла, пъшла́ ро́біць на фе́рму. Тры разы́ на́да бы́ла падаіць па со́рак во́сем цясю́так. Прыдзе́ш, быва́ла, у ха́ту і нох пат сабо́й не чу́ствуеш, а я адна́ дзе́ўка ў ха́це была́ ды два браты́. На́да бы́ла і ім не́шта е́сьці навары́ць. Е́сьлі ле́там, дык яшчэ́ ў лес хадзілі ў грыбы́ і ў я́гады, кап зімо́й што е́сьці было́, гро́шый жа не хвъта́ла. Браты́ на калы́мы хадзілі, тады́ прынясу́ць ці хле́ба, ці са́ла, ну, быва́ла, і гарэ́лкай распла́чываліcь. А што дзе́лаць? Пато́м дзе́да сустрэ́ла свайго́, дъчка́ паявілася. Ой, ско́лькі прабле́м было́, ну але ж жысь лё́хкай не быва́ець. Ну, зато́ ціпе́р дзе́ці, уну́кі прыяжжа́ють з го́рада, пъмага́ють, а мне ўсё весялей.

## *ГАВОРКІ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*В. М. Курцова*

### ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАЛЕССЕ ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА

***Расказвае М. Р. Крупенькіна, 1936 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2010 г.*

АДМЕТНЫЯ ВЫСЛОЎІ І ІХ ТЛУМАЧЭННЕ

***Сем баб – не воз, ліж ба конь вёз***

Насе́ла бага́та баб на воз, шчы́тай у два рады́. Я й кажу́: «Гля́ньце, дзе́ўкі, нас дзе́віць чалаве́к, а конь жа вя́зе». А Калі́на, шчэ й падшу́равая яго́.

***Аддай жонку, а сам – у саломку***

Вот пры́дзя не́йкі чалаве́к пазыча́ць чаго́ к другому, а чалаве́к е́ты шкаду́я і ка́жа: ага́, адда́й жо́нку, а сам у сало́мку.

***Дай карове пад нос, тады глядзі пад хвост***

Як нако́рміш скацíну, тады́ і надо́іш мала́ка.

***Зямля цябе не багаціць, а толькі гарбаціць***

Так і ё: зімля́ ні бага́ця, а то́лькі гарба́ця.

***Лепш у латаным, чым у хватаным***

Я залата́ю, да яно́ сваё, а кра́дзіная, чалаве́к пры́дзя ды зьдзярэ́ зь цібе́. Вот у нас ... дзе́ўкі укра́лі гардзíны у Го́мілі, прывя́зьлі дамо́ў, на Па́ску ма́тцы паве́сілі, а хазя́йцы не́хта сказа́ў, йдзе дзе́ліся іе́ гардзíны. То яны́ наза́ўтрага прые́халі, зьнялí і наза́д адда́лі.

***Наша Сора шые ды пора***

Э́та така́я жэ́ншчына, што ні мажэ́ зра́зу зьдзе́лаць. Усё ж ка́жуць: сем раз паме́рай, а раз атрэ́ж. А другí – шах-шах, парэ́заў і гато́ва, а шыць німа́ чаго́.

### *Не гані каня кнутом, а аўсом*

Ды каня́ накармі́ аўсо́м, дык ён сам пабяжы́ць біз кну́та.

### *Не хвалі ні кілу, ні волю*

Сва́руцца ба́бы і адна́ адно́й ні ўва́жуць, а збо́ку стая́ць другея́ ды ка́жуць: ні хвалі́ ні кілы́, ні во́лі, і та́я хараша́, і та́я хараша́. А каб адна́ ува́жыла друго́й, тая́, друга́я, б сказа́ла: вот я хараша́, а ты г.....

### *Пiлiпаўскiя ночкi дзелаюць сарочкi*

У такі́ час, як ціпе́р, во́сіньню, но́чы ужо́ бальшэ́я, тады́ усё праду́ць і праду́ць. У чаты́ры часы́ на ко́міні кладу́ць смалу́ і к смале́ праду́ць, вот за ноч і на саро́чку напраду́ць. А пры́дуць Варва́ры – палаві́на но́чы атарва́лі. Дзень начне́ прыбаўля́цца, лу́ччы прасьць бу́дзя. Праду́ць усю зіму́. А пры́дзя пост – начына́юць ткаць. К Па́сцы на́да усё піратка́ць.

### *Мая сарамяжка не цяжка*

Калі сваё ня́сеш, як дзіцё́нка, ні цяжо́ла табе́, што мая́ сарамя́жка ні ця́жка.

### *У каровы малако на языку*

Вот, напрыме́р, пахадзіла каро́ва харашо́, то ужо́ наза́ўтрага іна́ малака́ дасьць бо́ляй.

### *Улетку – ножкай, а ўзімку – ложкай*

Як сядзі́ць чалаве́к на адно́м ме́сьці, што ён вы́хадзя? Ніччо́га. Бо́лі чалаве́к ні сядзі́ць, а ро́бя, то і ма́я. Так жа ка́жуць: ваўка́ но́гі ко́рмюць. Пахо́дзіш до́бра уле́тку, то узі́мку зно́йдзіш.

### *Хлеб – не зяць, паглядзяць да з'ядзяць*

Быва́я тако́я, як са́мы пяклі́ хлеб. Вот стая́ла плаха́я паго́да, ні вы́сушуць зярно́, яно́ пагніе́, тады́ і мука́ плаха́я, гніла́я. І хлеб такі́ ж плахі́. А бабы́ між сабо́й пірагава́раюць: ой, хлеб пага́ны, на скары́нку сеў. А друга́я хазя́йка ёй атвіча́я: а хлеб ні зяць, паглі́дзяць да зыдзя́ць.

### *Хто святы пытае, той старае латае*

Е́та пры́казка усё пра лень. Паку́ль като́рая ляні́вая [жанчына] пахо́дзя прапыта́я, яко́я сьвя́та, рабо́тац не́калі. Так і гаво́руць: хто сьвя́ты пыта́я, той ста́рая лата́я – не́калі яму́ жыць. Тады́ шчэ бу́дзя каза́ць: ой, дзе́вачкі, забы́лася, што ў се́раду сьвя́та, была́ адна́ руба́шачка і та́я ні пра́та. Като́ры чалаве́к рабо́тая, яму́ ўсігда́ бу́дзя харашо́, а като́ры ляні́вы, нахо́джая сабе́ прычы́ну, чаго́ рабо́та ніра́бо́таная.

### *Чалавек збiрае грошы, а чорт машну шые*

У каго́ гро́шы ні вяду́цца, ка́жа: ой, ка́рман дзіра́вы, пацíра́ў гро́шы.

### *Як ба хто пёк да варыў, дык ба еў і хвалiў*

Вот чалаве́к хва́ліць: як до́бра навары́ў. А хто пёк і вары́ў, утамі́ўся, мо́жа і гра́ма ні паку́шаў.

### *Як просяць, то жнуць і косяць*

Як про́ся чалаве́к, абішча́я залаты́е го́ры, а як іспо́льзаў то́я, то і на чалаве́ка забы́ўся. Забы́ўся, што і браў. То так: як про́сюць, то жнуць і ко́сюць, а во́лю сваю́ утвары́ў, то мажэ́ць атвярну́цца і паруга́ць цібе́.

### *Якая нi барышэнька, а прыбяры харашэнька*

Вот прывязьлі́ мне зірна́ – е́та мне бары́ш. Які́ б ён ні быў, а ты прыбяры́ яго́ харашэ́нька.

### Які не дожджычак, а лодырам аддышка

У лайдака́ так: ой, хма́рка ідзе́ць, ой, хоць бы до́жджычак, ды скарэ́й тады́ і скры́ўся ці сеў ці лёг.

### Бог шэльму меце

Напрыме́р, хто́й-та зьдзе́лаў шко́ду – укра́ў, і ямý ста́ла пло́ха, тады́ сасе́д гаво́ра ці лю́дзі абсужда́юць: бог шэ́льму ме́ця.

### Воўк сабакі не баіцца, а звягі не любіць

Я сільне́йшы чалаве́к, а е́та, мо́жа дзіцёнак, чы́м-та ямý угража́я, тады́ ямý атве́т такі́ даю́ць: зна́іш, воўк саба́кі ні баі́цца, а зьвягі́ ні лю́бя.

### Да пары (да ўрэмя) збан ваду носіць

Вот чалаве́к кра́дзя і кра́дзя і ўдруг пайма́ўся, ямý людзі́ і гаво́руць: да ўрэ́мя збан вадý но́ся.

### Загадай дурню маліцца, дык ён лоб разаб'е

Таке́я лю́дзі ё: ўро́дзі ён ні пры сваё́м уме́. Вот і гаво́руць: загада́й ямý (бра́ту, дзядзьку, ну, любо́му) малі́цца, дык ён бу́дзя малі́цца, паку́ль лоб ні разаб'е́.

### Каню не вер у дарозе, а бабе дома

Ё така́я ніве́рнасць у жэ́ншчын: яны́ пра́ўды ні гаво́руць. Так і ка́ню: раз ён ніпрывя́заны, ён узя́ў і пашо́ў. Ік е́таму пры́казка: каню́ не вер у даро́зі, а ба́бі до́ма.

### Карову б'юць за зык, а бабу за язык

Каро́ва зазыку́я, бя́жыць, іе́ дамо́ў прыго́нюць, до́ма б'юць. Так і ба́ба: з ву́ліцы пры́дзя, бра́хню прынясе́ – ба́бу наб'юць за до́ўгі язы́к.

### Курыца на сваю галаву пяе

Ку́рыца бу́дзя пець да тых пор, пака́ ёй галаву́ атсяку́ць. Ку́рыца ні так пяе́, як пе́вінь, іна́ шквярэ́цца то́лькі, вот на сваю́ галаву́ іна́ і пяе́.

### Не дай бог свінне рогі, а мужыку панства

Калі ж мужы́к ужо́ забагаце́ў, то ямý і мо́ра па калéна. Хвасту́н з багачо́м раве́н, ні сто́лькі ён забагаце́ў, ко́лькі ён захва́стаўся. Бага́ч нікалі́ ні бу́дзя хва́стацца. Яго́ бу́дуць ба́чыць лю́дзі, што ён бага́ты. А пахва́стайся, пры́дуць, укра́дуць.

### Не смейся чужой бядзе, свая на барадзе

Пасьмія́ўся ш чалаве́ка, а твая́ біда́ прышла́ к табе́ сама́.

### Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду скажа

Хто мё́дам ма́жа, нагаво́ра сем бо́чак арыста́нтаў, а хто пра́ўду ска́жа, той чалаве́к.

### Не хвалі сам сябе, хай людзі пахваляць

Ё ж таке́я лю́дзі: ме́ля-ме́ля языко́м, хва́стаіцца што бо́жа ты мой мі́лы, а то́га на сьве́ці й німа́.

### Пан любіць даносы, а даносчыкаў не

Тых людзе́й прада́жных, хто дано́ся, ні лю́бюць ніхто́.

### Слухайце, баяры, што князь бае

Калі чын які-не́будзь, рукава́дзіціль, яго́ на́да слу́хаць, што ён там гаво́ра.

### *Харошая мысля прыходзіць апасля*

Чалаве́к пасьпяшы́іць, зьдзе́лая, а напо́сьлі пірадумая: эх, было́ б лу́ччы так.

### *Чужыя грахі іспаведуе, а сваіх не ведае*

Бу́дзя чалаве́к пра чужо́я гавары́іць, а свайго́ ні ба́ча, тады́ бу́дуць каза́ць так: чужэ́я грахі́ іспаве́дая, а сваі́х ні ве́дая.

### *Язык у роце, як чорт у балоце*

Вот ідзе́-не́будзь ты ніч́ога ні ба́чыў, а узя́ў прамало́ў языко́м. А чалаве́к прыбе́г к табе́ разьбіра́цца, свары́цца, а ты сядзіш і сабе́ ду́маіш: язы́ча, язы́ча, ты ва мне сядзіш і зло мы́сьліш.

### *Ад маленькіх дзетак рукі баляць, ад бальшых – сэрца*

Ма́лінькіе дзе́ці на рука́х, на рука́х, а па бальшо́му ні ру́кі, а се́рца балі́ць.

### *Брат мой, а еж хлеб свой*

Як усе́ уме́сьці жы́вуць, – усе́ дзе́ці ро́ўные, а падрасту́ць – ка́жны сабе́ сабе́ча. Сабе́чыць – зарабля́ць сваёй сям'і.

### *Будзеш даваць дзецям волю, сам будзеш у няволі*

Дзе́ці хо́чуць усё, каб ён, каб што хацеў, то й дзе́лаў. Е́та яму́ во́ля.

Вот такі́ слу́чай. Дзед надзе́лаў ра́жак і павёз за Сож – у Наву́хавічы, у Сябро́вічы [назвы былых вёсак], той старано́й. Павязьлі ра́жкі. На́да начава́ць. У то́га папро́сюцца – той ні пуска́я, другі́ ні пуска́я. Папрасі́ліс ка днаму́ чалаве́ку. Яны́ былі́ маладэ́я, быў у іх хло́пчык, хло́пчык гадо́ў шэсьць. Пашлі́ дагліда́ць радзі́цілі хазя́йства, а хло́пчык на карні́зі сядзіць і усё крычы́іць: а ры́нусь, а ры́нусь. Дзед ні вы́цірпіў і сказа́ў: маць тваю таку́ю, а ры́нься. Хло́пчык узя́ў с карні́за ўпаў. А дзед, што з ра́жкамы, начы́сьціў бульбы́, паста́віў вары́ць. Тады́ ж усё с сабо́й вазі́лі. А тут увахо́дзюць хазяі́ва́:

– Чаго́ ты тут ляжы́ш? – на дзіцёнка.

– Ма́мка, я до́ўга крычэ́ў а ры́нусь. Яны́ ні вы́цірпілі і сказа́лі: а ры́нься, я ўзяў да упа́ў дало́ў.

І тэй хазя́ін разруга́ўся: на́да было́ ніч́ога ні каза́ць, ён ба крыча́ў-крыча́ў і засну́ў. І вот хазя́ін узя́ў і вы́гнаў дзе́да с ха́ты насупраць но́чы.

### *Дзве маткі ў адным вуллі не ўжываюцца – раіцца будуць*

Дзьве сям'і у адно́й пе́чы ніка́лі ні пала́дзюць. Так і ў раі́ дзьве ма́ткі бу́дуць да тых пор бі́цца, паку́ль адна́ пабідзі́ць.

### *За зубамі пад'есць, за маткай паспаць*

Як жа зу́бы – пад'ясі́ харашо́, а за ма́ткай пасьпі́ш. Ма́ццы і на́да калі пабудзі́ць дзіцёнка, а йна: ай, ты гуля́ла до́ўга, пасьпі́.

### *Каждая сварка – у сям'і папраўка*

У сям'е́ вот абі́да ё: усе́ ж ніадзіна́кавые. Адна́му на́да каб зьвільну́ць, сьхітрава́ць. Пачына́іцца сва́рка. І хто ду́мая: ага́, мне ўжо вы́гавар. Зна́чыць, я даўжна́ сама́ ўсё е́та папра́віць: мне ж вы́гавар.

### *Па пародзе куры хахлатыя*

Сім'я́ бага́тая, зна́чыць, і ку́ры хахла́тые.

### *Сена – не падушка, нявестка – не дачушка*

Мая́ няве́стка яка́я ні харо́шая, а йна мне ніка́лі ў жы́зьні ні пазвані́ла. Вот к таму́ і пры́казка: се́на – ні паду́шка, а няве́стка – ні дачу́шка.

### *У каго дочкі, у таго маткі без сарочкі*

Ма́тка усё до́чкам, до́чкам, каб до́чкі былі́ красі́вые, каб красі́ва надзе́ты былі́, а ў само́й ма́ткі саро́чка каро́тка.

### *У каго матка, у таго і галоўка гладка*

Ма́тка пра усё пазабо́ціцца. Ты пагуля́ла – пасьпі́. У каго́ ма́чыха, чужо́га дзіця́ жале́ць ні бу́дзя. Іе́, дзе́вачку, пасы́нка, і разбу́дзя, і на рэ́чку атпра́вя узі́мку. У каго́ ма́тка, ма́тка пастара́іцца усё сама́ зьдзе́лая. Мачы́ха жале́я свайго́ дзіця́: е́та ж іе́ кроў, а чужы́ дзіцёнак, які́ б ён харо́шы ні быў, на яго́ абі́да. Ён і ло́жку ні так памы́ў, ён і ні так пахадзі́ў. Свой дзіцёнак разальле́ ваду́, ма́тка во́зьмя тра́пку і падатрэ́, а па́сынак разальле́, мачы́ха крычы́ць: такі́-сякі́, бяры́ тра́пку і паццьцíра́й.

### *У каго сем – тым і доля ўсем, а ў каго адно – і тое не людно*

Йдзе сем дзіце́й, там яны́ друг за дру́га, там яны́ сваі́м табуно́м, і чалаве́ка прыгалу́бюць к сабе́. А адзіно́кі ён адзі́н. Стаў у куто́чку да й стой. Ніхто́ за яго́ сло́ва ніўдзе́ ні закі́ня, патаму́ што ён адзіно́кі.

### *Чужы ворах веяць – вочы парушыць*

Сваё яко́я яно́ ні ё, рабо́таіш, а чужо́я, куда́ ні пайдзі́, яно́ чужо́я. Яго́ й рабо́таць ніахо́та, чужо́га.

### *Чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала*

Дзіця́, паце́ш яго́, дай яму́ ла́ску сваю́, ён цібе́ і паце́ша, і палю́бя. Любо́я раскажы́, калі ён такі́ тро́шкі ла́днінькі, дзіцёначак, ён паслу́хая.

### *Які целеш, такі й клін, які бацька, такі й сын*

Це́леш што? – Ш чаго́ це́шыш клін. Як сьціса́ў харашо́, то й клін харо́шы. Паглядзіця, вот адзі́н чалаве́к вы́піўшы, яму́ гавары́ць ні на́да, яму́ спаць. А другі́, як сасе́д наш, вы́п'я, тады́ адно́ й адно́ талды́ча біз разбо́ру. Ці іна́чай. На́шы хло́пцы са́мы рукавы́ ні зака́саюць, ніка́лі ў жы́зьні бі́цца ні бу́дуць, бо́жа ўпа́сі. А другі́ чалаве́к абы́ гля́нуў, ідзе́ б'ю́цца, ён туда́ бяжы́ць і гато́ў сва́е права́ устаўля́ць.

### *Брат любіць сястру багатую, а мужык – жонку здаровую*

Калі сістра́ бага́тая, брат ча́ста хо́дзя к ёй. Сістра́ што-не́будзь да й падо́ра, падо́ра яму́. А хазя́ін лю́бя, каб жо́нка усё рабо́тала і рабо́тала. І калі стамі́лася, папро́ся жо́нка: хадзі́-ка ты памажы́, ён атвіча́я: ты зна́іш, як мая́ галава́ балі́ць. Вот прыме́р. Я ў по́лі раскіда́ла гной, так я ўтамі́лася. Тры часы́ ўрэ́мя, а ў міне́ вады́ ка́плі ў го́рлі ні было́. Прашу́ хазя́іна: памажы́, но ніхто́ ні кі́нуўся.

### *Другая жонка як учарашні борщ*

Ты ш чалаве́кам на́чаў жыць, ты чалаве́ка паніма́іш. А стань з другі́м жыць, яно́ во́ўсі ні тая́ жызьнь, ні той дух да́йжы, як с кім ты пачына́ў жыць. Раскажу́ тако́я. У нас было́. Сь Селі́ніна ажані́ўся чалаве́к, у яго́ жо́нка паме́рла у вайну́. А ў Ку́клічах засталя́ся удава́, Зе́на зва́лі, у йе на вайне́ пагі́нуў хазя́ін. Іна́ ні магла́ жыць адна́: ха́ты ні было́ у йе, прапа́ла у вайну́. А мы хадзі́лі у Ку́клічы Міко́льшчыну гуля́ць. Там іе́ ўсігда́ гуля́лі дзівітна́ццатага дзікабра́. Э́та прыгласі́ла нас е́та Зе́на. Іна́ нам і сказа́ла: ні йдзі́ця за́муж, дзе́ці, ні за ражжэ́на, ні за ўдаўца́. У ражжэ́на і ўдаўца́ два нараўца́. Йім ні́як ні ўладзі́ць. Я пасьце́ль пасьцялю́, паду́шку даўгу́ю пакладу́, а ён: вот та́я мякчэ́й сла́ла. Ён усё раўну́я, паўтара́я: вот та́я жо́нка дзе́лала так. А чалаве́к сам па сабе́ такі́ ніцірпялі́вы. Ты паду́май сам пра сі́бе, нашто́ так гавары́ць, е́та длі чалаве́ка адно́ расстро́йства. Расказа́ла іна́ тож. Мой дзіцёнак ідзе́ць на рабо́ту, я укра́дні атрэ́жу яму́ крупі́начку са́ла дні за два, штоб ён, ражжэ́н, ні дагада́ўся, што іна́ сабі́рая по́ладзінь і бярэ́ са́ла. А яго́ до́чкі са́мы іду́ць у ра́жку са́ла бяру́ць.

### *За выборкі падкіне чорт аборкі*

Бу́дзя пірабіра́ць, пірабіра́ць дзе́ўка: тэй нікрасі́вы, тэй гарба́ты, тэй крывано́гі, так і аста́ніцца пры сваі́х іньцірэ́сах. Паку́ль павыбіра́я, ужо́ ніхто́ за́муж ні бярэ́. Ужо́ ду́мая: хоць ба хто́-небудзь за́муж узя́ў міне, каб была́ свая́ сім'я́.

### *Замуж выйсці – не напасць, абы замужам не прапасць*

Пе́рва, чым за́муж вы́йціць, на́да паду́маць, каб за́муж пайсьці́ да ні прапа́сьць, ду́маць на́да, як жыцьцё складзе́цца.

### *З прыгожага ліца не спячэш блінца*

Бу́дзя харо́шая мука́, тады́ блін бу́дзя харо́шы, а с кра́сы ні сьпячэ́ш ніч́ога. Іна́ ж красі́вая: нашто́ ёй рабо́таць?

### *Краса да вянца, а жысць да канца*

Чалаве́к красі́вы, харо́шы – вот ні зна́ю, як сабразі́ць, – а пападзе́ яму́ бісталко́вы чалаве́к такі́, і жысьць плаха́я. Так і называ́іцца: краса́віца была́ да вінца́. Ні палу́чы́лася у жы́зьні харашо́, зна́чыць і краса́ прапа́ла.

### *Не мічыцца і не целіцца*

Пры́дзя чалаве́к к чалаве́ку што-не́будзь дагава́рыцца. Ён пры́йдзя атту́ль: ну што дагавары́ўся? Ай, ні мі́чы́цца і ні це́ліцца. Э́та зна́чыць і на́да даць і ні дае́. Ён і ні тка́зая і ні дае́. Ужо́ яны́ разазьлі́ўшые адзі́н на аднаго́.

### *Не тое дабро, што прывязеш, а тое, што замужам нажывеш*

Ты прыве́з дабра́, а жызьнь плаха́я, то по́йдзя усё пра́хам. А калі харашо́, усё само́ сабо́й нажыве́цца. Е́сьлі чалаве́к пастро́я жызьнь, усё у іх бу́дзя палуча́цца, і дабро́ нажыве́цца.

### *Удвох усё-такі лепшы брох*

Ідзе́ дзьве ба́бы – стая́ць магчы́ма, а шчэ трэ́цьцяя пры́дзя – ужо́ я́рмалак.

### *У харошага мужа і чуліндра жонка, а ў плахога – і ў пана раба*

Харо́шы чалаве́к, асо́бінна такі́, які́ ні бу́дзя жа́лавацца ніко́му, там і харашо́ усігда́, там і спако́й усігда́. А йдзе такі́ чалаве́к, хоць мужчы́на, ходзь жэ́ншчына, пабе́г жа́лавацца съсе́ду, а сасе́д пры́дзя, друго́му раска́жа і пашлі́ цібе́ абсужда́ць. Ты пажалі́ўся яму́ се́дні, а наза́ўтрага ён сам бяжы́ць у цібе́ пірапы́тая, йім ё пра што гавары́ць.

### *Які Бог кусок удзяліў, такі і цяпай*

Яку́ю ужо́ стрэ́ціў у жы́зьні, с той і вяку́й, а хто жо́нак міня́я, у то́га хазя́іна хаму́т гуля́я.

### *Якія самі, такія і сані*

Калі сам чалаве́к харо́шы, хазя́йлівы, у яго́ і са́ні харо́шые. Які́ сам чалаве́к трудзя́ка, у яго́ і са́ні бу́дуць харо́шые, яму́ ё ўрэ́мя усё дзе́лаць.

### *Які Хомка, такая і жонка*

Ну, два ж сапагі́ – па́ра. Е́сьлі падабра́ліся друг да дру́га і ра́зам: ах се́дні ужо́ ні бу́дам дзе́лаць, аста́вім да за́ўтрага. А трудалюбі́вы чалаве́к усігда́ гаво́ра так: ні астаўля́й рабо́ты на за́ўтра. Калі ё ўрэ́мя дзе́лаць, дзе́лай се́дні, а за́ўтра бу́дзя друга́я рабо́та.

### *Я свайго Кузьму, дзе хочаш вазьму, а ты сваю Арынку павадзі па рынку*

Грэ́бая дзéўка хлóпцам, вот бáцька хлóпца і гавóра: я за свайгó Кузьмý ідзé хóчыш вазьмý, а ты сваю́ Ары́нку павазі́ па ры́нку.

### *Які рост, такі розум*

Як мáлы дзіцця́, які́ у ягó рóзум. Чалавéк пажывé, памужнéя, бóлі чагó пабáча, тады́ ужó рóзум.

### *Ад роду не ў воду*

Як ат рóду аткáжысьця, род ё род. Хоць гóра, к рóду абрашчáісьця, хоць дабрó, усé адно́ нáда к рóду. Вот бáба памірáла, увéсь жа род к нам прыхілі́ўся. Усé лю́дзі чым маглі́, памаглі́.

Ат рóду нікýды ні дзéнісься. Падýмайця самы́ зь сібé. Вот Баранéц, стóлькі ён гавóра, як п'я́ны. Як п'я́нка прашлá, язы́к у с..... уцягнýла. Ён назáўтрага нічóга ні гавóра, маўчы́ць як ры́ба. І сын па бáцьку.

### *Пашлá за вадóй, як за бядóй*

Знáчыць, пашлá і прагаманíла там. Раскажý, вот як éта. Калíсь былá калóнка кала Хімічаў. У калóнку нáда былó хадзíць за вадóй. Вы́шаў Пéця Данíлаў, палядзéў: стаíць ягó Марýся зь вёдрамі. Ён узя́ў табурэ́тку з дóму, прынёс к калóнцы, пастáвіў, ні гавары́ў ні бéлага ні чóрнага, сабрáўся і пашóў. Марýся вёдры паднілá – тады́ ж на карóмісьлі насíлі вёдры – і пашлá дамóў.

### *Будзеш даха, будзеш і ўзяха*

Напрымéр, дам я чалавéку хоць што, а чалавéк бýдзя знаць на éта, ён мне удвайнé атблагадары́ць. Но éта як ішчэ́ які́ чалавéк. Як жáдны, бýдзя міркавáць, каб ні ашыбíцца, каб ні аддáць, каб ні пірадáць. У нас éтые лю́дзі, што піраéхалі з Валóсавіч, дýжа гóрнуцца ка мне. Сьвіньнёнка, які́ быў пагáны, ні еў нічóга, зрасхóдалі шчэ улéтку. Ціпéр нічóга нíмá. Я узілá гусёнка ёй аддалá, дык інá ні знáла, як паблагадары́ць. Сын узя́ў крыдзíт і купíлі éту хáту Лёні Хвадзéявага. Хазя́ін памёр, двóя дзіцéй былó. А быў такі́ з другóй дзярэ́ўні. Гадóў кóлькі жылóся харашó, дык жылóся харашó. А тады́ расьпíўся і здурэ́ў ціпéр саўсíм. У Хімічавых брáлі каня́, дык ягó нáда вадзíць. А наш конь харóшы. Тáня éта мне: «Ты абрóцьку кідáй, а я табé прывядý каня́». Дасí ты чалавéку, памíрысься зь ім палáдзіць, і ён табé атблагадары́ць.

### *Вінавата хата, што нарадзіла Ігната*

У éтай хáці біспарáдак, нíмá парáдку у хáці, і Ігнáт – любы́ хазя́ін, ні то, што тóлькі Йігнáт – éты такі́ пагáны, ніхарóшы такі́ чалавéк, янó і пры́казка такáя: вінавáта хáта, што нарадзíла Ігнáта.

### *Дарма, што сух, а чортаў дух*

Чалавéк хýдзінькі. Вазьмí нáшу бáбу Таця́нку, напрымéр. Інá тóнінькая такáя, но ат тых, хто тóўсты, інá у рабóці ні атставáла, інá упярóд ішлá. За ёй грыб быў пéрвы і пасьлéдні, за ёй я́гада былá, у йе у гарóдзі парáдак быў, інá усьпівáла усігдá усё зьдзéлаць.

### *За чужой спіной кожны герой*

Такі́ чалавéк: за чужóй сьпінóй ён умéя тóлькі камáндаць, а сам ні хóча рабóтаць. За чужóй сíлай кáжны гірóй.

### *З кім павядзешся, таго і набярэшся*

Калі начáў с харóшым чалавéкам дружы́ць, у іх усё харашó, а калі чалавéк брахлíвы такі́, ён і éтага падбівáя, каб так, як ён. Тагó пагавóрка такáя: сь кім павядзéсься, ат тагó й набярэ́сься.

### *Ласкавая цялятка дзве маткі ссе, а гордае ніводнае*

Гля́ньця: Во́льга ласкаве́йшая, ёй бо́льшая уважэ́нія ат Люды, а Ма́шы ужо́ не, іна́ жо́сткая. Бу́дзіш з ла́скай – і цібе́ бу́дуць уважа́ць. Так і пры́казка: ласка́вая ціля́тка дзьве ма́ткі сьсе, а го́рдая – ніво́дные.

### *Маўчыць, ды сем навучыць*

Чалаве́к такі́ маўчліві́, а зачапі́ яго́, ён цібе́ бага́та чаму́ наву́чыць. Ёсьць таке́я лю́дзі: зачапі́ яго́, ён языко́м пратараба́ня, а пуцё́вага, дзілаво́га ні́чо́га ні ска́жа. А другі́ чалаве́к маўчлі́вы, ён усё абду́мая і патка́жа другому́, як дзе́лаць.

### *Не плюй у лужу, то прыдзёцца напіцца*

Вот на чалаве́ка бу́дзя чалаве́к так кля́ўзьнічаць, кля́ўзьнічаць, нікрасі́вые сло́вы гавары́ць. Е́та к таму́: ты вот на чалаве́ка гаво́рыш ніхаро́шые сло́вы, а ўдруг табе́ к яму́ на́да бу́дзя абраці́цца.

### *Не перапрыгнуўшы рэчку, не гавары гоп*

Е́та к таму́. Вот іду́ць два дру́га, адзі́н хвасту́н, хва́стая, а другі́ яму́ гаво́ра: ні пірапры́гнуўшы рэ́чку, ні гавары́ гоп. Ён і замо́ўк, німа́ яму́ як хва́стацца.

### *Як мне жаніцца, то і ноч каротка*

Вот чалаве́к задума́ў тако́я харо́шая штось зьдзе́лаць, і ўдруг усё́ абарва́лася. Ён сам сабе́ і гаво́ра: як мне жані́цца, то й ноч каро́тка.

### *Ціхая свіння глыбока яму рые*

Вот чалаве́к маўчы́ць, усё́ абду́мывая, тады́ як ска́жа тако́я сло́ва, што ты ні прыду́маш, к чаму́ яно́. Так і к е́таму пры́казка. Сядзі́ць ду́мая, ду́мая, і тако́я сло́ва ска́жа, што нядзе́лю ні разбярэ́ш.

### *Каб знаў, дзе ўпаў, саломкі б падаслаў*

Каб знаў, дзе ўпаў, сало́мкі б падасла́ў. Бывá́я так усё́ харашо́, харашо́, тады́ ўдруг абарва́лася. Вот чалаве́к і гаво́ра: каб знаў, што тако́я мне го́ра, то б сало́мкі падасла́ў.

### *Калі не паміраць, усё роўна дзень траціць*

Чалаве́ку ду́маіцца: вот і то́я на́да здзе́лаць і то́я зьдзе́лаць. І чалаве́к гаво́ра: а калі ні памі́ра́ць, усёдно́ дзень ціра́ць. Хоць е́та дзе́ла зьдзе́лаю, хоць то́я зьдзе́лаю.

### *Сядзэлі на етай нядзелі*

Прыйшлі́ лайдакі́ к чалаве́ку. Ён прыглаша́я: садзі́цісь. Яны́ атвіча́юць: сядзе́лі на е́тай нядзе́лі.

### *Клін клінам выбіваюць*

Е́сьлі ко́ліш дзе́рава, у яго́ забіва́іш адзі́н клін. Ні дапамагло́ – забіва́іш другі́. Тады́ клін клі́на вы́біў. Ты ж б’еш па е́тым кліну́, і тэй клін выбі́вая е́ты клін.

### *Не даў Бог долі, не шукай болей. Няма долі, ні шукай болей*

Мо́жа зна́іця. Ната́ша хро́снага гуля́ла зь Сяргé́ям, забірэ́мініла ат Сяргé́я, а тады́ ні стаў ён зь ёй страча́цца. Ён хацеў жані́цца, а Ната́ша атвярну́лася, пачала́ з Васілё́м гуля́ць, ніб́ытта іна́ зь йім да а́рміі ўстрача́лася. А Васі́ль увазна́ў, што іна́ бірэ́мінная, кі́нуў іе́. Так іна́ асталá́ся ні пры чом, і Сяргé́й атказа́ўся, і Васі́ль ні ўзяў. Прые́халі чарно́быльцы, іна́ пазнако́мілася са дным і сва́дзьбу згуля́лі. Пажылá́ тро́хі, ён уцё́к. Вот Ляксе́й і гавары́ў ёй: «Ната́ша, німа́ до́лі, ні шука́й бо́лі».

### *Не тыя ўжо леці, каб спаць у клеці*

У маладóсьці калісьці яны́ што кóяк шукáлі, як на начлéгі хадзілі? Да йіх ні былó нійдзé. Усé дóлі пасьцéлюць і сьпяць. Урáньні устáлі, матрáс скруцілі, пад палóк падкінулі. А увéчары прышлí, пагуля́лі, матрáс расьцілáюць, спаць лажáцца, і цёпла, а ў стары́е гады́ ужó так спаць ні бýдзіш, так халóдна ж. Стары́ чалавéк шýбу шукáя.

### *Ёсць брадня, ды ні кожнага дня*

Вот дýжа харашó, пашчасьлíвіла табé ў чом-нібýдзь, но янó кáжнага дня так ні бывáя. Тагó напíсана: ё брáдня, но ні кáждага дня. Брáдня – вот набéгла такóя ўрэ́мя, шчасьлíвы дзень.

### *Круці не круці, а рубля заплаці*

Пры́дуць шчóдры пець, а жалéй ні жалéй – атдáй, тамý што éты дзень шчадравы́. Прышлí, якéя ціпéр пéсьні (!), но падары́ць людзéй нáда, яны́ ж па сьня́гу патапкáліся, пахадзілі. Пры́дзя чалавéк, што-нéбудзь зьдзéлаць, а ты абішчáў заплацíць, і ты жалéй ні жалéй – атдáй, патамý што ты абішчаў заплацíць.

### *Лепей галодная воля, чым залатая клетка*

Лýччы жыві упрóгаладзь, чы́мся ў залатóй клéццы. Багачы́ свáтаюць маладýю, красíваю дзéўку, а дзéвачка: не, лýччы бýду ў нідастáчы жыць, но ні пайдý.

### *Мыш капы не баіцца*

Пад бальшы́м стóгам мыш нікалі ні прапáла. Пад бальшы́м стóгам ні дна мыш ні здóхла. Ёй жа бýдзя йдзе усю зімý рабóтаць. Яны́ ж вон сéна на рэ́зку, на мякíну піратрýць. Éта ж так у сіннікý пірарэ́залі. Ім жа пітáцца нáда чым-нéбудзь. Мы́шы ж у травé шукáюць зéрнейка.

### *На вяку пакушаеш і ў гляку*

На вякý пакýшаіш і ў глякý. Падумáй пра жысьць, сёдні харóшая жызьнь, а зáўтра ні знáіш, што бýдзя. Калі харашó, харашó, а ўдруг абарвéцца. Харашó, што бýдзя глёк, а то ў глёку німá чагó есьць. Глёк – такáя пасýдзіна нападóбія вáзы, унізý шырóка-шырока, а тут вýзінячка ўвярхý. Як ты с тóга глёка бýдзіш есьць? Із глёка журавéль тóлькі лісý кармíў. Пазвáў журавéль лісý, кýму, і паставíў пачастýнак, ядý у глякý. А ён жа – ры́ла вýзінькая. Іná хóдзя кругóм глёка і дýмая: ну падажджы́ ж кум, я цібé тóжа угашчý. Узілá лісá шырóкая такóя блюда, тóлькі па днý – ну што інá там пакацíла – яды́ і кýма прыгласíла. Кум дзюбай паты́ркая – нічóга ні пападáя. Кумá éта палізáла і гавóра: ну што, кум, у рашчóці мы с табóй.

### *Не люб госць, нé любы і гасцінцы*

Ё такóя ж – во былá у міне éта жанчы́на, што з Валóсавіч – прынíслá мне сухíх грыбóў, а я аддавáла ёй гусёнка і ўпéрад, як мы сабрáліся кабанá біць, я ўзілá і сáла аддалá. Інá гавóра: вот, Грыгóраўна, на гарóдзі капáіцца і капáіцца. Дык Фёдараўна такóя слóва сказáла, гíдкая. І раз – я на гарóдзі, а йна даé я́гады – я ні ўзілá. Ты йшла, дарóгай абзывáлась, а ціпéр даéш падáрак. Вот і к éтаму разгавóр.

### *Харашо ў наймé, но не дай бог мне*

Нання́лі чалавéка, а другí са старані́ завíдая. Во ён парабóтаў, сеў і сядзíць. А чалавéк жа рабóтая тóлькі за то, што ягó пакóрмюць. Тагó чалавéк і атвéціў: харашó ў наймé, но ні дай бог мне.

### *Папаў сляпы на сцежку*

Папáў чалавéк у сваё багáцьця, на сваю тóчку, ямý і кáжыцца папáў я на сьцéжку. Чалавéк быў занюжаны ў жы́зьні – у біднацé чалавéк жыў, у нідастáтку бальшы́м, у ягó і сілы ні былó.

І вот ён папа́ў на ту́ю каляю́, яка́я падзьдзе́ржыла, памагла́ яму́. Вот здае́цца чалаве́ку: я быў сьляпы́, я ні мог сібе́ апраўда́ць, а так Гаспо́дзь яго́ паве́ў, што ён папа́ў на сьце́жку.

***Сваю клячу здалёк бачу***

Сваё зо́лата і з гразі́ ві́дна. І е́та ж: сваё усё здалі́ка́ уба́чыш, здалі́ка́ яго́ угада́іш. Таго́ так і ка́жуць: я сваю́ кля́чу здалі́ка́ ба́чу.

***Чужая скварка рот перадзярэ***

Е́сьлі чалаве́к укра́ў і ста́ў есьць, у го́рлі яго́ пірасіда́я усё, ён да́віцца. Было́ так. Жылі́ ба́цька й сын. Сын ні хаце́ў рабо́тацьь, заві́даў на кра́жу. Пашо́ў укра́ў быка́. Бы́ка укра́лі, нагато́вілі яды́, мя́са натушы́лі. Ста́лі есьць і прышо́ў хазя́ін быка́. А ні прышо́ў, а пазва́ў яго́ ба́цька. Ба́цька сядзе́ў, як еў, так і есьць. А сын гля́нуў на чалаве́ка, валну́іцца, што ён прышо́ў за бы́кам, і яду́ ні праглыну́ць. У го́рлі пірасе́ла яму́ ідá. Ён во́чы вы́лупіў і сядзі́ць. Дык жа дзівяно́ста дзе́віць раз укра́дзіш, а на со́ты пападзе́ш. Вот ба́цька і даў яму́ по́няць, што красьць нільзя́. Таго́ й ка́жуць: Чужа́я шква́рка рот пірадзяро́ць.

***Чужым ханянём сваю радню памянём***

Сабра́ліся ба́бы йдзе на ву́ліцу. Сабра́ўшы, бу́дуць пыта́ць: а пра што там гавары́лі? У атка́з, като́рая пірапы́тая, ска́жуць: а пра ўся́каю ханяню́ гавары́лі, ну, пра ўся́каю ме́лач. А пры тако́м усём разгаво́ры і радню́ сваю́ памяне́ш.

***Увосень і ў вераб'я піва***

Уво́сінь вірабе́й, куда́ ні ся́дзя, у яго́ ё ідá. Паляце́ў на по́ля – там про́са. Пры ляце́ў на двор і тут ёсьць што пад'е́сьць. Вот і к е́таму пры́казка: уво́сінь і ў віраб'я́ пі́ва.

## *ГАВОРКІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Ю. В. Маліцкі*

### ТЭКСТЫ З БЫХАЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае Т. М. Касьян, 1951 г. н., ураджэнка в. Трасцівец;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

**Пра родную вёску**

У нас – две леге́нды [пра паходжанне назвы вёскі]. Вы е́халі, кла́дбішча праяжджа́лі, а вон там мо́сцік такі́ быў. Вот, гавары́лі так, што э́та ўсё бы́ла трасі́на. Э́та ад сло́ва «трасі́на» – Трасці́вец.

Втара́я леге́нда. Тут даро́га была́: ішла́ на Мо́крае, выхадзі́ла там і ішла́ на Бы́хаў. І там стая́ў трісце́н недадзе́ланый. Трісце́н – э́та трі сцяны́, трі вянцы́. І́лі ат э́тага сло́ва пахо́дзіць [назва вёскі].

Я яшчо́ заспе́ла Екацяры́ніны со́сны, тут стая́лі. Э́та та́я Екаціры́на, імператры́ца. Пасле́дняя [сасна], тут, о́кала кла́дбішча, упа́ла сама́. І шлях быў. З Магілёва туды́, на Бабру́йск. Даро́га – «бальша́к» называ́лась. Ма́ма вы́шла за́муж сюда́, і быў у яе́ дзе́вер, дык ён усё гавары́ў – «бальша́к».

Дзірэ́ўня шчыта́лась на́ша нібальша́я. Тут быў калхо́з, «Кама́нева» называ́ўся. Людзе́й тады́ было́ мно́га. Фе́рма была́ пастро́ена, дзе-та у гаду́ пісят васьмо́м, наве́рна, шыка́рная фе́рма. Там каналіза́цыя бы́ла здзе́лана. Усё было́ па пасле́дніму пі́ску це́хнікі. А пато́м закры́лі, ста́лі бу́рыць і разбуры́лі.

## Рака Макранка

У нас раќа – Макра́нка, ма́ленькая рэ́чка. Там ры́бу ло́вяць. Мая́ сістра́ рука́мі хадзі́ла лаві́ла. Яна́ ме́ста зна́ла: ла́зіла там, шчу́пала у вадзе́, корч які́ на́йдзе... І ліно́ў выця́гівала. Ліны́, акуні́ былі́. Шчу́кі абіза́цільна. І хло́пцаў панаву́чывала ры́бу рука́мі лаві́ць. Яна́ ціпе́р жыве́ць у Падмаско́ўі.

Рака́ харо́шая. Там грэ́бля, трасі́на. Каб хто ўзя́ўся ды абнаві́ў яе́... Яна́ ішла́ ко́льцамі. І мно́га было́ крыні́ц. Ідзе́ць, ідзе́ць рэ́чка, а пато́м расхо́дзіцца [на рукавы] – кальцо́. Пато́м схо́дзіцца. А яны́ [мясцовыя ўлады ў савецкія часы] тады́ здзе́лалі яе́ па прамо́й, штоб яна́ цікла́. Меліяра́цыя здзе́лала сваё дзе́ла. Ну, ані́ [кольцы] аста́лісь. Тут у нас, каля маста́, кальцо́, там – яшчэ́ кальцо́.

Тут вы́пас каро́ў до́лжын быць. Тут усё врэ́мя трава́ расці́ць. Мы зараслі́ во так во. Каро́вы не хо́чуць хадзі́ць: трава́ бальша́я, а ім на́да ма́ленькая. І масты́ паперадзе́лавалі. На маі́м вяку́ тры масты́ памяня́лі. Яны́ ні саатве́тствавалі. Тады́ стро́ілі – на каня́х рабо́талі, вазі́лі. Пато́м – трактара́мі. Гадо́ў шэсць наза́д пастро́ілі такі́ бо́лее-ме́нее шыка́рны мост.

## Сарочынскі лес

У мяне́ сын быў ма́лы, дзе́-та у се́мсят чытвё́ртым гаду́. Мы з ім прагу́ліваліся. І – лось красі́вы. Ой, да́жа ён, ма́лы... Прышо́ў і гаво́ра маё́й ма́ме: «Ба́ба!...». І про́сіць, што́бы я расказа́ла ёй пра лася́. Ну такі́ быў краса́вец! Халё́ны-халё́ны. Пра́ма спіна́ – як кавё́р. Краса́та!

У на́шым ле́се – Саро́чынскі лес, гаво́раць – мно́га дзі́кіх кабано́ў. Бурало́м быва́е. Там бало́та есь тако́е, што на́да знаць, як па ім іцці́. Трасі́на! Хло́пцы ло́вяць там акуні́, ці як іх зваць... Ну, акуні́ ж у гразі́ [жывуць]. Мае́ [дзеці] расказа́лі мне, што там ло́вяць, я ду́мала, што памру́ [ад страху]! Но не было́ слу́чаяў, штоб там прапа́лі дзе́ці.

## Ваенны аэрадром

Тут быў аэрадро́м, істрыбі́цілі стая́лі. І як начына́юцца палё́ты – і свіст, і візг, і ўсё тут!.. А пато́м як начала́ся у іх запра́ўка, яны́ началі́ запраўля́цца ў во́здухе саля́ркай, шланг такі́ цяну́лі ў во́здухе. І вот, паку́да яны́ наўчы́ліся, мы мно́га ды́халі э́тай саля́ркай. У нас стая́лі сто сімідзіся́ты і двёсці саракавы́ палкі́. У мяне́ сістра́ за́муж вы́шла за масквіча́, за лё́ччыка. У шэ́йсят дзівя́тым гаду́ Чыхаслава́кія бурлі́ла. І яны́ бы́лі ў по́ўным... [у поўнай баявой гатоўнасці]. Да́жа прыхадзі́ў у самаво́лку у по́ўным снаряжэ́нні, с аўтама́там, с усі́м. Дык ён [будучы муж сястры] тады́ што дзе́лаў... Як шоў к нам, за́йдзе на кла́дбішча, закапа́е аўтама́т і пры́йдзе. Пры́йдзе і раска́звае. А сястры́ маё́й сме́шна! По́тым ма́ме гаво́ра, ма́ма, во так Са́шка здзе́лаў. Ой, та́я ма́ма мая́: «Ідзі́ быстрэ́й яго́ адпраўля́й. Не дай Бог, хто ба́чыў, як ён яго́ закапа́ў. Яго́ ж расстраля́юць!»

Быва́ла, ідзё́ш на та́нцы, а там лё́ччыкаў сто́лькі! Мы і са́мі да іх хадзі́лі. Э́та ж бы́ла нікрасіва́, ні любі́лі э́тага. Мы з падру́гай... Яна́ надзе́лась, каб ба́цька не ба́чыў, чы́стае, красі́вае, а наве́рх гра́зны хала́т. Пато́м хала́т – у акно́, і тады́ ідзё́м.

## Дзед

Дзед мой уча́стваваў у дзвяццо́т пя́тым [рэвалюцыя 1905 года ў Расіі], як бы́ла васта́нія матро́саў. Служы́ў у Краншта́це. «Фін» быў і́хны кара́баль. Фатагра́фія ёсь, так на ле́нтачкі [напісана] – «Фін». Ён быў дзеншчыко́м у капіта́на карабля́. Як быў суд, спасла́ яго́ жо́нка капіта́на, сказа́ла, што ён не уча́стваваў у гэ́тым міцяжэ́. А капіта́на таго́, ме́жду про́чым, не тро́нулі, ён быў о́чынь лая́льны.

Дзед прые́хаў сюды́, яму́ тры́ццаць адзі́н год быў. І жані́ўся на ба́бі маё́й. Ба́бі бы́ла васімна́ццаць. Гро́шай залаты́х прывё́з. Яны́ пажані́лісь і пае́хаў ён дaслу́жываць. І ба́бу туды́ павё́з. І па́па мой радзі́ўся там, у Краншта́це. Па́па – у трына́ццатым гаду́, а дзя́дзька – у пітна́ццатым. А пато́м сюды́ пры́ехалі. Дзед мой з дзе́цтва папа́ў на кара́баль – [сялянскай] рабо́ты ні зна́е, му́чыўся, смяя́ліся над ім. Ну а по́тым аклімáўся, усё нарма́льна ста́ла. Памё́р ён ад ці́фу ва урэ́мя вайны́.

## Ткацтва

Быў станóк у нас. Бывáла, так надаéсь гэ́ты станóк! Мáма як ягó запрáвя перад Пáскай... І то, бывáла, янá ні датыкáла да канцá. Дык ужó тады́ пасля Пáскі, надзéля, а тады́ патóм датыкáла. Ёсь і пасцілкі у мянé мáміны. Ёсь і скáцерці мáміны. Я не наўчы́лася: мы мáлыя бы́лі, а патóм ужó – цывілізáцыя... Мáма з жанчы́най аднóй ткáлі палавікí са шкýцця. Палацéнцы у нас былí, а патóм – дзед у нас такí быў, бáцькаў дзя́дзька, – дык ён залéз ды папакрáў. Палацéнцы дзéлалі, пасцíлкі. Мая́ і цёткіна пасцíлка яшчэ́ ёсь. Былí і палатня́ныя прóстыні. Накрывáлісь такíмі во... Збíтая з трáпак – пасцíлка, як яé звáлі, у тры ніты́ здзéланая, а патóм сшы́тая. Накрывáлісь мы пад ёй. Врóдзе бы і цёплая, но, канéшна, непрыя́тна – прахлáдна.

У тры ніты́ – э́та так снавáлі, сукáлі. Бы́лі такíя цэ́ўкі. У ёй былó праткнýта такóе, янá надзівáлася на чаўнóк. З чаўнакá выхадзíла нíтачка. «Наснавáла дзéвяць гýбък» – так казáлі. А што э́та былí за дзéвяць гýбак, я і цяпéр ні панімáю.

У нас тут дом адзíн ёсь. Мáма гавары́ла: «Мы ні знáлі, што у Рамáніхі мóжна так харашó снавáць». Гэ́та знáчыць, дліннaя хáта, не былó ніякíх перагарóдак. І яны́ снавáлі гэ́тыя гýбкі, патóм перавя́зываюць. Патóм на ніты́ нéйкія нанíзывалі. Патóм э́тыя ніты́ – у бёрда. Чэраз бёрда прапускáлі нíткі, катóрыя яны́ снавáлі. Патóм на матавíла намáтывалася, с аднóй староны́ – бальшóя, патóм пад нíзам падця́гывылася. А нас застаўля́лі цэ́ўкі сучы́ць. Такáя былá, цíпа машы́нка швéйная ручнáя, там здзéлана такóя калясó, і такí штыр. На э́ты штыр надзявáлась цэ́ўка і тады́ ты крýціш, дзяржы́ш нíтку – і намáтывалась раўнамéрна на яé гэ́та. Каб, ня дай Бог, ні завязáлась! А мы цэ́ўкі намáтывалі. Тады́ іх накладзéш, наматáеш, а мáма тады́ надзівáла іх у чаўнóк, і тады́ ткáла. А там бы́лі і пядáлі – чыты́ры. Янá знáла, на якýю пядáль нажáць. І – на две, то так, то так, і палучáіцца тады́ узóр.

## Самадзейны ансамбль

У нас есь самадзéйцільнасць, у Дóме культýры. Паём усё – якíя пéсні разýчываем с худóжъствінным рукавадзíцелям. Янá баянíстка, акапэ́лла мы не пяём. Éздзім па дзіраўня́х. У нас двачъты́рі чылавéкі зрíцеля, мы сóрак мінýт канцэ́рт дзéлаім. Вот праéдзім у дзірэ́ўню – там сем чылавéк, хто нідвяжы́мы, хто які... Мы аддаём ім усё внімáнія.

## Вясковыя святы

У нас тут клуб быў, на Мóкрым [суседняя вёска]. Тáнцы былí і кінó круцілі. Як мы былí падлéткі, нас жа ні пускáлі нікудá. Тут па сасéдству былá радзіóла, пласцíнкі. Нам гадóў па пітнáццаць, па шыснáццаць, ужó такíя, вазмужáўшыя. А хлóпцы нáшы – кавалéры – у пуп дышáць. А мы з íмі адпля́сывалі, і лáдна бы́ла усё. А як пашлí у дзівя́ты, дзісяты клас, нас пачалí пускáць у кінó. А пóслі кінó – тáнцы. Ну і там выпля́сывалі: пóлька, падыспáнец, вальс. Бáрыню – гэ́та ужэ́, як гуля́нкі, тады́ ужó. Гуля́нка – э́та крысцíны, свáдзьба... Аднó врэ́мя атмічáлі Пакрóў. Э́та прáзнік óсені быў, калі усё ужэ́ зня́та [сабраны ўраджай]. Бальшы́ быў прáзнік.

Дзéўкі інцярэ́сныя бы́лі, красíвыя. На тáнцы лёччыкі прыбігáлі, курсáнты – з хáркаўскага інжынéрна-лётнага учы́лішча. Адзíн дáжа жанíўся на нáшай дзéўцы. Ягó патóм напрáвілі ў Чарджóў, у Туркмéнію. Ён паслужы́ў там, а патóм прыéхаў, яé забрáў. Янá там трох дзяцéй радзíла. А патóм ён распíўся...

На Каля́ды перадзівáліся, бéгалі, шуцíлі. Казý вадзíлі. Э́та мой бáцька умéў. На Каля́ды стáвяць крутавéльню. Э́та такóе калясó дзіравя́ннае. Там такóя прыспасаблéнне: длíнная пáлка і карóткая. І ръзганя́юць гэ́ту крутавéльню. Садзíцца нáда на сáнкі, і як раскрýцяць! І тады́ ужó ляцíш. Бывáла, з гэ́тых сáнкаў як ля́снесся! Феярвéрк здзéлаюць. На Каля́ды гусéй дзéлаюць [гатуюць]. Маім панрáвілася гуся́ціна. Я ім звары́ла халадзéц: кры́лля, нóгі пасéкла. Укýсны палучы́ўся. А астальнóя – сын здзéлаў с пярлóвымі крупáмі кáшу. Бальшэ́нны-бальшэ́нны чугýн. Ну э́та пірлóўка бы́ла – укусня́ціна! І грэ́чку здзéлалі так. Дык грэ́чка – ні то. У нас друг ёсь такí, ну ён цíпа як Еўдакíмаў [эстрадны артыст]. Такí юмары́ст! Усé уклáдаюцца ад ягó: так умéе

расказа́ць што, ой-ой-ой! Так ён кама́ндуе мне: «Цё́ця Та́ня, мне мя́са ні на́да, мне адно́й ка́шы! І пабо́лей!». Ну і ка́ша та́я, пярло́ўка, дзіствіцельна была́ ўку́сная. Сын даста́нець с пе́чкі чугуно́к е́ты і даллє́ць вады́, даллє́ць вады́. С прыпра́вамі – ну вабшчэ́ ізумі́цельна!

По́мню, на Каля́ды ма́ма бліно́ў напячэ́, і ма́ма пърасё́нка заб'е́, і каўбаса́ па́льцам пі́ханая. Ране́й каня́ запрага́лі і мата́юцца тады́ на кані́ на гэты́м. Каню́ тады́ ужо́ дае́цца! Ой, по́мню, як мы даяда́лі гусе́й. У нас па пісят, па со́рак гусе́й было́. Што прададу́ць, а чъты́ры-пяць астава́лісь. Ой, як надаеда́ла [гусінае мяса]! Надзе́лаюць з яго́ усяго́!

На Каля́ды па ха́тах хадзілі, як дзяцьмі́ былі́. Адны́ сярдзі́ліся, а другі́я, бо́лее прасцейшыя, угашчэ́нія дава́лі. Я цяпе́р, як не накупля́ла сла́дасцей, як дзе́ці прыхо́дзяць, хоць гро́шы даю́. І цяпе́р да мяне́ дзе́ці прыхо́дзяць, надзяю́цца. Я гавару́: «Вы ж мне што-не́будзь інцярэ́снінькае спе́йце ці станцу́йця». Ну начына́юць што-не́будзь му́чыць. Ну ла́дна. Падхо́дзяць пад ха́ту, у две́ры сту́каюць: «Къліда́ прыйшла́!». – «Ой, харашо́, што Каліда́ прыйшла́, захадзі́ця!». Ну і прашу́ у ха́ту.

На пра́зніку пілі́, кане́шна. Но цяпе́рашнім п'я́ніцам саўріме́нным пъвучы́цца на́да. На стол тады́ накры́юць ізумі́цельна. Усяго́ там ёсь! І і́менна усё́ прасто́я, сваё́, дама́шняе. Тваро́г с малако́м ста́вілі, яе́шню... Яе́шню у кале́на. Зна́еш, што тако́е «ў кале́на»? Бліно́ў пяку́ць, жа́руць са́ла, штоб было́ мно́га жы́ра. Пато́м яйцо́ уваб'е́ш. Дык яно́ палуча́іцца тако́я то́ўстае – называ́ецца яе́шня ў кале́на. А пато́м яшчэ́ смітаны і малака́ наве́рх. «У кале́на» – таму́ што высо́кае. У мяне́ пляме́ннік есь у Мі́нске. Яго́ у дзе́цтве ка мне прывазі́лі. І ён гаво́ра: «Я дзярэ́ўню успаміна́ю то́лькі тым, гаво́ра, арама́т бліно́ў напе́чаных і яе́шня у кале́на».

### Самагонка

Па́па наш самаго́нку гнаў. У нас усё́ врэ́мя была́ самаго́нка. У любо́й маме́нт хто прышо́ў, госць які́ – сра́зу мо́жна самаго́нку ста́віць. Ба́цька мой гнаў... Пръра́шчывалі жы́та. Пато́м э́та жы́та ме́люць (былі́ жо́рны). А – не, дык – у сту́пу і таўклі́, каб яно́ пусці́ла сок, бе́лым пашло́. І пато́м – у бо́чку. Спецыя́льна дзе́лалі бо́чкі бальшы́я. І тады́ самаго́нку е́ту гна́лі. Яна́ атрабо́тацца далжна́: нядзе́лі тры бурлі́ць, рабо́тае. Яна́ гату́ецца – аж гара́чая. Яе́ цё́плай вадо́й зальеш, і яна́ цімпірату́ру дзе́ржыць. І пато́м, е́слі ано́ асты́ла, ужо́ начына́юць гнаць. Атрабо́тацца далжно́ тры нядзе́лі. А е́слі с са́харам, тады́ ужо́ тро́шкі ме́ней. На біто́н гна́лі пры мне. А ра́ньшы дзе́лалі які́я-та чыгуны́. Чугу́н – на чугу́н. На чугуне́ – дзі́рачка. Змеяві́к на́да. Яго́ – у хало́дную ваду́. Во́дка па тру́бачкі ідзе́ць і ахлажда́ецца, тады́ ужо́ ка́пае гато́вая. Аппара́т здзе́лаць сло́жнасці няма́. Як цяпе́рь – сло́жнасці няма́. Палуча́лась па піся́т, па се́мсят гра́дусаў, да́жа бо́льша. Пато́м ужо́ разво́дзіш. Пе́рвая – така́я крэ́пкая-крэ́пкая. Вот пака́зываюць у кіно́, яна́ [самагонка] сі́вая. У нас ніко́лі тако́й ні было́. Мы і із бурако́ў дзе́лалі (ба́цька наш прынасі́ў буракі́) – дык яна́ святле́йшая. У нас празра́чная была́, све́тлінькая, харо́шая, як настая́шчая во́дка. Вот бра́лі сем кілагра́м са́хара, дро́жджы, кіда́ецца бу́лка хле́ба. Атрабо́талась ано́. Пе́рвая [банка] тры лі́тра бу́дзе крэ́пкая. Втара́я – тро́шкі слабе́й. Ну і трэ́цюю бяру́ць. Тады́ усе́ тры сме́шываюць – дзе́лают да сарака́ гра́дусаў. Пірва́ч атліва́ют ліка́рства како́е здзе́лаць.

Нас аштрафава́лі адзі́н раз. У нас адна́ учы́цельніца была́. Яна́ гна́ла, дык мушчы́на адзі́н памё́р – така́ ядаві́тая. І вот за шчот яе́ быў рэйд у нас. А мы вы́гналі для загатаві́целяў (нам на́да бы́ла у лес е́хаць, дро́вы загата́ўліваць). Мы вы́гналі і паста́вілі, накры́лі тра́пкай. А тут – раз! – прыйшлі́. А ана́ у нас пад нага́мі стаі́ць. Далі́ штра́фу. На э́там на́ша праізво́дства закры́лась.

### Пра сына

А у сы́на конь есь. Ён лю́бе ду́жа кане́й. Така́я ку́ртка ў яго́ красі́вая была́. Кажу́: «Ко́ля, дзе ты так мог яе́ парва́ць рука́ў?!». А яны́ узялі́ каня́ – галалё́дзіца была́ – конь пакаўзну́ўся, і ён зваліўся. А як прышо́ў с а́рміі – ко́нюх на́да быў на фе́рму. Ён і пашо́ў! І з кънямі з е́тымі... Галасі́ў па іх на поўсвета, як аставі́ў іх начны́ сто́раж, нідагле́дзіў, і чъты́рох ці пяць жырыбя́т по́ізд зарэ́заў. Го́спадзі, я ду́мала, ён памрэ́ць, мой хло́пец! А яму́ ж на́да было́ іх разабра́ць, каб у хазя́йства забра́ць. Яны́ ж па́хнуць. Ня еў, хоць ты кармі́ яго́. У яго́ Ку́ся быў – такі́ харо́шы конь. Цяпе́р – Рабі́на.

*Ю. В. Маліцкі*

## ТЭКСТЫ З БЯЛЫНІЦКАГА РАЁНА

***Расказвае С. Ф. Чэрвень, 1950 г. н., ураджэнка в. Галоўчын;** запіс зроблены ў 2014 г.*

### З гісторыі роднай вёскі

Інцірэ́сны слу́чай у нас в дзе́цтве был. Вот там – Сарва́рская гара́, как мы её зва́лі. І там жыл князь Галавчы́нскі – аснава́цель Гало́ўчына. Пе́рвае упаміна́ніе а Гало́вчыне бы́ла в ты́сьча сімсо́т пе́рвам гаду́ в кніге «Се́верная вайна́». Да́жа там упаміна́лась! Сюда́ к нам с Мі́нска камі́сія [археалагічная экспедыцыя] прыі́жджа́ла. Так он [напэўна, кіраўнік археалагічнай экспедыцыі] нам расказа́л, што тут у нас за́мак кагда́-та был, князь зажы́тачны жыл. І нас э́та так заінтрыгава́ла, што мы малы́я, в дзе́цтве, лапа́ты бра́лі і хадзі́лі далбі́лі э́ту гару́. Мы да кла́дкі дашлі́. Кла́дка была́ – кірпі́ч. Там бы́ла а́рка і ход. Мы туда́ зала́зілі. Там жыле́зам ако́ваная двер бы́ла. Мы – ура́, ура! Бігі́м дамо́й: ра́дасць така́я! А пато́м нас радзі́цілі ні пусці́лі: мо́жа, там га́зы які́я, там і аста́нецесь. На́шы раско́пкі на э́там і ако́нчыліс. Нахадзі́лі там залаты́я мане́ты – в кла́дке нахадзі́лі.

А в про́шлам гаду́ там студзе́нты рабо́талі, з Магіле́ва, на раско́пках. Я падхадзі́ла, інцірыса́валась. Прыпадава́цель іх гавары́ў, здзесь бага́ты князь жыў: пі́ва яму́ із Ло́ндана вазі́лі. Там ты́сячу піццо́т какі́м-та го́дам даці́раваны про́бкі нашлі́.

Здзесь го́рад был. Бы́лі дзіравя́нныя маставы́я. Ку́зніцы стая́лі. Рымясло́ бы́ла ра́знае... А вот в цэ́нтрэ, гдзе січа́с магазі́н, там стая́л хрысція́нскі храм. Я кагда́ в бібліаце́ке рабо́тала, мы запро́сы дзе́лалі в Маскву́, в Ленінгра́д – да́нные сабіра́лі. І ве́рылась, і не ве́рылась, как э́та магло́ быць... А пато́м, как на́чылі стро́іць прэзідзе́нскіе до́мікі, на́чалі ваду́, каналіза́цыю падвадзі́ць, в цэ́нтрэ атры́лі фунда́мент. Саўрімённая це́хніка не смаглá яго́ прабі́ць. Бі́лі, бі́лі і пашлі́ в абхо́д. Старажы́лы все збіжа́ліс: тако́е дзі́ва бы́ла. Дзіствіцельна, тут была́ бо́лей бага́тая ме́снасць, чым мы ціпе́р жывём. Го́рад э́тат был сажжо́н, кагда́ вайна́ са шве́дамі бы́ла. Карл Двіна́ццаты там, дзе Ста́рае Сіло́, убро́д рэ́чку перахадзі́ў. Здзесь ані́ паражэ́нне паціpпе́лі, і он [горад] был по́лнасцью сажжо́н і уні́что́жын. Там у нас курга́н... Там усе́, і шве́ды, і ме́снае насіле́ніе пахаро́ніна. Курга́н был насы́пан. А пато́м, са вре́мінім, была́ пастро́іна цэ́ркаў. А пато́м – ра́зные врэміна́ міня́ліс – клу́бам ана́ станаві́лась, а пато́м саўсе́м её разру́шылі. Ба́бушка раска́зывала, тако́й звон сі́льный быў, да́жа у Бялы́нічах слы́шна бы́ла. Да вайны́ цэ́ркаў закрыва́лі, у вайну́ адкрыва́лі. Пато́м сно́ва закрыва́лі. Паку́да саўсе́м не разру́шылі. А січа́с ме́сные жы́цілі, Бехарэ́вічы, шчас пражыва́ют в Мі́нске, ані́ в бі́знэсе како́м-та заніма́юцца, на сваі́ дзе́ньгі адстро́ілі здзесь цэ́ркаў. В про́шлам ілі пазапро́шлам гаду́ адкры́ціе бы́ла.

У нас, у Гало́ўчыне, цэ́ркаў была́ Тро́іцкага прыхо́да. Я ма́ленькая была́, па дзе́цтву по́мню: у нас на Тро́іцу і на Спа́са кірма́ш быў. Мно́га людзе́й прыі́жджа́лі с акрэ́сных дзіраве́нь. Гарлачы́ прадава́лі, пітушкі́ (лідзінцы́), і карзі́нкі, а на Спа́са – і гру́шы, і мёд. Наро́да!... Весь э́тат цэнтр [вёскі] быў наро́да. Аж да ні́за, да рэ́чкі... На ко́нях жа прыі́жджа́лі – падво́д было́!

За рэ́чкай ме́льніца была́: і кру́пы тут у нас абдзіра́лі, і муку́ ме́лкага памо́лу, как гавары́лі, то́жа наро́д с'і́жджа́ўся. Вот у э́там до́ме ваўначо́ска бы́ла – во́ўну прыі́жджа́лі чыса́ць. А на Паліёўшчыне жы́лі лю́дзі прамысло́выя – са́мі ва́ленкі валі́лі. Ім ва́ленкі насі́лі валі́ць. Тут чыса́лі во́ўну і ніслі́ ім туда́. У іх там каго́дкі, разме́ры... Паме́рают ціба́ нагу́: дліне́й, караце́й. Ім не то́лька дзе́ньгі плаці́лі: хто што даў... ба́ртэры бы́лі.

### Славутыя землякі

Січа́с тут пяццо́т с чэ́м-та чылаве́к [жыве]. А кагда́ я в шко́лу хадзі́ла, тут піццо́т со́рак адзі́н учэні́к был! Е́слі нас піццо́т со́рак дзяце́й бы́ла, то факт, што бо́льшы ты́січы жы́целей бы́ла. Э́та то́лька на мае́й па́мяці!

О́чынь мно́га с на́шай дзірэ́ўні і арці́стаў, і генера́лаў – вы́хадцаў. З Гало́ўчына – Аксельро́д, забы́ла імя́-о́тчыства, ізабрыта́цель. Он мне прысыла́ў – така́я цыпо́чка інцірэ́сная, как про́ва-

лачка. І ана́ так дві́жэцца. Для сшыва́ння кравяно́сных сасу́даў прымі́няецца. В апара́це іспо́льзуецца. Я зна́ла яго́ дваю́раднага бра́та.

В во́седзесят пе́рвым гаду́ мы арганізо́вывалі у До́ме культу́ры – я ў бібліаце́ке тагда́ рабо́тала – ве́чыр встрэ́чы выпускніко́ў со́рак пе́рвага го́да. Така́я інцірэ́сная встрэ́ча бы́ла! Мно́га прые́хала людзе́й – і генера́лаў, і лё́тчыкаў, і геро́яў Саве́цкага Саю́за... Разгаво́раў да утра́ бы́ла!

### Сустрэча ў лесе

Тут был красі́вы ело́вы лес, чэраз рэ́чку. Яго́ вы́рубілі. Адзі́н бурыло́м [зараз застаўся]... Там в дзе́цтве быравіко́ў о́чынь мно́га бы́ла. У Казё́нны лес хадзілі. Э́та гдзе́-та кіламе́тра тры ад нас, как е́дзеш на Магілё́ў. То́жа красі́вы лес быў, ело́вы. А шчас лесо́ў у нас не́ту. Быравіко́ў бы́ла мно́га, я́гад... А січа́с вы́йці не́куда, адзі́н бурыло́м. Во, во́злі Забало́цкага кла́дбішча бірэ́знічак ма́ленькі, і усё́. Так такаво́га красі́вага ле́са ні аста́лась.

А ра́ньшы ло́сі былі́ у Бара́наўкі. Я сама́ ві́дзіла ла́ся. У грыбы́ пашлі́... Я сагну́лась, увлікла́сь. Там такі́я чырнагало́вікі, как мы іх зва́лі, падбіро́завікі. Галаву́ падняла́ – і лось на мяне́ глядзі́ць. Я да таго́ в стрэ́се, што вспаміна́ю, што там ло́сі дзе́лают – б'ю́цца ці куса́ююцца? Друг на дру́га пасматрэ́лі. І он перве́й пашо́ў. Я не успе́ла да́жа паду́мать, што э́та на́да дзе́лаць.

### Авечка – кругом чалавечка

Хазя́йствы ва ўсех бы́лі. Сві́нні, ку́ры, каро́вы, аве́чкі, ко́зы, ко́ні. Э́та ж так пало́жына. Вот на́ша у́ліца – ста́да бы́ла, Паляіё́шчына – ста́да, на Ра́кавічы у́ліца – ста́да бы́ла, на Садо́вую у́ліца – ста́да. Сто дваццаць каро́ў. А січа́с адно́ [стада] – два́цъць пяць каро́ў: с на́шага ста́да адну́ каро́ву прывя́зывают і ў Ра́кавічах адну́. О́чарадзь бы́ла: раз у паўтара́ ме́сяца па́сцілі, раз у ме́сяц.

Я і аве́чак дзіржа́ла, і ко́зы у міне́ бы́лі, і сві́нні. А аве́чкі!... Ні зра гаво́рацъ: «Аве́чка – круго́м чылаве́чка». Ані́ саўсе́м ніпрыхатлі́выя. А э́та ж і во́ўна, і мя́са. Ім на́да то́лька се́на, трава́. Ну, там мо́жыш німно́жка зё́ран які́х даць. Э́та ж ні сві́нні! Э́та сві́нні – хле́бныя звяры́. А аве́чкі траваядныя. Э́та вы́гадна.

***Расказвае М. В. Шуган, 1936 г. н., ураджэнка в. Смагілаўка Бялыніцкага р-на;*** *запіс зроблены ў 2014 г. у в. Лубяны*

### Спаленая вёска

У вайну́ мы дзе жылі́, там і аста́ліся, несматра́ на то, што на́шу дзярэ́ўню – на́ша нібальша́я дзярэ́ўня, дваро́ў тры́ццаць пяць-со́рак – усю́ да тла сымалё́т спалі́ў.

По́мню, трі чылаве́кі прышло́: «Січа́с вас бамбі́ць бу́дут». Яны́ прыдста́віліся, што парціза́ны, а хто яны́ бы́лі, мы ня ве́даем. Мо́жа, які́я врагі́ – паліца́і ці што... Ну тады́ не успе́лі пагавары́ць, разыйці́ся, і с сто́раны – Кармано́ўка, дзірэ́ўня, бой там быў – і с той сто́раны міну́т чэраз дзе́сіць самалё́т наліта́е, над дзірэ́ўняй над са́маю. Мая́ ма́ма пако́йная гаво́ра: «Ой, дзе́тачкі, быстрэ́й у бліндаж пайдзё́м!». Усе́ іс ха́ты павыска́кывалі і папаўзлі́ дзе у каго былі́ які́я я́мкі. І ён [самалёт] рызвярну́ўся – праз дзярэ́ўню ручаё́к такі́ ішо́ў, а за ім ба́ня – шах! у гэ́ту ба́ню. І пашо́ў круці́ць! І ўсю дзярэ́ўню спалі́ў. Э́та на чацвё́рты дзень Па́скі разбамбі́ў нас. Па́ска была́ пітна́ццатага апрэ́ля. Бы́ла бяллё́ пасці́рана, і вісе́ла, дык зажыга́лкамі усё́ папалі́ла...

Як мы пагарэ́лі, е́сці ні́чо́га німа́... Адзё́жы – аста́лася, што на нас, ле́тнія пла́ццікі. Ма́ма мая́ у аго́нь кі́даецца, а мы пла́чам, ма́му ні пуска́ем. А яна́: «А чым я кармі́ць вас бу́ду?! А чым я адзява́ць бу́ду?!». А мы пла́чам: «Ма́мачка, мы у цябе́ ні́чо́га не бу́дзем спаганя́ць». А у нас кірпі́ч харо́шы быў – пе́чка харашо́ здзе́лана. Пе́чка гэ́та ні абвалі́лася. І чыгу́н капу́сты астаўся... Ва ўсех паабва́льваліся пе́чы, а на́ша стая́ла. Па́па мой быў ма́сцірам, дык сам дзе́лаў гэ́ту печ. Ён ма́сцір быў на ўсё па страі́цельству. Усю дзярэ́ўню ма́ма сазва́ла, дзе́так, капу́стачкі гэ́тыя тро́шку пахлі́балі ў абгарэ́лай кру́жачкі – чэ́рпалі ды е́лі. Жале́зных кру́жак ні было́, дзіръвя́нныя пагарэ́лі.

У канцы́ дзярэ́ўні, чэраз раво́чак го́рачка была́ пясо́чная. І там хранілішча бу́льбы бы́ла. Ко́жны сам засыпа́ў у сваю́ я́мачку. Вы́капалі я́мычку, і яна́ [бульба] да вясны́ хранілася. Я́мкі – ме́тра тры... не, тры не выка́пывалі: два, два с палаві́най, штоб быў праміжу́так, штоб ні памёрзла. І засыпа́лі туда́ бу́льбу. Як мы пагарэ́лі, гэ́тыя я́мкі усе́ раскапа́лі, саедзінілі і там здзе́лалі сабе́ убе́жышча. І ку́хня там была́. Як вечарэ́е, сабіра́емся, се́м'і усе́, і ідзём у лес начава́ць. А у нас там бало́та было́, яно́ не сільна шыро́кае, ме́траў піццо́т у шырыні́, а дліннае – кіло́метраў пяць ілі шэсць. Во́зле гэ́тага бало́та – таке́й е́льнічак густэ́й – а яны́, не́мцы, баялі́ся гэ́тых бало́т, штоб ні утапі́цца – так мы к са́маму бало́ту. А гдзе е́льнічак гусце́йшы, ла́пак налама́ем бо́льшых, здзе́лаем, як шала́ш, спаць каб цяпле́й. А тады́ ла́пак налама́ем – падсце́лім, а тады́ ла́пкамі і накрыва́ліся. Вот так мы і жылі́, як пагарэ́лі.

Не́мцы нам е́сці дава́лі. Бра́ту майму́ сра́зу прыдлажы́лі – да́жа свой кацяло́чак да́лі, – а ма́ма ка́жа: «Ой, мо́жа, які́я атра́вы да́лі». У нас абгарэ́лы кот аста́ўся, і яна́ да́ла то́му ко́цiку паесці. Ко́цік тэй – нарма́льна, не атраві́ўся. Не́мцы дава́лі лімініевы кацяло́чак, закру́чачкі такі́я... Дава́лі ка́ждый дзень кацяло́чак яды́. Уку́сная – з мя́сам бу́льба, гаро́х. Уку́сна было́! Для нас не́мцы уре́ду там ду́жа ня здзе́лалі. А ты́я, хто спалі́ў дзярэ́ўню, разгава́рывалі па-ру́ску, ну, па-белару́ску – абыкнаве́нна.

### Прызнанне

Раскажу́, як не́міц прышо́ў, як яшчэ́ ні гаре́лі мы. Нас бы́ла во́сьміра у вайну́ і у нас – ні по́мню па яко́й прычы́не – две парцiза́нкі пражыва́ла. Зва́лі адну́ Ка́ця, адну́ На́дзя. А чаго́ пражыва́лі?.. Ілі яны́ па зада́нію, ілі хава́ліся... Не́мец зайшо́ў. А гру́бка тапі́лася. Ма́ма бу́льбы запе́ч у жар палажы́ла. Ён прышо́ў, паглядзе́ў, па-няме́цкі ґірґо́ча. А ма́ма ні паніма́е, спуга́лася, ду́мае, ну, усё, мо́жа, хто сказа́ў, што е́тыя парцiза́нкі... Пашо́ў, прыво́дзіць перааво́дчыка. Ну, тады́ гаво́рыць: «Гэ́та ўсё ва́шы?». – «Усе́ мае́». Ма́ма яе́ц вы́нісла ре́шыта ніба́льшое. Ён ні ўзяў. Гаво́ра: «Аддайце дзе́цям». А тады́ гаво́ра: «Вы ду́маіця, мы хо́чам ваіва́ць? Мы ні хо́чам ваіва́ць, нас застаўля́юць. Каб ва́шага і на́шага і – гало́вамі. Галава́ аб галаву́ паразбіва́ць ім. І мы б на кры́ллях да сваі́х се́м'яў паляце́лі б».

### Забіты немец

А як на́шы салда́цікі ішлі́ чэраз дзярэ́ўню, мы угашча́лі іх хле́бам, вадо́й гэ́тых салда́цікаў. Усе́ стая́лі во́злі сваі́х дваро́ў і на ходу́ угашча́лі: ско́лькі там было́, атла́мвалі тэй хлеб. А хто іх ду́жа карміў тады́? Дзе яны́ е́лі? Мы і з кру́жачкамі вады́ стая́лі...

Тады́ аднаго́ не́мца, уні́з, каля дзярэ́ўні, мало́дзінькага забі́лі, так мы бе́галі глядзе́ць. Мало́дзінькі ляжа́ў, абыкнаве́нны, як і мы ўсе. Кальцо́ было́ на ме́зеным па́льчыку. Так ён і зваля́ўся. Не́шта ніхто́ ні прыкапа́ў яго́. Не́мец – то не́мец, але ж трэ́ба было́ я́мачку вы́капаць...

### Знаходка

Адзі́н раз пашлі́ у я́гады ма́ма мая́ і сасе́дка. Мая́ ма́ма нашла́ я́шчык боепрыпа́саў. Запіча́таны абыкнаве́нны я́шчык, з шалёвачак. А ма́ма мая́ у ле́се чуць ні ка́ждую ёлку зна́ла – і грыбні́ца і я́гадніца. Нашла́ гэ́ты я́шчык. Сасе́дка гаво́ра, дава́й пагля́дзім, што гэ́та. Не, гаво́ра ма́ма, бо́жа упасі́, ці ма́ла там што, ці мі́на ці што. І до́бра зна́ючым парціза́нам ана́ аддала́. Дык благадары́лі! Гаво́рацць, э́та самалёт скі́нуў для пацiза́наў, і яны́ яго́ найці́ ні маглі́. Так така́я была́ благада́рнасць!

***Раказвае А. А. Цецерукоў, 1927 г. н., ураджэнец в. Асавец;*** *запіс зроблены ў в. Асавец у 2014 г.*

### Сусед

Быў тут хло́пец у нас адзі́н. Прышо́ў, адсе́даў [у турме] два́ццаць пяць гадо́ў. Зале́з во у гэ́ту ха́ту (тут ніхто́ ні жыў). Прыжы́ўся. Ну, он харо́шы пло́тнік. Я ужо́ стары́ – ру́кі трасу́цца – кажу́, здзе́лай мне варо́ты. Ён здзе́лаў мне варо́ты. Я яму́ заплаці́ў. Ка́жа: «Я прыду́ глядзе́ць цілявізар». –

«Ну, прыдзі, паглядзі». Што такóга? Прышóў цілявізар глядзéць. А бáба ж бальнáя, я сам – тудьí-сюдьí. Ён прынясéць вінá. Дасць ёй [віна], бáба пакацілася і спіць. Я увахóджу у хáту, а ён – у шкáпа. «Што ты там дзéлаіш, што табе там трэ́ба?» – «Ды двёрка адкрьíлась, дык я двёрку закрывáў». Узяў підзісят тьíсіч. Лáдна, дýмаю, падаждзі. Заказáў балóн [газу]. Я адкладáў сямсóт тьíсіч на балóн. Палажьíў на пóлку у шкап. Дýмаю, я цябé правéру. Даюць балóн. Ён [сусед] быў ды німá з хáты. І грóшый німá. Ну, я адалжьíў грóшы, заплаціў. Прыбігáе: «Ну як, балóн пастáвілі?». Я – за абýх ды ў галавý ямý. Сілы ужó німá, я б ягó забіў. Як на дварэ́, я б ягó засéк ба. Ад тагó і блізка не ідзéць. І ягó вьíгналі адсюль. Ён нашóў нéдзе на Прьíставе – у нас завéцца – зáраснік там, лес – ён нашóў нéйкую хáту, перабрáўся тудьí і там жывé. Стáвіў пáсткі, катóў лавіў. Звáра – з'есьць. Во які ён. А хто ягó карміць бýдзе? А цяпéр – [ходзіць] на свáлку. Там назбірáе метáла (у нас тут прынімáюць метáл). Назбірáе там метáла, жалéззя – на хлеб ямý ужо ёсць і на бутьíлку вінá.

Я пытáўся: «А дзéці ці ёсць у цябé?». Сын і дачкá – двóе дзяцéй. «Яньí мянé ні шукáюць». А які ты бáцька, што яньí цябé шукáць бýдуць? Éслі б харóшы бáцька быў. Ані б цябé нашлі, адшукáлі. Усé дзéці бацькóў шукáюць, «Ждзі міня» [тэлеперадача] пакáзываюць, а цябé ніхтó не шукáе. Éслі б быў харóшы двáццъць пяць гадóў ні дáлі б. Забіў кагó-та... Мне ні слóва ні сказáў, прамóўчаў і усё́.

### Дзікія жывёлы

Во, э́та маé кýры. Іх асталóсь вóсем штук, а былó трынáццаць. Лісá пахапáла. Пéцька [сусед] сваíх зачыніў у дварэ́, а маé хóдзяць. Лісá ўдзень прыхóдзіць, янá ж ўнóччы не ўкрáдзе – кýры ж нóччу на курóсадзе сідзят.

Ваўкі тут бьíлі зімóй. Іх страля́лі тут, яньí тут хадзілі па дзярэ́ўні, па фéрмі хадзілі – быкá аднагó прыдушьíлі. А ўпéрад бьíла: пяцё́х зарэ́залі быкóў... Пааб'ядáлі і пазакáпылі. Ну, вьíзвалі ахóтнікаў, абстáвілі ані э́ты лес [сцяжкамі]. Там пасё́лак ёсць, там трі хáты стаíць... Адтýль стáлі выганя́ць [ваўкоў]. Там іх усéх і пастраля́лі.

І кабанóў у лéсе – дай бóжа! Вун, саўхóз бýльбу сéе, дык і на дзікóў, і на ўсех хапáе.

***Расказвае В. І. Шарснёва, 1934 г. н., ураджэнка в. Асавец;*** *запіс зроблены ў в. Асавец у 2014 г.*

### З успамінаў пра вайну

Нéмцы зрáзу нейк харашó абръшчáліся з нáмі, як тóлькі яшчó паявіліся. А як стáлі парцізáны у лісáх, так стáлі яньí... палілі, білі. Усягó былó. Цэ́лы дзень éздзюць нéмцы, калашмáцюць, а нóччу – парцізáны. Сцямнéіць, яньí [немцы] нóччу ня éздзяць, патамý шта баялісь парцізáнъў. А мы жылі на тым канцьí дзярэ́ўні, і там у нас быў калхóзны сад, кустáрнікі былі. Яньí [партызаны] як éдут, зрáзу к нам, злéзуць, кóні пастáвюць і пашлі па дзірэ́ўні шáрыць парцізáны éтыя.

Адзін раз парцізáны у нас начавáлі, лéтам, такóй парóй, ужó агуркі паявілісь маладьíя, бýльба маладáя былá... Мáтка маá і другáя сасéдка запарьíлі бýльбы, парцізáнъм аднéслі на чырдáк, яньí пад'éлі і забьíліся сваю абóйму, патрóны, і пашлі ў лес. Мы аглéдзіліся, э́та ж ці хавáць нáда, ці што. Ну, давáй панясё́м парцізáнъм у лес. Мáтка маá грáблі на плячó, я паклáла [патроны] у хýстачку і пашлі у лес. Відзім, бяжьíць [партызан]. Я аддалá э́тыя патрóны. Éслі б нéмцы найшлі, забілі б.

Парцізáны кáжный дзень к нам [у хату] прыхадзілі, тут у іх былó збóрышча. У нас жа конь быў і скацíна. Зірнó сабірáлі. Скáжуць у дзярэ́ўні ўсім сабрáць па вядрý аўса ці ячмéню. І ўсё к нам знáшываюць. А тадьí ані прыіжджáюць вéчарам, забірáюць.

Блізка у нас баёў ні былó. Дзé-та за Магілёва, Бýйнічы, там бьíла вайнá. А тут так, праéздам. А як крáсныя прышлі, мы начывáлі у акóпе. Мы ж ні знáлі... Ні былó ні рáдзіо, нічóга. Ні знáлі, што крáсныя ідýць, нéмца гóняць. У акóпе сядзім – бáбы стáрыя, дзядьí, дзéці мáлыя. Вадьí бутьíлачку узя́лі, мáці даюць дзіця́м, каб ні плáкалі. А тадьí съмалё́т ляціць і гавóра адзін наш

чылаве́к: «Не́мцы іду́ць, шчас пастрі́ляюць усе́х у ако́пе. Я ся́ду пе́рвый і ба́ба адна́ стар́эйшая, каб нас пе́рвых...». А тады́ хто-та прібігáіт у бліндáж у гэ́ты і гаво́ра: «Усё, ру́скія прышлí! Бу́дзе канéц вайнé!» Мы павы́скачылі, прыбéглі сюды́, у дзяр́эўню. А ў дзяр́эўні не́мцаў двух забілі – яны́ тут нéшта пілавáлі. Забілі э́тых нéмцаў, цягáюць іх за нóгі. Іх на кладзíшча закáпылі. Каб хто цяпéр паказáў ту магíлку, дак ніхто́ ні знáе. Так закапáлі і ўсё.

*І. У. Галуза*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ГАРАДОК ГЛУСКАГА РАЁНА

***Расказвае М. М. Новік, 1937 г. н., адукацыя 4 (5?) класы, нарадзілася ў в. Кнышы Глуска-га р-на;*** *запіс зроблены ў 2015 г.*

### Дата нараджэння

Імя́ маё Мары́я. Бáцька мой завéцца Мікалáй. Я радзíлася ў тры́ццаць сёмым гаду́, но мянé запі-сáлі ў тры́ццаць вóсьмым, фтарóга январá. Ці васьмóга январá? Мóжа, і васьмóга, я дóбра ні пóмню, што ў мянé там напíсана. А па прáўдзе, я нарадзíлася пасьля Пакрóў на трэ́йці дзень. Пакрóвы чыты́рнаццатага акцябрá, так? Чаты́рнаццатага. Пятнáццатага, ну, навéрнае, шаснáццатага чыслá.

А сьвяткýю? Нікадá. А дзéўкі [дочкі] калі прыéдуць? Абы-калí. Яны́ мне пазвóняць. Адзін раз пазвóняць, а другíм днём ішчэ́. Тады́ пасьля́ Нóвага гóда зноў звóняць: «Мáма, зь Днём раждзéня!».

### Сям'я

Мой бáцька Мікалáй Івáнавіч. Гу́рын Мікалáй Івáнавіч. А мáма па бáцькавáй фамíліі стáла ўжэ Гу́рына Кацяры́на Платóнаўна.

Мáма памéрла тут у мянé ў Гаратку́, у дзевянóста якíм гаду́ ні знáю. Éта нáда спрасíць. На пáмятніку, дак там [напісана]. Я вот усё сабірáюся с пáмятніка сьпісáць, да і так вот нікóлі і ні сьпісáла. У Лíды рóднай [сястры], у яé ўсе пазапíсваны: хто кадá ýмер.

У мáмы нас былó пя́цера, а два ў мянé былí браты́ бáцькавыя. Ягó жóнка памéрла, ён узя́ў мáму, тады́ ўжэ мы нарадзíліся ўсе. Дак адзін брат памё́р у сóрак чацьвё́ртам гаду́. Вот забалéў і памё́р, пасьля вайны́ ўжэ ш. Астáўся адзін, жыў, вот памё́р. Ён памё́р у наябры́, фтарóга гóда, навéрна, а мой Гры́ша [муж], навéрна, у феўралí. У феўралí ўжэ трэ́цяга.

Брат Максíм быў, памё́р ужэ́. Сястрá Áня жывé на Ўкра[й]іні, у гóрадзе Рóўна, а мéншая сáмая, Вáля, сястрá мая́, жывé ў Днепрапятрóўск[у]. А сóрак фтарóга гóда сястрá мая́ е, Лíда, з Грóдна ўжэ. Вот усé так.

## УСПАМІНЫ ПРА ВАЙНУ

### Пачатак вайны

Я нарадзíлася ў Кнышáх, шчытáй, ты́я месяцы́ ні шчытáюцца, так? А хай тры́ццаць сідзьмóм – у тры́ццаць васьмóм гаду́, но я нарадзíлася у тры́ццаць сідзьмóм гаду́ ў акцябры́, па прáвілу. Дак от я пóмню, як казáлі, што вайнá. Вайнá! Малáя ж былá, яшчэ́ ні саабражáла, што э́та такóе вайнá. І нáшые мушчы́ны ўсе, кнышóвецкія (у Завалóчыцах быў сьпіртзавóт), яны́ пабрáлі вё́дры і пашлí туды́ назьбірáць гарэ́лкі. Скóлькі яны́ там начэ́рпалі, тóе вядрó, ну прынéсьлі. Пáпа па-кóйны і там мушчы́ны, катóрыя хадзíлі.

Дак яны́ ўсе расхвáтвалі той сьпірт. А тады́ ўжэ папрыхóдзілі дадóму. А тады́ ўжэ і самалё́ты стáлі лятáць. І на трэ́йці дзень жа ш ужó нéмцы ў Гарадóк прыéхалі. На трэ́йці дзень вайны́. Ўжэ нéмцы былí тут, у Гаратку́.

### Пячоры

А тады́ ўжо гаво́раць: вайна́, вайна́, вайна́! Ужэ́ самалёты ста́лі лята́ць. Гаво́раць: бу́дуць бамбі́ць. І ба́цька за нас, і ма́ма ўжэ. Тады́ ш яшчэ́ е́тых ні было́ дзе́вак, то́лькі я, Максі́м быў, Фе́дзя і той Пе́ця быў, што паме́р. А е́тых? А́ні яшчэ́, наве́рна, ні было́. Лі́да радзі́лася ўжэ ў со́рак фтаро́м гаду́, А́ня – у саракаво́м. Дак у саракаво́м жа вайна́ начала́ся, дак А́ня была́ мале́нечкая яшчэ́ саўсі́м. Дак яе́ і на рука́х не́сьлі, а я ўжэ бе́гла.

І там у нас е тако́е ўро́чышча, Падго́р'е называ́ецца. Тако́е вот: тут рэ́чка, а тут – сенако́с ні́ска, а тут так от пад го́рку, пад го́рку, так, як бы ў вас от там от. От так кру́та. І так, як бы і паме́раць, дак ме́траў чаты́ры ў высату́ было́. Но яно́ пало́га было́ там, так о во пало́га. А там тако́е ўжэ по́ле было́, і там і се́ялі. По́ле было́. У нас называ́лася е́та Падго́р'е.

Дак капа́лі туды́ я́мы, і нас туды́ запіха́лі: хава́лі туды́ ў ты́я я́мкі, што бу́дзе бамбі́ць самалёт, дак каб ужэ́ [схавацца]. Дак от е́та я по́мню. Я по́мню, як крыча́ла: «Я ні пале́зу ў е́тую я́му, я ні хо́чу ў я́мы!..» Але такія пячо́ры былі́, пячо́ры. Выка́пвалі ка́жды сваёй сям'і́. І не то́лькі мы, а там усе́ лю́дзі. І вот мы туды́: хава́лі нас, малы́х.

Тады́ нас аттуль павынімали, і цёмначы мы ўжэ дадо́му пашлі́. Ну, і вот так вайна́ была́. Парціза́ны хадзі́лі сабе́, а не́мцы ўдзень.

### Брат Максім

А на трэ́йці дзень не́мцы прые́халі сюды́ ў Гарадо́к. І на матацы́клах прые́халі, па Кныша́х ужэ́ раска́твалі. От е́та я по́мню. І майго́ бра́та, е́тага Максі́ма, узя́лі і пасадзі́лі ў каля́ску ў матацы́кл. А цётка мая́, наўпро́ціў наз жыла́ (е́та за дваюро́дным бра́там ба́цькавым была́ ана́). Дак яе́ мужы́к паме́р ужэ́ быў, ні было́, а ў яе́ два сыны́ было́. Дак адзі́н на вайне́ быў, а адзі́н быў до́ма. Адзі́н на вайне́: Са́шу забра́лі.

Дак яна́ прыбе́гла: «Ой-й-й, Ка́ця, зьвязу́ць хло́пца! Дзіцё ў рэ́ку ўкі́нуць! Схваці́лі на ву́ліцы, пасадзі́лі ў каля́ску і пае́халі!» Сядзя́ць ужэ́ на ву́ліцы на ла́ўкі, бе́цтвуюць. А тады́ яны́ прыве́зьлі, вы́кінулі яго́ і зноў пае́халі. У Гарадо́к.

А ў Гаратку́ яны́ ўжэ пасялі́ліся былі́ тут. От людзе́й паўганя́лі: от зь е́тай ха́ты вы́гналі, тады́ з Лары́сінай ха́ты вы́гналі. І мы ў хляве́ абіта́ліся. Ране́й са́мі ха́ту зо́ймуць е́тыя. Е́та вот было́ так.

### Партызаны і немцы

А пато́м ужэ́ ста́лі хадзі́ць, зна́еш, не́мцы днём, а парціза́ны ўно́ччу прыхо́дзілі. І вот пры́дуць: соль адбіра́лі ад людзе́й, соль. Не́мцы дак ма́сла, я́йца. Кама́ндавалі зно́сіць у адно́ (ска́жуць, у яко́е там) ме́ста, і туды́ ўжэ на́да было́. Дак зно́сілі е́тае ўжэ. Яе́чкі – е́та не́мцам. А парціза́ны ўно́ччу прыхо́дзілі. І парціза́ны прасі́лі парця́нак, бо но́гі ме́рзьлі: яны́ ж у бало́тах жылі́. Не́мцы ж дак сялі́ліся па ха́тах, а парціза́ны ш... Дак яны́ прасі́лі парця́нак, ну і со́лі прасі́лі, е́сьлі е хлеб, дак і хле́ба. Тады́ ш мы хлеп шчэ пяклі́, я по́мню. Пяклі́ ўжэ ш тады́, зярно́ како́е-та бы́ла. Ба́цька быў шчэ мой, і зярно́, і ма́ма калі-не́буць ісьпячэ́ хле́ба.

### Стрыечны брат Іван

Не́мцы прышлі́ аднаго́ ра́зу і кама́ндуюць, куды́ не́сьці я́йцы і ма́сла. І было́, што і курэ́й да́жа кама́ндавалі, каб не́сьлі.

А мой брат дваюро́дны быў (Іва́н зва́ўся), ён такі́, зна́іш, псіхі́часкі бальны́ быў, зро́ду. Яго́ дзя́цька забра́ў, ма́мін брат, у Ленінгра́т, ён быў у Ленінгра́дзі. Як вайна́ начала́ся, ён пяшко́м прышо́ў зь Ленінгра́да. Дадо́му сюды́. Патаму́ шта дзя́цьку ўжэ Пятра́, като́ры яго́ забіра́ў, забра́лі на вайну́: ён лёччыкам быў, і таго́ ўжо на самалёт забра́лі. Ужо́ ён дадо́му ні вярта́ўся. А жо́нка яго́ іс сваі́м дзіця́м прышла́ ў Рымо́ўцы, к сваёй ма́цяры. Дзя́цька мой быў з Рымо́вец, дай ма́ма мая́ рымо́вецкая. І та́я жанчы́на, што за дзя́цькам была́, яна́ з Рымо́вец. Дак яна́ к сваёй ма́цяры прышла́.

Ён дадóму прышóў, éты Івáн. А ён прышóў, кáжа: «Мáма, а куды́ ты éта зьбірáеш, éтыя яéчкі, да мáсла, да сыр?» А яна́ кáжа (а ён [немец] стаіць с аўтамáтам): «Вот пан прышóў, камáндуе нéсьці, так і так». А ў іх былó такóе вот зéркала, вот такóй фóрмы. Такóе во сьцякло́ тóўстае, як пáлец, а ззáдзі такáя ру́чка с прóвалакі (ну, патстáвачка): éта як стáвіць, éтае зéркала. Схваціў [Іван] éта зéркала: «Да я яму́ дам я́йцы да мáсла!». Да яму́ [немцу] так во как секану́ў тым зéркалам, так, і перабіў, вíдна, перанóсіцу. Ён крóўю зальліўся. «А-а-а-а-а!», – крычы́ць.

А ён [Іван] забрáўся, за хлеў, па картóшках папóўс, папóўс, а там былá (там ужэ́ сенакóс) канáва. Ён па той канáві, у рэ́чку, і рэ́чку пераплы́ў. Лазьня́к. А éтыя нéмцы за ім гнáліся. І паліцáі ш тады́ былí, ні адны́ нéмцы. Яны́ за ім гнáліся, ну яны́ ні бáчылі, куды́ ён упры́гнуў, яны́ страчы́лі па вадзé, страчы́лі. А ён кáжа: «А я савершэ́нна ў другóм кусту́ быў. Я так за кусты́ ўзя́ўся, а сам у рэ́ку ўтапіўся, а ды́хаў тóлькі, так во».

Ён дабы́ў дацямна́. Нéмцы ж éты паéхалі, а парцізáны прышлí. І ён с парцізáнамі пашóў у парцізáны, каб ні ўбíлі ягó.

### Цётка пайшла ў партызаны

А цётка мая́ пабая́лася адна́. Яé нéмцы вы́велі на ву́ліцу. І такóе во зрабіў [Іван], дак яé хацéлі растраля́ць. А лю́дзі сабрáліся і стáлі на калéні прасíць éтых нéмцаў, абдымáць за нóгі, што яна́ ні вінавáта: ён бальны́, ён бальны́. Аб’ясьня́лі ім, што бальны́. Яны́ яé не застрэ́лілі. Яна́ да нóчы пабылá, тады́ ўнóчы залыгáла сваю́ карóву, а яé карóва ўжэ былá ацялíлася, целя́ былó малóе. Яна́ карóву залыгáла, а цяля́ астáвіла. Пашлá сасéццы сказáла, што, Лукéр’я, гавóрыць, скажы́ Кáці, хай яны́ зарэ́жуць цяля́, забяру́ць мя́са.

А мáма бая́лася, ду́мае: а $^{ў}$вдрух хто штó-та скáжа нéмцам, што éта яé сястра́ пашлá ў парцізáны, а цяля́ – яна́ [мама] забрáла. Дак мáма пабая́лася і кáжа: «Ой, дзéўкі, да я ні бу́ду брацъ! Хай éтай (як яна́ звáлася, ой, Кóсьцікава мáці, я ш і знáла, як яна́ звáлася, вот вы́скачыла ў мянé з галавы́)... Хай яé хлóпцы забяру́ць éта цяля́, зарэ́жуць да й забяру́ць мя́са». Юсты́ньня яна́ звáлася. Усьцíнья. Дак хай Юсты́на забярэ́, ды й хлóпцы хай зарэ́жуць. Тáя Лукéр’я пашлá, той Юсты́ньні сказáла, хлóпцы пашлí, тóе цяля́ зарэ́залі. Аблупíлі, мя́са забрáлі.

А цётка мая́ пашлá ў Вíльчу, павялáся ўнóчы, чаразь лес, чэраз рэ́чку і чараз лес. Там кіламéтраў пяць, навéрна. Дóбрых пяць. Туды́ парцізáны часьцéй прыхóдзілі. Яна́ ўжэ нашлá парцізáн, а ў парцізáнах там быў майгó бáцькі дваюрóдны брат, Кóля звáўся. Дык яна́ пашлá ўжэ туды́ к ягóвай цёшчы, гавóрыць: «Éсьлі пры́дзе Кóля, дак ты скажы́, што я ў Валóдзі тáмака карóву сваю́ дзяржу́ (там Валóдзя тóжа быў: ягó жóнка былá дваюрóдная сястра́ майгó бáцькі, Вéра). Дак скáжаш, што я ў Валóдзі, с карóваю. Каб яны́ забрáлі карóву і мянé ўжэ туды́, у парцізáны». І так яна́ папáлася ў парцізáны, тáя мая́ цётка.

А мáці мая́ бая́лася ўсю вайну́, дрыжáла, кап ніхтó ні патсказáў, што яна́ ў парцізáнах, бо прышлí б забíлі б усю́ сям’ю. Вот як.

Вот так мы і прагаравáлі вóйну.

### Цётка ў Азарычах

А цётка тады́ мая́ там пашлá. «Жáлы», там такóе е, саўхóз быў там, называ́ўся «Жáлы». Яны́ там у балóці былí (за Любанем éта), і парцізáны былí на éтам балóці. Патóм яна́ (не той гот, а ўжэ на другí гот яна́ пашлá ў парцізáны) пашлá ў разьвéтку. Яé пасылáлі парцізáны ў разьвéтку, што як бы бáба, дак дзе нéмцы паймáюць, дак мо нічóга. Яна́ пашлá, нéмцаў ні былó ў той дзярэ́ўні (дзярэ́ўня Баянічы называ́лася). Яна́ тудá прышлá – нéмцаў німá. Яна́ хацéла і назáт ісьці ўжэ, у балóта. І тут нéмцы акружы́лі éту дзярэ́ўню, і нéхта сказáў, што чужáя, ні мéсная: знáчыць, парцізáнка.

Яны́ яé ў машы́ну, і завéзьлі ў нéйкія «Жáлы». Тáмка ў «Жáлах» таксáма нéйкіх палавíлі людзéй. Дак іх ні знáўшыся, якія с парцізáн прыхóдзілі мо чагó дзе прасíць, каб... Іх палавíлі, і ў машы́ну, і прывéзьлі ў Глуск. У Глу́ску тут былá цюрмá нéйкая, дак яны́ іх узя́лі у цюрму́ éтую

пазаса́джвалі. І во́кны пазабіва́лі. І малады́я лю́дзі. Сказа́лі, што патпа́ляць. А патпа́львалі то́лькі паліцэ́йскія, ні не́мцы. Ка́жа, малады́ такі́ не́мец, аткры́ў да гаво́рыць: «О-ой, цё́ці, дзя́дзечкі, важ жа бу́дуць палі́ць». Цё́тка, ка́жа, мы та́мака апс... ат стра́ху ат е́тага. Дак ужэ́ ждалі: скарэ́й бы ўжэ спалі́лі, каб ні дрыжа́ць.

Ака́зваецца, яны́ іх ні палілі, прыгна́лі машы́ну, грузавы́я, і ўсіх е́тых людзе́й загру́зілі па машы́нах. А зь Вільчы быў адзі́н, у паліцыі ён быў, Вало́дзя, Лабо́йка фамі́лія. Фамі́лія Лабо́йка. А зва́ўся Вало́дзя. Я е́тага дзя́цьку зна́ла: я яго́ до вайны́ ні зна́ла, у во́йну ні зна́ла, по́сьля вайны́, кагда́ ён дзе́сяць лет атсе́дзеў по́сьля вайны́. Ён прышо́ў, а я была́ ў Ка́рпавічах (там мая́ цё́тка была́), дак вот я ве́даю таго́ Вало́дзю. Вот то́лькі так.

Так яна́ гаво́рыць: «Той Вало́дзя мне ка́жа і гаво́рыць: зна́еш што, Зо́ся, мы бу́дзем е́хаць, у Ра́душыні ты от стара́йся папа́сьці ў таку́ю трэ́йцюю машы́ну, бо я бу́ду ў трэ́йцяй машы́ні е́хаць. Я скажу́ не́мцу э́таму, што «сьці́шы хот», дак а ты пры́гнеш у Раду́шыні, да пе́шы по́йдзеш у партіза́ны». А яна́ ка́жа: «А я пабая́лася. Ку́заў-то, ну, высо́ка, пры́гну, а сь пярэ́дняй машы́ны забача́ць у зе́ркала і растраля́юць. Я тада́ пабая́лася і ні пры́гнула».

І е́халі сюдо́й чэрэз Гарадо́к, па той ста́рай (тады́ ста́рае шасе́ было́, ні е́та во, а вот там было́, так во тут па Гаратку́). А там жыла́ Во́ля (тут была́ Ні́на Ку́дла, дра́жнілі), дак е́йна ма́ці. Каля са́май, напро́ціў кла́д[зь]бішч была́ іха ха́та. І яна́ ка́жа: я (быў не́кі хле́ба кусо́чак), гаво́рыць, у плато́к увяза́ла той хлеп і кі́нула (Аню́та ана́ зва́лася, е́тая Ку́дліна ма́ці). Яна́ кі́нула е́ты хлеп і гаво́рыць: «Аню́та, перада́й у Кнышы́, што мяне́ паве́зьлі не́мцы!». Ну, кры́кнула с ку́зава. Та́я Аню́та падняла́ той хлеп. Яна́ пачу́ла, што яна́ так гавары́ла. Яна́ ж наза́ўтра (цё́тка мая́ была́ тут, ба́цькі майго́ сястра́, у Гаратку́, чаго́ яна́ прыхо́дзіла, Але́ся та́я, я ні зна́ю), яна́ гаво́рыць: «Але́ся, Зо́сю паве́зьлі не́мцы». Яна́, ка́жа, во кі́нула мне хлеп і плато́чак, штоп я заме́ціла, штоп пагля́дзе́ла ў машы́ну, што хто́-та кі́дае мне. Дак і кры́кнула, што перада́й, Аню́та, Ко́лю, што мяне́ паве́зьлі не́мцы. Вот та́я Але́ся прышла́ і гаво́рыць ужэ́, што вот паве́зьлі Зо́сю не́мцы.

Яны́ яе́ прыве́зьлі ў Бабру́йск, у Яло́вікі. Там тако́е назва́ніе Яло́вікі, яно́ і цяпе́р Яло́вікі заве́цца. Сказа́лі капа́ць я́мы такі́я. Вот мы, ка́жа, капа́ем я́мы. Яны́ ка́жуць: «Е́та вы сабе́ я́мы капа́еце. Мы тут бу́дам вас растрэ́льваць, і вы бу́дзеце ў е́тыя я́мы па́даць». Мы, ка́жа, капа́ем е́тыя я́мы, капа́ем. Ужо́ ждом сьме́рці, кане́[шна].

Тады́ прышо́ў прыка́с атмяні́ць. А хто е́ты прыка́с, ка́жа, саздаў, мы ніхто́ ні зна́е, гаво́рыць. Яна́, як прышла́ с канцла́гера, ка́жа: «Я і па сё́ньняшні дзень ні зна́ю, хто е́ты прыка́с саздаў». І сказа́лі пагрузі́ць у таварня́к. Пагрузі́лі нас усі́х у таварня́к, людзе́й там нямнога́, ваго́наў тры, ка́жа, было́, людзе́й, мо́жа, і бо́лей. Пазабіва́лі, гаво́рыць, нідзе́ ні дзі́рачкі, ні́чо́га: мы там і с.., і с.., гаво́рыць. Тро́е су́так стая́лі на Бяро́зі. Чэрэз Бяро́зу, е́та даро́га была́. Мы, гаво́рыць, стая́лі тро́е су́так. Яны́ гаво́раць, некато́рыя гаво́раць, што вас падарву́ць, каб у Бяро́зу папа́далі. Ну, ка́[ж]а, падарву́ць так падарву́ць, ужэ́ ш, нам ўсе раўно́, куды́ нас вязу́ць, мы ўсе раўно́ ні зна́ем.

І вот яны́ іх прыве́зьлі ў Аза́рычы, у той сьмярце́льны ла́гер. У бало́тах. Бало́та, ка́жа, вялі́кае, ацэ́плена про́валакаю калю́чаю, пло́шча така́я вялі́зная-вялі́зная, пло́шча, але людзе́й там бага́та назганя́та. Ужэ́ лю́дзі там былі́, і нас, ка́жа, туды́ шчэ памясьці́лі. Вот мы та́мака і зімава́лі. І зі́му го́лыя, бо́сыя, ну пашлі́ бо́сыя. Гаво́рыць, там іх скрось, ужэ́ ісь сябе́ яку́ю тра́пку, апкру́ціш но́гі тро́хі. Агню́ ні разраша́лі палі́ць. На рабо́ту ганя́лі, не́шта там рабі́ць такі́е, ганя́лі іг дзе́-та на не́йкую рабо́ту. Дак, ка́жа, мы ра́дыя былі́, што на рабо́ту ў сяло́ та́мака. Мо якія, загато́ўку яку́ю рабі́лі ці што яны́ там рабі́лі, я ўжо ні по́мню. Яна́ і раска́звала. А тады́ на ноч зноў у е́ты ла́гер іх.

Тады́ вайна́ ко́нчылася. Гаво́рыць, сядзі́м мы ўжэ. Ужэ́ там людзе́й бага́та паме́рла, і мё́ртвыя ляжа́ць, і ніхто́ іх аттуль ні забіра́е. Дзе́ткі памі́ра́лі, м-м-м, і ўся́кае, і стары́я, і малады́я – ўся́кія. І вот, гаво́рыць, сядзі́м, паўз е́тую, паўз правалаку́ іду́ць у няме́цкай адзе́ждзі і ўсё, а е́та ру́скія разьве́ччыкі. Яны́, гаво́раць, ішлі́ і паказа́лі кра́сную зьвё́здачку. Паказа́лі, ну несі́льна так. Бо, ка́жа, е́сьлі п хто такі́ там быў дурачо́к у е́тым, у ла́геры, дак сказа́ў бы, што вот ішлі́ кра́сныя да пака́звалі зьвё́здачку, не́мцы п падарва́лі сра́зу ўсі́х. Але ж, гаво́рыць, яны́ то́лькі так паказа́лі і больш ні пака́звалі, штоб зна́лі лю́дзі, што ўжэ іх дзьві́жэцца асвабаждзе́ніе. Я, гаво́рыць, як уба́чыла, што паказа́лі зьвё́здачку... Наве́рсе, ка́жа, у іх уся́ адзе́жа няме́цкая, а там паго́ны сікрэ́тныя...

І вот, гавóрыць, мы ўжэ сядзíм рáдуемся, калі ж нас ужэ́, ета, атпýсьцяць. І тут пачалáся бамбёшка. Éта нáшыя разьвéччыкі, кáжа, ішлí папéрадзі, а тады́ вóйска нáша ўжэ, гавóрыць, ішлó. І éтых нéмцаў ужэ́ папéрлі. А нас, кáжа, ні аткрывáюць із-за прóвалакі. Замініравана ўся дарóга. Усé кругóм, замініравана. Ні зайсьці. А яны́ ш, кáжа, а éтыя рýскія ішлí (яны́ ш яг бы нéмцы) па дарóзі, катóрая ні замініравана. А тут усё замініравана. І вот, гавóрыць, ужэ́ сказáлі, што вас асвабадзілі, но ніхтó нікýда ні ідзіце, усé сядзіце на мéсьці, пакýда прывязýць мінірóўшчыкаў, каб разьмініравалі дарóгу. А некатóрыя ш, кáжа, нецярпялíвыя такія сéм'і, за сваíх сéм'і, за дзяцéй, за жóнку. О-о-онь нáша дзярэ́ўня! Там віднa, у якýю стóрану. У-унь нáша дзярэ́ўня тáма, у-унь нáша дзярэ́ўня! Як паўскáкалі, так, кáжа, і паўзрывáліся. Нікавó ні пускáлі, пакá ні разьмініравалі. От разьмініравалі, тады́ пусьцілі. Па той дарóзі, катóрую разьмініравалі.

І пасялілі іх у дзярэ́ўні, у блíскія дзярэ́ўні. Пяшкóм жа кyды́ яны́? То далёка ш куды́ камý ісьці. Да й не вéдаючы, да й шчэ, мóжа, дзе нéмцы, éта ш такóе дзéла. Гавóрыць, пасялілі ў нéкую дзярэ́ўню нас. І прыказáлі, штоб нам éсьці ні давáлі. Вот. А калі і даць, дак тóлькі аднý картóшыну. Калі і выхóдзіцца, дак тóлькі па аднóй картóшыне. Пасялілі ні ўсіг жа ў аднý хáту, а пасялілі там у аднý дзярэ́ўню, у другýю – часьць загнáлі éтых ужэ́ з балóта людзéй. І прыказáлі: éсьці ім не давáць. А я, кáжа, так éсьці хóчу, кáжацца б, гавóрыш, і валá п ізьéла. Што ж ужó, угаладáўшыя лю́дзі. Сказáлі, нільзя́ éсьці, патамý шта вы ім дасьцé éсьці, і яны́ памрýць, патамý шта яны́ галóдныя. А што, нам, кáжа, давáлі? Прывязýць, гавóрыць, от па такíм кусóчку, от па такíм кусóчку дадýць хлéба. Хлеп той із мякíны. Ягó, кáжа, кáпельку вазьмí, пóўны рот. Із прасянай мякíны, із усякай. Із мякíны, в óпшчэм. І вады́ давáлі, кáжа, па кáплі ўжэ. А хлéба нам і не давáлі тáмака. Мы ж так там галадáлі ўсе ўсё ўрэ́мя, як янá папала туды́.

І вот вайнá акóнчылася, у людзéй яны́ ш пабылí. Тады́ ім ужэ́ сказáлі вары́ць éсьці, катлы́ дáлі. І мо тры дні іх там трóхі паткáрмлівалі, штоб маглí лю́дзі ісьці. То ж некатóрыя вапшчэ́ слáбыя былí, ні маглí дáжа ісьці. Вот янá, кáжа, пашлá (янá называла, ў якóе сялó, я вот забы́ла). І дýмаю, кáжа: о, ужó ізь éтага сялá я дадóму трáплю. І пашлá ў тóе сялó, тады́ с тóга сялá ў нéкае ў другóе. І так, кáжа, вот распы́твала дарóгу.

І прышлá. І вот янá прышлá, а нас тóлькі тады́ тут асвабадзілі, і майгó бáцьку забрáлі на вайнý. Службá, янá прадалжáлася. Сóрак чыцьвёрты. Майгó бáцьку ўжэ забрáлі, ягó ўжэ дóма ні былó. А янá прышлá ў Рымóўкі, а ў Рымóўцах ёй сказáлі, што збóрачны пункт у éтым во, як янó называецца, у Карчмé. Дык янá яшчэ́ бáцьку майгó шчэ паглядзéла і брáта свайгó. Бо і брат, і Нáсьця памéршая, былí яны́ ў éтай Карчмé. Янá гавóрыць: «Вот я-то вярнýлася з вайны́, а вы – неізьвéсна».

Так янó ніхтó і не вярнýўся. Маé дзéткі. Там і дваюрóдныя, і нярóдныя, мáцерыныя браты́, і ўсе тáмака й ля́снулі. І бáцька ж наш умéсьці. От. Янá кáжа: «Я ўжо вайнý адваявáла, а вы ідзéце на вайнý». Шчэ вайнá прадалжáлася, шчэ бáцька мой да Пóльшы дайшóў, асвабаждáлі ўсё. А тады́ там у Пóльшы нéдзе пагíп. Вот такія дзялá.

### Як бацьку забiралi на вайну

Былó нас шэ́сьцера: два хлóпцы і чаты́ры дзéўкі. Вáля дак былá вапшчэ́ малéнькая, такáя ў калы́сцы, а Лéна трóхі бéгала.

Я ўжо бáцьку правóдзіла. Бáцька як пашóў, éта як аб'явілі ім сабірáцца, дак яны́ зьбірáліся ш у Карчмé. Тут збóрачны пункт быў. А йшлí яны́ чэраз Гарадзíшча, бо Гарадзíшча і Кнышы́ (там Мíшыны рóцьственьнікі былí), дак яны́ ішлí ўжо чэраз Гарадзíшча. Там ты́я мужыкí іх ждáлі, і ўмéсьці яны́ ўжо пашлí туды́. А мянé ні ўзялí; а браты́ маé (два) і мáма бáцьку правóдзілі аш у Карчмý туды́. Тады́ яны́ (іх жа ш там яшчэ́ не рассылáлі), іх назáт там тóлькі разабрáлі.

Яны́ вярнýліся, мянé ўзялí, так я бéгла (там у нас Курганы́) па éтай старанé, так я аж да тых Курганóў, да так ужó плáкала, што «вазьміце мянé с сабой, вазьміце мянé с сабой (а яны́ ні хацéлі), а пáпачка, вазьмí мянé с сабóй». Там уся́ дзірэ́ўня Кнышы́ прышлá. І жóнкі правaжáлі, і дзéці, катóрыя ўжэ ʸвзрóслыя, такíя, што маглí ўжэ. Правaжáлі іх.

## Жыццё ў вайну

Бáцька не прышóў з вайны́. І адны́ асталíся. З вайны́ прышлá яшчэ́ цётка мая́ іс сы́нам сваíм. Парцізáн. Ён быў ў парцізáнах. І янá. Нéмцы паймáлі: янá пашлá ў разьвéтку, а яны́ яé схвацíлі. І павéзьлі яé, і завéзьлі яé ў лáгер у той, Азáрычы. Янá прышлá, а хáту там: печ развалíлі, падлóгу папрáвілі, эээ... В óпшчэм такóе.

Дак яны́ ў нас тóжа жылí. Так наз дзéвяць душ у аднóй хáце было́, пакá яны́ сваю́ хáтку там трóхі патстрóілі. А патóм ужэ́ адны́.

## Гаспадарка ў вайну

Сéялі. Усé лю́дзі сéялі гарóды. Знáеш, былí нéяк валы́ ў людзéй. У кагó валы́, у кагó кóні былí. І калхóзныя ш разабрáлі. Вайнá ш началáся, дак і калхóзныя разабрáлі: калхóза ж ужэ́ ні стáла. А лю́дзі сваé сéялі. Дак зярнó былó, картóшка булá ў вóйну, і сьвінéй дзяржáлі. Хто карóву дзяржáў, а хто, былó што, ні дзяржáў. Хто змох. Хто мушчы́на быў, дзяржáлі, у кагó мушчы́н ні былó, бáбы ўжо ні дзяржáлі. Так і жылí ў вóйну. Унóчы баялíся, што парцізáны пры́дуць, дак усё забяру́ць, а ўдзень нéмцаў баялíся. Парцізáн ні баялíся, парцізáны ж ні страля́лі, панімáіш? А нéмцаў баялíся.

## Партызаны

А парцізáны прышлí адзíн рас. У наз булá такáя калы́ска, такáя вот катáлка. Я ў той калы́сцы спáла. Яны́ мяне пагу́шкалі ў éтай калы́сцы, там я булá накры́та (мáма, як цётка пашлá ў парцізáны, так янá ў яé забрáла адзія́ла, такóе сукóннае адзеяла, вáлянае, сваё, такóе тóўстае, цёплае), я накры́та булá. Яны́: «Мы забярóм éта адзеяла!». Мáма кáжа: «Бóжа мой, хлóпцы,囲 наштó ж вы заберацé, а як жа янá вéрнецца, дык ні бу́дзе ёй, чым і накры́цца!». – «А хто янá?» Янá кáжа: «Міхнéвіч Сóф'я Платóнаўна. Сын у яé есьць Івáн». Яны́, брат, кíнулі éта і з нáшай хáты как ду́нулі, éтыя парцізáны. Яны́ éтага Івáна баялíся, бо ён быў псіхíчаскі бальны́. Дык яны́ і паўцякáлі, éтыя парцізáны. Вот так мы гаравáлі цэ́лую вóйну, цэ́лую éтую вайну́, баялíся.

## Хто перавёз партызан?

[А другія сем'і былі багацей?] Аднó, што і дзяцéй былó менш. Ну, там пяць мужыкóў прышлó ж з вайны́. А нáшыя ж бацькí не папрыхóдзілі, дак мы бéдныя былí. Там ішчэ́ былí. Аднóй дзéўкі бáцьку дак растраля́лі, тóжа.

Там пяць мужыкóў растраля́лі ў нас на ву́ліцы. Нéмцы прыéхалі ў дзярэ́ўню, у вóйну, прыéхалі ў дзярэ́ўню, на матацы́клах. Акружы́лі дзярэ́ўню і сказáлі ўсíх сагнáць. Там бéрах такí ў нас высóкі, а туды́ рэ́чка ўніс. Дак на той бéраг. Мы, пóмню, сядзíм на тым бéразі ўсе. На ву́ліцы, так во к рэ́чцы, к бéрагу. Настáвілі, с аўтамáтамі нéмцы стая́лі кругóм, каб не паўцякáлі лю́дзі. А перад éтым нямéцкага генерáла ці кагó там яны́, какóга-та нямéцкага начáльніка, застрэ́лілі, падарвáлі. У Рáдушыні быў. Урóчышча Рáдушына каля Кнышóў, дак там ягó падарвáлі. Нéмцы за éта прыéхалі ў сялó і дапрáшвалі: хто перавёз парцізáнаў. Што éта парцізáны éтае падарвáлі.

Вы́селілі ўсю дзярэ́ўню ўжэ на ву́ліцу (éта ў вóйну былó), і мы ўжэ там сядзéлі. Я малáя, пóмню, плáкала: «Мáма, я пайду́ к цёці!» – «Куды́ ты, сядзí!» А Вáлька булá саўсíм малéнькая, дак мáма яé на ру́кі зьвязáла (янá ў калы́сцы што булá), янá яé на ру́кі забрáла, прынéсла тóжа туды́, на той бéрах. І сядзéлі ўсе.

І вот яны́ вызывáюць аднагó мушчы́ну. Вы́звалі, дапрасíлі. Ён кáжа: «Я ні перавóзіў парцізáн». Яны́ ягó растраля́лі. Безь віны́ паў. А дзяцéй і жóнку – вэк, у стóрану. Тады́ другóга вы́звалі. Там от Міша Бóгаў жыў. Ён кáжа: «Я ні перавóзіў». Яны́ ягó растраля́лі. Патóм Антóна. У іх асталóся дзяцéй: Кóля, Гры́ша і Я́дзя, трóя дзяцéй асталóся. Тóжа растраля́лі. На ву́ліцы вот перад усімі. Тады́ дзя́цька, дак ягó вы́звалі, ён кáжа: «Да я ні перавóзіў». Яны́ ягó растрэ́лілі.

Тады́ вы́звалі ішчэ́ аднаго́, е́та ўжэ дзя́цьку майго́ Рыго́ра. Ён ка́жа: «Я ні пераво́зіў парціза́н, я ні пераво́зіў парціза́н, і ніхто́ ў нас у дзярэ́ўні ні пераво́зіў. Мы ні зна́ем ніčо́га». Яго́ ўжэ павялі туды́ ўпе́рат, а я пла́кала да бе́гла за е́тым дзя́цькам. Мала́я была́, а ён как шмарганў́ў да кулако́м, пы́рнуў, дак я і пакаці́лася. А тут ма́ма схваці́ла. Не ма́ма, цё́тка, бо ма́ма дзіця́ дзяржа́ла на рука́х, а цё́тка, ба́цькава сястра́. Мяне́ схваці́лі, рот мне закры́лі, каб не крыча́ла. Рас, да разрыўно́й пу́ляй, і ён упа́ў. Ён патхваці́ўся і гаво́рыць: «Які́мка, бра́тка, пажале́й маі́х дзяце́й!». А е́та ж быў такі́, пашо́ў у палі́цыю, мужы́к такі́, яго́ ўсе зна́лі, і ён растрэ́льваў. Ішчэ́ растрэ́львалі, ні адзі́н ён там стая́ў, там іх мо тры стая́лі, паліца́і ўжэ. Дак яны́ разрыўно́й яго́ пу́ляй – бах! – дак і се́рца вы́скачыла. І ляжыць е́ты дзя́цька там ужэ́. Е́та ўсе мушчы́ны ляжа́ць жа ш у тым пяску́.

А тады́ вызыва́юць Аляксандру. Вы́звалі е́тага Аляксандру. Стары́ быў дзет ужэ́, яму́ было́ во́сімсят ні во́сімсят, ці мо васьмідзяся́ты гот ішо́ў, ні зна́ю. В о́пшчэм, стары́ дзет. Я яго́ чуць по́мню. Яны́ вы́звалі яго́: «Хто пераво́зіў парціза́наў?». Ён ка́жа: «Я! Но! На́шы как прыду́т, вам за мяне́ атамсця́ць». Яны́ – яго́, і больш ні ста́лі растрэ́льваць. Ён каза́ў «я», а ён ні пераво́зіў, ён про́ста ба́чыць, што ўсю дзярэ́ўню растраля́юць, так ён ужэ́ сказа́ў, што е́та ён пераво́зіў.

### Будуць паліць

Было́ так ішчэ́, ужэ́ ва врэ́мя вайны́, мо ўсрадзі́ні вайны́, сказа́лі, што бу́дуць зганя́ць усі́х, у ха́ту яку́ю ці куды́, і бу́дуць палі́ць людзе́й. Дак ма́ма нас павя́ла, на чо́ўні перавéзьлі чэраз рэ́чку, і ў Рымо́ўцы. Е́та пяць кіло́метраў ат нас. Ма́ма нас пяшко́м малы́х дзяце́й: адно́ на рука́х, а е́тыя ўжэ йшлі. Як маглі́, так і шлі. І зайшлі́. Там ма́міна браці́ха жы́ла, е́йна ма́ці была́, ма́мінай браці́хі ма́тка была́, дак яна́ пусьці́ла нас у ха́ту, і мы ў яе́ та́мака цэ́лу нядзе́лю жылі́. А тады́ ўжэ ма́ма... «Пашлі́», – ўжэ ка́жуць (хто дзе разьмясьці́ўся, лю́дзі зь дзе́цьмі). А тады́ ўжэ гаво́рацы: «Дава́йце по́йдзем праве́даем, што там ужэ́ зрабі́лася». Мушчы́ны ш паастава́ліся до́ма там, бо, зна́еш, у ка́ждага была́ ш скаці́на яка́я, така́я-сяка́я. Дак яны́-то ў дзярэ́ўні ні сядзе́лі: на дзень яны́ схо́дзілі, хава́ліся, а на́нач ужо́ прыхо́дзілі. І там ужо́ пако́рмяць, калі ў каго́ што было́, і зноў ухо́дзілі. У лес ці куды́ яны́ хадзі́лі, от э́та я ні ве́даю.

Тады́ ўжэ сказа́лі, што ўсё ўжо, палі́ць ні бу́дуць. І ўжэ наз зноў вяду́ць дадо́му. От така́я во была́ жысь. Га́ткая, ммм... Е́та тако́е маё́ дзе́цтва было́.

## УСПАМІНЫ ПРА ДЗЯЦІНСТВА І ЮНАЦТВА

### Як пасвіла цялят

Ма́ма ў калхо́зі каро́ў даі́ла. О-ой. А мы ўжэ ма́міны ж, дзе́ткі былі́ шчэ, го́спадзі, дык бе́галі ўжэ ёй памага́лі. А тады́ ёй на́да было́ йшчэ і цяля́т па́сьціць, дак мы памага́лі ёй ужэ́. Яна́ каро́ў до́іць, а мы ўжэ го́нім цяля́ты ты́я на ра́нкі. Да хо́ладна-хо́ладна.

Я ўжо па́сьціла, а ме́ншая мая́ сястра́ па́сьціла каро́ву сваю́. Сваю́. Ну дак а я: но́гі пакале́юць-пакале́юць. І яна́ бо́сая была́, і я бо́сая была́. Але ж яна́... Я ўжэ дзе цяля́тка пасц..., дак я, брат, ста́ну туды́, дай стаю́ на тым ме́сьці, а тады́ підну́ю: як друго́е – дак я туды́. Прыду́ дадо́му, пла́чу: я больш ні паганю́, я больш ні паганю́, бо так но́гі паме́рзьлі, бо так но́гі паме́рзьлі... Кане́шна, я ўсё адно́ па́сьціла, не́льга было́. Дак яна́ аве́чкі па́сьціла. Яна́ авечкі пазьне́й выганя́ла, ўжэ расы́ німа́! Яна́ тады́ аве́чкі прыго́ніць ка мне. Ну, я за і́мі. Спу́сьціцца да й па́сьціць. Вот как.

Пато́м яна́, е́та мая́ сястра́, мне гаво́рыць: «Э-э-э, да ты дурна́я, чаго́ ты стано́вісься, дзе яно́ пасц..., ты станаві́ся, дзе яно́ пас...!». Ага-а́, я ш підну́ю, як каро́ва дзе нало́жыць, я пабягу́ туды́, ста́ну, ка́жа, і стаю́, пака́ друго́е. Я туды́ бягу́. Там пастаю́. І так во гаво́рыць, да цяпла́ дажду́ся. Пака́ со́нца, ка́жа, ні ўзо́йдзе.

Мы выганя́лі к полпя́таму, у сем часо́ў ра́ніцы выганя́лі. Шчэ хо́ладна было́. На́да было́, а тады́ ш прыганя́лі жа іх, паі́лі (там по́йла было́), там дава́лі. Дак на́да было́ ш прыгна́ць, а іх ужо́ начына́лі паі́ць у часо́ў дзе́вяць. Дак е́та на́да было́ ўжо папа́сьці ці́хенька, а тады́ ўжо іх

пазьне́й камбіко́рм там не́йкі ці што. Чы мякі́ну дава́лі, тады́ не было́ ніякіх камбіко́рмаў. Дак на́да ж было́.

Так я ёй гавару́: «А-а-а, ты стань у тыя кака́шкі. Там жа ш, пані́маіш, што ш цяля́ то́е: такія во дзве-тры кака́шачкі выкіне́ да і ўсё. Няма́ куды́ стаць». І так вот.

**Як у школу хадзіла**

А тады́ ўжо ў шко́лу я пашла́. Ужэ́ мне на́да было́ іці́ ў шко́лу, бо шко́ла была́ ш далёка. У Гарадку́ дак я не хадзіла ў шко́лу, ба не было́ ў што абу́цца да адзе́цца. А пато́м я ўжэ пашла́ ў шко́лу. Дак я хадзіла ў ту́ю шко́лу? Адзі́н дзень пайду́, на другі́ дзень цяля́ты ганю́. Ужэ́ Максі́м [брат] у шко́лу ідзе́. Тады́ ён цяля́ты паго́ніць, наза́ўтра я ў шко́лу по́йду. Ну, пака́ сьнех напа́дае. А тады́ вапшчэ́ ні йдом: ні ён, ні я. Ні было́ ў што абу́цца. Вот так мы жылі́.

**Як зарабляла першыя грошы**

Я падрасла́ тро́хі, ўжэ бо́льшая ста́ла. Ужэ́ хадзіла з ма́маю жы́та жыць. Ў мяне́ ўсе па́льцы парэ́заныя. Мала́я была́, дык гро́шы, зна́іш. Жну, серп е́ты зьляці́ць, быва́е, па па́льцу. Дак і тут парэ́зана, і тут па́лец у мяне́ парэ́заны, і тут дзе́-та. А, во е́ты, мізі́нец парэ́заны.

А тады́ ўжэ падрасла́ я бо́льшая, ужо́ мне было́ мо гадо́ў шасна́ццаць. Я ўжо папрасі́лася ўв торфзаво́д «Зьвязда́». Папрасі́лася ў дырэ́ктара, пашла́, што хай бы вы мяне́ ўзя́лі ў сезо́н, у наваро́тку да на клё́ткі. «А мая́ ты мі́лачка, сі́льна ма́ла табе́...» Дак ён дагавары́ўся там з ба́бамі, што яны́ бу́дуць ужэ́ палуча́ць: я бу́ду на іх пі́саць, ну яны́ запі́сваюць мне, што я, напрыме́р, сто́лькі, сто́лькі зьдзе́лала. Тады́ яны́ палуча́лі гро́шы, е́тыя ля́рвы, мне аддава́лі, за мой труд. А ім жа ш (зьве́рху яны́ план выпалня́лі), дак ім прагрэсі́ўку плаці́лі, а мне не плаці́лі прагрэсі́ўку. Я на прагрэсі́ўку і не выхо́дзіла, патаму́ шта сіл у мяне́ ні было́ зьдзе́лаць э́та. Вот так вот і жыла́.

А тады́ я хадзіла тро́хі ў шко́лу ўжэ. Зараблю́ там не́йкія гро́шы, дак ужэ́ баці́нкі сабе́ куплю́. Кні́шкі на́да было́ купі́ць, а ў ма́мы ж гро́шай ні было́: у калхо́зі ні плаці́лі. Пі́салі па́лкі не́йкія, трудадні́ пі́салі, а на тыя трудадні́ ні чарта́ ні дава́лі. Калі, І́рка, дава́лі, дык, та́мака, кіло́ два таго́ жы́та, там яко́га ячме́ню даду́ць ску́лькі. В о́пшчэм, дзе́сяць кілагра́м, быва́е, палу́чыць, а быва́е, і не палу́чыць. Каро́ві там мякі́ны не́йкай дава́лі, сало́мы, [што аставалася] ў калхо́зі. Ну, е́тым ба́бам ужэ́ дава́лі.

**Сёстры паехалі вучыцца**

Ме́ншыя дзе́ўкі былі́, сё́стры, на́да было́ ім вучы́цца ўжэ. Пае́халі. Адна́ пае́хала на Данба́с. А тады́ чараз го́т, чараз два гады́, другая пае́хала. А А́ня пае́хала (ні по́мню, у які́м гаду́) на Данба́с. Тут яна́ ні паступі́ла (тады́ дзе́сяць кла́саў ко́нчыла), і яна́ с адно́й дзе́ўкай дагавары́ліся: там адна́ жыла́ з на́шай дзярэ́ўні, у Лісіча́нске, на Ўкраі́ні. Так яны́ пае́халі. Яна́: «Ой, дзе́ўкі, прыяжджа́йце к нам, там устро́іцеся, бу́дзіце рабо́таць». Яны́ сабра́ліся і пае́халі. Пае́халі, у Лісіча́нске ўстро́іліся. А прые́халі: там стро́йка, го́рат шчэ то́лькі стро́іўся, Севераданецк. Там Дане́цк го́рат е, а яны́ ў Севераданецк пае́халі. Яны́ там устро́іліся на рабо́ту.

А́ня рабо́тала, а Лі́да ўжэ чэрэз гот ко́нчыла шко́лу. Ёй у Го́мель, пае́хала, у тарго́вы. А Ва́лька ішчэ́ чэрэз гот. Та́я ўжэ с Украі́ны ёй напіса́ла, што «прыяжджа́й, Ва́ля, дак тут дзе́-небуць устро́ісься». Дак яна́ пае́хала да ўстро́ілася вучы́цца на ба́шанны кран. Да й ко́нчыла. Там вучы́лася, там рабо́тала і астала́ся. І за́муш пашла́. І не прые́хала сюда́. Ні та́я, ні та́я.

**Не было грошай**

Я із ма́май ту́така во і жыла́. У калхо́с хадзіла, тады́ ўжэ саўхо́с нача́ўся, ужэ́ ў саўхо́с хадзіла тро́хі. Ле́там хаджу́ на бало́та туды́, папрашу́ся ўжэ, дай ні было́ гро́шай, ні было́ за што жыць. Дак я які́я гро́шы зараблю́, тым дзе́ўкам пасыла́ла, бо ім жа ш на́да было́ вучы́цца. А́ня мая́ вучы́лася, і Ва́ля вучы́лася. Ва́ля вучы́лася на кра́ні, а та́я вучы́лася: яна́ была́ апара́ччык-лабара́нт

эляктро́ннай апарату́ры. А што яна́ там канча́ла, я ні зна́ю. На заво́дзі яна́ рабо́тала, как ана́ ско́нчыла вучы́цца. Дак то́жа гро́шы ж ім мы пасыла́лі.

Нам за ба́цьку ніч́ога ні дава́лі. Дава́лі во́сім рубле́й. Ён як калхо́зьнік, дак ім жа ж ні дава́лі. Яг бы ён быў е́ты, каб ён быў які́-нібуць там рабо́чы такі́, дак тым больш дава́лі – па дзьвяна́ццаць рубле́й. А мой ба́цька як калхо́зьнік, дак во́сім рубле́й. Дак мы так, во за во́сім рубле́й хі́ба ты пражыве́ш? Дак на́да было́ рабо́тацьь, дак я і не вучы́лася. Так вот і астала́ся, астала́ся.

А тады́ ўжо пашла́ за́муш у шэ́сят трэ́цім гаду́. І жылі́ до́сыць так.

### Пра саначкі

Е́та як у дзе́цтве мы гуля́лі. Такі́я дзе́ці былі́, як у шко́лу хадзі́лі. Я хадзі́ла мо ў які́ п'я́ты клас, мо ў чацьве́рты. Дак мы ўсё кра́лі са́начкі. Пака́ былі́ сваé ў каго́, дак во́зьмем, паката́емся. Яны́ зло́мяцца, бо наз жа бага́та дзяце́й у дзірэ́ўні.

А тады́ ўжэ хло́пцы, адзі́н там гаво́рыць: «Ба́цька звары́ў са́нкі». А яго́ ба́цька рабі́ў на торф-заво́дзі. Ў ку́зьні ён рабі́ў. Дак як яны́ скляпа́лі ты́я са́нкі, я ні зна́ю, но факт то, што зрабі́ў са́нкі. Зале́зьлі. Но ўсе раўно́ мы іх ізлама́лі. Там ж жале́за то́лькі е́тыя во былі́, як яны́, палазы́, а тут было́ тако́е то́нкае, жэсьць. Яны́ сабе́ дро́вы вазі́ць, зьдзе́лаў. А мы іх. По́зна ш ужо́. Укра́лі.

Мы на іх ката́ліся ку́чамі. Ку́чамі: хто ся́дзе, ўсьпе́е, на са́начкі, чалаве́к трох, астальны́я па́даюць так, наве́рх на іх! А ў нас бе́рах такі́ пало́гі, і как паляці́м, дак на ту сто́рану рэ́чкі зако́цімся. Наза́т ужо́ ця́гнам, наза́т ця́шка ўжо, туды́ прае́дам, а наза́т ця́шка. Наката́емся-наката́емся, тады́ бяро́м вёдры і но́сім во́ду, зьліва́ем, като́к сабе́ дзе́лаем. І е́та так ка́жды дзень.

Да панамака́ем! А хто іс са́начак упадзе́, дак па е́там: яно́ ш сьлі́скае, дык на жо́пе аж да рэ́чкі дако́ціцца. От мы так.

А тады́ хло́пец другі́ гаво́рыць. А мы гаво́рым: «Ко́ля, у твайго́ ж дзе́да такі́я са́нкі до́брыя!». Дак ён ка́жа: «Іх на́да зьняць, ён жа іх падве́швае». Там такі́ штыр убі́ў дзе́-та у хляве́ ці за хлявóм, дак на́да, гаво́рыць, ён чапля́е, каб я ні ўзя́ў. Дак яны́ по́йдуць туды́ да ўкра́дуць е́тыя са́нкі, прыця́гнуць. І мы то́жа ноч ката́емся, а тады́ ўжэ даката́емся так, штоб ужэ́ на́да ж было́ дамо́й іці́. Ён ужо́ як-не́буць даця́гне з е́тымі хло́пцамі, да паве́сяць е́тыя са́нкі. Ну, цяга́лі-цяга́лі е́тыя са́нкі, пака́ ні палама́лі. Палама́лі е́тыя са́нкі, ўсё!

Ў нас у калхо́зі быў прадсяда́цель, Васі́ль зва́ўся. От Прако́паў. Ён е́зьдзіў і на такі́х саня́х, і ў яго́ быў вазо́к, такі́ харо́шы вазо́к, мо ня́мецкі аста́ўся ці што, ну харо́шы вазо́к. Ня́мецкі, наве́рна, йшчэ аста́ўся. Ён на тым ваську́ е́зьдзіў. А тады́, мо яму́ на́да было́ дро́вы вазі́ць ці што, ён узя́ў запро́х са́ні ў калхо́зі, а е́ты вазо́к схава́ў: там бы́ла паве́ць така́я. Амба́р быў, і пад амба́рам была́ така́я паве́ць. Шчэ тако́е зро́блена: кры́ша, і тут пол быў так от, як захо́дзіць ужэ́ ў е́ты амба́р. Яны́ там пастáвілі і са́ні, і сане́й е́тыя паста́вілі. От пашлі́, ўкра́лі. А дзе́ла бы́ла перад выхадны́м. І мы дзьве но́чы як папагарца́лі па е́тых са́нях, што мы іх і злама́лі. Ён прышо́ў: «А бо́-ожа, вазо́к зло́маны! Хто вазо́к бра́ў? Хто вазо́к браў?» А хто́-та ска́жа, хто браў? Ніхто́. Ні [ў]взро́слыя ж бра́лі. Пе́ўна ж, дзе́ці. А што ш ты дзяце́й бу́дзеш судзі́ць? Так яны́ і сьпіса́лася. От така́я была́ жысь.

### Бедна жылі

А такі́х жа ш бе́дных людзе́й ні ўважа́лі. Нідзе́. У нас была́ така́я сям'я́ вялі́кая. Нам нало́х ма́мі наклада́лі: не́скалькі там рубле́й гро́шай плаці́ць на́да было́. Нало́х не́йкі дава́лі. І на́да было́ здаць малака́ не́скалькі лі́траў. Не здае́ш малако́ ў калхо́с, так здава́й ма́сла. Бі ма́сла і вазі́ ў Глуск. На́да было́ намуці́ць ма́сла і пяшко́м зане́сьці ў Глуск. І насі́лі ш, мая́ дарага́я, так во. І яе́чкі туды́ насі́лі, здава́лі, і мя́са наклада́лі.

На́да было́ не́скалькі кілагра́м (я ні по́мню ско́лькі ўжэ, так), а мя́са на́да было́ здаць. У нас ні было́ мя́са здаць, дак што ш: сказа́лі, каро́ву забяру́ць. Дак ма́ма каро́ву павяла́ на ба́зу, на ба́зу каро́ву завяла́, а ба́бы ўжэ ўсе дзеравéнскія пашлі́ туды́ на ту́ю ба́зу. Там ужэ́ пава́жылі е́тую каро́ву і на ка́жду ба́бу расьпіса́лі. І ты́я ўжэ ба́бы нам плаці́лі за то́е мя́са. Ма́мі. Во яка́я была́ тады́ жо́сткая дзісцыплі́на.

**Вечарынка**

Ну-у, на вячóркі мы хадзілі кáжды рас. Éта вечары́нка былá: тады́ ш тóлькі ўжэ éта пасьля вайны́, я ўжо такáя, мо гадóў шаснáццаць быльó, мо чаты́рнаццаць, такáя ўжэ былá. А ў нас у дзярэ́ўні быў свой музыкáнт. І éтыя бóльшыя дзéўкі й хлóпцы нанімáлі сабé, яны́ рабілі – вечары́нка называ́лася. А мы, дзéці, хóчам жа ш паглядзéць, як там танцýюць, а нас за вýшы і – вон, вон, вон, спаць! І кóнца рабілася, як выганя́лі нас.

А ў маéй цёткі ўжэ, ужó вóчарацъ як пóй[дзе] (яны́ там па вóчарадзі дзéўкі ці ўзрóслыя пускáлі ў сваé хáты), як ужэ́ у маé цёткі, дак я тады́ прыдý парáньша, пад вéчар (янó-то ні начынáецца). Я прыдý: «Бáпка, пусьці мянé ўнь на печ». Бáба ўжэ мянé (éта ўжэ маéй цёткі сьвякрýха былá), янá пýсьціць на печ мянé. Я ўжо на пéчы ляжý.

І ўжэ прыхóдзяць, маладзёш, музыкáнты, грáюць, танцýюць. І дзеравéнскія бáбы, малады́я такія, прыхóдзілі, дык тóжа танцавáлі. Бо éта ж ужэ́ ні вайнá былá, э́та ўжэ быльó пасьля вайны́. І вот éтыя дзéўкі ўжэ: «Дык а янá на пéчы, а янá на пéчы, а янá на пéчы!». Дак кудьí ш, яны́ ж мянé ні гóняць, а бáба: «Ляжы́ на пéчы, ляжы́, ігрáй». Я ляжý на пéчы. Я ўжо так вот вы́гляджу тýю вечары́нку.

А дзéці, хто заскóчаць, дак то пат стол ся́дуць, ну каб не мяшáць жа ш ужэ́, хто пат каравáць, і так ўжэ выгля́дваюць аттýль. Éта так дзéцям быльó. А éтыя ўжэ бóльшыя дзéўкі, жанáтыя, па двáццаць гадóў, яны́ сабé танцýюць. А мы, дзетварá, мы выгля́даем, кагó, хто пападзé туды́. А хто ні ўсьпеў ускóчыць, дак: «А-а-а, дак пусьці! А янá ш ні пускáе! А іх пусьцілі, а янá...» Дак іг жа лóвяць, дак і паўганя́юць, бывáе, і за éтых, што плáчуць: пачамý нас ні пусьцілі, а тых пускáюць. Дак паўганя́юць. А я ўжэ, як у цёткі, дак я тады́ на печ і сяджý. А я там сяджу, я там трóхі пагляджý, да й заснý да й сплю.

**Ніхто не варажыў**

У нас ніхтó ні варажы́ў. Нiктó. Ні гадáлка не быльó, нікавó.

**Сукенка ў клетачку**

Мáма мая́ дóбра ткáла і прáла красíва. Прáла тóнка, красíва, і я прáсьці [умею], і мянé навучы́ла. І я прáла на верацянó, а мáма – на самапрáху. Умéла мая́ мáма, дóбра прáла, ткáла, палавікі ткáла, пóсьцілкі ткáлі. Тады́ ш... Éта ш цяпéр крóсны, а тады́ ні быльó.

Дак от палатнó такóй шырыні, напрымéр, вы́ткаць, так? Éта палатнó вы́беляць, укíнуць у жлýкта, насы́плюць туды́ пóпелу, і янó настóіцца (éта вадá) пóпелам. Тады́ тýю вадý сальлю́ць, закіпéцяць, і туды́ кíдалі: адбéльⁱвалі. І тады́ прáнікамі б'юць, б'юць, б'юць, б'юць, на дóску, ідýць на рэ́чку, паласкáлі. А тады́ расá, на рóсу засьцілáлі. Янó начавáла на расé, так адбéльвалі. А тады́ ўжэ шы́лі прóстыні, дзéцям ужэ́ сарóчкі шы́лі палатня́ныя. І я насíла палатня́ную сарóчку, і маé браты́ насíлі палатня́ныя. Штаны́ палатня́ныя насíлі, і сарóчкі палатня́ныя насíлі.

І мáма мне напрáла (я ні пóмню ўжэ, скóлькі мне быльó гадóў), янá напрáла і пакрáсіла. Часьць у сíні, а часьць – у крáсную крáску. І саткáла ў клéтачку палатнó, і там сасéтка нáша (янá ўмéла шыць), янá на рýкі мне сашы́ла плáцьце ік Пáсхе. І я ўжэ адзéла, пашлá хварсéць па дзярэ́ўні. А éтыя, дзéцям завíдна, дак: «Ай, нікрасíва тваё плáцьце, нікрасíва тваё плáцьце! Маё красівéйшае, маё ўжо пашы́лі бéлае». З бéлага пáлатна, а тамý дак і пачэ́рняць. Насíлі нéкуды ў балóта ці куды́. Да ў канáву ў нас усé насíлі, да там нéяк чарнíлі ягó. У нéшта таптáлі, у нéкую грáсь, і янó палучáлася чóрнае. Дак у кагó чóрненькае плáцьце, у кагó – так. А ў мянé ўжэ быльó такóе, у клéтачку, пóмню. Сíняя і крáсная клéтачка. Мáма мне саткáла на крóснах.

І авéчкі былí, дак авéччую шэрсьць прáлі і тóжа ткáлі. І шы́лі піжакí дзéцям: у шкóлу дзéці хадзілі ў такíх піᵈжакáх.

**Буркі і бахілы**

У нас ма́міна браціха была́ ў Бабру́йскі, і яна́ шы́ла бу́ркі. Яна́ бу́ркі нам пашы́е і прывязе́. А мы ўжэ панабува́емся. А ма́ма пае́дзе ў го́рат, у Бабру́йск: на база́ры прадава́лі бахі́лы такія, із рызі́ны кле́ілі. Гало́шаў жа тады́ ні было́. А кле́ілі так от із рызі́ны. Як у каго́ ні было́ е́тых бахі́лаў, дак ла́пці плялі і ўжэ ў ла́пці абува́лі. А ў нас, пра́ўда, та́я цётка мая́, яна́ ўме́ла шыць. Яна́ там ужэ́ дзе які сьвіт стары́ пападзе́, накро́іць, ва́ты яко́й, куфайку яку́ю дзе стару́ю (тады́ і куфа́ек жа ш та ні было́, а ва́та была́). І вот мы так і былі́. Так што мы гарава́лі, о-о-о...

І от я і хадзі́ла ў тых бахі́лах, о-о, до́бра было́. Но ўсе раўно́, зна́еш, намо́кнуць, на печ пало́жым, вы́сушым. Ты́я бу́ркі. Наза́ўтра зноў ідзёш ката́цца.

Ой, на са́нках ката́ліся і ў абця́х хто, хто ў чым! А было́ то, што ні было́ ў што абу́цца, дак суко́ньнікамі такі́мі, з ба́цькавых пі́жако́ў, з які́х там, надзя[руць], абкру́цяць да вяро́вачкамі які́мі паабма́тваюць, да прывя́жуць. Усе раўно́ хадзі́лі. Ну, ужэ́ мо́кра-мо́кра, грась, то не іду́ць, а як маро́зік, дак іду́ць: ужэ́ хо́чацца ж усім паката́цца. Дак во як было́!

**Кірмашы**

Тады́ от які пра́зьнік, напрыме́р, у Кныша́х кірма́ш, на другі пра́зьнік – у Гарадзі́шчы кірма́ш, трэ́йці пра́зьнік – ў Жалві́нцы кірма́ш, там у Юзафо́ві кірма́ш, у Ка́рпавічах кірма́ш, у Ві́льчы. Мы хадзі́лі ўсе гуля́ць.

Ты́е іс тых дзераве́нь прыхо́дзяць к нам у кірма́ш. У нас на Крашчэ́ньне быў кірма́ш. Тры дні гуля́юць. Заку́скі нагато́вім, уся́ радня́ ўжэ пазьяжджа́лася: е́та ў го́сьці. І ўжэ маладзёш наніма́е вечары́нку. Як вечары́нка, гуду́ць. Два дня гуля́юць. О!

УСПАМІНЫ ПРА ДАРОСЛАЕ ЖЫЦЦЁ

**Як у Гарадок трапіла**

Про́ста пажані́ліся з Гры́шам, і там [у Кнышах] на́ша ха́та была́ плахава́та така́я. Мы хаце́лі там стро́іць ха́ту, нам у то врэ́мя не разраша́лі стро́іць. На́да ў бальшы́я дзярэ́ўні стро́іцца, у тако́м. І да́лі нам лес. Мы сюды́ пераве́зьлі. А тут была́ ха́та така́я, гніла́я, мы яе́ вы́купілі. І е́ту ха́ту зрабі́лі. Там тро́хі таго́ гніло́га ле́са, тро́хі но́вага, і мы е́ту вот ха́ту зьляпі́лі. Так вот я папа́ла сюды́ жыць.

А факці́часкі мае́ прэ́ткі, мой пра́дзет, сам із Гаратка́ быў. От ужо́ майго́ ба́цькі ба́цькаў ба́цька, дак ён быў з Гаратка́. І [и]іх асе́лішча было́ вот за Карасём. Ве́ра Сы́рнікава, е́тая Ве́ра, а вот там за Ве́раю шчэ было́ тако́е вы́спа ці што, і вот э́та і́ха было́ асе́лішча.

[Лесу на хату] ні хваці́ла, дак ізно́ў выпі́свалі, купля́лі ў лясьні́чаστве. Купля́ць ні было́ за што, купля́ць мы ні купля́лі, было́ п, згарадзі́лі і е́ту ха́ту.

**Як не хацела замуж ісці**

У два́ццаць пяць [пашла замуж]. В о́пшчэм, вот пашчыта́й, у шэ́сят фтаро́м гаду́, наве́рна, ілі шэ́йсят трэ́йцім. У шэ́йсят трэ́йцім. По́зна? Я баялася, што я ні нагуля́юся.

Ка мне хло́пцы прыхо́дзілі сва́тацца, так, ка мне вот прыхо́дзілі ў сваты́, хло́пец адзі́н. І прыяжджа́ў, із Дубро́вы, Па́рыцкі раён. Дзярэ́ўня Дубро́ва, там така́я бальша́я дзярэ́ўня. А як ён от мяне́ пазна́ў? Із на́шае дзярэ́ўні на́ша ро́цьственьніца далёкая папа́ла туды́ за́муш. Яна́ мяне́ прыгласі́ла к сабе́ ў го́сьці, і я пае́хала к ёй. А там гуля́ць прышлі́ хло́пцы. Адзі́н хло́пец аблюбава́ў мяне́ вот. Прые́хаў ў Кнышы́ і к яе́наму бра́ту (жанчы́ны ўжэ). І прышлі́ ўжэ гавары́ць ма́мі, што: «Я хо́чу засва́тацъ ва́шую до́чку. Дак пры́йдзем мы вот на сьле́душчай нядзе́лі, прые́дам у сваты́». А я кажу́: «Е́та шчэ пагля́дзім». Ага́. А сасе́тка Ва́ра (там така́я ба́ба была́, е́йная дачка́ ўжэ пашла́ за́муш то́жа, така́я мла́тшанькая, гадо́ў дзівітна́ццаць). Яна́ ў акно́ пасту́кала, я вы́шла: «Калі ш

ты за гэ́тага хло́пца ні по́йдзеш, я ш табе́ ўсе валасы́ на галаве́ паўрываю́!». Я кажу́: «Ба́ба Ва́ра, я і ні сабіра́юся! Мне шчэ ранава́та». І атказа́ла е́таму я хло́пцу.

Тады́ прыхо́дзіў ка мне другі́ хло́пец. Прыво́дзіў мой брат дваюро́дны. Дак ён ужо́ ко́нчыў дзе́сяць кла́саў, вучы́ўся за е́тага, як яно́ называе́цца, за віціна́ра, у ме́дзе. Дак ён вот ужэ́ ўпрасі́ў майго́ бра́та дваюро́днага, што: «Ну пашлі́, дагаво́рымся, мо́жа». Вот яны́ прышлі́ ўжэ дагава́рвацца, а я ду́маю: «А ... ва́шу мацьǃ». Яны́ ўжэ і гарэ́лку паста́вілі на стол, і́хлеп палажы́лі: ужо́ е́та вы́п'ем, дагаво́рымся і ўжэ тады́ прые́дуць... А мая́ сястра́ ко́нчыла вучы́цца за прадаўца́ і на пра́кціке была́, за Глу́скам у Ка́тцы. Я зьле́зла сь пе́чы, адзе́лася, яны́ й ні ба́чылі, і на шасе́ туды́ вы́шла. А тады́ ішо́ў аўто́бус «Бабру́йск–Акця́бр». Я ду́маю, я пасьпе́ю к е́таму аўто́бусу, а ні пасьпе́ю – наза́т вярну́ся. Я пяшко́м, зімо́ю, сьнех па кале́на, я прыбе́гла на шашу́, как раз до́ўга ні жда́ла, вот ско́ра і аўто́бус. Я ў е́ты аўто́бус і ў Хало́пенічы. У Хало́пенічах там на́да шчэ йсьці да тае́ Ка́ткі. Я распыта́ла як. Да і ўжэ сьцямне́лася. Зайшла́ ў ту́ю Ка́тку, пасту́кала, мне яны́ аткры́лі. Я расказа́ла, што тако́е мне го́ра, дак я ўцякла́. Вот так. Не пашла́ за е́тага.

Тады́ прыхо́дзіў другі́ ка мне хло́пец. Ты ду́маеш, сьме́шка не́кая? Да не, кажу́. Да мне не на́да е́тыя за́мужы, не на́да нішто́. Дак мне е́ты брат дваюро́дны ка́жа: «Ну цяпе́р я, ску́лькі жыць бу́ду, хто мяне́ бу́дзе прасі́ць «завядзі́» (ну, дзе́ўка), я – не. Яна́ ж ні сло́ва ні сказа́ла, сабра́лася, сь пе́чы зьле́зла і ця́гу дала́ ў Хало́пенічы». Вот так я, ну не хаце́ла за́муш ісьці́.

### Сябар дзяцінства

Не хаце́ла, а ў мяне́ быў хло́пец, зна́еш, І́ра, дзе́цтва. Такі́ вот, мы з аднаго́ го́да зь ім былі́. І яго́ в а́рмію забра́лі. Мы так ужэ́ зь ім ла́дзілі, так ужэ́ ла́дзілі! Ён ка мне, я к яму́, мы чэрэз дзьве ха́ты жылі́ адзі́н ат аднаго́. Малы́я былі́ дзе́ці, і вот так мы палюбі́ліся адзі́н с адны́м. Так ужэ́ мы хадзі́лі про́ста гуля́ць: я к нім, а ён к нам. І ўсе гавары́лі: от е́та яны́, наве́рна, пажэ́няцца. Зна́еш, не палучы́лася.

Забра́лі яго́ ^ув а́рмію. І ён у а́рмію шоў, да так ужэ́ пла́каў: «Ты ш хаця́ мяне́ падаждзі́...». Ну, до́бра. Пашо́ў ён ^ув а́рмію, прышо́ў ён с а́рміі. І прышо́ў ка мне сра́зу ш, у той жа ж дзень. Прышо́ў пагуля́ць, пагуля́ў і гаво́рыць: «Зна́еш што, я пасвары́ўся са сваі́м Ко́лем, бра́там ро́дным. Мне гэ́та гімнасьцё́рка надае́ла, а я ўзяў яго́ руба́шку адзе́ў, а ён зь мяне́ садра́ў ту́ю руба́шку». Мне так, ка́жа, абі́дна. А тады́ ў фэсэво́ завербо́ўваліся. На цаліну́, і та́мака вучы́ліся на трактары́стаў хто, на шафё́ра, хто на што... Ён гаво́рыць: «Ма́ня, я от пае́ду за́ўтра ў Глуск ісь Се́нем». Сасе́т Се́ня, е́та мой і яго́ сасе́т: ра́дам яны́ жылі́, а мне ўжэ чэрэс ха́ту е́тую (дзе Се́ня сасе́т, а ён чаразь дзьве ха́ты). Е́ты Гры́ша (мой сасе́т быў, то́жа Гры́ша зва́ўся хло́пец) гаво́рыць: «Мы пае́дам вербава́цца на цаліну́. Ну й цябе́ дава́й завярбу́емǃ». Я кажу́: «Не, хло́пцы, я ні пае́ду. Я ні пае́ду. Я бяз ма́церы сваё́й, я жыць ні бу́ду. Як э́та я дзе́-та пае́ду куды́-та?». Яны́ мяне́ ўбяжда́лі, што: «Ні бо́йся, мы цябе́ ні кі́нам. Нідзе́. Дзе п сабе́ ні было́, мы цябе́ ні кі́нам. Мы бу́дам. Дзе мы, там і ты бу́дзеш з на́мі». Я ні сагласі́лася.

Вот яны́ ўжэ зако́нчылі трактары́стаў е́тых і прые́халі. І ён мяне́ забіра́ў: «Пае́халіǃ». Я кажу́: «Не, Гры́ша, не пае́ду. Ні пае́ду ні за што». А яму́ на́да было́ атрабо́таць два гады́. І ён як пае́хаў атраба́тваць, там к яму́ не́кая прыста́ла не́мка, і яны́ пажані́ліся. Ён прыяжджа́ў ужо́ ў о́тпуск сюды́, ізно́ў ка мне прышо́ў: «Вот ты зрас [зразу] за мяне́ не сагласі́лася, ну слу́хай, е́сьлі ты сагло́сісься, я цябе́ забяру́, я яе́ кі́ну». Я, кажу́, не на́да кіда́ць. І ўсё, на е́тым і расхо́т. Так і ён до́ўга і ні жыў, у ско́расьці ён і памё́р. Забале́ў, мо́жа, ці што там случы́лася, ні зна́ю.

### Як выйшла замуж

А слу́хай, от я ўжэ дзе́ўка стара́я, шчыта́й, на Йва́на я гада́ю. Мне сказа́лі сарва́ць дзьвяна́ццаць пар цьвято́ў. У дзьвяна́ццаць часо́ў. Чуць да дзьвяна́ццаці, штоб зьвіць да дзьвяна́ццаці вяно́чак, палажы́ць пат паду́шку і ле́гці спаць. Я хадзі́ла, хадзі́ла, назьбіра́ла не́кіх там цьвято́ў. І па по́лі, і па сенако́сі хадзі́ла, ну назьбіра́ла дзьвяна́ццаць пар, зрабі́ла вяно́чак і палажы́ла пат паду́шку. Сказа́ла: «Суджо́ны-раджо́ны, прыдзі́ ка мне начава́ць».

І зна́еш што, сьню я сон: ка́жацца, у е́тага Гры́шы, што е́ты мой быў любо́ўнік, брат Ко́ля, дак уро́дзі бы ў е́тага Ко́лі какíе-та го́сьці ў ха́ці. І я там на е́тых гасьця́х. Да й ка́жацца, што я гавару́, што я б зье́ла кісяля́, да от каля мяне́ німа́ яго́. А е́ты хло́пец, Гры́ша ўжэ мой, ка́жацца, сядзíць да́лей ад мяне́, так да́лей, чэраз не́скалькі чалаве́к да́лей. А ён, ка́жацца, узя́ў кісе́ль да і пада́ў мне. Е́та я сьні́ла так. Я праcну́лася і ду́маю: што́-та я сьні́ла, ну што́-та сьні́ла. Што я Ко́лю гавары́ла: «Ко́ля, от я б зье́ла кісялю́, а кісе́ль...». Што́-та за хло́пец мне пада́ў е́ты кісе́ль?

І вот прые́халі яны́ право́дзіць сьвет у нас. Сьве́ту ні было́ да е́тага. А яны́ былí еле́ктрыкі, яны́ право́дзілі сьвет, ста́вілі сталбы́, е́та вот усё́. І ў Сíманавíчах ён ста́віў е́тыя сталбы́ і сьвет право́дзіў, і ў Яўсе́ічах, і ў Запо́льлі. У Гаратку́ яны́ не: другая брыга́да была́. А тады́ іх перакíнулі ў Кнышы́. Так е́тые [моладзь] ка́жуць: «У-у, прые́халі еле́ктрыкі, і ў Ва́ры на кварці́ры». А-а, сабіра́ліся ж гуляць у дзярэ́ўні, зна́еш як, ку́чамі. Прышлí гуля́ць. Мы там ужэ́ вечары́нкі зрабíлі, у наж жа ш музыка́нты былí сваé ў дзярэ́ўні.

І я ду́маю: а дзе я е́тага хло́пца ба́чыла? От не́дзе ж ба́чыла. А дзе я е́тага хло́пца ба́чыла? Так ду́маю. Ду́мала, ду́мала, ду́мала, ду́мала, тады́ прыду́мала, што, наве́рна, е́та я яго́ сьні́ла тут. Але ж я за яго́ ні сабіра́лася за́муш! А ён палюбíў мяне́ і прышо́ў, ма́мі гаво́рыць, што: «Усё! Я ў сыбо́ту, я е́ду вот у пя́тніцу дадо́му, к сваёй ма́ткі, бяру́ свайго́ бра́та, хро́сьніка, і прыяжджа́ем, сва́тацца бу́дзем!» Ну, вот так я вы́шла за́муш.

### Як распісаліся

Расьпíсваліся ў е́там, у Завало́чыцах. Тады́ ж ні е́зьдзілі нíку́ды! І хадзíлі пе́шкам расьпíсвацца! Мы пашлí пе́шкам расьпíсвацца, засва́тацца. А тады́ мо чэраз дне́й ску́лькі (е́та сва́дзьбы ні было́), а мы ўжэ пашлí расьпíсвацца. Прышлí, а не было́ пратсяда́целя. Так мы і не расьпіса́ліся. І прышлí [назад]. І так і ні пашлí расьпíсвацца больш.

Сва́дзьбу згуля́лі тут і паéхалі туды́ к ім, у іх там сва́дзьбу згуля́лі. Ён [муж] тут рабíў эле́ктрыкам, дак і рабíў, і тут і жыў ужэ́. А пато́м, як радзíўся мой Вало́дзя, дак мы пашлí: ён паéхаў за Вало́дзю, зарагістры́раваць жа ш, што радзíлася дзіця́. А там ка́жуць: «Дак на каго́ рагістры́раваць, ты ж ні запíсаны!» – «Дак я ш к вам прыхо́дзіў, дак ні было́ вас до́ма!» – на е́тага. «Važ жа ні было́! А мы прыхо́дзілі ўдваíх тады́. А цяпе́р жа ш у яé дзіця́ мало́е, яна́ ж ні по́йдзе расьпíсвацца». Вот так мяне́ і расьпіса́лі. Така́я ро́сьпізь была́.

### Не атрымалася ўцячы

А вясе́льле пра́вілі натура́льна, як і ўсе лю́дзі. Сабра́лі ўсíх гасьце́й. Людзе́й у нас было́ о́чынь мно́га, бо ў нас радні́ было́ мно́га. Ф то врэ́мя ў нас было́ о́чынь мно́га радні́, яна́ ўжэ ўся́ атме́рла.

Е́та сва́дзьба мая́ была́ ў шэ́ісят трэ́йцім гаду́. На ста́ры но́вы гот. Ну вот, дарага́я мая́, сва́дзьба была́ до́брая, вечары́нка была́. С усíх дзерaве́нь. Тыда́ ш сва́дзьба, дак с усíх дзерaве́нь зьбіра́ліся гуля́ць, маладзёш. Было́ маладзёжы мо́ра.

І я ўсё гавары́ла, слу́хай, я íшчэ́ мно́га жыць ні бу́ду, таму́ што нашто́ мне е́ты за́муш? А так куды́ захо́чу, туды́ пае́ду, куды́ захо́чу, туды́ пайду́. А так жа ш... А дзе ты ўжэ? Я забярэ́менела, тады́ куды́ ты по́йдзеш? Тады́ ўсё́-такі ты астала́ся... Сва́дзьба прайшла́, я йшчэ ду́мала, што я шчэ ўцяку́. Не, не палучы́лася!

### Свая гаспадарка

Каро́ву купíлі, каня́ не было́. Каро́ву купíлі, сьвіне́й купíлі, і жылí так. Не, у нас была́ íшчэ́ зямля́. У нас было́ тры́ццаць дзе́вяць со́так. Там от на Ада́мчыкавым кусо́к і на Бало́ньні кусо́к шчэ быў. І каро́ва была́, каро́ву дзяржа́лі, тады́ цяля́ты дзяржа́лі, здава́лі, на гро́шы. Сьвіне́й здава́лі, што сабé забіва́лі, а што здава́лі. Ну, так от і жылí. А ён [муж] (я рабíла ў саўхо́зі), а ён рабíў у Глу́ску, на тра́ктары, Гры́ша. А пато́м там кíнуў, перайшо́ў: ужэ́ тут зрабíлі не «Ко́смас», а «Пціч» (ла́гер тут пастро́ілі), і от ён сюды́ перашо́ў качага́рам рабо́таць. Не на тра́ктары, а качага́рам. От так і жылí.

### Як дзяцей гадавала

Про́ста гадава́ла [дзяцей]. Валóдзя радзíўся ў шэ́сят чацьвёртам гаду́, у акцябры́, трыццáтага акцябрá. А мы прыéхалі ў шэ́сят сёмам гаду́ сюды́, за éта ʸврэ́мя мы стрóілі хáту. І ў шэ́сят сёмам мы прыéхалі ў дзекабры́, а Лéна радзíлася, мýсіць, адзíнаццатага феўраля́. Ужэ́ тут радзíлася. Тады́ ш дзякрэ́т какóй, два мéсяцы – і выхадзí на рабóту. Вот і ўсё. У саўхóс, хóчаш ня хóчаш. Я шчэ так хадзíла яг бы, давáлі мне такýю рабóту: на два часá, напрымéр, пайдý, вы́кіну сілóсы éтыя зь я́мы. І назáд дадóму.

Бáбу прасíла éтую вот, Мíшы Бáбіча бáба былá, тут жылá. Дак янá тады́ прыхóдзіла, гуля́ла, пакá я там на рабóту. Янá пры́дзе, гуля́е. А янá і больш гуля́ла: янá гуля́ла за то, што я прыдý, éсьці ж наварý, усё. Гры́шы ж жду з рабóты з Глýска, прыéдзе. У нас сáла хватáла, мя́са хватáла, малакá: карóва былá, мáсла. Усё сваё былó, але грóшай мáла ж былó, дак мáла што купля́лі. Бывáе, калбасы́ якóй кýпіш там. Вот.

Так усё врэ́мя ў нас былá, éта бáба. Янá мянé пускáла і ў я́гады хадзíць. І нáда мне куды́ паéхаць, дак янá: «Ну éць, я пабýду зь дзéцьмі». Вот, да зь Лéнкай ужэ́ былá. А тады́ ўжэ Вáля радзíлася. І вот так вот я і пагадавáла éтых дзяцéй. Ніхтó мне ні памагáў бóлей. Бáба э́та тóлькі трóхі памагáла. Я яé кармíла за тóе.

### Ліхтар на грады!

На грáдах і лук, і капýсту, і мóркву, і буракí, і картóшкі, і во-о, картóшкі былó ў наз багáта пасáджана, ні больш, як тры́ццаць сóтак. І палóла, і ўсё рабíла.

Дак тут, дзе éта жывé Лю́да, тут былá пустáя хáта, і тут дáлі Тамáры Жамáнавай сóткі, вот éтыя. А янá на пóшце рабíла. Так янá тóжа с пóшты пры́йдзе, так там нáда ш зрабíць і нáда ш і палóць. Дак мы ўжэ: і я з рабóты прыбягý, дак ужэ́ палю́, палю́ да цёмнага! Дзéці адзíн аднагó глядзéлі, і Валóцька ўжэ, да і бáба éта, што нагля́двала, прыхóдзіла.

Дак мы пóлем, а Гры́ша ўжэ прыéдзе пóзна з рабóты, тóжа на трáктары ён рабíў. Дак на трáктары прыéдзе, кíне, як пры́дзе. «...Вам нáда столп пастáвіць, да я вам сьвет правядý! Да й палéце цэ́лую ноч!». Дак Тамáра кáжа: «Ну прáўда, Гры́шачка, кап ты правёў нам сьвет, дак мы б мо быстрэ́й папалóлі, а што мы пры́дам на два часы́, тýтака ўваткнóмся! А таг бы ноч, аднý да другýю – і ўсё, і спалóлі!». Дак ён кáжа: «Нáда пастáвіць столп і правéсьці сьвет, каб вам былó віднá».

Тады́ ж ні так, як цяпéр, гадýюць дзяцéй, грóшы плóцяць. Тады́ ніхтó ні плацíў, панімáіш? Нáда былó дабівáцца самóй, кап штó-та зарабíць і як э́та пражы́ць. Во як былó. Так мая́ і жысь прашлá.

## МЯСЦОВЫЯ НАЗВЫ І МЯНУШКІ

### Мянушкі

У нас мáла такíх былó. А! Купчы́ха. Агáта Купчы́ха. А чагó Агáта Купчы́ха былá – éта ні знáю. Купчы́ха. Янá лячы́ла. Так маé дзéўкі ўжо хóчуць пайсьцí. Янá жывóт качáе хлéбам: рóбіць галýшачкі і качáе. Тады́ éтыя галýшачкі нáда нéсьці сабáку. Аддáць. І вот яны́ (Лéна звáлі) – на бáбу, на мáму маю́:

– Бáбка, мы пóйдам ужó к Купчы́се.

– Чагó?

– Хай янá нам жывóт палéчыць.

Янá ўжо вéдала, што яны́ прóста прыйшлí к ёй і ўсё. Яны́ ўжо прыхóдзяць.

– Ну што, дзéўкі, бýдам рабíць?

– Ну бýдам лячы́ць.

Янá ўжо іх пакачáе і ўжо павядзé: сабáкам яны́ хлеб éты пакíдаюць. Ну, і дадóму пры́йдуць: éта яны́ ўжо палячы́ліся.

Тады́ была́ Ага́па, другая. Белабры́ска дра́жнілі яе́. Белабры́ска. У яе́ адна́ ні брыва́, а вот адзі́н глаз быў бе́лы, адзі́н чо́рны. Дак называ́лі Белабры́ска.

Тады́ Са́ша быў. Му́сла называ́лі яго́. А што за Му́сла – е́та я цібе́ ні магу́ паясьні́ць. Му́сла – дра́жнілі. Які́ Са́ша? Му́сла.

Тады́ Тэ́кля была́. Яе́ называ́лі Шмэ́йда. А чаго́ Шмэ́йда? Ну, яна́ так любі́ла хадзі́ць па ха́тах. Шмэ́йдалася.

Адну́ ба́бу называ́лі Цары́ха. Патаму́ што ў е́йнага мужыка́ было́ тры жо́нкі і было́ два́ццаць адно́ дзіця́. Дак ён быў Цар. Называ́лі яго́ Цар. Пані́ма́еш? Як ён зва́ўся – я й па сей дзень ні зна́ю. Ну ён быў Цар, называ́лі яго́, а яе́ ўжо – Цары́ха. Е́та трэ́цяя жо́нка была́, Цары́ха. Дак е́ту я ве́дала, пры маёй па́мяці яна́ паме́рла. Бо мая́ ма́ма хадзі́ла мало́ць. Дак куды́, ма́мка, по́йдзеш? Пайду́ к Цары́се.

Ба́ба Пятры́шка. Дак яе́ Пятры́шка про́ста называ́лі. Яна́ не Пятры́шка зва́лася. Муж быў П$^{і}$ётр. Ну дак яе́ ўсе зва́лі ба́ба Пятры́шка. Я вот да́жа ні зна́ю, як яе́ зва́лі па-настая́шчаму, пані́ма́іш? Э́та ж маёй цёткі сьвякру́ха яна́ была́. І я хадзі́ла [да іх]. І прыйду́ што́-нібудзь, дык ба́бка Пятры́шка, ну, дай мне там таго́ і сяго́ ці што. Ну дык ба́пка Пятры́шка.

А з Гарадка́ е́тых ні зна́ю. Е́та Пабіра́ха.

[А нас як звалі?] Я ні ве́даю. Ма́ня, яка́я Ху́піха. А Ху́па. Дак е́та дзе́да ш Ху́пка зва́лі. Ён жа ж ні Ху́пка зва́ўся. Як ён зва́ўся? Фамі́лія Гарнаста́й. А зва́ўся? Гры́ша. А Ху́пка. А за што Ху́пка – е́та я ні зна́ю.

Была́ Ва́ра. Ва́ра Ху́піха. Е́та дзе́дава, му́сіць, яна́ была́, ро́цьственьніца яка́я ілі... сястра́? Ну, дык Ва́ра, яка́я Ху́піха. А з яко́га ля́ду – е́та дак я ні магу́ сказа́ць цібе́.

Ко́ля Труба́ быў. Ён быў высо́зны, дык мы ўжо за е́та зва́лі яго́ Труба́. Дак і дачку́ Труба́, і ўну́чку Труба́. Усе́ Тру́бы.

## Назвы мясцін

Вы́жан быў, а тады́ Галу$^{ы}$бо́ўкі называ́лася ме́ста. Галыбо́ўкі.

А пато́м Нябо́шчыкаў рох: е́та там утапі́ўся кагда́-то чалаве́к, дак назва́лі той рох, там такі́ вот заро́жак быў, дак назва́лі Нябо́шчыкаў рох. Быў Аку́лаў рох: е́та Аку́ла той вы́цэрабіў куста́рнік, і е́та быў яго́ сенако́с. Кусо́чак так вот. А пато́м быў Іва́нчыкаў рох: так вот захо́д такі́ во бальшы́-бальшы́, а пало́ска ў яго́ была́ нішыро́кая. Тады́ быў Се́мкаў рох. Се́мкаў рох такі́ ўжо быў бо́льшы. А тады́ Нічы́параў, і туды́ да́льша ўжэ было́ Дані́лаўскае: там во сенако́сілі. Нача́ўся Дані́лаўскі, там дзярэ́ўня то́жа начына́ецца.

А тады́ там быў такі́ ў нас – Ваўкаўня́ называ́лася. Сенако́с Ваўкаўня́ называла́ся: е́та кагда́-та там ваўкі́ вяліся. Там раздзе́лалі – і палучы́ўся сенако́с, дак каза́лі: пойдам грэ́бці се́на ў Ваўкаўню́.

Адно́ ме́ста было́, ўро́чышча тако́е – За́йцава. Там трава́ ні́ская была́, дак каза́лі: за́йцы я́йцы мянта́шаць на тако́й траве́, дак называ́лася За́йцава.

А по́ле было́ Забро́ддзе. Забрадо́к. Забро́ддзе – е́та бальшо́е по́ле, а Забрадо́к – е́та ма́ленькае по́ле. Плёсы. А чаго́ Плёсы – я ні зна́ю. Падлі́печча – по́ле: там се́ялі карто́шку, інагда́ да́жа лён дава́лі там якра́з. Пад Лі́пкай называ́лася. Падлі́печча. Загаёк. А Загаёк: а чаго́ то́е сло́ва Загаёк? По́ле было́: тут людскі́я со́ткі ўжэ дзераве́нскія, а тут такі́ кусо́к по́ля, і Загаёк называ́лася по́ле то́е. Дак куды́ по́йдам капа́ць карто́шку – на Загаёк. Або́ там жы́та жаць – на Загаёк. Ра́душына было: такі́я так во вы́шкі, і там такі́я во сто́ўпкі, сто́ўпкі стая́ць у адно́м ме́сьці, вот як з Гаратка́ е́дзеш.

## Паходжанне назваў вёсак

Дварэ́ц. Е́та там быў па́нскі як бы двор. Дварэ́ц называ́ецца, како́й-та паме́шчык там жыў ужэ́ ш. Паме́сцье тако́е-та было́. Я ні зна́ю. Факт то, што там па́нскі дом быў. Паме́шчык како́й-та быў, дак Дварэ́ц назва́лі.

А е́та Гарадо́к, а то – Мясьце́чка. Гарадо́к той, Мясьце́чка. Там жыды́ жылі́. Уве́сь Гарадо́к быў жыды́. То яны́ паўяжджа́лі куды́-та, то ў во́йну іх пабі́лі, а пато́м, пасьля вайны́, яны́ ўжо мо ні прые́халі. Ну, куда́-та дзе́-та дзе́ліся. Лу́чшыя мяста́ найшлі́. А е́та быў Гарадо́к.

Е ка́рта ў ета́га вот, Мі́шы. Вот у яго́ там больш абазна́чана. Там усе́ даро́гі абазна́чаны.

Як у нас [у Кнышах] – дак е́та там я сваё зна́ла, а тут [у Гарадку] я ні зна́ю. Е́та каб, мо́жа, мой дзед быў, вот ён бы знаў. А дзет мой быў, ну тут у яго́ зямлі́ ні было́. А ён купі́ў (ні дзет, а пра́дзет) у Кныша́х зе́млю. А ў Кныша́х зямля́ о́чынь плаха́я: туды́ ніхто́ ні хаце́ў е́хаць. Са́мыя бядне́йшыя ўсе й туды́ [паехалі]. Купі́лі там зе́млю і ста́лі жыць.

А Кнышы́: е́та хто́-та пасялі́ўся са́мы пе́рвы. Фамі́лія была́, наве́рна, Кныш. Вот ат э́тага сло́ва дзярэ́ўня Кнышы́.

Ка́рпавічы. То́жа, мо́жа, які́ Карп ці хто́-та быў, мо́жа, чы е́та было́, ху́тар які́ быў ці што, дак Ка́рпавічы ста́лі.

Туркі́. От Туркі́, там былі́ хутара́. А пато́м іс тых хутаро́ў ста́лі сялі́цца ў ^вэ́ту дзярэ́ўню, ну, як бы зно́сілі ілі как, ілі прыка́звалі, штоб [перасяляліся]. Разбура́лі хутара́, значыць, от дзярэ́ўні. І Туркі́. А пачаму́ Туркі́, я ні магу́ сказа́ць.

Гарадзі́шча. Там стая́ла што́-та тако́е, агра́да кака́я-та. Ну вот ат сло́ва е́тага пашло́ Гарадзі́шча.

## Сачыненне пра Гарадок

Знаеш, е́та вот як быў Мала́ньнін Аляксандр Анато́ль[евіч]... Мі́ша, мужы́к, ён мно́га чаго́ знаў. О́чань мно́га. У яго́ да́жа кні́шка была́, ён ту́ю кні́шку здаў, дура́к. У каку́ю-та бібліяце́ку ілі куда́ ён яе́ здаў. Ілі ў горыспалко́м, ілі куды́ ён яе́ здаў. Там усё было́ вы́лучана: там ка́жды мо́сьцік как называ́ўся, ка́ждая дэрэву́шка, ка́ждая у́ліца. Усё было́, как на́да.

Патаму́ шта мая́ Ле́на [дачка] пісала сачыне́ньне. І вот ёй на́да было́ напіса́ць пра Гарадо́к, а што яна́ пра Гарадо́к зна́ла? Яна́ ш нічо́га ні зна́ла: дзе та́мака гарчэ́чная была́, дзе ме́льніца была́... Вот тут млыно́к быў, ме́льніца была́, вот тут, на рэ́чкі. Гарчэ́чная была́ (ужо́ пры маёй па́мяці) за Гарадко́м, паўз шасе́, от сра́зу, як е́дзеш, і по́лем. Гаршкі́ рабі́лі. Гарш^чэ́чная была. Там і го́ран такі́ стая́ў. І сто́раж быў: была́ жэ́ншчына. Там гаршчэ́чная была́. Тады́ ішчэ́ што́-та было́. Тут, дзе купа́юцца, каля Э́дзіка, як е́та называ́ецца? То́жа што́-та бы́ла, дак вот паэ́таму там тако́е ме́ста, так называ́ецца.

Ну, і Ле́на мая́ пі́сала сачыне́ньне. І хадзі́ла к э́таму Дана́тавічу. І ён ёй усё параска́зваў, і яна́ напіса́ла сачыне́ньне. Напі́сала то́е сачыне́ньне, забра́лі і больш ёй ні паказа́лі. Хто́-та падабра́ў. Яно́ ці не Усьці́наўна, наве́рна. Ілі яна́ забра́ла, ілі Лю́ба Кі́рыкава забра́ла, патаму́ што спра́швалі: ду́малі, мо ў Глу́ску яно́ засталося. Гаво́рацць: нет, яго́ забра́лі. Ле́ні маёй-то паста́вілі пяцёрку. Ле́на хаце́ла то сачыне́ньне наза́д забра́ць ужэ́. Спла́вілі, ні аддалі́, патаму́ шта ніхто́ тако́га ні знаў, вот ніхто́ ні знаў! А Дана́тавіч е́ты (ў яго́ кні́га да́жа была́) здаў, прада́ў. У яго́ така́я кні́га, і ён усё знаў, вот панімаіш? І Ле́на хаце́ла забра́ць то́е сачыне́ньне, штоб знаць усё пра Гарадо́к.

## Царкавішча ў Гарадку

У Гаратку́ цэ́рква была́. Вот тут на ву́ліцы! Да, царко́вішча. Е́та ж называ́ецца царко́вішча: вот е́та вы́гараджанае ўсё, е́та называ́ецца царко́вішча: тут стая́ла цэ́ркаф. Е́ту цэ́ркву да́жа твая́ ма́ма ні по́мніць, наве́рна, када́ іе́ зне́сьлі, но была́ тут цэ́рква, стая́ла, і называ́лася царко́вішча. Е́ту цэ́ркву забра́лі, дак і ў Гарадзі́шчы былі́ паста́вілі, і ў Ві́льчы. Пато́м ужэ́ пасьля вайны́ я ні зна́ю, дзе яны́ што дзе́лалі.

## Гарадок і Мясцечка

Тут магі́лы німа́, тут па́мятнік стаі́ць, пагі́пшым ва врэ́мя вайны́. [Гарадкоўскім?]. Да. Тут еўрэ́яў о́чэнь мно́га, е́та яны́ жы́лі там на Мясьце́чку. То Мясьце́чка называ́лася, не Гарадо́к, а Мясьце́чка. А е́та быў Гарадо́к. Тут жылі́ прасты́я, а там, дзе Мясьце́чка, – там яў́рэ́і.

## *ГАВОРКІ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Л. П. Кунцэвіч*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. М. Пілюк, 1932 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены ў 2014 г.*

### Замовы

*Ад каўтуна*

Дай, Бóжэ, дóбру часíнку, дóбру гадзíнку. Гóспадзі Бóжэ, памажы! У пóлі на мяжы́ стая́ла каравáтка, а ў той каравáтцэ сядзéла старáя бáба. Янá дзéла ні рабíла, каўтунóчкі гавары́ла, гавары́ла і ўгавары́ла. Каўтунóчкі-братóчкі, каўтунíцкі-сястры́цкі, скýлачкі-мáтачкі, с усягó сьвéту прыпáдачкі, дóтуль ты хадзíў, дóтуль ты ламíў, пакá я цябé стáла ўпрашáць, умаўля́ць. Па крыві́ ні хадзí, крыві́ ні тамí, кóстачэк ні ламí. Ідзí туды́, дзе вéтрык ні вéе, сóнечко ні грэ́е, жы́цячко ні рóдзіць, звер ні хóдзіць, птáха ні лятáе. Там вам стóлікі пазасьцíланые і кýбачкі паналлíваные. Упівáйце, уядáйце, на расхóдные дарóгі ступáце, у Івáна (Андрэя, Мáр'і..) у цéле ні бувáйце. На гарэ́лые калóды садзíцеса, як з гарэ́лых калóд ні ўставáць, так у Івáна ў цéле каўтунý ні бувáць (*паўтарыць 9 разоў*).

*Ад удару*

Удáр, удары́шчэ, ідзí ў лясíшчэ, атсячы́ тапары́шчэ, заткнí за пóяс, прынясí дадóму, пастáў на кóмін. Як ямý на кýсьціку ні стая́ць, так удáру ні бувáць (*паўтарыць 9 разоў*).

*Ад вывіху*

Ёхоў Гаўры́ло на сíвуй кабы́ле. Кабы́ла спаткнýласа, Гаўры́ло ўпаў, каб ізвíх прапаў (*паўтарыць 9 разоў*).

*Ад сурокаў*

Зóры-зары́цы, бóжые памачнíцы, схадзéце нéбачко атмукнéце, Гóспада Бóга папрасéце, трóе áнгалетоў зь нéба ссадзéце. Пéрвае – вóду насíць, другóе – змувáць, трэ́йцяе – на сíняе мóрэ ўлівáць. На сíнюм мóры дубóчэк, на том дубóчку лістóчэк, як тым лісткóм мóрэ ні закрывáць, так у Гáнны ўрóку ні бувáць (*паўтарыць 9 разоў*).

*Ад увярэ́ду*

Увярóдзе, увярóдзе, ні сядзí на азярóдзе, а сядзí на мéсьцячку, на залатóм крэ́сьлячку. Цябé бáбы бáбілі, а кýмы кумíлі, у Бóга дóлі прасíлі.

*Замова ад любой хваробы*

*Кавалак хлеба пасыпаць цукрам і на яго гаварыць. Налечаны хлеб занесці пад могілкі, разламаць на тры кавалкі і праз левае плячо пакідаць у бок могілак. Ідучы туды і назад, ні с кім не гаварыць.*

Дай бóжачко дóбру часíнку, дóбру гадзíнку. Цар земянны́, цары́ца земяннáя, цар вадзяны́ і цары́ца вадзянáя, нíзкім клóном, бóжым слóвом, хлеб-сáхар прымéце, Лю́біну дýшачку атпусьцéце. Прашý дýшак і стáрых, і мáлых, і сабрáных, і прашý таé галавы́, што клады́ занімáла, каб да пóмачы стáла.

Другíм рáзом, бóжым чáсом, дай бóжэ дóбру часíнку, дóбру гадзíнку. Прыступí, Бóжэ, і памажы́. Цар земянны́, цары́ца земяннáя, цар вадзяны́ і цары́ца вадзянáя, нíзкім клóном, бóжым слóвом,

хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шак і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што клады́ заніма́ла, каб да по́мачы ста́ла.

Трэ́йцім ра́зом, ле́пшым ча́сом, дай бо́жачко до́бру часі́ну. Цар земянны́, цары́ца земянна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шак і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што клады́ заніма́ла, каб да по́мачы ста́ла.

Чацьвёртым ра́зом, ле́пшым ча́сом, дай бо́жачко до́бру часі́нку, до́бру гадзі́нку. Прыступі́, Бо́жэ, і памажы́. Цар земляны́, цары́ца землянá́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, прашу́ вас нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, каб да по́мачы ста́ла.

П'я́тым ра́зом, ле́пшым ча́сом, дай, Бо́жачко, ле́пшу часі́нку. Прыступі́, Бо́жэ, і памажы́. Цар земляны́, цары́ца земляна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, прашу́ вас нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, каб да по́мачы ста́ла.

Шо́стым ра́зом, ле́пшым ча́сом, дай, Бо́жачко, ле́пшу часі́нку, ле́пшу гадзі́нку. Прыступі́, Бо́жэ, і памажы́. Цар земляны́, цары́ца земляна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, коб Любе да по́мачы ста́ла.

І сё́мым ра́зом, до́брым ча́сом, Дай, Бо́жачко, до́бру гадзі́нку, до́бру часі́нку. Прыступі, Бо́жэ, памажы́. Цар земляны́, цары́ца земляна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, коб да по́мачы ста́ла.

І во́сьмым ра́зом, до́брым ча́сом. Дай, Бо́жачко, до́бру гадзі́нку, до́бру часі́нку. Прыступі, Свята́я сыбо́тка, прыступі і памажы́. Цар земляны́, цары́ца земляна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, коб Любе да по́мачы ста́ла.

Дзяўя́ты разо́к, ле́пшы часо́к. Дай, Бо́жачко, до́бру гадзі́нку, до́бру часі́нку. Прыступі, Бо́жэ, і памажы́. Сваю́ сьвякру́ху успаміна́ючы, Цар земляны́, цары́ца земляна́я, цар вадзяны́ і цары́ца вадзяна́я, нізкім кло́ном, бо́жым сло́вом, хлеб-са́хар прыме́це, Лю́біну ду́шачку атпусьце́це. Прашу́ ду́шачэк і ста́рых, і ма́лых, і сабра́ных, і прашу́ тае́ галавы́, што заніма́ла клады́, дай Бог, коб Любе да по́мачы ста́ла.

## Малітва

*(чытаць перад сном)*

У нядзе́лю ра́но со́нячко ўсхо́дзіць, Прачы́ста Бо́жа ма́ці свайго́ сыно́чка за бе́лу ру́чку во́дзіць. Во́дзіць дай гаво́рыць: сы́не мой, сы́не, куда́ мы по́йдом? Ма́ма мая́ мі́ла, с кра́ю да кра́ю і да сі́няго мо́ра. На сі́нюм мо́ры ка́мень ляжы́ць, на ка́мяні прысто́л стаі́ць, за прысто́лом сам Гаспо́дзь сядзі́ць. Сам Гаспо́дзь сядзі́ць, кні́жачку чыта́е, жывы́м і м'я́ртвым угавара́е. Хто е́ту малі́тву зна́е, у агні́ ні гары́ць, у вадзе́ ні та́не і а́нгалетко бо́жаю сьме́рцю ўміра́е. А́нгалеткі-сьцяро́жкі, сцераглі мяне́ зь дзе́ткамі з радзі́маго дня, сьцеражэ́це й да сьме́рці мае́. Бу́ду вам служы́ць ат відна́ да відна́, сьцеражы́це й да сьме́рці мае́.

## Малітва засцерагальная

Бо́жа ма́ці спа́ла. Прышо́ў яе́ сын, дай пута́е: ці ты ма́ці сьпіш, ці ты так ляжы́ш? – Я ні сьплю, я сон сьню, што ты хо́дзіш па гара́м, па разбо́йнікам, па жыда́м. Цябе́ жыды́ на крэст расьпіна́лі, ру́чкі й но́жкі гвазда́мі прыбіва́лі. Узяла́ сы́на за пра́ву ру́чку, павяла́ на ра́нчу, з ра́нчы на абе́дню, с абе́дні на вячэ́рню, з вячэ́рняе – на сі́няе мо́ра. На сі́нюм мо́ры ка́мень ляжы́ць, на ка́мяні цэ́ркаўка стаі́ць. У цэ́ркаўцы стол стаі́ць, а за стало́м сам Гаспо́дзь сядзі́ць. Прышло́ два браты́: ні сто́йце, бя-ры́це малі́тву ў ру́кі. Хто зна́е – мале́цеса, хто ні зна́е – вучэ́цеса. Хто е́ту малі́тву зна́е, той го́ра ні ма́е.

### Малітва

*(маліцца, як гром грыміць, маланка бліскае)*

На гарэ́ сія́нскае. Там Бо́жа ма́ці спа́ла. Спа́ла да ўста́ла, свой сон расказа́ла. Сыно́к мой, цябе́ жыды́ ўкра́лі, гало́ўку атруба́лі. Узяла́ сы́на за пра́ву ру́чку, павяла́ на ну́транась, а з ну́транасці на сі́няе мо́рэ. На сі́нюм моры́ ка́мень ляжы́ць, на ка́мяні прысто́л стаі́ць, за прысто́лом сам Бог сядзі́ць. Сам Бог сядзі́ць, кні́жачку чыта́е, за нас грэ́шных паку́ту ма́е. Коб хле́ба-со́лі було́ даво́лі. Крэст у галава́х і крэст у нага́х і а́нгалеткі па бака́х. А́нгалеткі-сцяро́жачкі, сьцераглі мяне́, сьцеражэ́це й да сьме́рці мае́. Бу́ду вам служы́ць ат відна́ да відна́ і да на́шага сьвіда́ннейка.

### Малітва

*(маліцца перад сном, каб ні баяцца, застаўшыся адной у хаце)*

Ні адна́ я, тро́е а́нгалетак са мно́ю. Пе́рвае пі́ша, друго́е чыта́е, трэ́йцяе мяне́ ахраня́е. Прышла́ Бо́жа ма́ці, пераступі́ла паро́г. Ішла́ і зямлё́ю, ішла́ і вадо́ю, куды́ Бо́жа ма́тка, туды́ я зь ё́ю. Спаць лажу́са, Го́спаду Бо́гу здаю́са, красто́м апрану́са, Бо́жуй ма́таццэ ні́зянько ў но́гі пакланю́са. Бо́жа ма́тка пасьце́льку сьце́ле, крэст у галава́х, крэст у нага́х і а́нгалеткі па баках. А́нгалеткі мае́, сьцераглі мяне́ із радзі́маго дня, сьцеражэ́це й да сьме́рці мае́.

### Малітва

*(маліцца перад тым, як ісці ў лес)*

Свята́я Багаро́дзіца, Бо́жая ма́ці, спасі́ мяне́ ат усяча́скаго зла: ат ліца́ рабу́чаго, ат зьве́ра бягу́чаго, ат га́да паўзу́чаго, ат насяко́маго кусу́чаго. Спасі́ і сахрані́ (*прачытаць 3 разы*).

### Малітва дапамагае

Мая́ ж Анюта ні ве́дае е́тых малі́твоў, але ж, як гарэ́ло, як запалі́ў Сьлінько́ сваю е́ту ха́ту. Вото́-то-то Каўгарэ́невых (загарэ́лася б). Ну ўжэ ж тра́ктар пудагна́лі і во́ду льлілі́. Сын жэ рабі́ў на тра́ктары, бо́чку е́ту прып’ё́р. І вото-то́. Анюта прыбе́гла: у цябе́ е, Ма́ня, во́браз? – Вой німа́, ўсяго́ ка́ртачка. Яна́ схапі́ла яе́ ў рушні́к, тры раз абышла́ ха́ту, малі́ласа, што зна́ла. І Каўгарэ́ніха ка́жэ: пра́мянячко пайшо́ў узбо́к ха́ты [агонь]. Пайшо́ў на по́ле. Тады́ мы, ка́жэ, і ру́кі паапуска́лі. А то ўжэ во-то-то ха́та хвата́ласа. Згарэ́лі б.

Анюта ра́но й ве́чар мо́ліцца. Інагда́ ту́така, а інагда́ по́йдзе туды́, а я ду́маю, дзе яна́ дзе́ласа, да гукну́, дак крычы́ць. Дак я ўжэ цярплю́, цярплю́, пака́ пры́дзе. Ду́маю, мо што там ні́до́брэ, да ўпа́ла. Дак яна́ ве́льмо ско́ранько гаво́рыць, бес канца́. От сьвякру́ха мая́, яна́ во та́ко во, я тро́хі панялá. Яна́ малі́твоў. Папрасі́ яе́ хай прамо́ліцца, папрасі́. Ох харо́шые малі́твы яна́ ўме́е, аж за ду́шу бяру́ць. І до́ўго мо́ліцца. Па дзьвяна́ццэць раз угава́рвае. Яна́ мо́ліцца харашэ́й за мяне́. Я то ко́лішніе малі́твы, а яна́ цяпе́рашніе.

### Прадказальніца

Ва́ля Ка́ціна зна́ла, тро́хі панімá́ла. Вот адно́. Як жыла́ е́та нябо́га яго́ ў яе́ (у Анюты). Мо зь дзевяці́ гадо́ў жыла́, да забале́ла. Дак яна́ прыне́сла мне ка́ртачку яе́ да ка́жэ: як прые́дзе, дак схо́дзіш ты, На́дзя, што яна́ ёй ска́жэ. Ужэ́ так як галава́ крэ́пко забале́ла. Ёй жэ апера́цаю рабі́лі, дай паме́рла ж, ні перане́сла яна́ тае́ апера́цаі. Дак яна́ (Валя) палядзе́ла да гаво́рыць: цё́тко, яна́ с чужы́м мужыко́м пераспа́ла, дак жо́нка зрабі́ла. Ні́чо́го ні каза́ўшы, ні ве́даўшы..

А ўкра́лі (Анюцін Вало́дзя старажава́ў) у тра́ктары, я ні зна́ю, што яны́ ўкра́лі. Яны́ на дваі́х маракава́лі. Яна́ й таго́ прыне́сла ка́ртачку й таго́. Я пашла́ зноў к ёй, да гавару́: укажы́, като́ры зло́дзей. Дак яна́ гаво́рыць: ваеты во, а е́таго й ні чапа́йце, е́ты й ні зна́е, ні кажэ́це ні́чо́го пра яго́. Ну й пра́ўда була́, што е́ты ўкраў. Камуля́тар, ці як яго́ там.

А онь як пагінулі хлóпцы ты́е, іх патапілі тады́ ў Любані. Трóе ці чэ́цьвяро. Дак ты́е лю́дзі прыяжджáлі. Дак як паéхалі, дак мы гавóрым: ну што ты, сказáла, што жывы́е, што нáйдзяце? – Ну як я скажу́, кáжэ, што іх німá, ужэ́ яны́ ў вадзé. Я ні магла́, кáэ [кажа], так сказáць.

А раз ужэ́ надаéло, дак яна́ схавáласа ў спáльні, і лю́дзі прыéхалі, мо з Дарóг éто. Урачэ́ ж éзьдзілі, правярáлі, усé ўрачэ́ прыягджáлі. Яна́ схавáласа, а я кажу́: не, грэх, ідзí. Вот яна́ паслу́хала й пашлá, мы ў той хáце, а яна́ ў той с пры́ходу. Жанчы́на пашлá, а мы кáжом: ну што ў яé? – Кáжэ: да гры́жа на пазванóчніку. Яна́ й вéдае, што гры́жа, да éто прыéхала спрахцікавáцца, путáць, што рабíць, ці вуразáць, ці не. Éто ты ўжэ самá рашáй.

А вот раз сядзéлі, пакóйна Сóня Ігнáсішка казáла, сядзíм, а ідýць маé ўнýкі, дак яна́ (Валя) гавóрыць: от, Сóня, у вунтаé тваé ўнýкі сéрцэ балíць. Павялá Натáша правéрыла – і прáўда сéрцэ. Яна́ панімáла багáто, а цяпéр я ні знáю.

На мянé, от я ні пашчытáла кóлько гады́, прыхóдзіла, дак я плáкала, ўжэ ж я ні гадна́ була. Як мой унýк кáжэ: трэ́бло ні капáць лéжачы кардóплеў скарэ́й за ўсіх. У Глядавíчах наглядзéўса, як мы з Галýзіхаю. Яны́ па дной баразьнé, а мы па дзьве, дай даганяéм. Дак яны́ азірнýліса: і-і-х, яны́ ж па дзьве баразьнé. Дак Вáля на ўвесь гóлас: папрóбуйце скапáйцеса зь éю ляжáчаю. Я шчэ ляжáча дóбрэ рабóтала, кардóплі палóла й капáла. Мянé ўжэ даўнó зацінáло, але я ідý, ідý да кіé пут пáхі, уздыхнý дóбрэ-дóбрэ, пасяджý і зноў пайдý.

### Знахарства

Бягунíха ж знáла. Зьбéгло булó ў мянé цяля́. Бóжэ мой, усягó палядзéла. Дзьве цялáці ўцякáло ў лес. Дак аднó зьбéгалі па карóву да прывялí, там на Вóзяры пáсьціласа. А карóва ўчапíласа ў дрот да на нóгі ўпáла. Я спужáласа, дýмала нóгі паламáла, ужэ́ цялáці мацьбы ягó так. А янá, Бóжэ мой, пуднялáса да як рыкнýла, дак янó прыпéрло. Перавялá я мóсьцік карóўку, дак янó ўжэ ссаць. А тут хлóпцы якрáз гной вазíлі, дай ухапíлі ягó да прывялí.

А другóе начавáло. Бéгалі, бéгалі, забéглі на Даляшынá дзéці, дай прышлí цёмначы. Кажу́: ну што, маé дзéткі, калі ні пры́дзе на хéрму, ні ўчýе за ноч карóвак, ну то што ж ужэ́ зрабíць. І сьвіння́ апарóшваласа ў лéсе, і скíнула парасяты. Сьвякрýха нашлá сьвіннию́, прыгнáла, а парасяткa ўжэ ні булó. Ну дак мне нéхто сказáў, як цяля́, ідзí к Бягунíсе, янá знáе, як загнáць. Я пашлá. Янá кáжэ: вазьмí нож, заткнí ў вушáк, дзе дзьвéра крýцяцца і скажы́: каб маé цялятко так на мéсьце круцíласо, як éтые дзьвéра крýцяцца на вушакý, і нікуды́ ні пабéгло. Перагавары́ так, да ў вушáк і ваткнí нож. Ну я éтае й зрабíла, перагавары́ла й заткла́. Назáўтрэ пачалó разьвíднівацъ, я кажу́ на Міхаля́: ты шчэ што тут зрабí, а я пайдý рáнянько. Узялá вярóвачку, да вýшла на Кабýляўську éту дарóгу, от дзе Кабýляво ўжэ віднó. Éта дарóга, што даўнó бéгалі ўсе ў я́гады. А янó [цяля] тóлькі ўжэ вýтаўкло, што нідзé німá сухóе мéсьціны. Я пачалá зваць, а янó, Бóжэ мой, і стаíць на мéсьцячку. Я вядý, а ён [муж] ужэ́ бягíць шукáць. Я крычý: вярнíса, я ўжэ вядý. Дзя́куй ёй, Бягунíсе, хай ёй лёгко ляжáць.

Бягýн тóжэ знаў. Усé ж Мáр'я, дзя́дзіна пакóйна, казáла: я сáла ні бáчыла, а як навучы́ў Валóдзя, дак я сáла паядáла. І ў нас ні вялíса сьвíнне, што я папагаравáла, кóлько я пазацягáла [у лес] сьвіннéй. О вéдае (паказвае ў бок суседкі). Бáцько ўсягдá. Стол аццягнуць. Адáле ўжэ бáцько нігадзён стаў, дак я гаварý: ну с кім ужэ́ сёні купля́ла парасята? – З Галýзіхаю. – Дак ты бáцькавае? – Я ні вéдаю, Галýзіха гавары́ла. О, дýмаю, хітрýха ты. Зрóду і ні балéло, і ледзь вýкаціць. А мне аднá жанчы́нка ў Дарóг (рáзом пóмеж ляжáлі ў бальнíцы) і казáла: Нáдзячка, я гарýю за сусéтку, ні бáчу сáла, але мянé навучы́лі лю́дзі. Мо і ты такáя, дак я і цябé навучý: уваткнí у плот нож вастрыўём і хварóбы, ні прыстáне зрабíць нічóго. Укíдáла кóлько раз, а я кáжды рáнак правярáла, ці тырчы́ць. А хварóба, я вýкаціла тры́ста кілó, а янá сто. Трэ́ба ўваткнýць нож у свой плот, прóці яé [таго, хто прырабляе].

### Хвароба

Мáню Кудзёлу, ятрóўку маю, спаралізавáло. Сыны́ забрáлі ў Жóдзіно. Яна́ ж назакáтвае (да хваробы) і грыбóў мóрэ, па сто бáначкі ́етые паўлітрóвые, коб зарáз зьéсьці. Па сто бáнак за лéто назакáтвае. А панасу́швае і дзернякóў, і цяцéр. Дзернякí ́етые яна́ ў печ ні саджáла, а на пéчы. Яны́ зíму хру́стаюць, ядзя́ць. А гуркóў, да ўсягó. Але вот жэ булó ўжэ ёй, памаглí тады́ лякáрства. Яна́ ж. Я й кумé казáла: кýмачко, ні бýдзе Валóдзіха. Вóчы булí ніхарóшые, ніхарóшые. Яна́ ж лéтавала пуд я́блынаю, а на ноч прыця́гваласа ў сéнцы. Пастаўля́лі стýлікі паўз газ. Я зайшлá праве́дацъ, а яна́ ля ́етаго гáза. Я кажý: куды́ вы, што вы рóбіце тут. – А тут ніхтó ні пáліць, ні ваня́е. Яна́ Мáні ні давярáла. Ёй пóлік зрабілі пуд я́блынаю, дак яна́ там. Адáле ўсе Зóся казáла: о, кýмачко, як прыўе́з сын паўпакéта парашкóў. Тады́ ж ён з ́етымі ўятнáмцамі ці кітáйцамі. Дак і мáцяру пудня́ў. Прыўе́з на мéсяц Зíну, яна́ ўжэ рэгуля́рно ёй давáла, і яна́, палядзí аджылá, да палядзí кóлько гадóў. А яна́ тады́ булá, я ні дýмала. А тады́ ўжэ Сяргéй пап’ёр яé на Ўрэ́ччэ ў бальнíцу. На Ўрэ́ччы ён тады́ тóжэ ўсадзíў дóбрэ ́етаго сьпíрту, як і сёлята ў Любані. Але ж языкавáта. Наштó табé пры людзя́х ваéтае ? У бальнíцы аднá гавóрыць: мáці памéрла, дак я ўжэ ўзялá пярóм усé сьцéны сьпíртом памýла і памóст памýла. Дак яна́ (Кудзёла): я нóгі вот мýю сьпíртом. Ну наштó табé ́етае казáць? Ну начáльнік сын на сьпіртзавóдзе. А цяпéр ляжы́ць нідзьвіжы́ма, але ўсе гавóрыць. Дадóму хóчэ.

### Шаткаванка

Я любíла й даўнó шаткóванку. Зрáзу ж у вýварку даўнó, дзе ты́е пля́шкі булí? Усé ж у вýваркі. І я бíнтом заклáдвала. Тады́ ўжэ німá ́етае вады́ [паверх капусты], я баржджэ́й вады́ халóднае, тóлько пасалю́. Раз Варвáрка пакóйна жáліцца: паўвýваркі вýкінула капýсты. Ой, цётко, цётко, я зрóду ні ўкідáла. – Ну што ты рóбіш? – Вадóю салёнаю. Істапчý, дай каб павéрху булá вадá. А пакóйна Купчы́ха кáжэ: я пля́шкі паўварóчвала капýсты сёні папалавíну. Я гаварý: а ты даждáласа пакá яна́ сагнілá напалавíну, чамý ты ні нальлівáла? У мянé німá навéрсе , я ватó баржджэ́й салю́ вóду і залівáю. І зрóду ні вýкінула. Я ўвéчарэ лажýса спаць, мне хóчацца кíслаго. Я дзьве лóжкі ў мíсачку, сáхару, там жэ й мóрачка. Паядáю безь ніякага хлéба і так мне лёгенько спаць. Дак я цэлу зíму прашý: ты мне багáто ні давáй, лóжку, а я с тваé лóжкі зраблю́ тры, і такáя смáшненька. Анюта ні хóчэ салóткае, а я ўсе с сáхаром. А гуркá я пасьцí цераз дзень смактáла, прынясé мне й на ноч, я й на ноч пасмакчý. Канхфéт ці чагó салóткаго ні хóчу.

***

От верабéй нéйкі вядзéцца. О, хíтры верабéй. От як ат апарáту ляцíць і ля я́блыны ўсё. Пóйдзе, мáбіць, па травé пехатóм. А лéтусь увóсень в’ёў назáд ́етых вялíкіх сваíх вераб’ёў. Крáсные нéйкіе і хвáсты́ дóўгіе, як кýра. Зір я – сядзíць верабéй.

### Дзіцячыя ўспаміны пра вайну

Сукнá нéйкаго мáці праткáла, мо дзьве гýбачкі ці кóлько. І мы з бáцьком панéсьлі ў Глядавíчы. Усю́ды путтыкáласа, і я пабягý, памагý табé. Ідóм назáд ранянько і чýём, што ў сялé ўжэ нéмцы. Я прашý: тáто, давáй пасядзíм у хвóйніку, як паéдуць, мы пóйдом. А ён: не, мая́ дачýхна, там жэ і мáці, і Сяргéй, мо ўжэ пабíлі іх. То як пабíлі, то ні пуды́меш жэ ж. І я дадóму прышлá, а бáцька ж і сунялі, да ўсіх мужчы́н у магáзін запéрлі.

Мой сьвёкар, як разьбілі éту дзівізяю, пáсьціў карóў калгáсных. І Мíшу браў с сабóю. Ён загóніць ́етые карóвы і ́етаго Мíшу кíне, а сам на Вярхýціна па тры раз на дзень. І дзé-то ля Дóўгаго я́ма. І ён нанасíў туды́ шынялёў, дáжэ пулям’ётоў, што на нóжках булí, і вінтóвак, і патрóноў. Абгарóдзіцца тут патрóнамі, яны́ ж булí нéйкіе лéнтамі, а тут за плéчы. Тры раз за ноч прынясé. І нанасíў цэ́лу я́му. Ну дай пахвалíўса: як пры́дуць парцізáны ў Рýхаво (ужэ́ ш чутнó булó, што

парцізáны зьбірáюцца ўсю́ды) я абясьпéчу пóлнасьцю іх. Я й шынялямі, я й нагáнамі. (Бач, нікóлі нічóго ні гавары́, які́ б ні дóбры буў друг). Той [каму пахваліўся] сказáў паліцáём, ці Бэсэ́ру ці Сéмку éтаму і ўсё, пацалу́й у срáку. Забрáлі ягó. Я́му ні найшлí. Іх траíх вы́велі з магазíна во сюды́, якрáз буў бугарóчэк, дзе жывé Рáўчыха, і парастрэ́львалі, а астальны́е паўцякáлі. Як сказáлі, што бáцька павялí, дак Міша прыбéг к нам і трасéцца. Мáці: чагó ты Мíшка? – Майгó бáцька ўбíлі. Нáшаго бáцька пусьцíлі, а éтых. А шчэ адзíн буў п'я́ны, Калóдка éты, і пéсьню сьпеў: *і сягóні вайнá, і зáўтрэ вайнá, мы заб'ём кабанá і зарэ́жом дрысьліву цялу́ху.* Яны́ за ягó і забíлі. Ну ягó то варт, ён людзéй кóлько пасудзíў, а Івáна бéдняңькаго (што пра я́му пахваліўса) ні за што. Ну дак пóмніла сьвякру́ха, што дзé-то, му́сіць, і дóма закóпано. Бо прыбéгла раз Валóдзіха і кáжэ: ідзéце, кумá, мо янá вас паслу́хае. Гавóрыць, пуд я́блынаю за ноч такýю дзíрку вýдаўбала, я крычáла, крычáла, сяднó даўбé, бягéце, мо б янá паслу́хала вас. Я прыхóджу, а янá ўжэ ў хáце на сту́ліку. – Ну чагó ты там шукáла? – Ну чагó шукáла, то мой жэ ку́бел там закóпаны. – А што там у ку́бле тваём? – Ну чагó што, і сáхар, і сáло. – Сáхар растáў, а сáло сагнілó. Закапáй і ўсё, больш каб ты туды́ ні хадзíла.

****

Булí два браты́, брат у брáта жыў, сьляпы́ буў. Нáшы брацéнікі булí. І ён, сьляпы́, ўсе мáцяры хадзíў жмаць плáцьце. Мáці пажлу́кціць, ён прыхóдзіць назáўтрэ, янá паапáрвае, ён нагáмы як вы́жме. Абмáцае, дзе й каўнéр, дзе й каўнéрык. Прыхóдзіў сам, ён і прáсьці хадзíў з дзяўкáмы, праў, ну кудзéлю, ўжэ ямý ні дадýць кýжалю.

**Пра пажар**

Я дáўняе ўсе пóмню, а сёняшняе, то не. Сялó нáшае гарэ́ло й гарэ́ло. У Мацьвéя булá пудóйма (той дзень як жаніліса Ніна с Сяргéйкавым). Ужэ́ ат Зялёнкі. Ну й на пудóйме éтуй ужэ́ й Нáдзя, й Сцёпка. Мой Міхáль абы напíцца, ён éсьці то ні еў. Зялёнка з Мацьвéём нéйкімі кýмамі, ці як яны́. Радня́ нéйка. Дзéці я пазанóсіла к мáцяры, Валóдзя ж малéнькі буў, а éтые бóльшые ўжэ паснýлі. Я прывялá Міхаля́ с таé пудóймы дай палажы́ла, а самá пабéгла па Валóдзю, бо цы́цкі ж трэ́ба давáць. Пóсьцілка заклáдзяна ля сцяны́ булá прыбíта. Мо б я ляжáла й ні бáчыла б. А тады́ даю цы́цкі. А чагó мая́ пóсьцілка такáя харóша? Аж гары́ць. Я цы́цку вýцягла. Зір, а ўжэ ўсягó крóквы стая́ць да лáты (на Сцёпчышыным хлявé), ўжэ салóмы німá. Салóма жáхнула й згарэ́ла. Я памалéчку путклáла пуд дзіця́, трэ́сла ягó, трэ́сла [мужа], хоць ты ямý ў срáку патрубí. Бéгала, бéгала, ну хоць бы я тóе знайшлá, надзéла, што я скíнула. І дзе я ягó папáла сарóчку, зад напéрад надзéла і папéрла к Мáньцэ. І сюды́ ж завярнýўса агóнь. І крычý: вóх'я, Мáнька. І сваé пóсьцілкі пахапáла, дзе ўжэ булí. Éтых пóсьцілак ужэ́ назнóсілі, на кры́шу вóду насíць éты ўжэ Мíшка да Сяржáнт. А ён [Сцёпка] захавáўса ўжэ за хлёў за Мáньчын, а éты Сяржáнт углéдзёў, да схапíў кóла, хацéў кóлом, а там гвóзд буў. Ён як махнýў, а Мáньцэ ўсе во так во разрэ́зоў. Éта загаласíла, пабéгла к бáцьку, коб замаўля́ў. Ну й я ж вéдала кроў замаўля́ць, ну чамý я ні замóвіла? Éто ж іс пýду. І давáй мы вóду ўжэ ліць. От і бягíць Мітрóнь. Бягíць прáмо цераз мой агарóд, атарваў тры калы́ і ўлéз. І абышóў éты пажáр. Пажáр пашóў хóрашэ-хóрашэ ўверх. На хáту дáжэ й ні кланíўса. Мітрóнь: ідзéце, дзéткі, спаць, лажэ́цеса. Мітрóнь вéдоў. А як свой хлёў гарэ́ў. Да, бач, і карóва булá ў хлявé. Ён, му́сіць, сам, казáлі тады́, куры́ў да кíнуў п'я́ны. Да éто ж Гры́шко той, што ў Ніны гадавáўса, Дзю́бка той. Аблілí пóсьцілку да ён накíнуў на сябé, мех схвацíў, карóва ні йшлá. Ну й вýвёў жэ карóву, надзéў мех на гóлаву. А ён [Мітронь] прышóў, абышóў, абышóў кругóм хлявá – ідзéце, ідзéце ўсе спаць. Пашóў на печ і лёг.

То й Тацья́ны Рубяжáнкі хлёў згарэ́ў і карóва згарэ́ла. Тады́ смаркáч éты, укрáінец, з Матру́наю Якýшкаваю. Яны́ спалíлі. Ён жэ талакавáў з ёю. Ён жэ палявáў зь éю, а там дзéці булí да ні давáлі, дак яны́ ў хлявé хавáліса, к карóве. У Тацья́ны хібá бýдзе карóва грáзна? У Тацья́ны ж булó чы́сьцянько. Яны́ талакавáлі там і запалíлі. Тады́ ж іс клу́ба акрáз ішлí да атушы́лі хáту.

***

Матру́нін сын не́йдзе дале́ко жыве́. Мы сядзе́лі ля Во́лі Пара́шчынае, а ён прыяжджа́ў акра́з жэ сюда́. Пудышлі́ да здаро́ўкаюцца. Ну, ка́жэ на Во́лю Пара́шчыну: вас, цётко, то я пазна́ў. Дак я загавары́ла, да кажу́: ну а мяне́ пазна́ў? – О, Мікала́ішка. Ну й дава́й я пута́ць: ну як табе́, То́лік, жыве́цца? – Цётачко, што жыве́цца, што до́брэ, што до́бру папа́ў ба́бу. Што жо́нка, жо́нка, а чэ́шча даро́жэй любо́е ма́цяры. У нас свая́ і да́ча, а яны́ мне ні даюць ні за што ўзя́цца: мы са́мі паро́бім. Я ўсяго́ зна́ю машы́ну. Што ўжэ мне до́брэ жыць, што глядзя́ць мяне́, ак мало́е дзіця́ глядзя́ць.

***

Баб, што панагу́львалі по́сьле вайны́, паўсяла́ було́. Ну во На́дзька, Та́нька, Матру́на, Зо́ся, Шу́ра. І Таця́нчына нагуля́ла. Яна́ ж дво́е раджа́ла з на́шым Дро́зьдзіком. Дво́йнячку. І Дзяні́сава, і Аўду́ля, Ку́кла. Анюта, каза́лі тады́, Шу́хава, пако́йна. Дай закапа́ла. Да саба́кі ж но́жку ці ру́чку ву́цяглі. Дак каза́лі, мо с То́пнём яна́. С Паўлу́шаю, а на То́пня ўжэ. Пабая́ліса, што во́зьме На́дзю Ната́шыну.

***

Наш ба́цько дружы́ў ве́льмо с Турчы́шыным ба́цьком. У нас то й ні було́ ве́льмо дабра́ зако́ппаць, але на́мятак було́ бага́то, ну й рушнікі́ два булі́ ж, ну й паясо́ў не́йкіх бага́то. І йшоў той вялікі атра́д парціза́ноў, і йшоў ма́цярын нябо́ж у том атра́дзе, бу́дзініцкі. І прыўе́ў жэ й бага́то. Ба́цько пайшо́ў се́на ўжэ, ну хай жэ адды́хаюць. Дзе на ла́ве хто, ну бага́то начава́ло. Ура́нку ма́ці ўжэ барждже́й уста́ла правары́ць яко́го су́пу, пакармі́ць жэ. Ну і ба́чу я адзі́н мяргу́е рушні́к. Уве́сь ушы́ваны. Усе́ на я́блычко. І ўшы́ваные крэ́сьцікам. Ве́льмо харо́шы. Я к ма́цяры к пе́чы: ма́мачко, вонь хо́чэ падра́ць рушні́к харо́шы. Ма́ці е́тые ско́варады набо́к да пудышла́: што ты хо́чэш е́то? – Хо́чу, коб парця́нкі і не́што ні палуча́ецца. Яна́: пажджы́, дзіця́, ні дзяры́, я табе́ дам на парця́нкі. Ву́няла е́ту на́мятку. Ён і за ру́кі хапа́е, мне ўжэ бу́дзе і дво́е парця́нак. А е́то, гаво́рыць, хай На́дзьцэ ва́шуй бу́дзе ўспамі́нак. Ну дава́й. Е́ты ба́цько за е́ты рушні́к, туды́, у я́шчык, і панёс у Паля́нку і закапа́ў пуд я́блынаю. Як тро́хі аці́хло, аткапа́ў, прынёс. Палядзе́лі – рушніка́ німа́. Ма́ці зра́зу: Васі́ль забра́ў. – Ты што, здурне́ла, пусьці́ по́галаску, я е́так дружу́ да Васі́ль мой рушні́к забярэ́. Мы ж удваі́х зако́ппалі. А я ж яго́ пазна́ла, у Купчы́хі на куцэ́. Я́блычкі. І мы нідзе́ ні абазва́ліса. Вот табе́ й друг. Мо ён і на́мятак набра́ў, бо яны́ нілічо́ные булі́. Чые́ яны́ булі́? Ну ні сьвякру́шыные, бо сьвякру́шыные забра́ла б цётка зялёніцка. Булі́ ма́цяры на́шае ма́цяры. І паясо́ў на гра́блі натка́тые, е́тых шыро́кіх. Ну я іх на сяўко́х панасі́ла. А чаму́ ні распусьці́ць, да по́сьцілку закла́дзяну ву́ткала б. С кутаса́мі такі́е. Не́йкі набі́рак буў у мяне́ вялі́кі. Ма́ці ж у шко́лу ні пусьці́ла, дак у я́гады трэ було́ йці. Дак я набі́рак вялі́кі такі́. [Набяру], а тады́ мне хро́сьніца па́параці туды́ накладзе́, абвя́жэ, дак я хоць і ўпа́ду. А адзі́н раз пабе́гла за ба́баю за Гасьці́нкаю. Усе́ бягу́ць і я. Яна́ ве́льмо я́гады ве́дала. Яна́ нас завяла́ на Шыро́кі гай, дай уцякла́. А я́гад, я́гад ме́сьціна. Яна́: бярэ́це, дзе́ткі, яны́ мале́нькіе, дак ні ўсыха́юцца. Азірну́ліса – і ба́бы німа́. І разбе́гліса ўсе. Я ўго́лас. Я ні ве́даю, куды́ дадо́му ж іці́. Ідзе́ ба́ба: дзіця́тко, чаго́ ты? – Дадо́му ні найду́са. – А с кім ты прышла́? – З ба́баю. – А дзе ба́ба? – Уцякла́. – Хадзе́м са мно́ю. Ну я й пашла́. Яна́ на Зарэ́ччы жыла́, на яе́ каза́лі Пласто́ўка [была родам з Пластка]. І яна́: бяры́, мае́ дзіця́тко, ні атхо́дзь ат мяне́, ні бо́йса. А ма́ці прыказа́ла мне: ні бяры́ хаця́ ля рук ні ў ко́го. А так жэ ж ні бра́лі б (с сабо́ю ў лес). Хро́сьніца вучы́ла мяне́ зра́зу: пуд галі́нку, мая́ дачу́хна, пуд галі́нку. Я так і дак мае́ мо́крые і я́гады булі́. Я за ўсю галі́ну, да ў жмéню, у жме́ню. Ну а тады́ дож пашо́ў, яна́ мяне́ завяла́ пуд е́лку, ву́няла два бліны́ і мне дала́. Папута́ла зра́зу: а чыя́ ты? Як твой ба́цько заве́цца? – Мікала́й. – А як ма́ці? – Варва́ра. – Мая́ На́дзячка, бу́дом цэ́лы дзень са мно́ю, ні бо́йса, я цябе́ й дадо́му завяду́. Мы бліны́ зье́лі, дож сьціх, пашлі́ зноў браць. Яна́ маю ту́ю набі́рку й навяза́ла і па́парацьцю, так як і хро́сьніца. Усе́ зрабі́ла і прывяла́ на мост. Хаця́ б ты ў сяле́, мае́ дзіця́тко, ні заблудзі́ла. Ну яка́я ж я была́? Да вайны́. У во́йну мы нашлі́ яе́ ў кана́ве ўбі́ту, як ішлі́ з ле́су. Яна́ не́сла сыно́м е́сьці ў лес і акра́з на кана́ўку ўзьбіра́ласа, не́мцы ўба́чылі

і застрэ́лілі. І яна́ бе́дна скаці́ласа, у кажу́се. І мы пазна́лі па кажу́ху і ма́ці Ма́рхве, няве́сцэ, наказа́ла. Дак яны́ яе́ на са́нькі да ву́капалі я́му. Да ля майго́ сьвё́кра ра́дом вато́, сядно́ як гаспада́р і жо́нка. Я ўсягда́, Гры́шко як убіра́е ў дзе́да, я ўсе пра́шу́: абграбі ту́ю й ба́бу, табе́ ні бу́дзе за е́тае граха́, хаця́ магі́лку аграбі́. До́бра була́ ба́ба.

***

Каршачы́ха до́брае паро́ды? У мяне́ за́грава, у мае́ ма́цяры ні ві́сяла. На́шае ма́цяры пла́цце було́ чы́стае. Мы ж усягда́ атмо́чвалі. На дзень замо́чвалі ў шчо́лаку, а тады́ паму́ём і ўжэ ў жлу́кто пха́еш. Уве́чарэ пажлу́кціш і ўра́нку, а наза́ўтрэ паўма́ць і зноў кіпятко́м апа́рыць у цэ́бры. І я нага́мы ўжэ так паўмува́ю. Маро́з, маро́з буў. Мо було́ со́рак. Даўно́ ж маро́зы. А пе́лька ў нас була́ ў сярэ́дзіне кана́вы прасе́кана. Вялі́ка. Ма́ці: ну ідзі́ ўжэ. Я паабува́ла не́йкіе суко́начкі, во́ўны наатраза́ла с аўчы́ны, на па́льцы накла́ла. Пашла́ е́тае пла́цце муць. От дурны́е булі́. Ну чаму́ мне тры вядрэ́ ці чаты́ры да папалака́ць, да яно ж і чы́стае. Таця́нка ўсе каза́ла: ва́шае пла́цце ўсягда́ чы́стае. А ў яе́, у Каршачы́хі, як та́я Матру́нка ка́жэ, як ідзі́, дак стра́мно іці́ па гра́вяльцэ. Паве́сіць е́ту за́граву пут сто́пкаю, хто ба́чыў, што ў яе́ ма́цяры дзе бе́лае ві́се́ло, ці жма́тае, чы́стае? Дарма́, што до́чкі. Зро́ду ні́чо́го чы́стаго ні було́. Ні раз ні ба́чыла, каб калі пашо́ў, да ў яе́ засьці́лано було́ ці чы́сто. Бяля́н, зяць яе́, гаво́рыць: я ў свае́ чэ́шчы ні́ко́лі ні ем. Уса́дзіць ру́кі ў сло́ік, тады́ нясе́ гарэ́лку. Я то гарэ́лку ву́п'ю, а е́сьці – не, ўсяго́, калі хле́ба атламлю́, а той ачка́р пажарэ́ ўсе. У яе́ скрозь у ха́це абы-як, і з маладо́сьці. А ма́ці яе́, Міха́льчыха, і ве́льмо була́ чы́ста. Век у я́гады ні по́йдзе, пака́ ло́жак ні паму́е, ні кі́не ха́ты німе́ценае. Ната́ша, Міха́льчышына сястра́, то́жэ була́ чыстапло́тна ба́ба, дарма́, што дзяце́й було́ дзе́вець.

***

Мы стро́ілі тады́ сваю́ ха́ту, а Міха́льчыха лама́ла сваю́. Забра́ў жэ ж яе́ сын, да зьв'ёз туды́, атку́ль жо́нка. Як ён тады́ е́ты Міха́льчык? Пашо́ў такіе во сто́пачкі парабі́ў і жылі там. Твая́ ж ма́ці дружы́ла с тым Міха́льчыкавым Васіле́м. Я до́брэ по́мню, пайшла́ я на вечары́нку, а ён прыўе́ў яе́ на та́нцы. Парцізанка яе́ зва́лі. І Але́на пе́ла: *Вонь сапе́рніца стаі́ць, на ёй ю́пачка гары́ць. Прашу́, мі́ленькі, я вас, увядзі́це яе́ з глаз.* Я до́брэ запо́мніла. Паўе́ў с клу́ба. У нас жэ даўно́ мушчы́ны зро́ду ні хадзі́лі маты́чыць буракоў, да ўсе. А яна́ яго́ і маты́чыць, усю́ды вадзі́ла. Дак парціза́нка й парціза́нка, ніхто́ ні́як ні зваў. І прапа́лі ты́е ха́ты. Атту́ль жэ, с то́го сяла́ бра́ў Васіле́ў Ко́ля жо́нку і мы е́гдзілі, дак ба́бы хадзі́лі туды́ глядзе́ць. Дак усяго́ е́та ха́та спе́раду, а та́я прыкла́дзена жэ́рткамі і галле́м. Дзе яны́ ту́ю, мо прада́лі ці дзе. Усе́ Аню́та каза́ла: каб узя́ў Але́ну, дак і сяго́ні б жыў. Дак о, прыўе́ў кадука́, да зьвяла́. Пераяжджа́ў рэ́чку да воз абярну́ўса дай задушы́ў у кана́ве. Шчэ, ка́жуць, ру́ку падава́ў, дак хіба́ воз пады́меш. Так і прапа́ў.

### Жыццёвыя гісторыі

На́ша ма́ці ткаць ні ўме́ла. Нічаво́, акро́м палатна́. Ні паніма́ла. Я раз по́сьцілку нек сабра́ла, дзе с атрэ́п'я, а то сноп канапе́ль на пе́чы буў. І начарні́ла ў рудзе́, і аснава́ла на крук гу́бачку, і пазва́ла Га́нну Дру́лю, яна́ мне й накі́дала. Ну а што я ні ба́чыла, ма́ці зро́ду ні тка́ла. По́сьле вайны́ яка́я я шчэ була́, мо мне дзвяна́ццэць було́ ці трына́ццэць і ні ве́даю, як до́шчачкі паве́шаць. Я затка́ць заткала як у палатно́ і на пруто́к узяла́. Хадзі́ мне, ма́ці, пакажы́, як до́шчачкі. А яна́ сь пе́чы: зь мяне́ лю́дзі сьмяя́цца ні бу́дуць, што німа́ ні́чо́го да сь цябе́, і пашла́ ў гаро́д. Я сяджу́ і пла́чу ля тых красё́н. Ну на э́тае Бог дзя́дзіну Рыпі́ну даў. Яна́ ка́жэ: мая́ На́дзька, пагля́дай на унь ту́ю скры́нячку, наступі́ на вае́тые, е́то бу́дзе ў палатно́, а вае́то бу́дзе на ца́цкі. Ты наччы́ вялі́ку, а тады́ на другі́е ты́е – бу́дзе мале́нька скры́нячка. Я й пашла́. Мне больш і ні трэ́ба було́. Я ўжэ і церас цэп папаткала, любі́ла цераз до́шчачку. А закла́данкі я сама́, і Во́льцэ панакі́дала, і Рама́нішынуй закла́дзянку тка́ла. І брацісе ко́лько ататка́ла. Ко́лько я іх ператкала е́тых по́сьцілак, мо двана́ццэць да ска́церцёў адны́х пьяць, да рушніко́ў. Мая́ ма́ці ні ўме́ла до́брэ пра́сьці. Яна́ ленава́ласа до́брэ й пакруці́ць. Я ўсе каза́ла: то ты ж узяла́ ні́тку, дак у канцы́ хоць пастры́кай,

а то ссо́ўваласо, як ччы, ак асно́ва. Яно́ сла́цца то до́брэ лі́пло, ужэ́, што шку́ра палатно́, ну, аснава́ць, яно́ ссо́ўваласо. Яна́ ні круці́ла. Яна́ кру-уць, кру-уць. Раз у гадзі́ну. То ж стрык, стрык, стрык верацяно́, коп скарэ́й хадзі́ло. На́ша ма́ці нічаво́ ні ўме́ла, ні пле́сьці, ні шыць. Я ўжэ як пудрасла́, дак і ўпіка́ласа ёй: як е́то ты ішла́ за́муж, німа́ ні аннае́ по́сьцілкі, ні аннае́ паду́шачкі. Яна́ ні гадна́ була́ нічаге́нькі, дай ні хаце́ла. Паду́шкі ні аннае́ ні було́, сало́менік с сало́меніком стыка́ліса, так мы і спа́лі. Я ўжэ ж вялі́ка була́. У во́йну ба́цька злаві́лі с Сяргеём, яна́ пашла́ зь Ве́ркаю іх глядзе́ць, а па том шляху́, му́сіць, бе́жанцы ішлі́ і ляжа́ло пе́р'е, мех пе́р'я і паду́шка вялі́ка. Ве́рка сабе́ схапі́ла паду́шку, а ма́цяры аддала́ мех. Я с таго́ ме́ха зрабі́ла дзьве паду́шачкі, а ні було́ ж на́сыпак. Агле́дзела я шчэ мех пе́р'я на гарэ́, ужэ́ паправтыка́ласо, паеў ша́шэль цэ́лы мех. Угле́дзела Гара́сіміха: ты мне аддáй пе́р'е, а я табе́ на на́сыпкі плашч-пала́тку дам. Мужы́к зако́ппоў салда́тоў, забра́ў, му́сіць. Е́так і було́, я на дзьве рассы́пала, зь і́мі і за́муж пашла́. Ну ўжэ пашла́, ту́така дзе́ткі, трэ́ба паду́шак больш. Я й ка́чкі, я й гу́сі, я й ку́ры. Разьвяла́. Пе́р'е німа́ калі драць, трэ́ба ж на рабо́ту йці. Я ўве́чарэ пасаджу́ ўсіх і ўсім па жме́няццэ і за ве́чар наскубо́м карзі́ну. Аднаму́ зро́бім паду́шачку, а тагды́ другому́. А яна́ ж гу́льма гуля́ла, і я папрасі́ла яе́: ма́ці, хай бы ты мне пе́р'е памагла́ ску́бці. – О, я свайго́ зро́ду ні ску́бла, а табе́ бу́ду ску́бці. І ні ўзяла́са. Брат Сяргей пабо́льшоў да бе́гоў па вячо́рках і ба́чыў, як дзяўкі́ плятýць. Даўно́ ж на лы́ткі паплятýць, а там ану́чка бе́ла. Ён паўрэ́звоў мне з ве́ніка па́лачкі і паказа́ў. Я й пашла́. Ко́лько я сьвіцяро́ў даўно́ папапляла́, а ко́лько каба́цікоў. Булі́ ж аве́чкі, Кацю́ша на́ша дава́ла. Такі́х аве́ц мо ні ў ко́го ні було́. Вот така́я во́ўна, што ку́жэль була́. Мы с Анютаю ў Глуск насі́лі да часа́лі. От була́ во́ўна. Я напляту́, напляту́. У ка́жнаго буў свой сьві́цер, у ка́жнаго буў свой каба́цік. У Міхаля́ два було́ сьвіцярэ́. Адзі́н буў бе́лы, адзі́н – насі́ла но́шку ў Даро́гі да пасіні́ла. А яна́ ні пані́ма́ла. Гу́зіка із ні́так яна́ ўме́ла рабі́ць, а больш нічаво́. Яе́ ма́ці прышла́ на пья́цяро дзяце́й да шчэ чэ́цьвяро радзі́ла.

Мая́ ба́ба, ба́цькава ма́ці, каза́лі, ве́льмо до́брэ ўсе рабі́ла. Ве́рка каза́ла. Яна́ й пра сябе́ раска́звала. Ка́жэ: запілі́ мяне́. Прывялі́ ёй е́таго Кастаты́на з Глядаві́ч. Яна́ да е́таго ні ба́чыла яго́. У яе́ то́жэ паду́шак ні було́, а пе́р'я назьбіра́ла. І мы, ка́жэ, за ве́чар насе́клі дзьве паду́шкі. Яму́ не́хто перада́ў, што німа́ ў яе́ ні́чо́го, а ў яе́ й по́сьцілкі булі́. Ён дзень пабу́ў, другі́, а тады́ ка́жэ: хай бы ты занесла чужо́е. – Як ты браў у каго́, то занясі́, а е́то ўсе мае́. Я ўжэ, На́дзька, й захмурне́ла. Я прышла́ гуля́ць, а яны́ ўжэ цё́тка твая́ і Майсючы́ха. А гуля́лі ж к ме́сяцу. Я се́ла ці́хенько, а яны́ мяне́ ўжэ чу́ю абгава́рваюць: ш чаго́ во яна́ штаны́ пашы́е, німа́ ў яе́ ні́чо́го, ш чаго́ саро́чку? Я, ка́жэ, сядзе́ла, сядзе́ла да гавару́: к табе́ прыду́, Хрысьці́на, то ты атрэ́жэш штаны́, бо ў цябе́ ве́льмо палатно́ крэ́пкае, а к табе́, Майсючы́ха, то мо дрысьлі́ваго на саро́чку атрэ́жэш, бо ў цябе́ адны́ дры́сьні. А мая́, ка́жэ, ба́ба, як напрадзе́ даўно́. Вячо́ркі сядзя́ць Хрысьці́ніны, а яна́ на пе́чы. Е́сьлі вячо́ркі с ха́ты, яна́ ні́якаго ні пані́ма́ла ні агню́. Яна́ садзі́цца за кро́сна і да ра́нку ву́ччэ гу́бку. У яе́ зро́ду ні́тка ні парва́ласа. І пра́ўда, було́ палатно́, як брызе́нт. На́ша ба́ба до́брэ ўсе рабі́ла, Ве́рка раска́звала, але до́ўго була́ паралізо́вана, два гады́ с палаві́наю. Усе́ ма́ці каза́ла: ёй жыд накі́нуў. Яна́ сядзе́ла на пе́чы, а жыд аччыні́ў ха́ту: гаво́раць у цябе́ цяля́ е, мо б прадала́? А яна́, ах парх, дак ты хо́чэш жраць, а мы не? Мы са́мі сває́ цяля́ зьядзі́м. І скі́нуло сь пе́чы яе́ ту́ю міню́ту. Спаралізава́ло. Больш за два гады́ ляжа́ла.

***

Паме́рла Шэ́шчыха На́дзя. Аню́та каза́ла, што людзе́й назьбіра́ласо цэ́ла ха́та. А што ж, паду́май, шэсь дачо́к, па двое́ дзяце́й, дак ужэ́ двана́ццэць, а ўну́коў, а пра́ўнукоў. Тры сыны́. Дзе́вець дзяцей у яе́, а чэ́цьвяро паме́рло. Яна́ трына́ццэць раджа́ла. Яна́ раджа́ла ў адно́м гаду́ двое, аднаго́ – нача́ўса но́вы год, а друго́го – канча́ўса. То́лько пазабува́ла, ці жыву́ць ты́е. Дзе мой Ко́лька два крэ́сьцікі е́то і́хніе і ля Мі́шы, ля ба́цька, два. Е́то яе́ дзе́ці, чэ́цьвярко. Трына́ццэць дзяце́й. Ко́лько тае́ жанчы́ны, як вае́таго кіе́чка.

І Во́лька с Плюсны́ прые́хала хава́ць з Рама́нішынаю Ма́няю. Захаце́лі і мяне́ палядзе́ць. А харо́ша Ма́ня! Яна́ й дзе́ўкаю така́я ні була́, як ца́цка. Ма́ня, гавару́, чаго́ ты за́муж ні пашла́? – А на чо́рта ён мне, я хо́чу ем, або́ ля́гу й ні е́ўшы. Што карці́начка, то́лькі распаўне́ла. Яна́ пашла́

па Чычýхах тых, чарнамáза такáя, Кáця ж, мáці яé, булá рыжа. І Вóлька харóша. Нас тóлькі чатыры асталíса. Éто ж падýмай, якáя булá хéўра, а ўсе вýмярлі. Кажý на Вóльку: асталáса я, ты, Назáрыха Нáдзя, а то ўсе с трыццэць пéрваго гóду атмéрлі: Мáня Шаўрашыха, Вóля Максíмава, Буячышына, Тáня, Нáдзя Матрýнка – усé аднагóдкі. Ну то Нáдзя даждáла вóсімсят, а éтые ж то ніхтó ні даждáў. Я кажý на Вóльку: ні сядзí аднá. Едзь у Любань к даццэ́, там дóбрэ. Там і вадá, там і срáйня, там і магазíн ватó. Чагó захацéла, тагó й пашлá. Нéшто нічóго ні сказáла, тóлькі пераглянýліса з Мáняю. Мáню éту Кáця так радзíла, ні булá зáмужом. Éсіпіха ля нас жылá. У яé буў сын і дачкá Гáнна, ну Мáня выкапана янá. Чычýха éты ўцёк ат Кáці, дзé-то ля Бабрýська жыў, даўны́м-даўнó ўжэ німá ягó. Ты іх нікóго ўжэ ні знáеш. Ты і Мірóнчыка ні знáеш тагó, што ў вýлцэ жыў. Нáша хáта булá сюдá, а іх воттáко во, у вагарóд утыканые. Вýлачка булá паўз Мацьвéйка. Я, бувáло, вýйду на двор, а яны́ тóлько нéшто рагóчуць, я цераз свой агарóд памалéчку перабярýса, каб ні патаптáць чагó і цераз плот пералéзу. Яны́ сядзяць на прызьбе. Аднá скáжэ, другáя рэ́гчэ, мáці скáжэ, дачкá рагóчэ, чáсто так. Éто ж сéні пост закрыўса. А то ў пост яны́ цыбýлькі атарвýць, кусóчэк хлéба, вады́ і пашлí жыто жаць удзьвёх. У іх буў шнур хлявóў і гýмна. Буячóк éто буў брат Éсіпішын. У іх буў адзíн двор, адзíн і калóдзезь. У Éсіпіхі булá шчэ сястрá Дóмна, янá зь íмі жылá. Нéйкі дарóзькі прывалóкса і гуляў зь éю і пудбáў чэ́раво, а Аўдýля атабрáла ягó. Янá, Дóмна, сьцíснула той жывóт свой і памéрла, бéдненька. Янá ў хлявé дóўго ляжáла, тады́ ўжэ прышлá ў хáту да пут прыпячком упáла ля пéчы да й памéрла. Пакá тóе дзіцятко ўжэ сагнілó, да бруд пашóў. А Éсіпіха асталáса, да ўжэ с Прус прымакá брáла.

Дачкá брáта яé, Кáця Буячышка, з майгó гóду, éтака ўжэ булá рабóтніца. Зь éю даўнó ніхтó й ні скапáецца й ні сажнéцца. Янá як бéшана. Я ўжэ́ стóлькі за дзень убярýса, як пайдý зь éю капáць ці жаць, што ледзь дадóму прыдý. Зóйдом, сóнцэ шчэ ні ўсхóдзіць, да да вéчара. У Крывáль хадзíлі кардóплі капáць. Тáя бáба, то й кармíла дóбрэ. Напячэ́ яéшні, намяшáе малакá, сáла абрóтак і гарэ́лкі прынясé. Я ж то ў рот ні брáла яé, а Кáця то пілá. Раз за цыбýлю капáлі, на сваíм агарóдзе ні раслá.

***

Валóдзішын бáцько Захáр’я буў у Амéрыцэ. Кóлісь жэ ўсе éзьдзілі тудá зараблять. Нéкатарые па дварáз éзьдзілі. Валóдзіха кáжэ: мы бéгаём с Харцíнаю да прóсім: дай нам хацá на спаднíцку купíць, а ён: не, трэ́ба бýдзе, дачýхны, вас жанíць, да прыбрáліса з мáцяраю і ў Асавéц панéсьлі дóлары. А хто іх бáчыў? Улáсь зьмянíласа і дóлары прапáлі. Нéхто спажыў жэ ж, яны́ ж ні прапáлі. І сьвякрýха мая́ пакóйна ўсе раскáзвала. Яé ж бáцько буў багатыр да рабóцько. Булó карóў да сьвіньнéй. Бáцько яé ў пачóце буў, галýпка мая́. У ягó булó-то мáло зямлí. Даўнó ж зéмлю падзялí на ўсіх па загóнчыку. Дак у ягó малы́е матузы́ булí. Лáташ, Яўхíм Гáннін і сьвякрýшын бáцько éто ўсе браты́ булí. Сьвякрýшын бáцько буў багáты, пéрва жóнка ягó памéрла, а другýю браў с Асаўцá, сьвякрýха мая́ ат другóе. Сьвякрýсе маéй булó нéшто зрабíласо, нінармáльна булá. Янá кáжэ: нéслі мы сéно, а стрэ́ліў стóраж. Янá булá памяшáласа. Цéтка пашлá к ёй і кáжэ: а што зь ёю зрабíласо? Усé пабíтае ў хáце, і янá сьпіць на пéчы. Вýзвалі дактарóў і яé забрáлі. Янá тады́ ўжэ ўсе дзéці параджáла, Кóля шчэ буў малы́. Янá мо два гады́ булá ці больш у éтум дóме. Казáла, што аднá жыдóўка яé там чуць ні задушы́ла, сядзé срáкаю на від дай сядзíць. Дак янá яé кусáла вéльмо. Тады́ найшóў яé там яé цéткі сын, сказáў, што з Масквы́. От яны́ тады́ яé мо лепш глядзéлі, а тады́ яé прывéзьлі дадóму. Я дýмаю, што яé мужык бíўса, то мо вýцеў па галавé і так ёй зрабíласо. Ён тóжэ мог усé пабíць і пасéкчы, але назáўтрэ ўсе парóбіць. Жлýкто пабíў, а трэ́ба плáцце муць, дак за ноч зрабíў. З дзéжкі вонь ні абрýч ні спаў, ніштó. Дзераўя́ные набíтые. О булí рýкі! Хлóпцы бярэ́жаць да ўдзіўля́юцца. Ён буў дóбры, але хадзíў, дзе цяпéрака Бягунíха, нéйка жылá с Прус. Ён к ёй, казáў Міхáль, хадзíў усé. Шчэ, кáжэ, гарбýзікоў мáці панасáджвала, дак напражэ́ дай пóйдзе, а дзéці адны́. Папагаладавáлі, але дóбрэ, што булá бáба цераз агарóд. Нявéстка пóйдзе на рабóту ці кўды́, а тáя накрáдзе чагó дай прынясé. Алáдзьдзеў папапяклá.

***

У Каці Агáпінае і ў Купчы́хі буў дзед. Я якó дóбрэ пóмню, ён хадзіў к маймý дзéду гуляць. Ён воттачкі во буў, невялічанькі. Тут буў Вéрчын бáцько старэ́нькі, і наш дзед і яны́ ўтраіх усé гулялі. Ён двáццэць п'яць гады́ служы́ў той дзед. Да, галýпка мая! Ён да áрміі шчэ ажаніўса. Купчы́ха (унýка ягó) кáжэ: мянé дак дзед шкадавáў, а Гры́шка, брáта майгó, дак біў. Дрáжнілі ягó Ґаравáн. На іх усіх Ґаравáніхі гавары́лі. Ён жыў мо сто гадóў. Ён буў худзéнькі і ўсе сядзéў на камінкý. Раскáзвоў, што бýдзе. Вéрка мне éто раскáзвала. Мы зь éю і ў дрóва хадзілі, за дóсьвяткі пабягім па два целяшэ́ атрэ́жом. Янá ўсюды прымáла мянé. Я малáя булá, но шчы́ра. Янá мне багáто чагó пра тóго дзéда раскáзвала. Ён у áрміі кóнюхом буў, кóні чы́сьціў. Канюх буў. І ў ягó начáльніка забалéла дачкá, трынáццэць гадóў ёй булó. І я, кáжэ, улéзу, бáчу, што янá жывáя, але трэ́ба палячы́ць. Баюса начáльніка. Баюса, што згóніць с такóе рабóты. Скáжэ: што ты лякóбамі занімáесса? А тады́ яны́ ўжэ нéкуды паéхалі, запрэ́глі кóні і на багáто мéсяцоў паéхалі. Я, кáжэ, прыйшóў дай гаварý хазяйцэ: я хóчу вáшу дзёўку палячы́ць. Янá жывáя, тóлькі трэ́ба палячы́ць. Я тóлькі тры раз палячý. А яны́ ўжэ кудьí ні éгдзілі. Ні ўстае с пасьцéлі і ўсё. Янá ўжэ ні вéдаласа, што мне давáць. Я, кáжэ, палячы́ў раз, другі раз, на трэ́йці прышóў да кажý: ну от сёні янá ўстáне, ну тóлькі дáйце тагó, чагó янá папрóсіць. – Янá нічóго ні есь. – А сёні папрóсіць. І прáўда, прахапíласа пóсьле дзьвянáццаці і кáжэ: мáмачко, дай мне сялёткі. Ой я, а яé нідзé німá. Мáці ўвесь гарадóк пудняла, усіх на нóгі пудняла і прынéсла ёй таé сялёдкі. Янá, кáжэ, зьéла і зноў лéгла. І с тóго дня к сталý пачалá хадзіць. І хадзіла ўжэ, пакá той і бáцько прыéхоў. Прыяжджáе той бáцько – дачкá за сталóм. Ён, кáжэ, аж вóчы паварóчоў. А дзед жэ папрасіў: хацянí кажэ́це, бо ваш мужы́к мянé згóніць з рабóты. Янá пабажы́ласа, што ні скáжэ. Ну а дзе ты ні скáжэш. Прычапíўса: дзе ты найшлá такóго ўрачá, што мая дачкá сядзіць за сталóм? Мýсіла сказáць: éто ж éты дагляччык, што кóні даглядае. Ён, кáжэ, прышóў на канюшню, аднагó каня лóпнуў. О, харашó пачы́шчаны. Другóго, трэ́йцяго, а тады́ кáжэ: ну ўжэ парá на зáўтрак іці, пайдзём на зáўтрак. Ну, дýмае, згóніць з рабóты, сказáла. Прывёў у хáту і кáжэ: с сягóняшняго дня, каб я тваé нагі ні бáчыў на катлапýнце, бýдзеш у мянé пітáцца. І кáжэ, на том сталé чагó я тóлькі ні бáчыў. Тáя дзёўка, кáжэ, пашлá пры мне зáмуж і дзьве дзявачкі радзíла. Ён служы́ў, ну ні начавáў у казáрме, а на кварцíры. А там булá чарнакнíжніца, янá ягó шчэ й па кніжцэ вучы́ла. Але ён бáчыў. Ішчэ́ пра вóйну казáў: вéдайце, бýдзе вайнá вялíка, вялíка. Бýдуць такíе вераб'é лятáць, што й людзéй клявáць. Éто самалёты, тады́ ж ні вéдалі. І бýдзе брат брáта біць, а бáцько сы́на, а сын бáцька. Бáбы на ягó: ты дурны́. Адáле, як вайнá началáса, ўсе ўспóмнілі. Казáў: бýдзе чалавéк чалавéчаго сьлéду шукáць. Хібá ні шукáлі парцізáноў па сьлядóх? А йшчэ Вéрка раскáзвала. Кáжэ: радзíла я свайгó Мікалáя. Ну й малéнькі ў сáмые жнівá забалéў. А сваé загóнчыкі. І дзень пашлі людзі жаць, і другí, а я сяджý плáчу. Забалéў мой Мікалáйко. Дзед Ґаравáн прышóў: скінь шáпачку, я табé ўзáўтрэ прыдý скажý ўрáнку, ці табé йці на пóле, ці не. Прыхóдзіць урáнку, прынóсіць шáпачку: ідзі, жні, тóлько ўдзень прыбягі цы́цкі дай. Мы с Карнéйком бýдом ківáць ягó. О-ой які ж ён у цябé нішчáсны, а якáя ж у ягó бýдзе жы́тка. І памрэ́ ён ні стары́, а сáмо срэ́днім чалавéком. Ну і якýю ён бáчыў жы́тку за віцынáркаю? Ці ён дзе ў людзях буў, ці ў ягó хто ў хáце пабýў? Ці ямý сарóчку хто, нíбы маймý Гры́шку, пажмáў? Унóчы хавáўса, да дóбрэ што канáва булá, да сарóчку сабé жмаў. Адáле, як у Прýсах буў віцынáром, да к нéйкуй Мáні пастáвілі на кварцíру, дак бéгала ж віцынáрка. Тáя ўжэ кармíла дóбрэ да глядзéла. Ямý ўжэ там і панарáвіласо. Ну ён Мáр'ю Рыгóрышыну любíў. Éто ж éта і Натáша ат ягó. Ён любíў яé, а янá вінавáта, Вéрка. Усé гавары́ла: хоць бы асянóву да нóву, ні хóчу,囗囗 нащтó дзіця. Адáле ўзяў нóву. Мы з Мáр'яю дружы́лі. Янá шчэ жывé ў Глядавíчах, але без галавы́, замýкана. Янá ж былá схóдзіла, два дні ні булó, адáле прышлá, мо залéтусь. Ішчэ́ карзíну прынéсла й зялёнак. А дзе булá? Кáжэ сухéнька, а дажджэ́ ж булí. Ні вéдаецца, дзе булá. Ат тагó яé ні пусьцíлі. Сядзіць, аднó пляцé, другóе раскідáе. Яны́ пуднóсяць ёй нíткі, рабí éтае. Яé ж, як Мікалáй ні ўзяў, браў Шаўрашóў брат, Пáвел. Янá і хлóпца раджáла. А тады́ ён пашóў у салдáты, а к ёй усé бáбы хадзілі гуляць, і янá раз ляпнула: я такóго Кумагéра й на сьмéтніку вýграбу. Ямý напісáлі. Ён і прыўёз другýю, ідзі грабí. Янá ж бéгала, й плáкала,

й прасіласа. Ён ёй пісьмó паказáў: тваé слывá, ідзí грабí і да мяне ні касáйса. А дзіця́ памéрло. Янá, як Натáшу радзíла, гукнýла мянé: хадзí, Нáдзя, я пакажý табé сваю дзёўку. Ну што ж, я маладáя булá, дурнáя. Янá ў начóвачках ляжы́ць, а сíня, сíня, а бры́тка. Я стаю дай кажý: ты што, Мáр'я, уздурнéла, ну нашто ты яé такýю бры́тку радзíла? Мáр'я мне ў Купцá, як пам'ёр, пры ўсíх успамінáла. Я з Вóлькаю паздарóўкаласа, пацалавáласа, а ззáду хто сядзíць і ні бáчу. А Мáр'я: éто ж тáя бры́тка сядзíць, што ты казáла. Мáр'я мне казáла, што як пачýла, што так Вéрка гавóрыць (хоць асянóву, але нóву), дак ён мянé ні кíнуў, а я ягó кíнула. Вýгнала й дзьвéрка закры́ла. А патóм жэ, як Вéрка ляжáла, Мáр'я хадзíла. І Вéрка Мáр'і атрэ́зы нéйкіе, панакупóўвала даўнó такóго шарсьця́наго, то Мáр'і пааддавáла. Мáр'я глядзéла яé. Éта й Натáшка ўсé бéгала к ёй. Янá й пахóдзіла на яé, уся́ Вéрка. І гавóрыць так, як Вéрка, скóранько. У Вéркі булí дзьве дзявачкí, але памéрлі. Нявéсткі ні глядзéлі. Шпíльчыха даглéдзела да сьмéрці. У яé вéльмо бруд пайшóў [вошы], Шпíльчыха папачасáла яé, глядзéла. Вéрка ўсе казáла: Я Шпíльчышынае ні завíдую жы́ткі. Ватó рукавíцкі, ванё насóчкі, ванё ўцірáцца. Янá, кáжэ, ля ягó, ля Шпíлькі вы́стаіць. Яé ж запівáў са Стражóў Івáн той, а тады́ éты, як ён путхвацíўса Шпíлька. Шчэ вясéлля ні булó, а запíта янá булá, бары́ш прáвілі. Яны́ с Каранéўськаю занéсьлі пíрóг назáд і падáркі.

Дзед той Ґаравáн вéдоў, бáчыў. Ён чáсто плáкоў, пры́дзе к нам і плáчэ й плáчэ. Éта Гáнна, Турчы́шына цётка. Éтаго Бары́са зрабíў ёй Брóмбін бáцько, да й ні ўзя́ў. А Камчадáліха гуля́ла з Васілёвым. Дзед пры́дзе і плáчэ: аммáніць маю ўнýчку [Ганну], янá ўсягó астанéцца с сынóчком. О, Васілíшынуй ні то лю́дзі бýдуць завíдаваць, а й трэ́скі. Ажнó і прáўда. Хібá Камчадáлісе ні завíдавалі. І нóгі памýе, і ў хáту ні зáйдзе, пакá бацíнкі ці чóбаты ні скíне, клáдачкі паўклáдвоў. Абó ўдваíх, як ідзí, сядзя́ць. А Гáнна пашлá за ўдаўцá, што Віця даўнó іграў сьляпы́, і той пам'ёр. Ні павязé зрáнку, то й увéчарэ. О, ён панімáў.

*Т. М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

***Расказвае В. Г. Трухан, 1934 г. н.;** запіс зроблены ў 2012 г.*

### Жыццёвыя ўспаміны

Я нікагдá ні пакідáла на вýліцы п'я́нага чалавéка, нікагдá. І дáжэ во э́ту Нінку Дзíчку, тóжэ аднáжды ляжáла. Ішлá янá ля Зайцóвых, што Матрэ́на Птýшка жылá, хáты і ляглá на абóчыне, тóжэ пад асфáльт нóгі. Éто ж ні дай бóжэ, стрáшно, машы́ны ляця́ць. А хмýрно былó, і дóжджык, янá ўся мóкра. Ні такí ўжэ вялíзны лíвень, но ўся на сьвéце мóкра ляжáла. Яшчэ́ былó хóладно, і халóдны дош. Я кажý: «Нíна, ты знáеш дзе ты ляжы́ш ці не, ты бáчыш якí дож ідзé? Ты знáеш, што ты зьмéрзнеш і на цябé ніхтó ні пагля́дзіць? Давáй рýку, і я табé сваю рýку – да за плóт. Я гóлаў патцягнý, штоб ты маглá патсýнуцца к плóту і ўзя́цца за калá рукóю. І тады́ ты бýдзеш папінáцца, і я трóхі памагý і штоб цябé пастáвіць на нóгі». І пастáвіла ж яé на нóгі. Устáла, за калы́ дзяржы́цца і стáла працьвярэ́жвацца, трóхі прыхóдзіць к пáмяці, і стáла гаманíць. Кажý: «Нíна, а цяпéр ідзí памалéньку паўз платы́. Дадóму зáйдзеш». Дак янá, як паднялá, Тамáра, да пастáвіла яé на нóгі, дак янá кáжэ: «Цётка Вóля, у вас мо мóрквы німá, дак я дам». Ты бáчыш, зрáзу бáчыць, што дóбрэ зрабíла. Я кажý: «Не, ні нáда, Нíнка, у мянé, кажý, есь, мне ні нáда, сябé глядзí хаця́». І пакíнула яé. Стáла азірáцца, дак янá памалéньку ўжэ й пашлá. А янá хадзíла із э́таю Дзям'я́навых перабірáць мóркаў на гумнíшчэ, прынясла мóркві трóшкі, дак знáла, што мóркаў есь. Вот як, як дабратý зрабí. Я ні магý прапусьцíць, як бáчу, што дож ідзé. Янá ляжы́ць, а зьмéрзне ці ні ўстáне. А ўсе: і Антóлька вы́йдзе, Мíшык вы́йдзе – пазірáюць, і ніхтó ні хóчэ падыйцí к ёй, баяцца: янá ніразýмна, янá такáя. Што янá цябé забярэ́ разýмнаго? Э́то ніразýмны, я шчытáю, éсьлі чалавéка ні вы́ручыць. Мáло лі што, янá ніразýмна, трэ́ба тóжэ памагцí. Што ж ты вéдаеш ці дýмаеш? Ні ўраўнавáў Бог лéсу, так жэ і людзéй. Аднó такóе, другóе такóе.

***

І другі раз было́. Ото́ адна́жды ат Ка́ці йду, до́жджык пачына́е ісьці́, і такі́ ўжэ до́бры пашо́ў до́жджык, я да́жэ ў ку́ртацэ э́туй ў бало́невай была́. Іду́ ат Ка́ці, патхо́джу, як е́тае Га́ны Пту́шкі ха́та, вы ж ве́даяце, ляжы́ць жанчы́на. Патхо́джу – е́та са́ма Ада́рчынае Але́нкі дачка́, ляжы́ць яна́ наўкася́к, во так во наўкася́к, но́гі к асва́льту то́жэ, плячукі́ к асва́льту, галава́ тро́шкі на або́чыне, а дож ліе́, што да́лей бо́льшы і бо́льшы дош, мо́кра ўся на сьве́це. Ёй прыво́зілі е́то по́мач з райса-бе́са, да навязьлі́ і по́льтаў, да навязьлі́ е́тых і бо́таў, што е́тыя ўцяплё́ныя ўсрадзі́не, но яны́ каро́ткія галяні́шча, ні длі́ныя. Яна́ ў гэ́тых бо́тах, пабмака́ло ўсе на сьве́це на ёй. А тут жэ плато́к на галаве́. Уся́ мо́кра. І дату́ль жэ яе́ прасі́ла, дату́ль... Кажу́: «Ні́нка, я твае́ но́гі хоць бу́ду па́лачкаю паддзе́ржваць, папіна́йса, к пло́ту атсо́ўвайса. І дату́ль прасі́ла, дату́ль – атсу́нуласа к са́маму пло́ту. Так. Атсу́нуласа яна́ к са́маму пло́ту, а цяпе́р кажу́: «Ні́нка, бяры́са, падыма́й ру́ку, і я табе́ дам у ру́ку кала́ і за кала́ бяры́, за е́ты плот, і папіна́йса, штоб ты ўста́ла, я ш цябе́ ні падніму́». Ста́ла каза́ць ёй гэ́так, бярэ́цца за кала́. Узяла́са за кала́, ужэ́ дож прамачы́ў ліцо́ і ўсе на сьве́це. Кажу́: «Цяпе́рачы друго́ю руко́ю, дава́й на кале́нкі садзі́са» – на яе́. Се́ла на кале́нкі, ста́ла й друго́ю руко́ю за кала́ бра́цца за друго́го, і ты зна́еш – паста́віла на но́гі е́так. Паста́віла на но́гі, дак і мне само́й ляхчэ́й – я тады́ і пашла́. А стая́лі На́дзя Ярмако́ва ля ха́ты і Ка́ця Гара́ськавых – пазіра́лі, ніго́дна ні падышла́. А я ні магу́, чалаве́к прапада́е, тады́ мяне́ му́чыцьме: хай бы я от патсо́біла ёй, да хай бы ўгавары́ла, да яна́ ўста́ла б. Яе́ пакі́нь, дак як той ка́жэ: ну што ж ты зро́біш, як такі́ чалаве́к ніразу́мны. Ёй жэ то́жэ дабаўля́юць усе́, дабаўля́юць. Падма́няць такі́е от – Дзям'янавых Ні́на, да такі́е назьбіра́юцца да падма́няць, хто лю́біць вы́піць, да дай гро́шэй, да от табе́ пі́ньсію прынясьлі́, да даба́вак табе́ далі́, дак яна́ во́зьме і дась. Дак і ёй даду́ць. А ро́зуму ж німа́ ў галаве́.

***

Адна́жды Ва́ся, туды́ напро́ці Матрыха́навых, і, Тама́ра, ты зна́еш, сеў на ку́ртышках сярад ву́ліцы, пасярэ́дзіне ву́ліцы сеў на ку́ртышках і патку́рвае. Хо́чэ паткуры́ць – ні мо́жа. Дзяржы́ць яшчэ́ сьпі́чкі ў руцэ́. Папяро́са ляжы́ць до́ле. Дак што ж ты зро́біш тут? Сядзі́ць на ку́ртышках. І дату́ль прасі́ла, дату́ль... Тады́ за валасыпе́т і прывяла́ к Ю́ркавым, у бу́дачку паста́віла, бо ба́чу, што ён ужэ́ ні пае́дзе, а ўсе ж валасыпе́ды тады́ кра́лі е́тые апіво́шы адзі́н ад друго́го. Дак пе́рво валасыпе́д завяла́ паста́віла, а яго́ дату́ль ту́зала, паку́ль к Ю́ркавым ні прыцягла́ на ла́ўку. А тады́, яшчэ́ Пе́ця жыў, і Пе́ця, да ўжэ ні ве́даю, як яго́ даба́вілі дадо́му. Я ж ні дацягну́ яго́. А яшчэ́ с касо́ю е́хаў, і каса́ была́. У Ку́ціка касі́ў картапля́нік. Ку́цік гро́шэй даў, дак напі́ўса, дай што хо́чэш рабі́. Я касу́ прыняла́, схава́ла. Ду́маю: яшчэ́ тут абы-хто́ вы́цягне ко́су. Да аддала́ яму́ ко́су і валасыпе́д наза́ўтрэ, забра́ў у Ю́ркавых, сказа́ла Фе́ні, што валасыпе́т паста́віла. Шко́да людзе́й. Тама́ра, э́то ж ні дай бо́жэ, шчэ ж такі́х шкадне́й, як до́браго, як харо́шаго. Харо́шы, той по́йдзе і калі вы́п'е яку́ю ка́плю, і за́йдзе. А э́ты во пакі́нь, то ён і прападзе́.

***

Кажу́, то хай ужэ́ паляжы́ць які́ дзень каўбаса́. Есь жэ што е́сьці – на яго́. Тама́ра, каб сказа́ў ні было́ е́сьці. А ён ні мо́жэ, каб ляжа́ло. До́брэ церабі́ў. Гука́ў с агаро́ду. Ка́жэ, што ідзі́, я табе́ ча́ю нагрэ́ў. А е́ту ку́ру, што ты вазі́ла, каўбасу́ кура́чу, руле́т кура́чы – усё́ на сьве́це церабі́ў. То ён жэ ве́дае ўсе які́е канфе́ты: дзе ле́пшые, дзе го́ршые.

***

Аксе́нька-нябо́йшчыца калі́сьці жа́ліласа, што вот такі́ да сякі́ Сяро́жка. Кажу́: «Ба́ба, ні ўспаміна́й і ні кажы́, што Сяргей – цаны́ німа́. Я любі́ла ігру́шы, а ў нас іх ні было́. У нас калі́сьці была́ ігру́ша-жаўты́рка, што каза́лі. По́граб вы́капалі, яе́ вы́кінулі. А мы, кажу́, адна́жды к Але́не Самсо́навай-нібо́йшчыцы ішлі́ даве́дацца: я, Во́лька і Анто́лька. Зна́чыць ідо́м. Я ўжэ забы́ла, като́ра была́ пасярэ́дзіне. А ён захо́дзіць напе́рат, Сяро́шка, е́хаў на валасыпе́дзе, саско́чыў з вала-

сыпе́да, стаў напе́радзе і на Во́лю: «На табе́ ігру́ш». – Як ігру́ш? – І нам даў бы б. – Яна́ хай каму́ хо́чэ дае́ і ко́лькі хо́чэ. А на сенако́се граблі́ се́но. Е́то ж і́сьціна пра́ўда. Ну, пасе́лі аддыха́ць. Се́лі аддыха́ць, сядзі́м усе́ папара́тку жанкі́, там жано́к не́калькі, і гэ́та Во́лька сядзі́ць. Я блі́ско там ля яе́. Анто́лька, ці Анто́лька мо і на се́не ні была́, другі́е ба́бы. Цяпе́р, зна́чыць, так. Прыхо́дзіць, прыно́сіць канхве́так, у пе́ляну ёй рас. – Вот прынёс адно́й, а чаму́ нам ні даў? – ба́бы так. Дак ні то́лькі я, дак е́так усе́ ка́жуць. Дак ён ка́жэ: «Яна́ хай каму́ хо́чэ, таму́ дась». Я ге́так сказа́ла Аксе́ньцэ, дак та́я Аксе́нька расказа́ла Во́лі. Я кажу́: «Сяро́жа-Рассяро́жа, такі́х ма́ло на сьве́це есь». Дак ні та́я Во́лька, да ні та́я Аксе́нька ста́лі ля Сяро́шкі.

***

Адна́жды Сяро́жка іс то́рбачкаю ішо́ў, у мага́зін хадзі́ў да пастая́ў, ка́жэ: «К А́ньціку зайшо́ў, А́ньцік у бальні́цы быў у Мі́нску. Захо́дзіў к А́ньціку. А е́то прывязьлі́ дадо́му». Дак е́то падаждала Сяро́шкі, тро́шкі пастая́ла. Дак ён мне нра́віцца, ён душэ́ўны я́к-то чалаве́к. Ста́неш зь ім гамані́ць, то пагамо́ніш як ш чалаве́кам. Але раз напі́ўса быў, да йшоў сь сяла́ ўжэ пры́цямкам, Тама́ра, і з валасыпе́там, ашчэ́ ж вёў валасыпе́т. А я ні ве́даю, чаго́ я глядзе́ла, мо ба́цька ні было́ хіба́, чаго́ ж я выхо́дзіла пры́цямкам на ву́ліцу, і сама́ ні ве́даю, мо яго́ й ні было́, мо пашо́ў на сяло́ ці дзе. Ада́ле ідзе́, заме́ціла здалёк, што п'я́ны ідзе́ чалаве́к і з валасыпе́там ба́чу, шчэ пазна́ла, што валасыпе́т у яго́. Ішо́ў, ішо́ў, а тады́ брась, лёх на асфа́льце. І валасыпе́т аб зе́млю, як упа́ў валасыпе́т, дак і ён. То дзяржа́ўса тро́хі за валасыпе́т, а ўжэ пры́цямкам ні здо́ляў. І ты зна́еш, і так лёх, ну но́гі к асва́льту, а сюда́ к траве́, як Мі́шын плот адэ́ты. Што ш ты, машы́ны ляця́ць і тра́ктар. Па нага́х дась, дай паляце́ў. А ты ляжы́ і ні падымеса, і вы́прутнеш на ме́сьце, ні ўста́неш. А хто цябе́ ба́чыцьме, ужэ́ й цёмно было́, што ні відно́ чалаве́ка. Я зра́зу ўзяла́ валасыпе́т, завяла́ к сабе́ ў двор, во, як пло́цік тут стая́ў, за э́ты пло́цік паста́віла. Цяпе́р пашла́ к яму́ і кажу́: «Сяро́шка, ты зна́еш, дзе ты лёх ці не?» Ні пазна́е мяне́ да́жэ гамані́ць. Кажу́: «Сяро́шка, я цябе́ прашу́, я цябе́ вазьму́ за плячукі́, во за ру́кі, а ты патсо́ўвайса. Я бу́ду паддзе́ржваць, нага́мі ўпіра́йса, тут яшчэ́ пясо́к, у асва́льт у гэ́ты, бо, кажу́, е́сьлі я цябе́ пакі́ну, ты засьне́ш, то машы́на цябе́ пераедзе». Слу́хае ўсё на сьве́це, як кажу́. І то́жэ кажу́: «Хацця́, Сяро́шка, папіна́йса, я бу́ду цябе́ за ру́ку цягці́, хацця́ папіна́йса нага́мі ў вабо́чыну, і штоб ты пада́ўса тро́шкі, хацця́ галава́ к забо́ру ляжа́ла, штоб цябе́ ні акале́чылі машы́ны ці трактары́». І падняла́. І пачала́ яго́ пат плячукі́ тро́шкі, і пачала́, а ён нага́мі як стаў папіна́цца і к са́маму забо́ру го́лаў патсу́нуў. Тады́ я яго́ патсу́нула. А ён пасабля́ў што-то Ві́ці Ґу́рскаму. А Ві́ця даў яму́ там вы́піць, і ён ба́чыў, што э́такі ён пашо́ў. Я ні зна́ю: ці ён ра́дзі яго́ ішо́ў, ці так про́сто ішо́ў ішчэ́ дзе вы́піць – ні ве́даю. Учу́ў, што я гаманю́ гэ́так. Ві́ця падышо́ў, і мы дава́й цяга́ць яго́, дава́й цяга́ць яго́ і раздзу́рбаўса і, зна́еш, падня́ўса. Падня́ўса, за Ві́цю ўзя́ўса, і пашо́ў пама́лу. Я ні каза́ла яму́ нічо́го, што браць валасыпе́т. Я за валасыпе́т і завяла́ ў бу́дачку, паста́віла. А наза́ўтрэ валасыпе́т яму́ аддала́. І так мне про́сто аш шко́да яго́, што ён э́такі до́бры і мо́жэ прапа́сьці, або́ па нага́х про́йдзе яка́я це́хніка. Такі́ дабраду́шны. Я ні магу́ прапусьці́ць. Мне ж грэх вялі́кі прапусьці́ць чалаве́ка. Тады́ бу́ду ду́маць ко́лькі жы́цьму: чаму́ я ні падняла́, чаму́ я ні памагла́ яму́, або́ абы-каго́ хоць бы пазва́ла, калі сама́ ні падо́ляла, штоб завясьці́ дадо́му. Ско́лькі я іх разо́ў паднімала, дак усе́ такі́е, што як сваé хло́пцы. А Ко́ля Прымако́вых каза́ў на мяне́: «Вам, каб і ляжа́ў сяро́д ву́ліцы с чужо́го сяла́, то вы ні про́йдзяце, ма́біць. Нізашто́ ні пакі́нулі, штоб яго́ ні падня́ць». Кажу́: «Нізашто́, Ко́лька, ні пакі́нула б, хоць іс чужо́го сяла́, е́сьлі ба́чыла, што ляжы́ць, дату́ль бы... або́ абы-каго́ папрасі́ла, што б аццягці́ дзе на або́чыну на яку́ю».

***

Называ́ецца Падзе́р, бо там ласі́ былі́, ма́біць, мо ко́зы былі́. Бо там лес такі́ хво́йнік і е́льнік, ну бяраза́к пракіда́ецца, дзе-нідзе́ бяро́за. К таму́ хво́йніку прыбі́тые ле́скі, ласі́ падыхо́дзілі. У нас жа ахо́тнікі былі́, бо ле́скі ві́сялі. Дак там то́лькі я ба́чыла бабакі́ такі́е.

***

Шку́рка абы́чно лепш дзяржы́цца, яна́ ні так атстае́ на хібу́ ў кабана́. Яно́ са́ло сма́чнэ, но ат шку́ркі яно́ е́так ні атстае́, штоб вот садра́ць шку́рку. Кабаны́ кало́лі і мы. Ска́зано: са́ло, як на хібу́. Харо́шэ то́ўстэ са́ло, там тро́хі шку́рка танчэ́йша, а е́ты хіб ён як-то цьвярдзе́йшы. Але бывае і да́жэ са́ло цьвярдзе́йшэ пападае́цца. І шчэ сматра́ чым ко́рміш. Ат малака́ – дак то́жэ харо́шэ са́ло, яно́ м'я́ке. Ты́е ж го́ды палівалі, малака́ мы пасьці́ ні здава́лі. Парася́та, парася́т карміл́і. Сьвіню́ ссуць, тады́ ста́неш паткармля́ць патро́шку, малака́, малака́, а тады́ і до́брэ малака́ льеш, паку́ль папро́даеш.

***

Купíла ў жы́да шта́пяльну ху́стачку, дак я схава́ла, штоб ніхто́ ні ба́чыў. А Га́на Жу́кава ўгле́дзяла ж. Па во́ду йду, дак яна́ сва́рыцца на мяне́: ху́стачкі купля́еш, а каló́йдзезя ні купля́еш, па во́ду хо́дзіш к нам. А ты́е ж го́ды ў іх я́блыны вялíкіе былí, дак панарэ́зваюць я́блык, да к со́нцу су́шаць, дак табе́ кажу́, што йду, дак дале́ко ўжэ йду, штоб бліско ні йці, бо паду́маюць, што э́то я́блыкі íхніе зьбіра́ю. Да бая́ласа ў двор увайці́. Вот як было́ Во́лі.

Га́на ты́е го́ды, што ты! Ну така́я ж была́, ну бальна́я. Я ні сварыла́ся зь е́ю нікагда́. Я ёй прашча́ла і на яго́ каза́ла. Ён то бывае́ абы-што́ то каза́ў на яе́. А я на яго́ кажу́: «Ты зна́еш, што бальны́ чалаве́к». Яно́ пасудзí, то íсьціна пра́ўда. Каб жэ ро́зум быў, то ні крыча́ла б. О вазьмí што с калхо́за, хай прынясе́ш чаго́ ці нясе́ш, а дзе ж ты дзе́няса ат сасе́да, дак кры́чма крычы́ць на ўсю ву́ліцу, да сва́рыцца – кра́дзяце, да берацé. А от Арка́дзя-нібо́йшчык быў, то пра́ўда, што сусе́т быў – ён век ні пазіра́ў. Ён на тра́ктары рабíў, ён і сам зарабля́ў сьвет. Але гаспады́ні былí яны́ плахíе. Яны́ век ні сьпяклí ні хле́ба як трэ́ба, нíчо́го на сьве́це, усé абы-я́к.

***

А шчэ́пкі – я́блыны кры́мскіе, наве́рно. Была́ вы́стаўка ці кірма́ш які́ ў Салігорску, мне Тама́ра і каза́ла, бо я акра́з ішла́ с сабра́ня, да ўгле́дзяла ў яе́ дварэ́, да зайшла́ к ёй. Э́то шчэ яе́ Іва́н жыў, а мо ўжэ і ні было́ – ні зна́ю. Тры шчэ́пкі стая́лі, дак ужэ́ бальшава́тые, о такíе о, да́жэ лíсьцікі дзяржа́ліса. Дак каза́ла, што па пятна́цаць ты́сяч, дак дзяшо́вые, што зна́чыць пятна́цаць ты́сяч. Да́жэ па лíсту кры́мскіе пазна́еш, яны́ ш такíе паткраснава́тые э́тые лíсьцікі, а лíсьцікі шчэ дзяржа́ліса. А іх на во́сень до́брэ садзíць, уво́сень зямля́ сыра́я, і дажджы́ бывае́ прахо́дзяць, дак яны́ лепш прынíма́юцца. Вясно́ю ні так.

На ўсё трэ́ба хазя́ін. Я чыта́ла ў календары́, там жэ трэ́ба абрэ́зваць, вычышча́ць. Я́блыны заго́йваюцца, по́йдуць па́сынкі і хоць бы што, заго́йваюцца. Вот пашлí, да́жэ ў дэ́туй есь па галíнах па́сынкі, пашлí цяпе́р. Да́жэ есь, што галíны атраза́еш і іду́ць па́сынкі ад галíн атрэ́заных. Яна́ атхо́дзіць.

***

Ну глядзí, ко́лькі Ко́ля папацяга́ў паке́таў макаро́ны, усé ш перава́рвала, як той ка́жэ, я ж ні выкіда́ла. Цяпе́р-то бо́льшую часть карто́шку, пашці́ ка́жны дзень, ка́жны дзень. Мо які́ дзень прапусьцíла калí, а так ка́жны дзень. Алё́шка во ўвёў у ву́шы: малако́, ка́жэ, і карто́шка – э́то мая́ яда́. Я, ка́жэ, ні зна́ю, штоб я еў бес карто́шкі ра́ніцаю, ка́жну ра́ніцу. Я, ка́жэ, ні ве́даю, штоб мы е́лі ра́но. Ну, лю́дзі ж ядзя́ць і жыву́ць бес карто́пель. Я, ка́жэ, карто́шкі звару́, і лíтру малака́, і з'ем с карто́шкаю, і да абе́ду я дбаць ні дба́ю. І худо́бу ко́рміць: і каня́, і парася́т жэ купíў, і кабана́ ото́ закало́ў, і каба́н есь яшчэ́ – і пы́ніць ко́лькі худо́бы. А сьне́гу ско́лькі адзíн аткіда́е, ні ўсягда́ ж прыяжджа́юць. Бывае́ пападу́ць, што от як там сьне́гу намяцé, Таíска бо́льшу часть мо зь Мíшыкам. А жо́му прыўё́з зяць, дак у гаражы́ згрузíў. Жом цяга́е да па́рыць, а ні па́рыць, то апа́рвае вадо́ю гара́чаю, да худо́бе. Каня́ пакармí, сьвіне́й пакармí, ку́ры дзяржа́ць – пакармí аднаму́. А сам жэ па́ліць, яна́ мо е́сьці бывае́, мо карто́пель начы́сьціць.

***

Вот на Урэ́чы мне рабілі маса́ж, дак то́лькі гла́дзіць. Ці э́так жэ ро́бяць маса́ж – атчэ́пнага. Мне Несьцяро́віч каза́ў: «Там з вае́нага гарадка́, ну яна́ метсястро́ю ро́біць, дак маса́ж ро́біць». Там мо больш рабо́ты займа́е, дак я хадзіла разо́ў ко́лькі, дак яшчэ́ шакала́тку куплю́, а бо і две. А сядно́ яна́ э́так ні ро́біць, штоб як ты. А ён у Расьве́це рабі́ў. Дадо́му е́хаў, зайшо́ў у аўто́бус на вакза́ле, дак ізра́зу, як прыйшо́ў, акра́з сеў ля мяне́ да за ру́ку ўзяў і пульс слу́хае па прывы́чке па ста́рай. Але аўто́бус ідзе́ да паткала́чвае, дак ні чу́е.

***

Ніко́лі пра́ўды ні было́, німа́ і ні бу́дзе. Забра́ла ско́рая яго́ ў бальні́цу. А я тады́ ні ве́даю, мо таго́ ж дня і прые́хала к яму́ ў бальні́цу. Захо́жу, ста́ла гамані́ць, а там, вот як ён ляжа́ў у пала́це, і зра́зу Несьцяро́вічаў кабіне́т напро́ціў. Ён учу́ў і захо́дзіць: я ўсё зьдзе́лаў, што ну́жна яму́, – ён э́так. А яко́га лякарства, забы́ла, у нас нет тако́га, яго́ на́да купля́ць. Мне так сказа́ў, дай пашо́ў у свой кабіне́т. Я то́жэ прабітна́я ба́ба, як той ка́жэ. А я зра́зу, ён пашо́ў, я тро́шкі пабыла́ ля ба́цька і пашла́ туда́ ў яго́ кабіне́т. Захо́джу ў кабіне́т, сядзі́ць сястра́ ні на сту́ліку, а к сталу́ прытулі́ласа к яго́, як ён піса́ў, а ён стая́ў. А я захо́джу да кажу́: «До́ктарко, акра́з перад выхадны́мі яго́ ско́ра забра́ла, запішэ́це мне які́е лякарства, я куплю́, а бу́дзьце до́бры, пажа́луста, увядзе́це гэ́тые выхадны́е дні, я мой ні ўсьпе́ю купі́ць за э́тые выхадны́е дні. Ні мо́жа быць, штоб у вас ні было́». Дак ён на ту́ю сястру́, а та́я як із другое ўсядно́ бальні́цы, бо дзьве ж было́ бальні́цы. Ён спра́шывае ў яе́: «А ў вас есь такі́е лякарства?» Дак яна́: «До́ктар, вы зна́яце, што ў нас э́тые лякарства са́мі купля́юць», – так яму́ атве́ціла. А як я ста́ла прасі́ць, як ста́ла прасі́ць, я кажу́: «Я аткуплю́, да яшчэ́ і ўдвайне́ аткуплю́ ці больш». Сказа́ла ге́так. Ён: «Харашо́, зьдзе́лаем на выхадны́е», – мне атка́звае. І зра́зу стаў уво́дзіць яму́. А вот, каб като́ра, сабра́ласа і пае́хала. А так і ўсю́ды е́так. Вот зайду́ папрашу́, так яно́ і есь.

***

Ве́рка каня́ дзяржы́ць. І сын у яе́ Са́ша ме́ньшы ажані́ўса быў, с Салі́го́рска ўзяў дзе́ўку. Яны́ купілі ха́ту Пата́паву, ма́біць, е́то да́чу. І ён зь е́ю пазнако́міўса, узя́ў ажані́ўса і перайшо́ў у Салі-го́рск зь е́ю. І дзе́вачка ўся ён – чо́рна е́така. Дзе́вачка бе́гае, ужэ́ ж велікава́та, я й забы́ла ў які́ яна́ клас хо́дзіць, і бе́гае ўле́тку туда́ к Ве́рцэ. Ве́рка ка́жэ: «Пыта́ла, калі ў цябе́, ба́бушка, дзень раждзе́не, цяпе́р прыяжджа́ла. То што-ні́будзь ужэ́ ку́піць». Сва́ха хо́дзіць і карто́шкі пасабля́е цяпе́р садзі́ць. Яны́ до́брэ так. А вот з-за гарэ́лкі, што выпіва́е, цяпе́р ні жыву́ць. Адна́жды я была́ ў Салі́го́рску, да садзі́ласа ў Застары́ні, аўто́бус хадзі́ў. Падышо́ў е́ты сват яе́, да сеў на Застары́не, сюды́ ў Замо́шэ. Дак і ка́жэ: «Ён рабо́тнік, ён ро́біць усе́ на сьве́це, а вот гарэ́лка згубі́ла». І Ве́рка ка́жэ: «І ро́біць, і цялу́шкі пасе́, абы палу́чка, так і пашо́ў...» Дак і ге́таго ж, як той ка́жэ, і гату́е, і апсьці́рвае, і ўсе. І мужы́к жэ, яму́ но́гу атнялі́, ні дай бо́жэ, і мужы́к енвалі́д у ха́це. До́гляду хвата́е. А мужы́к піў, да забярэ́цца, ён жэ зь Ляско́ў, да к бацько́м по́йдзе. А яно́ е́так. Ма́ло хто тро́хі як-ні́будзь пражы́ў так. А так усе́: ні то́е, дак то́е.

***

Ты́мі гада́мі грэ́чкі ні было́, а яны́ е́тые дзіе́ччыкі палуча́лі грэ́чку. Дак Ва́ля часьцяко́м мне дава́ла грэ́чку. Падзапа́сіць тро́хі, от як паеду, дак яна́ мне дась. У яе́ ж ні кварці́ры ні было́, нічо́ на сьве́це. Ужэ́ й Іга́р нарадзі́ўса, зь дзі́цям была́ ў ба́пкі, жыла́. Ха́тка така́я нівялі́ка, яна́ да́жэ і гардзі́ны заве́швала там.

***

На адзі́н бок шэрэ́нга дамо́ў і на другі́ бок. У Крупе́ніку, ці е́то шчыта́ецца ўжэ Урэ́чэ, так вот цэ́лу ву́ліцу, на адзі́н бок ву́ліцы і на другі́ дамы́, даро́га пасрэдзі́не. На Крупе́ніку панастро́йвалі і ў сяле́. У Дарасі́но́ падава́лі до́мікі і механіза́тарам. Га́ля прадава́ла, мо п'яць мільё́наў хаце́ла за ха́ту. Дак усе́: до́раго-до́раго. Купі́лі б жэ. Ха́та ні так даўно́ пастаў́лена. Га́ля Ма́р'ю забра́ла.

Я былá ў паліклініке, акрáз сядзéла жанчы́на – свáха éтае Мáр'і Дарафéявае. Янá папытáла, аткýль вы, да гаманíць, да ўсе. Янá кажэ́: «А вы вéдаяце, ля магазíна жылá Мáр'я, дай кáжэ, дачкá былá». Давáй пытáць, дак я дагадáласа. Дак янá: «Мая́ дачкá рабíла ў магáзіне і за Валóдзю Мáр'інаго пашлá зáмуж». Янá ягó ні хвалíла, але наштó мне яны́, якáя мне рáзьніца. А ён у Слýцку, мáбіць, рóбіць, ці на трáктары ці на чом. Іс Стáрых Дарóг éзьдзіць у Слýцак на рабóту. Двóе дзяцéй казáла. Дак тóжэ мо ў Слýцку пабяшчáлі ямý кварцíру. Гаманíла там трóхі. Тóжэ вóсімсят гадóў, але патхадзя́шча жанчы́на шчэ янá, свáха. А éта Мáр'я, то старáя янá памéрла. У хáце ўсе таптáласа і таптáласа. Янá даяркаю рабíла, ні вéдаю да калькí ўжэ гадóў, Кáця ўсе на фéрме былá.

***

Алéнчына дачкá пашлá за мерашы́нскаго зáмуж, а éто [старую хату] на дáчу. Аблажы́лі, паразукрáшваў кірпíч. Хáтка нівялíка, у сéнцах зрабíлі печ, кóмін, усé. Перастрóіў – і на дáчу. Яшчэ́ і врамя́нку с кірпічá злажы́лі і накры́лі.

***

За Гýрськім жылá Мáня Давы́давых, расáду ўсе прóдала. Дачкá зáмуш пашлá с Кірпíчнаго. Вышлá зáмуш у Салігóрск. Ён там рабíў, янá – і ажанíліса. Дак тýю хáтку пакрáсілі, паабгарóджвалі і сéюць. Агарóччык у іх шырóкі, да Гýрськаго. Сéюць той агарóччык. А сóткі тóжэ пакíнулі там за плóтам. У іх дóбры агарóччык, шырóкі. Яны́ часьцякóм éзьдзяць, як скóра, на такóм, мо ён дзе рóбіць? І на матацы́кле éзьдзяць удваíх. А бывáе на том аўтóбусіку.

***

А Вýсьцікавые зьбірáюцца ўтрох усé. Сéюць загóн картóшкі. Самá я бáчыла. Я Каралёвым пасабля́ла, мо Гарáськавым, быў жэ загóн, Ю́ра ўзяў на Давы́давых, дак я ўбірáла ім і яны́ тóжэ ўбірáлі. Убірáць зьбірáюцца дзяўкí і Вáля éта. Там зямля́ харóша, чарназём. Там як тарфя́нік зямля́, там загóн Вýсьцікавых, а ў Ю́ры тут мáло, нанавóз [зямля каля дарогі]. А тут пясóчак. Я ні вéдаю, ці яны́ там сéюць дóма што, ці мо янó й пустýе. Картóплі мéньшые, дак яны́ мя́ккіе, як развáрацца.

***Расказвае М. М. Трухан, 1958 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

Якíе дзелá? За два гóда чэцьвёрты пратсядáцель. Што ты мóжэш у кагó спрасíць і с кагó што ўзяць? Рáньшэ гадóў дзéсець-пятнáццаць у кáжнай дзярэ́ўні быў пратсядáцель. А шчас вазьмí – ад Замóша і да Урэ́ча, ад Застары́ння да Гарнякá, во Жáбін і Пагóст – усё тудá. Дак э́то прадстáўце, што мóжно зрабíць? У Замóшы ні аднагó трáктара, ні аднóй машы́ны, кóні заберы́ і ... Рáньшэ на Пáнічы гавары́лі ўсе Пáнічы, Пáнічы [малая вёска], а шчас па крýгу, па крýгу Пáнічы. Там вот на Брэ́шчыне, там дзé-то ýмерлі, усáдзьбу снóсяць і на éтам мéсьце стрóяць. А ў нас жэ настрóяць у пóлі дзéсець дóмікаў, вы́йдзі – кусты́ вакрýг. А зімóй у туалéт ні вы́лязеш. Дак што э́то? Éсьлі яны́ ў дзярэ́ўні дзé-то снóсілі, штó-та стрóілі, штоб дзярэ́ўня прадалжáла жыць. Так што яны́ дзéлаюць? Прóсто лю́дзі сідзя́ць у кабінéтах, ані ні пратстаўля́юць, ні жылí, а от так вот назначáюць.

Мáма, я éзьдзіў з дóктарам на рóдзіну. Дзе-нібýдзь усáдзьбы, паўмірáлі пóлнасьцю, ну сьнесíце вы, дак тут дзé-та якáя я́блыня, дзé-та штó-та есь. Пастрóйце вы на éтам мéсьце нóвы дóмік, дак éта ж дзярэ́ўня бýдзе, а ні так вы́нясьці ў пóле, зрабíць дзéсець дóмікаў і ўсё. Там ні калá ні дварá – нічавó нéту. Барсукá хáту вот сьнесьлí – вы пастрóйце, Матрыхáнаву – тут пастрóйце. Дзярэ́ўня жывáя бýдзе, а так вы́несьлі ў пóле, а тýтака пусты́р бýдзе. Будзé скóрэ, як на хýтары. Дак рáньшэ с хутарóў ссóўвалі, перавазíлі, штоб умéсьце бы́лі, а тут бýдуць хутарá скóрэ. Вот у Матрыхáнавых узя́ць – там жэ какíе-то дзерэ́ўя расьлí, сад какóй-та, хоць я́блыко іли я́бляня бýдзе, дак тут вы́йдзеш. Трóшкі аблагарóдзяць, дарóга, асфáльт, но ні па калéно вот так лéзьці. Дак éтые дóмікі пастрóілі, там ні аднагó дзéрава німá. Вазьмíце вот у Дарасíно, як на Кірпíчнэ éхаць с прáвай

стараны́, што ж там – у по́лі. Там напро́ці шко́лы зрабі́лі ўніверма́г бальшы́, там то́ка сьце́ны, больш німа́ нічо́го, і ра́мы павыдзіра́лі. Такса́мо і там: там до́мік, сара́йчык і всё, больш нічаво́ не́ту. А е́сьлі б яны́ ў дзяраўня́х снасі́лі дзе́-та, ілі с э́тай старaны́, дзе пустата́, патстро́ілі – і дзярэ́ўня. Кто́-то б на фе́рме рабі́ў, ілі заве́дуюшчым рабі́ў, ну кто́-то што́-то рабі́ў бы. Ілі які́м механіза́тарам быў бы, які́ тра́ктар быў.

## *ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК СУЧАСНАГА ПАМЕЖЖА*

*Ю. І. Унуковіч*[1]

### ТЭКСТЫ З ГАВОРАК ВІЛЕНСКАГА РАЁНА[2]

***Расказвае В. І. Баяровіч (Баяройць), 1932 г. н., родам з в. Цюдзенішкі (Ашмянскі р-н), з 1959 г. жыве ў м. Меднікі, каталічка;*** *запіс зроблены ў 2011 г. Ю. І. Унуковічам.*

#### Мова і ідэнтычнасць

*– А скажыце, вот як вы сюды замуж прышлі, ці розніца тут? Можа, гавэнда тут інакшая, ці людзі інакшыя, чым там у Цюдзенішках? Ці тое самае?*

– Вы знаеце, і тут людзі, тут панаяжджаўшы болей людзей. І болей яны такія, гэтыя, яны прадстаўляліся, што яны як бы палякі. І мы палякі. Мы палякі на Беларусі. Была і Польшч. Былі палякі. А тэраз зрабілі як яны хацелі. Мы беларусы, нас беларусамі папісалі.

*– Але гавораць тут усе па-просту ці па-польску?*

– Во так во, як я гавару.

*– Эта па-просту счытаецца?*

– Да, па-просту. А маладзёш, яна болей так вот па-літоўску. Па-літоўску. І дочка во мая, робя там на граніцэ, так вот камп'ютэр гэты, курсы ездзіла, да яе во тэраз...

***

*– Кажаце, людзі тут інакшыя троху, чым там у Цюдзенішках?*

– Ну ані как накшыя? Ані ўжо прадстаўляяцца большэ што яны палякі. А гэтыя, каторыя прыехаўшы, ўжо яны беларусы выходзяць. Але нас не аддзяляе гасударства. І мы галасуем, і помашч якая ест, тое сама, як і гэтым... як і палякам гэтым. Але палякі, яны маяць Звёнзэк палякаў, некаторыя маяць во. Яны сабе маяць магазыны, маяць работнікаў. Яны на работу бяруць. Каго яны возьмуць на работу? Сваіх. Радных тым, блізкіх. Сваіх якіх бяруць. А ўжо гэтых, каторых яны не бяруць, ужо яны ні памагаяць гэтым. А так, так яны ўжо работу даюць. Вот маіць маладзёш работу якую там дзе – у клубе і ў магазыне, у кавярні.

*– А скажыце, гэтыя тутэшыя палякі – яны больш «заядлыя», чым такія ўжо з Беларусі? Чы як яны?*

– От яны толька прадстаўляяцца. Яны не заядлыя. Яны яшчэ... Яны не такія... На Беларусі тожа і польскі ензык ест, і касцёлы ёсць. Але там ужо больша, праўда, касцёлы то па-беларуску, болей у касцеле.

*– Але тут... болей ці па-польску, ці па-просту?*

– Па-разнаму. Па-разнаму. Тутэйшыя, як некалі гаварылі ўсё, што тутэйшыя. Было эта. Ну тута ж пры граніцы недалёка. Недалёка эта граніца.

---

[1] Прозвішча падаецца згодна з запісам аўтара.

[2] У тэксце цалкам захоўваецца структура запісу і яго аўтарскае адлюстраванне. Націск пастаўлены ў асобных выпадках.

*– А вот у вас у сям'і – з бацькам, з маці – як вы? Па-просту ці па-польску?*

– Мы па-польску. Мы і ў Польшчы, і на Беларусі мы болей па-польску гаварылі. Мы гаварылі па-польску, а ўжо былі... як Беларусь была там, ну як прымерна, як ад саракавога года ўжо, стала ж калібацца там такое ўсё гэта. Так мы і мае дзеці, яны дома, мы разгаварывалі па-польску. А як дзе ў бальніцэ ці што, так ужо там. Зачэм вы іх учыце? Альбо целівізар, было што. Яны ўмелі, яны ўмелі па-просту так во, як я тэраз во гавару. І яны гаварылі так.

*– Ну а вы навучыліся па-просту тут ці там?*

– Не, там. Там, там.

*– А вот з мужам як?*

– Мы з мужам, мы дома гаварылі па-польску, а так на ўліцэ там гдзе была, а хто прыдзе такія, хто па-польску гавора да нас, і мы разгаварываем па-польску з імі.

**Пераезд у Літву**

*– А як сюды патрапілі?*

– А мы выехалі сюды тады. Мы прыехалі сюды.

*– Як за Саветамі ўжо.*

– Ужо мы прыехалі. Ну як вам сказаць? Нам было... у нас было... Мы маладыя выяжджалі ўсе, гдзе выяжджалі, было... Свет то ў нас быў. Але ў нас магазын далёка, касцёл быў далёка. І мы, і мае дзеці, нашыя выехалі. Выяжджалі после школы ў Вільнус. І яны вот. Сын то яшчэ троха после дванаццаці кляс учыўся на... на каго ён тут... у Вільнусе. А дочка пашла рабіць, бо хацела сабе мець, так, як вы тэраз во.

*– Так яны перацягнулі вас сюды на Літву?*

– А мы самі. Не, тады яшчэ разрышалі. Тады можна было так.

*– Ну, а тут лепей было ці горш?*

– Лепей. Тут было лепей, патаму што была работа. Муж рабіў на трактару, а я рабіла на ферме. І мы ні пілі, так мы прэміі палучалі, дыплём палучалі. Нам было так нічога. Ну а зарабатак, то тожа ні так было. Але быў касцёл блізка. Нам гэта было харашо. Магазін, касцёл, астановка во. Дажа і машынаў. Во тэраз машыны пакупляўшы. А тагда тамка які роварчык.

**Гаспадрачыя пабудовы: *прыгуменнік***

Да гумна была такая, з этых во... Пераплеценыя з этых... Ну, з дзерава. З бярозкі там чы ольхі якія. Во такія. Прыгумельнік называлі.

*– Прыгумельнік?*

– Ага.

*– А што там складалі?*

– А там што? Ну вот што, вот як тэраз во кладовачкі такія. А там доскаў ні было такіх ужо, ні можна было. Так вот такія выплятали. І там кладовачкі такія былі. Там усё складалі. А там ужо закрыта было. Дзе гумно, то закрыта, а тут так было як віранда. Так там такое во. Там адкрыта ўжо.

***Свіран***

Быў свіран. У нас свіран быў такі во прыбудаваны.

*– Да хаты?*

– Ага. Прыбудаваны. Там і мяса, і сланіна там якая, і свіні як калолі.

***Сквярстуны***

*– А скажыце, як даўней свіня калолі, ці была такая звычка, вот як суседу трэба даць?*

– Да. Ну тут муж калоў сам, а як ацец калоў, ён не мог калоць. Так давалі. Ну чаму там? Давалі.

*– А як называлі? Сквярста можа?*
– Сквярсцюны...
*– Сквярсцюны?*
– Сквярстуны называлі. Вот неяк так. Заколіны.

## Пабудзіць пчол

Але яшчэ во, як хто памрэ і ёсць пшчолы ў каго, так як вывозяць хаваць, так пастукаць, пабудзіць пшчолы трэба. Казалі так.
*– А чаму?*
– Ну, можа, каб жылі бы яны, каб не адмярлі бы разам з хазяінам.

## Пчала памірае

*– А скажыце, чаму кажаць, што сабака здох, карова здохла, а пчала памірае?*
– Ну эта за тое, што пшчала робя воск. А з этаго воска робяць свечы. І во і ў касцёл іх. І вот эта за тое яна. Бо як у рускіх тэраз і сабака памірае. І вот эта праціўна неяк, бо як чаму яны так гаворацъ? Бо ў іх так уміраяць. А эта ў нас было «здохла». Чалавек памірае і пшчала памірае. І гавораць, што гаварылі ўсё, што яе не можна біць. Пшчалы. Не можна было біць. Як яна там ні заціснуць яе. А дзе ж яна як баліць, як укуся?

## Зязюля

Як зязюля, кажаць, на бяду кукуе. Як еслі пад хатай бывае.

## Куцця

На Куцю то рабілі мак найболей. Мак. Мелі такія. Тарліца называлася. Во такія латушачкі. Во такія. І гліняныя. І такое з палкі, з дзерава, такая качалка. Такая круглая. І вот запарывалі і мак гэты, і макаўніцы. І пяклі разныя там. І пончкі пяклі, і клёцкі. І мёдам, як хто мае, і сахарам засаладзілі мак гэты. Абаранкі купляли. Блінькі пяклі такія. Аладкі пяклі. ... Мой ацец быў партной, так он шыл. Он очань харашо шыл. Так ён меў, хоць быў бальны, але мы мелі. А людзі некаторыя картофлю таркавалі і выціскалі, эта такія клёцкі пяклі і з макам елі.
*– А колькі мусіць быць страў на стале на Куцю?*
– Ну, дванасця. Дванасця.
*– А чаму?*
– Ну, хто яго знае? Усё ж адзін аднаго: «Трэба. А я столька, а я столька». Ну, вот сколька рабілі. Было цяжэй рабіць раньша, як тэраз. Тэраз усялякія салаты якія там. Эта поснае ж нада, каб было бы ўсё.

## Калядная варожба

*– А ці варажылі на Куцю даўней?*
– Я там так надто не варажыла, але троха ж як яшчэ... замуж можа хацела.
*– Ну а як?*
– Найболей ніяк не варажылі. Вот выйдзем, смяёмся там як. А бывае прыляталі, збяромся маладзёж посля Куці. І вот плот гдзе абымалі і сколька шчыталі, сколька этых ці ў пару нашчытаем. А як сядзіш куцю есці, то тады выбіралі з-пад абруса сена сколька там такіх. Пашчытаць сколька ці ў пары. А хлопцы болей, а хлопцы то надто закрывалі, а я не знаю падзеле чаго яны закрывалі, закрывалі дзверы надто. Вот з'ясі куцю і мы жаж бывае яшчэ як тут блізка, то тэраз во да касцёла хадзілі яшчэ во. А яны ж упільнуяцца і з гэнай стараны закрылі дзверы. Назаўтра

ўстанеш, ніяк не адкрыеш дзвярэй. То іхная мода была такая. Дажа было, я помню ездзіла, была ў бальніцы ў Гродне, і ехала на Куцю я чэраз Ашмяну. І вот ашмянскія там, дзе этыя... брамкі этыя паздыманыя все і паразложаныя.

### Валачобнікі, ці *валоўнікі*

Хадзілі. Валоўнікі-то хадзілі. Валоўнікі хадзілі. Ужо мама мая пастукае, нас пабудзя, і мы ідзём слухаем, як яны співаяць «Ці можна тэн дом падвасэліць?». Адныя адходзяць, а другія прыходзяць. Ну, і яно і тэраз. Во тэраз во, гэтыя часы неяк у Медніках. Тут і ў Медніках таксама. І муж мой хадзіў. І я хадзіла яшчэ з мужам.

*– А якія там лалымкі спявалі?*

– Ну «Васолы нам» спявалі і вот там спявалі, яшчэ там ксёнжку болей бралі, з ксёнжкі. А які дзядзька стаіць слухае пад акном, еслі памыляеся альбо з ксёнжкі, так тады не хоча даць чаго. А так то чоколядкі якія там, і яйкі давалі.

### Валачобнікі, ці *жакі*

У панядзелак хадзілі жакі. На ранку завшэ жакі прылятали. Ужо дзеці ляцелі. Мае то дзеці не хадзілі і мы не хадзілі. Мы неяк не хадзілі. А хто яго знае? Неяк мы...

*– А як жакі прыходзяць, то што яны ўжо гавораць?*

– А яны гавораць, што яны там... От, некаторыя, што яны там... Я і не помню, што яны гавораць.

*– Ну трэба, каб яйко далі ж?*

– Ну.

*– Выпрашваюць неяк там?*

– Эвангелію такую гавораць яны болей, а яйко так ужо там кажды сам знае, што ўжо там ні адно даеш.

### Песенька-*лалымка*

Слічна паненка по садзе ходзіла,
Руты, мяты збірала,
Вянэчак звівала.
Дай, Божа, нам тэн вянэк зносіць
І нас на васэле папросіць.

Для паненькі во.

### Градавая серада

*– Казалі, што ў сераду як бы Градавая серада?*

– Ну, усё кажаць. Святкавалі. Як там святкавалі? Таксама, як хто дзе якая работа была і хазяйство мелі, то мусілі і рабіць эта. Але гдзе ўжо там...

*– Ну, а чаму казалі, што ў сераду ўжо там?..*

– Градавы дзень. Казалі. На сераду. На трэці дзень.

### Качанне яек

Качалі яйкі. ... Ражкі там рабілі якія. Я там на гэта... Я там не хадзіла.

*– А якія ражкі?*

– З папераў. З папераў такія вот скручывалі і там тады качалі яйкі ў этых, як яны там рабілі.

## Французскія магілы

На Беларусі, там гдзе мы жылі, там былі пахаваныя. Але там такая была як гара, там далей мы рабілі, там дажа нашыя і соткі былі, рабілі. Там усё гаварылі, што там французы пахаваныя. То там на Беларусі.

*– То там як капцы такія?*

– Не. Там была толька гара. Такая гара. І так ізноў гара. Ізноў. Як кладбішча.

*– Каля якой вёскі эта?*

– Там была вёска... Ні вёска. Там была як бы... Там нескалька хаткаў было. Лу́жы. Лу́жы. Тры хаты.

*– І што там – косткі знаходзілі ці як?*

– Там нічога ні гаварылі, вот як соткі бралі там людзі, так не хацелі там, каб ні разараць, ні раскапаць. Там нічога ні браўшы.

## Юзафоўская гара

Тут Юзэфова. Было. Эта было. А тэраз Юзэпіна. Тут ёсць такая, гэта яны тут ужо літоўцы зрабіўшы. Нейкі камень тут яны, помнік такі зрабіўшы тут. Як бывае во такія гарацкія, там якія свята, так дажа калі, так ішлі з такімі... як з працэсіяй, тут яны сколька раз. Вот і яны ездзяць часта.

## Лячэбная вада

У нас няма такой. Эта лечэбная вада?

*– Ну.*

– Не. Гэта ў Барунах. Баруны, там аж за Ашмяны. Там ест такая студэнка. Я то не ездзіла, але мая саседка, там яна рабіўшы.

*– А ад чаго яна дапамагае?*

– Ну, гавораць, што яна лечэбна Маткі Боскей Барунскай.

## Запусты

Ну, мяса елі болей. Загаўлялі. Хто гасцілі во гдзе там во.

*– Эта ў аўторак?*

– Да. Да дванастай можна ночы есці ўжо. Мяса там. Мясное што.

## Пост

А посля ўжо пост. Ужо сухадні пост быў. Ні так як тэраз, во пост ужо тэраз толька ў пёнтак і то ў Адвэнце і ў посце. А раньша быў пост. Дажа малака не елі. Алей гналі.

## Пра выраб алею

Рабілі алей. А вот алей той я насіла. Там насілі. Лён сеялі. І мелі сяменя этаго. Ну сяменяў ужо сколька там, на пост ужо эта алею гэтаго мелі. І вот сколька там насыпеш этаго, сколька там можам занесці. Мы ўдвюх з сястрой хадзілі. Там дальша. Там былі такія ўстроіўшы, быў такі чалавек, канём малолі. Вот так як... канём такая во...

*– Малатарня?*

– Як малатарня пахожа. Такое. Змалолі тагда. І што ён як там рабіў, тады ссыпаў у такія як мяшкі ў такія. І во так паложыць у адно, на адной там ціснулі такой шрубай. І тут ліўся алей. І я прынесла такі, шэсць літраў алею мы прынеслі. І мы мелі, потым мая мама яго ўжо перапусця, ператопя. Ну ў печцэ. Каб ён такі быў, ні псаваўся бы. І мы прынеслі паставілі гэты алей, а кот прышоў і вывернуў нам. Шэсцьлітровы збанок алею. І назаўтра мы панеслі ізноў. Пашлі. Яшчэ добра што мелі во гэтаго. А тэраз во аліва там якая. А раньша алей. Смачна было.

## ПРА МЯСЦОВЫЯ СТРАВЫ

### Бліны

Бліны пяклі. Картофляныя бліны на аліве пяклі і вот. І там якія. Боб варылі. Там і гарох во. І зупы якія. Капусты якія. Некалі гаварылі яшчэ і малако там збіралі ў посце, ужо гэта не елі там, сколька яны там, я не знаю.

### Аўсяны кісель

Кісель варылі такі з аўса. З аўса варылі кісель. ... Авёс сушылі, там абтаўкалі, там абсякалі, яго абчышчалі. Малолі. Былі такія во. І я малола такімі во. І хлеб пяклі з такой мукі. Во такая скрынка зробленая. Камень такі выбіты.

*– Жорны такія?*

– Жорны. Тут вот дзюрка і там, і наверх гэта другая, тут палка. І во малолі. Сыпіш тут па трошку. І кісель гэты замачавалі, рабілі. Я сама яго рабіла, кісель гэты. Я відзела як мая мама рабіла. Замачавала эту муку гóрачай вадой. Яна падкісне, тады сцэджавалі, і гэты сок увесь, сцэд гэты варылі. І во такі кісель. Так вот назаўтра яго, ён такі, як застыгне, як квашаніна. Так мы яго ўжо.. Скварачкаў так шмат наскварым як во пры худым, пры бочку, як тэраз, во ложак такі. Было дзе. І этаго кісяля і ооо! І эта было.

### Кіндзюк

*– Кіндзюкі ці рабілі такія?*

– Каго?

*– Кіндзюкі.*

– З чаго? З мяса?

*– Ну як свіню заколяць.*

– А, рабілі.

*– А як называлі?*

– Ну вот. Ну, кіндзюкі і называлі. Рулеты там. Кіндзюкі.

*– А ці крываныя бліны рабілі?*

– Рабілі. Мой ацец ён любіў. Мая мама рабіла. Я-то ўжо іх не рабіла, але мы ніхто іх...

### Юшнік

Юшнік варылі во.

*– З крыві?*

– З крыві гэтай во.

*– Ну як яго?*

– А вот гавораць, вот гавораць, што і ні можна гэта тэраз ўжо есці. Эта ні разрашано эту кроў есці. А можа і праўда?

*– А як юшнік даўней рабілі? Трэба хлеб туды?*

– Трэба мяса паварыць, як зупу такую варыш во. А тады кроў, кроў дзе ў якую каструлю расцёрці яе там троха. Ці квас які, як рабілі. Во квас рабілі жытні. І квасу альбо хлеба гэтаго там расцёрці. Насыпаць туды, перацёрці.

*– Ці смачна было?*

– А хто яго ведае? Я не ела, то я тожа яго не магла.

### Жытні квас

А квас во рабілі, то я квас рабіла. Я яго і тэраз люблю. І вырабіць. Жытняй мукі трэба. І вот жытняю муку развесці так густавата і яе як у духоўцэ, як тэраз во німа печы. Некалі былі печы,

а тэраз во і ў духоўцэ папарыць. Ну, напрымер, у печы парылі. І тады яшчэ варылі картофлі. Картофлі як на кашу зробіш такую. Толька ні салёнаю, нічога. І дакладалі. І тады далівалі вот дзе ў якую каструлю. Некалі то былі этыя самыя, такія дзешкі называлі. Дзеравяныя во. Во як бочкі такія. Хлеб пяклі ў гэтакіх, і квас рабілі. І каб ён быў бы ні такі горонцы. І там вады даліваць яшчэ, закрыць, як укісне. Смачны такі, саладкаваты. А яшчэ як падсалодзіш трошка цукрам, так такі можна хоць з чым есці яго. З кашай якой.

### Піва

А піва то не. Я не ведаю, мы не... Мой дзядзька там варыў. Хмелю трэба было там. Хмелю і ячменаю муку якую там рабілі.

### Гарэлка

– *Ну а гарэлку?*

– А гарэлку і муж гнаў. І муж гнаў гарэлку гэтую. Як пры мяне, то было ўжо эта ж посля, тут у лесе ж гналі. Так тожа ж баяліся гдзе там. І брат мелі, такія бравары мелі. Я там не займалася, сястра старшая, то яна тожа бывае гнала. А потым танцы во гдзе робяць, там якія танцы ў вёсцэ во і ў каго ёсць ужо этая водка, так лятуць хлопцы купляяць і дзевак прыглашаяць, і гдзе троха гуляяць там.

### Пра выпечку хлеба

Такая была лапата. Ну вот хлеб эты тожа замешавалі яго, заквашавалі, картофлі дакладалі. І потым ізноў мясілі. Ну як ён ужо падкісне, падойдзе, такі пульхны, мягкі. Смачныя хлебы былі. Тэраз во бывае на базары гдзе прадаюць свае хлябы.

– *А на лапату на лісты якія клалі?*

– На лісты, во такія вот ужо кляновыя лісты, больша збіралі. Во, дзе тэраз кляны во. І збіралі такія гдзе паверху чысценькія на такую палачку ляшчынкі. І дажа мы во, і мая некалі мама. Бо я то ўжо, ужо болей у формах пяклі, але як. На этыя самыя во, нанізывалі во такія во. І на капусныя. Капусныя лісты во падкладалі.

– *А крыж ставілі?*

– Крыж рабілі. Альбо во такія во палоскі рабілі. У першы – крыж, а потым як другія, як я так ужо рабіла, такімі во рабіла палоскі.

– *А на першым крыж абавязкова?*

– На першы – крыж.

– *А палоскі на што тады?*

– Ну ўжо ўкрашэнія якое. Не знаю, як там.

– *А як ужо самы апошні? Булачка гэтая, як? Паскробыш называлі ці?*

– А такія булачкі бывае, во яшчэ, бывае яшчэ...

– *А як апошняя ўжо самая?*

– Ну. Малыя пяклі бывае.

– *То эта ўжо дзіцям можа казалі?*

– Як яны... Ну, забылася як яны... Прысня́чак! Прысня́чкі.

## З МЯСЦОВЫХ ТРАДЫЦЫЙ

### Адведкі

А святкавалі, чаму там? Даўней святкавалі і вечарам, і назаўтра ішлі. Там насілі. Аладкі пяклі, яйкі пяклі. Яйкі пяклі. Во там яшчэ расказавалі, я там ужо ні была там гдзе, але так гаварылі, што адзін мужык гаварыў, што люблю я гэтыя аб'едзіны. Ні адведзіны, а аб'едзіны [смяецца].

Як прыходзяць. Што напякалі яйкаў. І дажа іх ні, як так во пячэцца, так ні пераварачавалі яго. Такое тут во жалток такі красівы. А этых наб'юць во сколька ў місу такую, спякуць, а гэтымі ўбіралі во, і аладкі пяклі.

– *То эта як на адведзіны ішлі?*

– Ну. І на хрэсьбіны тое сама.

– *Але на адведзіны мусілі бабы адныя ісці?*

– Ну, ішлі бабы, але там большэ, гдзе бліжэй так і мужчызнаў клікалі ўжо потым.

**Хрэсьбіны**

– *А на хрэсьбіны ці тапілі бабулю?*

– Ну, тапілі бабулю.

– *А як?*

– У нас во ў ванну былі ўтапіўшы. Мяне чуць не ўтапілі [смяецца].

– *То мусілі адкупляцца гарэлкай?*

– Ну. Ну вот што там ужо адкупіся гэтай гарэлкай на хрэсьбінах. Было гэтых водкаў. Было.

– *Ну а бабуля мусіла напячы этых пячэнняў ці чаго?*

– Ну, пякла тая бабуля. Альбо во на свадзьбу, еслі першыя сваты. Так вот эта сваці была першая, то мусіла яна стол зрабіць назаўтра салодкі. То там, сколька там каштавала, сколька ўсяго трэба было. І там і торты, і там якія цукеркі, і там бутэлька якая ўжо лепшая. Тэраз ужо шампанскае, а перш ужо ж ні было этаго шампанскаго, ужо ж нешта трэба было.

**З аднаго кілішка піць**

– *Ну а даўней з аднаго кілішка пілі ці шмат было?*

– Да. І большэ з аднаго. І было так. Як я ўжо, у нас было кілішкаў гэтых, але я ўжо як помню, дык і потым ужо і стаграмоўкі, такая стаграмоўка бывае, адна і вот яны хочаць з аднэй стаграмоўкі піць.

**Цяжкая рука**

Ну, усё гаварылі, што вот. Бывае, што эта ж выпіў, і тады наліе во для вас во. А вот такі быў сасед там, яго, гаварылі, што цяжкая рука. Што ён еслі наліе. З ім не хацелі сядаць. Што ён еслі наліе, то хварэе эты чалавек потым.

**Замовы**

Ну, вот лячыліся. Па-разнаму лячыліся. Таксама было, як тэраз во. Сколька доктар, то доктар. А лякарства гэта во такое доргае. І лячыліся, вот мая ўнучка тэраз во ляжала ў бальніцы. У бальніцы ляжала. Во тут прышча такая на назе была. І там ужо прызналі, што ружа. А некалі то замаўлялі ўсё. Гэтыя ружы. А тэраз ужо і врачы нібы прызнаюць. Ну што? Пабыла. І тут я прыехала, вродзе бы было нічога ей. Там і капельніцу ставілі, цімпература была. Мусі нядзелю пабыла, апяць паявіліся этыя. І вот і апяць. І замаўляць хадзіла, і хто яго знае, што тут памагала во? І лякарствы на пяйсят літаў, напісалі там нейкія лякарствы.

– *А што былі, што замаўляў тут нехта?*

– Тэраз німа ўжо гэтых бабаў. Каторыя. Тут адна ёсць такая, але што ксяндзы крычаць надто. Ні можна.

– *Тут у Медніках ёсць?*

– Ну, вот яна там так.

– *А ад чаго замаўляе яна?*

– І ружу яна мне замаўляла, але яна і ні хоча так надто казаць, што... Бо эта калі была спаткаўшыся з ксяндзом, ксёндз пытаўся, як там мая ўнучка. Я кажу, што ў бальніцы ляжыць і во і замаўлялі. А я думаю, хоць як скажа. Ну, прызналася што. Прызналася. Бо бывае крычаць ксяндзы. А я і аднэй унучцэ тожа некалі замаўляла пярэпалахі. Во тут. Ну, яна ўжо тэраз дваццаць тры гады ей. Але яны як бы баялася чаго во так, як была малая. І тут баба замаўляла. Я хадзіла да яе замаўляць. Але потым была, ксяндзу як гаварыла, так крычаў. Казаў, што вот відзіш, што старая баба, я старая баба і я веру. Ну, нешта ж трэба было лячыць. Хто яго знае, што яно лепш.

*– На ваду ці на цукар? Як там?*

– І на хлеб. Яна то як пярэпалахі гэтыя, то яна замаўляла, яна ставіла на пясок і як узяла нож, так гэта малая як стала плакаць і ўцякаць. А яна баялася, што яна будзе. А яна там нешта там нажом так абводзіла. Ні знаю я.

*– Ногі?*

– Ага, ага. Пярэпалахі гэта. А ружу, то яна замаўляла гэта баба. Ну, нешта ж троху пашаптала.

*– А тэраз ужо такіх няма баб?*

– Німа ўжо, тэраз болей ужо. Але вот і доктар тэраз ужо вродзе бы лечыць. Сказалі, што ружа во. І сказаў, і вот я была кагда-то ў бальніцы, і тожа баба там была, і прызнавалі, што ружа. Лячылі. А яна папрасіла доктара, што ці можна эту... замаўлячку этую. Сказаў, яна няхай сваё робя, я сваё. І замаўляла прыходзіла. І врачы тэраз ні бароняць ужо.

## Масць жывёлы

Ну, вот некаторыя прызнаюць, як болей старыя жылі ўжо і яны там, што якая масць лепей ідзе. І як ластачка. Некалі. Тэраз неяк ні відаць. Вот бывае такія крушні каменяў. Гдзе во. І такія вылятаяць там як мышкі, такія ластачкі во. І як увідзіш яе, якую ластачку ўвідзіш, – такая будзе жывёла весціся.

*– Якога колеру?*

– Ага. Есць такія рабенькія, есць там якія.

## Рабацінне, ці *пегі*

*– А вот ластачныя гнёзды, можна было трушчыць дзіцям ці, казалі, што не?*

– Гаварылі, што ні можна. Ну, гаварылі, што ў каго такія былі.. пегі такія. На твары. Гаварылі, што гэта ластачкі пароў і за тое яго эта. Эта тожа ніпраўда. Ніпраўда гэта.

## Ад перуна

*– Навальніца летам, як пяруны б'юць, можа ставяць свечку грамнічную ці?*

– Ну, вот хто тэраз маладыя так робяць во? А як я, то я, і хоць калі гэта можна, я там і модлітву такую ўмею. «От перунов, огня, погода дзі, там і напасці, зліхлых людзі, і бронь, наш Пане, і тэго». І вот я там і свечку, грамнічку запаліш і зёлачкаў свенцоных запаліш. Але вот усё гавораць, што некалі казалі, што пад велькім дзеравам ні можна стаяць гдзе. Што ні можна шпількаў такіх, каб былі бы.

## Агацін хлеб

Кажаць ужо, што хлеб Агаты, што трэба абнесці гэты хлеб кругом і ўсрэдзіну ўкінуць. Ну, эта хлеб, то гэта ўжо пэўна. Гэта ні варажба ўжо. І можа ён, што ні разлятаецца эты агонь гдзе.

***Расказвае І. А. Вашкойць (Чэрвінская), 1928 г. н., нарадзілася і жыве ў в. Юзафова мясцовая, каталічка;*** *запіс зроблены ў 2011 г. Ю. Унуковічам.*

### Пра назву Юзафова

Эта места называецца Юзафова. А як тэраз назваўшы Юзапіня тут ужо.

*– Па-літоўску?*

– Па-літоўску.

*– А Юзафова – гэта вёска? Ці як счытаецца?*

– Тут была вёска. Тут была седэмнасця хат. А потым, як стаў выязд у Польшч, як сталі ехаць, тады людзі многа ў Польшч паехалі, многа каго ў Расею вывязлі. Як ужо эта посля вайны. Павывозілі. Ну тут, што тут засталося? Сем хат толька з усіх ужо, як раней было. А тэраз хто пааставаўся? Адныя старыкі. Маладыя пашлі ў горад работаць. Рэдка хто ёсць з маладых. Хто тут з маладых у нас ёсць? Вот тры хаты з маладых толька. Не. Праўда, чатыры.

### Мова і нацыянальнасць

*– А скажыце тут як – па-польску, па-просту гаварылі даўней?*

– Гаварылі во па такому, як я гавару. Ні то па-беларуску, ні то па-руску. Такое мяшанае. Мяшаныя слава. Ні чыста беларускія, ні рускія. Ну, мы па-руску, то мы ўсё панімаем, а па-літоўску то праз... як сказаць? Праз пятае-дзясятае.

*– А як счытаецца – тут палякі ці як?*

– Палякі. Тут палякі счытаяцца.

### Засяленне вёскі

Тут у трыццаць другім гаду людзі пераходзілі на колёніі з вёскаў. На футары пераходзілі. А тут ужо, наша тэрэторыя – такая была пані Камарыха.

*– Эта ў Шумску была?*

– У Шумску. Да. Вот гэтая зямля ўжо, тут куплена Юзафова. Падваранцы вёска. Бацьвінішкі. Там ужо этыя Тумасы. Ну, этыя ўсе вёскі – эта куплена ад Камарыхі. Гэтая зямля. Тут куплена што-то трыста актараў чы што? Гэтай зямлі было. Ну і кажды ўжо. Мой дзядуль меў трыццаць актараў зямлі. Ну, а потым ужо як... на разе і жылі. Меў шэсць сыноў і дачку.

*– А ён адсюль сам?*

– Не, ён з Беларусі.

*– А скуль?*

– А ён сам... зараз... зараз прыпомню. Як жаж гэта вёска... Проста забыла. Перавозьнікі! Перавозьнікі, Быстрыца.

*– На Вяллі эта?*

– Дзе-то там каля Вяллі. Дзядуль быў з Перавозьнік, а бабуля была з Быстрыцы. А тады як, мелі ж многа дзяцей, там мелі толька шэсць актараў зямлі. Тады тут Камарыха прадавала зямлю. Але вот у каторым гаду, ні скажу, я добра ні помню. Так тады гэтую зямлю ўжо прыехалі, сталі купляць тут. Ну і тут такія ўсе папрыяжджалі, купілі там па трыццаць актараў, каторыя і па шэйсят актараў, хто грошай меў.

*– Так ваш дзядуль во тут набыў?*

– Да. Тут во. Тут была сама цэнтра. Нейкі фаліварак тут быў. Які тут фаліварак быў?

*– Ён шнурамі набываў ці як?*

– Не. У куску.

*– У куску?*

– У куску. Кускамі зямлю. Во трыццаць актараў зямлі тут во. Так эта, наўкола на мейсцу. Там вун далей – Казлоўскія. Тэж трыццаць актараў. Там далей – Патайкі былі. Тожа мелі трыццаць актараў такімі кускамі.

*– Ужо лічыліся заможныя гаспадары такія?*

– Ну, тады ж лічыліся заможныя, а потым ужо сталі дзяліць для дзяцей па кусочку.

*– Па-роўну?*

– Па-роўным ужо. Ну, так вот нашыя ўжо там дзеці мелі, мой ужо тата, мелі па дзесяць актараў.

*– То тры былі сыны?*

– Тры сыны тут былі. А так там на дом былі пашоўшы, гдзе-то ў Насканцах на Беларусі. Там быў сын. Тады два сыны яго памярлі ў маладых гадох. У дзеда.

**Калектывізацыя**

Ну, а тут ужо, тады сталі потым, як зашла савецка уласць, тады сталі ж калхозы арганізаваць. Тады этую зямлю ўсю забралі. Будынкі паразварачвалі. Гумно такое велькае было. Хлеў. Хлявы. Усё паразбіралі, комплексы сталі ставіць. У Медніках комплекс паставілі. Тады ў Падваранцах комплекс паставілі. Ну, так ад мужыкоў усё пабралі. І плугі, і бароны, і коні, і колы! Што хто меў якое.

*– Адзіналічнікаў не было такіх?*

– Ну, некаторых было, аставаліся, не ішлі ў калхоз. Ну, так гэтым ні давалі соткаў ніякіх. Так то давалі жаж па трыццаць сотак. А хто ні шоў у калхоз, тому ні давалі. Ну, то тыя кідалі тады ўжо ў хатах.. Хатаў ні забіралі. У хатах аставаліся, а так ішлі ў горад рабіць людзі.

**Гаспадарчыя будынкі**

Гумно велькае было. Забралі ў калхоз гумно.

*– А з манежам?*

– І манеж быў. І малатарня была такая, што манежам гнаць. І арфа была такая. Але арфа, то ўручную круціць. Ну, меў. Усё меў дзядуль.

*– І свіран быў?*

– Свіран быў. Бальшы, харошы свіран. У калхоз забралі свіран. Гумно забралі. Хлеў забралі тэж ужо тожа. Ужо потым тут во мы сабе паставілі старога хлява. Ну і ўсё забралі, зрабілі ж калхоз.

**Хата**

*– Хата ладная была?*

– Хата была на два канцы, але не ў гэтым мейсцу. За гэтай хатай у другім. За сцяной гэтай хаты была хата.

*– То там хата чыстая адна была?*

– Там так была хата. Былі такія сені пасярэдзіне. Камора, як калісьці называлі.

*– У сянях там?*

– У сянях. І другі канец хаты ўжо. Две комнаты з кухнямі былі. Бэз пасярэдзіне. Ну, а тады ўжо гэную хату, як стаў Савецкі Саюз, пад Савецкім Саюзам яшчэ, падзяліліся. Тады гэну хату разабралі. Тады ўжо. Я ўжо жыву ў татынога брата, у роднага дзядзькі хаце. Дзядзька выехаў у Польшч. Як потым сталі вывозіць у Расею, тады сталі людзі ў Польшч выяжджаць. Надта ж многа паехала. Тады ўжо мы гэту хату. Здавалі хаты пад жонд. Мы ад жонду купілі гэту хату. Ужо ад гміны. Тады ўжо мы тут у гэтай хаце, як я ўжо вышла замуж, з мужам тут жылі. А мая хата, ужо дзе я жыла, ужо за гэнай сцяной была.

*– А эта ўжо мужа як бы была?*

– Эта ўжо была наша обшчая хата. Мы ад гміны купялі.

## Вайна

Мы вайны ні відзелі. Не.

*– Тут не было?*

– У нас не было. У нас толька так. Як ішлі на Варшава салдаты, так тут во такая, вун там дарога ёсь. А ў нас тут во быў тынам абгароджаны агарод. Усё пыталіся, ці далёка Варшава. Варшава ці далёка? Але ішлі там так – і такія, і такія, і такія. Бэз аружыя ішлі. Куды яны ішлі, ні знаю. Але ім ні можна было, дажа ні пазвалялі да хатаў заходзіць. Адзін зайшоў, папрасіў, яшчэ бабця мая жыла: «Бабушка, можа вы што-нібудзь пакушаць дасьцё?» Яна яму адрэзала ўжо. Ну, сала, хлеба кусочак. То ён пяць рублей палажыў. Але яны, мусі, грошай мелі з сабой. «Толька хаця нікому ні кажыце, бо нас за гэта растраляць могуць». Ужо каб хаця не ведалі. Ну, а тады як пашлі на Варшава, а потым ужо ў сорак першым гаду немец ішоў на Расею. Так вот тады тата мой памёр у восені якраз. На запалене лёгкіх захварэў, а ні было ні дактароў ніякіх. [плача] Бедны памёр. Два тыгодні. Так вот так мы жыём. Дажываем. А хто паехаў у Польшч. У нас, у засценку, аднаго аспадара ў Расею вывезлі. Ні сказаць, што ён... Ні аднаго, праўда, двух. Двух вывязлі. Патэйку і Багдановіча. У Расею. А потым яны з Расеі пераехалі ў Польшч. То цяпер не ведаю, там ці хтоколек жыве. Там адзін сын жыў, у пазапрошлым гаду прыехаўшы сюды. А ўжо тэраз не ведаю, ці там хто жыюць, ці не.

## Засценак

Тут у нас лічылася дзярэўня Юзафова. Так як. Ні сказаць, што вёска была. Колёніі. Так эта выходзя як засценак.

## Шляхта

А тут шляхтаў у нас не было ніякіх. Шляхта, так яны там болей жылі... Ну як сказаць? Гдзе-то каля Шумска, як эта Камарыха была. Тут такія вот проста жыцелі, што мелі зямлі. З зямлі жылі. Пакупляўшы былі. Яшчэ на чырвонцы куплялі этую зямлю. Чырвоныя. Такія бальшыя, помню. Дзядуля. Валяліся такія во грошы велькія. Чырвонцы гэтыя.

## Меднікі Крулеўскія і Казяловыя

*– Чаму такая назва – Юзафова? Ні тлумачылі?*

– А вот чаму Юзафова, так я гэта ні магу сказаць. Чаму Юзафова. Вот як мы хадзілі ў школу за польскія часы і ксёндз да нас на рэлігію прыходзіў. Так нам Меднікі то сказаў чаму. Што быў там каралеўскі маёнтак. Што медзяй былі пакрытыя хаты. Так вот на гэтым аснаваню назвалі ўжо Меднікі. Меднікі за то, што медзяй хаты былі пакрыты. А Юзафова – як чаму назваўшы, то ні магу.

*– Меднікі Крулеўскія называлі?*

– Крулеўскія. Да. А там ест на Беларусі Казяловыя Меднікі.

*– Якія?*

– Казяловыя.

*– А чаму так яны называюцца?*

– А я ні знаю. Калісьці мы на выцечку хадзілі са школы ў Казяловыя Меднікі. Там стаў быў, школа была. А чаму яны там называліся Казяловыя Меднікі, так вот ні знаю.

## Юзафоўская гара

*– А гару як называлі гэтую?*

– А гэта гара называлася. Тут за польскія часы стаяў бальшы маяк. З гэтаго маяка войска прыязджала здымала такую... вітушка, як яна круціцца. Я відзела ў Вільні, не ведаю, як яе назваць. На гэтай гары быў такі чатырыэтажны столік. Ад каждаго століка па две лесніцы. А лесніца

была два мэтры. Эта каждаго століка чатыры мэтры было. То з трэцяга століка відалася Ліпоўка. Як узлезуць ужо, так да Вільна. Так во гэта была гэта гара. Гэта гара, яна была, Багдана поле было. І потым яны ўзялі ж гэтую гару, што як бы яна ад мора самае высшае мейсца. Ужо так эта. Ад мора самае высокае мейсца. Ну, так тады на гэтай гары былі паставіўшы маяк такі. І тут завшэ, вот да вайны прыяжджала разв... ну як эта сказаць? Ваенная часць нейкая. Бывае тут і тры дні стаяць, яны пляны здымаяць, фатаграфуяць. А потым ужо як зашла савецка власць, тады маяк дзеравянны стаяў. Ён згніў. Як паваліўся, ніхто яго ні паставіў. Так тэраз на гэтым мейсцу паставіўшы караля Ягелы камень. Што як бы ён тут. Але ні ведаю. Ніхто нам ні расказаваў, што ён тут хадзіў.

*– Эта літоўцы ўжо паставілі?*

– Эта літоўцы ўжо паставілі. Тут яны яго і свенцілі, і біскупа былі нам нават прывёзшы. Свянцілі гэты камень.

*– А слуп там стаіць такі?*

– Ну, гэта слуп, так тут яны тожа літоўцы паставілі. Але тут такі ў Ваверках мужык быў, умеў рабіць. Тут кажды год робяць эту кара... кара... Якось эта дзень караля, эта каралё-во-го ўжо свята. Ну, так ён прывёз і паставіў гэты слуп ужо. Што як бы караля гэтаго. Вот эты слуп стаіць цяпер, і камень эты стаіць.

*– А як называлі этую гару тут вы? Юзафова ці эта прыдумалі літоўцы?*

– Мы яе называлі Юзафоўска гара.

*– Так і называлі?*

– Так і называлі. «Куды?» «На маяк!» Як маяк стаяў, так так было. «Куды пойдзем?» «На маяк!» Маладзёш сабіралася на гэты маяк там.

### Валачобнікі-*лалоўнікі*

Лалоўнікі хадзілі. Пад вокны прыходзілі спявалі. «Васолы нам дзісь дзень настаў». Але па-польску ў нас спявалі. У нас не спявалі ні па-беларуску, ні па-руску, а па-польску спявалі.

### Мовы і ідэнтычнасць

У касцеле мы тожа па-польску. У нас і цяпер у касцеле мы молімся па-польску. У нас тут хацелі літоўскую зрабіць, але два разы зрабілі літоўскую імшу. Раз прышлі две бабы нейкія, а другі раз – ні адна ні прышла.

*– А што тут былі літвіны?*

– У нас тут не было. Вабшчэ мы па-літоўску нічога гаварыць не ўмелі. Мы па-беларуску, кажа, ад дзядоў нашых. А як мы ад дзядоў гаварылі па-беларуску, як прышла савецка власць, так нам ні было разніцы па-руску чы па-беларуску. Ну, там ні так жаж ужо па-беларуску выразне мы гаворым. І па-руску ні так жаж выразне. Але мы панімаем гэты язык. А літоўскага языка так мы гэтага нічога не панімалі. Тут нашыя ўсе бацькі, дзяды, дык казалі – гэта гусіны язык.

*– Чаму?*

– Ну дзе ж, як ніпанятны людзям? Кажа, ну ўжо гусі, кажа, прышлі. Гусіны язык.

### Граніца

*– А калі яны ўжо зайшлі літвіны? У сорак?*

– Літвіны?

*– У трыццаць дзевятым?*

– Чакай. Першы раз яны зайшлі ў сорак... Ні ў сорак. Вот забыла. Не, не магу ўспомніць. Вот два разы граніцу рабілі гэту. Раз зрабілі граніцу. Тут яны абазначылі гэтую Літву. Тут я ўжо ні магу вам ясна расказаць. А другі раз ужо, як савецка власць зайшла, тады ўжо ўстанавілі во такую граніцу, як яна цяпер нормально пастанаўлена. А так, так была такая граніца, што там і пераходзілі, і гандляваліся. Сюды-туды хадзілі людзі. Называлася, што граніца. Там ужо Літва.

*– А дзе Літва пачынаецца? Яна там ужо такая?*

– Як калісьці Літва пачыналася, то было ўжо гэта. Польская была граніца, то яна была аж каля самаго Мінска, пятнасця кілёметраў ад Мінска. Эта касцёл каля Мінска ёсць. З нашага прыезду ад лініі да Мінска едзіш, вот ні помню, як ён называецца эты касцёл. Ёсць касцёл там. Вот я сколька ездзіла ўжо і за савецкай власцяй, то там ёсць касцёл. Так вот я хоць, была граніца недалёка гэнаго касцёла. Польская. А тады палякі аддалі. Эта ні палякі. Рускія. Аддалі літоўцам. Але літоўцам аддалі, так толька во па гэту старую граніцу. А там ужо Беларусь забрала.

*– А ўжо літвіны дзе жывуць, яны тут у Літве? Тут жаж няма тэраз?*

– Ёсць у Медніках там.

*– Ну там прыезныя такія?*

– Прыезныя такія, вот то наўчыцелямі робяць, то там дзе у якім.

*– А ўжо дзе іхныя вёскі пачынаюцца гэтай Літвы?*

– А Літва пачынаецца, так я ні знаю, адкуль яна за Вільняй пачынаецца гэтая Літва.

### Вільня

Ну, як ні было этых аўтобусаў, што так, то коньмі ездзілі, то пяшком хадзілі. Я і сама два разы ў Вільню пяшком хадзіла.

*– На Падгалю ці куды?*

– Ну, у Падгалю. Ці там бывае дзе. Але найболей каля Галі быў рынак такі. Хазяйскі. Там і з вазамі стаялі, там можна было і смятану прадаць, і збожа якое, і дровы. Што там ні прадавалі!

*– А вы чаго хадзілі?*

– Я то раз хадзіла, што была сабе туфлі заказаўшы пашыць, а тут трэба было схадзіць за імі. Так туды папутнай машынай даехала, назад якраз першаго мая было. Так машыны ні хадзілі, так назад пяшком ішлі з аднэй суседкай.

*– Па часе колькі выходзіла так? Колькі гадзінаў?*

– Ну, мусі гадзін пяць, то мусі ішлі. Ні скажу. Хто там меў калісьці загарак той?

### На *Каліварыю* хадзілі

*– А на Каліварыю ці хадзілі?*

– На Каліварыю хадзілі, з працэсіяй ад касцёла хадзілі на Каліварыю. Найболей хадзілі на Пятра. На Пётра і Паўла, то было ўрочысце. Ужо да Каліварыі. Там было, Божа, не прайсці! Там і коньмі людзі ехалі, і пяшком працэсіямі ішлі. Ну і так хадзілі.

*– Там ужо на Каліварыі ўсе былі? І літвіны, і палякі, там усе?*

– А хто іх ведае, можа там хто і па-літоўску. Як палякі хадзілі, але як яшчэ мы былі ўжо, так ужо па-польску ўсе гаварылі. Хто па-польску, хто па-просту.

*– А да Каліварыі праз мост ішлі ці там перапраўляліся на лодках?*

– Я, веш, не магу вам аб'ясніць, сказаць. Я так даўно была ў тэй Кальварыі, што ўжо ні помню як мы хадзілі.

### Мовы, падарожжы, граніцы

*– А ў Вільна як гаварылі там – па-польску ці па-літоўску? Ці як?*

– А ў Вільні мы па-літоўску ні чулі. Мы як за савецкай власцяй, то найболей чулі па... я сама рабіла ў бальніцы. Але мы гаварылі ўсе па-руску. За савецкай власцяй. А як зайшла... там літвіны тыя, там яны самы з сабой бывая гаварылі. Там этыя. Дактары там, сёстры. Я там санітаркай рабіла. Альбо найболей і з намі па-руску гаварылі.

*– Чы праўду кажаць, што яны такія «заядлыя»? Што як ні па-літоўску запытаеш, то ні ў той бок пакажуць там дарогу?*

– А хто іх ведае? Я і не магу сказаць. Як я нідзе далей Вільна... Я ездзіла. І ў Польшч ездзіла, то там па-польску гаварылі. І на Беларусь ездзіла. Ну, на Літве, так як эта Літва там ёсць далей,

я там ні разу ні была на гэтай Літве. Кайшадэрыс там, гэны там Каўнас. Там этыя іхныя рэспублікі. То я там, ні скажу, ні была. Дзеці нашыя ўсе ўмеяць па-літоўску гаварыць.

*– А на Беларусі былі?*

– А на Беларусі сколька раз я была. Я болей была на Беларусі, як у Вільні.

*– Чы адрозніваецца што тут вот?*

– А хто яго ведае? Як нам – так нам нічога не адрозніваецца. Там можа цэны троха ўжо. Як паміняліся грошы, так канешне адрожніваюцца. Але была савецка уласць, так я была і многа дзе. Я і ў Маскве была, я і на Беларусі была. Мы этую... ездзілі, тады можна было, і ў Рызе была. У Рызэ нават мая адна дачка жыве. Як былі савецкія грошы. А як паміняліся грошы, так ужо з нашымі літоўскімі грашыма няма куды ехаць. Трэба ехаць на граніцу, трэба мяняць, трэба дакументы выраблясць. Так ні паедзеш на Беларусь цяпер ужо. Так цяпер куды ўжо нам ехаць, як ужо мы каля хаты з кіямі ходзім. Куды нам ужо ехаць цяпер? Маладыя едуць.

**Пра замовы**

*– Напэўна, былі, што і замаўлялі бабы?*

– Ой, яшчэ як было! Сколька ў нас у засценку было бабаў этых, што загаварывалі.

*– А тэраз ужо няма?*

– Паўміралі старыя. А маладыя ніхто ні ўмее.

*– А ад чаго загаваруяць?*

– А ні знаю, усё загаварывалі. І рожу, загаварывалі. Навет у нас была старуха такая, яна еслі зубы баляць, яны ні рваныя, яна зубы замовя і зубы пераставалі балець. Ну і каровам замаўлялі там, ужо гэтыя і ўрокі, там усё. Многа што.

*– А як гадзюка там укуся?*

– Во гадзіну замаўлялі. Тады як эта. Каня неяк як. Як ахват ці што. Каню. Тожа загаварывалі. Многа што загаварывалі.

*– А як? На ваду, на цукар?*

– І на хлебе загаварывалі, і на вадзе загаварывалі, і на цукру, і на кміне там як загаварывалі разныя.

*– А вы не ўмееце? Не?*

– Не, не, я не ўмею нічога.

**Замова ад парушэння**

Ну, у нас адна старуха ўмела загаварываць. У мяне дачка падняла цэлы.. ні помню, што яна тут... посцілку травы што лі. Ей так стаў жывот балець, што яна не магла ні падысці, ні што. Эта называлася парушэня. Яна загаварыла ей прышла на гэтым... На чым ж яна ей... На хлебе. Яна з'ела гэтага кусочак хлеба, паляжала троху, устала і пайшла. Але ўжо німа старых гэтых. Нікога німа старых, а маладыя ў нас у засценку ніхто ні ўмеяць. Там дзе-то, казалі, далей там вёска Скарбодзішкі ёсць, тры кілёметры ад нас, так казалі, што бабка адна ўмее загаварываць. І пярэпалахі загаваруе, там многа што яна загаваруе. Можа матка ці бабуля навучыўшы.

**Перадаваць замовы**

Кажаць, што еслі ўжо старэйшая. Першай дачцэ ці першаму сыну перадае замовы. Гэта ўжо, што памоцныя.

**Пра адсутнасць часу**

Ну, так гаварылі так. Эта і нам дзяцём гаварылі, што хадзіў Бог па зямлі. Як помню, бабуля нам расказавала. Кажа, Бог як хадзіў па зямлі, папытаўся ў бабы дарогу. Так кажа, баба палола грады. Гэта ж, мусі, байка. Кажа, палола грады, рукі занятыя, так яна нагой, кажа, вун у гэны бок. Так вот,

кажа, за тое гэта баба нігды і часу не мае. А мужык, кажа, стаў з Богам пагаварыў. Ну і праўда, гэтыя мужыкі яны як зойдуцца, то іх трэба бывае праз акно ганяць. А скока вы ж будзіця стаяць? Ці з кілішкам зышліся ці гаворкай. А бабы – яны ўсё не маяць часу. У іх работы і ў хаце поўна, і на дварэ поўна, і ўсюды. У гэтых бабаў. Ці эта такая анэкдотка была сказана, ці эта праўда была?

### Як зязюля закукуе

*– А як пачуеш зязюлю?*

– Ну ўжо кажаць, вясна будзе ўжо. Бывае яна яшчэ. «Ой, – кажа, – будзе зімная вясна, бо на зялёны лес зязюля закукавала».

*– А трэба мець у кішэні?*

– Ну, бывае кажаць, што вот трэба мець што-кольвек у кішані.

### З успамінаў пра Пілсудскага

Пілсудзкі перад самай вайной памёр. Пілсудзкі памёр, Рыдзу-Сміглага наставілі. Рыдз-Сміглы замест мяса жыдоў прадаў у Польшч з Германіі. І вайна началася. Што ж ён? Два ці тры эшалоны жыдоў у Польшч параслаў, а потым бедных іх за савецкай уласцяй, за літвінамі іх, як іх павыстрэльвалі. У нас во тут во Андрэлішкі была вёска жыдоўска, дажа сінагога іхна была тут. Тады была там, да Тургель ідучы, была вёска жыдоўска. У Медніках былі вёскі. Паўвёскі жыдоўскай.

### Шабат

Яны не працавалі ў суботу. У суботу, вот у нас ужо тут Андрэлішкі, то была блізка саўсём вёска. Яны наймалі ўжо мужыкоў на работу. У іх у суботу сінагога рабіла, ужо малебены былі. І яны вот.

### Жыдоўская Вельканоц

І жыдоўску Вельканоц помню. На жыдоўску Вельканоц – у іх чатыры дні свята. Першыя два дні, яны перад гэтым, яны робяць есці. Два дні яны нічога не робяць. Мацы напёкшы, там ужо нашыкаваўшы есці, а жывёлу кормяць людзі. Жывёлу дзяржалі. Усё дзяржалі: каровы, гавечкі. Вот ні магу сказаць, ці дзяржалі жыды свіня. Вот што-та не ўзляцела ў памяці. А тады ўжо два дні яны маяць вольныя. Узноў самыя робяць. Ад тады посля двух дней узноў два дні святкуяць. Эта ў іх ужо шэсць дней свята. І мацу іхную ела нават, эту жыдоўскую.

*– А ці праўда кажуць, што ў мацу яны мусілі кроў там...*

– Вот эта так гаварылі. Калісьці расказавала бабуля наша, што ўжо, кажа, прад жыдоўскім святам не выпускайце дзеці. А то, кажа, украдуць дзе-колек, што ложаць у бочку, бочка ўжо гэная цвякамі набітая і ў гэнай бочцэ ўжо качаяць этаго ўжо дзіця. Але дзіця такое, каторае малое яшчэ там такое. Ну, нігрэшнае. Але ці гэта праўда была, ці гэта ніпраўда. Ну, аддзельная была маца іхна, каторая яны елі на сваю Паску, то ў іх была аддзельная маца. А ўжо каторай там угашчалі людзей і каторую... Яны хлеба не елі праз этых шэсць дней. Яны толька елі мацу. Так вот гэтай мацой, то я... Ужо гэту мацу я еўшы.

*– То, а кучкі жыдоўскія помніця?*

– Вот помню, гаварылі. Кажа. «Вун, – кажа, – пашлі жыды, збіраяцца ўжо на кучкі». Кажа, што на кучках як бы аднаго жыда мусяць украсці. Ці гэта праўда, ці эта не. Ну, але гэтага я ні чула. Нігды жыды ні казалі, што там у іх хто прапаў. Можа эта тайна так. Але так, каб расказывалі, што вот у нас там на кучках ці на якім свяце жыд прапаў. З гэтай ужо іхнай сінагогі. Гэта ні чула. Але гаварыць гаварылі, што на іхных ужо кучках, то муся адзін жыд прапасці. А ці праўда гэта чы не...

## Цыганы

Цыганоў то хватала. Фурамі прыяжджалі. Буды парабіўшы такія. А ўжо як прыедуць, то так трэба пільнавацца, хаця чаго-кольвек не ўкралі. А вот цяпер не ездзяць у нас цыганы.

## Рынак

У Тургелях, у Шумску быў рынак. У Тургелях быў рынак. І цяпер у Тургелях ёсць рынак. Вот у Шумску, то ні знаю. Я даўно была ў Шумску. У Шумску каля бальніцы тут недалёка быў рынак. А ў Тургелях, то і тэраз рынак – чвартэк і нядзеля. У Рудоміне ўжо тэраз адкрыўшы, рынак ёсць. Ужо ў Рудоміне там завшэ ў суботу бывае. А так такіх болей рынкаў блізкіх у нас не было. Два рынкі былі, такія вясковыя.

## Куцця

Як Куцю святкавалі? Вот арганісты возя аплаткі перад Куцёй. Цяпер то ўжо ідзеш у ксяндза купляеш аплаткі, а раней арганісты вазіў па хатах. Ужо там за аплатку арганістам што – колек плацілі. Ён усё браў. Ён меў хазяйства, так ён браў і збожа, там і цыбулю. Ну што ёсць, тое браў ужо арганісты за аплатку. А тады ўжо на... Дваццаць чвартаго робяць яду поснаю. Ужо вечарам, там у часоў дзесяць якіх сядаяць куцю есці. А ў дванасця ўжо на пастэрку ідзём пяшком. Цяпер ужо машынамі едуць. У дванасця часоў на пастэрку едуць у касцёл. А так ужо, хто мог, той пяшком хадзіў, а хто не мог, ужо ў хаце.

*– Ну а перад Куцёй у лазню хадзілі?*

– У лазню завшэ ходзім, а цяпер так мы і штосуботу ходзім, як маем дзе памыцца. Хто меў лазню, то хадзіў. Хто не меў, ды ў хаце памыўся.

*– З ранку прыбіраліся ў хаце?*

– Ну, прыбіраліся з раня, а то яшчэ і днём раней. Ужо ўсё прыбіраяць, шыкуяцца да свята людзі, всё чысцяць.

*– Ну а колькі патраў мусіла быць на стале?*

– Дванасця.

*– А чаму так?*

– А вот чаму дванасця, як бы за тое, што Пан Езус меў дванасця апостóлув. Казалі. Так вот эта ўжо дванасця патраў трэба, каб было на стале. Завшэ ўжо. Лічылі, каб што. Што бы не была, але каб дванасця ўжо было патраў.

*– Сена клалі?*

– Сена. Абрус. На абрус ставяць у талерацэ ўжо аплатку. Тады этай аплаткай ламаяцца ўжо з усімі. Цалуяцца, паздраўляяць.

*– А хто пачынаў вячэру? Ужо бацька?*

– Як раней жыў дзядуль, то дзядуль пачынаў вячэру.

*– Старэйшы самы?*

– Старэйшы. Самы старэйшы. Бацька. А тэраз ужо, як ядзём аплатку, так тут ужо такіх з маіх дзяцей нікога старэйшага няма, так ужо мяне застаўляяць.

*– А дзядуль як пачынаў?*

– Ну, гаварылі «Ойча наш» і «Здровась Марыя». Паражыгнаяцца, згавораць «Ойча наш» і «Здровась Марыя». Ну і: «Дай, Божа, шчасліваго года дачакаць». Вот эта быў пачатак ужо.

*– Ну а ні было такой моды, што клікаць там мароз у акно?*

– Гэта не мароз. Гэта толька, знаеш, ужо як маладзёш былі. Так там ішлі дровы збіралі. Лічылі сколька да пары паленаў. Платы там абымалі. Там слухалі, дзе сабакі брэшаць, у тую старану замуж пойдзеш. А ці эта праўда была? Пагавор такі быў ужо. Нам гаварылі так. Эта ўжо куцю з'еўшы.

*– А як варажылі дзяўчаты, каб мужа будучага прысніць можа?*

– А ведаеш, я скажу так. Што мы як тут былі так ні ў вёсцэ, на колёніях, так мы ні сабіраліся нігды дзяўчаты і варожкамі гэтымі ні займаліся. Бо хата ад хаты далёка, а ўвечары ні хочаць, то хто там будзе сходзіцца куды. А старыя так і не любілі, яшчэ каб так маладзёжы набралася там поўна хата і шумелі, як у нас было.

**Сена з-пад абруса**

*– Ну а вот сена з-пад абруса, куды яго трэба было?*

– Жывёле нясуць. Ну, там сколька падсцеляць. Сколька там пад абрус сена сцеляць. Ну так вот панясе там гавечкам, там карове, там каню. Вот усім па трошку занясе.

*– А куцці не неслі?*

– А аплатку... Аплатку так не няслі, з аплаткай ужо бывае после свята дзеці з'яжджаліся ўжо, так паздраўлялі потым, то дзяцей, то суседы прыдуць. То ў нас такая была. Аплатку не насілі.

**Святыя вечары**

Ну, ужо тады ж ні прадуць, ужо нішто.

*– Эта як сонца сядзе ўжо?*

– Ну ні сонца. Бывае, што ўжо і сцямнее. Ну і ўсё. Эта ўжо шчыталіся святыя вечары. Так як у вёсках, ну то што? Сабяруцца дзяўчаты там, то песні спяваяць, то што. А як у нас на колёніі, так там такія святыя вечары. Не было, як яшчэ за польскія часы, ні тэлівізара, ні свету. Лямпы гарэлі. Мы свет дасталі ўжо за савецкай уласцяй. У нас не было свету. Так што рабіць? Палезуць ці якую лямпачку, ці куралёк запаляць. На печы ксёнжкі чытаяць седзячы. Былі рускія печы. Ужо цяпер і печаў німа ўжо этых рускіх. Паразварачвалі.

**Запусты**

Ну, а што ўжо на Запусты? Сабяруцца, там па кілішку вып'юць, там мяса. Ужо на Папялец ужо мяса не ядуць.

*– А колькі разоў трэба было пад'есці на Запусты?*

– А сколька, мусі, хто хацеў.

*– Як больш, то лепш?*

– А хто яго ведае, ні ведаю. Ні казалі там нам сколька.

*– А што на Запусты елі? Тлусцейшае?*

– А што елі на Запусты? Як на вёсцэ. Кілбасаў звараць там ужо, што-колек спякуць смачнейшага. Болей мясное на Запусты елі. А ўжо на Папялец ужо там сялёдку, калі маеш. А не маеш сялёдкі, квасу якога, бульбы навараць.

*– А на Запусты не было такой моды, што дзецям арэлі такія рабілі гушкацца?*

– Эта бывае як у каго бэлькі былі ў хаце, так да бэлькі прывяжаць вяроўку, там дзеці. А так зімно, куды іх выправіш дзеці, калі яны не мелі што абуць цёплае.

*– У гумне можа рабілі?*

– Не, не рабілі.

*– У хаце?*

– У хаце.

*– А чаму так эта?*

– Ну, веш, як куды там дзеці, як.. Я такая, можа быць як у вашых гадох, за польскай было ўсё доргае. Людзі ні мелі ні... Рэдка хто меў з людзей ровар. Эта з выёнтку хто меў ровар. Таксама ўсё. Як і карасіна была доргая, так і цукер быў доргі. Усё было дарагое.

*– То можа, казалі, лён каб даўжэйшы быў, то трэба гушкацца?*

– Вот гэтага не ведаю. Я забабонаў гэтых ні помню, ні расказавалі.

*– Што на конях там ездзіць?*

– Ну, на Запусты запрагалі коней. Як ужо ехалі куды ў госці, бразгуны надзявалі каню на шыю. Ужо з бразгунамі ехалі. Ці ў касцёл ужо едуць, так бразгуны. І на каня бразгуны начапяць, ужо як едуць. Але так эта, вэдля чаго гэта, так я ні ведаю, ці гэта.

## Звеставанне

Ну, ні ходзяць і цяпер, а чаму ні ходзяць, вот і ні знаю. Ужо на Звеставаня ні пазваляяць. Што кажа, ужо Звеставаня, ужо каб з лесу нічога не нясці. Што як бы воўк там жывёлу пакрадзе, калісьці гавечкі. А тэраз, так я ні ведаю.

## Вайлакі

Сукно ткалі такое, армякі шылі. Вайлакі білі. А і цяпер во ў вайлакох хаджу, бо старая, у ногі зімна. Так абуўшы. І хаджу.

*– А шапкі не рабілі такія?*

– А хто іх ведае, шапкаў то ні рабілі. Шапкі куплялі. А так. Найболей то ткалі ўсё з воўны.

## Першы выган жывёлы

Помню толька што вот. Жывёлу як выганялі. То помню, што дзядуль браў на Вербнаю, што свенця вярбу, так бярэ гэтую з вярбы вітачку і ідзе з хлява жывёлу выганяя.

## На Юр'я

Ну, кажаць, што на Юрыя не можна нясці з лесу ўжо нічога. Ні віткаў ніякіх, ні дроў, нічога. І цяпер кажаць, што на Юрыя не трэба нясці нічога.

## Жніво

*– А даўней вы жалі сярпом?*

– Сярпамі жалі.

*– Так як вот зажыналі?*

– Зажыналі, то першы сноп маленачкі такі вот, як добрую жменю абняць. Пярэвезелкам і прынасілі ў кут. Перад абразы ставілі ў хаце. Эта называўся «аспадара дахаты прыняслі». А потым як ужо сажнуць жыта, тады ўжо дажынькі спраўлялі некаторыя. Не ўсе там. Хто меў. Ужо спявалі песні ўжо. Ужо сабралі з поля ўсё, ужо дажынькі. У нас тэраз ужо і ксёндз устроіў дажынькі, ужо робя.

## Сноп-гаспадар

*– А аспадар гэты, да каторага часу ў куце стаяў?*

– Гэта як ужо снапы возяць у гумно, тады забіраяць аспадара, гэтаго ўжо з хаты ў гумно разам.

*– На ток туды?*

– Так. Туды да збожа ўжо.

## Плён, жыта, плён

Пажалі жыта, пажнём і ярку.
Пойдзем да пана, да фаліварку.
Плён, жыта, плён, зэ вшэсткіх строн.

Ну там у песні, там яе канца няма. Там як намяшаяць потым. І харошую, і брыдкую.

### Нараджалі-то ў хатах...

У полі радзілі. Радзілі-то ў хатах. Я сама двое дзяцей у хаце радзіла.

*– А прымала бабка?*

– Прымала саседка, тут была бабка і прымала. Адзін раз, ужо за калхозам. Асталася адна ў хаце, нікога няма. А муж быў брыгадзірам тады ў калхозе. Гляджу, тут сена грабуць. Памахала рукой. Ён кажа, а дзе ж тут, трэба ляцець аж у Меднікі, эту скорую вызываць. Ні тэлефонаў тады не было яшчэ. Ні мелі з сабой нічога. Так бабулю гэную пазвалі. Гэная бабуля роды прыняла, так і вырасла і дзісь жые.

### Пра павітуху

*– Ну а як хрэсьбіны, то яе ўжо запрашалі?*

– Запрашалі ўжо бабулю на хрэсьбіны. ... А нічога там бабуля ні пякла.

*– Ні кукарэкала там?*

– Ну вот на цукеркі бабулі дадуць. Яна паставя на стол. А гэтыя цукеркі потым выкупляяць на хрэсьбінах ужо. Ну і бабулі завшэ ўжо дарылі там. То на блюску, то на сукенку, ужо за гэта бабулі ўжо. Я ні брала грошы ўжо. Бо цяпер то за ўсё бяруць.

***

Тэраз чалавека хаваяць – грошы бяруць. І па ім спяваяць – грошы бяруць. Тэраз я ні знаю, такі народ стаў, што мне дзіва з этаго народу тэраз! Што ні было такога жэстокого народу, як тэраз народ стаў! Раней у нас было так. Еслі пахароны ў каго – ідуць людзі задáрма памагаяць, задáрма і труну зробяць з доскаў. Няма яшчэ сваіх – саседзі знясуцца па дасцэ, бо там ні куплялі даўней доскаў. Зробяць труну і крыж зробяць. І па нябожчыку спяваяць, нігды ніхто там ні капейкі ні возьмя! А тэраз, так тэраз я ні знаю. Тэраз у нас тут ходзяць дзве бабы такія спяваць. Паспявалі, як прышлі ў часоў дзесяць, да дванастай паспявалі. На заўтра, у сколька вы там будзіця – там у едэнасця? Покуль пахаваяць на магільніку. Паспявалі ну там ужо на абед. Сто літаў!

### Пра выбар кумоў

А болей неяк, я ні знаю, у нас як было так, што болей суседаў. Кажа, свой на... Была прымавіско такое. Свой на баку, а сусед на ваку! Ужо болей суседаў выбіралі.

### У дарогу

Ну, даўней так. Неяк як выяжджалі, помню, коньмі ў Вільню едуць, так там бяруць то абразічак з сабой, то хлеба свянцонаго кусочак.

*– Агатняга?*

– Ну, Агаты. То завшэ меў чалавек то ражанец, то якое медалік на шые. А тэраз ужо, вот гэтаго неяк за савецкай власцяй паадвыкалі. Так мала там хто. Ніхто там. Як сеў, так і паехаў.

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК КАЙШАДОРСКАГА РАЁНА

### Тэксты з вёскі Няпракшта

***Расказвае Гэлена (Эляна) Маркявічэне (Грэндайце), 1931 г. н., родам з в. Дубялы, з 1969 г. жыве ў в. Няпракшта, каталічка;*** *запіс зроблены ў 2007 г. Ю. І. Унуковічам і С. Багачунас.*

Мне ўсё роўна па-гудаску. Я з самаго дзецтва па-гудаску гаварыла. Во і мая дачка. Трэба было ісці ў вучылішча, а яна па-гудаску гаварыла. Тады цяжка было ей. Але посьля прывыкла і гаварыла па-літоўску.

*– А дзе Вы нарадзіліся? У якой вёсцы?*

– Свірпляні вёска.

*– І там усе па-гудаску гаварылі?*

– Усе. Тут знаеце вот: Свірпляні, Ламянцы, Дубялы. Тры вёскі былі. Яны ўсе гаварылі па-гудаску.

*– А цяпер ці многа людзей такіх вот, каторыя...*

– Ну, знаіш, цяпер ужо мала.

*– Ну, вот Вы, а тут яшчэ хто ёсць такія?*

– У нас тут ужо... Ну, яшчэ ёсціць адна такая старая, яшчэ старшая мяне. Бо я трыццаць першага року радзіўшыся. Але яшчэ ёсць старшая. Але ўжо цяпер маладыя ня гаворуць, ужо і ня знаюць.

*– Але дачка Вашая то ўмее?*

– Па-руску яна ўмее, а па-гудаску ўжэ яна і запомніла. Ей ужо ня... Тут мусі... пачакай. Яшчэ мой старык жыў. Гэта ўжэ дзесяць лет назад. То ездзілі з Беларусіі, хадзіў і запісываў песні. Па-гудаску. Эта яшчэ я тады магла спяваць, так я яму яшчэ тры песні саспявала.

*– А хто эта ездзіў такі?*

– Малады такі чалавек. Ну, ён сказаў, што ён з Беларусіі. Вот ён хоча пласцінькі такія посьля пусціць. Запісаў маё і йімя, і фамілія запісаў. Ну, ня знаю.

*– А адкуль вот, можа старыя казалі, там бацькі, дзяды распавядалі, адкуль этыя беларусы тут узяліся?*

– А яны, знаіш, тут многа было. Цэламы вёскамы было, бо гаварылі па-гудаску.

*– Так адкуль эта – перасяліліся ці?..*

– Не, не. Месныя.

*– Са старых часоў, з даўных было?*

– З даўных, з даўных часоў.

*– І не казалі адкуль? Можа там плыты гналі? Можа там што?*

– Ну, дзе гэтаго, гэтаго я ўжо ня помню. Толькі я знаю, што гаварылі па-гудаску.

*– А вот у сям'і Вашай – бацька Вашы, мама былі як?*

– Яны былі па нацыянальнасці літоўцы. А гаварылі па-гудаску. Баба мая. І адныя дзяды, і другія гаварылі па-гудаску. Вот.

*– А якія фаміліі былі ў Вас?*

– Мая матка была, бацькі была фамілія Грэнда. І майго бацька бацька быў Грэнда. Вот яны пажаніліся тады. Але толькі яны ніякáя не была радня, яны проста чужыя. Толька аднафамільцы былі. Во і пажаніліся.

*– А па мужу як Ваша фамілія тады?*

– Маркявічене. Да, ужо другая. А я была Грендайце. Как была па бацьке, так была Грендайце. А цяпер ужо Маркявічене.

*– Так і мама, і бацька Вашы па-гудаску гаварылі?*

– Па-гудаску, па-гудаску.

*– А муж Ваш?*

– Мой муж... Ну, знаіш, ён ужо з літоўскай дружыны прышоў. Ну, але тут, знаіш, была руская ўласць, ужо ён па-руску ўжо сталкаваў. Але каб так гаварыў...

*– А з якой вёскі ён быў?*

– Антанойць вёска была.

*– То там ужо літоўцы?*

– Там большэ былі літоўцы. Ну, тут была такіх, што сем'і па-польску гаварылі. Во такая мешаніна тут была. Але па-гудаску толькі, я знаю, наша вёска была васемнасця ўсадзьбаў, так усе былі гудасы. Усе гаварылі па-гудаску.

*– У Свірплянах?*

– У Свірплянях.

*– Так называлі сябе гудасы? Ці літоўцы называлі сябе?*

– Ну, яны літоўцамі называліся, але па-гудаску гаварылі. Як дзе трэба там. Ну, там дзе-небудзь паехаць у якое там с какімі дзяламі гаварылі і па-літоўску. Яны зналі і па-літоўску. Панімалі. Але гаварылі ўсе па-гудаску.

***

*– А скуль Вы па-літоўску ўмееце?*

– Ну, так я жа пайшла ў школу.

*– А бацькі ці ўмелі па-літоўску?*

– Гаварылі па-літоўску.

*– А дзяды?*

– Ну, дзядэ то ўжо не.

*– Па-літоўску не ўмелі?*

– Не, не ўмелі. Не.

***

*– А як можа атлічаліся этыя гудасы там? Ну, як літоўцы там, ці палякі? Можа там другія святы святкавалі? Ці што?*

– Не. Святкавалі. Нет. У нас вот пасёлак быў адзін рускі. Чыста рускія жылі.

*– Эта стараверы былі?*

– Да. Стараверы. Эта маскалі, как іх завуць. Стараверы. І вот патом здзесь быў пасёлак. На гарэ. Тожа рускія жылі.

*– А дзе тыя маскалі? Які вёскі эта?*

– Тут была вёска, но яна небальшая. Там было наверна сем усадзьбаў. Так называлася Наднацье. А во здзесь вот, во ў самым угалку – называўся Зялёны Барок.

### Вёскі, у якіх жылі *гудасы*

*– То там Ламянцы ўжо?*

– А Ламян, там за рэчкай, ужо тут рэчка Ламяна́. І за рэчкай там ужэ Ламянцы.

*– І там ужо таксама па-гудаску?*

– Па-гудаску, па-гудаску.

*– У Свірпляных, у Ламянцах і...*

– І ў Дубялах. Дубялы яшчэ была вёска.

*– А цяпер ёсць такая вёска Дубялы?*

– Ну, знаіш, цяпер вёскі тэй ужо няма. Знаіш, как гналі ўсіх во ў пасёлкі, так цяпер адныя ў Паломені, другія ў ... во ў Няпракшту. Са Свірплянь во ў Няпракшту пераехалі. Ну, так цяпер такая перамеха. Ну, цяпер ужо тэй вёскі няма. Во Свірпляняў няма. Ужо няма цяпер. Ужо Няпракшта пішамся. Ва ўсіх дакумэнтах ужэ. Нашай вёскі няма.

### Пра мясцовую гаворку *па-гудаску*

*– А скажыце, тут ці ёсць з кім пагаварыць цяпер па-гудаску? Ці гаворыце з кім-небудзь?*

– Не. Вот мая хросная матка, во тут во жыла, але ўжэ яна дзесяць лет як памярла. То яна бывала прыдзе са мной і па-гудаску гаварылі мы з ей. Прыхадзіла. А так ужэ няма. Яе брат быў. Такой Баніфац. Той ужэ памёр.

*– Так ужо ні з кім, ні з кім апошнія дзесяць год і не гаворыце па-гудаску?*

– Не. Ні з кім, ні з кім. Цяпер ужэ няма з кім.

*– І не забываецца?*

– Не, не. Што з дзецтва помніцца, не забываецца нікагда. Ніколі не забываецца.

*– Так, а якая родная для Вас мова – гудаская ці літоўская?*

– Літоўская ўжэ цяпер. Как была ў дзецтве...

*– Не. А з дзяцінтва, што вот родная? Такая першая самая?*

– Ну, то гудаская была. Па-гудаску гаварылі гудасы.

*– А па-гудаску эта як? Эта па-беларуску? Ці як?*

– Ну, як бы та ў нас тут вайной было прывезена з Беларусіі. З Полацка было прывезена. Дзве сям'і. Ну, і ў нас тут яны і жылі. Ну, так мы, знаіце, как-та абшчаліся. Так саўсім малая разніца. Вот нескалькіх славах толькі было што... была беларуская, а тутака гудасы. Малая разніца. Згаварываліся лёгка, добра.

**Пра касцёл**

*– А ў касцёле як там было? Па-літоўску даўней?*

– Па-літоўску. Па-літоўску.

*– А па-польску не?*

– Меня ішчо не была на свеце, так вот у Гягужынах эта касцёл і вот там был і польскі. Польскі быў касцёл. А посьля здзелалі так: адну нядзелю па-польску, другую па-літоўску. А пасьля палякаў саўсем вастаранілі і стала літоўская адна.

*– А дзе Ваша парафія?*

– У Гягужыне. Каменный там такой.

*– А ў Свірплянях тожа ў Гягужыне была?*

– Ну, эта мы прісутствавалі. Знаеце, там жэ адна вёска не будзет ужэ тую парафію. Вот і Ламянцы былі, Няпракшта і мы, во там. І Бучані посьля там ішчо. Тартак дзяреўня. Так усе к тому касцёлу. А вот ужо дзяреўня Дубялы к Паломенскаму касцёлу прынадлежалі, ужэ там парафія была другая.

*– То а куды на кірмаш ездзілі даўней?*

– У Кайшадорыс.

*– А па-гудаску як будзе «Кайшадорыс»?*

– І па-гудаску Кайшада́ры.

**Пра вёску Русяні**

*– А там гудасы жылі ці не?*

– Нет, не знаю. Там ужо далёка. То этаво я не скажу. Ешчо ў Русянях. Русяні – дзяреўня тут кала рэчкі. Так там тожа гаварылі па-гудаску. Вот. Але цяперака, то ўжэ знаеце, старыкі ўжэ павымярлі, ну і што ж... Цяпер ужэ тая перамена.

**Пра жніво**

*– А вот раскажыце, як даўней жніво было? Ці былі такія зажынкі? Ці дажынкі былі?*

– Ну, так былі дажынькі. Вот сабераюцца. Ну, такія, каторыя былі беднякі. Ну, там па тры, па пяць гэктараў. Па дзесяць. Так яны самы сваёй зямлёй пользаваліся. Але ж былі такія, каторыя імелі па дваццаць гэктараў. Ну, то ўжо комбайну, то это не было. Это только каса была. Ну, то бывала.

*– А сярпамі ці жалі?*

– Жала. Яшчо і мая мама жала сярпом. Вот. А посьля ўжо косы сталі. Ну, і сабярэцца якіх дзесяць во такіх касароў, каб скасіць за дзень. Ну, тады ўжо плятуць вянок, як ужо кончуць. Ужэ тады пажынькі счытаецца. Ну, і во тады нясуць і ідуць, спяваюць песні.

*– А ці сноп такі першы няслі ў хату?*

– І сноп няслі, і вянок.

*– А куды яго няслі гэты сноп?*

– Ну, таму гаспадару, каторага ўжо кончылі.

*– А самы першы як зажынкі? Як зажыналі? Вот першы сноп?*

– Не, этаво нет. Вот зажынаюць, па дзесяць штук ставяць во там. Снапы этыя связываюць і стаяць. Во такую песню: «Пажалі жыта, плянавалі, другога року каб дачакалі!» Во такую песню ўсё спявалі.

*– А спейця!*

– Не, цяпер ужо я не магу.

*– А словы скажыце хаця б тады.*

– Не, я ўжо слоў толькі знаю...

*– Пажалі жыта?..*

– Пажалі жыта і плянавалі, штоб другога року дачакалі! Другой жыта-жніва дачакаць. Вот.

### Пра *Велькануц*

*– А вот як Велькануц?*

– Ну, Велькануц, то есць два дні ў нас было. Святкавалі.

*– А ці лалоўнікі хадзілі такія? Ну, лалоўнікі, валачобнікі, можа?..*

– Пад акном спяваць?

*– Ага.*

– Хадзілі. Хадзіў яшчэ мой бацька.

*– А як іх называлі?*

– Ну... Іх как то ж называлі... Называлі... Ну, яны спевакі былі. Спевакамы ішлі. А как іх звалі, то цяпер ня помню. То ішчо мой бацька. Мой бацька ішчо хадзіў. Так ды з бальшой карзінай, ім там і пірагі лажылі, і яйкі лажылі.

*– А як спявалі – па-гудаску?*

– Не. Па-польску спявалі.

*– Па-польску?*

– Па-польску. Вот. Тады прыносюць і тады ўжо гулянку робяць. Як ужо набяруць многа.

### Пра любоў да песні

Я была пявіца. Я ішла на паграбы спяваць. Але тады мяне как палучылася. Удар па горле. І ў мяне там застрэла. Цяпер мой голас хріплый. Вот я еслі, напрымер, гукну так, как у лясу бывала, я ўжэ не магу гукнуць. У мяне голас. Толька во так. А змяніць я яго не магу. І вот у бальніцы я ляжала, мне сказаў, што будзеш пець, будзеш пець! Я без песні – нікагда. Я всегда з песняй хадзіла кала дому. А тады врачыха мая: «Будзе добра, будзе добра». А што была добра? Такой с Каўнаса прыехаў хірург, мне заказаўшы: «Еслі хочыш, нужна аперацыю здзелаць». Нужна аперыраваць мне горла. Нет, ужэ кажу, мне маі годы, ужэ я ні хачу. Цяпер яшчэ даўленя.

### Песні, якія спявалі на вячорках

Ну, як на вячорках, то спявалі песні.

*Каб я меў бы хадакі ды анучы белыя...*
Каб я меў бы хадакі ды анучы белыя,
Я паехаў бы ў сваты да шляхцянкі смела!
Я паехаў у сваты – мне сказалі сесці.
Далі бульбы з лупінамі і сказалі есці.

Я на тую бульбу крыва паглядаю,
А там блінцы на паліцы – я да іх маргаю.
Пасцілілі мне пасцель, сказалі йсці спаці.
Я за бліны пад палу, давай уцякаці.

Ох, ляцеў, я ляцеў
Цераз тры агароды.

Зачапіўся мне гарбуз,
Нарабіў я шкоды.

Заляцеў я ў карчму:
– Добры дзень, вам людзі!
Адчапіце мне гарбуз.
Гарнец водкі будзе!

І прышоў жаж я дамой,
Лёг і мне ня спіцца!
Бацьку і матке я сказаў –
Ня буду жаніцца!

– *Эта на вячоркі спявалі?*
– Да, на вячорках эта спявалі.

Пайду я да броду, да броду па воду...

Пайду я да броду, да броду па воду.
І я стану і падумаю, ці харошаго я роду?
Я роду харашога, лічэнька прэкрасна!
За какім мужам, за нядбальніцам
Мая доля няшчасна?

Пайду да каморы,
Ні хлеба, ні солі.
Уцякаць буду, праклінаць буду
Ад вялікай нядолі.

Пайшла я ў стайню
Коні вараныя
Запрагаць буду.
Уважаць буду
Свае годы маладыя.

Эта яшчэ і бацька пеў.

Куда ж так едзіш, мой ты мілюсенькі?

– Куда ж так едзіш, мой ты мілюсенькі?
– Куда ж ты едзіш, мой даражэнькі?
– Не скажу!

(То эту песьню пелі ўдваём).

– Калі ж мне скажаш, мой мілюсенькі?
– Калі ж мне скажаш, мой даражэнькі?
– На кірмаш!

– Падвязі мяне, мой ты мілюсенькі!
– Падвязі мяне, мой ты даражэнькі!
– Не падвязу!

– Калі ж падвязеш, твая добра воля.
– Калі падвязеш, я жа міла твоя!
– Садзісь там палазе не паламень[?] на панарадзе!

– Што ж ты тут вязеш, мой ты мілюсенькі?
– Што ж ты тут вязеш, мой ты даражэнькі?
– Не скажу!

– Калі ж мне скажаш, твая добра воля.
– Калі ж мне скажаш, я жа міла твоя.
– Грушок мяшок!

– Дай пакаштаваць, мой ты мілюсенькі!
– Дай пакаштаваць, мой ты даражэнькі!
– Не дам!

– Калі ж мне дасі, твая добра воля.
– Калі ж мне дасі, бо я міла твоя.
– Вазьмі адную і тую гнілую!

– Чорт цябе бяры з тваімі грушкамі!
Я пайду гуляць з другімі хлапцамі!
– Слушай! Бяры мяшок з грушкамі,
Толькі ня ідзі гуляць з хлапцамі!

Во такія песні пелі. То яшчэ я помню іх. Во такія, каторыя мне запомніліся. Але ўжо мае годы ня тыя...

### Пра лекаванне

*– Скажыце, даўней урачоў не было, то як лячыліся людзі?*

– Людзі лячыліся раньша сваімі лякарствамі. Ну, і так ня пілі, как цяпер п'юць!

*– Зёлкамі можа якімі?*

– Зёлкамі. Там всякамы было. І былі ўсе здаровыя.

*– А замаўлялі даўней можа бабкі такія?*

– Была, што замаўлялі.

*– А ад чаго замаўлялі?*

– Ну, так вот, напрымер, пакраснее там што-та на назе, там какой сып красный. Во тада замаўлялі. І мая цётка замаўляла, я помню.

*– А ад чаго замаўляла?*

– Ну, эта счытаецца рожа такая. Вот ад тых рожаў замаўляла яна.

*– Ад урокаў можа?*

– Нет. Ад балезні.

*– Ад пуду можа, пярэпалаху?*

– Не, не. Толькі яна ад балезні замаўляла. А так то не.

*– А ведаеце можа якую замову? Словы?*

– Не, не. Замоўня во такое было. Еслі замаўляіш, загаварываіш каму-та і передаш другому, тваё ўжо не гадзіцца. Тваё ужо не памагае.

*– А каму яны перадавалі тады?*

– Ну, так вот еслі паміраe старуха, так передае там дачке ілі сынавой сваей передае.

*– А казалі, што надта цяжка памірае такі чалавек?*

– Нет, не праўда. Нет. Эта не праўда.

*– А на што замаўлялі? На ваду, на цукар?*

– Не. Ана так вот что-то шэпчет, патом хрэсціць, моліцца. Патом хукает на тое месца, гдзе баліт. Во такое было.

**Пра маладзік**

*– А скажыце як месяц, маладзік пабачыць першы раз, можа якую малітвачку гаварылі?*

– Нет, нет. У нас толька такая старушка была, помню, так яна бывала як толька відзіт ужо малодзенькі месяц, так хрэсцілася бывала так. А так больша нікто.

**Вёска і дзярэўня**

*– А называлі «вёска» ці «дзярэўня» ў вас тут?*

– Вёска звалі. Па-гудаску эта «вёска». Дзярэўня – так эта ўжэ па-беларуску. А вёска была.

**Пра сям'ю**

*– А ці вялікая Ваша дружына была?*

– Ну, как там ішчо жыла з бацькам, мы былі тры сястры, бацька і матка. А посля как я вышла замуж, так у мяне во два толька сыны.

*– А Вашы сёстры?*

– Мая сястра мяне маложа рокам была. Трыццаць втарога року. Яна ўмярла ішчо дзеўкай была. Яна ўмярла. А втарая сястра мая, ана дваццаць трэцяга року, так яе, яна была замужам, быў мужык у парцізанах, её вывязлі на Урале была. На Урале жыла. Трыццаць тры годы жыла на Урале.

*– І в парцізанах эціх после вайны?*

– Да, да.

*– Здзесь?*

– Да, да. І вот тагда ей адтуда как прыехалі, і во тады ў Ёнаве жыла і вот у дзевяностым годзе яна ўмярла. Нет цяпер.

**Пра імёны**

Ну, знаеце, хрэшчаны то па-літоўску. Вот бывала, еслі, напрымер, па-літоўскі Ёнас, то па-гудаску Януля звалі. Еслі вот Стасіс, так яго Стасюком звалі. Стасюк. Еслі Казіс – так Казікай звалі. Во так.

*– Не Казюк, а Казікай?*

– Казіка. Вот Казіка.

*– А Вас як называлі?*

– Ну, мяне Гэляй звалі. Патаму шта Эленава маё імя, но мая сястра меншая не выгаварывала так. Ну, і патом так з дзецтва і пайшла – і Гэля, і Гэля і была. І да сіх пор так.

*– А як яшчэ жаночыя такія імёны былі? Як называлі па-гудаску.*

– Ну, жэншчыны, вот напрымер, Она – так Она і звалі. Еслі вот Насця па-літоўску, так звалі Настасія па-гудаску. Так как-та называлі па-другому. Вот Андрус – Андрэй. Вот так. Во такія былі. <...> Ігнас, а яго звалі Ігнацы.

*– А маму як звалі Вашу?*

– Мама была і па-літоўску Лявося, і па-гудаску Лявося.

*– А дзяды як Вашы?*

– Дзед мой быў Адам, а яго, ужо бабушка мая, была Марія.

### Гаварылі па-гудаску, а маліліся па-польску

*– А ці ўмелі чытаць па-гудаску скажыце? Якія кніжкі былі?*

– Не. Па-гудаску не былі. Не было кніжак па-гудаску. Па-літоўску, па-польску. Мае бацькі яны былі тожа літоўцы. Гаварылі па-гудаску, а маліліся па-польску. Кніжкі ў іх былі польскія. Вот такая была мешаніна.

***

Тут пад сподам у нас склеп. Панімаеце. Бульбу сыпем пад сподам. А тут спорцілася труба і бардзо дыміла. Так вот яе будуць печ эту валіць, будзем тут рамонт дзелаць у ім.

*– Так што? Як кухня?*

– Эта камора. Как мы завём. Камора тут. Тут і буракі ставім, тут і картошка, і ўсё. Але цяпер ужо ўсё – капут. Па ўсём ужо цяпер... У нас было тры каровы.

### Пра традыцыйныя мясцовыя стравы

*– Скажыце, а якія даўней стравы рабілі? Патравы якія гатавалі? Даўней людзі, бацькі вашы?*

– Тое самое елі. І мяса, і малако елі. І картошку.

*– А што рабілі? Можа там раўгеню якую?*

– Ну, эта раўгеня так эта была. Бывала ж і так была. Перад Веліканоцам сем нядзель эта быў пост. І пасцілі так, што ні малака, ні мяса не елі. Толька сялёдку куплялі. Вот картошку пяклі, картошку жарылі. Вот так. Во такімі толька жылі. Алей. Рабілі алей. Цяпер то пакупаем, то няўкусны. А мае бацькі яго рабілі во... Ну, з лёнага семян. Ой, был очынь укусны был. Добра было, смачна елі. А цяперака, цяперака ўжо нікакога посту няма. Вот.

*– А яшчэ? Вот раўгеню, а яшчэ што гатавалі? Зацірку там?..*

– Ну, да. Рабілі зацірку, рабілі макарон. Я помню, раскатаюць, патом сушуць яго. Патом парежуць. Зацірку бывала рабілі.

*– Бліны можа якія пяклі?*

– Картафляныя і мучныя бліны пяклі. Цяпер, канешна, усякія там. А то нікакіх не кансерваў. Іх можа была, але не было за што купіць. Грошай не было.

### Пра традыцыйныя святы

*– А якія святы святкавалі даўней?*

– Ну какіе? Новы рок святкавалі, Вяліканоц, Ражаство святкавалі. Вот. І ся́кія такія былі і, вот напрымер, у нас вот Святога Антона был дзень в Гягужынах. Там сабіраюцца многа, з машынамі едуць людзі. Вот.

*– Atladai čia?*

– Atlaidai, jo. Atlaidai. Ant Švento Antano. Dabar va bus dešimto. Atlaidai. (Raulina???) Gegužinė irgi bažnyčioj.

### Пра памінальныя дні

*– А скажыце на якія дні на могілкі хадзілі? На магілкі?*

– Ну, эта... Як... Ну, перваго...

*– Ноября? Задушны дзень?*

– Задушны дзень. Два дня хадзілі – перваго і втарога.

*– А што втарога хадзілі?*

– Ну, тожа хадзілі маліцца, свечкі палілі.

*– Можа Дзяды называлі?*

– Не. Эта Задушны. Эта бывае як Усіх Святых.

*– А ў хаце збіраліся тады ўжо на другі дзень?*

– Не. Не, не. Посля бываюць ужо вясной тры такія дні, сабяруцца, спяваюць. Надзяюць мужчыну ў белы коўжух, хрест у руках. Ну, і тожа ідуць всякія памінкі. Тры дня падрад ідзёт.

*– Эта калі? Што за свята?*

– Ну, эта ні свята, але мы шчытаем эта Крыжовыя дні. Тры такія дні бываюць.

*– А калі гэта?*

– Ну, эта бывае, па моему, у маі месяцы. Патаму што мы з маёўкі бывала. Маёўку здзелаем. Кажды дзень там молімся. Ну, тады з маёўкі ідзём туды. Тры дні толькі. А маёўку эта бывала мы цэлы месяц май.

*– Так і што на Крыжовыя дні тыя рабілі?*

– Ну, пойдуць на магілы і молюцца Богу. Усе там молюцца, спяваюць.

*– А можа на магілкі што клалі там? Якія там яблыкі?..*

– Нічога не клалі. Нічога.

*– Гарэлку не ставяць?*

– Не, не. Вот как этыя, каторыя во рускія, так ані вот какіе-та памінькі дзелают на Троіца вродзе, гаварылі што.

### Пра догляд магілак

*– А ці магілкі абкладалі дзёрнам?*

– Дзёрнам абкладалі.

*– А калі?*

– Ну, как во пахаваюць чалавека, тады капец зробяць, дзёрнам абкладае там як крыж паставяць. Ну, там кветачку пасадзюць якую. А цяпер відзіш, што выробліваюць?

## Тэксты з вёскі Русяні

***Расказвае Антон Сусловіч (Antanas Suslavičius), 1925 г. н., каталік, мясцовы;*** *запіс зроблены ў 2007 г. Ю. Унуковічам і Г. Галубоўскай.*

***

*– А Вы па-беларуску ці гаворыце? Па-просту?*

– Kas?

*– Па-просту ці гаворыце? Gūdiškai ar kalbat?*

– Kalbam.

*– Tai gal gūdiškai pasikalbėsime truputį?*

– Galim pakalbėt, еслі хочаш пагаварыць.

### Пра назву вёскі і Вілію

*– Чаму так вёска называецца Вашая?*

– Наша вёска як называецца? Русяні.

*– А чаму так называецца?*

– А ня знаю, чаму яна так называецца. Гэта з даўней так гэта называецца. «Русю каймас» – як па-літоўску, а так во – Русяні. Русяні во... Як во Вяйля, во Нярыс, а па-гудаску «Вяйля» называюць. Так, калісьці: «Во, ідзём да Вяйлі, гавора, купацца».

### Пра беларусаў-гудасоў

*– А ці многа тут людзей, каторыя па-беларуску гавораць?*

– Ужо цяперака нямаш.

*– Ну, вот Вы. А яшчэ хто?*

– Ужо я такі адзін астаўшыся тут у вёсцы, што так магу. А так, то ў нас уся вёска была гудасы́.

*– А як Вы сябе называлі?*

– Сябе як называлі? Ну, як мы называлі...

*– Літоўцы ці...*

– Мы літоўцы называлі. Усё раўно мы – не беларусы, мы – літоўцы.

*– А чаму па-беларуску гаворыце?*

– Ну, тутка было гэта, відаць, ад даўней. Тут з Беларосіі гналі плыты Вяйлёй. Ну, то тутака зыйшліся гэтыя беларусы тут. Тут была гэта... Як гэта сказаць... Баўджава (*літ. baudžiava «прыгон» – Ю. У.*), так сказаць. Як тут?

*– Прыгон?*

– Ну (*слова «прыгон» не ведае*). То тады гэтыя... Яны тут, паны, прылабунілі беларускіх і тутака абжыліся так. І ад даўнейшых часаў так і жылі. Старыя людзі так баілі нам.

*– А гаварылі па-беларуску тут усе?*

– А па-беларуску. Дык я з малянкосці то па-літоўску і не гаварыў.

*– А ў якіх вёсках [гаварылі]? Во, тут, у Русянях. А яшчэ дзе?*

– Дзе болей?

*– Па-беларуску.*

– Па-беларуску гаварылі Ламяні, Свірпляні. Па-беларуску гаварылі. Там яны далей – за Паламенем, тамака. То тамака тожа дзве вёскі там былі, што па-беларуску гаварылі. Ну, тут яшчэ Каспарышкі яшчэ тут, з Русянь там пашоўшы ў зяці былі. Там троху гаварылі па-руску... Па-беларуску.

*– А цяпер ці засталося такіх людзей, каб па-беларуску гаварылі?*

– Цяперака нямаш ужо такіх людзей тутака.

*– А католікі былі ці праваслаўныя?*

– Католікі. Католікі тут таксама так як і літоўцы. Мы літоўцы называемся, але толькі такі разгавор быў па-руску.

*– А чаму літоўцы Вас гудасамі-гудамі называюць?*

– Гудасамы? З-за то', што па-гудаску гаворым. Па-беларуску гавора – «гудасы́». Па-гудаску гаварылі.

### Пра вёску Літвінішкі

*– А там вёска ёсць Літвінішкі? Ці як яна?*

– Там Літвінішкі. Там гаварылі болей па-польску.

*– Па-польску?*

– Ага. Там Літвінішкі.

*– А чаму такая назва Літвінішкі?*

– А чорт, ня знаю я гэтага. Гэтага не магу сказаць, чаму называецца так. Litviniškės...

### Пра раку Вілію

*– Так казалі на рэчку «Вяйлля»? Ці як?*

– Вяйля называлі. «Ідзём купацца да Вяйлі!» Усе, усе там... Калісьці наша вёска бардзо вялікая была.

## Пра змешаныя шлюбы

*– А Вашыя бацькі і дзяды як гаварылі? Па-беларуску?*

– Па-беларуску! І бацькі, і дзяды – усе па-беларуску гаварылі. Тут потым зачалі толькі па-літоўску гаварыць, як зачалі з другой вёскі жаніцца. Знаеш во. То тады як прыходзя, тыя ня ўмяяць... да гэтай ужо... жонка гаварыць па-гудаску. Ну, то потым гавораць ужо па-літоўску. І дзеці тады гавораць па-літоўску (*смяецца*). Зачалі болей гаварыць. Алі ўсё раўно гаварылі па-гудаску, умелі гаварыць і...

## Пра прозвішчы і імёны

*– А якія фаміліі былі гудаскія?*

– Фаміліі?

*– Ну ў вёсцы ў Вас? Прозвішчы, фаміліі? Ну, Вашая – Суславіч?*

– Ну, Суславіч... Суславічус былі, Арбочус былі, Гульбіцкэй. Тут вот... адзюкас быў адзін. Грынкявічус. Вот так во былі, так во...

*– А так з –ас казалі? Ці Грынкевіч, Суславіч?.. Казалі Суславічус ці Суславіч?*

– Суславічус называліся.

*А імёны якія былі?*

– Хто?

*– Імёны?*

– Не паняў...

*– Ну, імёны. Ваша – Антанас...*

– Імя. Антанас, Ёнас былі. Адомас, то Юозас, то Пранас – во так во.

*– Але ж гэта небеларускія імёны?*

– Па-беларуску ну так тое самае... Па-беларуску Пранас, то Францішак быў бы. Антанас – то Антон быў бы.

*– А называлі як? Можа па-беларуску называлі?*

– Не, па-літоўску гаварылі. Не называлі так... Ну так... Былі так. Многа такіх было, то называлі – то Францік, то Франя... Во так называлі во... Звалі во... Франя, Францік, Франуля – во такіх былі. Як многа было такіх во. То Антон, то Антанас там. Усё такое.

*– Так па-літоўску ў гэтых вёсках не гаварылі? У Вашых?*

– Не-ка. У нас па-беларуску.

## Пра плытагонаў

*– То Вы кажаце плыты гналі, а хто гнаў плыты і адкуль?*

– Скуль плыты гналі? Старыя гэта людзі гаварылі калісьці. Баба во наша, там ім гаварылі яшчэ продзяды нашы. Знаеш во так вот ад гэтага.

*– Так як яны тут аселі гэтыя плытнікі?*

– Ну відаць, калісьці тут не было гэтых... Гэта цяперака пояздам, што гэта гоняць, то машыны. А калісьці найболей вадой. Не было гэтых ужо... транспарта такога.

## Аб паходжанні мясцовых беларусаў

*– Так Вы кажаце, адкуль тут беларусы вот узяліся?*

– То што я магу знаць? Я не так бардзо ўжо старэйшы. Цяпер я ўжо то маю, ужо восемсят тры гады цяпер мне. Ну, але то яшчэ ліч – бацькі былі, дзяды былі нашыя яшчэ ўсе (*смяецца*).

*– Так а скуль тут беларусы ўзяліся?*

– Беларусы адкуль узяліся? Ну то з Беларосіі. А скуль яны ўзяліся?

*– Ну, то як яны пасяліліся?*

– Ну то я казаў жа ж табе. Як плыты гналі во Вяйлёй. Ну і тутака во паны прылабунілі тутака іх і давай тут рабіць зямлю. І асталіся гэта так. Гэта так во баілі, як было калісьці. Я то гэтага ня знаю.

Нашая вёска вялікая *бардзо* была...

*– І сколькі беларусаў тады прылабунілі паны? Ці многа? Тут ж цэлая вёска беларуская?*

– Нашая ўся вёска была тутака па-беларуску гаварылі. Нашая вёска вялікая бардзо была – пяцьдзесят шэсць было гаспадароў. Во!

*– А цяпер чаму беларусаў няма?*

– А цяперака няма заўсём людзей. Разаблачыліся ўсе людзі. Няма нікога. Во. Цяпер усе павыяжджалі. Тутака як былі калхозы, то павыяжджалі. Павысаджвалі іх тут. А цяпер заўсем няма людзей во.

### Як пачалі вучыць літоўскую мову

*– А як Вы літоўскую вучылі мову? Адкуль Вы навучыліся па-літоўску гаварыць?*

– Мы? Ну, тут па-літоўску, як у Літве жывём, то тут ўчытэлі былі літоўцы ў вёсцэ. Ну і дзеці зачалі тады па-літоўску гаварыць.

*– А па-беларуску не хацелі, каб вучылі Вас?*

– Ну, то па-беларуску тут ніхто, учыцелі не ўчылі, не было такіх.

### Пра беларускія «ксёнжкі»

*– А самі ці хацелі, каб навучылі па-беларуску?*

– Так я па-беларуску, я ўмеў і чытаць. Я ксёнжкі меў беларускія, чытаў.

*– А якія ксёнжкі?*

– А такія байкі харошыя бардзо былі. Толькі цяпер я ўжо запомніў, ня знаю, а калісьці матка мая ня відзяла, то сядзім, я і чытаю гэтыя байкі, а яна аж разявіўшыся слухае.

*– А калі гэта? У якіх гадах гэта было?*

– У гадах якіх было? Ну, тышча было якіх... У гадах... У якіх пяцідзесятым року там было, можа якіх, у саракавым року. Так во... У саракавым року я быў яшчэ пятнасця лет, шанасты рок быў. То ўжо я па-руску ўмеў. Чытаць, пісаць умеў па-руску. А калісьці гэта беларускія былі літары такія самыя, як нашыя (*літоўскія. – Ю. У.*). Такія самыя, як нашыя літары былі. Буквы можна сказаць.

*– А цяпер ці такія ксёнжкі маеце?*

– Цяпер ня маю. Ад мяне ўзяў гэта адзін з Вільна. Такі быў доцэнт, гэта... Там вучыўся нашы асед. Ну, то ён прышоў мяне папрасіў, гавора: «Дай ты мне гэтыя ксёнжкі, – гавора, – я ксёнжкі буду пісаць, то ўпішу гэтыя ўсе з тваіх ксёнжкаў». Ну, то як узяў ён, а потым памёр ён, то гэтыя ксёнжкі там і асталіся.

*– А што за фамілія яго?*

– Апанавічус.

*– Апанавічус?*

– Апанавічус Марцінас быў. Ён памёр. Малады яшчэ памёр. Пяцідзесяці чатырох лет быў памёр.

### Пра беларускую і літоўскую мовы

*– Так а Вашыя бацькі таксама па-беларуску гаварылі?*

– Па-беларуску! І бацькі, і дзяды – усе па-беларуску. Мая матка з гэтай самай вёскі. Можа «дзярэўня» ў вас называецца. Як па-руску «дзярэвня», у нас то называлі «вёска». Ну, то вот і мая матка была, і баба была мая з гэтай самай вёскі.

*– А яны ўжо па-літоўску не ўмелі?*

– Умелі. Умелі. І па-літоўску гаварылі.

*– Так, а родная мова для Вас якая?*

– Ну, то як? Жылі ў Літве, то ўсе ўмелі па-літоўску.

*– А родная мова для Вас якая?*

– Родная мова? Родная была, мова была, то мы малыя былі, то па-беларуску гаварылі. Усе нашая во па-беларуску.

*– А маліліся па-якому?*

– Маліліся па-літоўску.

*– Па-літоўску?*

– Па-літоўску. У Літве ўжо ніхто, ксяндзы тут былі. Свяшчэннікі, можа, вы гавораце? А ў нас дык «ксяндзы» называлі. А па-вашаму як?

*– Ксёндз.*

– Ксёндз? Як беларускі – то пап, папы. Рускія папы бываяць называюць.

*– А Вы ў Беларусь ці ездзілі?*

– Не, ня быў я ў Беларосіі не разу.

**Пра адрозненні паміж беларусамі і літоўцамі**

*– А Вы скажыце, чым літоўцы ад беларусаў адлічаюцца?*

– Ну, то тое самае. Усе нармальна, таксама жаж. Не атлічаюцца, усе такія самыя.

*– А мова ж другая?*

– А мова другая, але ўсё раўно. Усе аднакóвы народ і ўсё.

**Пра ўжыванне беларускай мовы**

*– А Вы па-беларуску цяпер не гавораце зусім?*

– Цяпер не. Я ўжо з другой вёскі ўзяўшы жонку, то ўжо тая не ўмела па-беларуску, то ўжо тады пашлі па-літоўску ў нас гаварыць. Яшчэ як я ажаніўся, то яшчэ бацька, матка жыла, то яшчэ мы па-беларуску говорым з бацькам, з маткай. А з жонкай ужо говорым і бацька говорыць ужо па-літоўску. Дзеці нарадзіліся і дзеці зачалі ўжо па-літоўску, ужо па-беларуску не гаварылі.

*– А вот Вы са мной гавораце, а калі апошні раз гаварылі, перад тым, як са мной гаварыць па-беларуску?*

– Ну, то з табой то гавару. Ну я яшчэ так... Чакай... Яшчэ назад... Дванасця гадоў назад, то яшчэ тутака сасед жыў адзін, то – па-беларуску. То мы сойдземся абодва, ну то і ён жонку мае з другой вёскі, то таксама па-літоўску гаварылі, а мы абодва сойдземся, ну то як бы адразу загаворым па-літоўску, а потым штосьці не выходзя якое слова па-літоўску гаварыць, ну то зара ўпхнём якое слова па-беларуску. Як упхнём адно слова, тады говорым па-беларуску абодва.

**Пра мянушкі і этнонімы**

*– Скажыце, а можа празывалі літоўцаў Вы як? Што там літоўцы жывуць і там называлі як іх? Гіргунамі там? Ці клумпякамі там? Не празывалі ніяк?*

– Каго празывалі?

*– Літоўцаў.*

– Не, усе нармальна так жылі.

*– Як казалі? Літовец?*

– Ніхто не празываецца.

*– А беларусаў як называлі літоўцы?*

– Ну, то беларусаў – гудасы́. Гудэй. Па-літоўску так gudai, sako. І во прыходзя з другой вёскі, што во гудэй там. Прыходзя з другой вёскі на гуляня, во як тут бывае вечарам што там, так дзеўкі абгаворацьтам што кавалераў на іх што, а яны не панімаяць нічога. Так тыя пасмяюцца дзеўкі. Па-беларуску і спявалі, і... (*смяецца*).

***

*– А можа ведаеце якую песню ці байку па-беларуску?*

– Аааа!!! (*смяецца*) Не маю часу, во госці прыехаўшы.

*– Байку раскажыце!*

– Не, не, не. Калі запомніў ужо. Ужо запомніў бардзо. Былі мы там пашоўшы на гуляне з адным сваім гэтым саседам. Ідзём мы, то я яму баіў байку, як мы ішлі адтуль. Аж у Скверах там былі. Далёка там ён якіх, мусі, дзесяці там вёрст. Так мы дадому ішлі, то я яму байку баіў па-беларуску, то ён прышоў: «А ... ты нахр, – гавора, – як прэнтко мы прыйшлі! Якіх гэта байкаў ты мне баіў?» «Стары дудар» быў, я баіў. «Стары дудар». Але я ўжо запомніў бардзо, ня помню. То я яму як збаіў, то ён гавора: «Не ўвідзяў, – гавора, – як я прыйшоў». Колькі раз ён такое, як сойдземся. «Вот, – гавора, – як калісьці ішлі баіў ты мне байкаў, то не ўвідзяў, як прыйшоў дадому» (*смяецца*).

## Пра плыты

*– А можа помніце, як плыты ганялі?*

– Як плыты ганялі? То я яшчэ помню. То яшчэ плыты ганялі, то яшчэ пры Літве. Плыты ганялі.

*– Так, а хто ганяў плыты?*

– Не беларусы ганялі, мусі. Мусі, нашыя во... літоўцы. З Вільні там, адкуль там ганялі... То... А можа беларусы ганялі, а чорт яго. Але толькі відаць. Відзялі як плыты ішлі. Во і тутака плыты рабілі. Во і ў нас. Во ў Вяйлі. Везлі ўсё дзерава... везлі да гэтага... да Вяйлі, а потым – у Вяйлю качалі там і рабілі плыты. Во і мой бацька хадзіў там яшчэ рабіў. Плыты рабілі. Тады гналі там да Коўна, там аж да Клайпеды. Там за граніцу гналі дрэва тое.

## Пры рыбную лоўлю

*– А рыбу ці лавілі даўней?*

– Я то не лавіў, я то не ішоў на рыбу (*смяецца*). Я то ні сракі мачу, ні рыбкі хачу! (*смяецца*) Я ня быў да рыбы. Бацька меў ахвоту, ішоў на рыбу.

## Пра плавальныя сродкі

*– А як лодкі тут называлі па-меснаму?*

– Лодкі?

*– Можа «чайка» казалі?*

– Лодкі... Ну, то «бат», там гэта «чаўно». Гэта пераплываць праз Вяйлю. Ну так! Ну, чаўно, ну, бат быў. Ну, то во так. У нас можа прасцей гаварылі як тамака.

*– Так раскажыце якую байку даўнейшую?*

– Не, не, не. Ня помню ўжо.

*– Ці анекдот можа пра літоўцаў?*

– (*Смяецца*). Запомніў ужо бардзо.

## Пра «пчол»

*– Чаму кажаць, што пчала памірае, а не падыхае?*

– Хто? Пшчолы? Ну, так ад даўнейшых часаў гэта. Прызнана, што яна бардзо харашо робя, воск зробя харашо і мёд прынося. І людзі ядуць той мёд.

## Пра назвы гарадоў і вёсак

– Коўна, Вільня, тамака во Кайшада́ры, называлі, Яно́ва...

*– А вёскі якія тут у вас ёсць?*

– А вёскі – Буцку́ны там былі, Шыла́ні там былі, там Каспары́шкі, Зубі́шкі, Барташу́ны, Геча́ні. Во так во былі. Ну, па-літоўску то Гечоніс, Сурвялі там, Буцкуны. Во так во... Во так во, як Русяні называлі. Называлі «Русяні», а па-літоўску «Русю».

*– Ну так, а чаму Русяні? Можа старыя людзі расказывалі?*

– Ну так людзі расказывалі.

*– А чаму так называецца?*

– А што я магу знаць...

## Пра ўжыванне розных моў

– А мне тое само́е. Я магу і па-беларуску таксама гаварыць і па-літоўску таксама. Нам тое самае. Калісьці то болей гаварылі па-беларуску. Як у вёсцы мы жылі ўсе, многа было народу, то як сойдуцца, то тады ўсе па-беларуску ў вёсцэ гаворать. Але мне тое самае разгавор. Па-літоўску вучыліся. Усе ж тады ўчыліся ішлі па-літоўску гаварыць. А па-беларуску ніхто не... Ні па-беларуску, ні па-польску. Па-польску то бардзо, бардзо па-польску то яшчэ баранілі калісьці власьці. Ксяндзы бардзо крычалі, каб па-польску не гаварылі ўсё. Во мой бацька калісьці, во сасед жыў, то ішлі на паграбы́ спяваць. То па-польску спявалі яны. То забаранілі ксяндзы, каб не спявалі бы па-польску. Тады хадзілі па-літоўску спявалі ўжо па паграбах. Як памірае, во пограб бывае. А потым забаранілі ксяндзы, ксёндз быў, забараніў, каб па-польску анічога, ані. Ну з-за тога зазлавалі на Польшч, што Польшч была забраўшы Вільня. Была ж Вільня польская, ня наша. Былі гэта заняўшы.

## Пра беларусаў, палякаў і літоўцаў

*– Так, а беларусы за каго былі: за палякаў ці за літоўцаў?*

– А калі не знаю, як тады было.

*– Вот як вы? Беларус.*

– Я не знаю, як там тады яны былі. Як калісьці. Тыя палякі з беларускымі. А тут літоўцы, то бардзо гэта ўжо не цярпелі палякаў. Тады ўжо. А цяпер ужо найлепшыя зрабіліся таварышчы. З палякамы.

*– Так а вам хто лепшы: палякі ці літоўцы як народ?*

– Нам то літоўцы.

*– А чаму літоўцы?*

– За тое, што мы жыём у Літве.

## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*С. Некрашэвіч*

## УЗОРЫ ТЭКСТАЎ ГАВОРАК ПАРЫЧЧЫНЫ[1]

Падрыхтавала *І. У. Галуза*

Прыклады парыцкага маўлення падзяляюцца на дзве групы – сялянскія і шляхецкія. Сялянскія прадстаўлены запісамі розных жанраў: песнямі, прыпеўкамі, казкамі, замовамі і ўспамінамі пра ранейшае жыццё, і запісаны яны ў розных населеных пунктах: Бяліцы, Васілёўцы, Дабравольшчыне, Данілоўцы, Краснаўцы, Пакалічах, Слабодцы, Чыркавічах, Чэрніне і Язвінцах. Шляхецкае маўленне прадстаўлена вялікім па аб’ёме запісам з вёскі Майсееўкі па пчалярскай тэматыцы. У гэтым запісе ў кантэксце патлумачана шмат спецыяльных тэрмінаў: *wу͡оччыч*, *бу͡ортнік*, *калóды*, *зáчынкі*, *даўжнíк*, *wу͡очка*, *пу͡откур*, *стáйлы*, *сьпíца*, *дwóйня*, *лíна*, *плéці*, *кругí*, *астрóга*, *патwары́ць*, *нáўза*, *скрылí*, *пєрэ́хрысьні*, *wаскаwíца*, *скаль*, *паскáліць*, *пчаладзёр*, *аблóга*, *абірáць у лу́б*$^{п}$*ку*, *стця́к*, *лєжáк*, *лéжні*, *дапóткі*, *сьцельнікі*, *зу́бєль*, *скры́пєль*, *сьлі͡эпаты* і інш.

### Сялянскія гаворкі

#### Кáзка

Жиў дзя́дзька с пляме́нікам. Пашлí яны́ пчол глядзі͡эць. Пляме́нік пашóў ламáць éльнік, а дзя́дзька сядзі͡эў на хwóі, глядзі͡эў пчол. Wу͡от дзя́дзька спусьціў лу́бку зь мёдам. А другí чалаwі͡эк прышóў да стаў і͡эсьці. Кíнуў дзя́дзька сьнятóк на тагó чалаwі͡эка да й убíў. Што jім тады́ дзі͡элаць с тым чалаwі͡экам? Ўзялі ягó й панéсьлі к wóзеру. Там буў рыбáцкі чówен. Пасадзíлі яны́ забíтага ў чówен, далí ямý wясло ў ру́кі – дак jу͡он і паі͡эхаў.

Настаўля́ў чалаwі͡эк сі͡эці. Бáчыць: ні͡эхта і͡эдзє. Jу͡он і пытáє: «Куды́ ты, чалаwі͡эк, і͡эдзєш? Заплу́таєсься ў сі͡эці, дак ні wы́бєрасься». А той і͡эдзє. Тады́ рыбáк даў ямý вяслу͡ом па галаwі͡э і забíў ягó другí раз.

Прын’у͡ос рыбáк забíтага ў мястэ́чка й пасадзíў папý на wу͡оз. Прыхóдзіць пу͡оп к сwаймý wóзу, аж там ні͡эхта сядзíць. Пу͡оп як кры́кне – конь спужáўся й паі͡эхаў. Дагнáў пу͡оп свой wу͡оз і забíў тагó чалаwі͡эка ў трэ́йці раз. А тады́ й схаwáў *(Пакалічы).*

***

Спарадзíла мáці дóню,
Да й ні дáла дóлі,
Ту͡олькі дáла стан харóшы
І чóрныя брówы.
Брówы маі͡э, брыwáшанькі!
Прапáла я з wáмі,
Ні͡эльга wы́йсьці на wу́ліцу
Ўсё за wарагáмі.
Wар$^{у}$óжачкі спаць паля́гуць,
Пайду́ пагуля́ю.
Як wы́йду я на wу́ліцу,

[1] Гэтыя тэксты былі змешчаны ў артыкуле С. Некрашэвіча «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну (кароткі этнографічна-лінгвістычны нарыс)». У запісах цалкам захоўваецца сістэма фанетычных сімвалаў, якія выкарыстоўваліся для перадачы асаблівасцей гукавога ладу мясцовых гаворак. Больш падрабязна пра іх расказваецца вышэй у артыкуле І. У. Галузы «Склад і адметнасці выдання “Слоўнік Парыччыны” С. Некрашэвіча».

Ліцо́ загары́цца,
Ліцо́ маё́ загары́цца,
Бро́вы замарга́юць.

***

Чаго́ бро́wы замарга́лі?
Мі́лага wіда́лі.
Ні хадзі́ ты, бел-кудра́wы,
Ка́ля майго́ са́ду,
Ні тапчы́ ты, бел-кудра́wы,
Маёй ру́ты-мі͡аты.
Ні для цябе́ я садзі́ла,
Ні для цябе́ паліwа́ла.
Для таго́ я садзі́ла,
Каго́ я любі́ла;
Для таго́ я паліwа́ла,
Каго́ цалава́ла *(Пакалічы).*

***

Ду́рні, сwаты͡э, ду́рні,
Да заі͡эхалі ў гу́мны.
Бычку́ ў ру́чку да́лі,
С аўцо́й паwіта́ліся,
Сь сьwінё́й цалаwа́ліся.
У сало́мі начаwа́лі,
Мы́шы wу́шы па’т’еда́лі.
Сьwіня́ та́я задзіwі́лася,
Со́ сьмєху пакаці́лася *(Пакалічы).*

***

Ай, ко́ню, му͡ой ко́ню,
Ко́ню wаране́нькі!
Пара́й жа мні͡э ра́ду,
Да мні͡э маладо́му.
Нашто́ табі͡э ра́іць,
Ты й сам до́бра зна́єш:
Ні любі́ чужы́х жо́нак,
Бо ты сwаю́ ма́єш.
А чужа́я жу͡онка,
Як асі́на, гу͡орка,
Сwая́ маладзе́нька,
Як мёд, саладзе́нька.
Пасьце́ля пасьце́льку
Мя́кеньку, бєле́ньку.
Дзяўчы́на, сіру͡отка,
Не сьцялі́ шыро́ка.
Пасьцєлі́ wузе́нька,
Паля́гам блізе́нька,
Дай бу́дам гаwары́ць,
Як на сьwі͡эці жыць *(Дабравольшчына).*

